ISSN 0130—8068

# Полымя

# 2

У НУМАРЫ:

**МІКОЛА АЎРАМЧЫК**
Новыя вершы

**АДОЛЬФ ВАРАНОВІЧ**
**Там, дзе нашы сляды**
Апавяданне

**АРСЕНЬ ЛІС**
**Цяжкая дарога свабоды**
Нарыс пра А. Смоліча

**УЛАДЗІМІР ЮРЭВІЧ**
**Адкрытая кніга жыцця**
Артыкул

**1994**

# Полымя

2

(778)

1994

ЛЮТЫ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС
ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

ВЫДАЕЦЦА СА СНЕЖНЯ 1922 ГОДА



Мінск,
выдавецтва «Полымя»

# ЗМЕСТ



*Да ведама аўтараў і падпісчыкаў*

***Аўтары апублікаваных матэрыялаў у адпаведнасці з Законам аб друку нясуць адказнасць за дакладнасць прыведзеных фактаў і звестак.***

***Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.***

***Рукапісы не рэцэнзуюцца і аб'ёмам да двух друкаваных аркушаў не вяртаюцца.***

***Ва ўсіх выпадках паліграфічнага браку ў экземплярах часопіса звяртацца ў друкарню.***

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:** Саюз пісьменнікаў Беларусі, калектыў часопіса «Полымя».

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220005, Мінск, Захарава, 19.

Тэлефоны: галоўнага рэдактара, намесніка галоўнага рэдактара — 33-20-12; адказнага сакратара, аддзелаў прозы, нарыса і публіцыстыкі, гісторыі літаратуры і культуры — 33-20-91; аддзелаў паэзіі, крытыкі і літаратуразнаўства, навукі і мастацтва, машыннага бюро — 33-49-91.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку», 220041, Мінск, праспект Францыска Скарыны, 79.

## МІКОЛА АЎРАМЧЫК

# Роздум

*МАРКУ СМАГАРОВІЧУ*

Кожны раз пры сустрэчы
І нашым вітанні
Думаю
Пра выслоўе адно
Нездарма,
Калі куксу тваю ў знак
Майго спачування
Паціскаю пяшчотна
Рукамі дзвюма.

Дзеля ўздыму ў крыві
Безразважнай адвагі,
Каб у холад сагрэцца
Ды ўзняць тарарам,
Па загаду наркома
У нашы біклагі
Выдавалі ўзбуджальнага зелля
Сто грам.

І хоць яд ёсць
У гэтым спакуслівым зеллі,
Ды я ім і цяпер
Па прывычцы грашу...
Страх прымусіў
Цвяроза захоўваць у целе
Паўатручаную ў маладосці душу.
Куксаў дзвюх не схаваць
Ад надзённага хлеба.
У пакутным будзённым жыцці
Кожны раз
Вымушае
Любая
Малая
Патрэба
З рукавоў іх вымаць,
Быццам бы напаказ.

Што з таго,
Што адвагаю мсціўца
Ты некалі
Славіў свой,
Партызанствам славуты раён,
А «таўпекаешся, як Марка па пекле»,
З юных год
І да скону адпушчаных дзён...

Што мы ўдзельнікі
Страшных падзей,
А не сведкі,
Дык у гэтым нямашака
Нашай віны,
Юнакі-аднагодкі
І хлопцы-падлеткі,
Можа,
Бог дасць,
Апошняй,
Мінулай вайны.

## Экспромт

*МІКОЛУ МАЛЯЎКУ*

З гадоў дзіцячых пазнавалі мы
Паводле твораў Коласа і Гушчы,
Што толькі ў Нёмане растуць самы,
А цар-дубы —
У Налібоцкай пушчы.

Мы змалку ўмелі кіраваць канём,
Рабіць з ядлоўцу кульбы і кавенькі,
Лавіць язёў, яршоў і акунёў,
Збіраць баравікі, груздь, апенькі.

А Мікалаеўшчына і Ласток,
Альбуць і Смольня —
Гэта месцы тыя,
Што як любы купалаўскі куток —
Для нас багаслаўлёныя,
Святыя.

Не дзіўна, што з маленства родны край
Настойліва ўваходзіў у свядомасць,
Як на зямлі —
Адзіны боскі рай
З ракой свяшчэннай,
Што завецца Нёман.

## Доля

АРТУРУ ВОЛЬСКАМУ

Не,
Не збіліся мы з тропу
Пры любой аказіі:
Я ў Заходняе Еўропе,
Ты —
Ва Ўсходняй Азіі.

Ты японцаў гнаў з Амура
Па шляху астатняму.
З англічанамі я ў Руры
Братаўся па-братняму.

Вызваленнем вязняў нашых
(Сведчу не без гонару)
Іхні кіраваў фельдмаршал
Сэр Бернард Мантгомеры.

Іншае імя ты ведаў —
Дугласа Макартура,
Як саюзніка-суседа,
Генерала вартага.

Пераконвалі ў тым сцэны
З радасцямі, з бедамі,
Што жыццё —
Спектакль суцэльны —
Драма і камедыя.

Людзі ў ім —
Усе актори
Са сваёю доляю,
Што навязана пакорна
Рэжысёрскай воляю.

Што выконвалі мы ролі
Драмы і трагедыі
Не па ўласнай нашай волі,—
Мы з табой не ведалі.

Трапілі мы ў лік актораў
Не праз блазна хітрага,
А праз д'яблаў-рэжысёраў
Сталіна і Гітлера.

## Беларускі курорт

*МАР'ЯНУ ДУКСУ*

Здаўна
Паноў і панічоў
Спяшалі цэлыя кагорты
З ватагамі паслугачоў
Да беларускага курорта.

Адны,
Каб паланізаваць,
Каб русіфікаваць —
Другія...
Прасцей,
Каб каланізаваць
Чужыя скарбы дарагія.

Ды,
Як грыбы сярод начы,
Раслі ў прывольным краі гэтым
Сяўцы, музыкі, дзеячы,
Акторы, мастакі, паэты.

Прыхільнікамі даўніны,
Хавальнікамі роднай мовы
Былі спакон вякоў яны,
Жылі не ў згодзе з ладам новым.

Таму што з самых першых сноў
Надзеі іхнія і мары,
Як маці дочак і сыноў
Выгушквала, люляла Нарач.

Бары,
Нібы цымбалы,
Ім
На соснах-струнах гралі хорам.
Набатным гулам вечавым
Званілі Мястра і Баторын.

Ужо ніякі не сакрэт,
Прычына гэтаму якая...
Славуты твой зямляк-паэт
Сказаў,
Што тут зямля такая.

## Спакусніца

*ІВАНУ ПТАШНІКАВУ*

Некалі ў акно аддзелаў
Прозы і паэзіі
Са двара ЦК глядзела
Яблыня-гарэзніца.

Памятаю, як гадамі
Мы былі прываблены
Белым цветам і пладамі
Той бландзінкі-яблыні.

Ранняй восенню ў пакоі
Абаіх рэдактараў
Асабліва непакоіў
Стан яе характару.

Яблыкі густой лістотай,
Як аерам рыбіны,
Ціха шамацелі ўпотай,
Шорхалі па шыбінах.

Яблыня ў праём аконны,
Ледзь яго разнасцежым,
Іх працягвала з паклонам
На галінах: наце ж вам.

Быццам бы Адама Ева,
З нейкай сілай д'яблавай
Спакушала гэта дрэва
Нас
Разладу яблыкам.

Мы таксама, як бландзінка,
У той час залежалі
Ад цэкоўскага будынка,
Бо ЦК належалі.

Забаронны плод — салодкі.
Хоць мы не нахабныя,
Але шлях жа быў кароткі
Да спажывы вабнае.

Як надкусвалі мы яблык,
Дык відаць Масква была...
Набіваў аскому д'ябал,
Даядаць не вабіла.

З-пад ЦК ўбірала зблізку
Сок зямны капрызніца
І таму Масквой —
Не Мінскам
Мроіла і трызніла.

Яблыкам знайшлі мы раду,
Клалі іх ахапкамі
У пісьмовыя шуфляды
З аўтарскімі папкамі.

(Клалі ў сена мы лясоўкі
Гэтак па традыцыі...)
І даходзілі «цэкоўкі»
Да сваёй кандыцыі.

Да чарговага адбору
Там яны вылежвалі,
Набіраліся ад твораў
Смакаты належнае.

Хоць не ўежна, дык улежна...
Яблыня ж — прыблудная...
Яблыкамі аж да снежня
Мы маглі палуднаваць.

Не было ў нас у шуфлядах
Твора надта моднага,
Дык і яблыка разладу
Не было ніводнага.

## Адкрыццё

*ВАСІЛЮ МАКАРЭВІЧУ*

Не аднаму пра гэта мне вядома,
Як з вёскі Купленкі
Аднойчы хтось
Упершыню,
Наўмысна і свядома,
Прыслаў па пошце вершы ў «Маладосць».

Напісаная ўжо даволі стала,
З адзнакай свежасці
І адкрыцця,
Падборка іх
Сардэчна падкупляла
Неардынарным веданнем жыцця.

Рашылі мы,
Што шыты хтось не лыкам,
Наважыў танна
Нас купіць з глушы,
Увесці ў зман
І, збіўшы з панталыку,
Пакпіць усмак з нас,
Ад усёй душы.

Таму і пазванілі мы назаўтра
У райгазету крупскую тады:
Ці ёсць у іх на ўліку гэты аўтар
Дый ці існуе гэткі сапраўды.

Сказалі там,
Што малады калгаснік
У Купленцы ёсць з прозвішчам такім,
Праўдзівей —
Вучань ён, дзесяцікласнік,
Якога вершы непрыдатны ім.

Адкрыць паэта гэтак удаецца.
Хаця я добра ведаю цяпер:
Паэзію не купіш напавер,
Яна і ў Купленцы
Не прадаецца.

## Майму анёлу-захавальніку

*В. І. НАВУМЕНКА*

Сябрукова вяселле
І радзіны дачкі
Адзначалі не зеллем
За сталом дружбакі.

На радзінах вясёлых
Я не знаў, не чакаў,
Што самому
Анёлам
Стане сябра дачка.

Мой анёл-захавальнік,
З цемрай у барацьбе
З неба
Выратавальнік,
Бог паслаў нам цябе.

Мой анёл-захавальнік,
Выратоўваў мой зрок
Скальпель твой,
Як паяльнік,
Папрапальваў ён змрок.

Дык дазволь жа хоць кветкі
Прыпаднесці табе,
Як удзячнасці сведкі.
А каб стрэс
Зняць з сябе,

Мой анёл-захавальнік,
Зноў я выпіць гатоў
Горкай
Чарку дазвання
За цябе і бацькоў.

## Галашэнне па Анатолю Грачанікаву

Не ступіш ты на выдму і ў водмель,
Не пройдзеш болей па бальшаку...
Маркоціцца маладзёжны Гомель,
Смуткуе па былым важаку.

Ты ж не гнявіў ні людзей, ні Бога,
У чым ты правініўся, Таля́,
Што без пары,
Цябе, маладога,
Сырая
Забірае
Зямля?

І толькі па-над тваёй дамоўкай
З пяском і перамёрзлай жарствой,
Адсутнічае ў гурбе замоўклай
Блакітнавокі настаўнік твой.

Мяне самога сумленне мучыць,
Што не стаю я там над табой,
Мой верны сябра, мой дбайны вучань,
Мне грудзі паліць пякучы боль.

Не настаўляў я цябе на розум,
Бо сам ты ўмела жыццё ўслаўляў.
Цябе вучыў я,
Як жыць цвяроза,
На вельмі многае бласлаўляў.

Цябе глядзець як роднага сына
Бацькі твае прасілі мяне,
А я не глядзеў належным чынам,
Лічыў,
Што гора цябе міне.

На бруку лёд напрадвесні коўзкі.
Хмяліць кілішак малы ў гасцях.
Я не ўбярог цябе па-бацькоўску
І не праводжу ў апошні шлях.

Як мне ў вочы глядзець тваёй жонцы,
Тваёй дачцэ, твайму сыну там?..
І ў апраўданне ў роднай старонцы
Што я скажу тваім тром братам?

А я ж упэўнены быў, канечне,
Што з некім ты,
Напяты ў струну,
Сваім плячом панясеш у вечнасць,
Мяне,
Пакладзенага ў труну.

Зачыніш яе цяжкое века.
Ажно сам я заплюшчыць не змог
Твае расплюшчаныя павекі,
Як ты ў нябыт адышоў і змоўк.

Не паспавядацца нам сардэчна,
Як некалі, адзін аднаму.
Ты адыходзіш ужо навечна.
Цяпер паплачуся я каму?

Не навучыў цябе твой настаўнік
На гэтым каварным свеце жыць
І не праводзіць у шлях астатні,
Таму што з Крыма не прыбяжыць.

Мяне гняце тут жалоба-скруха.
З тваёй сям'ёй раздзяляю боль...
Няхай зямля табе будзе пухам.
Бывай, незабыўны Анатоль!

# Спарышы

*ЮРАСЮ СВІРКУ,*
*КАСТУСЮ ЦВІРКУ*

Як вучні два пісалі вершы,
Дасюль я ў памяці збярог.
З Бягомля прысылаў іх першы,
Другі —
Аж са Старых Дарог.

Я знаў,
Што ў розных двух раёнах
Жывуць і вучацца хлапцы
І маюць розныя імёны,
Што з мяккім знакам на канцы.

Але,
Ну проста смех дый гора:
Ніяк запомніць я не мог —
З Бягомля піша з іх каторы,
Каторы —
Са Старых Дарог.

Не мог жа я павесіць біркі
На гэтых аўтараў сваіх.
Не бачыў Свіркі я і Цвіркі,
І блытаў прозвішчы я іх.

Былі яны мне як блізняты
Ці як двайняты-спарышы.
Я перад імі вінаваты,
Што супраць ісціны грашыў.

Бо пахлі вершы іх
Лясамі
Радзімы іхняе малой:
Бяроз ліпучымі лістамі,
Сасновай клейкаю смалой.

Не знаў я,
Што сады і грады
Іх вёсак з колішніх часоў
Узніклі на мясцовых лядах,
Адваяваных ад лясоў.

Даведаўся я паступова,
Што вёска,
Дзе прыйшоў на свет
Кастусь —
Зялёная Дуброва,
А родзіч Юрасёў —
Паэт.

Юрась уславіў баравіны,
Духмяны верас і чабор
Ды крэўнасць і зямлю грузінаў,
Дзе ліўні шэпчуцца між гор.

Кастусь —
Даўнейшыя абрады,
Народных хораў галасы,
Свой чарназём на ўласных градах,
Буйныя ў полі каласы.

Прайшла ў мяне навідавоку
Пазнейшая іх праца ўся...
Я ведаю з любога боку
І Юрася,
І Кастуся.

А як збярэцца вершаў ноша,
Яе здаю я толькі ім:
Да Цвіркі ў «Полымя» прыношу
Ці Свірку прапаную ў «ЛіМ».

**АЛЯКСЕЙ ГАРДЗІЦКІ**

# ПІСЬМЕННІЦКІЯ БЫЛІ І НЕБЫЛІЦЫ

***Літаратурныя эцюды***

*Жанр гумарэскі, анекдота пра пісьменнікаў у нас быў няразвіты. На гэта ёсць прычыны. Адна з іх — наша сціпласць, недаацэнка гісторыі беларускай літаратуры, наогул культуры, маўляў, у рускіх пра Пушкіна гавораць, дык гэта ж Пушкін, у іх жа развітая літаратура! Куды там нам?! А калі згадаць, то гэты жартоўны жанр не менш, а, магчыма, і больш, чым у іншых рэспубліках, у нас бытаваў непасрэдна ў жыцці, пісьменнікі любілі і любяць пажартаваць адзін з аднаго. Аднак публікацый амаль не было. Не было, мусіць, і таму, што яшчэ гадоў дзесяць-пятнаццаць назад самі героі гэтых анекдотаў, жартаў прымалі б іх, як кажуць, не за здаровы гумар, а за своеасаблівыя кпіны, нават крытыку. Хоць крытыку тады, як вядома, толькі на словах паважалі, на справе яна магла і нашкодзіць. Што ні кажыце, галоснасць неяк незаўважна паўплывала на нашы адносіны да гумару, дакладней, да падобных гумарыстычных твораў. Імкнучыся быць, як цяпер прынята гаварыць, карэктным, я пазваніў асобным героям, на мой погляд, найбольш вострых жартаў (І. Чыгрынаву, Г. Марчуку, А. Ставеру), спытаў: ці можна друкаваць у такім выглядзе гэтыя рэчы, а можа, змякчыць што? Адказ быў прыкладна аднолькавы: «Можаш даваць, гэта мяне не крыўдзіць». І справядліва. Як даўно вядома, дасціпная жартаўлівасць — сведчанне высокага інтэлекту чалавека.*

*Мне здаецца, што сёння больш раскавана пачынаюць адчуваць сябе і аўтары такіх публікацый.*

*Прапаную чытачам гэтую бывальшчыну, якая неяк незаўважна назбіралася ў мяне.*

## ШТО СВОЙ, ШТО ЧУЖЫ

Заходні фронт. На машыне едуць ваенныя пісьменнікі. Раптам у паветры з'явіўся самалёт. Пятрусь Броўка крычыць Аляксею Суркову:

— Алёша, хавайся!
— Дык гэта ж наш самалёт,— пярэчыць Суркоў.
— Ці свой, ці чужы — усё адно хавайся.

## ЯК ЗЛАВІЛІ ГІТЛЕРА

На пачатку вайны двое сяброў-студэнтаў, абодва Міколы — Аўрамчык і Сурначоў — рынуліся з натоўпам людзей на ўсход. У Мсціславе ваенкамат арганізаваў полк пераважна са студэнтаў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Трапілі ў гэты полк і абодва Міколы, і Анатоль Плюшкоў, які толькі што скончыў дзесяцігодку. Ні абмундзіравання, ні харчоў не далі, таму кожны шукаў ежу самапасам. У час маршу на ўсход, недзе ўжо на Тамбоўшчыне, беларуская троіца адбегла ў недалёкую вёску, каб з'есці што ды і ўзяць на запас. Даганяючы так званы полк, а яго наступны прывал ім быў вядомы, хлопцы падселі на спадарожную фурманку. Раптам з лесу выйшлі на дарогу двое вайскоўцаў, адзін пры шпале, што азначала на той час званне капітана, а другі пры кубіках — лейтэнант. Каторы пры кубіках адразу пераняў за вобраць каня і сказаў капітану, паказваючы вачыма на Плюшкова: «Вельмі ж падобны на Гітлера, толькі, гад, паспеў вусікі збрыць, а гэтыя двое — яго памагатыя». Мікола Аўрамчык пасля ўспамінаў: «Я глянуў на Толю, што там магло паказацца падобным на Гітлера? Круглатвары, светлавалосы, праўда, ад нашай бегатні ў яго прыліп да ўспацелага ілба наўскасяк чубок. Адразу раздалася каманда: «Вашы дакументы!» Якія там дакументы, калі іх забралі ў ваенкамаце. Пачалі тлумачыць, што мы з палка, які спыніўся непадалёку. Дагналі полк. Як толькі хлопцы, убачыўшы нас, зарагаталі, вайскоўцы адразу рэціраваліся, зніклі».

## ПЛАТОН ВАРАНЬКО ПАМАГАЕ АДКРЫЦЬ ДРУГІ ФРОНТ

Ваенная Масква. Сюды з каўпакоўскага злучэння прыляцеў украінскі партызан і паэт Платон Варанько. Якраз у той час у сталіцы пачалі з'яўляцца прадстаўнікі саюзніцкіх дзяржаў Вялікабрытаніі і Злучаных Штатаў Амерыкі. На сустрэчах заўсёды ўзнімалася гаворка аб адкрыцці другога фронту. Вядома, што саюзнікі ўсё марудзілі. І вось на адзін з урадавых прыёмаў запрасілі як партызана Платона Варанько. Сеў ён сціпла, напрыканцы даўжэзнага стала, дакладней, расстаўленых у даўжыню меншых сталоў, і стаў слухаць гасцей. А калі яму надакучылі іхнія апраўданні, то ўзлез на стол, а тады пайшоў па ім прама да кіраўнікоў дэлегацый, што сядзелі ў канцы, і абурана выкрыкнуў: «Вы наўмысна не адкрываеце другі фронт, чакаеце, каб Савецкі Саюз знямог!» Вярнуўшыся ў свой нумар, што быў тады ў атэлі «Масква», паэт ціха вымавіў жонцы: «Сушы сухары. Заўтра мяне забяруць».

Назаўтра ён нікуды не выходзіў, чакаў... Раптам раздаецца тэлефонны званок. Ледзь жывы, паэт паднімае трубку і чуе: «Таварыш Варанько?.. Мы ўдзячны Вам за ўчарашняе выступленне на прыёме. Вы вельмі добра выказалі думку савецкага народа аб неабходнасці як найхутчэй адкрыць другі фронт. Мы Вас запрашаем сёння на прыём яшчэ адной саюзніцкай дэлегацыі».

## З ФАНТАЗІЙ ДЗЕДА ТАЛАША

Героя коласаўскай аповесці «Дрыгва» палескага партызана часоў грамадзянскай вайны і нямецкай акупацыі дзеда Талаша на пачатку 1944 года прывезлі ў Маскву, дзе тады знаходзіўся ўрад Беларусі. Героя-партызана, якому было далёка за дзевяноста, пачалі вазіць на сустрэчы з рабочымі заводаў, прадпрыемстваў. На адной з такіх сустрэч былі сакратар ЦК КП Беларусі Ц. С. Гарбуноў і Максім Танк. Нехта з залы спытаў дзеда Талаша, як ён ваяваў з немцамі.

— Як Карла Маркс, на кані і з шабляй,— прамовіў дзед.

## ШУКАЙЛАВА АВАНТУРА

Калі я працаваў над пісьменніцкім даведнікам 1981 года, то старэйшыя літаратары раілі мне ўключыць у гэтае выданне і нататку пра рэпрэсіраванага ў свой час паэта і крытыка Паўлюка Шукайлу. За апошняе слова ў даведачнай літаратуры тады была прынята Беларуская Савецкая Энцыклапедыя, але ў ёй імя гэтага пісьменніка нават не ўпаміналася. Пайшоў я да аднаго адказнага таварыша высветліць гэтае пытанне (а тады людзі чамусьці былі падзелены на адказных і, мусіць, астатніх, безадказных). Дык вось, той адказны таварыш мне і кажа:

— Уключаць у даведнік Шукайлу нельга. Гэта авантурыст.

Я дазволіў сабе спытаць, у чым гэты авантурызм выявіўся. Аказваецца, на пачатку 30-х гадоў у час працы ў Ленінградзе віцэ-прэзідэнтам Акадэміі мастацтваў на яго пачаліся паклёпы і абвінавачванні ў контррэвалюцыйнай дзейнасці. Адчуваючы небяспеку, Шукайла едзе ў Маскву і адтуль дае тэлеграму ў Акадэмію мастацтваў: «Прашу спыніць траўлю таварыша Шукайлы. Кагановіч».

Аказваецца, ёсць розны авантурызм. Гэты — у імя выратавання жыцця. Але, мабыць, і не без гумару ў той час, калі нікому не хацелася смяяцца.

Неўзабаве пісьменнік пераехаў у Маскву. Але і тут яго знайшлі. І ён знік назаўсёды. Так скончылася гэтая трагікамічная гісторыя трагікамічнага часу.

## ЯК АНТОН БЯЛЕВІЧ ЗЛАВІЎ ДЫВЕРСАНТА

Масква ваеннага часу. У тралейбусе едзе Антон Бялевіч і чуе размову двух мужчын. Адзін з іх гаворыць, што нямецкія самалёты «Месершміты» добрыя. Антон Пятровіч адразу яго за рукаво:

— Пойдзем у міліцыю, ты дыверсант!

У міліцыі Бялевіч сказаў:

— Я злавіў дыверсанта, ён хваліць нямецкія самалёты.

— Вашы дакументы,— запатрабаваў дзяжурны.

— Я галоўны авіяканструктар Якаўлеў, аўтар самалётаў «ЯК»,— вось маё пасведчанне,— заявіў мужчына.

— А вы хто?

— Я паэт Антон Бялевіч.

Дзяжурны вярнуў абодвум дакументы, а замест развітання мацюкнуўся.

## «ПРАЦУЙЦЕ З ГЭТЫМІ»

Сярод пісьменнікаў бытуе такая легенда. Недзе ў пасляваенныя гады ў Саюзе пісьменнікаў СССР прыступіў да працы новы партыйны

сакратар. У тыя дні і ў пазнейшыя часы была такая завядзёнка: калі ты заняў новую пасаду, то найлепш было абганіць работу папярэдніка, тым самым паказаць, што да цябе тут нічога не зроблена, а на гэтым фоне пазней можна будзе пахваліцца сваімі поспехамі, глядзі, можа, і падвысяць. І вось новы парторг вырашыў далажыць пра ідэйна-маральны клімат у Саюзе пісьменнікаў самому таварышу Сталіну. У сваім дакладзе парторг называў многа вядомых імён, гаварыў, што вось гэты пісьменнік піша малаідэйныя творы, а той не праяўляе актыўнасці на сходах, у трэцяга не ладзіцца ў сям'і, чацвёрты выпівае, пяты... ну і так пайшло-паехала далей.

Іосіф Вісарыёнавіч паслухаў парторга і завяршыў: «Іншых пісьменнікаў у нас у краіне няма. Працуйце з гэтымі».

## СЕНСАЦЫІ НЕ АДБЫЛОСЯ

У чэрвені 1953 года ў Кіеў была запрошана група беларускіх пісьменнікаў і артыстаў. З дакладам пра нашу літаратуру і яе творчыя сувязі з украінскай на вечары выступіў Павел Кавалёў. Тады да так званай адлігі было яшчэ далекавата, тым больш не надышлі застольна-застойныя часы, але банкет гаспадары наладзілі адмысловы. Яно, канечне, і разышліся позна, і толькі ў атэлі беларусы заўважылі, што недзе знік Павел Кавалёў. Няўжо тут вінавата жанчына?.. Усе ведалі Паўла Нічыпаравіча як прыстойнага сем'яніна і раптам — на́ табе такое. Во будзе сенсацыя!

Назаўтра за сняданнем калегі цікавяцца ў Кавалёва, дзе ж прападаў ён.

— Быў у адной жанчыны,— прызнаўся пісьменнік.

— Ну і што? — у чаканні сенсацыі ўсе позіркі былі скіраваны на Паўла Нічыпаравіча.

— Вельмі цікавая жанчына,— агульнымі словамі адказаў ён.

— Ну і што? — ужо з нецярпеннем пыталіся калегі.

— Член партыі з 1905 года.

## ПРАМОВА ПІЛІПА ПЕСТРАКА Ў ГАРОДНІ

Пісьменнік-рэвалюцыянер, былы падпольшчык і вязень польскай дэфензівы, Піліп Пестрак прыехаў з групай пісьменнікаў на літаратурныя выступленні ў Гародню. Першая сустрэча адбылася са студэнтамі. Піліп Сымонавіч выйшаў да іх і сказаў:

— Дарагія таварышы гародзенцы! Я вас вельмі люблю, бо я тут сядзеў у турме.

## ЧЫЯ ВАРОЖАЯ РУКА?..

Анатоль Клышка неяк пакрытыкаваў вершы Піліпа Пестрака, паэта-рэвалюцыянера, які адбыў адзінаццаць год у польскіх турмах. Піліп Сымонавіч пацікавіўся, хто такі гэты Клышка. Выявілася, што той паходзіць хоць і з беднай сям'і, але з Заходняй Беларусі. Тады Піліп Сымонавіч, хоць і сам нарадзіўся ў Заходняй Беларусі, выступіў на пісьменніцкім сходзе і, як заўсёды, выразна, нібы чаканячы кожнае слова, сказаў:

— Гэта зноў мяне шляхта крытыкуе.

Неўзабаве сярод пісьменнікаў пачала хадзіць эпіграма Рыгора Барадуліна:

Чыя варожая рука
крытыкавала Пестрака?

## «А ДЗЕ ТУТ КНІГІ ПЕСТРАКА?»

Амаль кожны прыезд у Гародню Піліп Пестрак бываў у Аляксея Карпюка. Зайшоўшы ў кватэру, Піліп Сымонавіч звычайна акуратненька вешаў капялюш у калідоры і праходзіў у рабочы пакой гаспадара. Як кожнага пісьменніка, найперш прыцягвалі яго ўвагу кніжныя паліцы. На гэты раз Піліп Сымонавіч са здзіўленнем заўважыў, што на паліцах яго чатырохтомніка, які нядаўна выйшаў, не было.

— Аляксей, хадзі сюды,— паклікаў з кухні гаспадара,— а дзе тут мой збор твораў?

— Ведаеце, Піліп Сымонавіч, я аддаў пачытаць суседу,— знайшоўся Аляксей Нічыпаравіч.

— А ты кажаш няпраўду, гіцаль! — Піліп Сымонавіч хуценька за свой капялюш і ходу за дзверы.

Больш сюды яго нага не ступала.

Неўзабаве Піліп Пестрак зноў прыехаў у Гародню. Пайшоў з таварышамі ў рэстаран павячэраць. Тут яму гавораць, што за вокнамі чакае яго Аляксей Карпюк, у рэстаран заходзіць не хоча, бо не п'е, пазбягае спакусы. Піліп Сымонавіч як адрэзаў:

— А гэты падкулачнік хай пачакае.

Пацэліў, як кажуць, у дзесятку: Аляксей Нічыпаравіч паходзіў з заможнай сям'і, а тады афіцыйна гэта не лічылася за годнасць. Так Карпюк стаў класавым ворагам Піліпа Пестрака.

## РЭЗАЛЮЦЫЯ МАРШАЛА

Аляксей Карпюк у часе баёў за Берлін быў паранены. Усе, хто ўдзельнічаў у гэтых баях, былі ўзнагароджаны медалём «За ўзяцце Берліна». Карпюку не пашанцавала, ён трапіў у шпіталь. І вось аднойчы пісьменнік вырашыў звярнуцца з просьбай аб узнагародзе да міністра абароны колішняга Савецкага Саюза маршала Г. К. Жукава. Тут жа ён напісаў ліст і свайму дзядзьку, маўляў, табе там нялёгка жывецца, прыязджай да нас, тут хоць бульбачка ёсць. Неяк так выйшла, што гэты ліст ён паклаў у канверт, адрасаваны Жукаву, а ліст для Жукава адправіў дзядзьку. Неўзабаве да Карпюка з'явіўся пасыльны і запрасіў у ваенкамат. Думаючы, што будуць уручаць медаль, Аляксей Нічыпаравіч надзеў новы касцюм.

— Гэта вы пісалі пісьмо таварышу Жукаву? — спытаў ваенкам.

— Пісаў, а што — прыслалі медаль?

— Прашу азнаёміцца з рэзалюцыяй маршала і распісацца,— адказаў ваенком.

На лісце свайму дзядзьку Аляксей Нічыпаравіч прачытаў: «Прашу паведаміць т. Карпюку, што я з ім ні ў якім сваяцтве не знаходжуся. Г. Жукаў».

Хутка прыйшоў адказ і ад дзядзькі: «Дарагі пляменнік, які я табе маршал? Я твой дзядзька...»

# ПРА АДНУ ІДЭЮ КАРПЮКА

Аляксей Карпюк быў каларытнай асобай, заўсёды поўны ідэй, задум. Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч, Валянцін Блакіт ды і сам Аляксей Нічыпаравіч расказвалі мне, як некалі, у хрушчоўскія часы, а літаратары любяць называць іх адліжнымі, Карпюк надумаў стварыць таварыства цвярозасці. Расказвалі кожны са сваімі дэталямі, а я склаў у адно.

Вось у тыя хрушчоўскія гады і прачытаў Карпюк у часопісе «Новый мир» мемуары генерала Гарбатава, у якіх прыгадваецца прыём у Крамлі ў гонар перамогі над фашызмам. Генерал пісаў, што ён не браў чарку на прыёме, бо непітушчы. Тут і паявілася думка ў Аляксея Нічыпаравіча: а чаму б ім не стварыць таварыства цвярозасці. Пісьменнік адразу выехаў у Маскву, дазваніўся да генерала і дамовіўся аб сустрэчы. Пасадзіўшы пісьменніка за стол, Гарбатаў тут жа паставіў бутэлечку каньяку і дзве чарачкі.

— Вы што, вы ж непітушчы! — здзівіўся Карпюк.

— А я частую вас,— адказаў генерал.

— Я таксама не п'ю,— і Карпюк выклаў сваю ідэю.

— Гэта вельмі цяжка зрабіць. Есць закон: каб стварыць арганізацыю, трэба не менш чым тры чалавекі. А дзе ж знайсці трэцяга?..

— А сярод генералаў?

— Сярод маіх генералаў няма ніводнага, хто не піў бы. Можа, пашукаць сярод пісьменнікаў?

І тут Карпюк зноў падумаў: у Маскве знаходзіцца Алесь Адамовіч, ён жа не п'е. Прыехаў у Саюз пісьменнікаў, а там гавораць, што Адамовіч сёння вяртаецца ў Мінск. Аляксей Нічыпаравіч паспеў на цягнік за некалькі хвілін да адпраўлення. Пайшоў па ўсіх вагонах, угледзеў Аляксандра Міхайлавіча і кажа:

— У Мажайску выйдзем і паедзем да Гарбатава, будзем ствараць таварыства цвярозасці.

— Калі я ўступлю, то разладжу яго знутры,— выказаў сваю думку Адамовіч.

Што рабіць?.. Аляксей Нічыпаравіч падумаў, што найлепш будзе звярнуцца за падтрымкай да Ніны Пятроўны — жонкі Хрушчова. Але ўспомніў словы Гарбатава, сказаныя ім на развітанне:

— Пакуль у Крамлі п'юць, датуль і краіна будзе піць.

Аднак Карпюк не здаўся. Ён вырашыў зрабіць апошнюю спробу — скарыстаць імя правадыра міжнароднага пралетарыяту У. І. Леніна. Калі ў Савецкім Саюзе рыхтаваліся да сотых угодкаў з дня нараджэння У. І. Леніна і ад кожнай арганізацыі запатрабавалі мерапрыемствы да гэтага юбілею, то Аляксей Нічыпаравіч як сакратар абласной пісьменніцкай арганізацыі прынёс іх у абком усяго з аднаго пункта: «Правесці кампанію «А Ленін не піў».

Не падтрымалі.

Неўзабаве ён, Быкаў і Блакіт паехалі ў Масты. Перакусіць вырашылі на беразе Нёмана. Карпюк прывык, што сябры заўсёды налівалі яму ў шклянку мінеральную ваду. На гэты раз мінералкі не было і яму налілі паўшклянкі белай. Блакіт прапанаваў тост за здароўе тых, хто зведаў цяжкасці вайны, за ветэранаў. Быкаў дадаў, што ў такім разе трэба выпіць да дна. Выпілі. Карпюк адразу стаў чырванець-чырванець, павесялеў. Быкаў прапанаваў:

— Можа, паедзем дамоў?

— Куды паедзем? Гуляем да раніцы,— запярэчыў Карпюк.

А як стварылася таварыства цвярозасці і стомленаму ў барацьбе Карпюку прапанавалі ўвайсці ў мясцовае кіраўніцтва гэтай арганізацыі, ён сказаў: «Цяпер я ўжо не пайду».

## ПРАМОВА (СПІЧ) УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА Ў ГОНАР ЯГАМОСЬЦІ А. Н. КАРПЮКА НА ЯГО ШАСЦІДЗЕСЯЦІГОДДЗІ

«...Мы шмат знаёмыя з Аляксеем Карпюком... Нават дружылі. Аднойчы ён мне нават даў сваю шапку, калі я ішоў на спатканне. Сказаў: «Сорамна табе ў такой шапцы ісці на спатканне». Здзёр з маёй галавы маю, а мне даў сваю. Добрая была шапка. Норкавая, ці якая яшчэ там.

Рознае ў нас бывала. І — хочаце верце, хочаце не — гэта не вы сёння прымусілі яго прылюдна зрабіць ягоны першы лык шампанскага. І я ганаруся гэтым. Ён сам тут не дасць схлусіць. І вось «неисповедимы пути господни», сёння ён шампанскае выпіў, а я вымушаны падымаць тост за яго здароўе і «сто год» мінеральнай вадой. (Рэпліка з месца: «Вось небяспека такой дружбы». Другая: «З кім павядзешся...») Цяпер мы крыху далей адзін ад аднаго (гарады), але сэрцы разам.

І яшчэ аб зменлівасці чалавечых лёсаў. Калі хочаце, я раскажу вам сплетню, якая ходзіць пра юбіляра. (Рэпліка: «Просім! Просім!») Кажуць, што ён і цяперашні папа рымскі родам з адных мясцін. Можа, і так, але вось промысел божы: адзін пайшоў у папы рымскія, а другі ў дырэктары антырэлігійнага музея... Вось як яно ў жыцці...»

І ўрэшце пайшлі простыя (а не юбілейныя) словы Валодзі Караткевіча пра тое, за што ён і мы любілі гэтага чалавека.

## ЯК КАРАТКЕВІЧ ЛЕДЗЬ НЕ СТАЎ ПРЫНЦАМ

На семінар маладых пісьменнікаў у Гародню быў запрошаны Валодзя Караткевіч. Пасяліліся мы з ім у адным нумары. Цэлы вечар ён расказваў навелы са свайго жыцця. Вось адна з іх:

— Ты ведаеш, я ледзь не стаў прынцам.

— Як так? — пытаю.

— Былі мы ў Маскве на Днях беларускай літаратуры і мастацтва. Жылі ў атэлі «Расія». Увечары з Анатолем Вярцінскім запазніліся з выступленнем, ідзем у рэстаран. А ў дзвярах рэстарана стаіць швейцар, пры лампасах, у зале поўна народу, і не пускае нас. Тады Анатоль паказвае на мяне і гаворыць яму:

— Гэта вядомы польскі кінарэжысёр Караткевіч!

— А, иностранец, тогда пожалуйста.

— Адміністратар падвяла нас да століка, а там сядзіць маладая негрыцянка з неграм, зубы ў яе бялюткія, вочы блішчаць, як у савы, фігура такая прыгожая — не кажы. Я тут жа гатовы быў упасці перад ёй на калені. Анатоль, па-мойму, адразу закахаўся. А я падумаў: не, яна будзе маёй жонкай. Анатоль прадставіў мяне, і ёй падалося, што я польскі кінарэжысёр Ежы Кавалеровіч. Я на яе гляджу, яна — на мяне. Разгаварыліся, аказалася, што яна — дачка вярхоўнага правадыра ўгандзійскага племені, а гэта азначае — прынцэса. Брат яе — прэм'ер-міністр Уганды.

— А на якой мове ты гаварыў? — цікаўлюся.

— Па-польску,— адказаў Валодзя, затым з дакорам паглядзеў на мяне.— Зрэшты, хіба для закаханых патрэбна мова! Мы і пра жаніцьбу дамовіліся. Яна адрас свой мне дала. Трэба было ехаць у тую Уганду. Вось і быў бы прынцам.

— Дык чаму ты не пабраўся з ёю? — пытаю.

— Адрас згубіў,— з пачуццём незадаволенасці на самога сябе адказаў Валодзя.

## ВЯЧЭРА ЎЧАЦВЯРЫХ. ВЕРСІЯ ВЯРЦІНСКАГА

Паколькі ўдзельнікам расказанай гісторыі быў і Анатоль Вярцінскі, то я паказаў яму запіс аповяду Караткевіча і папрасіў падзяліцца сваім успамінам. Анатоль расказаў:

— Былі Дні літаратуры і мастацтва ў Маскве. Жылі мы, удзельнікі гэтых дзён, у гасцініцы «Расія». Мы з Уладзімірам Караткевічам у адным нумары... Выступалі разам на адной з маскоўскіх швейных фабрык. Выступленне зацягнулася, вярнуліся ў атэль познім дажджлівым вечарам. Халодныя і галодныя. Трапіць у якінебудзь рэстаран, каб павячэраць, было цяжка. Шыльды строга папярэджвалі: «Мест нет!» І тут нас «асяніла»: месцы ўсё-ткі могуць знайсціся, калі мы прыкінемся замежнай дэлегацыяй. Я прыдумаў такі варыянт: прадстаўлю Уладзіміра Караткевіча як польскага кінарэжысёра, а сябе выдам за перакладчыка з польскай і суправаджаючага з Саюза пісьменнікаў — балазе пісьменніцкі білет пры мне. Прыдумка, як кажуць, зрабіла сваё. Жанчына-метрдатэль даволі ветліва нас сустрэла, пашукала вачыма вольныя месцы ў зале і паказала на адзін са столікаў: «Вунь там, дзе сядзіць негрыцянская пара... Калі не супраць, то калі ласка...» Караткевіч падзякаваў па-польску, я пераклаў, маўляў, «Большое спасибо!», і мы падаліся да століка.

Заказалі вячэру. З шампанскім. Сталі знаёміцца. Трымаючыся абранай версіі, я і тут прадставіў Караткевіча як польскага кінарэжысёра, а сябе як прадстаўніка Саюза пісьменнікаў, ну а што да нашых суседзяў па століку, то яна аказалася дачкой прэм'ер-міністра Уганды, студэнткай універсітэта імя Лумумбы, а ён — жаніхом, угандзійскім юрыстам... Пайшлі тосты: «Пораз першы за пенькно пані... За яе жаніха... За братнюю Уганду... За Польску... За дружбу народаў...» Павінен сказаць, што Караткевіч не забываўся выконваць сваю ролю — мовіў толькі па-польску, а я адпаведна старанна перакладаў на рускую (угандзійцы валодалі ёй).

Выходзілі з рэстарана разам. Ішоў густы асенні дождж. Юрыст пабег шукаць таксі, а мы з угандзійскай прынцэсай чакалі пад адным парасонам, жартавалі, гулліва заляцаліся, здавалася, што яна ўжо забылася і пра свайго жаніха... Развіталіся вельмі цёпла, па-сяброўску (давала знаць, безумоўна, колькасць выпітага за тым інтэрнацыянальным столікам)...

Што было назаўтра? Па-першае, мы атрымалі наганяй ад кіраўнікоў рэспублікі, якія ўзначальвалі дэкаду і, як на тое, зафіксавалі наш флірт з негрыцянкай пад парасонам. Па-другое... Калі мы, прачнуўшыся, прыгадалі ўчарашнюю экзатычную вячэру, як толькі ўчарашні польскі кінарэжысёр «пан Каркевіч» (так называла яго ўгандзійка) стаў беларускім паэтам-рамантыкам Уладзімірам Караткевічам, ён тут жа ўсхадзіўся і стаў шукаць нумар тэлефона угандзійскага пасольства... Тэлефон нешта не адказваў, я спрабаваў угаварыць Валодзю, што не ўсё так проста, што наўрад ці знойдзе ён нашу ўчарашнюю красуню-ўгандзійку, да таго ж у яе ёсць жаніх... Ні адзін з аргументаў, у тым ліку і апошні на

Караткевіча ніяк не дзейнічаў. «Ну і што! — не хацеў ён слухаць.— Я ўсё адно яе знайду і ажанюся з ёй!»

Дазваніцца нам так і не ўдалося. Не адбыўся, як вы здагадаліся, і шлюб «польскага рэжысёра» і беларускага шляхетнага паэта з яснавяльможнай і цёмнаскурай паненкай з Уганды... Але потым, і па дарозе дадому, і пазней, мы не раз пры сустрэчах цёпла і весела ўспаміналі тую вячэру ўчацвярых у гасцініцы «Расія»...

## КАМУ ЖЫЦЬ СПАКАЙНЕЙ

Не сустракаў я людзей больш апантана ўлюбёных у творчасць пісьменнікаў, чым іхнія ўдовы. Няважна, пісьменнік таленавіты, выдатны, ці так сабе, для жонкі ён усё адно вялікі. Можа, такімі і павінны быць жонкі пісьменнікаў. Спачатку я са здзіўленнем, а потым і з нейкай замілаванасцю сачыў за гэтай апантанасцю жанчын. Звычайна прасілі выдаць кнігу ўспамінаў пра мужа, даць імя пісьменніка якой-небудзь вуліцы, школе ці бібліятэцы.

Аднойчы на сакратарыяце Саюза пісьменнікаў ішло абмеркаванне адной такой заявы. Сакратары задумаліся: ці ўзяць удар на сябе і адразу адмовіць удаве, бо было ясна, што гэтае пытанне, як то кажуць, «не прабіць», ці ўсё ж пераказаць просьбу Саўміну рэспублікі, каб адмова прыйшла адтуль. Паўзу парушыў Максім Танк:

— Маёй жонцы і жонцы Янкі Брыля пасля нас можна будзе спаць спакойна: у Мінску ўжо ёсць вуліцы Брылеўская і Танкавая.

## ТРЭБА ПАГАВАРЫЦЬ...

Рыгор Барадулін, калі піша вершы дома, звычайна адключае тэлефон, каб ніхто не турбаваў. Аднойчы звоніць яму Васіль Быкаў — ніхто не адказвае. Набірае нумар яго тэлефона назаўтра — таксама маўчанне. На трэці дзень Быкаў ідзе на пошту і дае тэлеграму: «Рыгор! Уключы тэлефон, трэба пагаварыць. Васіль».

## ДАНІНА ЧАСУ

Зараз шмат пішуць пра асаблівасці нацыянальнага характару беларуса. І мне прыгадваецца, як пра калектыў адной рэдакцыі Рыгор Барадулін казаў: «Там дванаццаць супрацоўнікаў, але трынаццаць груповак».

## ЮШКА ПА-КРАСНАЯРСКУ

Дні беларускай літаратуры ў Краснаярскім краі. На развітанне пісьменнікаў запрасілі на дачу крайкома, дзе іх частавалі юшкай. Хлебасольныя гаспадары для пачатку налілі кожнаму бакал каньяку. Непітушчы Рыгор Барадулін на гэты раз не стаў адмаўляцца і прыкрываць бакал рукой, і яму таксама напоўнілі. А калі слова ўзяў Міхась Калачынскі, то Рыгор, падбадзёрыўшы яго словамі «Давай, наш папаша, давай!», неўпрыкметку выліў свой каньяк яму ў юшку. Усе засмяяліся, Рыгор за сваё: «Давай, папаша, давай!» Міхаіл Іванавіч скеміў, што тут штосьці не тое і пасля прамовы спытаў у Барадуліна:

— Чаму яны засмяяліся?

— Ім здалося, што я наліў вам каньяку ў юшку.

Міхаіл Іванавіч зачарпнуў лыжкай юшкі, пакаштаваў і ўпэўнена сказаў:

— Я стары рыбак. Каб тут хоць кропля была каньяку, то пазнаў бы.

Так нарадзілася юшка па-краснаярску. Аўтар рэцэпта — Рыгор Барадулін.

## КАМУ КОЛЬКІ МЕТРАЎ НАЛЕЖЫЦЬ

Ішло пасяджэнне сакратарыята Саюза пісьменнікаў Беларусі. Абмяркоўвалася кватэрнае пытанне. Аказалася, што ў Мінску ўстаноўлена норма займаемай жыллёвай плошчы на чалавека, пры якой ён мае права стаць на чаргу на атрыманне новай кватэры,— шэсць квадратных метраў. Калі маеш сем, то на чаргу ўжо не ставяць. Звычайна спакойны і разважлівы Іван Шамякін на гэты раз не ўстрымаўся:

— Нават у Петрапаўлаўскай крэпасці на кожнага вязня адводзіўся пакой да дваццаці метраў.

## АДКАЗ ФОЛКНЕРА

Было гэта, як цяпер любяць казаць, у застойныя часы. У Маскве сабраўся так званы красавіцкі пленум ЦК КПСС, прысвечаны, канечне, далейшаму развіццю сельскай гаспадаркі. Потым пайшлі пленумы рэспубліканскі, абласныя, раённыя, а летам дайшла чарга і да нашай пярвічнай партарганізацыі Саюза пісьменнікаў. На сход прыбыў высокі госць — першы сакратар Мінскага абкома партыі. Стаяла гарачыня, прыйшоў ён у тэнісцы і меў, як тады звычайна пісалі, цёплую размову з прысутнымі. А мне думалася: ці не лепш у гэты час яму быць у полі або на ферме, а нам — на лысагорскіх агародах. Наогул, чаму аж з вясны ўсе забаўляюцца гэтымі зборышчамі, гаварыльняй, бо калі ўспомніць даўнюю вёску, то там сходкі былі толькі зімой, менавіта тады ў селяніна на гэта мог быць час, хоць і зіму ён скарыстоўваў як належыць, рыхтаваўся да вясны, да палявых работ, а з вясны аж да восені заўзята працаваў.

Прыкладна ў той самы час, нібы спецыяльна да нашай вясновалетняй мітусні, маскоўская газета «За рубежом» апублікавала адказ Уільяма Фолкнера прэзідэнту ЗША Гары Трумэну, які запрашаў пісьменніка як лаўрэата Нобелеўскай прэміі на прыём у Белы Дом. Са сваёй фермы Фолкнер накіраваў прэзідэнту адказ (цытую па памяці): «Пан прэзідэнт! Паспрабуйце знайсці такога дурня фермера, які ў час уборкі ўраджаю кінуў бы сваю ферму і паехаў у Вашынгтон, каб выпіць кубачак кавы з незнаёмым яму чалавекам».

Пісана для чыноўнікаў усяго свету.

## ЦІ ЁСЦЬ ТАКІ ПІСЬМЕННІК?

З вядомым балгарскім пісьменнікам Ангелам Тодаравым я пазнаёміўся ў 1976 годзе ў Сафіі. Да гэтай сустрэчы чуў пра яго шмат смешных гісторый. Расказвалі, напрыклад, пра такі выпадак. Аднойчы ідзе дзядзька Ангел па горадзе і чуе, як двое прахожых абураюцца, што вуліца не так названа і што можна было б ёй

надаць імя якога-небудзь пісьменніка. Дзядзьку Ангелу стала радасна на душы, і ён кажа: «Якія вы малайцы, я таксама пісьменнік».— «Хто?» — «Ангел Тодараў». «Няма такога пісьменніка»,— заявілі гараджане.

І вось Ангел Тодараў сядзіць са мной у кафэ Дома пісьменнікаў, гартае газету і на поўным сур'ёзе гаворыць:

— Нядаўна таварыства цвярозасці папрасіла мяне выступіць у іхняй газеце «Трезвенность». Пад артыкулам я падпісаў сваё званне «Народны дзеяч культуры». Газетчыкі ж зрабілі «Народны дзеяч цвярозасці». А ў мяне кожны дзень на стале — што-небудзь з напіткаў.

Прыдумваў пісьменнік такія гісторыі, ці сапраўды такое з ім здаралася, я і цяпер не магу дакладна сказаць.

## АДКУЛЬ ПАЧЫНАЕЦЦА ГОРАД

Прызнацца, я вельмі баяўся, каб у Габраве гумар не стаў «замузееным». Я ведаў, што сімвал гэтага горада — кот з адсечаным хвастом: каб менш цяпла выходзіла, як зачыняеш за ім дзверы. І калі я спусціўся з Шыпкі і на скрыжаванні габраўскіх дарог спытаў у падарожнага, дзе пачынаецца горад, той адказаў: «Вунь, бачыце, дымяць трубы — дык ад першай трубы». У Доме гумару і сатыры, які тут адкрыты ў 1975 годзе, супрацоўніца Венета Георгіева падарыла мне разам з кнігай «Габраўскія жарты» тры чацвярцінкі ад манеты і дадала, што габравец не такі дурны, каб даваць цэлую манету. Адсутнасць чацвёртай часткі азначала, што некалі я павінен яшчэ вярнуцца па яе.

## ЯК ЛАМАР ВЫКАНАЎ АДКАЗНАЕ ДАРУЧЭННЕ

Балгарскія пісьменнікі атрымалі ад грузінскіх калег запрашэнне на святкаванне 800-годдзя з дня нараджэння Шата Руставелі. Сабраліся і сталі думаць-меркаваць, каго паслаць туды. Паколькі грузіны людзі вельмі гасцінныя, то вырашылі, што націск іхняй гасціннасці з годнасцю можа вытрымаць народны паэт Ламар. Тады была такая завядзёнка, што пасля кожнай важнай, адказнай паездкі пісьменнік павінен быў расказаць пра яе сваім калегам. Пра тое, як справіўся Ламар з даручэннем, пачулі ад яго самога:

— Развітальную вячэру давалі на гары. Хто сядзеў у рэстаране, хто пад шатрамі, тысячы людзей. І ўсё тосты... Пасля кожнага тоста трэба было піць віно з рога. Праз гадзіны дзве бачу, што суседа, які сядзеў насупраць мяне, павяла жонка дамоў. Сусед злева таксама быў на падпітку і пасля чарговага тоста знік. А справа сусед усё сядзіць. Я чокнуся з ім, віп'ю і прыкідваю сабе: пара ўжо яму зваліцца пад стол, а як толькі яго вынесуць, то я і пайду. А ён усё сядзіць, моцна сядзіць. Я зноў чокнуся і віп'ю. Пачало днець, а мы з ім усё трымаемся, і толькі як рассунулі шторы, убачыў, што ў зале застаўся адзін я, а побач са мною — мармуровая калона.

## КРЫЛАТАЯ ФРАЗА МАКСІМА РЫЛЬСКАГА

У часе застолля старэйшыя пісьменнікі любяць прыгадваць словы ўкраінскага паэта Рыльскага:

— Калі я чую слова «дружба», мая рука міжвольна цягнецца да бакала.

## КОЛЬКІ РАЗОЎ МОЖНА АБЕДАЦЬ

Марка Ганчаў, балгарскі сатырык і гумарыст, прыйшоў з сынам у кафэ Дома пісьменнікаў, каб пачаставаць яго. Паказвае сыну:

— Вунь там у кутку абедае двойчы Герой Сацыялістычнай Працы Младзен Ісаеў.

— А што, ён і абедае двойчы? — цікавіцца хлапчына.

## ГАЮЧАЯ ВАДА

Другі балгарскі гумарыст і сатырык Петар Незнакомаў расказаў мне пра такі выпадак. Падарожнічаў ён з сябрамі па Балканах. Спыніліся ў вёсцы. Мясцовы жыхар падказаў, што калі праехаць яшчэ кіламетраў дваццаць, то яны натрапяць на жыватворную крыніцу. Адолелі гэтыя дваццаць кіламетраў, а там даведаліся, што трэба ўзяць яшчэ дваццаць. Узялі і гэтыя дваццаць, затым давялося адольваць дзесяць, а тады яшчэ якіх пяць — не будзеш жа вяртацца напрыканцы дарогі. Адшукалі крыніцу і ад радасці выпілі каля яе бутэльку сухога віна. К вечару стомленыя вярнуліся на начлег і толькі тады ўспомнілі, што гаючай вады так і не пакаштавалі.

## ПІСЬМЕННІЦКІ ЖАРТ

Петару Незнакомаву захацелася праверыць, ці сапраўды ёсць патрэба запаўняць так падрабязна анкетныя даныя, калі пасяляешся ў атэль. У графе «месца працы» ён стаў пісаць «Інтэліджэнс сэрвіс» (назва англійскай разведкі). У семнаццаці гасцініцах ніхто на гэта не звярнуў увагі, толькі ў васемнаццатай, у маленькім гарадку, прыйшоў у нумар міліцыянер і сказаў:

— Ты так больш не жартуй.

## ДЗЕ ТАЯ ВУЛІЦА?

Аляксандр Пракоф'еў расказваў, як у сорак дзевятым годзе ён наведаў Львоў. Вечарам вяртаўся з гасцей, у атэль яго праводзіў Уладзімір Бяляеў. Раптам перад імі ўзнік нейкі тып і папрасіў закурыць. Далі. Тып аказаўся назойлівы і пачаў дабівацца, каб яны праводзілі яго на нейкую вуліцу. Бяляеў выняў з кішэні пісталет, накіраваў дула на таго, што чапляўся, і сказаў:

— Ідзіце прама, тады звернеце налева, затым направа, зноў прама і выйдзеце на сваю вуліцу.

— Добра-добра,— хуценька сказаў тып і знік у цемені.

## З ЧЫМ ЛЕПШ ПРЫХОДЗІЦЬ ДА СУСЕДА?

Максім Танк неяк расказваў, як у 1956 годзе прыехаў на сотыя ўгодкі Адама Міцкевіча польскі паэт Уладзіслаў Бранеўскі, і яны з групай беларускіх пісьменнікаў паехалі на Навагрудчыну. Выйшлі з музея паэта, а ў скверы сабраўся натоўп, і людзі цікавяцца:

— Кажуць, што прыехаў унук Міцкевіча, дзе ён, каторы?

— Мы тут усе ўнукі Міцкевіча,— адказаў Уладзіслаў Бранеўскі.

Калі пасля абеду пісьменнікі выйшлі з рэстарана і ступілі на плошчу, Бранеўскі падышоў да Максіма Танка, абняў яго і прачулена загаварыў: «На гэтай зямлі я ваяваў у легіёнах Пілсудскага, тут загінулі мае сябры, легіянеры...» Максім Танк падумаў: Бранеўскі ваяваў і ў яго родных мясцінах — у раёне станцый Княгініна і Крывічы. Але ж не плакаць цяпер разам з ім. І тут жа сказаў госцю:

— А чаго ты сюды з вінтоўкай ішоў? Прыехаў бы з паўлітэркай і цябе сустракалі б гэтак, як сёння.

## ШАРАНГОВЫ ЯН ГУШЧА

Паэт і перакладчык беларускай літаратуры на польскую мову Ян Гушча жыў у Лодзі. Яго суседам па пляцоўцы быў генерал. Як гэта і водзіцца ў Польшчы, на дзвярах суседа вісела медная таблічка, але на ёй было выгравіравана не толькі прозвішча гаспадара, а яшчэ і вайсковае званне: генерал. Тады паэт заказаў сабе таблічку з надпісам «Шаранговы Ян Гушча».

Неўзабаве генеральская таблічка знікла: самалюбства не дазволіла высокаму чыну жыць на адной пляцоўцы з «шаранговым», радавым.

## ЯК ЯНО ЛЕПШ

Ян Гушча ў Мінску сустрэўся з беларускімі калегамі. Нехта жартам яму сказаў:

— Вярніце нам Беласточчыну.

— А навошта? Тады і на Беласточчыне перастануць гаварыць па-беларуску, а так хоць там мова захаваецца.

## ЧАРОЎНЫЯ СЛОВЫ

Беларускі паэт Алесь Барскі жыве ў Польшчы. Як гжэчны мужчына, ён любіць сказаць жанчыне прыемныя словы, заўсёды падкрэсліць, што яна прыгожа выглядае. У адзін з прыездаў у Мінск Барскі зайшоў у Інстытут літаратуры. Бібліятэкарцы ён не прамінуў сказаць: «Пані прыгожа выглядае». Уражаная, яна пабегла пахваліцца машыністцы. А тая здзівіла яе: «Толькі што ён мне сказаў тое самае».

## КОЛЬКІ МОЖНА НАПІСАЦЬ ВЕРШАЎ ЗА МЕСЯЦ?

Беларускія пісьменнікі запрасілі ў дом творчасці «Іслач» аднаго паэта з-за мяжы, каб ён там папрацаваў. Напрыканцы месячнага тэрміну паэт прыйшоў ў Саюз пісьменнікаў і пахваліўся, што напісаў там ажно сто пяцьдзесят вершаў.

— А пра што яны? — пацікавіўся нехта.

— Усё пра лес,— адказаў паэт.

Максім Танк не вытрываў:

— Дык у іслацкім лесе дрэў куды больш за сто пяцьдзесят! Калі пра кожнае дрэва напісаць, ого колькі вершаў было б!

## ПІШЫ, ЯК НЭСІН

У 1973 годзе ў Гагры адпачываў турэцкі празаік Азіз Нэсін. У першы ж дзень ён пазнаёміўся з пісьменнікамі армянінам Міхаілам Шаціранам і азербайджанцам Абілам Юсубавым. Знаёмства было кароткае:

— Міхаіл.

— Абіл.

— Азіз.

Увечары Шаціран гаворыць Юсубаву:

— Па-мойму, гэта быў Азіз Нэсін.

— Што ты, Азіза Нэсіна я выдатна ведаю.

За вячэрай Абіл пытае ў Нэсіна:

— Азіз, ты ў якім жанры працуеш?

— Пішу гумарыстычныя апавяданні,— адказвае Нэсін.

— Ну, калі ты турак і пішаш гумарыстычныя апавяданні, то пішы іх так добра, як Азіз Нэсін.

## КАРОТКІ ДЫЯЛОГ З ДЗІНАЙ ХАРЫК

Прыйшла да мяне, як да аўтара даведніка пра пісьменнікаў, Дзіна Звулаўна Харык — удава паэта Ізі Харыка. Прыйшла другі раз, каб забраць матэрыялы пра паэта, яго кнігі.

— Вы прачыталі «Гісторыю яўрэйскага народа», якую я вам прынесла яшчэ той раз? Заўважылі, што ў пераліку паэтаў імя Харыка стаіць на першым месцы?

— Заўважыў. І, чытаючы пераклады яго паэзіі, адчуў, што гэта выдатны паэт.

— Вось бачыце! Таму і напісаць вам трэба пра яго некалькі старонак, а не так коратка, як гэта было ў старым даведніку.

— Згодны, трэба значна пашыраць даведку. Але ж не настолькі, каб атрымалася больш, чым, скажам, пра Янку Купалу.

Дзіна Звулаўна шчыра здзівілася:

— Купала меў усяго пачатковую адукацыю. А Харык вучыўся ў Брусаўскім інстытуце і скончыў Маскоўскі ўніверсітэт.

— А як вы пазнаёміліся з Ізі Харыкам? — пацікавіўся я.

— Гэта было задоўга да вайны. Пасля заканчэння яўрэйскага педагагічнага тэхнікума мяне пакінулі працаваць у Мінску ў 3-м яўрэйскім дзіцячым садзе. Жыла я тады ў сям'і сваёй сяброўкі на вуліцы Астроўскага. Аднойчы, гэта было ў канцы жніўня, ішла я на працу. Раптам бачу, з суседняга двара выйшаў мужчына сярэдніх год з кучаравай шавялюрай і ў пенснэ. Ён загаварыў да мяне. Пакуль мы ішлі па вуліцы, я заўважыла, што сустрэчныя звяртаюць на нас увагу.

— У вас, мусіць, тут поўна знаёмых,— сказаў Харык,— прахожыя заўважаюць вас.

— Я ўпэўнена, ды вы і самі ведаеце, што не я выклікаю іх увагу... Бо калі я іду адна, ніхто нават не глядзіць у мой бок.

— Тады я вам скажу, чаму на нас звяртаюць увагу: яны не могуць вызначыць, ці то мы муж і жонка, ці то бацька і дачка. Для бацькі я, відаць, замалады, а для мужа як быццам застары.

— Дзіна Звулаўна, вы былі значна маладзейшая за Ізі Харыка?

— Не кажыце. Я настолькі была маладзейшая, настолькі, што і вам цяпер не скажу на колькі... Дык вось, калі я паехала дадому, у Бабруйск, і расказала пра сваё знаёмства і сустрэчы з Ізі Харыкам, то бацька заўважыў:

— Хто ведае, хто ведае, надта ж высока лезеш.

— Калі такі вялікі чалавек хоча цябе ўзяць замуж — ідзі,— запярэчыла мама і дадала: — Я ведаю, што ў многіх вялікіх людзей былі звычайныя жонкі.

— Тым і скончылася гэтая спрэчка?

— Я ўзяла чамаданчык і пайшла да Ізі. Пражылі мы з ім тыя некалькі год, што заставаліся да яго арышту ў 1937, вельмі добра. Скажу, што не так даўно мне прапаноўвалі выйсці замуж у Амерыку. Але хіба можа быць хто лепшы за Ізі? Я так і адказала гэтаму чалавеку: «Выбачайце, але Ізі Харыка я ніколі не пакіну».

Я любіла хадзіць з Ізі на літаратурныя вечары. Асабліва мне запомнілася паездка ў Маскву на юбілей А. С. Пушкіна. Гэта было ў лютым 1937 года. У перапынках жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна, жонка Андрэя Александровіча і я хадзілі аглядаць горад. Уладзіслава Францаўна, жадаючы нас рассмяшыць, разыгрывала з сябе адсталую вясковую жанчыну, якая ўпершыню трапіла ў вялікі горад і ўсё яе тут здзіўляла і захапляла. Калі мы сталі спускацца ў метро, яна загаласіла:

— А божухна мой! Ой мамачкі мае! Куды ж гэта лесвіца завязе нас: у рай ці ў пекла? Трэба спачатку высветліць, а тады паедзем.

Тут двое ваенных узялі яе пад рукі і спусціліся разам уніз.

— Ну, з такімі хлопцамі і ў пекла не страшна,— сказала яна. Мы рагаталі да слёз. А адна жанчына, не зразумеўшы жарту, здзівілася:

— А я і не думала, што ў правінцыі ёсць такія забабонныя і адсталыя людзі.

Тут давялося мне сказаць:

— Вы пазбаўлены пачуцця гумару, мадам!

— Дзіна Звулаўна, вы цяпер яшчэ працуеце? — спытаў я.

— У яўрэйскай абшчыне бібліятэкарка. Дарэчы, я арганізавала курсы па вывучэнні мовы ідзіш. Прыходзьце і вы да нас на заняткі.

— Цяпер мадней вывучаць іўрыт.

— Гм,— здзіўлена паглядзела на мяне Дзіна Звулаўна.— Ізі пісаў на ідзіш, а я буду вывучаць іўрыт?!

Так закончылася гэтая невялікая, але цікавая, непаўторная гутарка з Дзінай Звулаўнай Харык.

## ДАРАГІ ПАКЛОН

У Камарове, што пад Ленінградам, перакладчык мастацкай літаратуры Арсеній Астроўскі расказаў мне пра дзве сустрэчы з Осіпам Мандэльштамам:

— Першы раз я сустрэўся з паэтам у 1924 годзе, калі ён прыехаў з Кіева ў Ленінград. Мой прыяцель пазваніў мне і сказаў, што мяне хоча бачыць Осіп Мандэльштам. Я спытаў: для чаго? «Ён сам табе скажа»,— быў адказ. Сустрэліся. Прыяцель пачаў гаварыць, што я паклоннік Мандэльштама, ведаю ўсе яго кнігі. «Ну добра,— перапыніў я прыяцеля і звярнуўся да Мандэльштама: — Што вы хацелі мне сказаць?»

— Пазычце мне дзвесце рублёў. Я тут з сям'ёй, і мне трэба ехаць у Маскву. Ваш сябра гарантуе, што я вярну пазыку.

— Для мяне найлепшы гарант — гэта сам Осіп Мандэльштам. Даў я яму дзвесце рублёў. У тым самым годзе зноў сустрэў Мандэльштама ў Ленінградзе. Ён прайшоў міма, але даў зразумець, што пазнаў мяне.

— А грошы вярнуў? — пацікавіўся я.

— Не, толькі нізка пакланіўся.

## УСЕМАГУТНЫЯ ПІСЬМЕННІКІ

Было гэта на пачатку шасцідзесятых гадоў. Група малдаўскіх пісьменнікаў паехала на сустрэчу з чытачамі ў вёску. Як водзіцца ў такіх выпадках, хто чытаў вершы, хто расказваў пра сваю творчую працу, а хто адказваў на пытанні. Калі пытанняў больш не стала, празаік Якоб Куткавецкі ўстаў, каб сказаць заключнае слова. І раптам у зале паднялася бабулька і папракнула пісьменнікаў: «Вось вы чытаеце тут вершы, а ў нашым магазіне селядцоў няма».

Куткавецкі, чалавек з гумарам, не палез па слова ў кішэню. «Як гэта так, каб у сельмагу не было селядцоў? — здзівіўся ён і абурана паглядзеў на пісьменнікаў.— Хто ў нас міністр гандлю?» «Бяляеў»,— адказалі яму. «Трэба зняць яго!» — загадным голасам сказаў Куткавецкі і заверыў бабулю, што яны, пісьменнікі, усё зробяць, каб навесці парадак у гэтай справе. Па чыстай выпадковасці назаўтра ў рэспубліканскіх газетах быў апублікаваны ўказ аб зняцці Бяляева з пасады і прызначэнні новага міністра гандлю. У той вёсцы людзі былі здзіўлены: «Бачыце, каму мы толькі не пісалі, каму не скардзіліся, і ўсё без выніку, а варта было сказаць пра гэта пісьменнікам і адразу ўсё вырашылася». Пайшла чутка і па іншых вёсках, што пісьменнікі здымаюць міністраў.

А тым часам Якоб Куткавецкі са сваімі калегамі вярнуўся ў Кішынёў. Праз некалькі тыдняў ён раптам бачыць, што каля яго дома спынілася група сялян, а ў аднаго з іх на плячах баранчык. «Ці тут пісьменнікі жывуць?» — пытаюць яны. «Тут, а што такое?» — пацікавіўся Куткавецкі і пачуў у адказ: «Дзякуй, што знялі міністра гандлю, але мы просім яшчэ зняць міністра сельскай гаспадаркі».

...Пра гэтую паездку пісьменнікаў на вёску мне напісаў празаік Міхаіл Чыбатару, а канцоўку дасказаў нехта з малдаўскіх паэтаў.

## НЯЎРЫМСЛІВЫ БЕСО

Грузінскага крытыка Бесо Жгенці пісьменнікі паміж сабой называлі «няўрымслівы», па аналогіі з Вісарыёнам Бялінскім. Мне давялося аднойчы чуць яго прамову ў Мінску, сорак хвілін ён гаварыў без паперкі, больш чым дакладчык, і вельмі тэмпераментна. Аднойчы вярнуўся з нарады крытыкаў, што адбылася ў Маскве, Віктар Каваленка і расказаў, як там у сваім выступленні Жгенці рэзка раскрытыкаваў вядомага грузінскага пісьменніка. Тады ўстаў нехта з залы і запытаў:

— Бесо, а вы не баіцеся таго, што калі прыедзеце ў Тбілісі, то на вакзале вас сустрэнуць раз'юшаныя сябры гэтага пісьменніка?

— А мяне яго праціўнікі сустрэнуць яшчэ за тры станцыі да Тбілісі,— знайшоўся Бесо.

## ШТО ТАКОЕ «Ў НІКУДЫ»

У доме творчасці «Іслач» сабраліся перакладчыкі беларускай літаратуры. Мы сядзелі групай і прыдумвалі вечар гумару. Грузінскі паэт Нугзар Каберыдзе прыгадаў:

— Іду я з сынам па вуліцы. А насустрач нясуць нябожчыка.
— Куды яго нясуць? — пытае сын.
— У нікуды.
— Як гэта — у нікуды?
— Дзе няма нічога.
— Значыць, да нас,— з сумам заключыў хлопчык.

## ПАДВЕЎ ТВАР

У Міколы Гамолкі нават і ў семдзесят гадоў быў надзіва юначы твар, ён бы не пасаваў да яго высокай постаці. А ўявіце сабе гэты твар, скажам, у трыццаць гадоў. Хлапечы, дый годзе! І вось калі пісьменніку было пад трыццаць, то працаваў ён у пасляваенным Мінску ў Доме друку. А побач тады стаяў драўляны будынак, у якім месціўся хлебны магазін. Прыйшоў аднойчы сюды Гамолка і стаў у вялікую чаргу, якая ішла ўздоўж прылаўкаў літарай «Г». І калі ён, малады, высокі, апынуўся ў самым кутку ўмоўнай літары і выцягнуў галаву над чаргой, каб убачыць, ці далёка яшчэ да прадаўшчыцы, тая запатрабавала:

— Хлопчык, а ну злезь з прылаўка!

## «...І ЎЖО РАЗМАЎЛЯЕ»

У нататцы пра мастацтвазнаўцу і літаратуразнаўцу Антона Антонавіча Уса, змешчанай у пяцітомнай «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі», названы ўсе прэстыжныя ўстановы ў Маскве і Мінску, дзе ён працаваў, высокія пасады, толькі не ўспомнены правінцыйны, ці як яшчэ нядаўна казалі, перыферыйны Брэсцкі педінстытут, дзе чытаў лекцыі Антон Антонавіч. Пра гэты час сказана сціпла: «У 1949—1956 — на выкладчыцкай рабоце». Атрымалася як у таго чэхаўскага Ванькі Жукава, які адрасаваў свой ліст «на вёску дзядулю». Я цяпер разумею, чаму прапаў у біяграфічнай даведцы Брэст. Бо толькі яго назаві, як у чытача ўзнікне пытанне: працаваў А. А. Ус у сталіцах на высокіх пасадах і раптам — у Брэсце?! Ці не высылка гэта? Так, своеасаблівая высылка, у свой час ён працаваў нават ў ЦК Камуністычнай партыі Беларусі, а ў час маёй вучобы ў Брэсцкім педінстытуце быў ужо беспартыйны. Мы з задавальненнем прыходзілі на яго лекцыі па рускай літаратуры дзевятнаццатага і пачатку дваццатага стагоддзя, а таксама па мастацтве. Чалавек энцыклапедычных ведаў, высокай духоўнай культуры, ён быў у перапісцы з Якубам Коласам (не магу ўстрымацца, каб не сказаць, што ўсе лісты Якуба Коласа паводле просьбы Антона Антонавіча я перадаў у свой час у Літаратурны музей народнага песняра). Антон Антонавіч звычайна напрыканцы лекцыі любіў з намі пажартаваць, нават дазваляў задаваць яму пытанні на адвольныя тэмы. На адной з лекцый мы і спыталі, ці ёсць у яго дзеці.

— Ёсць сын, маю ўнука, во такі во,— Антон Антонавіч паказаў рукой, што ўнук яму ростам па грудзі,— і ўжо размаўляе.

Мы доўга смяяліся.

## РЭПЛІКА ІВАНА ШАМЯКІНА

На старонках газеты «Літаратура і мастацтва» ішла дыскусія пра беларускі раман. З артыкулам у ёй выступіў і Барыс Бур'ян, у якім ён параўноўваў фразеалогію, стылістыку раманаў Івана Шамякіна і рамана Льва Талстога «Ганна Карэніна». Ясна, што Шамякін апынуўся тут у пройгрышы. Тады на адным са сходаў пісьменнік і сказаў:

— Барыс Бур'ян імкнецца даказаць, што Іван Шамякін не Леў Талстой. Дык я і сам ведаю, што я не Талстой.

## ПРАДБАЧЛІВЫЯ ЖАРТАЎНІКІ

У часе вучобы Адама Мальдзіса ва ўніверсітэце яго аднакурснікі напісалі і павесілі такую аб'яву: «Хто знайшоў 15-ы том збору твораў Адама Мальдзіса, просьба вярнуць у бібліятэку».

Прачытала аб'яву адна студэнтка і падумала: Адама Міцкевіча я ведаю, а Мальдзіса, які напісаў пятнаццаць тамоў, зусім не чытала. Пайшла ў бібліятэку. Супрацоўнікі праверылі па картатэцы і сказалі, што ёсць працы Мальтуса, і то яны ў спецфондзе, а кніг Мальдзіса няма ні там, ні ў самой бібліятэцы.

Не ведала студэнтка, што сюды трэба прыйсці праз гадоў сорак, калі ў Адама Мальдзіса сапраўды будзе выдадзена пятнаццаць кніжак.

## НЯЎДАЛАЯ РЫФМА

Былы партыйны работнік Аляксандр Ульяновіч успамінаў, як ён, будучы сакратаром Баранавіцкага абкома камсамола, паехаў разам з пісьменнікам Раманам Сабаленкам, які тады працаваў у мясцовай газеце, у калгас на вечар. У час выступлення Раман Карпавіч прачытаў гумарыстычны верш, у якім былі словы:

Як далі гарманісту першака —
зайграў ён заўзята гапака.

Ульяновіч сказаў яму:

— Як жа ты так, пішаш пра пяршак, самагонка ж забаронена.

— Я і сам думаў пра гэта,— адказаў паэт.— Але гарэлка тут ніяк не рыфмуецца, спрабаваў гарэлку замяніць каньяком — таксама не рыфмуецца.

## ХТО КАМУ?

Сустрэліся некалі, у маладыя гады, Віктар Каваленка і Мікола Луфераў. Мікола кажа, што нешта адчувае сябе дрэнна, прастуджаны, няважны настрой, яно не шкодзіла б узяць па чарачцы. Віктар адказвае, што ён згодны, але, на жаль, зараз у яго няма грошай.

— Дык я табе пазычу,— устрапянуўся Мікола.

## АДЗІН Я

Сядзелі ў кампаніі Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў і Андрэй Ягоравіч Макаёнак. Іван Гаўрылавіч прапаноўвае Андрэю Ягоравічу:

— Давай выйдзем, пагаворым.

У калідоры Іван Гаўрылавіч і кажа:

— Калі добра падумаць, то тут з сапраўдных пісьменнікаў сядзяць усяго двое.

— Першы я, гэта ясна. А хто другі? — запытаў Андрэй Ягоравіч.

Іван Гаўрылавіч прамаўчаў, відаць, ён не захацеў быць другім.

Прайшло некалькі год. Іван Чыгрынаў вярнуўся з Грузіі, з вялікай пісьменніцкай нарады.

— Ці багата там вас з'ехалася? — спытаў я ў яго.

— Чалавек дзвесце,— быў адказ.

Да гаворкі далучыўся Генадзь Бураўкін:

— А з сапраўдных пісьменнікаў хто быў?
— Адзін я,— упэўнена адказаў Іван Гаўрылавіч.

## ХТО ТОЙ ВАСІЛЕЎСКІ?

Аднойчы прыходзіць Пятру Васілеўскаму паведамленне атрымаць ганарар. Пайшоў на пошту, атрымаў грошы, як выявілася, з крымскай газеты за верш. Здзівіўся, чаму за верш, калі ён драматург? Неўзабаве на яго імя прыйшоў ліст ад жанчыны, якая дакарала Пятра, што той забыў на яе, хоць у Нактэбелі вельмі кахаў, абяцаў прыехаць, а не едзе, і што яна ўсё яшчэ чакае яго. Пятро Савельевіч паказаў ліст жонцы, пісьменніцы Галіне Васілеўскай. Тая таксама здзівілася, тым больш, што яны даўно не былі ў Крыме, а ездзілі апошнія гады толькі на Каўказ, у дом творчасці, што ў Піцундзе. Але на гэтым гісторыя не скончылася. Праз нейкі час Галіна Ануфрыеўна паехала на літаратурныя выступленні ў Бабруйск. Пасля адной з сустрэч з чытачамі да яе падышла маладжавая жанчына і спытала, ці ведае яна Пятра Васілеўскага.

— Ведаю. Гэта мой муж,— адказала пісьменніца.

— Які муж! — здзівілася жанчына.— Калі мы адпачывалі з ім у Крыме, то ён быў халасты і вершы мне прысвячаў.

— Мы з ім больш як трыццаць год жанатыя, маем сыноў. І Васілеўскі не паэт, а драматург, п'есы піша.

— Не можа такога быць, каб вы больш за трыццаць год жанатыя, яму ж яшчэ пяцідзесяці няма.

Каб збіць апантанасць жанчыны, Галіна Ануфрыеўна зайшла з ёй у бібліятэку, што была пры клубе, і паказала пісьменніцкі даведнік, дзе змешчана фатаграфія Пятра Васілеўскага.

— Не, мой маладзейшы і прыгажэйшы,— сцвердзіла жанчына і тут жа дадала: — Гэта картку падмянілі.

Так жанчыны і разышліся, кожная пры сваёй думцы. Пазней мне падказалі, хто з пісьменнікаў «іграў» пад Васілеўскага. Не ведаю дакладна, ці расказаў ён Васілеўскаму пра свае гульні з яго прозвішчам, але чутка ходзіць такая, што нібыта на абурэнне драматурга псеўда-Васілеўскі аджартаваўся: «Ты атрымаў ганарар, табе прызналася ў каханні маладая прыгожая жанчына. Чаго ты ад мяне яшчэ хочаш?»

## ЯК ПАЭТ ПРАВІЎ ПАЭТА

Анатоль Сербантовіч напісаў верш пра Галілея, у якім было сказана, што вялікага вучонага спалілі на кастры. Але паэт, відаць, не зазірнуў, як кажуць, у святцы, не праверыў дакладнасць падзей, што стаяць за гэтым прозвішчам. Тады другі паэт, Кастусь Кірэенка, вырашыў паправіць маладзейшага калегу і ў сваім вершы ўдакладніў, што спалілі на кастры Каперніка. Неўзабаве з'явіліся вусныя эпіграмы Івана Пташнікава і Анатоля Клышкі, у якіх, нарэшце, сцвярджалася, што спалілі на кастры не Галілея і не Каперніка, а Джардана Бруна. Друкаваную папраўку зрабіла «Литературная газета».

## «ШТО Я БУДУ РАБІЦЬ ЗАЎТРА?»

Кінадраматург і рэжысёр Аляксандр Гутковіч ставіў фільм па

рамане Івана Пташнікава «Алімпіяда». Грошай на фільм было выдзелена мала, здымкі ішлі пераважна ў павільёне, таму рэжысёр шукаў любы выпадак, каб наблізіць працу над фільмам да натуры. Аднойчы ўвечары прыходзіць Гутковіч у пакой да артыстаў і радасна ставіць на стол літровік самагонкі:

— Гляньце, што я дастаў! Заўтра паводле сцэнарыя вам трэба будзе браць па чарачцы. Гэта будзе выглядаць вельмі натуральна.

Паставіў літровік на стол, а сам выйшаў. Акцёры крыху пакаштавалі таго пітва, яно ім спадабалася, а тады ўзялі ды асушылі літровік да дна. К гэтаму часу вярнуўся рэжысёр, убачыў пусты слоік і ў роспачы вымавіў:

— Божа! Што я буду з вамі рабіць заўтра?!

## БАБУЛЬЧЫНА ЗДЗІЎЛЕННЕ

Ідзе чарговае штогодняе літаратурнае свята на радзіме Якуба Коласа. Першы прамоўца зачытвае вядомыя радкі паэта:

Мой родны кут, як ты мне мілы!..
Забыць цябе не маю сілы!

Гэтыя самыя радкі цытуе другі прамоўца, трэці, чацвёрты... Бабуля слухае іх і прамаўляе:

— Гэта ж трэба, выходзіць, што Колас напісаў усяго адзін вершык, а як багата людзей тут назбіралася.

## АДНАЛЮБ АДАМЧЫК

У бібліятэку Саюза пісьменнікаў прыйшла працаваць Ніна Уладзіміраўна — жонка Вячаслава Адамчыка. Аднойчы я ўбачыў, што яна размаўляе з сынам.

— Гэта старэйшы ці малодшы прыходзіў? — пацікавіўся я.

— Малодшы, любімы сын Адамчыка.

— Як гэта толькі ён любімы?

— А так. Калі мы пажаніліся і дзяцей яшчэ не было, то Чэсь глядзеў толькі на мяне, а як нарадзіўся першы сын — уся бацькава ўвага перайшла яму. Я тады сказала, што трэба нарадзіць яшчэ аднаго сына. Адамчык запярэчыў: «Хіба можна любіць адразу дваіх?» І ўсё ж я нарадзіла другога. Дык цяпер уся бацькава ўвага і любоў звернута да меншага.

Праз нейкі час я пытаюся ў Ніны Уладзіміраўны:

— Ну як там Адамчык, па-ранейшаму любіць толькі малодшага сына?

— Не, цяпер ён любіць толькі ўнука,— быў адказ.

## АБАЗНАЛІСЯ

Дні літаратур народаў СССР на Беларусі. Дэлегацыі раз'ехаліся па раёнах для сустрэч з чытачамі. Паколькі ў Нясвіжы працавала група армян, вырашылі накіраваць туды армянскага пісьменніка, пра гэта загадзя паведамілі ў райком партыі. Але, на жаль, госць прыхварэў і застаўся ў гасцініцы. Туды паехалі рускі паэт Віктар Бокаў, і наш Пятрусь Макаль. У Нясвіжы не ведалі, што адбыліся змены ў складзе дэлегацыі.

І вось сустрэча ў Нясвіжы. Пятрусь Макаль стаў у другім радзе,

каб наперад вылучыць гасцей. Але сакратар райкома партыі мінае Віктара Бокава, старэйшага брата, і звяртаецца да Макаля:

— Дарагі армянскі друг! Мы вельмі рады вітаць вас на нясвіжскай зямлі, дзе працуюць вашы землякі, працуюць натхнёна і плённа, мацуючы дружбу народаў...

Увесь час звяртаючыся толькі да Макаля, сакратар райкома ў канцы прамовы дадала:

— А цяпер выступіць армянскі рабочы. Я думаю, вам прыемна будзе пачуць родную армянскую мову.

Макаль спачатку збянтэжыўся, але зміркаваўся з гэтай роллю, а калі рабочы пачаў чытаць верш Сільвы Капуцікян па-армянску, то стаў нават ківаць галавой. А тут яму як армянскаму паэту даюць слова. Тады Пятро Міхайлавіч і прызнаўся:

— Я не армянскі пісьменнік, а беларускі паэт Пятрусь Макаль.

## КІМ ЁН БЫЎ, КІМ ЁН СТАЎ

Выхаванец Мікашэвіцкага дзіцячага дома, тады паэт-пачатковец Уладзіслаў Нядзведскі, паступіў у Беларускі ўніверсітэт. Лекцыю па ваеннай справе прыйшоў чытаць генерал. Уступнае слова яго было такое:

— Ну вось, кім я быў да Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі? Дурань дурнем, пасвіў кароў. Пра што гэта гаворыць?

— Што ў наш час кожны дурань можа стаць генералам,— адказаў Нядзведскі.

## РОЗЫГРЫШ

Валодзя Караткевіч расказаў мне, як ён з сябрамі аднойчы разыграў Алеся Мажэйку. Паколькі Алесь спецыяліст па славацкай і чэшскай літаратурах, то хлопцы перадалі праз яго жонку, каб той прыйшоў да пражскага цягніка сустрэць чэхаў, якія быццам бы прыязджаюць у Мінск, і дадалі, што пажадана, каб ён узяў з сабой бутэльку шампанскага. Жонка пацікавілася, хто гэта звоніць. Адказалі, што з Беларускага таварыства дружбы, прозвішча прыдумалі — Бублікаў. Пасля шкада стала Алеся і вырашылі даць адбой. Але жонка сказала, што ён узяў шампанскае і пайшоў на вакзал. Ніякія чэхі не прыехалі, аднак на пероне ён пачуў чэшскую мову, пазнаёміўся з чэхамі, якія ад'язджалі, і выпіў з імі тое шампанскае. У добрым настроі яны падарылі Алесю камплект альбомаў, і самае дзіўнае, што на падпісаным альбоме стаяў аўтограф мэра аднаго з гарадоў Чэхаславакіі, прозвішча якога Бублік.

## ЯК ПРАВІНІЎСЯ ПУШКІН

Ад Анатоля Вярцінскага як былога «лімаўца» і рэдактара «ЛіМа» я чуў неаднойчы такую сур'ёзна-кур'ёзную гісторыю... Летам 1972 года ён з Петрусём Макалём былі запрошаны на Пушкінскія ўрачыстасці, што праходзілі ў Болдзіне.

Па дарозе на свята, расказвае ён, мы пераклалі па адным вершы Пушкіна — з тым, каб потым прачытаць свае пераклады. Я пераклаў «Вакхічную песню», а Макаль — санет «Паэту». Пераклады нам вельмі спатрэбіліся — удзельнікі свята з цікавасцю слухалі вядомыя радкі ў перакладзе на іншую славянскую мову. Вярнуў-

шыся дадому, я напісаў нататкі для «ЛіМа» — «У Пушкіна». Да іх мы з Макалём дадалі і свае пераклады. Тагачасны рэдактар Леанід Прокша ухваліў і тое, і другое, матэрыял ішоў у нумар і ўжо стаяў на паласе. І раптам — званок. Леанід Януаравіч выбачальным голасам паведамляе, што нататкі, маўляў, пойдуць, а вось што да перакладаў... Аказваецца, якраз к гэтаму часу прыспела антыалкагольная пастанова (тая, першая!). Трэба пачынаць барацьбу... А мы разам з Пушкіным спяваем натхнёна гімн вясёламу богу Вакху...

Падымем і зрушым бакал да бакала!
Каб розум свяціўся, каб муза натхняла!..

Зляцеў з паласы і пераклад Макаля. Па такой самай прычыне: з'явілася пастанова аб узмацненні ролі літаратурна-мастацкай крытыкі, дзе падкрэслівалася, што інтэлігенцыя павінна служыць народу. А тут: «Паэт! не даражы пашанаю народнай».

Зноў неспадзяванка. І для рэдакцыі, і для нас. «Быў час, быў век, была эпоха...»

Але ж былі і пільныя рэдактары.

## ЯК ЗАРАБІЦЬ ГРОШЫ

Міхась Чавускі расказваў, як у маладыя гады ён прыехаў у родную вёску і пахваліўся бацьку, што апублікаваў вялікі артыкул у газеце «Звязда». Бацька адразу пацікавіўся, колькі за гэта далі сыну грошай. Аказалася, сума на той час атрымана была прыстойная. Тады бацька здзівіўся:

— Дык чаму табе не рабіць гэта кожны дзень?

## ШТО ЯШЧЭ МОЖНА ЎЗЯЦЬ

Казімір Камейша расказваў мне, як напярэдадні свята Перамогі сустрэліся два паэты, два ветэраны вайны Антон Бялевіч і Пятро Прыходзька. Антон Бялевіч стаў успамінаць пра свае партызанскія паходы на Віцебшчыне, але Пятро Фёдаравіч вырашыў спляжыць свайго сябра напавал. З гонарам ён сказаў:

— А я браў Сандамірскі плацдарм і Берлін браў.

— Калі ты большы герой, нават Берлін браў, то ты вазьмі і бутэльку гарэлкі,— знайшоўся заядлы палеміст Антон Бялевіч.

## ПЕРАКЛАДЧЫЦКІ ПЕРЛ

На адной з нарад у Саюзе пісьменнікаў абмяркоўвалі перакладчыцкія справы. Зайшла размова пра тое, з якой мовы лягчэй перакладаць: блізкароднаснай ці няроднаснай. Дарэчы, спрэчка гэтая вядзецца і да гэтай пары. Літаратары ў сваіх выступленнях звярталі ўвагу на казусы, у якія трапляюць перакладчыкі з блізкіх моў, у прыватнасці, з беларускай на рускую. Нехта сказаў, што нядаўна адкрыты ў Мінску рэстаран назвалі «Журавінка». А гэтым пяшчотным словам можна прыгалубіць і дзяўчыну: «Ты мая журавінка!» Але пабачыце, што атрымаеце, калі вы паспрабуеце прыгалубіць дзяўчыну гэтымі самымі словамі літаральна перакладзенымі па-руску: «Ты моя клюквинка!» Здаецца, літаратуразнавец Сцяпан Александровіч, які пазней у «Сказе пра Лысую гару» вобразна будзе названы кратом за сваю карпатлівую

архіўна-пошукавую працу, спыніў увагу на перакладзе рамана Кузьмы Чорнага «Трэцяе пакаленне», у прыватнасці, на сказ «У канюшыне стракаталі конікі», які на рускай мове загучаў так: «В конюшне ржали лошадки».

Застаецца назваць толькі прозвішча аўтара гэтага перла — М. Шамбадал. А хутчэй за ўсё ён сваю бездапаможнасць схаваў за псеўданімам, даволі ўдалым, бо сапраўды, у перакладзе нашамбадалена.

## НЕ ТОЙ ДУХ

Цяпер некаторыя пісьменнікі, дый не толькі пісьменнікі, любяць маляваць прывабна свой аўтапартрэт, паказваць сябе як мучанікаў мінулага, хоць у тыя часы яны мелі і добрыя пасады, і кватэры, і яшчэ тое-сёе.

Серафім Андраюк сціпла маўчыць пра гісторыю з выданнем яго манаграфіі «Жыццё. Літаратура. Героі». Кніга выйшла ў 1973 годзе, але рукапіс яе быў здадзены ў выдавецтва «Беларусь» прыкладна за гадоў шэсць да выхаду. На той час я працаваў у Камітэце па друку (ён называўся дзяржаўны, нібыта тады маглі быць камітэты прыватныя), а з Саюза пісьменнікаў за подпісам Івана Мележа прыйшоў ліст, у якім гаварылася, што выпуск кнігі С. Андраюка затрыманы выдавецтвам «Беларусь» у другой карэктуры і Саюз пісьменнікаў хадайнічае аб яе выданні. Да ліста быў дададзены пратакол пасяджэння секцыі крытыкі, дзе канстатавалася, што ўсе выступоўцы, за выключэннем прадстаўніка выдавецтва, выказаліся за выданне гэтай працы. Кіраўніцтва камітэта даручыла мне азнаёміцца з ёю і выказаць сваю думку. Праца крытыка пакінула добрае ўражанне, і ў мяне з'явіліся не скажу што заўвагі, а хутчэй кампрамісныя прапановы, якія тычыліся канкрэтных імёнаў пісьменнікаў з тым, каб выратаваць выданне, бо я адчуваў, адкуль разгарэўся сыр-бор і ў якім выпадку выпуск кнігі не можа адбыцца. Неўзабаве намесніка старшыні камітэта Анатоля Фаміча Барушку і мяне выклікалі ў ЦК партыі да Уладзіміра Гніламёдава, які займаўся там пытаннямі мастацкай літаратуры. Едучы ў машыне, Анатоль Фаміч пацікавіўся наконт маёй думкі пра выданне кнігі Андраюка. Я адказаў, што стаю за яе выпуск. Анатоль Фаміч дадаў, што яго пазіцыя такая самая. У кабінеце Уладзіміра Гніламёдава ўжо сядзелі аўтар Серафім Андраюк і загадчык рэдакцыі мастацкай літаратуры выдавецтва Хведар Жычка. Выступіў аўтар манаграфіі, затым я, потым Барушка. Здавалася, усё ідзе добра. Валодзя ўжо выказаў думку, што трэба будзе гэтую гаворку аформіць пісьмова і далажыць вывады кіраўніцтву ЦК. Але раптам Жычка, які ўвесь час наглядаў за намі, сказаў адну фразу, якая зрабіла ўражанне выбуху бомбы:

— А ўчора дырэктар выдавецтва быў у сакратара ЦК таварыша Пілатовіча, і яны вырашылі кнігу не выдаваць.

— Чаму не выдаваць? — здзівіўся Гніламёдаў.

— Дух не наш,— растлумачыў Жычка, і ў яго іранічным паглядзе вачэй зайграла здзіўленне: няўжо дагэтуль вы яшчэ не ўсвядомілі, што Савецкую ўладу ўвасабляюць сакратар ЦК, дырэктар выдавецтва і ён — Хведар Жычка.

— Так-так, дух не той, дух не той,— спахапіўся Барушка і пачаў паляпваць Андраюка па плячы, нібыта ён даўно яго ведае і яны, маўляў, адзін аднаго разумеюць.

— Дык для чаго ж мы тут збіраліся? — вырвалася ў Валодзі

Гніламёдава, але тут жа ён знайшоўся і абвясціў: — Пасяджэнне пераносіцца!

Цяпер я разумею: нас проста хацелі падставіць як пешак, зрабіць вінаватымі ў гэтай гульні. Ды яшчэ: мы праходзілі своеасаблівую школу, паводле якой, як выявілася, эстэтычны густ неабавязковы, галоўнае — валодаць нюхам, адчуваць, чым дыхаюць там, наверсе, і тады даволі проста вызначаецца гэты самы дух кніжкі.

Што да выхаду манаграфіі, дык Андраюк вырашыў праблему так: праз Інстытут літаратуры, дзе працаваў тады, ён уключыў рукапіс у план выпуску выдавецтва «Навука і тэхніка». Зразумела, з Інстытута літаратуры быў званок у ЦК, але і на гэты раз Гніламёдаў сказаў: «Можна выдаваць».

## ХТО ЯК ПІША

На адной з творчых сустрэч, прадстаўляючы Валодзю Гніламёдава, я сказаў:

— Гэта наш добры крытык.

— Пішу я не так ужо і добра,— пракаменціраваў Валодзя і пасля паўзы дадаў: — Але пакуль што не бачу, каб хто пісаў лепш.

## АЎТОГРАФ МІХАСЯ СТРАЛЬЦОВА

Міхась Стральцоў марыў купіць у вёсцы хату. Чалавек засумаваў па вясковай працы, па прыродзе, па зямлі, па людзях, якія яе абрабляюць. Аднойчы ён падахвоціўся да мяне на так званую дачу, што стаіць на ўсхіле знакамітай, так цудоўна апісанай у паэме Лысай гары. Там ён з нейкім захапленнем, як згаладнелы па працы на агародзе, пачаў ускопваць градку — узяў самую вялікую і запушчаную. Потым, седзячы за абедам, ён убачыў на суседнім століку сваю кнігу «Мой свеце ясны», якая толькі што выйшла. Нічога не прамовіў на гэта, а пачаў гаварыць пра Рыгора Барадуліна, паэзію якога вельмі любіў, затым пайшла гаворка пра творы іншых пісьменнікаў. Напаследак ён сказаў, што на Лысай гары таксама можна жыць і папрасіў, калі я дачуюся, што нехта тут прадае дачу, то каб перадаў яму пра гэта. Затым узяў сваю кнігу ў рукі і сказаў, што хоча напісаць вершаваны аўтограф. Я нешта адказаў у падтрымку гэтай задумкі, на што ад яго пачуў «Пачакай, пачакай...». Відаць, у яго нейкія радкі ўжо ўсплылі, толькі яшчэ нечага не хапала. Праз колькі хвілін ён напісаў на тытульным лісце:

**Аляксею Гардзіцкаму:**

З прыродай гэтаю у згодзе,
Я Лысагор'ю б'ю чалом.
Кажу пры гэтакай нагодзе:
Папрацаваўшы ў агародзе,
Давай шчэ норму за сталом.

*М. Стральцоў*

## ЯКІ ВЫГЛЯД У ПІСЬМЕННІКАЎ...

Алесь Ставер павёз на сваёй машыне групу пісьменнікаў у Лідскі раён. Надвячоркам прыехалі ў вясковы клуб. Заўсёды акуратны, у капелюшы, Ставер і тут праявіў прадбачлівасць у працы: праводзіў калег у клуб, а сам, пакуль не сцямнела, вярнуўся да машыны, каб

агледзець яе, нешта падкруціў у маторы, падмёў у салоне, выцер чыстым ручніком рукі, а тады накіраваўся ў клуб. Убаку спыніліся дзве жанчыны. Адна з іх кажа:

— Ты бачыш, які культурны ў пісьменнікаў шафёр — і пры капелюшы. А ты ўяўляеш, як жа тады выглядаюць самі пісьменнікі!

## АЛЕСЬ СТАВЕР ПРА СЯБЕ

— Я — Аляксандр Сяргеевіч, як Пушкін, не дачуваю, як Бетховен, і кульгаю, як Байран.

## ЯК ЯНО ЛЕПШ

Алесь Пісьмянкоў прыйшоў у платную паліклініку, каб вырваць зуб. Доктар кажа:

— Ну што я вам буду рваць адзін зуб, дванаццаць рублёў гэта каштуе, ды наркоз дваццаць. Вунь я бачу яшчэ два суседнія псуюцца, давайце адразу тры і вырвем: і мы выгадаем, і вы сэканоміце на наркозе, усяго адзін раз уколем.

Алесь папрасіўся выйсці пакурыць і тут жа даў дзёру. На рабоце ён нам тлумачыў:

— Лепш буду з адным хворым зубам хадзіць, чым адразу без трох.

P. S. Калі падборка гэтых мініяцюр упершыню прагучала па радыё, то я па наіўнасці чакаў, што нехта, можа, мне пазвоніць, павіншуе з дэбютам. Тэлефон маўчаў. Затое назаўтра, калі я прыйшоў на работу, Пісьмянкоў расказаў:

— Ты ведаеш, учора, можа, пяць званкоў было, усе пыталіся, што з маім зубам.

## ЯК СТАЦЬ КЛАСІКАМ

Прыехаў з Беласточчыны беларускі паэт Ян Чыквін і распытвае ў нашага Георгія Марчука пра яго жыццё.

— Маю выклік у Кёльн,— пахваліўся Марчук.

Праз год Мінск наведаў дырэктар Ольштынскага выдавецтва з Польшчы. На такое самае пытанне Марчук з гонарам адказаў:

— Маю выклік у Кёльн.

А яшчэ праз год ужо непасрэдна мне Марчук паведаміў тое самае: «Маю выклік у Кёльн».

Чаму менавіта ў Кёльн?

* * *

Працуючы над даведнікам пра пісьменнікаў, я папрасіў Георгія Марчука вычытаць нататку аб ім. Ён хуценька вачыма прабег яе і падагульніў:

— Напісана правільна. Класічныя творы ўсе пералічаны, астатнія называць неабавязкова.

## ХТО ВІНАВАТЫ?

Вядома, што прыгранічная брэсцкая гаворка своеасаблівая, на ёй адчувальны ўплыў моў суседніх народаў. І вось аднойчы ўвечары, напрацаваўшыся на абласной тэлестудыі, паэт Мікола Пракаповіч прыйшоў дадому і папракнуў жонку:

— Чаму твае дзеці не гавораць па-беларуску?

— А чаму тва́е дзеці не гавораць па-беларуску? — пытаннем на пытанне адказала жонка.

## ІСТОТНАЯ ПАПРАЎКА

Праводзілі на пенсію акадэміка-сакратара аддзялення грамадскіх навук Беларускай Акадэміі Мікалая Васільевіча Бірылу. У сваім выступленні Іван Якаўлевіч Навуменка, тады віцэ-прэзідэнт Акадэміі, звярнуў увагу прысутных:

— Мы ніколі з ім не лаяліся.

Мікалай Васільевіч удакладніў:

— Гэта праўда, мы не лаяліся. Вы мяне лаялі.

## У КАГО ЗАХАВАНА ІСЦІНА

На гэты раз Рада Саюза пісьменнікаў прайшла даволі бурна і тэмпераментна. Пытанне было важнае: уваходзіць ці не ўваходзіць у Міжнародную супольнасць пісьменніцкіх саюзаў. Было выказана шмат цікавых, але часта супрацьлеглых думак, як кажуць, што ні галава — то розум. Сярод апошніх выступоўцаў быў і Леанід Дайнека, які сказаў:

— Я згодзен з думкай Барыса Сачанкі, згодзен і з думкай Івана Чыгрынава. Ну, а сваю думку я заўсёды паважаю.

## ЧЫЙ ПЛАЧ?

На наступнай пісьменніцкай Радзе ішла гаворка пра цяжкасці ўваходу ў рыначную сістэму. Аўтар шэрагу вядомых раманаў аб трагічных ваенных гадах, у тым ліку «Плачу перапёлкі», «Апраўдання крыві», Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў зрабіў вывад:

— Час непрадказальны, час трывожны, к канцу года мы прыйдзем з плачам.

— З «Плачам перапёлкі»? — выгукнуў нехта пад смех залы.

— Не дай бог! — усклікнуў Іван Гаўрылавіч.— Бо тады не будзе «Апраўдання крыві».

## ЯК ТРАПІЦЬ У ЧЛЕНЫ СП

Ішоў прыём у члены Саюза пісьменнікаў. Выступае Раіса Баравікова:

— Сёння мы абмяркоўваем творчасць Марыі Баравік. Я вось цяпер успамінаю, як мы з ёй некалі пазнаёміліся на семінары маладых літаратараў у Каралішчавічах. Па сутнасці, мы з ёй выраслі на адной палянцы, і я ўжо член Саюза пісьменнікаў, а яна не. Лічу, што яе трэба таксама прыняць.

— Дык вунь сядзіць яшчэ і чакае Баравы,— кінуў рэпліку хтосьці з пісьменнікаў.

— І яго варта прыняць. Як жа, на палянцы, ды без мужчыны,— жартаўліва дадаў другі.

## КАЛІ ТЫ МАЕШ АДНОЛЬКАВАЕ ПРОЗВІШЧА

Радыёстанцыя «Свабода» ў перадачы, прысвечанай Янку Купалу, паведаміла, што беларускага песняра пазнаёміў з адным літоўскім пісьменнікам Кастусь Цвірка. Ведаючы, што Кастусь прыйшоў у літаратуру ў пяцідзесятыя гады і не мог знацца з Янкам Купалам, некаторыя жартаўнікі сталі званіць паэту, віншаваць з тым, што ён сябраваў з самім класікам нашай літаратуры, яшчэ і дакараць, што не прызнаваўся ў гэтым, аж покуль заходняе радыё не расказала. Кастусь спачатку рабіў выгляд, што ганарыцца гэтым сяброўствам, якое знаўцы нарэшце адкрылі, але віншаванні не спыняліся. І тады не вытрываў:

— Дык гэта не я быў, то, мусіць, літоўскі паэт Пятрас Цвірка.

## ПАДВЯЛА БАРАДА

Выступалі з паэтам гумарыстам Пятром Сушко ў школе. Тады ён яшчэ быў даволі малады. У час сустрэчы выйшла так, што загаварылі пра дзядоў і ўнукаў, і Пятро вымушаны быў спытаць:

— Колькі год вы мне далі б?

— Семдзесят,— адказала дзяўчынка.

— Чаму ты так падумала?

— Барада ў вас старая.

## ЯК «ПАДЛАВІЛІ» ЯНКУ МАЎРА

Ішла сустрэча пісьменніка Янкі Маўра са сваімі юнымі чытачамі. Раптам адзін з іх устае і пытае:

— У «Палескіх рабінзонах» напісана, што два хлопчыкі трапілі на бязлюдны востраў і злавілі шпіёна. Калі гэты востраў бязлюдны, то дзе яны вяроўку знайшлі, каб звязаць таго шпіёна?

## ЯК НАРАДЖАЮЦЦА АНЕКДОТЫ

У часы Хрушчова, вялікага змагара за кукурузу, часта грамілі антыпартыйныя групы. Усе і не згадаеш. Але адна помніцца тым, што тут быў і «прымкнуўшы» Шэпілаў. Дык вось, у Саюзе пісьменнікаў ішоў партыйны сход па разгроме гэтай самай антыпартыйнай групы. Натуральна, што ўсе выступоўцы закляймілі яе, а на завяршэнне старшынствуючы Пятрусь Броўка звярнуўся да залы:

— Можа, у каго ёсць пытанні?

Падняў руку Янка Маўр, які любіў заўсёды ўнесці ў казёншчыну нешта сваё, гумаровае, і кажа:

— А гэтага лысага, што сеяў кукурузу, спаймалі ці не?

— Ціха, ціха,— замахаў на яго рукамі Броўка,— каго трэба, таго зловяць, і разбяруцца без нас.

...Не так даўно, у дзевяноста першым годзе, на расійскім тэлебачанні прайшла перадача аб анекдотах. З вуснаў Аркадзя Арканава гэты эпізод прагучаў як анекдот, больш сцісла, без упамінання названых мною прозвішчаў і месца дзеяння. Відаць, сатырыку нехта з беларускіх пісьменнікаў расказаў пра гэты сход.

Так і нараджаюцца анекдоты. Зрэшты, у пэўнай меры так нараджаліся і мініяцюры, жарты, якія я і прапанаваў тут.

## ВОЛЬГА ІПАТАВА



...І аптымістам трэба аптымізму.
Жыццё як кола — кожны дзень крутня.
То б'юцца абаронцы камунізму,
То б'е славянсаборская гайня

Ва ўсе званы трывогу аб тэй мове,
Якой азваўся гучна беларус...
У вёсачку! Жывіцаю смаловай
Там смачна пахне новай лазні брус.

Там азяро трапеча хусткай сіняй,
Не хочацца ні кніжак, ні газет...
Аднак трымціць трывогаю няспыннай
«А як з зямлёю будзе?» — наш сусед.

«Надзел бацькоўскі вернуць? Не, пустое!
Але купіць бы каліва далі.
Начальства? Ды яно заўжды на тое,
Каб жыць не даць нам добра на зямлі».

Аднак крычаць вясковыя кабеты:
«Скуль грошы браць, як ляснецца саўгас?
Каровы малаўдойныя? А гэта
Няхай турбуе старшыню — не нас».

Паціху масла робіцца раскошай.
Па спісах хлеб у краме — ты ж чужы.
На адпачынак — два абмены грошай.
З'язджаць ці заставацца — варажы.

«Ат, лясні ўсё!» Грызеш сухар замшэлы
І плешчашся русалкай у вадзе.
Трава і лес... Туман з лагчыны белы...
Яно — навек. Яно — не падвядзе.

## Хата

Быццам капэлу на ранішняй месе,
Стары настаўнік слухаў у лесе
Сосны, што販 станунь для Хаты бярвеннем.
Ладзіў сугучча — на пакаленні.

Мільгала сякера бляскам сталёвым.
Бегаў унучак белагаловы.

З сынам змывалі ў рэчцы знямогу.
Хату паставілі — на Перамогу.

Толькі Жыццё зажадала інакш:
Сын у калгасе гады пралайдачыў.

Сказаў перад смерцю: «Доля ліхая».
Унук у Сібіры нафту шукае.

...Кажаны аблятаді хату пустую.
Шапталіся людзі: «Нябожчык вартуе».

Бачылі пасмы туману над дахам.
Казалі: «Нябожчык слухае птахаў».

Ганак драўляны прарос крапівою.
Толькі бярвенне ў хаце — жывое!

І па жывому, па цёпламу плача.
...Хату купілі двое — пад дачу.

Едуць на лета з далёкага Мінску.
Кажуць, жыць перасталі па-свінску:
Зашыў ён пад скуру ампулу злую.
Яна — блінцы на сняданак ладкуе.

А побач — дарога. У святы ці будні
Заходзяць шаферы — тут смачная студня.

І, быццам лілея, сядзіць гараджанка.
І вецер пацІху калыша фіранкі...

## Зажынкі

Шкадавалі неграў у Амерыцы
І заводы слалі у Кітай.
А цяпер — не сілаю б памерацца,
А сказаць бы жаласнае: «Дай!»

Дай нам, бюргер з Ніжняе Саксоніі,
Фермер у Канзасе,—
быццам мы

Не ў сябе жывём, а над прадоннем,
Ці ў раёне вечнае зімы.

Спаралізавала рукі нашы?
Стаў каменнем жытні умалот.
...Старадаўні летапіс раскажа,
Што не тое зведаў наш народ.

І не раз, страсаючы чужынцаў,
Што, як цмокі, нашу кроў пілі,
Святкавалі светлыя зажынкі
Мы на гэтай боскае зямлі.

Скрозь дзірван здзічэння і бязглуздзіцы
Новае калоссе прарасце.
Залатой іконаю апусціцца
Першы сноп святочны у куце.

## Смерць

Сын ціха плакаў. Галасілі сёстры.
Муж думаў, як каханцы пазваніць.
А Парка выцірала ножык востры,
Што залатую абразае ніць.

Прырода раўнадушша не хавае:
«Сумленна абавязак свой раблю.
Штодзень старыя формы разбіваю,
І новыя штодзень усё ляплю».

## Жанчыны

Прыгожай была. Уладнай.
Нявестку лічыла няроўняй,
Клікала ў вочы «дзяроўняй»
І — дыхае вось на ладан.

І ладан той блізка-блізка...
Згушчаецца ноч — абвестка.
Жыцця закрыта валізка...
А побач — адна нявестка.

На смерць жа ёй варажыла,
Разводзіла з сынам зацята!
Без бацькі жыве дзіцятка,
Адзін аднаму чужыя —
Усе!
І хрыпіць тым часам:
«За што мне гэтулькі ліха?»
Нявестка гаворыць ціха:
«Памолімся лепей разам...»

«Маліцца няма патрэбы.
Ні ў чым я не вінавата!»
...Слухае стогны хата,
І стукае ў вокны дрэва.

Шапоча ледзь чутна лісце,
Аб тым, што віна не зжыта.
Не зараз пажнецца жыта,
Пасеянае калісьці...

## Вечар

Вогнішча пад небам распалілі,
Працягнулі рукі да агню...
Шаргаценне кажановых крылляў.
Шэлест маладога ячмяню.

Тут спяваў аб шчасці голас юны,
Віравала некалі жыццё...
А цяпер пустэча.
Быццам гуны
Зашпурнулі вёску ў небыццё.

Быльнягом праваслае каменне.
Яблыняў закінутых туга.
І трапечуць паабапал цені,
Быццам лёсаў нечых мітульга.

Памірае вёска, памірае...
...Не прызнаючы ані віны,
Аб былым камуністычным раі
Соладка спяваюць пеюны...

## Талент

Ноч ляжала бяззорнаю, цяжкаю кучмай
На вільготных хацінах, і спала зямля.
Бог ля Нёмна ішоў і пачуў, як нягучна
У Акінчыцах плача сабе немаўля.

Лесніковая хата. Чадзее газнічка.
Калаўрот. Залацістыя пасмы ільну.
І дзіця. І над лёсам — зіхоткая знічка,
І матуля прымружыла вочы ад сну.

І не бачыла, хто дакрануўся да сына.
Палыхнула святло. Адступіла імгла.
І хіснулася хата, нібыта віціна,
І адбіткам на Вечнасці ўдаль паплыла.

Навуковец пасля раскладзе, як па ГОСТу:
Напачатку эпоха, асоба — пасля.
Быў для генія Час... Адбывалася ж — проста:
Бог ля Нёмна ішоў і пачуў немаўля.

## Да дня 25 сакавіка

Веру я: крыніцаю праб'ецца
Праўда аб народзе і зямлі,
І у кожнае увойдуць сэрца
Нашы ваяры і каралі.

Нашыя прадвеснікі, святыя...
...Тыя, хто праз зло і недавер
Быццам горы перайшоў крутыя —
Абвясціў калісьці БНР...



Над краем змучаным вайна гула.
Але краёчкам сонечна ўставала
Падзея, што ўсе сэрцы сагравала:
Абвешчана Рэспубліка была.

Той сакавік ахутвала імгла
Тры чвэрткі веку! Турмамі — спецхраны.
Яшчэ дасюль смылеюць тыя раны...
Але Яна — абвешчана была!



Як ускрык, як боль тваё імя.
Сціснуся, перавяду дыханне.
Ёсць на свеце справы, акрамя
Адбалелага даўно кахання!

Што ж, нібы жаўна, душу дзяўбе:
Ў свеце, дзе і так не надта шчасця,
Мы ўмудрыліся з табой сябе
Так, як толькі можна, абакрасці?

Развялі дарогі убакі.
Пад святлом іду маладзіковым.
Позна! Лёсу іншыя шыўкі,
Ды у коней сцёртыя падковы.

Зорны шлях схіліўся над ілбом.
Нешта адказаў мне — ці здалося?
Падразае залатым сярпом
Жнівень дні мае, нібы калоссе...



Нібы пуховаю хусцінай
Вандроўніка сярод снягоў —
Ласкава абдымаю сына,
Дыханне слухаю яго.

Усмешка сонная мільгае...
Я ж стрымліваю роспач-крык:
Армейскі шлях цябе чакае,
Абстрыжаны мой прызыўнік!

Над гэтым тварам — светлым, мілым,
Бялявай пасмай валасоў
Другія гаспадараць сілы,
І лёс адточвае лязо.

Яшчэ бушуюць у Афгане
Сляпыя дэманы вайны.
Зямля, што могілкамі стане,
Чакае будучай труны.

...Той, даўні жах яшчэ са мною...
Ужо вярнуліся сыны,
Ды іх крывёю, як вадою,
Плаціць гатовы зноў яны —

Яны, каго на пакаянне
Вось-вось пакліча Божы суд,
Хто над народам ашуканым
Пакуль што гаспадарыць тут.

Мой краю, невыказна любы,
Край абеліскаў, курганоў —
Дакуль для войнаў і для згубы
Мы будзем гадаваць сыноў?

І ўсе нас ставіць на калені
Імкнуцца — зблізку і здаля.
...Сыноў адзіных пакаленне —
Вам будучыню дасць Зямля?



Чым болей хочаш быць шчаслівым,
Тым менш жыццё табе дае...
Чакай, скарыся, будзь цярплівым
І нечакана настае

У шэрані ці завірусе,
У мітульзе пустых гадоў
Хвіліна, што цябе прымусіць
Дагледжаны пакінуць дом,

Услед пайсці за бліскавіцай,
На ўсё забыцца, акрамя
Вады з бабулінай крыніцы
І — уласнага свайго імя...



Так каханне мне сэрца ірвала!
Так туманіў твой смех галаву!
Бы ключы ў акіяне — схавала.
І спакойна на свеце жыву.

Толькі недзе, нібы па-за часам,
Выступае з-за шэрай імжы:
Мы стаім, закаханыя, разам,
І няма паміж намі мяжы.

А за намі, над намі ў світанні,
Як з Сусвету прыйшоўшы, гало,
Залатым нас ахутаўшы зззяннем,
Над разлукай і злом узняло.

Пройдзеш міма... Парвецца дыханне...
Непакорліва ўспомню: было!
...Залатое высокае ззянне.
І бязмернага шчасця святло...



**АДОЛЬФ ВАРАНОВІЧ**

# ТАМ, ДЗЕ НАШЫ СЛЯДЫ

АПАВЯДАННЕ

## 1

Возера было неспакойнае. Далёка на глыбіні, дзе вада здавалася чорнай, успеньваліся хвалі і каціліся па водмелі, па святлейшай, зеленаватай вадзе да берага, засыпанага гурбамі белага пяску, над якімі ажно слаліся кусты вербалозу, згінаючыся пад напружаным парыўным ветрам. Ля самага берага хвалі драбнелі, ускочваліся языкамі на руды і цвёрды пясок, які ільсніўся, пакуль хваля адступала назад, і адразу станавіўся цьмяным, як толькі праглынаў ваду. І чакаў новую хвалю, якая пакіне на ім рубчык-адзнаку, нібы набухлая вена на баку натруджанага каня. Рэдкія белыя хмары, узнікаючы там, дзе неба прыпадала да чорнай вады, хутка плылі па цёмна-сінім небе, засланяючы час ад часу на некалькі хвілін сонца, і тады ўсё наўкол здавалася змрочным і няўтульным. І раптоўна востра пранізваў слых рэзкі ўскрык адзінокай сываратні, якая, змагаючыся з ветрам, спрабавала паляцець над возерам, над бурлівай вадой, ды нібы спынялася і, знямоглая, знікала над пагуркам за лугавінай, над скошаным канюшынішчам. Востра пахла смалой, мокрым трыснягом, азёрным ветрам. Было самотна на душы, моцна сціскаліся сківіцы і хацелася заплакаць. Васіль, можа б, і заплакаў, каб не сімпатычная белавалосая жанчына, што сядзела ў выцягнутым на бераг чоўне, накінуўшы на плечы куртачку і задумліва перабіраючы сцяблінкі рамонкаў, якія нарваў ён, як ішлі праз луг да возера.

Васіль стаяў ля затопленага старога чоўна, праз пяту якога куляліся хвалі і амаль даставалі сюды, у нос, усцягнуты на белую гурбу і прыкуты ланцугом да тоўстай вербалозіны. Човен уздрыгваў, рыпеў, хіліўся то на адзін бок, то на другі, нацягваючы ланцуг, а старая вербалозіна адварочвалася ад ветру, падстаўляючы яму серабрыстую спіну. Вецер трапаў, кудлаціў Васілю валасы, а ён падстаўляў твар

ветру, і адчуванне палёту ці імклівага бегу авалодвала яго істотай. І цела рабілася бязважкім, нібы раствaралася ў бязмежнай ветранай прасторы паміж цёмна-сінім небам з імклівымі белымі хмарамі і бурлівай вадой, якая ўскочвалася на бераг, стараючыся дастаць яго ногі...

Перад тым, як ісці сюды, яны наведалі могілкі. Яму хацелася схадзіць туды аднаму, ды што ты тут зробіш. Як узяла яго пад руку пасля жаніцьбы, так і трымае. Знебылася адна пасля смерці мужа. Але ж за чатыры гады магла б крыху і астыць. Васілёва былая жонка жывая-здаровая, выйшла замуж. А калісьці ж па гэтых сцежках хадзіў ён з ёй. Дзе яна цяпер? І ціхім глухім болем адзываецца ў Васілёвым сэрцы кожны крок, зроблены калісьці па гэтай зямлі. І няма радасці ад блукання па былых сцежках. Толькі боль і смутак. Хаця ў чым яго віна? Што сустрэў гэту белавалосую ласкавую жанчыну і пайшоў за ёй, пакінуўшы ўсё дарослым дзецям. Ніна казала тады: не трэба нічога перайначваць. Толькі хоць зрэдку прыязджай да мяне. Ды не змог ён ілгаць. Нездарма ж жартуюць: чэсны мужчына жэніцца некалькі разоў, а манюка — адзін. Божа мой, але што пачалося пасля таго, як ён развёўся і пераехаў да Ніны! Васіль і не падазраваў ніколі раней, што так можа быць. Ён лічыў: ну развяліся, сышліся — усяк бывае ў жыцці. Кожны жыве, як умее. Але ж не! Жонкі некаторых сяброў забаранілі сваім мужам сустракацца і размаўляць з Васілём. Раптам яго прыклад і на іх падзейнічае, бо добра ведаюць, як абрыдлі яны ім. Мужчыны пакеплівалі: ну-ну, паглядзім, як ты з ёй ужывешся. Дай Бог адзін раз апячыся. Лепш схадзіў налева, калі ёсць патрэба, і цярпі далей, цягні сямейны воз. Знаёмыя жанчыны ўсю сваю фантазію скіравалі на адшукванне недахопаў у яго новай абранніцы. Але горш за ўсё сталася ў вёсцы, на радзіме: як, Васіль развёўся? А мы ж пра яго думалі толькі добра. Ай-яй-яй!

Ні бацька, ні маці не чуюць гэтага. Ляжаць сабе ў зацішку на могілках, і час для іх спыніў свой бег, і зямныя праблемы больш не турбуюць іх.

Могілкі калісьці былі занядбаныя, парослыя кустамі бэзу і вішанніку, праз якія і да магілкі прадрацца нельга было. Неяк не да іх было людзям. Прытупілася памяць. Але апошнім часам аджыў «опиум для народа». Хтосьці запрасіў на пахаванне папа ці ксяндза, а можа, яны і самі прыехалі на Дзяды ці якое іншае свята, каб асвяціць могілкі, паглядзелі і жахнуліся. І сабраліся прысаромленыя людзі, якія яшчэ не паспелі поўнасцю забыцца на Бога, павысякалі кустоўе, спілавалі пасохлыя дрэвы, вакол могілак паставілі новую агароджу. Колькі болю пахавана тут, надзей нясправджаных, колькі лёсаў чалавечых спыніла тут сваё блуканне па муках зямных!

Васіль стаяў ля агароджы бацькоўскіх магіл, слёзы наварочваліся на вочы, і ён невідушча глядзеў перад сабой. Побач з ім была Ніна, але ў гэты час ён нібы забыў пра яе. Што ёй? Няма тут яе слядоў, нікога тут яна не ведала і не ведае. Значыць, і ўспамінаў няма. А Васіль ведаў многіх...

На высокую бярозу сеў чорны грак, пазыбаўся на галіне і хрыпла пракрычаў: кар, кар, кар. Васіль сцепануў плячом, глянуў наўкол. Знаёмыя бярозы, поле за імі, дарога, якая хаваецца за ўзгор'ем. Круцілі завірухі, лілі дажджы, яго, Васіля, насіла па свеце, а зямля гэта была, жыла. Дзень пры дні, дзень за днём. І будзе жыць далей.

«Дзень добры, тата і мама. Вось і прыехаў я да вас. Стаўляй, мама, варыцца бульбу, а ты, тата, даставай з шафкі паўлітэрак, прыхаваны за пустымі слоікамі на ўсякі выпадак. Хаця не, давай на гэты раз абыдземся без гарэлкі. Ты і ніколі не любіў яе, а я ўцягнуўшыся быў, столькі часу і нерваў з-за яе страціў — не дай Бог! Няма з яе ніякай радасці. Яшчэ ж у маладыя гады зрэдзь часу за бяседным сталом

можна затлуміць галаву і пагудзець разам з гасцямі, а ў сталыя — толькі слёзы і роспач выціскае яна з грудзей. Старанна прывучаў мяне да яе, калі я яшчэ быў юнаком, старэйшы брат, да якога часта наведваўся ў падмаскоўны рабочы пасёлак. Налье шклянку, стаіць над душой: ты мужык, ці не? Пі! Здамся, вып'ю, а сам хуценька на двор, пальцы ў рот. Вярнуся — зноў: пі! Кончылася гарэлка — да жонкі ледзь не з кулакамі: дык ты майго брата не хочаш прывячаць? Давай грошы. І маць, маць. Збегчы не было куды. Я не прызнаваўся вам тады. Ды і што вы маглі яму паправіць. Ён з Магадана зусім не такі вярнуўся, які быў.

І цяпер во сядзіць у бацькоўскай хаце, прыехаўшы на лета са свайго Падмаскоўя, састарэў, злунеў, а гарэлку не кідае. Ходзіць ззаду, просіць: злётай у магазін, прынясі. Ні пагаварыць, ні адкрыць душу, каб лягчэй стала. Няма каму. Не зразумее. Паеду заўтра. Няма мне тут спакою...

А ён жа гэту хату, як ты, мама, у труне ляжала, прадаваць сабраўся. Даўно б прапіў, ды я не даў. Колькі пісьмаў прысылаў ён мне тады, колькі праклёнаў я атрымаў. За што? За тое, што бацькаўшчыну прадаць не дазволіў. А як цяпер добра яму. Каторы год во прыязджае на лета, жыве тут аж да белых матылёў. Сеў на ўсю хату, як пан. І смех сказаць — мне цяпер нельга сюды паткнуцца з-за яго выпіўкі, з-за яго дурноты, хоць і дараваў яму, хоць і памагаю, чым магу, у такі цяжкі час. Суседзі стогнуць: хутчэй бы з'ехаў. З вачэй далоў...

Ды што я ўсё пра яго. Сам харошы. Развёўся, сям'ю раскідаў, што нажываў — страціў. А можа, гэты развод і быў як паратунак, як жаданне вырвацца з зачараванага кола, якое ўсё звужалася і звужалася з кожным пражытым днём, нібы абручом сціскаючы грудзі і перацінаючы дых. Але ад сябе не ўцячэш. І блукаеш, як непрыкаяны, па гэтым жыцці і не знаходзіш такога месца на зямлі, дзе б душа крыху адтала, супакоілася. А жыццё цяпер такое няўстойлівае, такое грэшнае. Не для чэсных працавітых людзей жыццё. Жуллё павылазіла са шчылін, з начной цемнаты на божы свет. Стрыжанае-голенае, у шырачэзных, як у запарожскіх казакоў, штанах, ходзіць гаспадаром па зямлі, раскідваючы на бакі ногі, быццам паміж ног кіла, цвыркае слінай, бессаромна гне прылюдна мацюкі і махае пудовымі кулакамі. Сустрэнешся з такім у цесным месцы — думай: ударыць ён цябе альбо не. Як захоча. Бойся. Бо жаліцца таксама няма каму. І ў міліцыі такіх многа. Як пісаў паэт: «Если не был бы я поэтом, то, наверно, был мошенник и вор». Здаецца, што нармальных чэсных людзей вельмі мала. Не чуваць іх амаль і не відаць. А вакол гразь і мацюкі. Цяжка жыць, вельмі цяжка. Не толькі таму, што кавалка мяса ў магазіне купіць нельга. А вось з-за гэтай пошасці, якая, быццам саранча, абляпіла родную зямельку і смокча з яе сокі, спустошвае яе. Ну прададуць яны ўсё, а далей што? Трэба ж рабіць і на зямлі, і на фабрыцы альбо заводзе. Ды няма каму. А хто і можа — у таго рукі апускаюцца. А жыць трэба, хоць і надзеі на лепшае няма. Для мяне няма. Бо не магу я перайначыцца, стаць «купі-прадай». Вось так, тата і мама. Такая невясёлая размова...»

Струменіць-калышацца густое ўгрэтае паветра над могілкамі, востра пахнуць таполі і сырая зямля, і здаецца, што гэта не паветра мігціць, а душы нябожчыкаў бунтуюцца, пратэстуючы супраць злых сіл, якія давялі зямлю да адчаю, як калісьці пратэставалі і жывыя людзі, у табачным дыме размахваючы рукамі на начным сходзе, калі ў іх адбіралі палітую потам дзядоў і прадзедаў зямлю і сілком зганялі ў калгас.

Чорны вялікі грак зноў пазыбаўся на галіне старой бярозы, пакруціў галавой, каркнуў працягла, узмахнуў крыламі і паляцеў...

А возера сустрэла бурліва і ветрана, і душа, дакрануўшыся да велічнага і вечнага, крыху расслабілася, стала напаўняцца новай сілай і цярплівасцю. Васіль глядзеў удалеч павільгатнелымі вачыма, вецер трапаў кашулю на ім, пырскі хваль, якія разбіваліся аб затоплены човен, даставалі твару. Заўтра ён паедзе да сястры, якая жыве за трыццаць кіламетраў адгэтуль і якую не бачыў амаль два гады, хоць яна апошнім часам некалькі разоў запрашала ў госці. Ды цяжка цяпер стала ездзіць. Значыць, так і не пабачыць ён возера лагодным, сцішаным, з адбіткам далёкага бору ў люстраной празрыстай вадзе. У краях далёкіх, у час роспачны і тужлівы Васіль успамінаў яго толькі спакойным. І спакайнела на душы...

— Мне холадна,— сказала Ніна, тулячыся да Васіля. Ён і не заўважыў, як яна вылезла з чоўна і падышла да яго. Куртачка была апранута і зашпілена да самага падбародка.— Мне холадна.

Словы яе вывелі Васіля з задумення, вярнулі ў існасць, і ён глянуў яшчэ раз на возера, на чоўны і сказаў:

— Нечага ж нарве гэты вецер. Можа, дождж.

Яна прасунула сваю руку пад яго, сагнутую ў локці, і па сыпучых гурбах прыбярэжнага пяску яны прайшлі на памежак. Вецер падганяў іх.

— Ой, пясок насыпаўся,— не адпускаючы рукі, яна папераменна зняла басаножкі, пастукала імі аб дол, пасля абулася, і яны пайшлі па памежку да купкі бяроз ля пагурка са скошанай канюшынай. Вецер слабеў, шум возера станавіўся глухім, здавалася, што гэта сама зямля дыхае натужна, стомлена. У зацішку за лазовымі кустамі, якія нібы копкі сена сталі ўскрай памежка, п'янка, дурманна пахла прымлелай на сонцы скошанай травой, а з недалёкай балацявінкі, уторканай чорнымі кіяшамі, смуродна пацягвала валяр'янавым коранем, фіялетавыя суквецці якога відаць былі і адсюль, з памежка. Над пагуркам за балацявінкай, над пакосамі канюшыны ўскідваліся час ад часу сываратні, прарэзліва ўсхліпвалі і, кульнуўшыся ў паветры, зноў ападалі на дол.

«А кнігавак нешта не чуваць,— падумаў Васіль.— Калісьці ж іх столькі было тут, так насіліся яны над лугавінай, так устрывожана крычалі і ледзь не чапляліся за галаву крылом, аберагаючы свае гнёзды ад чалавека, калі хлапчуком па ранішняй расе спяшаўся з вудаю да возера. Цішыня цяпер. Няма кнігавак. І яго, басаногага, з вудаю, няма. Прабег па вось гэтай сцежцы і знік. А возера шуміць і шуміць, а зямля дыхае цёплай духмянасцю летніх траў. Ці думаў ён тады, што прыйдзе дзень, пэўная гадзіна, і ён зноў будзе хадзіць тут, успамінаючы-адшукваючы сцежкі маленства. І побач будзе бялявая ўсмешлівая жанчына, а за спіною — пражытае жыццё».

— Ой, нешта стала горача,— Ніна спынілася, адняла руку і расправанула куртачку. Ён зрабіў памкненне памагчы ёй, ды не паспеў. Яна дакорліва глянула на яго, патрабуючы больш увагі да сябе.

«Вецер падзьмуў — холадна, сонца глянула — горача»,— нядобра падумаў Васіль, але не сказаў. Стрымаўся. Навучыўся стрымлівацца. Але на сэрцы ўсё ж заставалася прыкрасць, накаплялася там і маўчала да пары да часу.

«Прыгажосць выратуе свет!» Не. Калі што і выратуе свет, дык гэта Працавітасць, Сумленнасць, Дабрыня. А Прыгажосць... Яна эгаістычная, яна занята толькі сабой.

Ён, з маленства прывучаны да цяжкай працы, як і ўсе падлеткі ў пасляваенныя гады, атручаны і прыбіты голадам і нястачай і быццам бы загартаваны гэтымі бедамі, і яна, можа, і не спешчаная, але і не прывучаная да цяжкой працы, якая чамусьці ўзяла сабе ў галаву, што нарадзілася не для гэтага, што ўвесь свет павінен круціцца толькі вакол яе. Атлет і дзяўчынка на шары. Вядомая карціна Пікасо.

Васілю іншы раз здаецца, што гэта дзяўчынка на шары побач з ім часова. І што далей? Вольны, як у полі вецер? Навошта такая воля? На шостым дзесятку жыцця. Без страхі над галавою, без свайго кутка. Добра, што хоць гэта старэнькая хатка ў вёсцы ёсць. Не даў прадаваць, адваяваў. А самы галоўны прадавец сядзіць во цяпер у ёй і не разумее, што даўно б не было куды прыехаць. І грошай тых даўно б не было. Але гаварыць пра гэта няма каму...

— Глянь, якая палянка! Як zацішна тут! Давай пасядзім.

Ніна цягне яго за руку на сонечную палянку між высокіх бухматых бярозак, за плямістымі ствалами якіх непралазныя серабрыстыя лазовыя кусты. На зялёнай палянцы — купкі дзяцельніку, сцяблінкі ружовай смолкі і жоўта-белых рамонкаў. Угрэтае паветра калышацца між бярозак, і жоўты матылёк, нібы падхоплены ім, то ўзнімаецца высака, то прыпадае да самага долу.

Ніна рассцілае пярэстую посцілку, якую ўзялі з дому, паспешліва распранаецца да купальніка і кладзецца на спіну, вольна раскінуўшы рукі.

— Як тут хораша!

Васіль садзіцца побач. Яму не хочацца распранацца, ён задумліва глядзіць на чмяля, які, натужна зумкаючы, лётае над кветкамі. Цішыня. Не чуваць шуму возера, толькі на шашы ля вёскі зрэдку звіняць коламі па асфальце машыны. І не верыцца нават, што ў гэты час дзесьці шумяць-вiруюць вялікія гарады, бягуць паязды, плывуць караблі. Жыве зямля. А тут цішыня, сонечная палянка, сіні лапік неба паміж вяршалінамі бяроз, па якім час ад часу хутка праплываюць раскудлачаныя белыя хмаркі. І здаецца, што час запыніў тут свой бег.

Ніна ляжыць на спіне, заклаўшы рукі пад галаву і падставіўшы сонцу твар. Прымружаныя вейкі яе ўздрыгваюць, на шыі б'ецца-пульсуе сіненькая жылка, і ўсё загарэлае цела яе здаецца Васілю цяпер асабліва жаданым і прыцягальным. Ён радасны нахіляецца да Ніны, доўга цалуе яе, адчуваючы, як мужчынская сіла прачынаецца ў ім. Там, у невялічкай хаце, дзе кожны рып чуваць за кіламетр, прыходзілася стрымлівацца. А тут...

Горача. Хочацца адкаціцца ў цянёк і паляжаць, бяздумна гледзячы ў неба.

— Пабудзь са мной, пакуль я не супакоюся,— просіць Ніна.— Мне так добра з табой. Здаецца, што пабывала аж вунь там. Нібы на вялізных арэлях...

Яна паказвае вачыма на сіні лапік неба над імі. Васіль заспакоена гладзіць яе валасы, дакранаецца пальцамі да броваў, носа, а яна бярэ яго далонь і прыціскае да шчакі.

— І мне добра з табой,— кажа ёй раздумліва.

Ён паварочваецца на спіну і доўга глядзіць у неба. Там цяпер не відаць хмарак. Толькі недзе збоку, чапляючыся за вяршаліны бяроз, крадком праплывае чародка і бясследна знікае.

Чаму так прыцягвае чалавека неба? Сіняе, пранізанае сонечнымі промнямі днём. Вячэрняе, якое пераліваецца рознымі колерамі, ад жоўта-лімоннага ўгары да барвова-чырвонага ля самага гарызонта. Начное, засеянае зярняткамі-зорамі. Чаму? Вялікая загадка прыроды.

## 2

Вясковая хата дыхала цяплом. Пахла варанай бульбай, кропам, цыбуляй, кіславата патыхала свежым хлебам, боханы якога ляжалі

на шафцы — іх нядаўна прынесла з магазіна братава жонка Марыя. Зараз яна сноўдалася ў сянях ля газавай пліты — гатавала вячэру. Там штосьці верашчэла, усхліпвала, чуўся бразгат посуду. А тут, у хаце, было ціха, толькі ледзь чутна вуркатаў халадзільнік, што стаяў ля самага парога побач з шафкай. Сцены ў хаце атынкаваны і пабелены. Па сценах і пафарбаванай у блакітны колер столі, нібы жылы, пралягглі скручаныя ўдвая правады. Лямпачка на такіх жа скручаных правадах звісала з-пад столі, але святло пакуль што не запальвалі: на вуліцы толькі што пачало шарэць. Сонца села на возера, і вада ў тым месцы была нібы расплаўлены метал. Над сонцам навісалі, нібы вывернуты кажух, падсвечаныя хмары.

Васіль сядзеў на цвёрдай кароценькай кушэтцы, прысланіўшыся спіною да цёплай печы, глядзеў у акно, асветленае вечаровым сонцам. На фоне акна, засланяючы яго амаль напалавіну, выразна вырысоўваўся профіль Антона, з пукатым ілбом, з вялікім і круглым на канцы, нібы бульбіна, носам, што навісаў над запалым ротам. Профіль старога чалавека, змучанага працяглай хваробай.

Антон маўчаў. Маўчаў і Васіль. За перабіўкай у запечку кашлянула Ніна — збірала ў дарогу сумку.

— Слыш, Васіль,— голас пачуўся глуха, як з таго свету.— Я болей сюды не прыеду. Няма здароўя. Цяжка стала, хварэю. Тут трэба працаваць і працаваць, тады толькі парадак будзе. А я не магу. За ўсё плаці. Узаруць — плаці, пасеюць — плаці. А без гною не расцець нічога. І плаціць надта няма чым. Нарабілі граніц. Пенсія там, у Расіі, а сюды не прышлеш. Не прымаюць. Як даехаць назад — не ведаю.

«Ну і не прыязджай,— абыякава падумаў Васіль.— Стаяла хата без цябе колькі год, пастаіць і яшчэ. Будзе хоць мне куды адскочыць ды падумаць. Ачомацца ад гарадскога тлуму. А то — што там, што тут».

Але прамаўчаў.

Антон зноў загаварыў, не паварочваючы галаву. Профіль перастаў залаціцца — сонца ці то села, ці то схавалася за хмары.

— А калі ў вёсцы памру, то побач з маткай месца ёсць. Тут дзе-небудзь прыткнеш, слыш,— як прасіў усё роўна.

Не хацелася гаварыць. Яшчэ раз змоўчаў.

— А хату глядзі. І табе да пенсіі не так далёка. Час бяжыць, як вада. Прыедзеш во, слыш, і будзеш жыць. Здароўе ў цябе яшчэ ёсць.

«Добра, хоць на старасці гадоў зразумеў. А то ўсё рваўся прадаваць,— падумаў Васіль.— Усё не цярпелася пазбавіць нас роднага кутка».

— У мяне здароўя няма даўно. Магадан забраў, Калыма. Слыш, а які быў здаровы! Цяпер во хлюпікі старэй за мяне жывуць — і хоць бы што. А я во які.

Васіль маўчаў, слухаў. Антон нарэшце павярнуў галаву да яго, адкінуўся назад. Пераплёты рамы здаліся Васілю кратамі.

— Ногі во, як калоды, слыш, сталі. Не магу хадзіць,— Антон падцягнуў калашыну да калена, агаліўшы сінюю з шэрым налётам распухлую нагу.

— Ой, ногі ў цябе страшныя,— узрушана сказаў Васіль і пахітаў галавой.

Брат узрадаваўся яго голасу.

— Гарань агнём, слыш. Цяжка трываць! — расслаблена ўсклікнуў Антон, адвярнуўся і пачаў глядзець у акно.

«А чым я магу табе памагчы? Што ты мне жалішся? — з'явілася незадаволенасць у Васілёвай душы, але адразу атухла.— А каму ж і пажаліцца як не брату. Я во таксама ехаў да яго, думаў пагаварыць, душу адкрыць».

На вуліцы зарыкала карова — з поля вяртаўся статак.

— Усяго дваццаць кароў у вёсцы засталося. А было ж, слыш, больш за сто.

«Быццам я не ведаю. Колькі адхадзіў за тым статкам. Ад усходу сонца да заходу. І ў спёку, і ў непагадзь. Цябе ў войска забіралі, а я першы экзамен за чацвёрты клас здаў і хутчэй на пасту. А тут снег як пачаўся. Канец мая, а снег. А я басанож. Адганю кароў ад шкоды — і хутчэй на мяжу. Ногі пад сябе падкурчу і грэюся. Ведаю, які статак быў раней, помню. Праз усё жыццё не забыўся».

— Абяссілела вёска. Старыя б трымалі кароў, ды не могуць. Маладыя могуць, ды няма жадання трымаць. Да лягчэйшага жыцця прывыклі, слыш.

Ніна выйшла з-за перабіўкі, села побач з Васілём.

— Сабрала сумку?

— Сабрала збольшага. Астатняе заўтра.

Ціха перамовіліся паміж сабой, Антон і не пачуў.

— А колькі я за сваё жыццё, слыш, папрацаваў. Не дай Бог. З трынаццаці гадоў за плугам пачаў хадзіць. За дзень нацягаешся — ляжаш спаць, а жывот ад натугі баліць. Бацька ўсё, слыш, з рыбакамі на возеры, а зямлю на мяне ўзваліў. Рэдка калі на дзень-другі вырвецца, а то ўсё я ды я. Праўда, як у войска пайшоў, трохі аджыў, адкарміўся. Што мне было тое войска пасля цяжкой працы. Гэта цяпер баяцца. А я, слыш, як пайшоў дык і пайшоў. Усё жыццё на свеце пражыў. Служба канчаецца, напісаў бацьку: што рабіць? Ён адказвае: чакае цябе, сынок, той жа плуг і хамут. І над табой будзе з пугай. Не захацелася мне, слыш, у той хамут зноў упрагацца. Застацца вырашыў. А як застанешся ў Маскве без прапіскі? Жаніцца трэба...

Падумаў, уздыхнуў і прамовіў з асуджэннем. Нават галавой пахітаў:

— Ажаніўся.

Павярнуўся да Васіля, убачыў побач з ім Ніну, сцепануўся, крыкнуў весела ў сенцы:

— Марыя, ... тваю маць! Што ты там кешкаешся? Людзі прагаладаліся. Вячэраць пара!

І засоп незадаволена, затрубіў у нос-бульбіну, быццам жонка вельмі правінілася перад ім.

— Антон, ну як вы з жанчынай размаўляеце? Сорам,— адразу ўспыхнула Ніна.— Як апошні хуліган на вуліцы!

Яна і да гэтага не прапускала ніводнай яго грубай выхадкі. Антон цярпеў, соп незадаволена, стараўся стрымлівацца, калі быў цвярозы, а пасля зноў забываўся, і ўсё ішло па-ранейшаму. Гэты раз Ніна ўзвілася не на жарт.

— Я не намерана слухаць мацюгі! — ўскочыла з месца і крутанулася ля парога.

З сенцаў паявілася Марыя, вышчарылася на Антона:

— А ты чаго расселся, як буржуй! Ідзі і памажы, калі так спяшаешся. Камандзір хрэнаў знайшоўся!

— Ну-ну. Ты мне глядзі! — цяжкі кулак замахаў у паветры.— Пры людзях выступіць захацелася? Супакою скора, ох супакою!

Азызлы твар яго ажывіўся, бровы насупіліся, чырвоны нос-бульбіна, здаецца, яшчэ больш заірдзеў.

Васіль і Ніна пераглянуліся. Было прыкра слухаць іхнюю лаянку.

«Сядзеў бы ўжо спакойна,— думаў Васіль.— Ледзь ногі валачэ, а туды ж... Сорамна перад Нінай: будзе гаварыць сваёй радні, які ў мяне брат».

— Супакойся ты,— сказаў Антону.— Было б з-за чаго заводзіцца. З-за кожнай дробязі адзін другому нервы псуеце.

— Ты мяне, слыш, не вучы, як мне са сваёй жонкай гаварыць. Я Магадан прайшоў!

— Ну і што твой Магадан? Розуму дадаў? — не сцярпеў Васіль.— Культуры, можа?

— Я здароўе там пакінуў...

— Дык хто вінаваты ў тым? Яна? — кіўнуў Васіль на Марыю.

Антон замоўк: быў цвярозы.

— А ты мяне не абараняй,— нечакана падала голас Марыя.— Я сама сябе пакуль што яшчэ магу абараніць.

Васіль зніякавеў: вось табе і на.

Звечарэла. У хаце запалілі святло. Марыя паставіла на стол вячэру: вараную бульбу, падсмажанае з зялёнай цыбуляй сала, а пасля на драўлянае донца апусціла вялікую патэльню смажаных грыбоў — Васіль не паленаваўся, падхапіўся сёння ранёнька і прабег па знаёмых мясцінах з кошыкам. Пашанцавала: набраў падасінавікаў.

Паравала бульба, пахла смажанымі грыбамі. Моўчкі селі за стол: Васіль і Ніна ад перабіўкі, на якой быў прыкноплены вялікі каляндар з табуном коней — іх так любіў у маладосці Антон. Марыя то прытыкалася ля Антона, насупленага і невясёлага, які сядзеў насупраць Васіля, на тым жа месцы, дзе і раней, то адлучалася: гаспадыня.

Антон павярнуўся да шафкі, адчыніў дзверцы і дастаў адтуль вялікую бутэльку гарэлкі. Урачыста паставіў яе на стол: вось, маўляў, вы не чакалі, а яна ёсць. І не таму, што мне аднаму трэба. Марыя падала чаркі.

— Можа, не будзем? — спытаў нерашуча Васіль.

— Ты, брат, слыш, не пярэч. Я, канешне, і такі, і сякі,— апусціў галаву, а пасля цяжка ўзняў яе і глянуў на Ніну,— але, можа, мы болей і не ўбачымся...

Васіль ускінуўся, каб запярэчыць, ды Антон узняў руку:

— Не, не. Але ж можа такое быць? Слыш, можа?

— Усё можа быць,— абвяў Васіль.— І з табой, і са мной.

— Вот я і кажу. А ты, Ніна, слыш, ты на мяне не абіжайся. Не ўмею я сказаць, а каб умеў — многа б што расказаў. Можа б, тады і паняла мяне.

— А што тут цябе панімаць? — груба, але не злосна, сказала Марыя.— Во зараз віп'еш, слязу ўроніш, паплачаш над сваёй доляй, раскажаш, які ты нешчаслівы, а пасля...

— А то шчаслівы? — у расслабленым голасе Антона пачулася раздражнёнасць.— Не дай Бог, слыш, нікому добраму такога шчасця. Ведаеш ты сісю́, ды і тую не ўсю!

Марыя змоўкла. Антон наліў у чаркі, нават Ніне наліў, хоць тая і пратэставала.

— Ну, давайце! Які ўжо ёсць, такі ёсць! Не абіжайцеся на мяне.

Чарка ў яго вялікай руцэ здавалася зусім мініяцюрнай. Ён асцярожна трымаў яе двума пальцамі: вялікім і ўказальным. Выпіў адным глытком, раптоўна адкінуўшы галаву і кульнуўшы чарку ў рот. Патрымаў парожнюю над сталом, быццам да чагосьці прыслухоўваўся. Пасля асцярожна паставіў яе, узяў відэлец і пачаў закусваць.

Марыя адышлася з чаркай да шафкі, неўпрыкмет выліла гарэлку ў сіні кубачак, потым прыгубіла, зморшчылася, быццам выпіла, і пачала накладваць у талерку смажаныя грыбы. Частавала і Ніну, але тая адказвалася, баялася радыяцыі.

— Якая тут радыяцыя! — пасміхалася Марыя.— Правяраў адзін прыезджы. Грыбы растуць чыстыя. Нічога не паказвае.

— Ды вы што? — даказвала Ніна.— Радыяцыя ўсюды ёсць. Гэта нам толькі так кажуць!

— А калі ўсюды ёсць,— перабіў Антон,— дык з чым-небудзь усё роўна праглынеш яе, слыш. Адзін х... хрэн.

Марыя ўсміхнулася, заўважыўшы мужаву запінку.

— Ты, Ніна, часцей прыязджай сюды. Можа, і перавыхаваеш яго. Антон зноў зазлаваў.

— Цябе, відаць, трэба будзе калі-небудзь перавыхаваць. А то распусціла язык, як цыганскую пугу. І скажы ты: так слова, слыш, не выцягнеш. А пры людзях разгаварылася. Малоціць і малоціць.

— Еш ужо,— спакойна сказала Марыя, паклала мужу ў талерку гурок, бульбы, грыбоў.

Елі моўчкі. Пасля Антон зноў узяўся за бутэльку, памкнуўся да Васілёвай чаркі.

— Дык ты што, слыш, не выпіў? — толькі цяпер заўважыў, што Васіль пакінуў палавіну.

— Выпіў, не выпіў — якая розніца. Даўно ўжо трэба спыніцца. І табе, і мне! — пачаў бунтаваць Васіль. Неспакойна стала ў яго на душы, нядобра. Здавалася, што яго ўвесь час прымушаюць тут рабіць не тое, што ён хоча сам. Увесь час ціснуць на яго, а таму міжволі расце ў душы пратэст.

Ці то Антон зразумеў яго стан, ці быў заняты сваімі думкамі, але надоўга замоўк: калупаўся відэльцам у талерцы, наліваў сабе чарку, рыўком куляў яе і хмялеў. Жонка яго, Марыя, якой ён таксама наліваў, ужо не тоячыся ад Васіля і Ніны, кожны раз адыходзілася да шафкі і вылівала гарэлку ў сіні кубачак. Так і павячэралі. Толькі пад канец вячэры Васіль сам узяўся за бутэльку, наліў Антону, сабе палову чаркі і сказаў:

— Ну, будзь здароў. Не хварэй.

— Рад бы не хварэць,— ахвотна азваўся Антон захмялелым галасам.— Жывеш чалавек, слыш, і думаеш, што здароўе вечна будзе. А яно — не. Зношваецца. Ад цяжкай працы, ад перажыванняў. Як адзежына якая. Ты хоць ведаеш, як я на Калыму папаў? Можа, слыш, расказваў?

— Не, не помню.

— Пасля службы ў арміі застаўся ў Падмаскоўі. Распісаўся з адной хахлушкай, прапісаўся да іх у барак, пайшоў працаваць грузчыкам. Спецыяльнасць да гэтага, сам ведаеш, у мяне была — за плугам хадзіць. Навукі таксама мала, слыш, прайшоў: тры класы з калідорам. Пачынаў вучыцца ў польскай школе, вучыўся пры тых Саветах, а кончыў навуку пры немцах, у час вайны. Такі ў мяне, слыш, інсцітут. Але я не апраўдваюся, слыш. Не было ахвоты ў школу хадзіць.

Аж у той хахлушкі два браты з турмы вярнуліся. Гэта пасля я на такіх нагледзеўся, на Калыме. А тады — дзіўна было. Нажы ў сцены кідаюць, прыёмы паказваюць — трэніруюцца, слыш. Да мяне чапляцца пачалі. Як жа — я «калхоз». «Драбіна», «трапка» — дражняцца. Цярплю. З работы прыйду — застолле гудзіць, усё папілі, паелі, «Пасею гурочкі» спяваюць. На рабоце наламаешся, а тут ні прылегчы, ні аддыхнуць, слыш... У вёску цягнула, ох цягнула! Каня ўбачу, слыш, плакаць хочацца. Родная душа, думаю. На ім груз возяць і на мне.

Васіль не перабівае: няхай пляце. Усё ж лепш, чым з п'яных вачэй будзе гыркаць на ўсіх. Спакайней.

— І так на сэрцы закіпіць, такога мацюка загнуць хочацца, якога і свет не чуў. Не доўга цярпеў. Месяцы са тры. Нічога не кажучы сваёй хахлушцы, завербаваўся з адным дружком у Магаданскую вобласць. Дакументы аформіў, пад'ёмныя атрымаў. Выпілі добра, прыйшоў дамоў у барак, а там зноў «Пасею гурочкі». Ну, я ім, слыш, і ўстроіў «гурочкі». Такі разгон, што не ведалі, дзе ратавацца, слыш. І з нажамі, і без нажоў. Як той барак не разваліўся. А сам за сундучок,— якія ў мяне там пажыткі, у салдацкім хадзіў,— ноч праканта-

ваўся на вакзале, а раніцай, слыш, на зборны пункт. Дамоў у вёску пісьмо напісаў, во сюды, у гэту хату, што не скора абзавуся. У далёкай дарозе буду. Вот і аказаўся, слыш, у Магаданскай вобласці. Руднік Бялова. Зноў барак, сопкі кругом, работа пад зямлёй. Адзін участковы міліцыянер на тысячу кіламетраў. Спірт, бойкі. Наперадзе — дзесяць гадоў. На столькі завербаваўся. А мне ўсяго дваццаць тры. І ніхто мяне там не чакаў: ні бацька, ні матка...

Антон панік: відаць, плакаў. Марыя прыбірала са стала. Ніна ўзялася памагаць ёй. Чуваць было, як яны перагаворваліся ў сенцах, мыючы посуд.

Васіль пасядзеў крыху насупраць Антона, потым ціха ўстаў, каб не патрывожыць яго, і пайшоў у баковачку. Шкада было брата, але штосьці і перашкаджала гэтаму шкадаванню. Старая крыўда, ці што? Прысеў на ложку, ды не сядзелася. Захацеў выйсці на двор. На парозе сутыкнуўся з Марыяй, запыніўся.

— Ну во, разлёгся! — убачыла яна Антона, які схіліў галаву на кулакі, паклаўшы іх на край стала.— Сама месца падрамаць. Пасцелі няма!

— Марыя, ... тваю маць, дзе бутэлька? — прыўзняў галаву Антон.

— Прадзяры вочы. Перад табой на стале. Усё мала! Хоць бы ты яе напіўся калі-небудзь, зараза.

Антон грукнуў кулаком па стале:

— Марыя, глохні!

Васіль ступіў за парог. На дварэ было цёмна. Вецер суняўся, нізкія хмары прыціснулі зямлю.

Ля плота бялела постаць Ніны. Васіль падышоў да яе, абняў за плечы. Яна ўздрыгнула, нібы спужалася, потым прытулілася да яго.

— Страшна тут,— чамусьці зашаптала, быццам асцерагалася, каб не пачулі.— Паедзем назад, Васіль. Заўтра,— і прасіла, і патрабавала яна.— Мама там адна, хворая...

— Чаму гэта яна адна? А брат твой?

— Такі ж, як і твой...

«А са мной чаму ты не лічышся? Не прымаеш мяне пад увагу? Ці я — пустое месца, не вартае ўвагі? Сястра вунь зусім хворая». Сказаў толькі:

— Яшчэ ж увесь адпачынак наперадзе. Няўжо дома не набудземся? Чарніц, кажуць, у лесе поўна. Сястру колькі гадоў не бачыў. Пакрыўдзіцца, як даведаецца, што тут быў, а не заехаў.

— Ну што тут харошага? — памаўчаўшы, сказала Ніна.— Туалет і той на вуліцы. А ноччу як, а зімой? І ванны няма.

Васіль здзіўлена паглядзеў на Ніну.

— Ты што, з неба звалілася?

— З неба, не з неба, а так жыць не змагла б.

— Яшчэ б як змагла, каб жыццё прыціснула! Жывуць жа людзі.

— Жывуць,— хмыкнула Ніна.— Ці гэта жыццё? Брат твой во якія кашмары расказвае. Што, і на самой справе з ім такое было?

— Было. На самой справе.

— Жах.

Памаўчалі. Не было пра што гаварыць.

Свяціліся вокны хат. Дзесьці далёка брахаў-залівауся сабака.

## 3

Васіль прачнуўся ад глухога сіплага дудукання Антона. Штосьці ён там гаварыў Марыі, нават нібы даказваў, ды не разабраць было.

Марыя маўчала. Можа, драмала яшчэ. Антон заўсёды прачынаўся першы, пачынаў кашляць, перхаць, быццам стараўся знарок усіх разбудзіць. Гэта злавала Васіля. Ну што за чалавек? Калі табе не спіцца, калі табе блага, то выйдзі ў сенцы ці на вуліцу. Не, трэба ўсіх падняць на ногі. Не дзіва, што Ніна рвецца адгэтуль.

— Марыя, слыш, блага мне,— нарэшце разабраў Васіль.

— Ціха ты. Людзей разбудзіш,— пачуў незадаволены і яшчэ сонны голас Марыі.

Маўчанне.

— Я цябе прымушала піць? Набраўся, як... Ледзь да пасцелі дацягнула...

— Сэрца ціснe. Блага,— нібы ў парожнюю бочку дудукаў Антон.— Там нічога не засталося?

— Пакінеш ты! За вушы ад бутэлькі не адцягнуць.

Зноў маўчанне. Цяжка дыхае Антон, кашляе.

— Паглядзі там на шафцы ў сінім кубачку. Пад капронавай накрыўкай...— пазяхае Марыя.

— Дзякуй табе.

— Пайшоў ты...

Рыпяць пружыны матраца, глуха пакашлівае Антон. На вуліцы рыкаюць каровы, бляюць авечкі — статак выганяюць у поле. Дрымота хваляй накочваецца на Васіля, утульна ахінае яго, і ён нібы чуе і не чуе, што робіцца ў хаце. Так было ў дзяцінстве: калі ён чуў праз сон, што статак гоняць на пашу, а яго не паднялі з пасцелі адбываць за каго-небудзь радоўку, яму рабілася добра-добра, і ён моцна засынаў. Як жа, можна выспацца і наперадзе вольны дзень. Цяпер чамусьці такой радасці не было.

Васіль прахапіўся гадзін у сем. Ніна ціха пасопвала — любіла позна паспаць. Прыйдзецца будзіць. Але пасля. Сумка спакаваная, так што збірацца доўга не трэба. Галоўнае, дабрацца да аўтастанцыі. Да сястры трэба было б заскочыць, ды Ніна ўпарціцца: па маці, бач, засумавала. Гарадская. Для іх вёска — гэта сонейка на блакітным небе, сіняя рэчка, кветачкі на лузе. А жыццё тут інакшае. Пад парасонам у лес па грыбы альбо па ягады не ходзяць. Засмяюць. І ў тралейбус не ўскочыш, як ногі забаляць на абцасіках хадзіўшы.

Васіль ціха ўстаў, апрануўся і выйшаў на вуліцу. У сенцах сутыкнуўся з Марыяй — яна рыхтавала сняданак.

— Усталі? — усміхнулася.

— Устаём.

— Пабылі б яшчэ. Ягад поўна, грыбоў.

— Ніна хоча ехаць.

— Далікатная яна ў цябе. Не для вёскі. І наогул не для нашага жыцця. Паўвядра вады падняла — цяжка, кажа. Намучаешся.

— Не прывыкшы яна.

— У лёгкім жыцці да цяжкога не прывыкнеш.

— Цяпер ва ўсіх нялёгкае жыццё.

На двары імжыў дождж, са страхі зрываліся кроплі і падалі на кусты вяргіняў ля хаты. Востра пахла палыном, суседнія хаты і дрэвы пры іх былі як за туманам. Неба скрозь зацягнулі нізкія шэрыя хмары.

Між кустоў вяргінь на лавачцы пад хатай сядзеў Антон, глыбока насунуўшы капронавы капялюш. Убачыў Васіля на ганку, кіўнуў галавой. Васіль пастаяў, знобка сцепануў плячом і рушыў за хлявы.

Потым паспешліва плёскаўся пад умывальнікам — сняданак ужо стаяў на стале. Ніна таксама ўстала і, на дзіва, вельмі хутка сабралася. І падфарбавалася, і завілася.

Брат Антон снедаць не пайшоў. Нудзіўся нешта, седзячы пад хатай.

Дождж то заціхаў, то зноў пачынаў ісці. Было сумна і няўтульна. І адчуванне трывогі так і не пакідала Васіля.

Снедалі ўтраіх.

— Каб сто грамаў на стале стаяла — прыбег бы. А так — не хачу,— бурчала Марыя.

Не мог Васіль зразумець іх адносіны: злуюцца, сварацца, а жывуць разам многа гадоў. Здавалася б — ці разыдзіцеся, ці перамяніцеся. Не. Абвыкліся, прыцёрліся. Церпяць адзін другога, але і шкадуюць. Паспрабуй, зачапі каго-небудзь з іх — адразу другі кінецца абараняць.

«Няхай і жывуць, як умеюць. Нічога тут не паправіш, не зменіш»,— думаў Васіль.

— Перадавайце ж там прывітанне ўсім. Сястры асабліва,— успомніла Марыя.— Скажыце, што ўсё ў нас добра, толькі вось Антон хварэе. Ногі. Будзе час — няхай прыедуць калі.

«Ага, добра. Яно і відаць»,— панурыў галаву Васіль.

Толькі сабраўся вылезці з-за стала, як у хату па-старэчы ўвайшоў Антон. Прысеў на кушэтку, дзе ўчора вечарам сядзеў Васіль, прысланіўся плячыма да халоднай печы.

— Слыш, Марыя. Трэба будзе працапліць крыху. Сыра ў хаце.

— Працаплім. Дзень наперадзе.

— Усё. Ад'ездзіў. Паеду ў Расію паміраць. Там здароўе пакінуў, там і паміраць буду.

— Сціхні ты,— не вытрывала Марыя.— Не наганяй на людзей нуду. Памру, памру. Як памрэш, то пахаваем. Ні адзін на зямлі не застаўся. Усіх закапалі.

— За што пахаваеш? За капейкі? — узвысіў голас Антон.— Усё, што збіраў, слыш,— паглядзеў на Васіля,— кату пад хвост. І калымскія грошы, і з Метрабуда, дзе пахаў на праходцы, усё кату пад хвост. А ты — пахаваем, пахаваем. А сама торбу праз плячо і жабраваць.

— Цяпер на гэта даюць грошы. Некалькі пенсій адразу,— ўклінілася Ніна.

Антон як і не чуў яе, узняў галаву і з націскам сказаў:

— Хату прадаваць трэба!

«Вось яно, чаго я ўвесь час трывожыўся!» — як варам абдало Васіля. Стрымлівацца не стаў:

— Зноў ты за сваё! Табе не трэба, ты не можаш прыехаць — значыць, давай прадаваць? Запомні! Ты тут не адзін. І ніякага продажу не будзе, пакуль я жывы. Хата як стаяла, так і будзе стаяць! — Васіль паспешліва вылез з-за стала.— Ты ж прадаў ужо адну. Там, у Расіі. Хату яе маці. Мала? Цяпер пра гэту ўспомніў?

— Дык мы маму і глядзелі апошні год, і пахавалі,— засакатала Марыя.— А навошта гэта хата будзе стаяць пустая, пакуль ты на пенсію выйдзеш? Кватарантаў пусці. Хоць капейка якая будзе!

— Ты мне, слыш, не ўказ, ... тваю маць! — грымеў з суседняга пакоя Антон.— Як лічу патрэбным — так і зраблю! А не, дык выплачвай мне маю долю!

— Не зробіш! І кукіш табе, а не долю! — і да Марыі: — Дзякуй табе, Марыя, за сняданак. Ён прыехаў сюды долю патрабаваць,— не мог яшчэ супакоіцца ад узрушэння Васіль.— Усё жыццё па свеце прабэйсаўся — пра долю ўспомніў!

— Ціха ты,— супакойвала яго Ніна.

Яны апрануліся, Васіль падхапіў сумку, Ніна падрыхтавала парасон.

— Ну, усяго добрага вам. Дзякуй, Марыя, што хадзіла каля нас, што карміла. Бывайце здаровы.

— Вам дзякуй. За лякарства, за пачастункі,— Марыя цмокнула Ніну ў шчаку.

Антон з другога пакоя не паказаўся. І голасу не падаў. Маўчаў зацята.

Васіль з Нінай ступілі за парог. Марыя выйшла ўслед, спынілася на ганку:

— Шчасліва вам. Пішыце.

Па вясковай вуліцы, абмінаючы лужы, Васіль з Нінай пайшлі да шашы. Ніна раскрыла парасон, Васіль азірнуўся на хату: адхінуўшы фіранку, ля акна стаяў Антон і глядзеў ім услед.

На вуліцы было пуста. Усе сядзелі па хатах. Толькі па шашы праносіліся машыны. Васіль з Нінай спынілі адну і хутка былі на аўтастанцыі. Пакінуўшы Васіля з сумкамі, Ніна пабегла да касы. Неўзабаве выскачыла адтуль радасная, з білетамі ў руцэ.

— Вось. Пайшлі.

— Пачакай. Дык гэта ж аўтобус на Мінск.

— Правільна.

— Але ж мы збіраліся заехаць да сястры!

Ніна моўчкі караскалася па прыступках у аўтобус. На сэрцы ў Васіля кіпела злосць. На ўсё на свеце. І на Ніну.

Прыйшоў вясёлы шафёр, уключыў радыё, схаваў свае паперкі ў шуфлядку, спытаў у пасажыраў:

— Ну што? Паехалі?

Аўтобус крануўся, пачаў набіраць хуткасць. Мільгалі прыдарожныя дрэвы і пабеленыя слупкі на паваротах. Ніна паклала Васілю галаву на плячо і закрыла вочы. Яна ехала дамоў.



## АЛЕСЬ БАДАК



*ЛЕАНІДУ ДРАНЬКО-МАЙСЮКУ*

У бары, дзе і бруд, і шум,
І ёсць адказ на ўсе пытанні,
Ты праганяеш лёгкі сум
Пяшчотным вершам пра каханне.

У ім і музыка, і смех,
У ім цвітуць пад небам ружы.
Іх дзіўны водар, нібы снег,
Над нашым столікам закружыць.

Закружыць, ціха паплыве
Далей, далей па шумным бары.
Былое ўсмешкай ажыве
У дзяўчынкі юнае на твары.

А водар, хмельны, як віно,
Ужо плыве у кут далёкі,
Туды, дзе сумна і даўно
Сядзіць жанчына адзінока.

Яна адчуе гэты пах,
У пальцах келіх здрыганецца,
І на зажураных вачах
Сляза дрыготкая прачнецца.

## Д'яблавы сеткі

Прыгажуня, дзівачка, какетка,
Ну, адкуль табе ведаць было,
Што расстаўлены д'яблавы сеткі,
Дзе каханне тваё расцвіло.

Ты ляцела даверлівай птушкай,
Ты наіўнаю рыбкай плыла,
І ля воблака белай падушкі
На світанку зара узышла.

А пасля былі новыя ночы,
Ды адкуль ты магла зразумець,
Што зманіць могуць любыя вочы,
Ды і здрадзіць — развіднее ледзь.

Што ты толькі забава,
ты проста
Адпачынак ад спраў і сям'і...
Стане ясна ўсё гэта з узростам,
І з пакутамі, і са слязьмі.

У руках, нібы ў сетцы, ты б'ешся
Над абрывам у лёсу свайго.
Можа, вырвешся, можа — сарвешся,
Так і не зразумеўшы ўсяго.



Не ўсё збываецца, але
Жыве ў душы употай...
Ляжаць лісты твае ў стале,
Стаіць ля вазы фота.

І ты прыходзіш, як раней,
Вясёлая такая ж.
Вось толькі крышачку радзей
І крышачку чужая.

І я не ведаю зусім:
Цябе я выкрадаю,
Альбо, украдзеную ім,
Назад сабе вяртаю?..



МІКОЛА КУСЯНКОЎ

# ЯВАР З КАЛІНАЮ

РАМАН

Якая ж паганая была я ў гэтую хвіліну! Ей шкада было развітвацца з лодачкамі — хто ж не беражэ падарунак; але яна аддавала іх, і я пазбягала глядзець ёй у вочы, бо я ж бессаромна ашуквала яе — не ў Гомель ехала, а ў Мінск — вунь дзе патрэбны былі мне яе лодачкі! Яна аддавала мне іх, а я нібыта яшчэ і не хацела браць: маўляў, маці абяцала купіць у раёне туфлі, якія толькі ёсць модныя. Маці-то і праўда памелася, бо рабіла ж у лесе, а гэта якія-ніякія грошы, але дзе яна купіла б такія лодачкі — іх, можа, ніколі і ў раён не прывозілі. Колькі жыла, не бачыла такіх лодачак, таму ж і прыйшла, каб непрыкметна выцыганіць іх у класнай, і вось ужо яна дастае іх з нейкай шуфлядкі і падае мне, каб я іх памерала. Божа, якія ж яны былі прыгожыя! І акурат на маю нагу. Першы раз прайшла на высокіх абцасіках, ажно хітнулася трошкі. «Бяры, Зоя, не адмаўляйся,— сказала класная,— насі на здароўе, хай хоць табе ў іх пашчасціць...»

А потым яна зноў апусцілася на канапу, пальцамі вочы прыкрыла дый кажа: «Ты ўжо даруй мне, Зоя, не па-нашаму выйшла. Не застаўся ён у Гомелі, не захацеў быць памочнікам у прафесара, паехаў настаўнікам у вёску. Сястра пісьмо прыслала. Такі ж дурненькі, як і яго брат. Дык, можа, і твая праўда, што не паслухалася ты мяне. Толькі ж не апраўдвайся, у Мінск едзеш, я ж ведаю. «Як набралася моцы матчына дачушка, паляцела да сонца пералётнай птушкай». Ляці, Мінск яшчэ прыгажэйшы, чым Гомель. І сталіца. Абы не тут, абы не ў Заліп'і гібець. Ды яшчэ, не давядзі Гасподзь, за Гаркушам. Мой жа хоць быў светлая галоўка, а гэты ж цёмненькі, дык і яшчэ больш апантаны, а яшчэ ж і культуры аніякай, бачыла б ты, як ён вызверыўся на мяне ў лесе. З вазка сагнаў, адну сярод ночы, але калі большага сабе і не дазволіў, дык таму, што я ж усё-ткі настаўніца, чужы чалавек і ва ўсіх на віду, а як ты будзеш яму свая і ніхто вас у хаце вашай не ўбачыць, дык ён жа і валасы твае на кулак накруціць, толькі скажы яму насуперак слова...»

---

Заканчэнне. Пачатак у № 1.

Пачуў — да канторы падкаціў газік, а потым і Загорцаў гукнуў пад акном: прыехала праверка. І я пайшоў, яшчэ не ведаючы, на якую іду галгофу.

Начальнік з «Леспраекта» не стаў нават знаёміцца са мною, толькі зірнуў, як на пустое месца, і злёгку кіўнуў галавою. А я, хоць ні разу раней яго і не бачыў, пазнаў грознага начальніка, бо шмат пра яго чуў. Былі ў яго дзве мянушкі: Дзядзька з Масквы і Гулівер, і абедзве адпавядалі яго знешнасці. Пад два метры ростам, валасы мудрона паблытаныя, як быццам ходзячы па лесе, ён лесам і расчэсваўся; адно вока трохі прыплюснутае, пашкоджанае — таксама, відаць, ідучы па гушчары, не надта бярогся; кашуля на грудзях наросхрыст, рукавы закасаныя,— не гарадскі з выгляду быў «дзядзька». Ну а таксатара звычайна правяраюць у прысутнасці работнікаў лясніцтва, таму і ехалі мы ў дзевяноста пяты квартал учатырох: Гулівер, я, ляснічы і Гаркуша.

Лесаўпарадчык адразу бачыць, які спец яго правярае. Гулівер быў таксатарам вышэйшага класа. Адзін беглы позірк на мой а́брыс, на запіс у журнале таксацыі, на лес, мною апісаны (а нельга ж забываць, што было ў яго адно вока), і ён, не збаўляючы кроку, згодна ківаў галавою — усё ў мяне ў парадку. Мы ўтрох ледзьве паспявалі за Гуліверам, а ляснічы, які не прывык хадзіць пешкі, бо ездзіў па лесе на матацыкле, разоў колькі ўжо і спатыкнуўся. Часам мы перакідваліся з Гуліверам адным-двума словамі, і тады ляснічы рабіў выгляд, што таксама разумее, аб чым гаворка. Што ж да Гаркушы, дык ён раптам пачаў праяўляць яшчэ большую, чым ляснічы, актыўнасць. Выступіў наперад і, з незалежным выглядам ідучы побач з Гуліверам, стараўся зазірнуць у мой журнал таксацыі, які злёгку прыпадымаў на хаду Гулівер, каб паглядзець, што ў мяне там напісана. Ляснічага і мяне Гаркуша болей не заўважаў, з Гуліверам жа трымаўся, як роўны з роўным, і я ўжо здагадваўся, што схватка двух тытанаў — Гулівера і Гаркушы, ці, лепей сказаць, Гуліверавай «тэорыі» і Гаркушавай «практыкі» становіцца непазбежнай.

Першая іх сутычка паказала, што Гаркуша пераацэньвае свае магчымасці. І пусціў бурбалкі Гаркуша на паўнаце. Калі не ўлічваць адну тонкасць, дык паўната — гэта калі таксатар вызначае, наколькі густы той альбо іншы лес. А якраз быў спелы бор, сосны — не кожную абхопіш, але раслі яны адна ад адной далекавата, і гэта ўвяло ў зман Гаркушу. Таксатары ведаюць: лес як быццам і рэдкі, але дрэвы тоўстыя, і таму ўсё роўна паўната высокая, але Гаркуша не чуў пра такую «тэорыю» — забег наперад Гуліверу і, чаго ніколі не заўважаў я за Гаркушам, у голасе яго пачуліся высокія, амаль істэрычныя ноткі:

«Што такое? У гэтай радзі́не паўната ноль сем? А якая ж тады яна ў чыстым полі — можа, больш за адзінку? Таксацыя, называецца!..»

Гулівер абыякава зірнуў на Гаркушу і рушыў далей. Гэта зусім збіла Гаркушу з панталыку, спачатку ён нават трохі адстаў ад усіх, але, прагнучы, мабыць, рэваншу, усё ж вырваўся ўперад і пайшоў упоравень з Гуліверам, зноў час ад часу заглядваючы разам з ім у мой журнал.

«Стойце! — Гаркуша энергічна ўскінуў руку і абвёў усіх тым загадным позіркам, ад якога мне зрабілася ніякавата.— Гэта тут, павашаму, вышыня дваццаць метраў? — Яго поўны гнеўнага дакору позірк не абяцаў нічога добрага нават самому Гуліверу.— Дваццаць метраў?..»

Гулівер дэманстратыўна адвярнуўся ад яго, пазяхнуўшы ў далоню:

«А колькі ж па-вашаму?»

«А вось я зараз вам скажу — колькі! — Гаркуша сарваў з галавы і чмякнуў вобзем форменную фуражку.— Паказвайце дрэва!..»

Напэўна, усе мы падумалі, што фуражку Гаркуша чмякнуў аб

зямлю толькі таму, што гэтак у ім выбухнуў пратэст, але, як потым аказалася, яна яму проста замінала б. Ды як бы ні было, Гаркушава рашучасць зрабіла на Гулівера пэўнае ўражанне, бо ён зацікаўлена зірнуў на саманадзейнага дзівака і сказаў:

«Ну што ж, прадэманструйце, хто вы ў нас — Цюрын ці Анучын. Вось вам сярэдняе дрэва,— Гулівер ляпнуў далоняю па кары не вельмі старой хвоі,— называйце вашу вышыню, з дакладнасцю да аднаго метра, а потым мы яго павалім і памераем».

«Эх вы! — Пачуццё невыказнай крыўды перапаўняла Гаркушу.— З дакладнасцю да аднаго метра! А да паўметра не хацелі?.. Анучын, Цюрын!.. Вас і Гаркуша павучыць!..»

Вышыню дрэва таксатар мерае часцей за ўсё невялічкім, трохі падобным на школьны транспарцір, прыборам — на далоні месціцца; аўтар яго — Макараў, чалавек, безумоўна, вучоны, аднак «практык» Гаркуша вымяраў вышыню такім арыгінальным спосабам, да якога не дадумалася яшчэ сусветная навука.

Гаркуша падбег да «сярэдняга» дрэва, і вось ён ужо крокамі імпэтна адмярае ад яго нейкую сваю адлегласць.

«Во ў мяне кадры, га? — Гэта ляснічы фамільярна крануў плячом Гулівера.— Тэатр аднаго акцёра, не горш, чым у вас у Маскве, праўда?»

«Ціха! — Павышанай увагай да кожнага Гаркушавага руху Гулівер даваў зразумець ляснічаму, што яго іранічны тон не зусім дарэчы.— Вунь... ваш парубшчык вязе дровы, у яго сякера, павалім дрэва».

Ляснічы ўладна гукнуў, і перапалоханы няголены стары падбег з сякераю, але дарма ён кляўся і бажыўся, што ў яго ёсць на дровы «білет», толькі забыў дома — ніхто не зважаў на старога, бо ўсім было цікавей назіраць за Гаркушам.

А Гаркуша пастаяў, акінуў крытычным позіркам «сярэдняе» дрэва і павярнуўся да яго задам. Расставіў ногі на шырыню плеч. І — трэба было бачыць, як прыгожа нагнуўся Гаркуша (вось дзе яму была б лішняй фуражка), як павыразнелі на напятых ззаду штанах масляніста-брудныя смаловыя плямкі — не на крэсле ў кабінеце сядзеў чалавек, а больш на пнях ды паваленых дрэвах; як знік і без таго непрыкметны, а цяпер і зусім падабраны, падцягнуты к самаму пазваночніку Гаркушаў жывот; як злёгку ляпнуў Гаркуша далонямі па кірзавых халявах і ёмка абхапіў іх па голенях,— усё гэта трэба было найперш бачыць; але ж трэба было яшчэ і чуць Гулівера, які, на міг апярэджваючы кожны Гаркушаў прыём, асэнсоўваў яго з навуковых пазіцый, падводзячы тэарэтычную базу пад гэтую загадкавую пакуль што для астатніх Гаркушаву «практыку».

Праўда, на самым пачатку Гуліверу перашкодзіў няголены стары. Двойчы збіты з толку (не спыталі білет на дровы, а тут яшчэ і гэты незразумелы Гаркушаў цырк), стары па-прасцецку мовіў: «Людцы добрыя, каму ж гэта ён с...у паказвае?» Гулівер паморшчыўся і выразна хмыкнуў: пры яго даволі анархічнай знешнасці быў ён усё-ткі масквічом, інтэлігентам,— пад яго нецярплівым позіркам стары змоўк, а Гуліверу давялося зноў пачаць свой навуковы каментарый.

«Ідэя заключаецца ў тым, што нагнуцца ён павінен да строга вызначанага ўзроўню. Так і ёсць, вы бачыце: бровы ў яго ідэальна на ўзроўні каленяў. Цяпер з такога становішча ён пастараецца ўбачыць вяршыню дрэва. Трэба, каб вока назіральніка, ніз шырынкі і макаўка дрэва аказаліся на адной лініі — лініі візіравання. Вы бачыце — вось ён адступае назад, цяпер трохі падаўся ўперад, вось... глядзіце — ён злавіў лінію!.. Цяпер яму застаецца толькі памераць адлегласць да дрэва — такой будзе і яго вышыня, бо ў аснову гэтага метаду пакладзены прынцып раўнабедранага трохкутніка...»

«...Васемнаццаць метраў сорак пяць сантыметраў»,— Гаркуша і

вокам не маргнуў, такой звычайнай для яго была гэткая звышдак насць — сорак ды яшчэ і пяць сантыметраў. Гулівер, які да гэт здавалася, усур'ёз прымаў Гаркушу, недаверліва наставіў вуха, у нічага ж адвісла ніжняя сківаца. Тым больш агаломшаны быў голены стары, бо ён увогуле не мог спасцігнуць, што тут адбывае і калі Гулівер паказаў яму рукою на Гаркушава дрэва і сказаў: «Сячы», стары з перапуду паваліў яго за адну хвіліну.

Ну што ж, Гаркуша, зараз мы праверым тваю дакладнасць. Я прыклаў канец рулеткі да камля, а Гаркуша, патроху аддаляючыся ў напрамку да вяршыні, пачаў яе размотваць. Але не, гэты нумар у яго не прайшоў. «Для чысціні эксперыменту» Гулівер перахапіў у Гаркушы рулетку і, размотваючы яе, сам пасігаў уздоўж дрэва. Прыклаў стужку да вяршыні, мацней напяў і паглядзеў на дзяленне...

Ён вярнуўся да камля, сеў на яго, і мы для Гулівера перасталі існаваць — так глыбока ён задумаўся. Рассеяны позірк яго заблытаўся недзе ў бухматым сасновым голлі, а можа, сягаў і вышэй, і ніхто не змог бы дакладна сказаць, пра што думае ў гэтым лесе высокі ў літаральным і пераносным сэнсе прадстаўнік маскоўскага «Леспраекта». Можна было толькі здагадвацца, што яго думкі — такая ж высокая матэрыя, як белыя воблакі, што плылі над лесам (апоўдні распагодзілася), як той вецер, што падганяў іх, бо калі ў цябе такое высокае службовае становішча, дык і думаць ты павінен гэтак жа маштабна, ну, напрыклад, аб тым, каб гэты народны спосаб замеру вышыні дрэў, так бліскуча прадэманстраваны толькі што вось гэтым Гаркушам, укараніць ва ўсім «Леспраекце»,— як падскочыла б дакладнасць таксацыі лесу, ад Калінінграда да Камчаткі падскочыла б, бо фантастычны ж вынік — памылка ўсяго на сем сантыметраў!..

Я, канечне, іранізаваў з Гулівера, бо прадчуваў ягоны хаўрус з Гаркушам, прадбачыў, што далей праверка маёй таксацыі пойдзе пад вялікім і нядобрым Гаркушавым уплывам. І я не памыліўся — Гулівер усё больш уступаў Гаркушу лідэрства. Паказваў яму чарговы мой запіс і, прапускаючы яго ўперад, чакаў, каб Гаркуша кіўнуў галавою. Кіўне, тады і Гулівер ставіць у маім журнале «птушачку» — таксацыя правільная. Але ківаў Гаркуша ўсё радзей, і гарэў я сінім агнём на вышынях — я ўвесь час іх завышаў, на метр а то і на два.

Ці разумеў Гаркуша, што ён робіць?.. Разумеў!.. Паўлета пасміхаўся, здзекаваўся, маўляў, ты са сваёй тэорыяй мне, практыку, і ў гаднос-кі не варты; але гэтага яму было мала, ён, як той баксёр, рыхт ваўся пасласць мяне ў глыбокі накаўт, і вось ён праводзіў гэты свой завяршальны ўдар — ён бракаваў маю таксацыю!..

І ён забракаваў яе. Гулівераў твар усё болей змрачнеў, ён пачаў адставаць ад Гаркушы, а потым і зусім спыніўся.

«Усё,— сказаў Гулівер,— колькасць перайшла ў якасць — брак. Шкада мне цябе, хлопец (ён пазбягаў глядзець мне ў вочы), але давядзецца табе яшчэ раз прайсці па сваіх слядах, скарэкціраваць вышыні».

Хто быў таксатарам, той мне паспачувае: маскоўская праверка забракавала работу! Чорная пляма ляжа на ўсю экспедыцыю, і не хутка ад яе адмыешся, доўга будуць успамінаць твой брак, і да цябе першага будуць ехаць цяпер усякія, якія толькі можна прыдумаць, праверкі. І ўсё праз дабрадзея Гаркушу. Раней любой кпінаю ён не так абражаў мяне, як цешыў, а гэта ўжо была не кпіна,— ён проста тварыў зло, і тварыў свядома, бо не мог жа ён не разумець, што яго дамарослы спосаб дакладны вынік мог даць толькі выпадкова. Дык хай бы Гулівер нарэшце сказаў: усё, хлопцы, пажартавалі, і досыць. Але ён толькі па-ідыёцку падыграў Гаркушу.

Добра, хоць падтрымаў ляснічы. Па дарозе да машыны крануў за локаць і сказаў: «Хай ідуць паперадзе, карыфеі, а ты не бяры ў

галаву, канчатковы акт падпісвае лясніцтва, мне і рашаць. Такой бяды, вышыню надтачыў. Лес усё роўна расце ўгору, дык яшчэ і на дзесяць метраў падскоча. Раслі б так мы з табою — у сэнсе, рабілі б кар'еру...»

Ён супакоіў мяне, і я ўжо мог падзівіцца, як дружна, быццам даўнія знаёмыя, ішлі наперадзе нас Гаркуша з Гулівeрам. Чаго добрага, падумаў я, «практык» Гаркуша прызнае «тэарэтыка», ды яшчэ і маскоўскага, а нікога ж у лесе ён роўным сабе не лічыць. Хаця — я тут жа ўспомніў — быў адзін выпадак. З таго часу, як паганяў нас каля Пясчанай Рудні калгасны бугай, не мог забыць Гаркуша адважнага каморніка. «Ну і зух, так управіцца з бугаём, ніколі б не падумаў!» І праўда, ад зялёнага начальніка наўрад ці можна было чакаць такога «практычнага» спрыту. Але ён прадэманстраваў яго, ды так пераканаўча, што сам вялікі «практык» выступіў толькі ў ролі яго асістэнта. І тым большую павагу павінен быў выклікаць у яго Гулівер, першы «тэарэтык», які па вартасці ацаніў і прызнаў ягоную «практыку».

Я злавіў сябе на тым, што згодзен прынесці сябе ў ахвяру: хай бэсцяць маю таксацыю, абы высокая тэорыя рэабілітавала сябе ў Гаркушавых вачах — можа, тады ён перастаў бы пагарджаць і мною. Але мяне, гэтак жа як і Гаркушу, чакала горкае расчараванне. Перш, канечне, Гулівер аддаў належнае мне: склаў у канторы лясніцтва акт і пералічыў у ім усе мае памылкі. Гаркуша мог святкаваць перамогу. Але рана, рана! Выйшлі з канторы, і вось тут Гулівер разыграў на развітанне гэтую выдатную сцэну.

Адной нагой ён быў ужо ў газіку, але раптам, быццам нешта ўспомніўшы, затрымаўся і, ступіўшы бліжэй да нас, бо мы ж праводзілі яго і стаялі яшчэ каля ганка, пранікнёна звярнуўся да Гаркушы:

«Ваш спосаб вымярэння вышыні дрэва — выдатны ў сваім родзе, гэта народная мудрасць, фальклор, і з тэарэтычнага боку ён не можа быць аспрэчаны. Але, на жаль, я не магу вам абяцаць, што ён знойдзе шырокае прымяненне ў лесаўпарадчай практыцы. Згадзіцеся, не кожны таксатар зможа так нізка, як вы, нагнуцца, каб зірнуць угору між ног і з-пад паха звізіраваць на вяршыню дрэва, тут трэба мець спартыўную фігуру, а па-другое, як бы вам сказаць,— спосаб не зусім прымальны з эстэтычнага боку, дый з этычнага — гэты ваш мудры стары меў рацыю: поза трохі абразлівая для лесу... Але я быў вельмі рад з вамі пазнаёміцца...»

Уеў-такі напаследак Гаркушу! А як ён думаў, аднаму яму пацяшацца з іншых? На твары ў вялікага «практыка» адбілася прыкрае недаўменне: гэты маскоўскі спец толькі што ўхвальна яму падтакваў, і раптам так зганьбаваць яго народны спосаб! Гаркуша безнадзейным позіркам правёў Гулівeраў газік і пабрыў моўчкі дахаты.

А мяне ляснічы запрасіў у свой кабінет — яму трэба было са мною пагутарыць. Вось што значыць разам ратавацца ад калгаснага бугая: паміж намі не засталося і каліва той дыстанцыі, якою адмяжоўваўся ён ад мяне вясною. Цяпер ён сам задаў размове цёплы і даверлівы тон:

«Ну вось, ты сам бачыш, што гэта за ўнікум: яго практыка падатрэ нос любой тэорыі! Падумаеш, нейкі Макараў: у яго там і стрэлка з грузікам — зямную гравітацыю задзейнічаў, а яшчэ ў яго і прынцып падабенства трохкутнікаў,— на ўсё плюнуць і расцерці, вучыцеся ў Гаркушы: нагнуўся, пад яйцы сабе зірнуў, і, калі ласка — вышыня дрэва!.. Ну а калі таксатар — жанчына, і не ў штанах, а ў спадніцы — як быць ёй? Ён пра гэта падумаў?..

Вось такія, браце, у мяне кадры. Табе добра: ты аббег гэты мой лес і паехаў, а мне з імі працаваць. Хаця... я таксама доўга тут не засяджуся... Слухай, даўно я ў цябе хацеў пацікавіцца: гэта праўда, што ты...— Яго ўказальны палец хваліста прабег у паветры.— Кажаш, трохі ёсць? Вершы, проза?.. А-а... Ну дык лічы, што табе пашанцавала, назірай, матай на вус, якія бываюць тыпы...»

Прылёг на канапу, заплюшчыў вочы: адчуваў сябе вельмі стомленым. Але не таксацыя мяне стаміла, стаміў Гаркуша. Раней, слухаючы яго самога і Зою Пятроўну, я неяк не вызначыў свае адносіны да Савы, хаця, здаецца, ставіўся да яе больш адмоўна, чым станоўча. А цяпер успомніў, як навучала яна Зою: не давядзі Гасподзь, каб ты выйшла за Гаркушу, бойся яго, як агню,— успомніў і падумаў: якая ж яна, Сава, была празарліўка!.. Бо вазьму сябе: за паўлета столькі сапсаваў мне Гаркуша крыві — адно здзеклівым пацвельваннем, а цяпер і гэтае трызненне, гэтая фантасмагорыя — ён забракаваў маю работу! Але ж мне з ім не векаваць, а яна ж, Зоя, усё сваё жыццё прынесла яму ў ахвяру!.. Дык бяжы ж, дурніца, ад гэтай чумы, уцякай куды вочы глядзяць, бо не такой беспрасветнай долі ты вартая!.. Стоп, гэта я ўжо забываю, што даўным-даўно мінула тое, калі яна была дзеўкаю, выбіралася ў Мінск — тады яна і магла ад яго ўцячы, а цяпер... Цяпер толькі яе памяць і яе запозненая споведзь пераносіць разам з ёю і мяне, яе слухача, туды, дзе ўсё ўжо адбылося.

Устаў з ложка, занатаваў учарашні Гаркушаў «фальклор», а яшчэ і прачулы маналог ляснічага. Задумаўся, і нават не адразу пачуў, як яна пастукала ў дзверы. Упусціла перад сабою свайго вернага рыцара, Валіка, і ў гэтую хвіліну я ўпершыню заўважыў, што ў яе светла-шэрых, ці, як назваў іх прыроджаны эстэт Гаркуша, у яе цудоўных «месячных» вачах за той лёгкай вінаватасцю — маўляў, зноў прыйшла тлуміць табе галаву — таіўся, як мне здалося, даўні і ціхі сум, а можа, нават і боль. І я раптам згадаў, як ляснічы — не ўчора, а яшчэ на тым жахлівым тарфяніку — з такім жа сумам у голасе сказаў: «Драма».

Нешта ён пра іх ведаў — пра Гаркушу і пра яго жонку, і мне здалося, што яго непрыязь да Гаркушы не зусім службовая. А што калі... Сам ён з Грабянцоў, і прозвішча ў яго Айчанаш, ды яшчэ і Віталій Фёдаравіч, і хаця Айчанашаў там паўсяла, але раптам ён... Толікаў брат — у таго ж таксама бацька быў Хведар?.. Тады можна зразумець і яго «братнюю» цікавасць да Гаркушы і да ягонай жонкі. Бо нядаўна спытаў: «Ну, як там, Гаркушыха цябе не крыўдзіць?» Я адказаў жартам: «Усё добра, толькі гаваркая, расказвае шмат, а тут, бывае, якраз рабіць нешта трэба». І тады ён крыва, нават зласліва ўсміхнуўся: «Цікава было б паслухаць, пра што яна там расказвае».

Дзіва што цікава! Тым болей, што якою ні здаецца яна мне шчыраю, я пачынаю падазраваць: нешта яна не дагаворвае, нешта ўтойвае мая «цвэйгаўская» жанчына, і, здаецца, утойвае нешта істотнае.

Але на чым гэта яна мусіла ўчора перапыніцца?.. Ага! Маці праводзіць яе на аўтобус у Грабянцы, але ўперадзе ў іх яшчэ Заліп'е, і яна не хоча ісці пасёлкам, каб яшчэ раз не трапіць на вочы Саве,— помніла, як падманвала яе — рабіла выгляд, што згодная ехаць у Гомель, а дакументы адаслала ў Мінск... А далей я напісаў у сваім «другім» журнале таксацыі — «працяг», і вось яно, тое, што яшчэ ў той далёкі летні дзень з ёй адбылося.

«Класная зняла грэх з маёй душы, даравала падман, і таму цяпер, калі маці вяла мяне на аўтобус, я не тое, што баялася зноў сустрэць класную, не, я не баялася,— проста мне было сорамна, бо я ж выклянчыла ў яе і яе лодачкі, яна аддала мне самае дарагое. А яшчэ чаму не хацела я ісці пасёлкам — а раптам каля канторы стаяў бы Гаркуша. Ніхто і ніщто ён мне, але здалося, быццам і з ім я абышлася не па-добраму...

Падышлі да Заліп'я, а перад намі дзве дарогі — адна пасёлкам, а другая аб'езная. А чамадан мы неслі — праткнулі ў ручку ёмкую палку, маці за адзін канец трымае, а я за другі, і вось прыпыніліся

на ростанях, дык я лёгенька і цягну за свой канец — на аб'езную дарогу. А маці кажа: «Пойдзем, дачушка, Заліп'ем, чаго мы, як зладзеі, людзей будзем цурацца». Яна цягне свой канец палкі — пойдзем вуліцай, а я не ведаю, што рабіць: і не хачу ісці Заліп'ем, а ў той жа час і маці шкада, бо я ж разумею, што ў яе на душы, здагадваюся, чаму яна так хоча прайсці паўз кантору,— у яе ёсць яшчэ нейкая надзея, што я перадумаю і не паеду.

Не, яна не вельмі пярэчыла, каб ехала я вучыцца. Але яна вагалася: і не хацела стаць у мяне на дарозе — хіба ж яна горшая за тых бацькоў і матак, што адно бачылі сваіх дзяцей гарадскімі ды вучонымі, але ж і дзеда слухала, свайго бацьку, бо той казаў: вось памру, а яна ў свет з'едзе — завыеш тады, адна ў лесе, ваўчыцаю. Дык маці і схілялася больш да дзеда — хай бы дачка не ехала нікуды, а што было б далей — я ўгадвала яе думкі. Здагадвалася, чаму яна так хацела правесці мяне Заліп'ем.

Маці ўмольна зірнула на мяне, і тады я згадзілася — пасёлкам дык пасёлкам. Я ўспомніла, што ўсё роўна класная да абеду ў школе, настаўнікі ж і на канікулы нешта там робяць, дык з ёю мы наўрад ці сустрэнемся, а хіба няма чаго рабіць і Гаркушу, каб толькі падсцерагаць мяне ля канторы?..

Ды вось мы ўжо набліжаемся да яе — так і ёсць, я ўгадала, што было наўме ў маці, бо яна так сумна і ціха мне гаворыць: «Баліць маё сэрца, доню. Ніхто цябе там не чакае, а тут вунь Гаркуша, памочнік ляснічага, ля акна стаіць, дык лепей не ехала б, а сама зірнула б на яго ласкавей, бо дзед твой праўду кажа — і начальнік, і не абы-які з твару...»

А Гаркуша і праўда стаяў каля акна — галавы не павярнула, а толькі павяла вачамі...

Адышлі трохі ад Заліп'я, а маці не губляе надзеі мяне вярнуць, бо зноў яна кажа: «Давай мы, Зоя, хвілінку пасядзім. Усё роўна аўтобус яшчэ не скора. А ў лесе, падзівіся, як хораша». Сказала, як быццам не ў лесе мы з ёй жылі, як быццам я не ведала, як у ім хораша і прыгожа. Ды звярнулі з дарогі, селі, і я міжволі агледзелася вакол — гэта ж быў той самы лес, па якім брылі мы некалі з Верай Макараўнай у абліваху. Пасля шмат якія дрэвы паваліліі, бо наледзь пааблмвала ім вяршыні, і цяпер на белых пнях выступіла празрыстая смала — я ўдыхала яе густы п'янкі пах. Маці як наўмысна выбрала, дзе сесці,— каб я надыхалася гэтага паху, ад яго кружыцца галава, дык, можа, маці і думала: трохі ачмурэе дачка — тут яна і ўгаворыць яе вярнуцца назад. А я дагары адкінулася на мох, вочы заплюшчыла ды слухаю, як недзе далёка-далёка кукуе зязюля. Слухаю і ўспамінаю: «Кукавала зязюля ў зялёным лесе, гадавала матуля дачушку Алесю». «Дык дзеля чаго ж ты мяне гадавала, матулька ты мая родная,— так сама сабе думаю,— каб я кужаль прала ды, як сама ты, кросны ткала на стражы?..» А зязюльчына «ку-ку» плыве праз хваёвы пах, як праз туман, не яснае, не празрыстае, як бывае раніцай, а павольнае, вязкае — так сцякае мёд з лыжачкі ці, можа, сама жывіца, смала хваёвая, аплывае ў леечку. Зязюля закалыхвае, і я ўжо, як праз сон, чую матчын голас: «А можа, вернемся, дачушка? Бо ці знойдзеш ты сабе недзе тую лепшую долю?» А я разамлела, дык неяк спакваля мне і захацелася паслухацца яе: Божа мой, падумала, куды я еду і навошта? І так, можа, колькі хвілін валодала мною гэтая нядобрая кволасць, я ледзьве ўжо не сказала — пойдзем назад, мама, ды не, я адагнала гэтую думку і хоць яшчэ нібыта спрасоння, але ўжо і цвёрда адказала маці: «Ну што вы мяне за Гаркушу сватаеце? Усё роўна як да рэвалюцыі: жаніх нявесты не бачыў, а нявеста жаніха, бацькі сышліся, пра пасаг дамовіліся, а маладых толькі ў царкве адно аднаму паказалі. Хай дзеду рупіць, у яго адно наўме — Гаркуша

начальнік, і ўнучка за ім красавалася б, і яму ў лесе раздолле было б, ну дык то ж дзед, а ты ж мая маці, дык падумала б, ну чаму ён абавязкова мая доля, калі я адным словам з ім толькі перамовілася, і яшчэ віламі па вадзе пісана, ці ўзяў бы ён мяне. А калі б і ўзяў, дык напэўна ж, і я павінна быць згодная, а я хачу за свайго хлопца пайсці, а не за начальніка. Хадзем, мама, перадыхнулі...»

Я паспяшалася хутчэй дагаварыць, бо з Заліп'я нехта ехаў на лясніцкім вазку. Сакаталі колы, ажно пыл з-пад іх, Варанок нёсся наўскач, і я падумала, што ніколі яго, запрэжанага, так не гналі. Мабыць, тое ж падумала і маці, бо яна неяк усцешна зірнула на мяне і спытала: «Ці не даганяюць каго?» Хто мог даганяць, мы таксама падумалі, мабыць, аднолькава, бо на вазку ездзіў часцей за ўсё Гаркуша. Але не, гэта быў не ён. Дагнаў нас лясніцкі конюх, глухаваты дзядзька Кузьма, суровы з выгляду — надта калматыя былі ў яго сівыя бровы. На нас не глядзіць, адно лейцы напінае ды нібыта строга, бо гучна, гаворыць: «Сядайце, Гаркуша загадаў падвезці». Маці, што была пасвятлела ўжо тварам, зноў панурыла вочы, лезе на вазок, а ногі ў яе не слухаюцца, бо не вярнуць нас загадаў Гаркуша, а толькі падвезці. Але ж гордая — адразу зрабіла выгляд, што нічога такога яна і не думала. «Дзякуй табе, Кузёмка,— выгукнула пад вуха фурману,— і Гаркушу дзякуй — паклапаціўся. А то, бач, чамадан — здаецца, нічога і не паклалі, а важкі, нібыта каменне ў ім...»

Я разумела сваю маці. Доўга вагалася, дзе будзе дачка шчаслівейшая — у сваім лесе ці за светам, а цяпер прыйшоў канец яе ваганням: калі Гаркуша не вярнуў, а яшчэ гэтым вазком нават паспрыяў, каб дачка хутчэй з'ехала ў свет, дык адна цяпер ёй дарога... Сядзела я на пярэдняй лавачцы і крадком пазірала на маці — развіталася, прасіла ў думках, каб даравала. І не ехаць я ўжо не магла, і шкада было пакідаць маці — худзенькую, згорбленую, бо з дня ў дзень у лесе з капаніцаю — нагнутая... Але побач з дзядзькам Кузьмой, сівым і ўсё роўна як на некага сярдзітым, маці здавалася яшчэ і нестарою, цяпер, калі яна змірылася з маім ад'ездам, вочы яе пазіралі светла і лагодна,— была яна ў мяне сінявокая, бо мае́ шэрыя вочы — бацькавы.

Так мы ладнага ўжо праехалі, і раптам маці аж падскочыла — так ухапілася абедзвюма за лейцы: «А куды ж ты вязеш нас, дзядзька Кузьма? Мы ж на шашу, на аўтобус! Ці ты чуеш, дзядзька, не тая дарога!» Але дзядзька, надта з выгляду непрыступны, адвёў ад лейцаў матчыны рукі, і вазок па ўтравелай дарожцы нырнуў у маладыя дубкі, што перад чыстай лагчынаю. Потым выскачылі да рэчкі, да Мелкага броду, і толькі тут, на чыстым, дзядзька Кузьма сярдзіта бліснуў на маці бялёсымі вачамі: «Вайна пачалася б і скончылася б, а вы там, на стражы, і не ведалі б ні храна. Ужо тыдзень аўтобус не ходзіць. Мост за Сасноўкаю абваліўся. Сапёры яшчэ рабілі. Дык усе на Галае пруць, на торф. Туды і вас вязу — Гаркуша загадаў».

Гром з яснага неба не скалануў бы мяне так!.. Думкі замітусіліся ў галаве. Я на Галае, а мае дзеўкі? А Толік?.. Дурніца, а куды ж ім дзецца, напэўна ж, і яны на торф падаліся. Не каля аўтобуса, дык на станцыі ўсе збяруцца... І Толіка ўбачу... Торф!.. Галае!.. Хутчэй, дзядзька, вязі, каб хоць на тарфяной машыне ў раён не спазніцца!..

На Галым спрадвеку капалі разакамі торф, выцягвалі на сухадол і сушылі, а потым машынамі, з высокімі бартамі, везлі на чыгунку, дык на тых машынах людзі і ездзілі ў раён ды на станцыю. Аднаго разу і мы з дзедам, калі я была меншая, дабіраліся так у раён — прадаваць чарніцы. Але з чарніцамі не паспеў на адну машыну, дык можна пачакаць другую, цяпер жа мне трэба было паспець на поезд, а ён цябе чакаць не будзе. І я вельмі ўстрывожылася, можа, нават, змянілася з твару, бо маці пачала мяне суцяшаць: «Такой бяды —

Галае. Як аўтобус калісьці не хадзіў, дык у раён толькі на торфе і ехалі. Дык і ты — сядзеш, як пані, у кабінку і паедзеш. А ў аўтобусе яшчэ і стаяла б...»

Яна супакойвала, а на душы ў мяне рабілася яшчэ трывожней. А што калі прыеду на станцыю, а там ні дзевак, ні хлопцаў, ні Волькі, ні Толіка? Сама ж я ніколі яшчэ і на поездзе не ехала і білета на яго не брала. Куды ж тады мяне вязе дзядзька?..

І раптам я адчула, што крыўдую, ды нават не крыўдую, а злую на Гаркушу. Навошта ён паслаў наўздагон гэты вазок? Тыцнуліся б у той прыпынак і вярнуліся б назад, бо ў Галае пехатой ісці было б позна. Вярнуліся б на стражу, а там хто ведае, можа, і перадумала б... А цяпер еду, і калі Гаркуша загадаў конюху адвезці мяне на Галае, дык чаму ён так зрабіў? Маўляў, едзь, вельмі ты мне патрэбная?.. Калі нават так, дык і тады дзедава праўда, дый Савіна, што да мяне ён неабыякавы. Хоць як, ды неабыякавы. А хіба я сама не ведаю — як? Хіба не бачыла, як ён пільнаваў мяне з акна канторы?.. Але ж тады ён не павінен быў пасылаць услед каня, бо тады ж выходзіла, што ён рабіў сабе на шкоду!..

Мне самой было дзіўна, што так доўга з маёй галавы не выходзіў Гаркуша: не заўважыла, як і Мелкі брод, і лагчына, і Кустоўе за лагчынаю, вёска такая, засталіся ззаду, а потым жа ехалі яшчэ і па лесе — ачнулася толькі на краі вялікага тарфяння. І тады зноў вярнулася мая трывога.

Тарфянне было шырокае і доўгае, з чыстага поля яно глыбока ўдавалася ў казённы лес, і мы цяпер ехалі паўз даўнія кар'еры. Каму сказаць, дык і не паверыць: у лесе і смольны дух, і кветкі мёдам пахнуць — вырасла сярод лесавых пахаў, а ў той дзень на ўсё жыццё ўсе мае ранейшыя водары перабіў адзін тарфяны пах. З таго часу мне і здаецца, што ўсюды пахне торфам. А бывае і наяве: еду у раён, а гэта ж толькі ў нас дровамі паляць, а далей, за Сасноўкаю, торфам, дык садзіцца тамашняя жанчына ў аўтобус, а ад яе торфам так і тхне — і зноў мяне ўдушша душыць. І тады як быццам еду я на той торф, на Галае... Спёка — дыхнуць няма чым. Даўнія кар'еры зараслі аерам, парылам, а яно ж і пахучае надта, ды азірнуся, бо я ж задам наперад сяджу, а недзе на сухадоле — вялікія чорныя штабялі, там машыны бяруць торф, дык адтуль вецер і даносіць яго ўдушлівы пах, як смурод усё роўна, і чым бліжэй мы туды пад'язджаем, тым ён робіцца мацнейшы.

І вось набліжаемся мы да тых чорных штабялёў, а разам з намі, можа, трохі раней пад'ехала і парожняя машына. Гляджу, а з лесу, з-пад крайніх дрэў, брыдуць дзяўчаты-грузчыцы, старэйшыя за мяне, а можа, мне так здалося, бо твары ў іх былі як бы нясвежыя — ад тарфянога пылу. Машына задам уперлася ў штабель, і дзяўчаты ў брызентавых рукавіцах заграбаюць і кідаюць адразу па дзве-тры таршыны ў кузаў. Зрэдку ж яны пазіраюць у мой бок, і мне было няёмка: яны глытаюць пыл, а я, чыста адзетая, стаю і чакаю. А была на мне цёмная кофта з замочкам і белым нашыўным каўнерыкам, дык ён, мабыць, і кідаўся дзяўчатам у вочы.

Я з чамаданам стаяла трохі воддаль, а маці падышла да шафёра і ўжо прасіла, каб ён узяў мяне ў кабіну. Шафёр стаяў ля пярэдняга кола — усунуў рукі ў кішэні штаноў і слухае маці. Я не чула, што ён сказаў, толькі заўважыла, што аблічча ў яго нейкае пахмурнае, нібы заспанае. Быў ён у кірзавых ботах, з закасанымі халявамі, дык і вывернутыя з сярэдзіны пяцелькі як зараз бачу. Маці пагаварыла з ім, вярнулася дый кажа: «Ну вось і паедзеш ты культурна. Пасаджу, а там ужо глядзі сама, доню...»

Але не пасадзіла яна мяне, а... падсадзіла... Барты ў машыны высокія, нарошчаныя, дык пакуль дзяўчаты яе загружалі, аднекуль з

поля падышоў, можа, які трактарыст — чорныя штаны і клятчастая кашуля былі на ім засаленыя, і такая ж зашмальцаваная вісела ў яго збоку чорная сумка. Што было ў той сумцы, я толькі пасля здагадалася, а пакуль мужчына гэты падышоў да шафёра, нешта яму сказаў, і яны падаліся ў цянёк. І вось у гэты момант я ўбачыла ля машыны яшчэ і нейкую бабульку — адкуль яна толькі і ўзялася. Была яна ў доўгай спадніцы і ў мужчынскім пінжаку, ну і хустачка на галаве, як у кожнай бабулі. Дык вось жа гэта старая! Хай мне Бог даруе, і ніхто хай не падумае, што я ўжо такая некультурная, бо што было, тое было: забегала старая, завойкала — невядома, каму скардзілася: «І кароў гоняць, і ў царкву звоняць, і дзіця ўс....ся, дык мала мне клопату ў аднаго ўнука, хутчэй едзь да другога, у яго ж, бач, дзіця таксама. А Божачка ты мой, дзе ж той шохвер?..»

Бедная мая маці!.. Вяртаецца «шохвер» з тым мужчынам да машыны, а ў наш бок нават і не пазірае. А на бабульку тым болей. Дзіва што! Як толькі дзяўчаты зачынілі задні борт, той мужчына сеў у кабіну і моцна ляпнуў дзверцамі. Ды пакуль не сеў шафёр, бо дзяўчаты яшчэ дагружалі машыну, маці кінулася да яго з галашэннем: «А мой жа ты галубок, а ты ж памеўся маю дачку ўзяць у кабінку!..» Шафёр павёў на мяне пасалавелымі вачамі дый кажа: «А-а, гэта ты... Артыстка... Палязай на торф, маладая яшчэ ў кабінках ездзіць...» — «Крыжа на табе няма, ты ж абяцаў»,— дакарала і маліла маці. Шафёр і на яе зірнуў нерухомымі, як у вала, вачамі: «Як хочаце. Я сёння апошні, болей машын не будзе».

Кінулася маці ўздоўж машыны, зірнула ўгору на торф. І, можа, паехалі б мы назад з чамаданам, бо конюх жа чакаў, пакуль мяне маці пасадзіць, але ж тая апантаная бабулька! Яна даўно ўжо была на торфе, ці то сама, як яшчарка ўскараскалася, ці то дзяўчаты падсадзілі, ды бачым, а яна бокам прыпала да торфу ды яшчэ і рукамі яго абняла, сцішылася, нібыта баялася, што «шохфер» яе назад сцягне. Дык маці і рашылася: «Нічога, доню, ездзяць людзі і наверсе. Яшчэ, можа, і лепей, там жа духата, у той кабінцы...»

Яна падсадзіла мяне і падала ўслед чамадан. Памкнулася яшчэ мяне пацалаваць, але я не магла ўжо так нізка з машыны нагнуцца, і тады яна перахрысціла мяне на дарогу.

І паехалі мы з бабуляй на торфе... Цяпер, кажуць, яго нейкімі машынамі з балота выбіраюць, а пасля ён ужо недзе як сухая крошка, а тады ж яго разакамі капалі, а гэта ж такія тарфяныя цагліны, то цэлыя, то паламаныя, дык на іх адразу і не ўсядзешся зручна, трэба сцягном намацаць лацвейшую мясцінку... Едзем, а што ж гэта?.. Брахаў шафёр, што машын болей не будзе, трохі ад'ехалі, а яны насустрач — адна і другая. І я падумала, хоць бы маці не азірнулася, як будзе ехаць назад, ды не ўбачыла іх, а то будзе ўбівацца, што праз хлуса шафёра так няўдала дачку выправіла. Хай бы яна лепей там памалілася, бо чула маё сэрца, што за мяне ёй трэба маліцца. І за гэтую бабульку.

Век не забуду таго жаху! Бо гэта ж я толькі так цяпер кажу — стрэліся дзве машыны, а як мы іх стрэлі ды як з імі размінуліся — не давядзі, Госпадзі, нікому такога і ў страшным сне пабачыць! Дарога полем, роўная і шырокая, а шырокая таму, што машыны снуюць туды-сюды і часта размінаюцца, дык дзе-нідзе ажно прытапталі і жыта з бакоў, а потым мы ўз'едзем на бальшак, абсаджаны бярозамі. І вось як выскачылі насустрач тыя дзве машыны, дык я і ўспомніла сваю маці. Не, тыя машыны як машыны — жвава звярнулі ўбок і саступілі нам адну каляіну, а наша!.. Нясе яе нячыстая сіла, і каб жа хоць трохі звярнуць, хоць трохі ўважыць стрэчнага, не, яна так і цэліць тым машынам у лоб, бо варочае не ўправа, а ўлева!.. Тады першая стрэчная як крутнецца ўбок, яе аж кінула ад дарогі ў жыта, а другая не паспела

адскочыць — як упаролася ў наш борт, а мяне як шпурнула на бабулю — ратуйце нас, людзі добрыя!.. Можа, з гарачкі азірнулася — а тая машына нахілілася і на двух колах абы-куды ў жыта коціцца, а над жытам ладная трэска ляціць і не падае — усё роўна як павісла ў паветры.

А як уз'ехалі на бальшак, нам з бабулькаю яшчэ весялей стала. Гасцінец разбіты ўшчэнт, і як пачало нас на торфе падкідваць! Яшчэ добра, калі яміна канаўкаю ўпоперак дарогі — машына тады падскоквае роўна, не хіліцца набок, толькі чуеш, як торф на дне кузава гупае — здаецца, сама сябе машына выхапіць з-пад торфу і памчыць далей парожняя. А як пацэлім у яміну адным бокам, а потым другім! Барты перакошваюцца, трашчаць, і як ні трымаемся мы за іх, то мяне шпурляе да бабулі, то яе да мяне. Бабуля трапілася цярплівая, цяпер яна ўжо не войкала, толькі, калі яе адрывала ад борта, зноў караскалася да яго, сцяўшы зубы, а з яе брала прыклад і я. Але ж у мяне яшчэ быў чамадан. Фанерны, але дзед яго пафарбаваў, дык быў ён вельмі прыгожы, і вось ехалі на вазку, дык маці ўсё хапалася за яго, каб хоць не нагрэўся на сонцы ды мёд у ім з глечыка не пацёк, а тут ён дзесяць разоў перакуліўся, з'ехаў у ногі і там, ля задняга борта, падлятаў разам з торфам, яшчэ трохі — і выскачыць з кузава. Дык і ўсё ў ім, мабыць, перамяшалася: і мёд, што выліўся з глечыка, і разбітыя яйкі, і сала — усё, што паклала ў дарогу маці, і мае прыгожыя плацці, і туфлі-лодачкі. Падбіла Волька: тапчы ўсё у чамадан, паступім ці не паступім, а назад не вернемся, пойдзем на будоўлю. І я горка заплакала, і ўжо не ведала, што мяне так моцна душыць — тарфяны едкі пыл ці мае слёзы. Як жа не пашанцавала табе, дзеўка: не ехала, дык і мост недзе за Сасноўкай не падаў, а варта было сабрацца, ён і ўпаў...

З таго часу тарфяны пах і душыць мяне. Дзе б ні пачула. Ды хіба ж торф вінаваты? П'янчуга-шафёр. Бо на бальшаку ён зусім ужо на злом галавы панёсся. Дарога простая, як страла, дык ён і разагнаўся. Разагнаўся, ды перад ім ужо тое калена, а ён, як ляцеў прама, так і паляцеў далей. Ды каб жа хоць не зачапіўся ён за бярозу.

Мамачка, маліся за сваю няшчасную доню!..»

## 9. Камень з прашчы

Не спадала спёка, і ў лесе, асабліва ў рэдкім хвойніку, пад нагамі чуўся нібыта шкляны хруст: перасох сівы лішайнік і пачарнелы, быццам падсмалены зверху, мох. Так і цяпер: прыкідваю ў думках, што запісаць у журнал таксацыі пра гэты рэдкі стары бярэзнік, і раптам — хруснула за спінай, азірнуўся — ну хто ж яшчэ, канечне ж, Гаркуша. Ехаў па калінаўскай дарозе, і здавалася — пранесла міма, дык не ж, заўважыў-такі, падкраўся і ўжо ўладкоўвае мапед на ножкі. А далей усё як звычайна: ён выбірае месца, дзе б сесці, выбраў, сеў і прысланіўся спінаю да бярозы, а я мусіў апусціцца ля другой, насупраць. Гаркуша хітравата пазірае на мяне, і я разумею: перш чым ён распачне чарговую сваю «памоўку», мне давядзецца стрываць яго рытуальны іранічны ўступ, у якім ён павінен адвесці душу — пакпіць з «пісацеля». Так і ёсць, пачынае.

«Дык што, можа, і пра любоў пішаш?..— Не дачакаўшыся адказу, фамільярна працягвае: — Пішаш, а як жа. Пра яе ўсе вы там пішаце. Але ў натуры, на практыцы, усё гэта, хлопцы, не так...»

Што Гаркуша да мозгу касцей практык, я ўжо зведаў на ўласнай скуры, але ніколі не думаў, што гэтае паняцце ў яго такое ўсеабдым-

нае. Гаркушава практыка — не толькі яго канторскія чарцяжы: дзе маладыя пасадкі, дзе ляда; не толькі тая ведамасць пераліку дрэў, на якой ён «у натуры» забіў камара, калі той паспеў ужо напіцца ягонай крыві; і не толькі дасціпны, хаця і ўшчэнт высмеяны Гуліверам, спосаб, якім ён мерае вышыню дрэва,— Гаркушава практыка — гэта, аказваецца, і яго багаты амурны вопыт, які, на яго думку, для мяне, «пісацеля», таксама павінен стаць павучальным.

«Пішы, таксатар, пішы,— закругляе свой кароткі іранічны ўступ Гаркуша,— але спачатку паслухай, як гэта бывае на самой справе».

.

«Ты памятаеш, як тыя дзве вучоныя морды вывелі мяне пад ручкі з навуковага інстытута. Ну дык вось... Вярнуўся я ў Заліп'е, а тут жа ў мяне лета, у лесе самы прыпар: тут прачысткі, а там гадавальнік палоць пара, тут па сену план давялі, а там прахадная рубка. Запарыўся я, свету белага не бачу, я ж і за ляснічага, і за памочніка, а тут яшчэ і пажары шлунне вымотваюць — падвечар на нагах не стаіш, так натомішся.

Але ўсё роўна: упадзеш на ложак, а сну ні ў адным воку. Бо зноў тая ж самая думка: «Ну а Зоя? Яна ўжо табе — ніхто? Яе табе лес твой заменіць?..»

Але што ж рабіць? Пайсці ды сказаць, не едзь у Гомель, а выходзь за мяне замуж? Дык не гэта ж галоўнае, замуж яна не пайшла б за мяне, а пабегла б, але ж як зларадна падскочыла б Сава: ага, хіба не я казала, сам ты ляснік горкі, дык за табою яна ні свету большага, ні сапраўднага шчасця не ўбача!.. Няма выйсця, не сплю і не ем і да такой давёў сябе кандыцыі, што Данілаўна мая галосіць нада мной, як над нябожчыкам: «Ды што ж гэта з табою, Адамавіч, мне ўжо людзі праходу не даюць: так ты яго глядзіш, адны скура ды косці, як з нямецкага палону».

А да ўсяго яшчэ нанёс мне ўдар і Мікалайка. Хаця, можа, не зусім і ён, бо ніякага не было б удару, калі б я выкінуў з галавы яго ўнучку. Але што было, тое было. Злавіў ён мяне ў канторы, не ведаю, як і ўлучыў момант, бо я ж кажу — не вылазіў з лесу.

І вось сітуацыя. Сядзіш ты ў казённай форме, на пятліцах па зорачцы, а не сёння-заўтра ўскоча і другая, бо ў ляснічага іх дзве, а калі Мажэйка паабяцаў перавесці ў ляснічыя, дык так яно ўрэшце і будзе, і тут уваходзіць такі, знаеш, старычок-лесавічок: картовыя штонікі з латкаю на калене, кацiныя пышненькія вусы, уваходзіць і хітра на цябе пазірае, як быццам ты з ім у нейкай змове. Сеў і, як свайго малодшага неразумнага хаўрусніка, нават не ўшчувае — адчытвае. «Так табе і трэба. Казаў — не марнуй часу, даўно б ужо зацугляў і аб'ездзіў, дык бач, як ты мяне паслухаў! А цяпер даганяй лашыцу. Маё дзела — старана, а то б не паглядзеў, што большая за дзеда, паспытала б лейчыны, хаця каму спрыяць: сядзіш тут, нос не падцёршы, не мог Саву пужнуць — хлопец, называецца, мужчына!»

Гэтак ён размаўляў са мною, памочнікам ляснічага! Ён мяне абражаў, мяне апаноўвала злосць, але я супакоіў сябе і сказаў: «А можа, мы з ёю так дамовіліся: яна ў Гомель, а я ўслед. Гэта па-першае. А па-другое, чаму ты сам не адвадзіў Саву, калі яшчэ было не позна? Напэўна ж, не адразу і ўнучка твая загарэлася? А калі ўжо яна едзе, дык і хай — гэта мая тактыка, я да яе наведвацца буду, не такі ўжо і далёкі свет, Гомель. А там пабачым, хто каго і куды перацягне».

Гэтую сваю «тактыку» я прыдумаў на хаду, прыдумаў і сам паверыў, што і праўда буду ездзіць да яго ўнучкі ў Гомель. Але чаму ён так яхідна ўсміхаецца? І што гэта ён кажа? «Дулю яна твайму Гомелю паказала. І Саве таксама. У яе Мінск наўме, а не Гомель. Абдурыла яна Саву».

Вось ён, гэты нечаканы ўдар! Пахіліўся бокам на стол, абапёрся локцем. Не Саве яна дулю паказала, а мне. Вось яно, каварства і любоў — Шэкспір як у ваду глядзеў. Памчаўся ў Гомель да Піпчанкі: тáбу, табý — шукаў работу, збіраўся з ёю жыццё ладкаваць. Дурань набіты! Хай ужо адцуралася, збегла, як ад чумы, «шаршэ ля фам», дык там жа хоць сам быў вінаваты — глынуў таго чарніла, пакваліўся на дармовае. А тут... У Гомель да яе будзеш ездзіць! Шукай ветру ў полі!..»

А Мікалайка між тым захапляўся ўнучкай: «Ух, аторва! Яшчэ не нарадзіўся той, хто мяне абдурыць, а калі б Мальвіне, дачцы маёй, не адкрылася, дык і мяне абвяла б вакол пальца».

Далей я ўжо не мог трываць, кажу яму ціха і даходліва: «Знікні, стары, і каб я цябе больш не бачыў. Разбірайся са сваімі брахлівымі ўнучкамі сам, а мне на твае мітрэнгі напляваць. Я за свайго Кузьму любую вазьму, такога дабра ўсюды хапае».

Турнуў старога, але, можа, і дарма. Бо мінуў дзень і другі, а яго ўнучка ўсё роўна не выходзіць у мяне з галавы, стаіць перад вачамі. І яшчэ мінулі цэлых два тыдні, а потым гэта і адбылося.

Я ўжо казаў: у канторы апошнім часам я не заседжваўся. Але ў той дзень прыехаў дырэктар лясгаса Мажэйка, і я мусіў застацца. Папраўдзе, я трохі злаваў на дырэктара за яго прыхамаць: прыедзе, сядзе за свой колішні стол і пазірае журботна ў акно, успамінае, як ён рабіў тут ляснічым, а што яшчэ ўспамінае, я, канечне, здагадваўся, і мая здагадка неўзабаве пацвердзілася, але пра гэта крыху пазней. А пакуль мяне самога нешта цягне зірнуць у акно, не дам рады ўседзець ні з Мажэйкам у кабінеце, ні ў самой канторы, дзе ляскаў на лічыльніках Загорцаў, не знаходжу сабе месца — хочацца падысці да акна. Такая містыка. І вось скажы, што нічога такога няма на свеце: падышоў да акна, зірнуў — а гэта яна, Мікалайкава ўнучка, угнула галаву і крадком прабіраецца разам з маткаю паўз кантору — ідуць на аўтобус. Перамагла-такі Сава; не мела значэння, куды дзеўка ехала — у Гомель ці ў Мінск, усё роўна перамагла. Як ні стараўся Мікалайка, каб звесці мяне з унучкаю, яму гэта не ўдалося, бо Сава настроіла яе і супраць мяне, і супраць самога Заліп'я.

І вось валакуць яны ўдваіх чамадан, а таго ж не ведаюць, што ўжо тыдзень, як не ходзіць аўтобус. Што тут мне рабіць? Як цвяроза разважыць, дык, калі яна паказала мне дулю, я меў поўнае права сказаць ёй на развітанне: ну і каціся, дзевачка, на ўсе чатыры стораны, свісну — такіх, як ты, сто прыбяжыць, а пакуль пацешуся, як папацягаеш ты свой чамадан — на шашу ды назад; але ў той жа час і дакараю сябе: як ні пагрэбавала б яна па сваёй дзявочай дурасці такім, як ты, хлопцам, калі яна хоць трохі запала табе ў душу, ты не можаш так пагана з ёю абысціся, бо які ж ты ўрэшце, як той казаў, рыцар, калі не дзякуеш ёй за адно тое, што яна табе проста спадабалася, а наадварот: нібыта помсціш ёй за гэта, злараднічаеш — пацягай туды-сюды з маткаю свой чамадан!.. І я падумаў: усё роўна яе не вернеш, не сёння дык заўтра, таму зраблю так, каб хоць успомніла мяне добрым словам. Паклікаў я Кузьму, конюха нашага, дый кажу: «Запражы Варанка, дагані Мальвіну Мікалайкаву, яна ў нас пасадкі даглядае, дык хай хоць ногі дарма не трудзіць, адвязі яе з дачкою на Галае, а то ж яна на шашу яе павяла».

Паехаў Кузьма, а я на ганку стаю, куру ды гляджу яму ўслед...

А потым успомніў — трэба зайсці да Мажэйкі. Зайшоў, а ён бязбожна курыць у маім кабінеце, попел атрасае, але не ў попельніцу, а міма, бо ён жа не бачыць яе, хоць яна і перад ім на стале, і мяне ён таксама, здаецца, не ўбачыў, такі невідушчы быў яго позірк.

Канечне, маіх адносін з Мікалайкавай унучкай Мажэйка не ведаў

і таму, думаў я, наўрад ці мог здагадвацца, што ў гэтую хвіліну рабілася ў маёй душы. Аднак я ў ім памыляўся, і гэта я зразумеў, як толькі ўвайшоў да яго ў кабінет... Я-то за ім заўважаў: жартуе, а ў вачах у яго настойваецца нейкі сум — так і цяпер на яго находзіла гэтая нуда, а сам жа чарнявы, валасы і вочы цёмныя, дык зірнуў на яго, і не па сабе мне зрабілася: чорная меланхолія, курыць і нагар міма попельніцы атрасае. Мне здалося, што гэта акурат маё перажыванне перадалося яму — значыць, заўважыў ён, распазнаў, як нядобра было ў мяне на душы, ён спачуваў мне, а тым самым разварэдзіў, мабыць, і свой уласны даўні боль. У мяне-то, калі цвяроза разважыць, быў толькі паганы настрой, бо не пайду ж я з-за нейкай дзеўкі тапіцца, хай сабе яна і прыгожая, а Мажэйка і праз дзесяць гадоў не мог забыць свайго няўдалага кахання, і гэта стала ягоным горам — нездарма ж ён і хадзіў яшчэ ў халасцяках, а ўжо ж было яму пад сорак.

Я правільна ўгадаў: у яго балела душа — маім і сваім болем. Канечне, было гэта ў яго не зусім па-мужчынску, ён перабольшваў сваё гора. Мне самому не шанцавала ў каханні: то аб'ездчык Гаршуноў пагоніцца з пугаю, то яшчэ горш — тая дурная гісторыя з Лідай, і свае няўдачы я, канечне ж, перажываў цяжка, гэта праўда, але ж не ўбіваўся я так, як Мажэйка, ні першы раз, ні другі. Дый цяпер, калі і з Зояй выйшла асечка, я ўсё-ткі браў сябе ў рукі. Але дапусцім, што мне і балела, і Мажэйка мог адчуць гэты мой боль — дык ён жа ў мяне быў свежы! А ў Мажэйкі? Дзесяць гадоў мінула, як нешта было ў яго з той Насцяю, першай Мікалайкавай унучкай, час лечыць — праўду кажуць людзі, а ён ніяк не можа яе забыць. Нешта незвычайнае. Канечне, самой дзеўкі шкада, пайшла за Каўпаком і як у ваду канула, нават і цяпер усе ў Заліп'і ўспамінаюць — прыгожая была, але ж не пра яе гаворка, а пра тое, колькі ў іх было таго кахання — ці не столькі ж, як і ў мяне з Зояй?.. Расказваў жа Мікалайка, як яна адпрэчыла яго, як гнала па лесе пад канвоем... Мая Зоя на мяне хоць стрэльбу не настаўляла!.. Словам, мяне ўжо нават цешыла, як перабольшана Мажэйка цяпер пакутаваў — ніяк не мог нагарам у попельніцу пацэліць. Дзівак, сказаў бы сам сабе: шаршэ ля фам, шукай жанчыну, досыць халасцякаваць, а ён сядзіць і, здаецца, на вачах у мяне сівее. «Свет клінам сышоўся на Мікалайкавай стражы,— ціха сказаў Мажэйка.— Усё паўтараецца, з той толькі розніцай, што майго ўжо нічога не вернеш... — Ён сумна паківаў галавою і горка ўсміхнуўся.— Адно што ўспомніш часам...»

Ты ж не забыў, пісацель, што там было ў іх на стражы са стрэльбаю?.. Памятаеш, як Мікалайкава ўнучка сарвала стрэльбу са сцяны і павяла іх у лес мераць незаконнае дзедава проса? А каго «іх» — таксама ж памятаеш: быў там яшчэ і фінагент Навіцкі. Дык вось сядзіць цяпер Мажэйка за сталом, пачарнелы, маркотны, і расказвае мне, што было пасля таго, як яна вывела іх пад канвоем са стражы.

А было тое, што ў лесе пракідаліся ўжо спелыя чарніцы, дык неўзабаве з арэшніку на іх і ўтаропілася нейкая жанчына-ягадніца. А побач з ёю прыціхла, нема разявіла раток здзіўленая дзяўчынка. Жанчына патармасіла яе за плячо, штосьці таямніча шапнула ёй на вуха — малая крутнулася і кінулася наўцёкі. А ўслед пабегла і жанчына. Вось тады фінагент і пачаў заломваць галаву — назад і ўніз, як конь на ворчыку, бо хоча ўлагодзіць Насцю. Узяла б, кажа, на плячо сваю ламачыну, а то ж вунь людзі бачаць — вядзе, як арыштантаў, з цябе ж дурной і смяяцца будуць! А яму, Мажэйку, бубніць: спужала б яна мяне сваёй бярданкай, камсамолка смаркатая, але ж палезь на ражон — пабяжыць куды ці напіша, пачэпіць бляшанку на хвост, і будзеш тарабаніць ёю па ўсім раёне. Ды ўрэшце не стрываў Навіцкі, пачаў на чым свет стаіць лаяць Насцю, тады яна ўпёр-

лася яму ствалом у спіну дый кажа: «А ну, шырэй крок, п'яная морда, а то смальну шротам і адказваць не буду, бо, можа, ніякі ты і не фінагент, а шпіён замежны, ходзіш тут з партфелем ды ўсякія сцежкі-дарожкі на план наносіш!..» Вось такая была яна дзеўка, тая першая Мікалайкава ўнучка, Зоіна дваюрадная сястра,— баявая, нічога не скажаш. Але чаму акурат цяпер Мажэйку спатрэбілася мне пра яе расказаць — пра гэта я спачатку нават не задумаўся.

Ды патроху ў Мажэйкавым расказе я стаў улоўліваць другі, патаемны сэнс. Бо што ён далей казаў? А вось што. Некалі, як гэта Зоя, тая першая Мікалайкава ўнучка хадзіла і ездзіла міма канторы, гэтак жа першы раз і ён убачыў яе з акна, і яна яму так спадабалася, што ён абавязкова дамогся б яе, нідзе б яна ад яго не дзелася, хоць і была калючая. Ох і калючая. І савецкай уладзе адданая. Бо прыйшлі яны ў той дзень на першае дзедава проса, а тут як з вядра дождж, дык яна — мераць, і ніякіх размоў! Мераць — хоць і абкладуць дзеда падаткам, абы высечкі пад лес пусцілі, а не займалі пасевамі. Камсамолка была — цяпер такіх пашукаць. А калі да апошняга лапіка абмералі, яна гарэзліва акінула Мажэйку сінімі, як неба, вачамі, зняла з пляча стрэльбу і пераламала яе па замку. Спрытна падчапіла пальцам патрон, выхапіла яго са ствала, паднесла да вуснаў і... свіснула, як хлапчук,— гільза была пустая. І другая таксама. Яна падкінула гільзы на далоні, крутнулася перад Мажэйкам і пайшла па лесе — туды, дзе была стража... І вось да гэтага часу яна стаіць у Мажэйкі ўваччу — з тымі гільзамі на далоні, да гэтага часу ён не можа забыць сінявокую Насцю, першую Мікалайкаву ўнучку, яму ўсё здаецца, што яна вось-вось павінна аднекуль вярнуцца — адтуль, куды яна сышла з Каўпаком...

Дык вось ён, патаемны Мажэйкаў сэнс! Сваёй няўцешнай журбою і сваім успамінам ён нібыта гаварыў мне: «Я ўжо дзесяць год не забываю, а што ж ты?..» І мне тады зноў пачулася тое, што сказаў ён у самым пачатку: «Майго ўжо нічога не вернеш», і пачулася нават больш за тое: «Майго ўжо нічога не вернеш, а хіба твайго нельга яшчэ вярнуць?..»

Гэтак ужо адзін Мажэйка, як з прашчы, шпурнуў мяне наўздагон Зоі. А быў жа яшчэ Загорцаў!.. Выйшаў з кабінета, і вось ён, перада мною: пакуль на яго «не найшло», жвава ляскае на лічыльніках, але ж я ведаю, настане яго чарговы чорны дзень, і ён зноў пойдзе невідушча сноўдаць па лесе, бо гэта ж не Мажэйку, а яго кахала некалі першая Мікалайкава ўнучка, праз яе ў небаракі памуціўся розум. Як зірнуў я на Загорцава, усё у мяне ўсярэдзіне пахаладзела: два ціхія вар'яты ёсць, не хапала толькі трэцяга. Такія Мікалайкавы ўнучкі: зачароўваюць кожнага, хто хоць раз неабыякава на іх зірне, і тады альбо дамагайся яе і нікому не ўступай, альбо назаўсёды пастаў на сабе крыж — як Мажэйка і Загорцаў. Дык не будзе ж у іхняй кампаніі трэцяга!..

Ішоў да сябе ў хату, каб скінуць кіцель, было ж горача, а ўвушшу чуўся ўяўлены мною Мажэйкаў дакор: «Майго ўжо не вярнуць, а на тваім месцы я вопрамеццю кінуўся б услед за ёю, падаў бы, а хапаў бы колы за спіцы, а калі ўжо яна паспела сесці на машыну, дык пабег бы і за машынаю, каб потым усё жыццё не караць сябе, што сам па ўласнай дурноце выпусціў з рук сваё шчасце».

Раскручвалася прашча: каб не выдаваць свайго хвалявання, я, не спяшаючыся, прайшоў міма канторы, патроху заглыбіўся ў маладую дуброўку, і тут — сарваўся камень з прашчы! — папёр напралом па гушчары, вырваўся на чыстае, прабег па дзвюх жэрдках над рэчкаю, не помніў, калі апынуўся па другі бок лагчыны, а потым і ў лесе за Кустоўем. Адмераў кіламетры два лесам, пот заліваў вочы, але я усё ткі ўбачыў... Эх, позна кінуўся наўздагон!.. Убачыў, як

насустрач мне паціху тупаў Варанок — адвёз Мікалайкаву ўнучку на машыну і цяпер мог не спяшацца...

У адчаі збочыў у лес, прыхіліўся плячом да першага камля і, помню, адразу ж падумаў: так, ёй пашанцавала з машынаю, але ж гэта значыць, што на станцыю яна прыедзе раней, можа, чым яна думала, і ёй давядзецца гадзіны дзве, а то і тры чакаць цягніка. Значыць, нельга губляць ні хвіліны, трэба бегчы і бегчы, ідыёт, як жа я не падумаў, каб завярнуць Варанка і пагнаць зноў на тарфянік. Далёка ззаду, цяпер толькі бегчы на Галае, ускочыць у першую ж кабіну і тармасіць шафёра, каб паддаў газу. Дагнаць і вярнуць — Мажэйкава праўда: ён свайго ўжо не верне, а тут усё яшчэ ў маіх сілах. Толькі бегчы, бегчы!.. Далей толькі помню: злева лес, а справа быццам зеленаватае шмаццё пены, начаплянае па ўсім тарфяніку на тонкія сцяблінкі парыла — гэта цвіла вятроўніца, парылам яе завуць тутэйшыя, нарэшце, скрозь пот, што залівае мне вочы, я ўбачыў і нагружаную машыну.

Яна ад'язджала ўжо ад штабеля, але шафёр, мабыць, падгледзеў у люстэрку, бяжыць чалавек і ўжо ледзь не падае; высунуўся з кабіны, і на твары ў яго я заўважыў тую натугу, якою ён нібыта падахвочваў мяне: ну, давай, давай, хутчэй, а то ж я цябе доўга чакаць не буду! Угробся неяк да яго і хвілін пяць не мог вымавіць ні слова — адсопваўся ды выціраў хусцінкаю пот. Падумаў, што і шафёр не надта гаваркі, а потым крайком вока стаў прыкмячаць, што не натуга ў яго на твары, як я перш падумаў, а нецярплівая прыкрасць; нечым прыгнечаны, ён стрымліваў у сабе не зразумелую мне злосць, бо час ад часу сярдзіта штосьці цадзіў праз зубы. Праехалі жытам і выбраліся на бальшак, з двух бакоў замільгалі бярозы і перад другім ці трэцім паваротам я разабраў, як шафёр з той жа прыкрасцю ў голасе, але ўжо гучней і выразней прамовіў: «Так я і ведаў — дабром гэта не скончыцца».

І ў той жа момант... Я штурхнуў дзверцы і, ступіўшы адной нагою на падножку, ірвануўся з кабіны — можа, хацеў саскочыць на дарогу, хацеў, абганяючы машыну, пабегчы туды, дзе адбывалася нешта страшнае?.. А можа, наадварот — хацеў кінуцца назад, каб нічога не бачыць, не чуць і не ведаць?.. Шафёр ухапіў мяне за локаць і асадзіў назад у кабіну, але я не зачыніў дзверцаў, хаця і выскачыць ужо не мог — так скаваў мяне ўсяго той жах. Уперадзе, па правы бок дарогі, стаяла, з адкінутым заднім бортам, парожняя машына, і вось ужо чацвёра мужчын асцярожна паднялі і паклалі на край кузава ЯЕ, так, яе, бо я здалёку пазнаў — была ж яна ў чорнай з белым каўнерыкам кофце; потым яны самі паўскоквалі ў кузаў, і аднаго мужчыну я ўгадаў — рудавалосы Вяршыла, настаўнік з Грабянцоў, ехаў, мабыць, са станцыі на парожняй тарфяной машыне, і вось цяпер яна развярнулася, і ён, Вяршыла, камандуе яшчэ трыма дзецюкамі. Яны прыўзнялі яе на двух пінжаках і перанеслі бліжэй да кабіны, але не паклалі, а толькі прыселі наўколенцы і беражліва трымалі навісу; шафёр у той жа момант зачыніў задні борт, і машына рушыла — здаецца, шафёр не ўскочыў яшчэ і ў кабіну.

У баку ад дарогі гарэў перакулены ўгору коламі «ЗіС», і вялізнае полымя, чырвонае і бруднае, завівалася ўверсе ў злавесны чорны віхор. Машыну, відаць, перакуліла двойчы: спачатку з яе вываліўся торф, а потым, стаўшы на колы, яна перавярнулася яшчэ раз, далей, за торфам. З гэтага боку, ад дарогі, торф здаўся раскіданым у бакі — відаць, яго ліхаманкава разграбалі, даставалі з-пад яго... Божа, няўжо яна ехала наверсе?..

Мы збеглі з шафёрам з адхона і не паверылі сваім вачам: на броўцы дарогі, пад тоўстай бярозаю, сядзела старэнькая бабуля — няўцямна глядзела на вялізны агонь і без перапынку хрысцілася. Мы падышлі да яе, шафёр нагнуўся і пакратаў старую за плячо: «Хто вы, бабуля?

Што з вамі?» Бабуля не адказвала, толькі яшчэ набожней стала тварыць крыж. Шафёр спытаў яшчэ раз, і тады старая, усё роўна як між малітваю, хуценька прагаварыла: «За сведку я тут, за сведку...»

Мы селі побач з ёю. Старая малілася і заадно скардзілася Богу — спачатку шэптам, а потым і ледзь чутна ўголас: «Госпадзі, забраў бы ты мяне ў сваё царства нябеснае, бо нажылася я і нагаравалася, а тое дзяўчо маладзенькае хай бы жыло яшчэ ды радавалася, паслаў бы ты яму на гэтым свеце шчасцейка, а мяне б да сябе ўзяў...» Яна малілася і скардзілася, а сама ўжо як бы і расказвала нам, што тут адбылося. Перакулілася машына, а тут парожнія машыны людзей з раёна вязуць, дык яны, тыя людзі, пакалечаных мужчын з кабінкі выцягнулі дый павезлі ў раён, а тады і дзеўку гэтую з торфу выграблі. А як яна сама ўратавалася, адзін Бог ведае, толькі помніць, яшчэ тыя людзі не падбеглі, а яна ўжо на ногі ўскочыла — кідалася, як сама не свая, бо ёй жа вельмі трэба да ўнука ў раён — дзіця глядзець паклікаў. А яны яе абмацалі хуценька ўсю — ці ўцалела, дый пасадзілі тут: прыедзе міліцыя, дык каб была за сведку...

Я ўстаў і пабрыў як сляпы. У скроню ўдарыла гарачыня — прайшоў паўз самае полымя. Нічога не бачу, адна чорная стужка перад вачамі. Потым адчуў — не магу ісці, падкошваюцца ногі. Апусціўся на траву. Чорная стужка перад вачамі, а над ёй светла — гэта ж лес і неба над ім. А лес — няйначай, наша Зарэчная дача, цягнецца ад Галага да шашы, па гэты бок Ліпы. Дык хутчэй туды, у свой лес — ад гэтага жудаснага здарэння, ад гэтага жаху!.. Хачу ўстаць на ногі і не магу. Бо куды ж я?.. Калі была жывая ды здаровая, дык кінуўся даганяць, ляцеў, як шпурнуты прашчаю камень, а як цяпер яе павезлі без памяці, пакалечаную, дык адразу ў лес, у гушчар?.. Вось ты і праверыў сябе, праверыў, які ты ёй адданы... Трэба ехаць услед за ёю, у бальніцу. Хаця што ж цяпер ехаць, цяпер галоўнае, каб выжыла...

Не памятаю, колькі часу я так сядзеў, ды раптам чую — пад'ехала міліцыя. Я не бачу, гарыць яшчэ машына ці ўжо не, яна ж у мяне ззаду, але, мабыць, гарыць, бо мужчынскія галасы чуюцца, як праз вату,— так бывае, калі нехта гаворыць па другі бок вогнішча. Міліцыянер кратае маё плячо, і тады ад дарогі даносіцца голас шафёра: «Старшой, ён тут ні пры чым, ён са мною ехаў!.. — І мне: — Гэй, друг, падымайся, едзем!..» — «Разумею,— сказаў міліцыянер,— на псіхіку падзейнічала...»

Напэўна, я сказаў міліцыянеру, што не паеду, бо ён такі меў рацыю: з псіхікай у мяне было не ўсё ў парадку, і я хацеў трохі пасядзець, каб супакоіцца. І, супакойваючы сябе, я падумаў: «А чаму я павінен ехаць услед за ёю? Сказаў жа шафёр: «Ён тут ні пры чым». Дык і праўда — пры чым тут я? Што яна мне, жонка? Ці, можа, яна была маёй нявестаю? Адно праехалі на вазку, ды і то разам з Савою. Калі б не Мажэйка з яго даваеннай легендаю, дык я і не падумаў бы за ёй бегчы, выкінуў бы з галавы, як тую ж Марусю ці Ліду, а яны ж таксама прыгожыя былі, можа, яшчэ прыгажэйшыя. Мажэйка! Даўно б закруціў з Лідкаю, яна ж у яго пад бокам, падначаленая,— і забыў бы даўняе, клін клінам выганяюць! А то расчуліў, як хлапчука: у яго калісь была Насця, ды загінула ў партызанах, і яму яе не вярнуць, а другую Мікалайкаву ўнучку нельга ўпускаць, дык бяжы, Гаркуша, не паўтарай яго памылкі. А тут яшчэ і Загорцаў. Стрэльбу цераз плячо — і пайшоў у лес партызаніць; усе думаюць — праз тую Мікалайкаву ўнучку, маўляў, нудзіцца, бо не можа забыць, а каб любога гуляшчая жонка таўкачом ні за што агрэла, дык кожны занудзіўся б... Але, дапусцім, у іх там нешта і было, і, напэўна, яны хацелі б вярнуць сваё колішняе каханне, дык і правільна: вярнуць можна тое, што было, а калі я са сваёю і блізка нічога не меў, дык што я цяпер павінен вяртаць?.. Але тады спытаюць: а чаму ж ты кінуўся наўздагон?.. А хто

бачыў, што я кінуўся?.. Бачылі дзяўчаты на балоце, што бег, каб паспець на машыну, але хіба яны ведаюць, чаму я даганяў яе? Ці мала бывае прычын. А шафёр таксама нічога не ведае, дзякуй Богу, незнаёмыя. А самае галоўнае, як бег — заўважыў на дарозе Варанка і саступіў у гушчар, атрымалася так само сабою, але цяпер гэта вялікі плюс — ні яе маці, ні конюху не трапіў на вочы — значыць, і не бег я на балота. А ўрэшце, якая каму справа да таго, куды ішоў я ці бег, каму я павінен даваць справаздачу? Толькі самому сабе, свайму сумленню. А перад самім сабою я чысты, я нічога ёй не абяцаў, сам выдумаў сабе гэтую дурную закаханасць, сам і пастаўлю на ёй крыж.

Я наўмысна пайшоў павольна, каб хто не падумаў, што я ўцякаю,— ад каго і ад чаго мне ўцякаць? — ішоў, кіруючы на лес, усё больш рашуча і ўпэўнена. Між тым лес перада мною падымаўся ўсё чарнейшы, бо гэта быў стары алёс,— паўз яго ўскраіну цякла вузкая балоцістая ручаіна. У сухое лета вады ў ёй амаль што не бывае, адна гразь, а па ёй высокія, як снапкі, і такія ж тонкія купінкі. Не прыдумаеш, як перайсці: ступіў на купіну, а яна хіліцца набок, і тады спяшаешся скокнуць на другую, такую ж хісткую. Хто ведае, калі б не тое балота, можа, я і супакоіўся б канчаткова, што ніякія гэта не ўцёкі. Але яно было, тое гнілое балота! І з'явілася спакуса перабрацца па купінах, бо інакш трэба было разувацца і падкасваць штаны, і я паддаўся спакусе, і вось я ўжо з другой купінкі скокнуў на трэцюю, але кожную наступную купіну я павінен быў выбіраць вачамі хутчэй, чым папярэднюю, бо сам сабою паскараўся тэмп і кожная наступная купіна нахілялася ўсё мацней — гэты мой балотны танец скончыўся тым, чым ён і павінен быў скончыцца,— абедзвюма нагамі я саскочыў з нейкай, можа, дзесятай купіны ў тарфяністую твань. Яна была вязкая — загусла, і я маліў Бога, каб хоць не пакінуць у балоце туфлі — пакуль выцягнеш адну нагу, другую засмоктвала яшчэ мацней... Потым доўга яшчэ брыў па густой крапіве, апякаў рукі і твар, ды ўрэшце скончыўся алёс, і я ступіў на сухадол — захрусцеў сухі мох пад нагамі...

Як прыгожа было ў чыстым бары, вось дзе можна вольна ўздыхнуць — усё ж ззаду!.. І тое дурное парыванне, калі я пабег, як лапавухі сабачка, за яе вазком, і тое страшнае відовішча, калі мужчыны паклалі яе, пакалечаную, а мо ўжо і нежывую, у кузаў, і тое брудначырвонае полымя, і бабулька, што хрысцілася і маліла Бога, каб узяў да сябе,— усё ззаду, ды нават і не ззаду, для мяне ўвогуле нічога не існавала, нічога такога я не чуў і не бачыў, і нічога не ведаў — ці мала дзе на свеце ў гэтую самую хвіліну адбываецца нешта страшнае: сутыкаюцца лоб у лоб машыны, падаюць і разбіваюцца ўшчэнт самалёты, гінуць людзі, але ж хіба не зразумела, што я тут ні пры чым — я не маю да гэтага ніякага дачынення! Дык уздыхну ж, вольна ўздыхну ў чыстым бары на поўныя грудзі і забуду пра ўсё, што там, на дарозе, толькі што ўбачыў...

Але ж праклятае балота! Яно як быццам ужо і ззаду, але на нагах у мяне яшчэ па пуду рудой тарфяністай твані, і гэтак жа, як ад яе, не магу адкаснуцца і ад таго страшнага, што ўбачыў і пачуў там, за балотам, і рад быў бы ўздыхнуць вальней, ды не магу, упаў ніц на гарачае ўдушлівае шыгалле, яно калола і казытала губы, шчокі, лоб, а нада мною нечы голас дакараў мяне, паўтараў раз за разам — збег, збег, збег!..

Ішоў па лесе — кроў біла ў скроні, і тое, што паўтараў у думках, гулка аддавалася ўвушшу: «Брыдка, брыдка!..»

Выбіўся на прасеку, што вяла ў Кустоўе, не заўважыў, як апынуўся ля крайняй хаты. У ёй жыў наш ляснік Вярбіцкі, удваіх з жонкаю, хлопцы іхнія пайшлі ў армію, там і засталіся на звыштэрміновай, ды недзе ўжо і пажаніліся, дык старыя, калі я іншы раз прыходзіў

да іх, сустракалі мяне як сына. Зрэшты, былі яны з выгляду не надта і старыя, усё ў іх ладзілася ў хаце, і скварка вялася, і чарка — не ў калгасе ж, дык прыйдзеш да іх, а яны абое маладжавыя, прыветлівыя, асабліва ў леснічыхі твар так і свяціўся лагодаю. Праўда, я трохі яе засмучаў. «Жаніцца вам трэба, Адамавіч,— казала яна мне,— а пакуль ішлі б да нас на кватэру, бо, можа, і дзве хаты, а людскай ніводнае». Намякала, што жыву ў казённай кватэры, а харчуюся ў Данілаўны. Свайму дабрабыту я не прыдаваў вялікага значэння, жыў не так для сябе, як для работы, дык бывала, што іншы раз і надгаладзь ішоў у кантору, таму не дзіва, што і раней выглядаў я трохі заморaным, ну а цяпер і зусім можна сабе ўявіць, як зіхнула, рукі ўскінуўшы, леснічыха: надта пакутніцкі і валацужны быў мой выгляд. Зірнула на мае ногі — гэта, канечне, быў малюнак: балотнай твані на штанах у палец, дзе нармальны чалавек у такую суш мог знайсці столькі гразі — аднаму Богу ды, пэўна, п'янаму вядома, яна, мабыць, і падумала, што я ў дыміну п'яны, бо яшчэ мацней зіхнула і з дакорам пахітала галавой: «Казала вам, Адамавіч, жаніцеся, а то, бач, няма куды прыткнуцца, адно да плоту». Яна не дагаварыла, бо, напэўна, твар мой скрывіўся ад яе слоў...

Не вітаючыся, прайшоў у другую палавіну, леснічыха памкнулася была ўслед, але Вярбіцкі адчыніў і зачыніў за мной дзверы — адразу скеміў, што справа тут сур'ёзная, і мужчынская павінна быць гаворка. Я апусціўся на лаву — канцом яна ўпіралася ў покуць, абапёрся локцем аб край стала і ўткнуўся ў далонь тварам. Вярбіцкі здагадаўся, што мне трэба.

...Я не стаў закусваць — мне трэба было хутчэй забыцца. І я ўжо не помніў, як Вярбіцкі клаў мяне на ложак, разуваў і — брыдка, канечне, брыдка! — сцягваў з мяне запэцканыя штаны. Я забыўся — праспаў ноч і яшчэ да абеду. Прачнуўся ж ад нейкага вельмі хатняга паху. А гэта пахла разагрэтым прасам. Павярнуўся ад сцяны — лагодная леснічыха прасавала мае казённыя, памытыя ёю штаны. Пачула, што прачнуўся, і на твары ў яе з'явілася хітраватая ўсмешка: «Ой, Адамавіч, падымайцеся ўжо, не ўмею я гэтыя рубчыкі наводзіць, дык, можа, не буду я, старая, і вучыцца — самі дапрасуеце».

І кашулю яна мне памыла. У чыстай белай кашулі, у адпрасаваных штанах («рубчыкі» навёў сам) я і пайшоў бадзёрым крокам з Кустоўя ў Заліп'е. Пайшоў другім чалавекам. Не, я не мог сказаць, што я ўсё забыў, я помніў, што было ўчора і пазаўчора, але я зразумеў адну вельмі простую ісціну: не трэба рознымі філасофіямі ўскладняць сабе жыццё. Успомніў Лёшку Гамона, вялікага шалапута, але цікава, што ў яго на ўсе філасофіі была адна свая антыфіласофія. На ўсё ён глядзеў проста, у тым ліку і на каханне, а пра жанчын казаў: не бяры лішняга ў галаву, удалося — карыстайся момантам, а не ўдалося — плюнь і не перажывай. Гэта, канечне, крайнасць, нельга быць па-свінску бессаромным і да ўсяго абыякавым, як Лёшка, але ж нельга і выдумваць сабе неіснуючыя праблемы. Бо калі на тое пайшло, дык хіба не выдумаў я сабе і гэту Мікалайкаву ўнучку — нібыта я пакахаў яе, канечне, выдумаў, а тады чаму я павінен адчуваць нейкую віну за тое, што не пабег за ёю далей — туды, куды яе павезлі? Усё, думаў я, трохі памудрыў, стаўлю на гэтым кропку і жыву далей так, як жыў, ні ў чым сябе не вінавацячы, бо я і праўда ж ні перад кім не вінаваты і нікому нічым не абавязаны.

Кладка над рэчкаю — дзве прачасаныя зверху жэрдкі, і я наўмысна імпэтней ступаў нагою, каб яны яшчэ мацней спружынілі, на сярэдзіне кладка ажно падкідвала мяне, дык і пад канец, гэтак жа падляцеўшы ўгору, я саскочыў на калляны, як ток, бераг. Прайшоў метраў сто лагчынаю і апынуўся ў маладым дубняку. Браўся ён так густа, што, калі б хто нетутэйшы, дык ніколі не падумаў бы, што адразу за

гэтым дубняком,— пасёлак, руку з гушчару высунуў — і тут жа лясніцкая кантора. Я гэта ведаў, але пра што не падумаў я, дык пра тое, на якія падзеі адразу, як толькі выйду з гэтага дубняку, натыкнуся.

I я ўжо трохі выткнуўся з яго, але міжволі падаўся назад і ступіў са сцежкі ў густы арэшнік. Бо я ўбачыў, як з таго канца, ад шашы, брыла паўз хаты і валакла свой аблезлы партфель Сава, вярталася з Грабянцоў са школы. Выгляд яе напалохаў мяне. Бо калі і прыклеілася да яе гэтая мянушка — Сава, дык акурат цяпер яна больш за ўсё саву і нагадвала, разгубленую, бездапаможную саву, якою яна бывае ўдзень, калі яе згоняць з патаемнага седала,— агаломшаная яркім святлом, яна нічога вакол сябе не бачыць. Усё роўна як навобмацак, трымаючыся воддаль ад штакетніка, Сава абагнула Лёшкаву хату і павярнула на галоўную вуліцу — гэта ўжо во тут, проста перада мною, напроці канторы. А каго я ўбачыў каля канторы — Мікалайкаву Мальвіну, Зоіну маці. Яна сядзела на ганку — локцямі апіралася на калені, а далонямі сціскала скроні. Нізка нахіленая, жанчына не адразу заўважыла Саву, але, мабыць, пачула яе крокі, трохі прыўзняла галаву, і з яе грудзей вырваўся працяглы стогн. Яна паволі прыўзнялася, але далоняў ад галавы не адымала і толькі, як ступіла ад ганка, ускінула ўгору кулакі і, пагражаючы імі наўздагон Саве, рушыла ўслед за ёю. «Сава праклятушчая,— галасіла Мальвіна,— адкуль цябе нячыстая сіла прынесла, каб не ты, яна б і не ведала, што ёсць ён недзе, той чужы свет, гэта ж ты яе палохала — жывую сябе тут пахаваеш, ты падбіла яе, каб ехала, ты жыццейка яе лішыла! Не ўцякай, паскуда, усё роўна даганю і кудлы твае куцыя павыдзіраю, каб і табе, акаяннай, балела так, як маёй доньцы баліць недзе!»

Гэта было жудаснае відовішча. З узнятымі кулакамі, Мальвіна ступала шпарчэй і шпарчэй, і вось яна ўжо бяжыць і даганяе няшчасную Саву, а тады і яна таксама пабегла. Схапілася рукою за сэрца і пабегла. Але я разумеў — яна не ўцякала: большага гора, чым гэтае, што звалілася на яе, калі яна ў Грабянцах, можа, ад таго ж Вяршылы пачула пра аварыю,— большага гора яна ўжо сабе не прыдумала б, дык і не баялася яна гэтай ахопленай адчаем жанчыны, што гналася за ёю, не баялася нават самай дзікай расправы — таму яна і не ўцякала, яна проста спяшалася ў сваю хату, спяшалася, схапіўшыся рукою за сэрца...

Нейкая жанчына выскачыла з двара і перагарадзіла Мальвіне дарогу.

Пачуўся конскі тупат, з-за канторы, з выгараджанага штакетнікам праезду, паказаўся запрэжаны Варанок, на вазку ж сядзеў Мікалайка, і зводдаль было відаць, які суровы і сярдзіты яго твар. Ля канторы Мікалайка спыніўся, узяў з ганка і паклаў нешта на вазок — здаецца, палатняную торбу. Калі да вазка падышла Мальвіна, стары нават не зірнуў на яе, і Мікалайку можна было зразумець: адзін ён быў супраць, каб яго ўнучка ехала чортведама куды, шукала там сваёй пагібелі!.. Яны сабраліся ў бальніцу, везлі перадачу, і я, быццам забыўшы, як выкінуў з галавы сваё прыдуманае каханне, раптам супраць сваёй волі падумаў: «Жывая... Галоўнае, што яна жывая...»

Напусціў на сябе бадзёры, малайцаваты выгляд і ступіў з густога дубняку — маўляў, вяртаюся з Кустоўя, а пра тое, што недзе нешта здарылася, нічагуткі не ведаю. Але бадзёрасць мая была як бы ліхаманкавая — напалову адна, напалову другая. Адна — тая, з якою выйшаў я ад Вярбіцкага: нічога не бачыў і не чуў, таму і няма ніякіх прычын быць не ў настроі, другая ж — я шчыра ўзрадаваўся, што Зоя ўсё-ткі жывая, можа, і пакалечаная, але жывая... Нешта адно павінна было ўва мне перамагчы, але не перамагала, таму мяне і ліхаманіла. Прыйшоў у кантору, сеў за стол, вось яна, ведамасць, над якой карпеў і ўчора, але не бачу лічбаў, адно круціцца ў галаве неадчэпны матыў:

«Вспомнится когда-то тилия кардата...», круціцца, ды нарэшце такі абрываецца, і адна-адзіная думка ва ўсёй маёй свядомасці: «Жывая!..» Як ото ўспышка салюта — яркая і радасная думка».

## 10. Горка!..

Недзе на Галым каторы дзень гарэў тарфянік, і з твару Зоі Пятроўны, як з маркотнага ліку святой мадонны, не сыходзіла роўная, ціхая пакута. Трэба ж было ёй калісьці перакуліцца з той шалёнай машынаю: заваленая торфам, захлыналася ў яго даўкім смуродзе, з таго часу яна і не пераносіць яго, дык і цяпер гэты ўдушлівы пах даймае нават у хаце, а яшчэ больш яго набілася ў агарод і ў двор — не ступіць на ганак.

Сівое замглёнае сонца не слепіць вочы, і на яго можна глядзець, як на месяц; і хаты — як прывіды, і людзі на вуліцы — як цені; і такі ж невыразна-прывідны лес абступае з усіх бакоў Заліп'е. Высокая зубчастая сцяна дрэў і раней адгароджвала яго ад вялікага свету, а цяпер і зусім здаецца, што разам з гэтым лесам, разам з пасёлкам і сам ты трапіў на нейкую іншую планету, бо гэта ж не проста ўдушлівы тарфяны дым — такое замглёнае можа быць на іншай планеце паветра... Але не, гэта ўсё-такі недзе гарыць наша, палескае балота... Я мог бы яшчэ ўявіць, што не толькі на Зямлі ёсць і такое ж Заліп'е, і такі ж самы лес, але ў гэтую хвіліну, калі брыду я з палявой сумкаю ў свой задымлены квартал, недзе ўперадзе тарахціць Гаркушаў мапед, і тут ужо я вельмі сумняваюся, каб такі ж самы Гаркуша мог існаваць дзе-небудзь яшчэ, апроч як не на Зямлі і яшчэ дакладней — не на Палессі. Такі ўнікум абсалютна непаўторны, і невядома, за якія мае грахі Бог звёў мяне з ім у гэтым Заліп'янскім лесе.

Зрэшты, наўрад ці шукаў ён мяне гэты раз: між затушаваных дымнай смугою дрэў нават зблізку не адразу кагосьці ўгледзіш, але незнарок я набрыў на яго сам — убачыў на прасецы мапед, а трохі ўбаку і самога Гаркушу. Ссутулены, ён сядзеў на збуцвелым, некалі вывернутым і ўжо замшэлым корчыку, і па тым, як энергічна ён падкідваў, лавіў і, на момант заціснуўшы ў кулаку, зноў падкідваў на далоні сухую яловую шышку, я адчуў, што ён нечым моцна ўзрушаны. Таму я не мог абыякава перакінуцца з ім двума словамі і прайсці міма,— затрымаўся, стаў шукаць вачамі, на што б сесці, і тады ён з сілаю, даючы, мабыць, выйсце накіпелай роспачы, шпурнуў перад сабою лёгкую выпетраную шышку і голасам, поўным трагічнага пачуцця, прамовіў:

«Усё ідзе на пагібель».

Яму і без таго было прыкра, а тут яшчэ набліжаўся і гэты гром: сівая, дымная смуга завалакла неба, а ў ёй загрымела, загрукатала ды яшчэ і з пранізлівым прысвістам — над лесам у напрамку Галага стрымгалоў нёсся, як той казачны змей, амаль нябачны ў нас над галовамі верталёт. Яго нязграбна-калматы цень грымотна цялёпаўся ў шэрай дымнай смузе, і, канечне, Гаркуша ведаў, хто гэтак адчайна на ім лётае — сам Першы сакратар ЦК,— ведаў, бо не раз ужо гэткі гром праносіўся над Заліп'янскім лесам. Звычайна Гаркуша ўздыхаў і адразу вяртаўся, скажам, да той жа сваёй «памоўкі», але цяпер верталёт недзе зусім ужо сціх, а ён усё яшчэ сядзеў моўчкі — прыгнечаны, згорблены.

«Няма чаго яму рабіць. Лётае, а што ён адтуль убачыць?»

У мяне было правіла: не ўвязвацца з Гаркушам у спрэчку, але цяпер я не мог стрымацца. Я помніў, якая гэта была радасць, калі

ехаў я выконваць ганаровае заданне Першага сакратара — правяраць скаргу ветэрана, шкада толькі, што бугай трохі сапсаваў мне тады мой прыўзняты настрой; наогул, я глыбока паважаў Першага — партызан, народны герой, таму я і не мог цяпер не заступіцца за яго перад Гаркушам. Я разумеў, калі Гаркуша пытае: «Што ён адтуль убачыць?», дык гэта не таму, што дым, не, гэтак ён наогул сумняваецца — што ён убачыць з верталёта! Менавіта ён і менавіта з верталёта. Таму я і запярэчыў:

«Ну як — што ўбачыць? Убачыў жа, і не раз. Летась таксама пажар быў, толькі не балота гарэла, а лес, а ў яго ж у верталёце рацыя, даў каманду — пажарныя машыны зляцеліся з трох раёнаў. На балоце, канечне, складаней, агонь шыецца ўглыб, таму яго і цяжка адтуль выкурыць, але загадае — любую нару праточаць, а дастануць яго і там. Канечне, ён не Бог, той угледзіць на зямлі кожную драбніцу, нават мурашку, а ў чалавека без яго волі і волас не ўпадзе з галавы, але ж не ўсе верацы, што Бог існуе, няма важкіх доказаў, што ён сочыць, каб на зямлі быў парадак, затое чалавек — гэта, як той казаў, аб'ектыўная рэальнасць, тым болей, калі ён Першы сакратар ЦК. А раз ён рэальны, дык такая ж рэальная і гарантыя, што ніякай пагібелі не будзе. Будзе ўсё добра, бо гэта няпраўда, што ён нічога не бачыць.

Расказваюць, забалеў у даяркі зуб. Сківіцу хусткай павязала, але падмяніць няма каму, дык яна і доіць кароў, пакутуе. А тут якраз і ён: цікава Першаму сакратару на свае вочы ўбачыць «вялікае малако». Выйшаў з верталёта — лагодны, усмешлівы, а ён жа і да людзей уважлівы, дык перш-наперш і пытае ў даяркі: «А што ж гэта ў цябе, маладзічка,— зуб?» А яна адказвае: «Зуб, халера б на яго». Ну, ходзіць ён затым па ферме, усім цікавіцца — якія рацыёны і якая ад іх аддача, а тая даярка яму ўжо як быццам і не ў галаве — усё выведаў і паляцеў далей. А праз гадзіну імчыць на ферму «хуткая дапамога»! Цэлы зубны кансіліум ды яшчэ і з лячэбным крэслам! Сядзіць даярка, як царыца на троне, а вакол дактары, то адзін у рот загляне, то другі, дзясну замарозілі, быў зуб — і няма яго, боль жанчыне як рукой зняло. Дык як жа пасля гэтага можна казаць, што ўсё ідзе на пагібель?.. Іншая справа, што нашаму народу дабро часам даводзіцца рабіць сілаю — не ўсё ён адразу прымае. Хоць бы тая ж даярка: убачыла дактароў — і наўцёкі. Баялася зуб ірваць, болю баялася. А інцы раз трэба і пацярпець...»

Не ведаю, ці збіраўся Гаркуша расказваць мне гэты раз якуюнебудзь «памоўку», ды калі б і наважыўся, яму гэта не ўдалося б: толькі пранёсся адзін — на верталёце, як тут жа падляцеў і другі — на матацыкле. Хто ж, як не ляснічы. Спачатку за дымам не заўважыў нас, а потым аж прасунуўся юзам — так па-заліхвацку ў апошні момант затармазіў; трохі пачакаў і, не паварочваючы ў наш бок галавы, гукнуў загадна:

«Адамавіч, адпусці таксатара, ён мне патрэбен!»

Гэта мяне вельмі пацешыла: я ў іх тут нарасхват, але ж, канечне, я аддаваў перавагу ляснічаму.

Матацыкл у ляснічага — звер, дый сам ён рэдкі адчаюга: з бакоў не дрэвы мільгаюць, а цені дрэў — так напёрла дыму; лес быццам завешаны тонкай кісяёй — таго колеру, якою бывае вада, калі ў ёй памыюць чарніцы. Ляснічы газуе на злом галавы, хаця што ж тут дзіўнага, ведае чалавек дарогу, кожную выемку помніць, і вось мы ўжо з выключаным маторам — толькі сыта сакочуць змазкаю колы — спускаемся з Высокай Грывы на масток, ды не, перад мастком зварочваем направа, падрульваем паўз бераг да запруды. Вось куды ён мяне прывёз. На роўнай пляцоўцы — тры лавачкі, літарай «П», над імі звешваюць тонкае вецце ніцыя вербы — утульнае, паэтычнае месца, акурат для даверлівай шчырай гаворкі. Ляснічы дастае з нагруднай

кішэні пачак дарагіх цыгарэт — мала яму яшчэ ў лесе дыму, закурвае, і я адчуваю на сабе яго дапытлівы позірк.

«Ну што, коціць на мяне бочкі Гаркуша? Бэсціць? — спытаў пасля першай зацяжкі ляснічы.— Маўляў, каб не ён, дык і гэты лес на корані ўсох бы. Каб не ён на сваім дохлым мапедзе — так? Бо ляснічы — пустое месца, па дарогах лётае, а ў лес ні нагою. Ветрагон, пустадомак, дый наогул усе мы верхагляды і дэмагогі — і я, і ты, словам, ён практык, а мы вартыя жалю тэарэтыкі — я ўгадаў?»

«Дык ён не адных нас бэсціць,— адказаў я.— Толькі што праляцеў верталёт, а ён жа ведае, хто ў ім лётае, дык не пашкадаваў і яго, не змоўчаў».

«Во! — падхапіў ляснічы.— Значыць, табе не патрэбен мой доўгі ўступ, тым болей, калі ты інжынер чалавечых душ, можна адразу асэнсоўваць феномен. Так, феномен, бо не сказаць жа, каб цёмны быў чалавек: такая-сякая адукацыя, а яшчэ ж і тэлевізар, дый нейкую ж газету выпісвае».

Тое, што гаварыў ляснічы, у мяне не выклікала сумнення: так, тэлевізар, праўда, сапсаваны, і сярэдняя адукацыя, але ўсё-ткі я лічыў, што нейкай інфармацыі Гаркушу не хапае. Таму я так і сказаў:

«Што ж тут дзіўнага. Тэлевізар дый газета многае значыць, але ж усё роўна чалавек абмежаваны, бо не вылазіць з лесу. Сабе паўгода жывеш у горадзе, там і тэлевізар, і газет колькі хочаш. Ну, думаеш, усё на свеце спасціг, а прыйдзе лектар абкома партыі Ракіта, дык вось хто сабаку з'еў і ва ўнутранай палітыцы, і ў міжнароднай».

Я не зразумеў, чым так моцна ўразіў я ляснічага. Нейкі ён агаломшаны, утаропіўся мне ў вочы, быццам першы раз мяне чуў і бачыў. Што я не так сказаў?

«Якога яму яшчэ лектара? — нарэшце спытаў ён здушаным паўшэптам — гэтак бясконца быў здзіўлены.— Я твайго Ракіту заткну за пояс, ён жа на семінарах у нас такую лухту плёў... На якіх семінарах?.. У ВПШ, канечне,— ты што, з неба зваліўся? Я ж табе не абы-хто, пяць гадоў у райкоме сядзеў — на ідэалогіі, а што цяпер я тут, дык я ж ахвяра, ахвяра хрушчоўскага валюнтарызму. Я ж тут у ссылцы. Але ўсё роўна, ты што ж думаеш, я сваіх леснікоў не трымаю ў курсе?.. Лектар абкома партыі!..»

Ён патроху супакойваўся, глыбокія зацяжкі былі ўжо не такія нервовыя, толькі выраз крыўды яшчэ доўга не сыходзіў з яго твару. Канечне, я не ўлічыў, што чалавек ён палітычна падкаваны, і ў душы я ўжо каяўся і дакараў сябе, што пра лектара абкома партыі сказаў не падумаўшы. Таму яшчэ ўважлівей я павінен быў цяпер яго слухаць.

«Але твая праўда: лес, дык і жывых кантактаў тут малавата. І таму за кожным не ўсочыш. Скажам, калі ў калектыве, дык там відаць, хто чым дыша і што ў каго наўме. А тут ён раніцай паслухаў цябе, сеў на свой задрыпаны мапед — і ў лес, а што ён там у лесе думае, пра гэта можна толькі здагадвацца. Словам, феномен — дысертацыю можна пісаць. Тым болей, што ёсць і другі бок медаля. Вось паехаў ён у лес, а каго ён сустрэне і што будзе гаварыць — хіба гэта не праблема? Яшчэ якая! Дык вось назіраў я зводдаль, назіраў, як ён цябе абходжвае, а потым думаю, дарма што інжынер чалавечых душ, трэба яго трохі падстрахаваць, каб не паддаўся агітацыі, бо ваш брат такі... Дарэчы, што там з Быкавым? Бэсціць усіх, не глядзіць ні вока ні бока. Няўжо ж там Броўкі няма ці Шамякіна — маглі б і падказаць нешта... Але, даруй, я адхіліўся трохі ад тэмы...»

Ён кепска пра мяне думаў. Як быццам я развесіў вушы і лаўлю кожнае Гаркушава слова. Дзівак, за маю душу ён мог быць спакойны. Але ж не, ён пра мяне клапаціўся.

«Яблык ад яблыні падае недалёка. Дык вось і ён, Гаркуша... Быў у яго цесць. Ну, не цесць, а жончын дзед. Мікалайкам звалі, ты, можа,

чуў. А быў ён кулак, ды хітры, вёрткі, не даў сябе і раскулачыць — уцёк з Рудні на стражу. А тут з яго і палез класічны міраед: дзе хацеў, там і сеяў, ніводнае ляда ў яго не гуляла, а што накошваў сена — вясною абозы да яго і з Грабянцоў, і з Рудні, у людзей на вяроўках скаціна падвешана, а ён і з іх саміх апошнюю шкуру здзірае — капейкі не ўступіць!

І вось якая тут невясёлая эстафета. З Мікалайкам не на жыццё, а на смерць змагаўся мой бацька, найперш з Мікалайкам, але прыхапіў і Гаркушы; ад бацькі ж ягоная місія перайшла да мяне,— Мікалайку, царства яму нябеснае, я ўжо не застаў, затое Гаркушам здаволены па горла: такі ж закаранелы індывідуаліст, толькі на новым вітку спіралі».

Рабром далоні ляснічы паказаў, як здаволены ён па горла Гаркушам, і ў гэты момант у вочы мне кінулася вельмі адметная яго рыса. «Палазок! Сківаца — як палазок! Як жа я не заўважыў раней? Дык жа заўважыў, проста не ўспомніў — гэта ж яна, Зоя Пятроўна, сказала некалі: «Зірну збоку, а ў яго сківаца — як палазок». Дык правільна я здагадваўся, чаму ён такі неабыякавы да Гаркушы — зацікаўленая асоба! Самы раз спытаць у яго — знянацку, у лоб...»

«У вас быў некалі брат? Ён таксама вучыўся ў Мінску?»

«Чаму — «быў некалі»? Ён і цяпер ёсць. Недзе на Браслаўскіх азёрах. Так, вучыўся ў Мінску. І таксама ў лясным. Мой стары перавыканаў план: хацеў, каб хто адзін стаў ляснічым, а мы абодва. Нічога дзіўнага: брат пракладвае дарогу брату — калі і вучыцца добра, і актывіст, дык ахвотна прымаюць і другога, ёсць гарантыя».

«Вашага брата завуць Анатолем, Толікам?»

«Толікам. Але якое гэта мае значэнне?»

Толькі б не выдаць хвалявання, якое мяне ахапіла. Калі Толік — яго брат, тады зразумела і яго непрыязнасць да Гаркушы, ён жа перахапіў братаву дзеўку — яе, Зою! Усё роўна як раўнуе, быццам не братава была яна, а ягоная. Сямейная салідарнасць — асабліва, калі брату не пашанцавала недзе з жаніцьбаю.

Але тут жа я падумаў: якая розніца, Толікаў ён брат ці не. Ну, дапусцім, ён зацікаўленая асоба. А ці многа сімпатыі да Гаркушы ў мяне? А я ж асоба незацікаўленая! Дзеўкі Гаркуша, дзякуй Богу, ні ў мяне не адбіваў, ні ў маго брата, тым болей, што яго і няма ў мяне наогул, але калі сваёй «практыкай» ён за адзін месяц гэтак уеўся мне ў пячонкі, дык наўрад ці буду я пець яму хвалу. А што ж тады казаць пра ляснічага, які Гаркушу ведае вунь з якога часу!..

«Выбачайце, я перабіў вас».

«Ну так, і на самым цікавым. Пойдзем далей. Раскажу, як Гаркушу паставілі калісьці ляснічым, табе, інжынеру чалавечых душ, цікава будзе паслухаць.

Кіраваў тут калісьці такі славуты Мажэйка, тады яго перавялі ў лясгас, дык на яго месца і сеў Гаркуша, праўда, прызначылі яго спачатку толькі выконваць абавязкі — чалавек не меў вышэйшай адукацыі. Але перад самай Гаркушавай жаніцьбай гэты Мажэйка і паслаў яму вясельны падарунак — загад аб прызначэнні на пасаду ляснічага. Спытаеш, ну і што? А тое, што гэтае Гаркушава прызначэнне — беспрэцэдэнтная хохма, інакш не скажаш.

Мой бацька быў тады старшынёй сельсавета. Заўсёды рупіўся пра калгас, дык гэтая руплівасць і сутыкнула майго старога лоб у лоб з Гаркушам. Тады рабілі стаўку на травапольную сістэму, дык загарэўся ёю і мой стары. Але каб пасеяць траву, трэба мець насенне, а за што ты яго купіш, калі ў кішэні фіга ды кукіш?.. А тут паявіўся першы самаходны камбайн, чарапаха такая, С-4 называўся, дык бацьку майму і цюкнула!.. Недалёка ад шашы луг вузкім рукавом заглыбляўся ў лес, і быў ён там ужо не калгасны, а лясніцкі, дый не луг ужо —

на ім па метаду Лысенкі пасадзілі дуб, таму і касілі па ім толькі лапікамі. А там, дзе не касілі, сама сабою насеялася цімафееўка, а гэта ж культурная трава, гэта тое што трэба — насенне, узбіцца б хоць на дзесяць, хоць на пяць кілаграмаў, разжыцца б на развод!.. Дык бацька і прыгнаў у лес камбайн. І вось ён сам, а з ім і брыгадзір калгасны не нацешацца побач з камбайнам, цікава ім, як матавіла заграбае спелыя каласкі-султанчыкі!..

Але ж каб толькі султанчыкі яно заграбала, а то ж і вярхушкі маладых пасадак! І не паспеў камбайн падстрыгчы з дзесятак дубкоў, як з лесу з улюлюканнем і свістам выскачыла лясная ахова. І, канечне, на чале з Гаркушам. Яны, мабыць, раней здагадаліся, куды паверне з лугу камбайн, загадзя нарыхтавалі колля, і цяпер яно густой чорнай хмараю паляцела прыцэльна ў хедэр. Канечне, я дамалёўваю, наўмысна ажыўляю карціну, але толькі для таго, каб ты ўявіў: так папуасы з першабытнымі пікамі сустракалі ў джунглях цывілізаваных еўрапейцаў.

Падскочыў мой стары да Гаркушы, вось-вось схопіць загрудкі, а іх жа, леснікоў, чалавек пяць, дык стары толькі і працадзіў праз зубы: «Ну, усё, скончылася тваё панаванне, хлопец, патураць цябе ў леснікі, нашывай загадзя лычкі, а то, бач, зорачку начапіў, начальнік!..» Тады ў памочніка ляснічага на пятліцах было па адной зорачцы.

Канечне, на тое яны і леснікі, каб ахоўваць маладыя пасадкі, але ж і мой бацька меў рацыю: не лесам адзіным жыве чалавек, яму і хлеб трэба. Дык і лесніку не лішне глядзець трохі шырэй, але ж які ў Гаркушы кругагляд, дзе край лесу, там ён і канчаецца. Аднак жа пашанцавала чалавеку!..

Сціскае мой стары кулакі, бяжыць у Грабянцы, а там якраз інструктар з райкома, дык стары яму і дакладвае: Гаркуша са сваёй бандаю атакаваў самаходны камбайн! А інструктар толькі таго і чакаў: ага, антыкалгасная выхадка?! І ў райком — першаму сакратару, па тэлефоне. А сакратар — гэта ж галоўная ўлада, таксама за трубку і дырэктару лясгаса: «Што за такі дрымучы лудзіт у цябе кіруе ў Заліп'і? Учыніў пагром першага ў раёне самаходнага камбайна, зараз жа перавесці ў ляснічыя!» А дырэктар, той самы Мажэйка, як быццам нечага не разумее: «У ляснічыя?» А з трубкі яшчэ катэгарычней: «Так, у ляснічыя! Сваіх загадаў я двойчы не паўтараю!»

Што зробіш: не чытаў сакратар райкома «Новай зямлі», не ведаў, што ляснік і ляснічы не адно і тое ж.

Вось так і зрабіў Гаркуша кар'еру, і скажы цяпер, што гэта не анекдот. Сапраўдны шэдэўр у рабоце з кадрамі.

Камедыя, канечне. Але найперш драма. Пятнаццаць гадоў сядзеў ён тут ляснічым — ад Мажэйкі да Айчанаша, да мяне, значыць. Гэта быў яго зорны час; лесу, канечне, пасадзіў ён і дагледзеў багата, але я зноў завастраю тваю ўвагу на тым жа — драма! Драма, калі браць не толькі яго, а каго яшчэ я маю на ўвазе, я ўжо табе казаў. Ён у яе вялікі лесавод, а як жа — ён жа ляснічы, а яна ж таго не ведае, што ляснічым ён быў ліпавым, фальшывым, яго ж павінны былі перавесці ў леснікі, а перавялі ў ляснічыя — памылкова, таму што вельмі падобныя словы».

Я слухаў ляснічага, а сам думаў: «Няўжо ўсё-ткі і праўда драма?.. Вельмі на тое падобна... Тым болей што... напэўна, ён памыляецца: хутчэй за ўсё, яна ведае, як Гаркушу зрабілі калісьці ляснічым, і гэта яшчэ больш прыгнятае яе: нават ляснічым ён быў несапраўдным, падманным. І тым больш — невысока тут, у Заліп'і, яна са сваім Гаркушам узляцела, таму і гэты ціхі сум выглядае часам з яе чароўных «месячных» вачэй, таму яна і спавядаецца перада мною. «Паляцела да сонца пералётнай птушкай» — не выйшла так, як марыла сама, як зычыла ёй калісьці класная. І яе споведзь — гэта яе пакаянне, не

перада мной, канечне, гэта трэба разумець шырэй,— пакаянне і пера самой сабою: расказваючы пра сябе з Гаркушам, яна іншы раз над ўмольна заглядвае мне ў вочы — няйначай, каб я дараваў ёй, што я так неразумна прынесла сябе ў ахвяру свайму невясёламу заліп'янскаму лёсу. Як у багне, завязла ў Гаркушы, дык няўжо ж не магла яна сабрацца з духам, тузануцца з усіх сіл і вырвацца на волю?»

І я чакаў гэтага дажджу. Ён не ўшчукае ўжо другі дзень, прыбівае да зямлі абрыдлы ёй дым. Тарфяны смурод патроху слабее, як бы танчэе, робіцца не такім удушлівым, хаця, папраўдзе, сам я з ім даўно звыкся, а калі цяпер і ўлоўліваю яго, дык толькі таму, што паступова ён сыходзіць на нішто,— хутчэй, я чую, як свяжэе паяснелае паветра. Але маю гаспадыню яшчэ не адпускае (па змучаным твары бачу) гэты амаль ужо няўлоўны тарфяны пах — а, зрэшты, гэты ці той?.. Бо не толькі ж ад гэтага, сённяшняга смуроду яна пакутуе: дождж, дзякаваць Богу, залье недзе на Галым апошні, у самым глыбокім тарфяным схове, агонь і жар, вецер развее ў лесе астатні дым, а той, даўні боль не мінецца, боль, які ёй трэба выгаварыць зараз перада мною.

Трапіла-такі дзеўка туды, куды ёй рупіла трапіць,— у бальніцу, толькі не доктарам, на якога хацела вывучыцца, а пакалечанай небаракай, якую добрыя людзі адкапалі з-пад таго смярдзючага торфу.

«Самой не верыцца,— яна сумна, але быццам і ўсцешана хітае галавой.— Няўжо мне на раду было напісана, каб выжыла, а пасля і дачку нарадзіла ды во цяпер яшчэ і ўнука гадавала? А нічогенька ж не было б. Ды, на маё шчасце, як на шашу ўзбіліся — тут і бальніца. Да раёна, казаў доктар, ужо не давезлі б, зайшлася б ад болю. Неяк ён называў гэта — ад шоку, во!.. А тут некалі фальварак быў, дык у ім і зрабілі бальніцу. Хоць і не раён, а ўсё роўна ж дактары — і перавяжуць, і ўколюць. А як прыйшла да памяці, дык і ў раён звазілі — каб рэнтгенам прасвяціць. Прасвяцілі, а ў мяне трэшчыны і вышэй калена, і ніжэй. Баліць мая правая ножка!.. А яшчэ ж і струп'е па ўсім целе, а больш за ўсё на галаве — думала, і валасы аблезуць. Доктар жа як усё роўна здзекуецца: такой бяды, кажа, маладая косць хутка гоіцца, а што ўсё цела пабітае, дык падзякуй Богу, што з торфам перакулілася, а не з дровамі. За тыдзень, кажа, згонім тваё струп'е, і скура будзе гладкая і чысценькая, зайздрошчу таму, хто пасватаецца да цябе, а ножку тваю пекную возьмем у гіпс, і ўсе твае скокі яшчэ наперадзе.

Ён не здзекаваўся, а падбадзёрваў мяне, ды мне ўжо было ўсё роўна, што жыць, што паміраць. Такі быў паганы настрой. Дзіва што паганы!.. Як падумаю, дзеўкі недзе вясёлым гуртам едуць у Мінск, ды дзе ж едуць, ужо ўступныя экзамены здаюць, папаступалі ўжо недзе, а за што ж мяне так Бог пакараў, чым я перад ім правінілася?

Правінілася, дзеўка! І ведаеш, перад кім. Перад класнай. Колькі плацццяў яна табе ў суседкі нашыла, а ты яшчэ і на яе лодачкі, на яе лакіркі паквапілася. Дарма што яна і сама табе аддала — усё роўна была ты з ёю няшчырая, зламысная. І ўсяляк у думках абзывала — і бочачка, і бельмачкі ў яе страшныя — не сказала ўголас, а толькі падумала, але ўсё роўна грэх... А ўспомні, як на лузе перад Толікам: пыха расце ў табе, як цеста ў дзяжы, на чыёй толькі рошчыне, ці не на дзедавай — такі ж бывае ганарлівы... Дык яшчэ пытаеш, чым Бога ўгнявіла...

Сказаў бы доктар — застанешся навек калекаю, вочы выплакала б, рукі на сябе налажыла б, а то ж кажа, будзеш сто гадоў здаровенькай, а як жыць, хоць і не калекаю, калі белы свет нямілы — не так нага, як душа крыўдай і болем заходзіцца.

Ды хоць і нямілы свет, а нешта ў ім яшчэ і вабіць, нешта свеціць і грэе — зводдаль. Дзіва што не зблізку, бо дзе ж ён цяпер, мой хлопец,— у Мінску недзе!.. Толіка ўспомніла... Уяўляла сябе разам з ім пад нашай ліпаю, а часцей, бывала, заплюшчу вочы — і зноў ён даганяе мяне, ловіць за шашою на лузе, а пасля мы то весела, то ажно неяк зацята, барукаемся з ім, адзетыя, у вадзе — і бессаромны, а вось жа не плюнеш яму, паганаму, у твар — нешта спыняе. Уяўляю, і зноў не магу даравадь сабе, што так зласліва пажартавала — кінула яго, а сама пайшла і пайшла на стражу, а ён доўга яшчэ, небарака, сядзеў і паслухмяна чакаў, калі я вярнуся да яго, абсохлая, з-за тых кучаравых алешын... Пасля ён дараваў мне дурны жарт, адно пагразіўся — беражыся, Мікалайкава ўнучка, не я буду, як не адпомшчу, калі-небудзь і ты мяне пачакаеш. Дык вось я і чакаю яго цяпер. Бо ён жа ведае пра маё ліха, ехаў у Мінск дык, можа, пытаў на станцыі ў дзевак, а дзе ж Зоя, і вачамі шукаў, бо ўжо скора поезд, а мяне ўсё няма, а тады нехта злез, можа, з тарфяной машыны дык, мабыць, і сказаў: у бальніцы Зойка, з торфам перакулілася... Ведае Толік... Але чаму ж не паказваецца?.. Два тыдні ўжо чакаю, а яго ўсё няма... І ніхто з дзевак не праведаў. А яны ж вярнуліся з Мінска, дык хай бы Волька пад'ехала, цікава, як яны там паступалі, ці такія ўжо мудрыя на тых экзаменах білеты, як нас у школе палохалі... Але што ж Волька. Яна магла і ў сястры ў Мінску застацца, казала ж — не паступіць, усё роўна не вернецца мясіць гной на ферме, ды яшчэ каб Айчанаш цябе муштраваў — на будоўлю пойдзе. Не Волька... Толік... Чаму Толік вачэй не пакажа? Ён жа, хоць паступіў, хоць не паступіў, а ўжо недзе ў Грабянцах...

Прыязджала маці з хатулькам — і плакала, і суцяшала, але мне было ўсё роўна, што прывозіла яна і што казала, я і з перадачы яе, здаецца, нічога не ела, хаця, напэўна ж, і ела — прымушаў доктар. Ён мяне падбадзёрвае, а я нават і не ўсміхнуся... А то яшчэ выязджаў на калясцы з мужчынскай палаты адзін хлопец, Жорам звалі. Яму ногі адняло, дык на сабе крыж паставіла, а яго, небараку, шкадавала, выедзе ён, а ложак мой стаяў ля акна, дык я нагу сваю, што быццам палена, ашчадна падцягну, сяду, тады Жора напроці акна спыніцца і глядзіць на мяне, вачэй не адводзіць. І суцяшае: «Што ты нос павесіла, у мяне гора ў сто разоў большае — ног не чую, а ў цябе ўсё жывое». Жывое!.. Не ведаў ён, што мая душа была ўжо нежывая, бо і самога жыцця я ўжо сабе не жадала. І не чакала я ўжо нікога — ні маці, ні дзеда, а ён жа неўзабаве павінен быў ехаць па мяне, каб забраць на стражу.

А каго найболей не чакала, дык Гаркушу. Ды якраз ён і прыехаў. Навошта? Вялікі ён мне родзіч!.. Чула, як пастукаў пальцам у шыбу, нешта казаў, але я і вачамі на яго не павяла — глядзела на столь, адно ўгадвала яго цень збоку. Ён, той Гаркушаў цень, памахаў мне прывідна, нібыта ў сне, рукою і знік, і тады я падумала, а ці не памроілася мне, што гэта быў ён, Гаркуша? Падумала так, і больш пра яго не ўспамінала.

І вось настаў гэты дзень: вызваляе доктар маю нагу ад гіпсу. Дакранаюся да падлогі — спачатку аднымі пальчыкамі, а затым і пятою, устаю з ложка на дзве нагі. Хворая мая ножка не хоча згінацца ў калене, але вясёлы доктар абнадзейвае — расходзіцца. Пастаяла трохі і зноў села. А назаўтра і ступіла ўжо колькі крокаў — да дзвярэй і назад. І вось, помню, на трэці ўжо дзень: толькі наважылася я ўстаць ды пайсці, а на парозе — мой дзед. Ажно шчокамі перасмыкнуў, слёзы ў яго навярнуліся — так мяне шкадуе. І ледзь не плача: «А мая ж ты ўнучачка, бач, як табе собіла». Не пазнала я дзеда — такі ён добры. Ніколі ён не быў гэткім са мною. І вось жа разумею: нельга блага думаць пра роднага дзеда, а сама такі прыкмячаю, быццам нешта ў

яго наўме прыкрае. Згадалася, як часам падманвае ён дома ў двары курку: проса ёй на далоні пакажа, сыпне перад ёю, а потым — хоп! — такі лагодны ён і цяпер са мною. Доктар кажа, трэба колькі тыдняў з кіёчкам пахадзіць, дык, пакуль той кіёчак, дзед плячо мне падставіў, абапёрлася я, так мы з ім і сышлі з ганка, так ён мяне і да вазка давёў.

І павёз ён мяне на стражу. А куды ж яшчэ. Едзем, а дзед зноў падлашчваецца: лёгенька падагнаў лейцамі Варанка ды спагадным голасам і гаворыць: «Не шанцуе нашаму роду. Можа, чула, як людзі кажуць: «Не было кажуха, дык я ў Бярдзічаў, а вецер з Бярдзічава, я назад, а вецер зноў у твар, бо ўжо на Бярдзічаў, ды яшчэ ж і моцны — з ног валіць; а купіў кажух — я ў Бярдзічаў, і вецер туды ж, я з Бярдзічава — а ён зноў у спіну мне, дый не дзьме ўжо, на ладан дыхае». Але ж гора яму вялікае — дарма кажух купляў. Нам горай. Ну хай некалі бацька Насцін з рыштаванняў упаў, дык галеча ж пагнала на заробкі, а тут жа і на кажух узбіліся, бо ў лесе ж можна жыць, дык і паступіла б недзе, і вывучылася б — хіба ж мы табе капейкі пашкадавалі б, аж не, зноў ён з Бярдзічава, гэты нялюдскі вецер».

Такога кругаля даў дзед — здалёку пад'язджае. Дзе той Бярдзічаў — недзе на Украіне, я толькі мо раз і чула пра яго, а дзед усё бліжэй падбіраецца да мяне, і не напрамкі, а з хітрыкамі.

«Другі б, можа, бурчэў: не паслухалася старога, паехала ў свет, вось і даездзілася. А я ж разумею: маладая, дык і не сядзіцца ў роднай хаце, свету хочацца пабачыць. Але ж, мая ты ўнучачка, паслухай дурнога дзеда: хоць да самой Масквы даедзь, а смачней, чым дома, нідзе ты не пад'ясі, і ніхто нідзе табе мякчэй, як родная маці, не пасцеле. Ты не думай, што дзед цёмны, некалі, як у трэцюю групу хадзіў, вучылі напамяць — пра стракaзу: тут пад кожным ёй лістком быў гатовы стол і дом. У лесе, а дзе ж ты думала! Дык гэта ж страказа, гультайка!.. А як ты мурашка ды пазавіхаешся, дык у цябе і зімою ўсяго ўдосталь будзе! Гэта ж не ў Грабянцах, дзе ў Айчанаша за палачкі робяць, і не ў Гомелі — там нічога на бруку не расце; няма грошай, дык і ляскай зубамі... У лесе можна жыць!..»

У думках я падзякавала дзеду: не павярнуў на гасцінец, на Галае — вочы б мае не бачылі таго балота, а паехаў шашою,— значыць, павязе паўз Кустоўе, а далей цераз брод перад Рудняю. Ды раптам я забаялася: а што калі дзед надумаў мяне павезці Заліп'ем?.. Вялікі круг, але ад яго ўсяго чакаць можна, наўмысна павязе, каб... Каб трапіла я на вочы Гаркушу ці, можа, каб ён мне трапіўся... І я ўгадала дзедавы думкі, бо вось — ён аж крутнуўся на лавачцы: «Забыў сказаць! Пакуль ты вылежвалася, Гаркушу ляснічым паставілі. Цяпер ён цар наш і Бог, бо ўсё ў ягоных руках, дык, можа, і нам паспрыяе, каня дазволіць завесці — Гаркуша добры хлопец».

Цяпер я ўжо зусім разумела дзеда. Калі ён рабіў леснікам, у нас быў конь. Але два гады назад леснікам прызначылі маладога хлопца, у стражу ён не пайшоў — старая хата, але каня лясніцкага забраў, а без каня ў лесе ні бульбу не разгоніш, ні сена не пасцягваеш, дык цяпер дзед і спадзяваўся, што Гаркуша дазволіць яму трымаць каня. Але, каб дазволіў, трэба перш самога Гаркушу ўхапіць за грыву, дык не дзіва, што ён і хваліў цяпер яго перада мною: «Такі малады, яшчэ нежанаты, а ўжо ляснічы! Чуеш, што я кажу? — А я маўчу, не адказваю, дык і не ўтрываў дзед: быў добры, лагодны, а то раптам зазлаваў, ажно Варанка па крыжы лейцамі выцяў: — Глядзі сама, дзеўка, можа, табе і відней, але дурная будзеш, як упусціш Гаркушу. Такія на дарозе не валяюцца. Будзе другая красавацца, а на цябе пальцам паказваць, бо сама ты лахманамі будзеш трэсці ды старчанят на свет пускаць — хоць у Гомелі, хоць у Мінску, там адна пыха, бачыў я іх, павязеш грыбы ці ягады, дык над кожнай капейкай калоцяцца. Цьфу, ажно брыдка!.. Маё дзела старана, але глядзі, унучка, на-

ведаецца Гаркуша ды будзе казаць што — каб не ўпіралася!»

А я слухаю яго дый сама сабе думаю: «Дзед ты мой дзед, ні лагодаю, ні пагрозаю ты мяне ўжо не праймеш, бо нічога і нікога мне ўжо не трэба, гэтак жа і не ў галаве мне твой Гаркуша». Але калі пераехалі брод, перад самым сваім лесам яшчэ раз успомніла пра яго: «Прыязджаў-такі ў бальніцу, не прымроіўся, дык, напэўна, не сёння-заўтра заявіцца і на стражу».

Але не было яго цэлы тыдзень. Ляжу на ложку, адвярнулася да сцяны, а маці руку на плячо ціхенька пакладзе дый тармосіць: «Не ляжы, доню, трэба ж і ножку расходжваць». Так і назаўтра: «Уставай, пахадзі трохі, ды павер сваёй маці: не пакацілася яшчэ твая зорка, усё ў цябе яшчэ наперадзе». І гусачку згадвае: «Помніш, дзед ля рэчкі падабраў, а ў яе крыльца надламанае, цягае трошкі, дык мы яго дзяжачкай падвязалі, яна і перазімавала ў нас, а вясною, ты ж памятаеш, на луг вынеслі, дык яна памахала-памахала крыллем дый паляцела. Так і ты яшчэ паляціш, мая дача. Уставай, расходжвайся».

А мне яшчэ гарчэй: такі бескарыслівы мой дзед — гусачку пашкадаваў, а чаму ж ён мяне, як тую курку, падманвае — Гаркушу на спажыву? Але ж устаю, выходжу з хаты, а ўжо ж лета на схіле, канец жніўня, дык і ўсё ў лесе пад мой настрой. Не пяюць птушкі, а на бярозах ужо і пасмы жоўтыя бачу, а гэта ў алешніку ручэй — як быццам той самы, але вясною ён так светла журчыць, а цяпер маркотна, глуха мармыча, і крапіва над ім цёмная і паклычаная, можа, лось брыў, а дзе-нідзе яна і палегла. Толькі браткі за ручаём аж гараць паўз дарогу — яны і жоўценькія, і сінія, колер з колерам перамяшаўся, але, такія вясёленькія, яны, можа, і цешаць камусьці вока, толькі не мне... Крушынавы куст... Як абсыпаны ягадамі, яшчэ толькі пачырванелымі, на брусніцы падобнымі, але пракідваюцца і спелыя, чорныя. Кажуць, воўчыя ягады, а я змалку любіла пакаштаваць — адну ягадку, не болей, дык я і цяпер узяла ў рот, а яна вадзяная, прэсная — зусім не той смак.

І так колькі дзён запар: пахаджу трохі і вяртаюся на ложак. Дык і цяпер вярнулася я, прыкрыла дзяружкаю ногі і, здаецца, зусім ужо засынаю; але што гэта, чые гэта там галасы? Дзверы ў сенцы адчыненыя, дык я і чую — размаўляюць дзед і Гаркуша. Пазнала яго і заплюшчыла вочы, хай сабе. А Гаркуша пытае, ці ўстала я на ногі і які ў мяне настрой. А дзед адказвае: напляваць на яе настрой, калі сам будзеш мужчынам, дык і ў яе настрой з'явіцца. Трэба канчаць, кажа, гэтую валынку, зараз жа рабі ўсё, як дамовіліся, у мяне ўжо брага бурболіць, заўтра гарэлку буду гнаць, а ты час марнуеш. Апошні раз кажу табе — упярод, Гаркуша!..

Якая ж я была да ўсяго абыякавая! Пачула іх размову — і нават не варухнулася. Толькі падумала — хай робяць са мною што хочуць, мне ўсё роўна. Чую, Гаркуша, мабыць, прайшоў першаю хатаю, а потым крокі сціхлі. Спыніўся. І зноў дзедава каманда, ён ажно тупнуў недзе ў сенцах: «Гаркуша, упярод!»

Напэўна, я ўсміхнулася, можа, першы раз за цэлы месяц, дурненькі ты мой дзед — падумала, і калі Гаркуша адхінуў полаг, ён яшчэ злавіў маю ўсмешку. Яна, мабыць, і ўзрадавала Гаркушу, бо ён весела прамовіў: «Ну во, а мне кажуць, яна тут сумуе! Хто пускае дурныя чуткі? Гэта нам сумаваць — маладым ды нежанатым! А можа, таму і трэба сумаваць — га, Зоя?.. Дваім усё-ткі весялей, га? Знаеш такую прыпеўку:

Я у Зоечкі на коечцы
Прасіўся начаваць.
Дарагая мая Зоечка,
Ніхто не будзе знаць.

Гэта я жартую — ты разумееш. А калі сур'ёзна, дык скажы ты мне, Зоя, дакуль мы будзем з табой прытварацца? Давай не будзем? Ты мне падабаешся, а я табе — хіба не так? Ну скажы, што не так. Вось бачыш! Я такі чалавек — дарма выдумляць не буду. І вось мая прапанова. Глядзі, што я вымаю з гэтай сумкі. Гэта мая заява, што я хачу ўступіць з табою ў законны шлюб. А вось гэта чысты ліст паперы, і на ім ужо напішаш ты, што таксама хацела б звязаць свой лёс са мною. Здорава я прыдумаў? Зараз я вязу нашы заявы ў сельсавет, два дні нам даецца на роздум, а потым я прыязджаю па цябе, і мы едзем з табою запісвацца. Пішы заяву, Зоя, са мной ты не прагадаеш!»

Ён мяне яшчэ ўгаворваў! Таго не ведаў, што мне было ўсё роўна — выходзіць замуж ці не, а калі выходзіць, дык цяпер ужо ўсё роўна і за каго — за Гаркушу ці за іншага... Ён дастаў з кішэні самапіску, паклаў на сумку белы ліст, я прыўстала на локці і напісала заяву. Напісала і адвярнулася да сцяны. Чула, як ён выйшаў на дыбачках з хаты...

А праз два дні паехалі мы з Гаркушам у сельсавет. Жаніх быў Гаркуша — люба глянуць: у сінім шавіётавым касцюме, белая кашуля на ім, а яшчэ і гальштук, трохі, праўда, рудаваты,— падсмаліў прасам. А я чым яму не пара? На мне ж было белае баціставае плацце — Насціна, на мяне перашытае, тое, што я везла ў Мінск; у чамадане быў глечык з мёдам, мёд выліўся, бо колькі ж ён папаскакаў, той чамадан, у кузаве, а пасля і сама машына перакулілася, але ад мёду плацце добра адмылася і цяпер, бялюткае, было на мне, як чаромхавы цвет!.. Нявеста ехала!.. А ў якую хату ён павязе маладую, Гаркуша не сказаў. Ды пакуль жа мы едзем у Грабянцы. Заліп'ем не паехалі, звярнулі на аб'езную дарогу. Дык на той аб'езнай дарозе я і спахапілася. «Божа,— падумала,— што я нарабіла? Еду запісвацца, а з кім? Я ж нават за руку з ім ні разу не патрымалася, мы нават у вочы адно аднаму ні разу не паглядзелі! Не, хлушу, адзін раз такі паглядзелі. Тады, як вёз ён мяне і Веру Макараўну на стражу. Але ўсё роўна чужы ён мне чалавек, чужы... Куды ж я з ім еду?..»

Не ведаю, што са мною рабілася на той дарожцы. Можа, як той доктар казаў, я ад нейкага шоку адыходзіла? Учора яшчэ было ўсё роўна — павязе Гаркуша ў сельсавет, дык і хай вязе, а цяпер, здаецца, выскачыла б з вазка і пабегла б назад, на стражу. Але нешта мяне ўжо каля яго і трымала, не магла я ўжо саскочыць з вазка, вось мы ўжо і шашу пераехалі, вось мы ўжо і вуліцаю едзем, і людзі глядзяць на нас, не пазнаюць, бо Гаркуша, калі і бываў у Грабянцах, дык у лясной форме, а мяне яны таксама ў такім прыгожым плацці ніколі не бачылі.

Старшынёй сельсавета быў ужо Хведар Айчанаш; той дзядок, што некалі ў калгас людзей заганяў, аддаў Богу душу, дык Айчанаш то ўсё замяшчаў дзядка, а цяпер і законна сеў на яго месца... Айчанаш, мабыць, чакаў нас — у яго ляжалі ўжо нашы заявы, чакаў, бо ўпускае мяне Гаркуша першую ў кабінет, а ён ужо сядзіць і пазірае на дзверы, не церпіцца яму, калі мы да яго ўвойдзем. Я адразу села на крэсла каля сцяны, а Гаркуша спачатку паздароўкаўся з Айчанашам за руку, а потым сеў побач са мною. І вось колькі жыву, столькі і помню, як запісваў нас Хведар Айчанаш.

Сядзіць ён за сталом, як пан, круціць цыгарку, а сам не зводзіць з нас яхідных вачэй, разглядае абаіх нас з ног да галавы, прыкурвае, а потым зацягнуўся, дым тонкім струменьчыкам убок выпускае, а бараду ўперад выставіў і над сталом ёю ўслед за дымам вядзе. І бессаромна разглядае нас, толькі ўжо адно вока ад дыму прыжмурыў. А потым з'едліва так і кажа: «Ну і Мікалайка, ну і кулачуга, якое хітрае прыдумаў сіло,— як быццам і на малога звера, а выйшла — на вялікага!» Я не разумела, пра якіх ён звяроў, ды Айчанаш гаворыць

далей: «Паляваў на памочніка? Ага ж, такі ён прасцяк, учуў: памочніка зробяць ляснічым, і гэты ляснічы будзе ягоны зяць!.. А калі ты мой зяць, дык і начальствуй у канторы, а ў лесе камандаваць буду я: дзе хачу, там сею, дзе хачу — кашу, тут мне прыволле, а на савецкую ўладу я чхаць хацеў!.. Але дудкі, гэты нумар у яго не пройдзе, бо чаго б я тут і сядзеў. Запісаць я вас запішу, жывіце і пладзіцеся, але каб ведалі — савецкая ўлада яшчэ дабярэцца да вас, бо вельмі многа вам у лесе волі дадзена».

Хаця і не надта грашыў Айчанаш: сваёй выгады дзед мой у лесе не ўпусціць, але як жа крыўдна мне было чуць — нібыта, які шкодны дзед, такая і ты, ягоная ўнучка; а Гаркуша, чую, таксама ўвесь напружыўся, вось-вось з кулакамі на Айчанаша кінецца. Ды, дзякуй яму, стрымаў сябе, бо інакш Айчанаш ці запісаў бы нас, сказаў бы, мала што ў лесе вам закон няпісаны, дык вы і ў самім сельсавеце разбой чыніце. А так ён пахукаў на пячатку і прыклаў яе да нашага пасведчання.

Так і сталі мы з Гаркушам мужам і жонкаю... Сталі!.. Далёка яшчэ да таго. Каму сказаць — далёка, дык толькі падзівіцца: гляньце на яе, ужо з законным чалавекам едзе, а яшчэ нешта з сябе строіць, у яе, бач, не так, як ва ўсіх людзей. Ну дык і маўчу, я ж сказала — муж і жонка, бо і праўда ж ехалі мы з сельсавета запісаныя.

Пераехалі шашу, і вось ужо ў лесе Гаркуша мне гаворыць: «Не слухай ты Айчанаша. Дзед у цябе як дзед — гаспадарлівы, хіба гэта блага?.. А нам з табою ён таксама хай не грозіць: ці ж мы не савецкія, што ён палохае нас савецкай уладаю? Каб на сваёй зямлі ды ў сваім лесе мы з табою некага баяліся! За што ж тады нашы бацькі галовы клалі? Не бойся нікога, і ўсё ў нас будзе добра, абы мы самі любілі адно аднаго ды не сварыліся. Так я кажу ці не, жонка мая любая?»

Ён абхапіў мяне адной рукою за плечы, а ў другой руцэ ў яго лейцы, дык ён і ёю, не выпускаючы лейцаў, памкнуўся абняць мяне спераду, хацеў прыгарнуць і пацалаваць, ды бачу, насустрач нехта едзе на ровары, дык я і пачала адбівацца — так мы і не пацалаваліся. А другі раз ён не стаў дамагацца, можа, падумаў, раз жонка, дык нідзе ўжо я ад яго не дзенуся, бо некуды ж вёз ён мяне, а куды вёз, як не ў сваю халасцяцкую хату, бо мы ж пад'ехалі ўжо да Заліп'я.

Так, у сваю казённую хату вёз ён мяне, у гэтую самую, дзе я цяпер пра ўсё тое расказваю. Пад'ехалі мы, а ўсё ўжо тут кіпела — у двары і ў хаце. З коміна валіў дым; Вярбіцкі, ляснік з Кустоўя, адчыніў нам вароты, мы ўехалі ў двор, а ў двары, каля хлява, тузалася, прывязаная да плоту, наша Лыска, цялушка-двухлетка. Чаму яе ў хлеў не загналі — гэта ўжо дзедаў гонар, каб усе бачылі, які ён за маладою дае пасаг, а сам ён пад гэтай павеццю, дзе цяпер іншы раз майструе Гаркуша, сек дровы. Завіхаўся ў белай кашулі, у ёй толькі ў царкву раз у год ездзіў, а цурбакі разбіваў так хвацка, што паленцы адскоквалі аж на сярэдзіну двара, таму так і тузалася на прывязі Лыска. Дзед убачыў нас і кінуўся з усіх ног да ганка, каб забегчы нам наперад, дык і ў хату мы ўвайшлі ўслед за ім. Хто іх ведае, ці то мы заспелі іх так знянацку, ці яны так рашылі між сабою, ды ні каля двара, ні ў двары яны нас не сустракалі, бо на іншых вяселлях дык чаго толькі не нагледзішся — і куль саломы ля варот паляць, і жыта над галовамі маладых сыплюць, а тут і ўсе рады былі нашаму шлюбу, але як быццам і хацелі ўтаіць яго ад лішніх вачэй, як быццам саромеліся тых людзей, што сказалі б — ні дня не гулялі, і раптам вяселле, штосьці тут нячыстае, таму і сустрэлі нас толькі ў хаце. А хто сустрэў: дзед і маці — гэта мая радня, а ў Гаркушы вяселле было як сіроцкае, маці-то ў яго была, але ж недзе далёка, за Гомелем, дый старая, але, можа, і прыехала б, каб даў знаць, дык жа загарэлася яму хутчэй вяселле справіць, а яшчэ ж і ўсе вы такія: як займеў абніматку, дык забыўся й

на родную матку. Таму і замянілі яму бацьку і матку ляснік Вярбіцкі з жонкаю. Ну вось. Мая маці трымала перад сабою маленькую іконку, яна перахрысціла нас і блаславіла: «Дзеткі мае родныя, хай вам бог дасць добрага здароўя, шчасця ды дзетак многа; каб жылі ды шанавалі адно аднаго; любі, доню, свайго чалавека, ён табе Богам пасланы, а ты, Адамавіч, таксама не крыўдзі дачку маю адзіную». І пацалавала нас абаіх... А лесніčыха таксама сказала: «Ну вось, Адамавіч, даўно я чакала твайго вяселля — і дачакалася. Бласлаўляю цябе як сына. Хай у вас і дзеткі будуць такія прыгожыя, як вы самі». Нешта хацеў сказаць яшчэ і Вярбіцкі, але дзед крутнуўся ля яго і спыніў «пустую гамонку»: «Ну, досыць! За стол пара!»

А я чула-такі, што ў другой хаце чакаюць госці, бо яны там гаманілі пацiху, а нехта нават і выглянуў адтуль, калі мы слухалі блаславенні. А потым увайшлі мы з Гаркушам у гэтую хату, дзе мы зараз сядзім, а тут ужо ўсё стаіць на сталах — і гарэлка, і закусь, цэлых два сталы, і гасцей поўна: бухгалтар Загорцаў, Данілаўна — у яе харчаваўся Гаркуша, аднаногі Восіп з Грабянцоў, глухі конюх Кузьма, багата леснікоў ды аб'ездчыкаў, а яшчэ быў і Лёшка Гамон, можа, яго і не клікаў ніхто, але ж нахаба гарэлку чуў за вярсту.

Такое было наша вяселле — не па закону, як ад веку спраўлялі, а ўсяго нібыта бяседа ў жаніховым доме. Як налілі першы раз, устаў Загорцаў і павіншаваў нас з законным шлюбам. Успомніў маю дваюрадную сястру Насцю, сказаў, што і я такая ж прыгажуня, як яна, дык і трэба, каб калі ўжо не ў Насці, дык хоць у яе сястры была і доля прыгожая. У мяне ажно слёзы навярнуліся, так ён праняў мяне сваёй гаворкаю... А як налілі другі раз, захацеў сказаць Вярбіцкі. А пра што?.. Гаркушу якраз перавялі ў ляснічыя, дык адзін Айчанаш затаіў злосць, а ўсе ў Заліп'і нарадавацца не маглі, якое разумнае ў раёне начальства: магло б прысылаць чужога ды паганага, а Гаркуша даўно ўжо як свой і нікому слова благога не сказаў. Дык пра тое цяпер і Вярбіцкі: шкада, кажа, што няма на вяселлі Мажэйкі, але які ж ён малайчына, ведаў, на каго пакінуць лясніцтва, бо пасля самога Мажэйкі лепшага, чым Гаркуша, ляснічага і прыдумаць нельга.

Дзед ты мой родны!.. Праўду казаў Хведар Айчанаш — дамогсятакі свайго: твой зяць, Гаркуша,— ляснічы!.. Успомніла — ляжу я на ложку, а дзед мой у сенцах камандуе: «Упярод, Гаркуша!» Дык вось яна, дзедава перамога. Не паспелі яшчэ ўсе як след закусіць, а ён заварушыўся, закруціўся на лаве, падагнаў, каб налілі трэці раз. Строга на нас зірнуў і ўсё роўна як загадаў абаім: «Разжывайцеся, дзеці! Не лавіце разяў. У лесе, калі хто варушыцца, жыць можна. Во, Вярбіцкі не дасць збрахаць. А на разжыву прывёз я вам бульбы, пакуль два мяхі, пасля самі накапаеце колькі трэба, мех проса, сала прывёз і мяса — праўда, саланаватае, але затое не чарвівае. І падушкі там у вас, і коўдра — усё ў вас ёсць, во хай маці скажа...»

Толькі цяпер я падумала, колькі прыйшлося ім пазавіхацца, каб і бульбы накапаць, і ўсё перавезці са стражы, не дзіва, што іх і ў хаце амаль што не было апошнія дні, маці і дзеда. Ох і дзед! Ён яшчэ не ўсё сказаў, яшчэ заставалася цялушка — самае галоўнае: «А каб у вас з першага дня хлеў не пуставаў, дык прывёў я вам і цялушку, усе бачылі — цельная, сам вадзіў да бугая, так што, лічы, карова ўжо, а не цялушка».

«Горка!..»

Каб табе ўсё жыццё так горка было, як стукнула табе ў галаву, п'янаму. Каму ж, як не Лёшку Гамону. «Горка!» — Божа мой, а гэта ўжо хто? Век бы не падумала — глухі Кузьма. Як вёз на Галае, слова не прамовіў, а тут і яму, старому, таксама горка. Ды за ім і Загорцаў: «Горка!» А тады і ўсе разам: «Горка! Горка!» Няўжо ж не бачылі: мне і так горка да слёз, яно ж вымушанае было, маё вяселле. Айчана-

шава праўда — яно не мае было, а дзедава, ён жа мяне, як цялушку, прывёў у Гаркушаў двор, тую ў хлеў, а мяне ў хату. А яны зноў: «Горка!» Гаркуша падымае мяне пад локаць, і мне трэба з ім цалавацца, ён ужо цалуе мяне, а я рукой у грудзі яму ўперлася, слёзы душаць мяне, а Гаркуша, чую, злуе — мацней абхапіў за плечы... Сяджу і плачу, слёзы цякуць па шчоках, а яны адзін аднаму падтакваюць: так і павінна быць, маладая развітваецца з дзявоцтвам, ад вялікага шчасця плача.

Павяла рукою па шчацэ, дала ім знаць, што хачу змыць слёзы, выйшла ў пярэднюю. А за мною і маці. Прайшлі кухняю ў спальню, а там ужо нам і пасцелена. Села я на ложак: наша пярына, з ёю яшчэ маці ішла замуж, толькі пер'е ўжо лезла, дык ото ж маці і шыла апошнім часам новы напернік, пасаг рыхтавала. Села маці побач дый кажа: «Не плач, доню. Хіба ж мы табе якога ліха жадалі? Ён жа добры. Адно што не хадзіла ты з ім, дык, бывае, гадамі ходзяць, а як запішуцца, і месяца не пажывуць разам. І не за светам жа ты — то я да цябе, то ты да мяне... А цяпер пайду я, доню, карову ж даіць трэба... А дзед трохі тут пажыве, цялушку ж трэба прыпасвіць, бо у нас яна была на прывязі, а тут у іх чарада. Не дай Бог, збяжыць, дык папашукаем па лесе, а то яшчэ і воўк зарэжа. Хай пажыве. Вам ён замінаць не будзе, кажух узяў, дык і паспіць на вышках... Пайду я, доню...»

Я вывела яе на ганак. Вывела і зноў вярнулася ў спальню, так не хацелася мне за стол, хоць і разумела я, што гэта нядобра. А госці яшчэ доўга не разыходзіліся, столькі ўсяго на стале, дык ім усё роўна, тут нявеста ці не, абы выпіць ды закусіць. Толькі ж Гаркушу не ўсё роўна, бо гэта ж вялікая ганьба жаніху, калі нявеста ўцякае з вяселля. Але ж нікуды я не ўцякла, сяджу ў спальні, а перагародка тонкая, дык я і чую ўсё. Вярбіцкага цягне жонка дадому, хацеў вылезці з-за стала і Загорцаў, але яму не далі. Лёшка Гамон падсеў да Гаркушы, прыстае нечага. Нарэшце пайшлі, і Загорцаў, і ўсе астатнія, акрамя Лёшкі. Ды не, мабыць, застаўся яшчэ дзядзька Восіп, аднаногі ж, дык як ён, п'яны, пасунецца ў Грабянцы, будзе начаваць, можа, нават на вышках з дзедам, бо ніхто ж яго ўжо сёння ў Грабянцы не адвязе. Лёшка прыстае да Гаркушы, хоча, каб Гаркуша некуды з ім паехаў, ці не ў Сібір, ажаніўся ж, дык самы час яму туды ехаць, а дзядзька Восіп каторы ўжо раз аклікае Гаркушу, нешта спрабуе сказаць, але не дае Лёшка. Ды нарэшце Гаркуша трохі адчапіўся ад Лёшкі, і тады дзядзька Восіп гучна яго суцяшае: «Адамавіч, не сумнявайся, нявеста першы сорт, за гэта я ручаюся. Бо я вока з яе не зводзіў. Адзін падлабуньваўся, Айчанашаў сын, але маладое, зялёнае, дык я і параіў яму: спачатку пад носам вытры, а пасля я табе во такую дулю паднясу — бачыў?.. Айчанаш задраў галаву, сын на ляснічага пастуіпіў вучыцца, але калі з яго яшчэ вылупіцца той ляснічы. Ды хай вучыцца, а ты жыві, Адамавіч, і не сумнявайся — за дзеўку мне дзякаваць будзеш».

Толік!.. Паступіў-такі на ляснічага. Паступіў. А ў бальніцу не прыйшоў... Толік... Аднаго разу ў Грабянцах было вяселле, ішла дзеўка за трактарыста з эмтээса. І вось яшчэ за сталы не селі, а тут падружка нявесціна і кажа ёй: там цябе нехта на вуліцы чакае. Павяла нявеста крайком вока на жаніха, а той быццам і не супраць, каб яна на хвіліну адлучылася. Дык яна і выйшла. А там яе два дужыя хлопцы — хоп ды на матацыкл, у каляску ўтапталі, і толькі разявіў жаніх сваю нявесту і бачыў!.. Бо ў той дзеўкі быў некалі ўхажор, з суседняй вёскі, а потым яго забралі ў армію, дык вось цяпер ён, ужо звыштэрміновы марачок, успомніў, што ў яго была дзеўка, наляцеў, падхапіў, бы вецер, дый памчаў яе ў вэлюме. А яна і не працівілася. З'ехала з марачком, а жаніх і цяпер яшчэ, як вып'е, так і бяжыць вешацца... Але што гэта я ўспомніла?.. Толік... Не ўжо, не прыйшоў

у бальніцу, дык і цяпер... Божа мой, пра што гэта я?.... Мала награшыла, дык каб і яшчэ адзін грэх...

Чую, дзед выганяе Лёшку, не сядзі тут, ужо ноч. А ўжо ж і праўда ноч — у маёй каморцы цёмна, а яны запалілі лямпу — свіцяцца шчылінкі. Дзед і дзядзька Кузьма пайшлі, мабыць, на вышкі, бо чую толькі Гаркушу ды Лёшку. «Ну, яшчэ во гэта перакулім — і гамон»,— кажа Лёшка. Выпілі. Гаркуша таксама п'е — учуў, мабыць, нядобрае. А Лёшка раптам як запяе:

Абляцелі кветачкі
Не ў пару.
Нявесела шэраму
Камару.
Як пачаў ён з жонкаю
Разам жыць...

«Госпадзі,— падумала я,— каму ж нявесела? Мне, а не Гаркушу! Ён жа дамогся свайго, дык чаго ж цяпер гараваць?..» А Лёшка агітуе: ёсць у Гомелі такая кантора, што вярбуе ў Сібір — тых, у каго лесавая адукацыя, едуць на лета, а на зіму вяртаюцца назад, дык плюнь ты, кажа, на сваю жонку, лепш махнём мы з табою ў Сібір, гарэлкі там — хоць грудзі маж, а баб, што гразі...

Божа, слухаць такую гадасць!.. Каб пачула гэта Вера Макараўна!.. «Як набралася моцы матчына дачушка...» Ведае недзе пра маё горкае вяселле. На ложку ляжыць недзе і рукой за сэрца трымаецца.

Дык чаго я слухаю, чаго я чакаю?.. Запісалася?.. Не сама я запісалася, дзед запісаў... А калі яму так люб Гаркуша, дык яму і на вышкі не трэба ісці, хай кладзецца ў хаце.

Ступала на пальчыках, чула з кухні, як скрыганула ў іх там лава па падлозе — напэўна, устаў п'яны Лёшка. Выбегла ў калідор, цёмна, вось і ўсё — з двара на вуліцу, але па вуліцы нельга, тым болей што ў белым плацці, дык між хатаю і канторай выгараджаны праезд, па ім — на лясніцкі двор, а з двара сцежачкай на канец Заліп'я, на дарогу, а па ёй на масток, пад Высокую Грыву — так я сама сабе ў думках прыкінула. Прыпасвай тут, дзед, сваю цялушку!..»

## 11. Арляк

І зноў Гаркуша знайшоў мяне ў лесе. Пачуццё ўласнай годнасці, як заўсёды, перапаўняла яго, бо нездарма ж ягоны позірк толькі збольшага, быццам грэбліва, слізгануў па мне, і я загадзя ўжо змірыўся з тою кпінай-падколкаю, якую абавязкова падпусціць ён пад мяне, перш чым я пачую працяг яго сямейнай эпапеі. Цяпер-то ўжо сямейнай, бо нарэшце ж ён запісаўся са сваёй Зояй. Але здаўся мне Гаркуша гэты раз і нейкім паспешліва-мітуслівым: напэўна, баяўся, што нашай сустрэчы, як і мінулы раз, перашкодзіць ляснічы. А яму ж яшчэ рупіла і нешта ў мяне выпытаць, бо я ўжо ведаў гэты яго ўнутраны, трохі ліхаманкавы, стан, што адбіваўся ў яго і на твары. Вось ён як быццам і паказвае вачамі на збуцвелы, паточаны караедамі, чорны пень, шукае і другі, знайшоў, а сам не бачыць яго, бо ягоныя думкі не ў гэтым лесе. І не паспелі мы сесці, як Гаркуша спытаў:

«Слухай, пісацель. Растлумач ты, калі ласка, цёмнаму чалавеку, пра што там цяпер у вас можна пісаць?»

Не скажу, каб яго пытанне заспела мяне зусім знянацку. Я ж ведаў, што на яго творчым рахунку — «апавяданне» пра шалёнага ваўка, гэта проза, а яшчэ ляснічы неяк абмовіўся, што Гаркуша папісваў некалі і «сцішкі». Тады мне здалося, што ляснічы нешта блытае:

Гаркушаву «прозу» назваў «сцішкамі», цяпер жа я падумаў, што ад Гаркушы ўсяго можна чакаць. Але ўсё роўна я трохі разгубіўся:

«Ну як — пра што можна пісаць. Пра ўсё. Пра што хочаш, пра тое і пішы, абы гэта было ў пэўных межах — каб не на шкоду усім нам».

«А-а, у межах...— Гаркуша згодна паківаў галавою, робячы выгляд, што яму ўсё з майго адказу зразумела.— Канечне, у межах, я так і думаў. А чаму я спытаў... Некалі я здорава апёкся на гэтай справе... У межах...»

Ён быў такім сур'ёзным у непасільнай для яго, але ім жа самім зададзенай тэме, што я, міжволі асцерагаючыся, каб ён не западозрыў мяне ў прымітыўным разуменні надзвычай складанай з'явы, паспяшаўся ўдакладніць:

«Так, у межах. Але ж ні ў якім разе нельга думаць, што мяжа — гэта нечая забарона, не, зусім не так, пісьменнік сам пазначае для сябе такую рысу, каб усё, што выходзіць з-пад яго пяра, было за нас, а не супраць, а паколькі ты яшчэ з піянераў ведаеш, што гэта значыць — за нас, дык табе і няцяжка вызначыць, дзе праходзіць такая рыса. Вось гэта і ёсць — у пэўных межах...»

Гаркуша ўздыхнуў.

«Ну вось бачыш... Няцяжка вызначыць... А я даў маху, не вызначыў... А хацеў жа, каб як лепш... Хацеў... Не, каб ты ўсё зразумеў, трэба зводдаль. Пачну са свайго вяселля... Ну а як жа, было вяселле — ўсё па закону!.. Але як бы табе сказаць... Трохі мяне Мікалайка збіў з тропу... Мне трэба было прыручаць яго ўнучку памалу, а ён мне кажа, чаго ты марудзіш — чакаеш, пакуль ухопіць жвавейшы? Словам, Гаркуша, упярод! Ну я і рушыў — напралом! А напралом у такой справе нельга. І вось уяві сабе: адгуло вяселле, усе разышліся, і нявеста мая за перагародкаю мяне чакае, а тут гэты смала Лёшка застаўся, і хоць ты яму ў вочы плюнь. Ну ты ж яго ўжо ведаеш: ніякай культуры, ніякага разумення — маладых трэба пакінуць адных, дык не ж, сядзіць, нахаба, апошнюю гарэлку дапівае ды агітуе мяне на ўсё плюнуць і махнуць з ім у Сібір на вялікія заробкі. Але я ўсё-ткі не гнаў Лёшку. Чула маё сэрца: штосьці ў маім шлюбе не так, як у людзей, ды і няўзброеным вокам было відаць — невясёлае яно, маё вяселле, хутчэй плакаць трэба, а не весяліцца, і не ведаю, можа, госці і напраўду падумалі, нявеста плача, таму што так трэба, маўляў, развітаецца з роднай маткай, з бесклапотным дзявоцтвам, але, хутчэй за ўсё, і яны прытвараліся, а я тым болей нутром пачуў — не надта яна хоча за мяне, таму і плача. Не, яна-то хацела за мяне, але, я ж кажу, трэба было яе перш трохі прыручыць, а не прыручыў, дык яна і плача. Вось я і не праганяў паразіта Лёшку, адцягваў той момант, калі трэба будзе ісці да яе, да сваёй законнай жонкі, і рабіць тое, што ўсе ў першую шлюбную ноч робяць. Але далей нельга ўжо было адцягваць, бо ўжо і Лёшка наткнуўся позіркам на пустую пляшку і вельмі быў здзіўлены — усё выпіта? Сам падняўся з-за стала, не трэба было і выганяць. Я толькі вывеў яго з двара, і ён пайшоў у свой бок роўненька, як па струнцы,— многа мог, алкаголік, выпіць.

Ну ўсё — хутчэй да жонкі. Нарэшце такі, чорт пабяры, я пакладу гэтаму канец — то яна едзе ў сельсавет запісвацца, то плача на вяселлі, цяпер я маю на яе поўнае права, як казаў той дзед Мікалайка,— упярод, Гаркуша, з маладой жонкай ды на мяккай цешчынай пярыне пакажы, які ты ўдалы мужчына!..

Але што гэта?.. На ганку я мусіў затрымацца. Чую: з лясніцкага двара ідуць у бок вуліцы двое — мужчына і жанчына, ціха, але зацята лаюцца. Галасы сціхлі, і я падумаў — нешта мне здалося, ужо ж ноч, хто мог так позна ісці з лясніцкага двара, што б ён там цяпер рабіў?.. Увайшоў у пярэднюю, але зноў пачуў тую ж лаянку, толькі ўжо бліжэй, ля двара, а потым ляпнула і брамка — яны ўжо ў двары, ну каго

яшчэ д'ябал нясе, так ніколі да маладой жонкі не дабярэшся!.. Але чакай — хто гэта? Я пазнаў Мікалайкаў голас — каго ён так бэсціць?.. «Ах ты курва паршывая! Ты думала, я цялушку буду прыпасваць? Падшыванца найму — і ўвесь клопат. Я цябе прыпасваю, ды, бачу, цябе не прыпасваць трэба, а трымаць на прывязі!..»

Адчыніліся дзверы, і каго ж ён увапхнуў перад сабою ў хату? Зою, маю жонку! Адной рукою Мікалайка зачыняў дзверы, а другой трымаў сваю ўнучку за касу — сваю ўнучку, а маю законную жонку, ды як трымаў — накруціўшы касу на руку, ля самай патыліцы. Я не хацеў верыць сваім вачам, але не, я не памыляўся, гэта была яна, мая законная жонка, якая паспела ўжо ўцячы ад свайго законнага чалавека. «Ну вось што, Гаркуша,— злосна сказаў Мікалайка,— каб жаніцца, багата розуму не трэба, а хто будзе тваю жонку пільнаваць? Апошні раз я табе лаўлю яе за стадолай!.. Яна думала, я на вышках сплю, як быццам сена ў цябе там начавала! Адны дошкі голыя. Дык я і сена прывязу! Мне для цябе нічога не шкада, але і ты цюхцяём не будзь, глядзі, каб твая лахудра бязмозгая нас не ганьбіла!..»

Стаю, кулакі сціснуў, зубы сціснуў, вось-вось з грудзей нечалавечы енк вырвецца. Але ўзяў-такі сябе ў рукі, трохі расслабіўся, нават нейкай дурнаватай весялосці сабе надаў — сказаў Мікалайку: «Добра, стары. Улічу тваю параду. І за тое, што злавіў дэзерціра, загадам па лясніцтву абвяшчу табе падзяку. А пакуль ідзі дасыпай, а мы тут з ёй самі разбяромся. Гэта наша сямейная справа».

Ён выйшаў і зачыніў дзверы, а я падумаў: «Прывёў бы ты яе, каб яна заўпарцілася. Яна сама прыйшла. Яна думала, што цяпер я праганю яе, і тады ў яе было б хоць якое апраўданне — перад маці, перад дзедам, урэшце перад самой сабою: ну так, яна хацела ўцячы, але, можа, не ўсур'ёз, адно па дзявочай дурасці, а Гаркуша яе выгнаў!» І яна чакала, што я выганю яе. А я не выганяў. Яна стаяла, прысланіўшыся спінаю і патыліцаю да вушака і трохі скоса глядзела на мяне сваімі шэрымі — «месячнымі»! — вачамі; яны і так у яе вузкаватыя, а яна іх яшчэ і прыжмурыла — кідае мне выклік, маўляў, што ж ты стаіш, дзе твой мужчынскі гонар, выганяй!.. А я так сур'ёзна гляджу на яе, уздыхнуў дый, нібыта шкадуючы, што так нядобра ў нас атрымалася, пацяшаюся:

Я у Зоечкі на коечцы
Прасіўся начаваць.
Дарагая мая Зоечка,
Ніхто не будзе знаць.

А потым і кажу: «Знаеш што, Зоя, мне ўжо не прывыкаць. Была ў мяне Маруся, прыгожая хахлушка, але яе бацька, аб'ездчык Гаршуноў, адбіў у мяне да яе ахвоту — два кіламетры гнаўся за мною з пугаю. Была ў мяне і Ліда — інтэлігентная дзяўчынка, але з ёю ў мяне таксама такое напаткала, што і ў страшным сне наўрад ці сасніш,— выпіў чарніла. Ды не, ты не пра тое падумала — сапраўднага чарніла!.. А цяпер вось і з табою прыгода — Бог тройцу любіць. Але разумееш, якая розніца: з тымі я не быў запісаны, а з табою мы ўсё-такі законныя муж і жонка. Дык як жа нам быць, Зоя?.. А што калі мы ўсё-ткі пажывём разам, ну, не разам, гэта я не так сказаў, не разам, а толькі ў адной хаце, га?.. Давай дамовімся так: не ляжыць у цябе душа да мяне, дык і не трэба. Ноччу я не чапаю цябе, ты ў сваім кутку, я ў сваім, а ўдзень ты толькі робіш выгляд, што мне жонка. Калі хто ў хату прыйдзе. Як ты на гэта глядзіш, Зоя? Адна палка ў печы не гарыць, а дзве і ў полі не гаснуць. Згода?..»

А дзе яна дзенецца? Заплюшчыла вочы і кіўнула галавой.

Яна ўжо назаўтра паказала, найперш дзеду, што яна мая жонка,

гаспадыня. Устала да свету і спрэгла старому ячную, бо яму ж трэба было гнаць з чарадою цялушку. А я спаў у зале на падлозе і, як толькі пачуў — прыйшоў стары, падхапіўся і хуценька згроб свой шынель, які замяняў мне цешчыну пярыну. Стары пагнаў цялушку, а я зноў прылёг і палёжваю сабе: жанатаму добра, ляжыш, а жонка табе недзе бульбу варыць; так яно і было — снедаў я бульбаю са смажаным салам.

Снедаю, мачаю бульбу ў тук, жонка мая, у фартушку, мые ўчарашні посуд, ужо нешта і суседцы аднесла — пазычалі ж талеркі ды лыжкі,— усе бачаць, завіхаецца Гаркушава гаспадыня! Словам, лад у сям'і, ажно сам я ў гэта паверыў...

І раптам чую, уваліліся ў двор нейкія жанчыны, здаецца, нашы, лясніцкія — пазнаю галасы, выбег я на ганак — што такое? А яны: а як жа, на вяселле не пазваў, дык мы павіншаваць прыйшлі, не грэх і пляшку паставіць. Яны не ведаюць, якое ў мяне было вяселле, ды я ўжо здагадваюся, што не затым яны прыйшлі — не пляшка ім трэба.

А што?.. Рабілі жанкі ў гадавальніку, дык яны і кажуць: «Ну вось што, Адамавіч, доўга мы цярпелі, ды скончылася наша цярпенне. А яшчэ ж і памочнікам ляснічага быў, вялікай улады не меў, а калі ты цяпер ляснічы, дык мы да цябе і прыйшлі спытаць: як ты будзеш плаціць нам за нашы пакуты? Бо норму ж ані ў жысць не выканаць, пырнік лезе — рады яму не даць. Ды калі б жа толькі пырнік!..»

Уздыхнуў я цяжка. Закладвалі мы вясной гадавальнік, і вось Загорцаў кажа: нельга тут закладваць, не гадавальнік будзе, а рассаднік пустазелля: засмечаны ўчастак. А я яму кажу, нічога, год папраполваем і выведзем зелле. А ён мне: ну, глядзі, калі ты так упэўнены, закладвай... Дык вось цяпер гэтыя мае жанкі і змагаліся з пустазеллем. Асабліва з пырнікам. Здаецца ж, як толькі ўскапалі, дык і віламі вычасалі, і граблямі, а то і рукамі цягнеш корань, а ён доўгі і жорсткі, як дрот, і як быццам далі рады. Ды не далі, бо колькі яго ні вынішчай, а маленькія карэньчыкі на развод застаюцца. І вось пасеялі насенне, глядзіш, а ён ужо выскачыў першы, не быў бы ён пырнік!.. А паказаліся ўсходы — і папаўзлі мае жанчыны па гадавальніку. Вось яна, зялёная пер'інка,— намацаеш пад ёй корань, а тады ён вунь ужо дзе! Пачуеш яго на другім баку радка, пацягнеш за кончык і вывуджваеш памалу, бо тузанеш мацней — усходы пашкодзіш, яны ж кволыя, як першая веснавая траўка. І так усё лета — не выводзіцца пырнік, хоць плач. А ніякія ж нормы яго не ўлічваюць, нормы зыходзяць з таго, што я павінен быў галаву на плячах мець, калі выбіраў месца пад гадавальнік. Загорцава трэба было паслухацца. Вось жа быў мудры чалавек, нават лясной школы не скончыў, усё спасціг на практыцы. Але я малады быў і вопытнага чалавека не паслухаў. Дык вось мае жанчыны цяпер і ўзбунтаваліся. Кажуць, што хочаш з намі рабі, а не пасылай на пырнік, бо далоні крывавяць, а тады і ўначы рукі ўсё роўна што сабакі рвуць...

Добра, сказаў я жанчынам, будзем штонебудзь думаць. А што тут прыдумаеш? Нормы не знізіш, расцэнкі не павысіш, яны ж дзяржаўныя... Сапсавалі яны мне настрой: першы дзень жанаты, а тут яны са сваім пырнікам!..

Вярнуўся я ў хату, на душы пагана, хоць вешайся, пасуду пабіць, ці што, вось тады ўжо абавязкова жонка збяжыць, і хай бы яна лепей збегла, тады і сам плюнуў бы на ўсё ды ў Сібір з Лёшкам!..

Збіраюся ў кантору, злую, гэта ўжо не на кухні, а ў зале, і раптам на парозе — Зоя. Падслухала маю размову з жанкамі, дык яна мне і кажа: «Не пасылай іх на гадавальнік, я сама буду яго даглядаць. Не хачу сядзець дома».

Назаўтра сабралася раніцай і пайшла ў гадавальнік. А як ёй забароніш: як быццам і жонка, але ў той жа час — калі яна табе жонка,

дык чаму ж спіш ты на падлозе ў зале?.. Словам, пайшла яна, а таго ж, можа, і не ведала, што чакаў яе ў маім гадавальніку не толькі пырнік!.. Узяць хоць бы тую ж пласкушу. З выгляду — родная сястрыца пырніку. Але той лезе з зямлі нахабна, а гэта прыкідваецца бяскрыўднай траўкаю, рассцеле два кароткія лісцікі па самай глебе, але сцябло цупкае — так і чуеш пальцамі, як яно цягне з зямлі сокі, бо і ўкаранілася — не вырваць! А то яшчэ даполваеш апошнюю граду, а на першай зноў свірэпка зацвітае. Другі раз дапалоў, здаецца, так ужо чыста ззаду, ды азірнуўся, а за табою зноў бярозка паўзе, грамафончыкі выпускае. А яшчэ ж ёсць і хвошч, асот, вераб'інае шчаўе, яшчэ нейкае зелле, якому і назвы ніхто не прыдумаў, ну і лебяда — адным словам, вырасла лабода вышай агарода... І вось поўзае мая жонка ў гадавальніку, тыдзень поўзае і ўжо другі, а ў мяне душа не на месцы. Грызе сумленне: правільна, нічым яна не лепшая за іншых баб, што во гэтак поўзалі, але ж яна магла і не быць за табою замужам, яе магло і ў Заліп'і не быць, бо яна ж вунь куды — ажно ў Мінск на торфе ехала!.. Хаджу па лесе, а да гадавальніка наблізіцца баюся. Але нарэшце адважыўся, падышоў, наваліўся грудзьмі на гароджу дый пацвельваюся: «Во, падкінуў я табе, жонка, работку — па блату! Яшчэ не здаволілася?..» Яна маўчыць, дык і язык мой другі раз не павярнуўся, каб пажартаваць. Памаўчаў і ўжо спытаў па-людску: «Стамілася?..» Тады і яна разважліва так адказвае: «Стамілася не стамілася, а трэба ж камусьці яго палоць. Мая маці кажа: агарод гарбатую бабу любіць... Так і гадавальнік...»

Гарбатая баба!.. Як сказала яна гэта, ажно не па сабе мне стала. Мая жонка — гарбатая баба! Гэта ў яе такая доля за мною — гарбатая баба!.. Пабрыў як сляпы — ні лесу, ні свету белага не бачу — гарбатая баба!..

А тут жа ўсё адно да аднаго: памёрла Сава, Вера Макараўна. Раніцай не прыйшла да суседкі па малако, суседка пастукала ў акно — ніхто не адазваўся. Пастукала мацней — з хаты ні гуку. Тады жанчына і прыбегла ў кантору.

Хавалі настаўніцу ўсе разам — сельсавет, школа, лясніцтва. Больш лясніцтва, бо леснікі і труну рабілі, і дол капалі, а іхнія жонкі адзелі нябожчыцу і згатавалі хто што змог на памінкі. Труну неслі на руках, могілкі ж побач, нёс і я з маладзейшымі мужчынамі. Першую прамову над труною сказаў старшыня сельсавета, Айчанаш. Нагадаў, якой вялікай патрыёткай была Вера Макараўна. Калі фашысцкія войскі набліжаліся да Заліп'я, яна эвакуіравалася на ўсход і не стала прыслужваць акупантам, як некаторыя іншыя. (Асуджальны Айчанашаў позірк затрымаўся на Мікалайку, які таксама праводзіў у апошні шлях нябожчыцу.) Яна вучыла дзяцей шанаваць савецкую ўладу, выхоўвала іх у духу вернасці справе Леніна і Сталіна, была лепшым агітатарам, таму так дружна і галасавалі ў Грабянцах за непарушны блок камуністаў і беспартыйных... Прыкладна такое ж развітальнае слова сказаў і дырэктар школы: вучні Веры Макараўны не раз заваёўвалі першыя месцы на розных конкурсах, дзе чыталіся вершы пра мудрых правадыроў, пра шчаслівае калгаснае жыццё...

Апошнім гаварыў Загорцаў. Сказаў, што помніць Веру Макараўну яшчэ з даваенных часоў, і была яна вельмі шчырым і душэўным чалавекам... На гэтых словах Загорцаў чамусьці запыніўся — разгубіўся, ці што, але гэта была кароткая замінка, можа, ён перамагаў хваляванне, а далей гаварыў гладка і складна, бо чалавек быў ён адукаваны. Помню, сказаў, што сваё жыццё Вера Макараўна паклала на алтар, а вось на які алтар, я ўжо забыўся.

Памінкі спраўлялі ў хаце нябожчыцы. Без прамоў. Толькі нехта з мужчын перад тым, як выпіць першы раз, сказаў: «Ну, хай будзе ёй зямля пухам». Уздыхалі жанчыны, памінаючы ціхім словам ня-

божчыцу. А як выпілі другі раз, загаманілі гучней — якая была яна ветлівая, як усім дагаджала і як нядобра абышліся з ёй людзі. Успомнілі маю цешчу: гналася за настаўніцай, акаянная, як ваўчыца, і грэх ёй будзе за гэта вялікі. «У суд на яе трэба падаць,— заплакала, выціраючы ражком хусткі слёзы, суседка Веры Макараўны,— каб не яна, дык і жыла б мая суседачка, хадзіла б па малако з глечыкам, яна была мне як родная... Не вытрымала сэрцайка ў беднай — бяжыць жа ўслед ды кулакамі пагражае, знялюдзела на стражы са сваім бацькам-сугнеем...»

І ў мужчын выгляд быў такі ж жалобны, але трохі прытворны. Гэта я мог меркаваць па сабе. Канечне, шкада чалавека, трэба самому не быць чалавекам, каб не шкадаваць таго, хто памёр. А мне было яшчэ і сорамна, помніў жа, як скінуў я Веру Макараўну ў лесе з вазка, а было ж цёмна, дык як жа яна, небарака, дабрыла навобмацак дадому — цяпер я не мог гэтага сабе дараваць. Але ж усё роўна, калі гэта не вельмі блізкі табе чалавек, дык не будзеш жа ты так убівацца па ім, каб і самому не жыць, словам, гаруеш, але ж адразу відаць, калі ты перабіраеш меру — прытвараешся. Але хто з нас не прытвараўся, дык Загорцаў. Шчыра перажываў смерць Веры Макараўны, пакутаваў, бо калі вып'еш, твар чырванее, а ў Загорцава ён пабялеў, ажно павыразнеў на шчацэ шрам, я нават падумаў, ці не падмешаная чым гарэлка — тытунём, напрыклад, ад яго бялееш, але ж іншым ды і мне самому яна не зашкодзіла, не, гарэлка была як гарэлка. Проста Загорцаў вельмі блізка прыняў да сэрца Савіну смерць.

З памінак мы ішлі з ім разам. Думаў, разыдземся па дамах, а ён лёгенька павёў рукою, маўляў, не спяшайся, давай са мною, і мы прыйшлі з ім у кантору. Я зразумеў, што яму трэба пагаварыць з некім, дакладней, выгаварыцца. У такіх выпадках ён звычайна закурваў, цяпер жа ён адно абапёрся локцямі на стол і сашчапіў перад сабою тонкія пальцы.

«Пра мёртвых толькі добрае, альбо зусім нічога,— сказаў Загорцаў.— Так яшчэ ў старажытным Рыме было заведзена. А калі б над яе труною я сказаў... Я часам заходзіў да яе, яна заводзіла патэфон, слухала і плакала, бо гэта ж было пра яе: «Мне бесконечно жаль моих несбывшихся мечтаний, и только боль воспоминаний гнетёт меня». А нядаўна яна мне кажа: «Смяяцца будзеш, а мне і цяпер сніцца, нібыта я ў Гомелі ў парку, а там танцы, і я таксама танцую ў сваіх лодачках». Дык вось сказаў бы я пра яе гэтак над труною — добрае гэта было б ці благое? Вучыла дзяцей, хадзіла ў дождж і снег... туды-сюды, туды-сюды, а марыла аб нейкім іншым, прыгожым жыцці...»

Не ведаю, ці то само сабою ў яго так выйшла, ці то гаварыў ён усё гэта свядома — як быццам пра Саву, а ў той жа час і пра Зою, пра мяне з Зояй. Лодачкі! Цяпер тыя Савіны лодачкі перайшлі да маёй жонкі, Сава іх падарыла ёй, праўда, было ў гэтым для мяне штосьці не зусім яснае. Хадзілі чуткі, нібыта Сава пасылала маю жонку, ну тады яшчэ проста Зою, вучыцца на артыстку, таму і ахвяравала ёй свае «лодачкі». Але не, усё было прасцей, і гэта яшчэ раз пацвердзіў Загорцаў: Сава марыла аб іншым, прыгожым жыцці, і калі ўжо яно не было суджана ёй, дык яна і хацела, каб хоць Зоя і за сябе і за яе пакрасавалася недзе ў яе лакіраваных лодачках.

Вось калі мне яшчэ мацней захацелася ўзвыць ад роспачы, ад яшчэ большай сваёй віны: гэта ж я пазбавіў сваю жонку прыгожага, шчаслівага жыцця, зрабіў яе тут, у Заліп'і, гарбатай бабаю!..

Уваходжу ў двор, а на ганку сядзіць насуплены, як сыч, мой цесць Мікалайка. Збоку пад ганкам зялёная траўка, дык ён і забаўляецца — гуляе, як малы, у ножыка. Гэткай дзіцячай гульнёй ён, мабыць, супакойваў сабе нервы, іншыя кураць, а ён бярэ во так за кончык лязо,

і ножык, перакруціўшыся ў паветры, з прысвістам утыкаецца ў траву... Стары даўно ўжо ад нас вярнуўся на стражу, бо цялушка абвыклася ў чарадзе, а цяпер яны з цешчаю былі на могілках, ды на памінкі не пайшлі, не надта сябравалі з нябожчыцай, таму ён і бавіў час у двары — можа, чакаў майго прыходу. Хаця мы і бачыліся на могілках, я злёгку ўскідваю руку — лішні раз салютую: «Можа, якая справа? Дык я слухаю». Але Мікалайка нават не зірнуў у мой бок, адно буркнуў: «Маё дзела — старана. У хаце твая цешча, з ёй і рашайце».

Не дагадзіў старому. Хітры быў: аддаваў унучку замуж, каб ляснічага трымаць, як гэты складанчык, у сваёй кішэні. Тыдня пасля вяселля не мінула — паставіў умову: я табе цялушку, а ты мне каня. А як я дам яму каня, калі ён не ляснік: Айчанаш толькі таго і чакае...

Ступіў у сенцы — падумаў: а што ж будзе «рашаць» са мною цешча, хто тут большы начальнік — я, ляснічы, ці яна?.. Уваходжу ў хату, а яны, чую, на кухні — жонка і цешча. Зайшоў да іх, а цешча адразу і кажа: пагаварыць хачу, дык ці не правёў бы да сябе ў залу. Усё-такі пытаецца дазволу, разумее: зяць — большы начальнік. Заходзіць яна са мною ў залу, садзіцца, і вось тут ужо яна робіць мне вымову! «Дык што ж ты за зяць у мяне, я з капаніцай гарбею на высечках, твае пасадкі гляджу, дык ты і дачцэ маёй лепшага не прыдумаў?.. Як прыйшоў ды як сказаў мне гэта дзед, у мяне сэрца крывёю абліло-ся. Госпадзі, гэта ж толькі Мажэйка наш быў нежанаты, а калісьці жонка жыла за ляснічым — целам пышная ды белая і хадзіла важна, як гуска, а болей на вазку, ды з верхам, каб дождж не намачыў, ездзіла, як пані. А ты маю дачку на грады пагнаў?..»

Так яна прабірае мяне, а я слухаю цешчу, і сам жа першы сябе асуджаю, сам жа згаджаюся з ёй, але ў той жа час нешта ўва мне і пратэстуе, бо цешча цешчаю, а ёсць і цесць — чаму ён ні разу не заступіўся за сваю ўнучку? А ён жа ведаў, цялушку прыпасваючы, што яна ходзіць на гадавальнік.

Таму і не заступіўся, падумаў я, што ягоныя ўяўленні аб жыцці больш правільныя, чым у маёй цешчы. «У лесе можна жыць» — такі ў Мікалайкі лозунг. Бо тут ён мог і лазовай кары надраць — жывая капейка, і першую ягаду ўхапіць, а таксама і грыб, і ўсцягнуць на дрэва пчаліную калоду, а ўрэшце і засеяць ляда. Але гэта не ўся праўда. Найперш Мікалайка разумеў: нішто само ў рукі не прыйдзе, што і ў лесе трэба шчыраваць, як шчыруе з ранняй вясны пчала, а тады, можа, і будзеш у лесе панам. Таму ён і быў такі няўседны, рабацяшчы, казаў — плюнуць убок няма калі, таму ён і не быў супраць, што яго ўнучка пайшла палоць гадавальнік. А маці, мая цешча? Яна таксама была рабацяшчая, цягавітая, але ж яна лунала ў аблоках: раз дачка за ляснічым, дык і доля ў яе павінна быць лягчэйшая, ды што там лягчэйшая, не лягчэйшая, а зайздросная, прыгожая!

Ну дык што ж, падумаў я, лягчэйшую долю я магу ёй даць: забараню хадзіць на работу ў лес, а яшчэ і не будзе яна гадаваць у хляве свіней. Хопіць адной каровы. А што датычыць прыгожай долі... Лодачкі!.. Не ў Заліп'і ж бачыла Зою ў сваіх лакіраваных лодачках Сава!..

А ўрэшце — мяне ўжо разбірае злосць! Яна, мая дарагая цешча, думае, што сваёй дачкой так ашчасліліла мяне, што мае права рабіць мне вымовы! Думае, у мяне з яе дачкой такія салодкія любошчы, што я перад ёю, цешчаю, ніц павінен упасці, павінен дзякаваць ёй усё жыццё за яе доню. За што дзякаваць? Зубамі ў сне скрыгачу, каму сказаць — не паверыць, сплю ў гэтай зале на падлозе — камедыя, а яна прыйшла і распінае!.. Ну тады я ёй і кажу: «Знаеце, Мальвіна Мікалаеўна, у Заліп'і нічога прыгожага вашай дачцэ не свеціць: не быць ёй тут паняю. Гэта некалі да вайны перад ляснічым ці яго жон-

каю леснікі шапкі здымалі. А цяпер твой ляснік газане паўз цябе на матацыкле, гразззю цябе, як з аўтамата, прастрочыць і не азірнецца, каб папрасіць прабачэння... Так што заліп'янскі варыянт адпадае. Але ёсць яшчэ адзін, першы ваш варыянт, той, якім спакушала вас Сава. Вы ж куды сваю дачку праводзілі — у Гомель, у Мінск?.. Вось і цудоўна, я таксама за гэта. Бо я і сам ужо месца сабе не знаходжу, я і сам хутчэй жывы не буду, чым дапушчу, каб мая жонка была гарбатай бабаю! Таму і абяцаю вам урачыста: будзе ваша дачка прагульвацца ў сваіх лодачках, і не ў Гомелі, як хацелася Саве, а ў Мінску. Масквы я вам не гарантую, а Мінск — раз плюнуць: прыедуць на легкавушцы і забяруць — не яе, канечне, а мяне разам з ёю!..»

Што я сказаў?.. Хто прыедзе і чаму ён нас адсюль забярэ?.. Ды не куды-небудзь, а ў Мінск!.. Твар у цешчы жаласны, яна глядзіць на мяне і нічога не цяміць, а толькі, мабыць, думае: Божа, за каго ж я дачку аддала, няшчасная яе доля...

А гэта было маё раптоўнае азарэнне: сесці і што-небудзь напісаць! Яно і раней тлела ўва мне, гэтае жаданне, але ж, бывала, успомню, як стары дурань Гаршуноў гнаўся з пугаю,— адразу знікала ахвота, а тут я раптам адкінуў прэч тое дурное, што не мог аніяк забыць: ну пры чым тут, думаю, Гаршуноў, там у мяне было апавяданне пра ваўка, а цяпер я напішу што-небудзь зусім іншае...

Пагарачыўся трохі. Назаўтра астыў і ледзьве ўжо не перадумаў, але прыйшоў на гадавальнік, грудзьмі аблёг на гароджу і раптам так ясна ўявіў сабе, што б сказала Сава, каб убачыла, як мая жонка поўзае па градах. «Я хацела, каб яна лётала недзе, як вольная птушка, а ты пасадзіў яе ў клетку». Бо і праўда ж: гадавальнік, што клетка,— з усіх бакоў гароджа. І цяпер я ўжо на цвярозы розум цвёрда сказаў сабе: што ж, сам пасадзіў, сам і выпушчу яе на волю, хай яна недзе знойдзе сваё прыгожае, фантастычнае... Напішу, але не пра ваўка, а пра партызанаў — прыедуць і забяруць, я правільна сказаў сваёй цешчы: пісьменнікаў звозяць у Мінск, дык і я там буду з яе дачкою!..

А чаго ты пасміхаешся? Гаркуша зірнуў на мяне, прыжмурыўшы адно вока. Можа, я няпраўду кажу, што пісьменнікаў забіраюць у Мінск? Вунь Іван Шамякін — таксама з леснікоў! Ну, сам-то ён настаўнік, але ўсё роўна — бацька ляснік, а настаўнікам ён быў у Пракопаўцы, вёска такая, я там блізка практыку праходзіў. А дзе Шамякін цяпер? У Мінску! І на «Волзе» катаюць, і сям'я яго там. Так што не смейся, не думай, што мы тут такія ўжо цёмныя. Я правільна разважаў: забяруць у Мінск, а раз еду я, значыць, і жонка са мною, так я і вызвалю яе з клеткі.

Усё, думаю, саджуся і пішу. Быў у нас тут ляснік Гарошка, ваяваў у Каўпака, дык ён і расказаў мне адну гісторыю. Словам, Каўпак заслаў шпіёна да немцаў, а немцы да Каўпака, і вось — хто каго перахітруе, хто ў каго важнейшы сакрэт выведае. Спісаў цэлы сшытак, але ж трэба такому здарыцца: Гарошка ні з таго ні з сяго памёр, а калі быў жывы, я няўважліва, мабыць, яго слухаў, дык і не ведаю, чый шпіён першы папаўся. Помню, было неяк цікава, наш усё роўна перамог, але трэба, каб было дакладна, бо калі нехта прачытае, а ў мяне штосьці не так, як было на самой справе, дык тут ужо не аб'ездчыкавай пугі паспытаеш, бо тут палітыка! Пасядзеў я так, пасядзеў, а потым і думаю: не ўдалося адно, дык... а што калі ўзяць ды наскладаць вершаў? У Мінск забіраюць і паэтаў, а мне ўсё роўна, як пісаць,— калі трэба, дык магу і ў рыфму!..

А чаму я так быў у сабе ўпэўнены, растлумачу.

Калі я вучыўся ў тэхнікуме, да нас прыязджаў карэспандэнт. Ды не з раёна, а з вобласці, малады хлопец, а важны такі, з партфелем. Дык я падышоў да яго дый пытаю, ці не мог бы ён на практыцы паказаць мне, як пішуцца вершы. А ён мне адказвае: ну, браце, кожны паэт

піша па-свойму — як каму Бог пашле, бо навука ёсць самая агульная. Але галоўнае, так ён мне тлумачыць, каб было вобразна. Канечне, трэба каб было складна, у рыфму, але вобразна — гэта найперш. А што такое вобразна? Гэта калі бачыш адно, а пішаш другое, але каб усе здагадаліся, пра што. І прыводзіць такі прыклад. Ну вось ты, кажа, будучы лесавод. Што для цябе бяроза? Дрэва. І ты мне скажаш: вясной на бярозе распускаецца лісце. А калі ты паэт, дык скажаш мудрэй: бярозцы, дзяўчынцы басаногай, вясна дорыць зялёную сукенку. Так ён тлумачыць, а я і пытаю: у дзяўчынкі дзве нагі, а ў бярозкі адна?.. Ён уздыхнуў, дзіўна неяк на мяне паглядзеў дый кажа: не быць табе паэтам. А я сам сабе думаю: ну, гэта мы яшчэ пабачым, бо я ж наўмысна сказаў пра адну нагу — каб падражніць яго, бо вельмі ўжо важны быў. Тэорыю я ведаў, мы ж праходзілі па літаратуры і параўнанне, і эпітэт, мне цікава было, каб ён паказаў мне, як яно робіцца на практыцы, а ён, аказваецца, і сам у гэтым невялікі спец. Ну дык, думаю, я і сваім розумам дайду. А што? Было ж, пра ваўка — захацеў і напісаў. А што пасля Гаршуноў узбунтаваўся, дык я ж не ведаў, што воўк шалёны.

Але я забыў сказаць, што карэспандэнт прыязджаў да нас на выпускныя экзамены, пабыў і паехаў, а праз тыдзень і мы ўсе раз'ехаліся хто куды. Хто куды, а я, канечне, у Заліп'е, а тут мяне закруціла — то ўсякі лесавы клопат, то рознае «шаршэ ля фам», дык у мяне і з галавы вылецела, што збіраўся складаць вершы. А вось цяпер, спатыкнуўшыся на шпіёнах, я пра іх і ўспомніў!

Не смейся, стаў бы паэтам, папіваў бы недзе з Шамякіным каньячок, і жонка мая па тэатрах бегала б — усё ў ажуры было б, калі б той карэспандэнт не быў такі мудры. Галоўнае, бач, каб было вобразна. Але ж якраз галоўнае ён ад мяне і ўтаіў. Не сказаў, пра што можна пісаць, а пра што нельга. Сам-то я помніў: трэба пісаць праўду — Гаршуноў навучыў! — а выходзіць, як ты цяпер кажаш, праўда яшчэ павінна быць і «ў межах». Акурат на гэтым я і пагарэў».

«Арляк... Прыгожы, халера...— Пацяплелымі вачамі Гаркуша паказаў на высокае, стройнае каліва арляку, яно трохі адбілася ад свайго зялёнага зарасніку, і я падумаў, што, відаць, невыпадкова Гаркуша прывёў мяне на гэты невялікі чысты грудок сярод баравой папараці, бо нездарма ж нешта шматзначнае пачулася ў яго стрыманым захапленні: — Глядзі, пісацель...»

Гэта ён казаў мне, як быццам сам я не ведаў, што такое арляк, ніколі яго не бачыў, як быццам наогул ніхто да нас не заўважаў яго ў лесе. Даўно ўсе заўважылі. «...И в завитках еще в бору был папоротник тонкий». Гэта Аляксей Канстанцінавіч Талстой, і гэта — пра арляк ранняй вясною. Яго бледна-зялёныя завіткі-спружынкі энергічна выпростваюцца, і ён разгортвае, шырока раскідвае ўбакі раскошнае лісце-крылле, важка ўзмахваючы ім, няйначай, уяўляючы свой высокі галавакружны ўзлёт. Магутнай, раскошна-прыгожай бывае і балотная папараць, калі яна, шчыльна абступаючы парэпаныя чорныя камлі, пышна-зялёным непранікальным веерам абвісае з ілістых, аплеценых альховым карэннем, купін, але ўсё ж яе не параўнаць з баравым арляком; бо ёсць у яго спрадвечнай яве штосьці няўлоўна загадкавае, магічна-прыцягальнае, легендарная кветка-папараць — гэта, хутчэй за ўсё, расцвітае адно ва ўсім вялікім лесе каліва арляку. Бывае, раніцай яго аццяжэлы за ноч густы заграснік пругка падступае табе пад пахі, з распластанага лісця, як жывая, скочваецца буйная срэбная раса, і ты, каб не намачыць журнал таксацыі і самі рукі, падымаеш іх угору і доўга брыдзеш, усцешаны думкаю, што гэтак яму, спрадвечнаму арляку, ты аддаешся на роднай зямлі ў пажыццёвы палон...

Але, безумоўна, найпершая метафара ў самой трапнай назве — арляк...

«Глядзі, пісацель»,— гаворыць Гаркуша, і я бачу, як высокая, падобная на цыбатую птушку, папараць, адбіўшыся ад бліжэйшай да нас зялёнай купкі, увачавідкі лашчыцца да Гаркушавага калена, а ён таксама замілавана пагладжвае пяшчотнай далоняю яе разное ўзорыстае лісце.

«Дык вось слухай, што я табе далей раскажу.— Сашчапіўшы пальцы, Гаркуша аблягае запясцямі на зведзеныя калені.— Падвёў мяне той разумны карэспандэнт, навучыў таму, што я і без яго ведаў, падумаеш — эпітэ́т, а вось галоўнага — пра што можна пісаць, як толькі што растлумачыў мне ты,— пра тую самую мяжу і ўсё такое, гэтага мне ён акурат і не сказаў. Дык вось так, не ведаючы броду, я і палез у воду — адзін за адным пачаў складаць свае вершы, а дакладней, яны складаліся ў маёй галаве самі сабою. А што гэта былі за вершы — мяркуй сам. Ну, напрыклад, пра дубкі. «Дуб любіць расці ў шубе, але з адкрытай галавой» — ты ведаеш гэтую мудрасць, ёй сто гадоў, гэта яшчэ, здаецца, сказаў Марозаў. Дык вось пра гэта я і напісаў верш. Маўляў, акружу кожны малады дубок бярозкамі і асінкамі, каб рос ён угору гонкі і высокі, цягнуўся да святла, імкнуўся да сонца. А яшчэ напісаў пра каранёвую губку. Пра тое, як прэе, гніе, задыхаецца ў сасны корань, а сама яна чэзне, як сухотная;ігліца драбнее, ападае; адна сасна ўсохла, другая — і вось ужо ў лесе акно. Дык я і напісаў, што нельга саджаць сасну там, дзе раней засявалася поле, бо акурат на былой ніве і заводзіцца каранёвая губка. Такая была ў вершы ідэя... Ну а яшчэ — ты, можа, сам ужо здагадаўся — яшчэ я напісаў пра арляк, вось пра гэты самы. І вось жа трэба такому здарыцца: гэта быў самы лепшы мой верш, аднак пасля я і сам зразумеў, што якраз у ім я і даў самага большага маху.

Але ўсё па парадку, бо далей было вось што.

Перапісаў я акуратна свае вершы, нават не чарнілам, а чорнай тушшу, заклеіў у канверт і адаслаў у рэдакцыю. І не ў раён, а ў вобласць, бо ў маленькую газету я ўжо, дзякуй Богу, насіў некалі апавяданне пра ваўка. Адаслаў і чакаю адказу. Чакаю, а сам думаю: надрукуюць, дык я ім столькі яшчэ наскладаю, што нідзе не дзенуцца, прыедуць і забяруць, бо я ж добра ведаў, што пісьменнікаў звозяць у Мінск.

Аднак па пошце адказу я не дачакаўся. Затое тыдні праз два, раніцай — я толькі сабраўся ў кантору, прыходзіць да мяне ў хату Загорцаў і перапалоханым голасам паведамляе: там да цябе нехта прыехаў, чакае ў тваім кабінеце, я мусіў яму адчыніць. Гаворыць, а сам ажно змяніўся з твару, нейкі немужчынскі перапалох, і нарэшце да мяне дайшло, чаму ён так дрыжыць: баюся, кажа, каб цябе не забралі. Ну дык я яго і супакойваю: усё правільна, па мяне і павінны былі прыехаць, я даўно чакаю, праўда, я думаў, што спачатку прышлюць пісьмо, але ім там відней. Што з Загорцавым? Ідзе побач сам не свой. Зрэшты, я разумею: на яго ж «находзіць», а прышлюць на маё месца новага ляснічага, той можа і не прыняць яго з такой заганаю.

Прыходзім у кантору, адчыняю дзверы ў свой кабінет, а за маім сталом сядзіць малады мужчына, нават не мужчына, а хлопец, гадоў яму дваццаць пяць. Быў ён у цёмным касцюме, трохі падношаным, пры гальштуку, каротка падстрыжаны, твар не буйны, а галоўнае, нейкі такі, што прыглядзеўся, а не магу адразу прыдумаць, на каго гэты хлопец падобны. Кожны чалавек тварам абавязкова падобны або на якую-небудзь птушку, ну, як, напрыклад, Сава, настаўніца,

або на звера, на якую-небудзь жывёліну, скажам, стары Мікалайка падобны на ката. А гэты мой госць ні на каго не падобны. Праўда, можа, трохі на вераб'я, бо і вочы кругленькія, і нос трохі завостраны, але не, і на вераб'я не падобны. Калі і было ў яго нешта хоць трохі адметнае, дык не надта акуратна зачасаны назад чубок, такі, знаеш, вузенькі — як прыкрыць далонькай. Таму ў думках я і даў яму такую мянушку — Чубок. Пінжак у гэтага Чубка быў расшпілены, бо, відаць, адчуваў ён сябе ў маім кабінеце так, як быццам не я быў тут гаспадар, а ён. Я павітаўся, ён кіўнуў галавою, але рукі мне чамусьці не падаў, толькі паказаў вачамі на крэсла. Мяне гэта насцярожыла, але не надоўга, бо я адразу скеміў, што ён з рэдакцыі: перад ім на стале я ўбачыў свае вершы, здалёк пазнаў, бо перапісваў чорнай тушшу. Ага, падумаў я, значыць нечага яны вартыя, раз ён прыехаў да мяне з імі. А што яны ўсе ў рэдакцыях трохі пыхлівыя, дык гэта я ўжо ведаў па тым карэспандэнце, што вучыў мяне пісаць вершы,— такая хітрасць, да якой нейкаму Гаркушу аніяк не дапетрыць...

«Іван Адамавіч Гаркуша?» — спытаў Чубок. «Колькі сябе помню, быў Гаркушам»,— адказаў я. Мой смелы адказ не то здзівіў яго, не то засмуціў, бо даволі доўга ён глядзеў на мяне такімі вачамі, як быццам сумняваўся, ці той я чалавек, якога ён хацеў бачыць. «Тады, Іван Адамавіч, скажыце, вось гэтыя творы напісалі вы?» — Чубок прыўзняў аркуш над сталом і зводдаль паказаў мне мае ж вершы. «Дзіва што! — пацвердзіў я.— Гэта мае творы. А не верыце, я вам зараз магу скласці любы верш, скажыце толькі пра што».— «Так, так,— паківаў галавою Чубок.— Тады скажыце, хто вас гэтаму навучыў?» — «Пісаць вершы? — спытаў я. Хацеў сказаць пра карэспандэнта, але падумаў, чаму ён мяне там навучыў, не столькі навукі было ў ім, колькі фанабэрыі, сам да ўсяго дайшоў сваім розумам, дык я так і сказаў: — Ніхто мяне не вучыў, я самавук». Чубок недаверліва паглядзеў на мяне, і я не мог зразумець, чаму ён так, нібыта не мне, а некаму іншаму, паспачуваў, уздыхнуўшы: «Не разумее чалавек. Толькі-толькі жаніўся, а не разумее, што яго жонка адразу ж можа застацца ўдавою». У галаве ў мяне прамільгнула, што мая жонка не можа застацца ўдавой, таму што яна фактычна не стала яшчэ маёй жонкаю, бо я сплю яшчэ ў зале на падлозе, але тут жа я падумаў, што нейкая не тая завязалася ў нас з Чубком гаворка. Пра што ён?.. А вось пра што. «Не прыкідвайся прасцячком,— строга сказаў Чубок.— Адказвай, хто падбухторыў цябе на адкрытае выступленне супраць сталінскага плана пераўтварэння прыроды?..» Я не паверыў сваім вушам. Чартаўшчына нейкая! Гэта я супраць сталінскага плана! Я Каржу абяцаў жыцця свайго не шкадаваць, каб той план выканаць, а ён мне гэта гаворыць. «Супраць якога плана?» — спытаў я. Спытаў, а сам думаю, не ведаеш ты хлопец Гаркушу. Але зараз ты ўведаеш, Гаркуша рахманы, але да пары да часу. Падхапіўся ды як ступіў да яго, на дзверы паказаўшы: «А ну вымятайся вон, каб і духам тваім тут не смярдзела, мяне сам генерал Корж сюды прыслаў, а ты хто такі, каб...» Я ўсё яшчэ думаў, што ён з рэдакцыі, а ён павольна падымаецца, рука яго лезе некуды пад паху, пад пінжак, так ён дастае і, не зводзячы з мяне вачэй, кладзе на стол... пісталет, а сам цэдзіць скрозь зубы: «Сядзь на месца, сволач! І не рыпайся, бо з такімі ў мяне размова кароткая!..»

Ну я і сеў... Мы абодва селі... Вось тады я і пачаў тое-сёе цяміць.

А ён працягвае: «Значыць, па-твойму, там, дзе было поле, нельга саджаць лес? Значыць, і полеахоўныя лясныя палосы таксама саджаць нельга? Іх жа не ў лесе саджаюць! Значыць, ты супраць гэтага?..» — І ён паказвае пальцам на карціну, што вісела ў маім кабінеце. А карціна такая: Сталін і ўсе яго памочнікі — Хрушчоў там,

Молатаў, Андрэеў, Берыя і хто там яшчэ, не помню ўсіх — схіліліся над вялізнай картаю, а Сталін тоўстым алоўкам праводзіць па ёй тлустую лінію — паказвае, дзе павінна прайсці полеахоўная паласа. «І засуху пераможам!» — так называлася карціна. Ну, тады я трохі пасмялеў дый кажу: «Годзе вам. Адно аднаго не датычыць. Пры чым тут мой верш? Я ж напісаў, што на былой ніве нельга саджаць сасну. А там, на поўдні, сасну не саджаюць. Там саджаюць дуб, вяз, акацыю — мы ж у тэхнікуме вучылі». Але Чубок толькі скрывіў вусны — даў знаць, што я яго не перахітрыў: «Ну, ты яшчэ напісаў бы, што на полі ўвогуле нічога нельга саджаць, а не толькі сасну. Не такія вы ўсе дурныя...»

Канечне, ты правільна сказаў: пісаць дазваляецца пра ўсё, але ж трэба і галаву на плячах мець, трэба, каб было, як ты сказаў, у межах. А я гэтага не ведаў, таму і пагарэў. Напрыклад, пра гэты ж арляк, як ты думаеш, што я напісаў? А ты глянь: вось гэтыя два бакавыя лісты — яго два крылы, а трэці ліст — яго шыя, галава, дзюба. А цыбаты — як журавель ці бусел. Вось ён і хоча ў мяне ўзляцець у неба, хоча адарвацца ад свайго роднага лапіка, дзе ён узрос, і паляцець у вырай. Але ўсё ж такі ён не птушка, ён расліна, таму і ад зямлі ён адарвацца не можа, яго трымае ў родным лесе карэнне, якім ён зроссся з зямлёю... Як быццам усё правільна... Правільна, ды не зусім... Я не ўлічыў, што акурат тады выводзілі на чыстую ваду бязродных касмапалітаў. Былі такія, пра іх, можа, помніш, пісалі ў газетах, якую ні разгорнеш, абавязкова іх бяруць за шчэлепы, бо яны не даражылі роднай зямлёю, а ўсё пазіралі на Захад. Дык Чубок і кажа: «Мы атрымалі на твае вершы заключэнне спецыяліста, і вось што ён піша...» Што даслоўна пісаў той спецыяліст, я ўжо дакладна не помню, але сэнс быў такі: аўтар верша з'яўляецца гібрыдам касмапаліта і нацыяналіста, надзвычай небяспечным для савецкай улады, бо ёсць касмапаліты і нацыяналісты асобна, а тут яны разам — з аднаго боку, арляку напляваць на свой родны лес, бо рвецца некуды ляцець, а з другога, ён ліхаманкава чапляецца карэннем за свой палескі лапік, як быццам па суседству няма, напрыклад, таго ж рускага лесу, яшчэ большага і слыннейшага. «Цяпер ты зразумеў, хто ты такі? — спытаў Чубок, вяртаючы ў патайную кішэню пісталет.— Ты вораг народа ў квадраце, і для цябе нават самой вышкі мала».

З хвіліну я адчуваў на сабе яго дапытлівы, заклапочаны позірк; цяпер Чубку было ясна, хто я такі, ён толькі вагаўся, што са мною рабіць, бо калі мала адной вышкі, дык паспрабуй адразу прыдумаць большую кару. Але заўважаю, хлопец палагаднеў, хавае ў кішэню мае вершы і гаворыць: «Ну добра, Гаркуша, пройдземся з табою па лесе, а там усё будзе залежаць ад тваіх паводзін».

Выйшлі з кабінета, у агульным пакоі Чубок кіўком галавы развітаўся з пабялелым ад страху Загорцавым, і мы пайшлі. Нехта мог бы падумаць, няйнакш, сябры — толькі адзін у лясной форме, а другі ў касцюме. А на самой справе было адно з двух: або ён мяне арыштаваў і вёў у нейкую сваю кутузку, або хацеў па дарозе ў Грабянцы нешта яшчэ ў мяне выведаць. Бо ён мала таго, што быў лагодны са мною, дык яшчэ ўсё больш і расчульваўся. Замілаваным позіркам акідваў кроны дрэў, захапляўся лесам, а потым сышоў трохі з дарогі, вырваў нейкую зёлку, панюхаў і сказаў: «Ах, як тут у цябе хораша! Травою, смалою пахне, птушкі пяюць». Я падумаў, што хлусіш ты, хлопец,— увосень птушкі не пяюць, але скеміў, што для яго цяпер гэта няважна, яму проста трэба быць шчырым і таварыскім са мною. Ён рабіў выгляд, што зусім забыўся пра нашу сутычку. Ды не, ён пра яе толькі і помніў. Бо раптам глыбока ўздыхнуў і паскардзіўся: «Слухай, Гаркуша, ну адкуль вас столькі бярэцца — як

грыбоў пасля дажджу: нацдэмы, касмапаліты, фармалісты! Антыподы розныя, апалагеты!.. Ну вось давай мы з табою па-сяброўску рассудзім, нас ніхто тут не чуе і табе няма чаго баяцца: ну скажы, якая табе выгада гэтым займацца — ты ж сваё і жончына жыццё губіш! Усё роўна ж савецкай уладзе гэта тое ж самае, як цябе камар укусіць, ёй ты ўжо нічога не зробіш, яна прайшла агні і воды, фашызм перамагла!..» Я спыніўся, сціснуў зубы і кулакі. «Шкада,— сказаў Чубок,— шчырай гаворкі не атрымалася».

Хвілін пяць ён ішоў моўчкі, толькі зрэдку пазіраў у бок ад дарогі. Нарэшце сказаў: «Ну што, Гаркуша, давай вунь туды звернем».

У рэдкім лесе ён выбраў гусцейшае месца — там да хвой прымешваліся бярозы — старыя і маладзейшыя, іх ніцае веццё можна было дастаць рукою. Я не разумеў яшчэ, навошта ён мяне туды вядзе, толькі адчуў, як падгінаюцца ногі, як перасыхае ў роце. Чубок ступаў збоку ў мяне і трошкі ўперадзе, і я адчуваў, што крайком вока ён сочыць за мною. Перад гусцейшым лесам ён спыніўся, і вось ён ужо па-гаспадарску да нечага прымерваецца, штосьці сам сабе прыкідвае. І раптам ён спытаў: «Ну, як там, Гаркуша, пажывае твой цесць? Мікалайка, ці хто ён у цябе?» — «Не зусім ён мне цесць,— адказаў я,— проста... жончын дзед».— «Лічы — цесць,— не пагадзіўся Чубок. Ён па-ранейшаму заклапочана прыглядаўся да лесу.— І падзякуй богу, што твой цесць некалі здорава, мабыць, дагадзіў нашаму шэфу. Яны што, разам у партызанах былі? Нейкую дзяўчыну шэф памінаў — нібыта ўнучку яго. Гэта сястра тваёй жонкі?» — «Дваюрадная»,— удакладніў я. «Вось бачыш,— сказаў Чубок,— людзі змагаліся, паміралі, а за што?.. Каб мы цяпер займаліся вось гэтым? — Ён дакрануўся пальцам да пінжака, дзе ў кішэні ў яго былі мае вершы.— Дык вось слухай, Гаркуша, што я табе скажу. Забудзем, што ты іх пісаў. Мы забудзем, і ты забудзь. Мне даручана пасяброўску цябе папярэдзіць. Каб не тое што галавы не падымаў, каб сядзеў тут і не піснуў. Замры, знікні, растварыся, пылам развейся па сваім лесе, а каб на вочы больш ты мне не пападаўся. Так мы з табой і дамовімся... Ну, а цяпер...— Ён выняў з-пад пінжака пісталет, любоўна агледзеў яго, паставіў на ўзвод і сказаў: — Даўно я правяраў яго на жывой справе, усё больш у ціры... А тут жа яшчэ паступаць на вучобу еду, а гэта ж і па стральбе залік, могуць і не прыняць, дык будзь другам, ідзі во так, у гэтым напрамку.— Ён паказаў рукою на аблюбаваны ім гусцейшы лес, перад якім мы стаялі.— Ідзі, не бойся. Я буду не ў цябе цэліць, а паўз цябе — гэта будзе табе лепшым папярэджаннем... Ідзі, Гаркуша,— для тваёй жа карысці...»

І я пайшоў. Калі я не пасівеў у тыя хвіліны, дык не пасівею ўжо ніколі. Ён выбіраў той гусцейшы лес, каб кожны ягоны стрэл быў для мяне наглядны: у рэдкім лесе куля толькі свіснула б каля вуха, а тут яна «цю-ю-юў» — і кавалачак кары адскокваў ад бярозы; яшчэ раз «цю-ю-юў» — і звіслая галінка падала перада мною. То справа, то злева — «цюў», «цюў», «цюў»! А потым чую: «Гаркуша, бягом марш!» А мне ўжо даўно хацелася пабегчы, ну тут я і рвануў!.. Але ж разумею, нельга зігзагамі, бо ён жа не хлусіў — страляў паўз мяне, і калі б я крутнуўся ўбок, я мог бы сам злавіць кулю, ну тады я напрамкі як урэзаў — стрэлы за спінай чую, а кулі ўжо, мабыць, не даганяюць — пісталет жа, колькі яна там з яго ляціць, тая куля».

«Да гэтага часу не разумею, чаму я так доўга не мог спыніцца. А можа, наадварот — разумею, як бяжыць, перажыўшы смяротную небяспеку, звер, як уцякае ад грымотных стрэлаў, што жахлівым рэхам аддаюцца ўвушшу, хоць і даўно ўжо ён ломіцца па глухім

гушчары, дзе куля ўжо яго не дагоніць. Так бег і я, а потым і блукаў па лесе без памяці, і мог бы блукаць хоць цэлы тыдзень — ніхто не стаў бы мяне шукаць — Загорцаў жа ведаў, з кім я пайшоў. Але я апрытомнеў. Апрытомнеў, як убачыў сябе ў вадзе. Спачатку я прагна піў яе прыгаршчамі, стаяў ля берага па калені ў іле, сярод густой крапівы, і, схіліўшыся над ручаём, заграбаў ваду, амаль усю разліваючы яе, пакуль падносіў да рота, але калі нарэшце я наталіў смагу, я не разагнуўся адразу, а стаў углядацца ў чорную ваду. Апошнія кроплі сцякалі з маіх рук, вада ўсё больш выразна адлюстроўвала мой твар — так я і пазнаў сам сябе — нязголенага, з упалымі вачамі. Але, азірнуўшыся вакол, я доўга не мог пазнаць, дзе я — нічога не бачыў за крапівою. Выбрыў на сухое, прайшоў праз ручай і прыкмеціў утравелую грэбельку — не, тут я ніколі не быў. Грэбелька працягвалася і за ручаём, значыць, некалі тут быў масток, так і ёсць, рэшткі гнілых паляў тырчаць з чорнай вады, а трохі збоку — збуцвелая, некалі прачасаная зверху калода, пакладзеная замест мастка. У крапіве, на спуску да кладкі — сцежка не сцежка, але прыкметны след, і, відаць, нядаўні: лісце адведзеных у бакі, надламаных сцяблін яшчэ толькі прывяла. Кудысьці вёў гэты след, я перабраўся па кладцы на другі бок ручая і пайшоў па грэбельцы. Яна неўзабаве скончылася, і тады я пазнаў гэтае месца: Глухі лог — так яно называлася. Адметнае было ўрочышча — улетку сюды не было ўезду, і леснікі паўгода бадай што ім не цікавіліся.

Як жа далёка забрыў я — дзе тое Заліп'е!.. Кружылася ў галаве, падкошваліся ногі, і, як толькі выбраўся я на сухадол, адразу ўпаў ніц. Не хацелася ні думаць, ні жыць. Але сам сабою ўдыхаўся пах верасу і моху — удушлівы пах, таму, каб не задыхнуцца, я павярнуўся тварам убок, усё роўна як прыпаў вухам да зямлі, і ў гэты момант пачуў глухі стук. Так чуеш, утапіўшы левае вуха ў падушку, стук уласнага сэрца, але тут было нешта іншае — стук далятаў зводдаль, я лавіў яго ў паветры — правым вухам,— здалося, нехта падсякае дрэва. Але хто мог забрысці ў такую глуш з сякерою?..

Устаў і рушыў у той бок, адкуль даносіўся стук. Але ён раптам сціх — няўжо ж я трызніў?.. Так і ёсць — трызніў, бо то я чуў, а цяпер і бачу нешта неверагоднае: пад старым дубам сядзіць на кароткім палене старшыня сельсавета Хведар Айчанаш, а над яго галавою звісае тоўстая пяньковая вяроўка з пятлёй на канцы. Трызню: у Айчанаша стомлены, змучаны твар, а ў вачах бяздонная роспач — такім я ніколі не бачыў яго наяве, заўсёды ён па-вайсковаму бадзёры, упэўнены ў самім сабе. Але... няўжо ўсё-ткі гэта не ўяўлены мною, а жывы Айчанаш?..

«А-а, высачыў... Што ж ты — і мядовага месяца адцураўся? — З леснікамі ён заўсёды быў з'едлівы, але цяпер ён здаўся мне і насцярожаным.— Не скора ты мяне на хрэсьбіны пазавеш — надта лес пільнуеш». Я пераводзіў позірк з пяньковай вяроўкі, з пятлі, на зямлісты Айчанашаў твар, з твару на пятлю і раптам адкінуў апошняе сумненне: нічога я не трызню, усё наяве — і яго зморaны, шэры, як пяньковая вяроўка, твар, і сама пятля ў яго над галавою.

Я ўспомніў, як напачатку лета, яшчэ толькі пракінуліся першыя ягады, ішоў я па аб'езнай дарожцы ў Грабянцы. А там справа ёсць такі пясчаны ўгрэў — Белай касой завецца. Дык на ёй і паяўляюцца самыя першыя суніцы. Месца і блізкае ад шашы, і глухаватае, вось яны і прыйшлі крадком сюды па ягады, як быццам схаваліся ад калгаснай работы, жанчын пяць з дзецьмі. І хто б мог падумаць, што іх знойдзе тут Айчанаш!.. Наляцеў, як віхор, ды на кані, а лес рэдкі, каню не замінае, дык ён як стаў іх хвастаць пугаю — і жанчын і малых дзяцей. Хвастаў і мацюкаўся: «Ага, во дзе вы здраднікі, во дзе дэзерціры! А хто ж за вас, прастытутак, будзе лён па-

лоць? Хто будзе за вас рабіць на калгасным полі?..»Такі ён, Айчанаш. Усяго сябе паклаў, каб настала ў калгасе заможнае жыццё, дванаццаць удоў пасадзіў у турму, каб іншыя не кралі, гнаў на поле пугаю, а як зноў жніво — зноў жменя збожжа на працадзень, бо ўсё дзяржава загрэбла. І што яму цяпер рабіць? Усе яго, прыганятага, зненавідзелі, і ён сам сябе люта зненавідзеў, і яму заставалася цяпер толькі павесіцца. Але ж не, трэба неяк жыць. І я ўжо разумею, што гэта ў яго за такая пятля над галавою. Даўно казалі, Айчанашава жонка прадае ў Гомелі мёд. Падымаю вышэй позірк — так і ёсць, яшчэ адну калоду ўзвалок на дрэва. І лесвіца вунь у яго тут. Няшчасных жанчын выганяў з ягад, а ў самога цэлы промысел, як некалі ў Вялікім Княстве Літоўскім. А як жа іначай? У яго ж сядзіба, гаспадарка, а калі ты актывіст, дык і паказвай іншым прыклад — заплаці тысячу рублёў падатку, здай сто кілаграмаў мяса, дзвесце літраў малака, сто яек, а яшчэ і паўкіло воўны — хоць з сабакі наскубі, а здай. А трэба ж і дзяцей апрануць, а цяпер у яго і сын паступіў недзе ў Мінску, вучыць трэба. Дык і не дзіва, што ад самай вайны адно і тое ж галіфэ насіў, але і яно ўжо працёрлася на каленях, дык будзеш вынаходлівым — пацягнеш на дуб калоду.

Ён як быццам чакаў, пакуль я разгледжу, як яна там прымасцілася на дубе, ягоная калода, бо як толькі я перавёў на яго позірк, ён пайшоў на мяне ў наступ: «А вы думалі, толькі вам тут раскашавацца? Лес не адным леснікам належыць, а ўсяму народу, дык і нікому не забараняецца ім карыстацца. Дзе гэта напісана, каб толькі вам раздолле? Пачакайце, вось мой сын вывучыцца на ляснічага, дык ён вас навучыць тут свабоду любіць!..»

«Божа,— падумаў я,— пра якую свабоду ён гаворыць? Гэта ж толькі старому Мікалайку ў лесе свабода, бо такія ў яго інтарэсы — каб нешта пасеяць у лесе ды ўкасіць. А гэта хіба свабода, калі ў цябе, як у зайца, з пісталета смаляць? Дык заяц жа хоць можа ўбок скочыць, а ты бяжы па струнцы і нават галавой не хітні, бо ён жа паўз тваё вуха цэліць... А можа, у жонкі свабода?.. Мела рацыю нябожчыца Сава, калі так выпіхвала яе адсюль, ад мяне бараніла. Але цяпер, нават калі б не трэба было і жонку, як тую птушку, з клеткі выпускаць, хвіліны тут не заставаўся б. Каб я тут пылам развейваўся?!»

## 12. Адна

Іду па лесе, спыняюся і, адганяючы абрыдлых камароў, апісваю яшчэ адзін «выдзел» — так гэта ў нас, таксатараў, называецца. А калі ў тым баку, дзе Пясчаная Рудня, пратарахцеў ледзь чутны верталёт, я не надаў гэтаму вялікага значэння, бо стала ўжо звычным, што час ад часу над Заліп'янскім лесам пралятае Першы сакратар ЦК. Хаця, напэўна, існуе ўсё-ткі нейкая тэлепатыя, бо акурат у гэтую хвіліну, калі да майго слыху данеслася прыглушанае лясным шумам тарахценне, я ўспомніў Гаркушу. Пасля я зразумею, што было гэта невыпадкова, а пакуль я толькі сумна сам сабе ўсміхнуўся, згадаўшы чарговае Гаркушава дзівацтва, да якога дадумацца мог толькі ён. Паўднёвы край Заліп'янскага лесу, яго рэліктавую дуброву, павінна была перасекчы траса нафтаправода, і не якога-небудзь, а міжнароднага. Пакуль што ў натуры была толькі адна яго праектная лінія, а для Гаркушы ўсякі вучоны праект — гэта вартая жалю тэорыя, таму, зыходзячы са сваіх практычных меркаванняў, ён і прапанаваў свой варыянт трасы. На падыходзе да Заліп'янскага

лесу нафтаправод павінен быў зрабіць «калена», загнуць убок — і далей пайсці па існуючым проціпажарным разрыве. Так Гаркуша зберагаў шмат гектараў дубовага лесу, і з гэтай прапановай ён на сваім порсткім мапедзе і прымчаўся да будаўнікоў. Гаркушава авантура сарвалася, будаўнікі адмовіліся рабіць «калена», слушна палічылі, што калі ў кожным беларускім лесе міжнародны нафтаправод пачне выкідваць падобныя каленцы, яго могуць і не дачакацца ў брацкіх краінах. Але ж гэта факт: увёўшы ў зман ляснічага, Гаркуша паспеў-такі накіраваць у лягсгас свой варыянт трасы, бо, як вядома, усякія лесасекі ў дзяржаўным лесе афармляюць леснікі. Аперацыя была праведзена ў тым наіўным Гаркушавым стылі, які даўно ўжо быў мне знаёмы, таму мяне толькі дзівіла, як Гаркуша ўтрымаўся на сваёй пасадзе. Так у думках я падзівіўся і цяпер, хаця... нядоўга мяне займала Гаркушава афера. У мяне быў іншы, больш важны клопат, і па дарозе дадому я падумаў: заўтра абавязкова трэба ўбачыцца з ляснічым.

Якая ў мяне была да яго справа, пра гэта пачну трохі зводдаль. Аднаго разу яшчэ завідна вяртаюся я з лесу, уваходжу ў двор, а тут і Гаркуша з жонкаю — накіраваліся былі ў хату, але перад самым ганкам спыніліся: нешта іх раптам насцярожыла. У гэты момант ледзьве ўлоўны, нібы захутаны ў штосьці мяккае і бухматае, глухаваты, усё роўна як чмяліны, басок пачуўся ад вуліцы — я азірнуўся, а гэта чорная, з зашторанымі заднімі акенцамі «Волга», ашчаджаючы заліп'янскіх курэй, няспешна прагула паўз двор — тонкім душнаватым пылком патыхнула з-за брамкі. Гаркуша нецярпліва чмыхнуў — гэтак яму заказытала ў носе — і строга, з раўнівай, як мне здалося, падазронасцю зірнуў на жонку. Яна ж аднымі вачамі ўсцешна пасміхнулася з яго, але ж і згодна, быццам пацвярджаючы нейкую Гаркушаву здагадку, кіўнула галавою:

«Загадзя ўжо, пэўна, вязуць — пітво панскае. І Няхайчык завіхаецца. Вада ад берага забраснела, адкуль толькі што ўзялося, кажа, дзікія качкі на лапках прынеслі, бо ніколі ж не цвіла, дык штаны падкасаў, а тады руку во так у локці сагне дый нібыта косіць ёю ў вадзе — бросню зграбае. Каб не прыкра было ў ваду лезці... Але хай яны хоць патопяцца там, не бяры ў галаву, хадзем у хату».

Я здагадаўся, пра каго яна так непрыязна сказала — хай хоць патопяцца.

Кожны раз, спусціўшыся з Высокай Грывы на масток, я мімаволі прыцішваў хаду: справа ў мяне раздавалася ўшыркі падпёртае з процілеглага боку запрудаю прыгожае возера — з кучаравымі соснамі над вадой, можна сказаць, жамчужына Заліп'янскага лесу, і я ўспамінаў, што якраз тут рабіў свае ранішнія прабежкі даваенны Васілёк, за якога некалі выйшла замуж маладая мясцовая настаўніца Вера Макараўна, Сава. На світанні, калі, здавалася б, толькі і лавіць узаемна з любай жонкаю імгненні найвышэйшага, ні з чым не параўнальнага шчасця, Васілёк па-здрадніцку змываўся ад сваёй каханай у лес і шмат разоў — берагам, па мастку, па запрудзе — употай ад людскіх вачэй аббягаў гэтую ваду, загартоўваў слабае ад прыроды цела і ўмацоўваў у ім здаровы дух. І вось бываюць жа такія метамарфозы: Васілёк уцякаў некалі на гэтае возера ад згубных, як, можа, яму здавалася, пяшчотаў жаночага кахання, а цяпер наадварот: першы раённы кіраўнік, здзейсніўшы на працягу тыдня багата маштабных спраў, не бег, канечне, а ехаў сюды на службовай «Волзе», каб на ўлонні прыроды калівам несямейнай амурнай уцехі наталіць такую ж небязгрэшную, як і ў простых людзей, душу — гэта быў той неабходны яму допінг, дзякуючы якому ён не аднойчы ўжо выводзіў свой раён на першае месца ў вобласці. Дык аднаго разу, ідучы позна ўвечары з Мікалайкавай стражы, я і стаў міжвольным

сведкам таго, як задаволена плёхалася ў вадзе самавітая мужчынская плоць, а над возерам чуўся пранізлівы, прытворна-гуллівы жаночы віск — напэўна, то былі не мясцовыя казачныя русалкі.

І я зусім не здзівіўся, калі ў зацішку за Высокай Грываю набрыў нарэшце і на іх патаемную, абнесеную высокім плотам хатку. Сама хатка мала мяне цікавіла; разумеў я і першага раённага кіраўніка, які забаўляўся ў ёй з прывазнымі німфамі,— у Японіі, напрыклад, для такіх мэт ёсць гейшы, і ніхто за гэта японцаў не асуджае. Аднак за высокім плотам апынуўся добры гектар змешанага лесу — вось гэта мяне зацікавіла, гэта і быў мой службовы клопат, з якім я і мусіў урэшце прыйсці да ляснічага. Як гэты выгараджаны ў казённым лесе гектар я павінен паказваць у сваіх лесаўпарадчых паперах? Чыё гэта ўладанне — лясніцкае? А калі яно некаму перададзена, дык ці ёсць рашэнне райвыканкома, дзе адпаведны акт і чарцёж? Гэтае пытанне я і хацеў высветліць у ляснічага.

Бывае так: у самога ў цябе, можа, і не прыўзняты, але ўсё ж неблагі настрой, і да цябе не даходзіць, што ў чалавека, з якім захацелася табе пагаварыць, на душы нешта вельмі цяжкое, гнятлівае. Так спачатку і я — нават не падумаў, чаму гэтак нявесела павітаўся са мною ляснічы,— адно кіўнуў моўчкі галавою. На мяне найшло нешта блазнавата-гарэзлівае — я сеў на крэсла, закінуў нагу за нагу і, быццам пасмейваючыся з яго — бач, які мілы ў цябе гэты прытончык,— фамільярна спытаў:

«Скажы ты мне, калі ласка, Віталь Фёдаравіч, чыё ўсё-ткі прыхаваў ты за Высокай Грываю ўладанне? Будзем мы яго на планшэце паказваць ці не? Спытаў у Гаркушы, можа, дзе заваляўся чарцёж, а ён маўчыць, аж зубы сціскае, а яшчэ заўважыў я — праедзе чорная «Волга», дык, небарака, чмыхае ўслед, так яму пыл у носе казыча».

Пажартаваў, і раптам — Божа, хто гэта перада мною? Не пазнаю ляснічага. Здаецца, пра такі твар кажуць — перакулены. Мацней выпінаецца падбародак, затое лоб падаўся назад, і нерухомыя вочы таксама ўтупіліся не ўперад, а назад — яму ў патыліцу. Што з ім? І што мне рабіць — распытваць, чакаць, пакуль ён загаворыць сам? Памкнуўся нешта сказаць, але ён перабіў мяне, і ягоны голас цяжка было пазнаць — нежывы, ледзьве чутны:

«Можаш паставіць на мне крыж».

Здаецца, я кіўнуў галавою, нібыта і праўда згаджаўся паставіць на ім крыж. Але ўсё ж спахапіўся — нельга патураць яго ўпадніцкаму настрою. А што рабіць? Толькі адно. Першы раз я, канечне, пажартаваў неўпапад, але цяпер з такога змрочнага стану яго можна вывесці толькі з дапамогай жарту.

«Нічога не разумею,— сказаў я,— «чудище обло, озорно, стозевно и лаяй..» — няўжо гэта ўсё так сур'ёзна?»

Але ён застаўся абыякавы да маіх слоў, горкая складка яго вуснаў сведчыла аб тым, што перада мною глыбока пакрыўджаны лёсам чалавек, і неўзабаве я пераканаўся, што яму і праўда было не да жартаў. Слухаў яго, а сам думаў: «Дык усё-ткі ёсць яна, тэлепатыя: праляцеў верталёт, і я ўспомніў Гаркушу. А потым прыбіўся ў пасёлак і, мінаючы кантору, згадаў раптам ляснічага: здалося, нешта яму пагражае. Але потым адагнаў трывогу. Адагнаў, і вось, калі ласка: верталёт і Гаркуша — здавалася б, якая тут сувязь? А вунь якая!..

Кажуць, недзе да гэтага часу расце дуб, пад якім адпачываў Сувораў,— дуб, такім чынам, стаў гістарычным; усе мы ведаем, чым славутая рака Бярэзіна — у ёй, уцякаючы ад рускай арміі, ледзьве не ўтапіўся Напалеон. Вось так і ў нашы дні наканавана было ўвайсці

ў навейшую гісторыю вядомаму ўжо, калі хто помніць, тарфяніку ля Пясчанай Рудні. Само сабой зразумела, што сапраўды гістарычным ён стаў ужо ў той дзень, калі на ім разыгралася першая палеская карыда. Гэтак жа ў мясцовым паданні застанемся і ўсе мы, каго лёс звёў тады з племянным калгасным бугаём, бо, канечне ж, Гаркуша не прамінуў расказаць леснікам, ды і не толькі ім, хто і якім там паказаў сябе героем. Аднак цяпер я слухаў ляснічага і думаў, што падзея, якая тры дні назад адбылася на ўжо легендарным тарфяніку, па сваім гістарычным значэнні, бадай, не ўступае і самой нашай карыдзе.

Такога сухога лета не помніў у Рудні нават ветэран руска-японскай вайны, што ў свой час адваяваў у леснікоў прыхопленую імі на мяжы з лесам балацянку. Сухадолы дашчэнту выпаліла сонца, і па ўсёй рэспубліцы быў кінуты баявы кліч касіць па тых гіблых мясцінах, куды не дапалі яшчэ меліяратары, дык на забалочаным ветэранавым надзеле і павінна была адбыцца аўральна-паказальная ў маштабе цэлай рэспублікі касьба. Ветэранава балацянка мела тую бясспрэчную выгоду, што побач паслаўся сухі і роўны тарфянік,— хоць пад'язджай, хоць апускайся на верталёце...

І ён прыгрукацеў сюды, вядомы ўсёй рэспубліцы верталёт. А яшчэ раней прымчаліся і ажно чатыры чорныя «Волгі» — з раёна, з вобласці. А яшчэ і кіно, і тэлебачанне! І вось сам Першы сакратар ЦК, стройны, прыгожы, урачыста выходзіць з верталёта — у гумавых ботах, без пінжака, рукавы белай кашулі закасаныя,— эх, даўно ён не завіхаўся на лузе з вострай касою!.. І яму падносяць яе, як след накляпаную, а ён спрактыкавана, трохі нават зухавата яшчэ і мянташыць яе, маўляў, глядзіце, які ў вас Першы — дулю касе не пакажа, бо знаўся некалі і з касою, і з плугам,— сялянскі сын!.. І вось ужо ўсё начальства з косамі займае край балацянкі, не адстае ад Першага, самы раз паказаць, што яно, меншае начальства, таксама выйшла з народа — «раззудись плечо, размахнись коса» — толькі свішчуць, збіваючы з купін асаку, трохі забытыя ўжо, але такія родныя косы, ды кінакамера стракоча то спераду ў касцоў, то збоку!..

А куды глядзела ахова? Як быццам і хлопцы з галовамі, не якія-небудзь прымітыўныя атлеты, у крытычных сітуацыях інтуіцыя працуе хутчэй за камп'ютэр — і раптам такая недаравальная прамашка! Трохі паглыбіліся ў лес — двое з аднаго боку балацянкі, двое з другога, пільнуюць, бо хаця народ і любіць Першага і ніколі на яго не замахнецца, на ўсякі выпадак не лішне падстрахавацца, каб які зламыснік не высунуў з-за дрэва злачынную рулю. А за што яны спакойныя, дык за гэты густы лазняк, што па вузкай лагчыне цягнецца з глыбіні лесу, бо, думаюць хлопцы, па ім і вуж не пралезе. А таго ж не ведаюць, што ёсць яшчэ Гаркуша з мапедам.

Так хлопцы і схібілі, не ўпільнавалі. Бо Гаркуша выткнуў ужо з лазы пярэдняе кола, стаіць і дзівуецца. Касцы ўсё бліжэй і бліжэй, і які выразны, які сімвалічны кадр ловіць камера: увішная каса Першага пад самым Гаркушавым мапедам — жых, жых!.. Вось яна, гістарычная сустрэча вярхоў і нізоў — Першага сакратара ЦК і сціплага, радавога «практыка» Гаркушы! Дубовыя лісткі на акалышку, зялёныя пятлічкі — мясцовы лясны работнік, але чаму ў яго такі панылы твар? Невясёлы настрой гэтага чалавека не гарманізуе з энтузіязмам касцоў, таму Першы хораша прыжмурыўся дый пытае: «А вам што ж, таварыш, касы не хапіла?» А Гаркуша зірнуў на яго знізу ўгору ды быццам і не здагадваецца, што перад ім сам Першы. «Каса ёсць. Але я стаю дый сам сабе думаю: дзякуй Богу, што яшчэ не з усіх балот ваду паспускалі, а то дзе б вы хоць такой горкай асакі ўкасілі?»

Найшла каса на камень: ніхто Першаму так дзёрзка не адказваў,

дык і дзе падзеўся яго цёплы прыжмур, сур'ёзна пазірае, быццам вырашае сам сабе, што рабіць з гэтым надта смелым леснікам, але спачатку толькі і прыдумаў сказаць: «М-да, не ў брыво, а ў вока...» Але на тое ж ён і Першы сакратар ЦК, што не так проста яго збянтэжыць: Гаркуша, з яго відавочным неразуменнем складаных з'яў,— малое, наіўнае дзіця, дык Першы далей і кажа: «...Але нельга рабіць паспешных вывадаў і заўчасна апускаць рукі. Неспрыяльным умовам надвор'я трэба проціпаставіць высокую арганізаванасць, бо ўвогуле асушаныя тарфянікі — гэта наша залатое дно, трапна сказана. Касіць трэба, таварыш, касіць!..»

Як быццам і пераканаўча гаварыў Першы, але Гаркуша нават не кіўнуў у знак згоды галавою. Адно бязрадасны, як на памінках, твар выдаваў Гаркушавы думкі: «Залатое дно? Можа, і так, багна ж паглынула столькі сродкаў — таптталі як у прорву».

Сваёй нечаканай партызанскай вылазкай Гаркуша сапсаваў Першаму касьбу, зглуміў непапраўна. І сарваў кіно: камера сáма разышлася, яна і раней стракатала над вухам у Першага, але ён на гэта не зважаў, а тут раптам як цыкнуў! А чаго ўжо ніхто ад яго не чакаў — крутнуў касою, і востры канец кассяя да самага нізу пранізаў купіну — сялянскі сын, Першы добра помніў, што сапраўдны касец ніколі не кіне касу пад ногі... Не даў яму Гаркуша пакасіць у ахвотку, не ўдалося адвесці душу,— Першы крута павярнуўся («вочы б мае не бачылі ўсіх вас — разыгралі камедыю!»), і ажно асака расхінулася перад ім на два бакі — так імпэтна рушыў ён напрамкі да верталёта.

...Я мог сабе ўявіць, якія чорныя хмары збіраюцца над галавою майго лепшага сябра: Гаркуша, яго падначалены, кінуў бязглузды выклік самому Першаму сакратару ЦК!.. Ды яшчэ ў прысутнасці яго ўслужлівай світы!.. Самазабойца!.. Але хай бы за сваю ідыёцкую выхадку ён расплочваўся ўласнай галавой, а то ж спытаюць найперш з яго, з ляснічага. Бо хто ж, як не ён павінен выхоўваць падначаленых, адказваць за іх ідэйна-палітычны ўзровень?.. «Яму і праўда не пазайздросціш,— падумаў,— не дзіва, што і мой гумар да яго не даходзіць». Але не прымаючы майго жарту — «чудище обло, озорно, стозевно и лаяй...», ён усё-такі знайшоў у сабе сілу спытаць з прыкметным сарказмам:

«Ну што там у тыле непрыяцеля — фанфары, феерверк, трыумф?»

Я здагадаўся, што «непрыяцель» — гэта Гаркуша, а «тыл» — канечне ж, яго жонка, але чаму яна павінна была трыумфаваць, гэтага я не разумеў. Яшчэ не ведаючы, героем якога грандыёзнага чэпэ стаў недзе там, ля Пясчанай Рудні, Гаркуша, я раптам адчуў, што зрабіўся як бы лішнім у іхняй хаце, дакладней — у яе ў хаце, бо гэта ж яна, гаспадыня, зусім не заўважала мяне ў апошнія дні,— так бывае заўсёды, калі жывеш на кватэры, а гаспадароў спасцігае нейкае гора. Дык гора было цяпер і ў яе, хаця яна і не ведала дакладна, а толькі здагадвалася: зноў Гаркуша наклікаў на сваю галаву нейкую бяду, а значыць, і на яе галаву таксама.

«Ды не,— адказаў я,— ніякага трыумфу, хутчэй наадварот,— ходзіць сама не свая, перажывае».

«Перажывае,— злёгку перадражніў мяне ляснічы.— Ведаю, як яна перажывае. Радуецца. Доўга ён чакаў гэтага моманту і вось — вылез! Падставіў! Дык як жа ёй не радавацца? Ага, не ў адной мяне жыццё пайшло пад адхон — хай будзе тое ж і вам!.. І-ды-ёт-ка! — Ляснічы стукнуў кулаком па стале.— Няўжо ж не бачыла, за якога выходзіла чмура, а бачыла, дык хай бы адной і вылазіла бокам, а

пры чым тут мы?.. Ды не мы!.. Што табе, падумаеш,— забракаваў таксацыю, толькі пацешыў, бо камедыя ж, і не больш! А мне партыйны білет прыйдзецца пакласці!.. Ты не верыш?.. Праз тыдзень бюро райкома: «Ход нарыхтоўкі кармоў у экстрэмальных умовах засушлівага надвор'я — пытанне першае, а другое... «Ідэйна-палітычнае выхаванне кадраў лясной аховы». Дзіва што — адзін такі кадр выступіў супраць самога Першага сакратара ЦК!.. Рыхтуецца паказальнае бюро, ну а я, канечне, буду прынесены ў ахвяру — у павучанне іншым, я гэтую кухню ведаю.

Не магу сабе даравацъ, ну які чорт пагнаў мяне ў гэтае Заліп'е, што я тут згубіў і каму я тут патрэбен? Бралі дырэктарам лясгаса, бо не адкуль жа небудзь, а з райкома, адмовіўся — пацягнула ў родныя мясціны. Ну дык і цешся імі — у запасе яшчэ цэлы тыдзень... Эх, паэт, паэт, нават пры ўсёй тваёй геніяльнасці, ты не зможаш сабе ўявіць, якая гэта драма! Што сам гэты кадр вылецеў бы адсюль з воўчым білетам у зубах — гэта я гарантую, але ж малое суцяшэнне, бо шкада, ой, як шкада! Сказаў бы ты мне, інжынер чалавечых душ, ну чаму гэткім прыдуркам пападаюцца самыя лепшыя жонкі? Помню, кіраваў у райкоме, дык аб'явіўся такі ж на цагельні. Гэты хоць не піша, а таму свярбела ўдасканаліць грамадскі лад: куды толькі не пасылаў свае пражэкты — клінічны выпадак, дык ён і апынуўся там, дзе такім месца. Але што цікава. У гэтым выпадку жонка мае права адмовіцца ад звіхнутага, дык не адмовілася ж! Вось і гэта — не плюне ж на свайго недапечанага! Я разумею, некалі такія спадзвіжніцы былі ў дзекабрыстаў, дык то ж першыя рэвалюцыянеры,— канешне, страшна далёкія ад народа, але ўсё ж. А што яна ў гэтым недарэку знайшла — розуму не дабяру. Ну пойдуць жа разам прасіць міласціну — яна пажабравацъ захацела? Дык я ж не магу дапусціць гэтага, бо яна ж і цяпер яшчэ — ух!.. так, здаецца б, і... Ён чмыхае на гэтую «Волгу»!.. У яго ўжо была афера з трасаю, і калі яму разам з яго задрыпаным мапедам так і не далі пад зад выспятка, дык, напэўна ж, праявіў нехта гуманнасць!.. На гэтую «Волгу» ён не чмыхаць павінен, яму трэба перад ёй ніц падаць і колы цалаваць, бо калі б не ён — разумееш — калі б не ён, а ўрэшце, калі б не я!.. Шкада стала... Ды не яго, не самога дэбіла... Але цяпер не тое... Шкадуй не шкадуй, а ўжо нічым не паможаш — не той узровень. Чуе маё сэрца, што на бюро прыляціць сам Першы, бо гэта ж яму тут кінуты выклік.

Ты знаеш, што для мяне ў гэтай гісторыі самае крыўднае? Я ж другі раз выходзіў, як тая Лявоніха, на арбіту — рэдкі выпадак! Бо каго ж цяпер і браць у райком, як не мяне: я ж такую з гэтым ахламонам прайшоў практыку, што толькі цяпер па-сапраўднаму магу сабе ўявіць, як мала яшчэ мы працуем з нашым народам. Быў ідэолагам і, здавалася, не дарма ем хлеб, а цяпер успомню, якія рассылаў лекцыі, ды і сам выступаў — за галаву хочацца схапіцца! З кім змагаўся, каго выкрываў? Таго ж Быкава — каманда была — ды яшчэ Карпюка — чуў пра такога? Звілі ў Гродні кубло, але што ж іх выкрываць, калі яны самі адкрыта на ражон перлі!.. Ты паспрабуй гэтага выкрыць — калі ён яшчэ ціхай сапай шкодзіць, калі ён не пайшоў яшчэ з адкрытым забралам!.. Не, я казаў і казаць буду: гэты сённяшні Гаркуша — той жа колішні Мікалайка, толькі на новым вітку спіралі: таму бяльмом на воку быў мой бацька, а гэтаму не дагадзіў сам Першы сакратар ЦК — асушыў балоты!..»

Так ляснічы не то скардзіўся, не то разважаў сам з сабою і тым самым, без іроніі кажучы, ідэйна падкоўваў мяне — без той з'едлівай паблажлівасці, з якою звычайна павучаў мяне Гаркуша. Нават лектар абкома партыі Ракіта не пераканаў бы мяне так, як пераконваў ляснічы. Я пачынаў глыбей думаць. Канечне, ляснічы меў рацыю,

што Гаркуша — своеасаблівы Мікалайкаў працяг, але я мог ужо сказаць і больш: Гаркуша перарадзіўся — так шкодна на яго паўплываў Мікалайка. Бо варта ўспомніць, якім Гаркуша быў раней. Прыйшлі яны з Мікалайкам у яго лазню, выпілі, і толькі пачаў Мікалайка расказваць, як ратаваўся ён ад калгаса, а Гаркуша яго і пытае: а ці не займаешся ты, стары, антысавецкай агітацыяй? Мікалайка і язык прыкусіў, бо з правільных пазіцый выступаў некалі Гаркуша. Канечне, і тады не ўсё ў ім можна было ўхваліць, ён і тады ўжо насіўся і са сваёй «практыкай», і з «натурай», і тады ўжо ён бэсціў «тэорыю», але ўсё-ткі асноўны ідэйны стрыжань быў у ім здаровы. Цяпер жа Гаркуша нават горшы за Мікалайку. Той хоць казаў яшчэ — «у лесе можна жыць», таму хоць у лесе была «свабода», а паслухаць цяпер Гаркушу, дык і ў лесе і за лесам «усё ідзе на пагібель». Пасеяў у ім некалі Мікалайка гэты скепсіс, гэты песімізм, і ён, як чартапалох, заглушыў у Гаркушавай душы колішнія здаровыя ўсходы. Гэта і выявілася ў ім пры сустрэчы з Першым сакратаром ЦК.

Але што цяпер будзе ляснічаму? Пагоняць з партыі? Пазбавяць пасады? Каб выклікалі мяне на тое бюро, я заступіўся б за ляснічага, але ж не паклічуць, і я мог толькі па-сяброўску паспачуваць яму на развітанне. А ішоў на кватэру — абураўся Гаркушам: калі ты сваім «фальклорным» спосабам бракуеш таксатару яго работу — гэта ўсяго толькі фарс, праўда, не бяскрыўдны для мяне, але ж — для аднаго мяне, а калі ты кідаеш безадказнае абвінавачванне ў твар Першаму сакратару ЦК, дык гэта ўжо вельмі сур'ёзна, па сутнасці, гэта замах, дурны, канечне, але замах — на тую палітыку, якую праводзіць Першы сакратар у інтарэсах усяго нашага народа.

Адчыняў брамку — стараўся не бразнуць, у залу прайшоў на дыбачках — не хацеў, каб пачула гаспадыня,— хай пораецца на кухні. Злавіў сябе на думцы: асуджаю не толькі Гаркушу, але і яе, як быццам яна была не толькі ягоная ахвяра, а і саўдзельніца — здаецца, я пачынаў разумець яе драму. Яна амаль што не выклікáла ўжо маёй сімпатыі, здалося — яе бясконцая «цвэйгаўская» споведзь — не пакаянне, не самаачышчэнне, а самаапраўданне, на якое наўрад ці варта было мне так шчодра пераводзіць казённыя бланкі. Падумаў: лепей бы яна да мяне болей не прыходзіла.

Але яна прыйшла. Не магла не прыйсці, бо ведала: неўзабаве я развітаюся з імі — з Заліп'я мне ўжо цяжка было «даставаць» паўднёвыя кварталы, і я мусіў перабірацца бліжэй да іх, у невялікую вёску Донькі... З яе вачэй на мяне зірнула ўжо знаёмая мне трывога, яна пакутавала ад той няпэўнасці, калі не ведаеш, што здарылася, бо, канечне ж, Гаркуша нічога не расказаў ёй пра сваю нядаўнюю сустрэчу з Першым. Дык і лабаты Валік дзіцячым інстынктам, мабыць, учуў, як ёй непамысна, бо іншы раз каля гэтай канапы ён не супраць быў злёгку і падурэць, а цяпер, ціха седзячы побач з бабуляй, спагадна хіліўся да яе з хваравітай грымаскай на твары. Хутаючыся ў шэрую вязаную хусту і не зводзячы з мяне ўмольных вачэй, яна сказала:

«Што я хацела ў цябе спытаць, Сяргеевіч. Ото ж садзіўся ў Рудні верталёт, дык, мабыць жа, ведае ляснічы, якога яшчэ коніка выкінуў мой Гаркуша. Ці казаў што? Чуе маё сэрца — яны не даруюць яму, ён жа даўно ім вочы коле, маўляў, усё ідзе на пагібель, а праз каго ж, як не праз іх».

Я не паспеў яшчэ прыкінуць у думках, што ёй адказаць, як зноў яна спытала:

«Кляне ляснічы Гаркушу? Лаецца? — Яна не зводзіла з мяне балеснага позірку.— Ды не толькі яму, мне, мабыць, таксама папала.

Ну дык і хай! Я ўжо даўно сама сабе сказала, ды і не толькі сабе, а некаму і яшчэ: якога Бог паслаў, такі і мой, такая наша бабская доля, а шчаслівая яна ў мяне ці горкая — мой клопат».

Я толькі паспеў падумаць: «Каму яна яшчэ сказала: «Якога Бог паслаў, такі і мой»? Бо яна зноў вярталася ў сваё мінулае, і нідзе я не дзеўся: мая рука сама сабой пацягнулася да алоўка, і зноў я доўга слухаў яе, «стэнаграфуючы» працяг таго апавядання, якое перапыніла яна мінулы раз, бадай, на самым цікавым месцы.

«Гэта ён цяпер на мапедзе на сваім поўзае, як мураш, па лесе, ды ўсё паблізу, бо колькі ж таго свайго лесу — у той жа дзень і дадому вернецца. А калісьці, як малады быў, дык збярэцца, а то нават і не сабраўшыся, кіне-рыне ўсё — і як у ваду кане. Яшчэ да нашага вяселля ездзіў у Гомель да нейкага Піпчанкі, той нібыта абяцаў узяць яго ў сваю кантору, ды нешта яны не згаварыліся. Ну а потым ужо і пасля вяселля. Толькі ж не адразу, з месяц пажылі пад адным дахам. Бо спачатку ён не тое каб збіраўся некуды ехаць, а ўсё казаў, што нехта яго адсюль забярэ. І не аднаго, а разам са мною. Забяруць, бач, а там я ўжо недзе і паняю за ім буду... Гадоў, можа, праз дзесяць прызнаўся: гэта ж ён хацеў пісацелем стаць, вось яго і забралі б у Мінск. Дурны такі быў. Бо я ж памятаю Хведзьку Грошыка, з Донек. З тым, бывала, едзеш у раён, дык заслухаешся: пра ўсё ў яго вершык складзены — і як махлюе крамшчыца, і як старшыня ўсіх удоў перабраў, і пра амерыканца — як паказалі мы яму дулю: палохаў атамам, а ў нас і вадарод прыдумалі. І пра ўсё так складна — нават і ў школе, у нашай чытанцы, не ўсё было такое складнае. Ну дык і што? Забралі таго Хведзьку ў Мінск? Ага ж! Як пасвіў кароў, так і цяпер, можа, пасвіць. А мой думаў, ён дык ужо і разумнейшы за таго Хведзьку!..

Як цяпер помню: за дзень і словам са мною не перамовіцца; адно сам сабе пад нос мармыча, я ажно спалохалася, каб з глузду не з'ехаў. З двара ў адчыненае акно зазірнула крадком, а яго ажно ліхаманіць, так апантана ён нешта піша. А тады, помню, памыла я кашулю, вешаю на вераўчыну, а ён на ганак выйшаў, задаволены надта, рукі над галавою заламаў, уздыхнуў на поўныя грудзі ды ўсцешна так і кажа: «Пачакай трошкі, Мікалайкава ўнучка, скора нас адсюль забяруць. Скора...». А на яго ж часам находзіла дурная зухаватасць, дык яна і цяпер паперла з яго: скора, кажа, скора, а потым як затанцаваў на ганку — чачотку:

Скора, скора снег растане,
Скора крыгі паплывуць.
Скора дзеўкі параджаюць,
На хрысціны пазавуць.

Пазней ужо, як па-людску сталі жыць з ім, я на такую ягоную дурасць адно плюну ды вылаюся нязлосна, а тады ў мяне толькі, мабыць, твар пакрыўджаны зрабіўся, дык ён з ганку пагардліва на мяне зірнуў дый тлумачыць: «Нядоўга ўжо табе на сваім гадавальніку гарбатаю бабаю быць, легкавушка падкоціцца, пасаджу я цябе, як каралеву, і толькі нас з табою тут і бачылі».

Ды не прыехала легкавушка. Затое заявіўся неўзабаве нейкі малады хлопец, інтэлігентны з выгляду, пры гальштуку,— бачу, а яны з Гаркушам ідуць ужо ў Грабянцы, а хто быў той чалавек, не ведаю, толькі вярнуўся Гаркуша на другі дзень падвечар і па пояс запэцканы ў твань, не сеў вячэраць, адно чую — як увайшоў недзе ў залу, так і ўпаў на падлогу; там ён, небарака, на шынялі і заснуў — не разуваўся і не раздзяваўся.

А дні праз два моўчкі сабраўся і толькі з парога ціха сказаў: «Еду ў Гомель». Як быццам нейкае ліха пагнала чалавека, вялікую

скруху павёз, у мяне ажно слёзы навярнуліся, нават памкнулася трохі ўслед...

Паехаў мой Гаркуша ў Гомель, а мне хоць у пятлю лезь, хоць пабяжы ды ўтапіся — ды каб жа глыбейшая была Ліпа, бо хто я ў гэтай хаце — ні дзеўка, ні жонка, ні ўдава. І нават ката няма — каб слова каму сказаць. Адно цялушку раніцай выпусці ды вечарам упусці ў двор. Добра хоць гадавальнік быў ды восень стаяла прыгожая, як ніколі.

Выдалася цёплая восень, рэдка такую Бог пасылае. А тут, можа, мяне пашкадаваў. Ні вятрынкі, такая цішыня, ажно ўвушшу звон. Вучылася ў школе, дык ідзеш, бывала, такой парою на стражу, а ўжо дубок малады ля дарогі і свой кажушок дублёны апранае — жаўцее на дубку лісце, а на высокай бярозе яго ўжо і зусім мала — навылёт голле свіціцца. Каб спарней пачало ўсё жаўцець у лесе ды чарнець, трэба, каб вецер ды дождж пашкамутаў яго добра — прыстрашыў блізкім холадам ды марозам, а тут іду я на гадавальнік, спускаюся да возера, а там жа бярозы высокія, а ніцае голле да зямлі звісае, дык і на бярозах дый на ўсіх дрэвах лісцейка толькі нейкае прытомленае, лес прыціх, быццам разгубіўся,— ці не новае лета пачынаецца? Я помніла ўжо адну такую восень — у нас на стражы расцвіла вішня.

Дык як пагана было мне адной у хаце, так адыходзіла я душою на гадавальніку. А зрэдку і перакінуцца словам было з кім, бо як ідзе хто ў лес ці з лесу, дык або зводдаль гукне, павітаецца, або падыдзе да гароджы, пастаіць — пажартуе ці паспагадае, маўляў, бач, які твой Гаркуша — жонку на гадавальнік пагнаў... Не шануе жонкі... Ну дык і я скрозь слёзы пасмяюся...

А тут раптам чую — ляскочуць колы. Зірнула на дарогу, а між рэдкімі бярозамі лясніцкі вазок уніз да возера коціцца, а на вазку двое — дырэктар лясгаса Мажэйка і маленькая, па плячо яму, жанчынка. Ці то вазок так вадзіла ўбакі, ці то яна сама гарнулася да Мажэйкі, але здалося мне, што надта ж блізка яны сядзяць адно ля аднаго, а я ж ездзіла на тым вазку, з Гаркушам ездзіла,— не такі ўжо ён і цесны. І якой ні была я сама няшчаснай — ні ўдава, ні жонка, а ўбачыла іх такіх блізкіх між сабою — і ціха за іх парадавалася. Хоць, можа, перш за Мажэйку. Чаму? Таму што хоць і добры ён быў, і ўсе яго ў Заліп'і паважалі, але нам — і дзеду, і маці маёй, ды і мне — ён, мабыць, сам таго не ведаючы, даўно ўжо калоў вочы. А чаму? Два ўхажоры было некалі ў Насці, у маёй дваюраднай сястры. Першы — Загорцаў, лясніцкі бухгалтар. Яго, мабыць, Насця і кахала. Дык хапіла б аднаго Загорцава, бо як учыніць яго сцерва гуляшчая гвалт, як падыме на ўвесь пасёлак вэрхал, дык ён і кружыць тады вакол стражы са стрэльбаю і дзень, і другі. Хоць ты павініся перад ім, бо гэта ж у яго з-за Насці. А тады яшчэ і Мажэйка. Дзед казаў, Насця яго праганяла, але ўсё роўна, як сышла яна з Каўпаком у тыя Карпаты, дык і пяць гадоў мінула пасля вайны, а ён нікога не бярэ і, памятаю, пойдзеш саджаць сасонкі з жанкамі, а яны, языкатыя, і не змоўчаць — хай бы ён, кажуць, якую бязмужнюю хоць не для сваёй дык дзеля яе ўцехі патаптаў, бо што ж гэта за мужчына — яму неўзабаве сорак, а ён адно хлеб дарма пераводзіць. Нежанаты хадзіў Мажэйка, дык і спаткаешся з ім, а ўваччу ў яго быццам той жа дакор — гэта праз вашу Насцю. Маці мая прыкрасці не таіла: хай бы ён, казала, з'ехаў куды, раз яго ўжо тут ніводная не акруціць. Таму і стала мне так усцешна, як убачыла я, што ён з гэтай жанчынкаю ў лес едзе.

А хто яна, я ўжо ведала — інжынерка з лясгаса. Такая была ў яе работа — сачыць, як у лесе пасадкі прыжываюцца ды ці старанна іх даглядаюць, дык яна ўжо не першы раз прыязджала ў Заліп'е. Ну а каб лес пасадзіць, дык адкуль жа сеянцы, як не з гадавальніка,

таму я і падумала, што, напэўна, яны цяпер з Мажэйкам хочуць паглядзець, які тут у нас парадак,— ці не заглушыла ўсходы зелле. І я ўгадала. Вось яны ўжо злезлі з вазка, Мажэйка адчыніў браму, вось яны ўжо ідуць па чыстай роўнай дарожцы — я ажно залюбавалася імі. Бо Мажэйка стройны, чарнявы, праўда, не хлопец ужо, а мужчына, і не надта ўжо свежы з твару, затое яна і маладая, і зграбненькая, як лялька. Каторы кажа — на руках буду насіць, дык не кожную ж і падымеш, а гэтую Мажэйка падхапіў бы, як пер'інку.

Ідуць яны па дарожцы, а ў бакі ад яе адыходзяць грады, чысцюткія, толькі ўпоперак шнурочкі зялёных сеянцаў, дык абое задаволеныя, не нацешацца ўсходамі, вось яны ўжо і да мяне набліжаюцца. І ўжо Мажэйка жартуе: «Ну, як ты тут, саламяная ўдовушка? Шчыруеш? Малайчына, не даеш разгуляцца зеллю, на грады люба глянуць. Толькі дзе ж твой Гаркуша? Адпрасіўся на тыдзень, ну, думаю, пасля вяселля жыццё наладжвае, ці мала якая патрэба, сям'я ж, гаспадарка, ды прыязджаю, а тут нешта не тое! Што ж ты яму так многа волі даеш — зноў ён у цябе ў прочках недзе, глядзі, каб не прыбрала да рук якая спрытнейшая, не баішся?»

А я ля дарожкі акурат даполвала краёк грады. Параўняліся яны са мною, павіталіся, а я адказала ім, а потым гляджу ім услед, Мажэйка пайшоў у канец дарожкі, а інжынерка спынілася, нібыта ўспомніла нешта, пастаяла, вярнулася да мяне і прысела на кукішкі.

«Дык гэта вы Гаркушава жонка? — не то здзівілася, не то паспачувала.— Дык вось вы якая... Даруйце, калі што не так, але ж мы, жанчыны, ад мужчын церпім, дык і павінны адна адной спрыяць. Вам відней, можа, ён вам і любы, ваш Гаркуша, але баюся я, што ён і з вамі абыдзецца гэтак жа не па-людску, як са мною. Мы ж з ім ужо запісвацца збіраліся, а ён насмяяўся з мяне, але мне так і трэба, бо, дурная, паверыла, а што благое зрабіла яму мая маці? Выклікала з Мінска, каб пазнаёміць з ім, прывяла ў лясгас, а ён, ваш Гаркуша, нейкай чорнай гадасці ў рот набраў ды як выскаліў зубы — жах, у маці маёй ледзь не сардэчны прыступ. Нядобры ён чалавек, беражыцеся яго. А лепей за ўсё, пакуль не позна, разышліся б вы з ім, бо з такім чалавекам не бачыць вам у жыцці шчасця».

Божа, за што мне такая кара? Было б што ў мяне з Гаркушам, як у людзей, дык я б ёй адказала: у сваім двары хачу — люблюся, а хачу — б'юся, а ты не совай носа ў чужы плот, бо зашчэміш. Ды не надта ж я любілася з Гаркушам, каб было што гэтак бараніць, ведаў бы хто, якія ў нас любошчы, сказаў бы, і ў кіно такіх не паказвалі, дык і яна ж, гэтая жанчынка, нічога не ведае, таму не насміхаецца яна, не здзекуецца, яна шчыра дабра мне зычыць, дык грэх было б ёй аддзякаваць па-бабску дуляю...

Яны хадзілі з Мажэйкам па гадавальніку, а я задыхалася ад крыўды і роспачы; Божа, падумала, а што калі і праўда кінуць і гэты гадавальнік, і дзедаву цялушку, прыбегчы на стражу, упасці на ложак і заліцца горкімі слязьмі — а дзед хай хоць заб'е, збеглую...

Пабегчы на стражу!.. Калі б жа я магла пабегчы. Нага мая пасля таго гіпсу ніяк не хацела згінацца; як паволі ступаеш, дык быццам і нішто не замінае, а пайду шпарчэй — нагу пацягваю, дык я ўвесь час ціхенька і хадзіла. Таму ж мяне і дзед ля стадолы дагнаў, як уцякла са свайго вяселля, бо не магла я вельмі пабегчы.

Дык і назаўтра іду я ў сваю загародку. І не вуліцай хаджу, а гародамі, разведала ж дарогу, як уцякала ад Гаркушы. З лясніцкага двара на канец Заліп'я, па сцежачцы. А чаму не хацела вуліцай... Выходзіш, а тут яна быццам падсцерагала цябе — торк з двара — жанчына не адна дык другая, глядзіць на цябе замілавана не наглядзіцца, нібыта зайздросціць табе, бо салодкім голасам як не спявае:

якая ж ты, дзеўка, хвацкая, малайчына, не ўпусціла Гаркушу, бо такі ж ён добры, усіх паважае, ды ўсім дагаджае, дык будзеш ты за ім, як у раі, цяпер толькі дзетак прасіце ў Бога, каб харошых паслаў дый многа. Хачу падзякаваць, усміхнуцца, а ўсмешка мая, мабыць, горкая, сумная, бо ў жанчыны вочы раптам пасумнеюць, не можа яна ўцяміць, чаму радуецца майму шчасцю болей, чым я сама...

А чаму яшчэ не хадзіла вуліцай — не магла забыць Веру Макараўну, баялася прайсці міма яе пустой хаты, зірнуць на белыя фіранкі. Так ёй хацелася, каб я паехала ў Гомель — да таго хлопца, што матылькоў лавіў, а потым і туфлікаў сваіх не пашкадавала, а яны ж дарагія былі ёй — памяць, як маладая была ды вучылася некалі, як на тым роўным памосце ў парку танцавала. І не магла стрываць, што Гаркуша заўладаў мною, яна ж так берагла мяне ад гэтага ліха.

Дык вось іду я на гадавальнік, а са мною нешта не тое робіцца. Раптам успомніла Гаркушу, ды не так, як заўсёды, а трохі цяплей. Згадала, які сумны ён выходзіў з хаты, здагадалася — паехаў у Гомель шукаць работу, каб не была я ў яго тут гарбатай бабаю. Дык я і спачувала яму, бо такая ў яго са мною мітрэнга, трэба шукаць недзе прыстанішча, віну сваю адчула перад ім і злавала на маці — трэба ж было ёй прыйсці ды яшчэ і камандаваць у хаце ў маладых... Успомніла: ступіў Гаркуша за парог, а мяне як падштурхнуў хто ўслед: «Іван Ада...» Хацела сказаць «Іван Адамавіч», ды нібыта на штосьці наткнулася, дык я і другі раз, ды ўжо не так: «Іван, не ехаў бы ты ўжо нікуды, табе ж са мною, а не з цешчаю жыць, дык ці трэба ўжо так блізка прымаць да сэрца, што яна сказала?» Вырвалася так у мяне — «табе ж са мною жыць», дык Гаркуша зірнуў на мяне, як не пазнаючы, а пасля зухавата падміргнуў адным вокам дый кажа: «Не хвалюйся, жонка, усё ў нас будзе як у людзей. Глядзі хату, гаспадарку, а я скора па цябе прыгрукачу».

Пастаяла ля парога моўчкі дый зноў на кухню — грубка яшчэ палілася. Села на нізкі табурэцік, быў у нас такі — бульбу абіраць, і ўспамінаю — няўжо гэта і праўда я так яго назвала... Іван. Першы раз, бо ніколі я не называла яго па імені. Ды я ніяк яго не называла, усё неяк выкручвалася, згатую снеданне, дык і гукну яму ў залу: «Можа, снедаць будзем?» Нават не паварочваўся язык, каб сказаць яму «будзеш», бо гэта ж як свайму ўжо, а які ж ён быў мне свой? А сказаць «Іван Адамавіч» — як лясніцкаму начальніку, дык калі ён табе толькі начальнік, чаму ж ты з ім жывеш пад адной страхою?.. А тут я раптам назвала яго Іванам, і цяпер не магла разабраць, ці то мне так здаецца, ці то і праўда Гаркуша раднейшы стаў,— мабыць, так. Бо я ўжо і сумавала па ім. Ды так, што, бывала, у сваёй клетцы і заспяваю: помніла я адну такую песню — чалавек у прочкі сышоў, а жонцы непамысна. Колісь мая цётка, Насціна маці, спявала. Яшчэ да вайны. Ото ж як Насцін бацька паехаў на заробкі ў горад, дык і ці не прыжаніўся там, бо доўга ж у адведкі не ехаў, а потым і зусім з рыштаванняў упаў — толькі ў труне і прывезлі. Галасіла цётка. Гэта ўжо мне казалі так, што галасіла, бо я ж была зусім маленькая, а што сама я добра помню — як пасля зводзіла сябе журбою цётка — яе песня жудой працінала мяне, малую:

Ой, каго ж так заждалася я
Адненька-адна?
А ні дзеўка, ні жонка, ні ўдава —
Адненька-адна.

Як зязюлька шызая ў бары,
Адненька-адна.
Маладзенькая, нуджуся дзень і ноч
Адненька-адна.

У некага б валасы дыбам сталі, калі б пачуў, як галашу я над градою — спяваю, бач. А мне на душы лягчэй рабілася, бо гэта ж так і трэба: чалавек з'ехаў, а жонка ўбіваецца, праўду казаў Гаркуша — будзе і ў мяне з ім усё як у людзей... А тады ўжо і мая клетка як быццам і любая мне, а яшчэ заўважаю, што і нага мая пачынае лепшаць, мякчэюць каляныя жылкі пад каленам. І я ўжо здагадваюся, чаму так. Супесак на гадавальніку сонца прыгрэе, дык я сяду на адно сцягно, рукой абапруся, а хворая нага мая выпрастаная ў цёплай мяжы. А там хто яго ведае, можа, яна не такая ўжо і цёплая, а проста зямля такая — свая, родная, таму і хворасць тваю забірае, дык я і дадому іду не павольна ўжо, а хуценька, ну яшчэ не вельмі, але ўжо, здаецца, і пабегла б... А потым і зусім хараша стала ў калене, і самой стала хараша, быццам другі раз на свет радзілася. Так, здаецца, і паляцела б, як тая зязюля. Дык мне весялей ужо і ў градзе корпацца.

Корпаюся так, радуюся сама сабе і раптам — Божа, хто ж гэта: «Прывет, артыстка!» Ёкнула сэрца: «Толік!» Госпадзі, адкуль ён, і навошта ён тут цяпер? Як быццам падсцярог гэты момант, калі я сама немаведама куды паляцела б — так раптам акрыяла.

Падняла галаву, а ён з-за гароджы пазірае, пацяшаецца з мяне, вочы такія — і кпяць, і шкадуюць. Мяне ў маёй клетцы шкадуюць. Трошкі адступіў ад гароджы, а потым з разгону верхнюю жэрдку хоп — і пераскочыў. Але не падышоў да мяне, сеў, да гароджы спінаю прыхінуўся дый кажа: «На бульбу пагналі, капаем, а гэта ж бліжэй сюды, пад Гомель, дык я і падумаў: адскочу-тка я дадому, там жа недзе ў мяне маё каханне засталося. Заяўляюся, а тут мне і кажуць: даўно ўжо твая Зоя — Гаркушава жонка, не дачакалася, так ты быў ёй любы...»

Жартуе Толік. А як жа, яму ж трэба гэтым жартам на мяне віну зваліць. Але ж ён хлусіць, што толькі цяпер даведаўся пра маё замужжа, бо ўжо ж восень, а горкае маё вяселле было ў жніўні, ён ужо здаў у Мінску экзамены і вярнуўся, цеперся вярнуўся, яшчэ мяне з бальніцы не прывезлі. Ды калі ўжо мой кавалер так пажартаваў, дык і я таксама яму жартам: «Іх цябе чакала, варум ты не прыйшоў?» А гэта мы ў школе вучылі нямецкую мову, і быў у нас такі вершык — слова нямецкае, слова нашае. Але ж я і праўда яго чакала. У бальніцы. Ды не ён прыйшоў пад акно, а Гаркуша. Не пабаяўся, што, можа, я і кульгавенькая застануся. А Толічак толькі цяпер — пачуў, мабыць, ачуняла яго любая, дык ажно во дзе высачыў — кахае, бач, і помніць. Так сама сабе думаю і ажно злую ўжо, а на каго злую — Божа, усё роўна як не на Толіка, а на Гаркушу — як быццам Толік таму і не прыйшоў да мяне ў бальніцу, што яго апярэдзіў Гаркуша, разлучыў мяне з Толікам. Госпадзі, казала пра адзін грэх, а тут іх во колькі ў мяне, усіх і не злічыш. Гаркуша вінаваты!.. І ўжо як помсцячы яму, яшчэ зласлівей думаю: хай бы Толік наляцеў коршакам, як той марачок на матацыкле, ды і выхапіў бы мяне з гэтай клеткі. Падумала так і жахнулася — гэта я так за ўсё дзякую Гаркушу!..

Якая ж была дурная! Яшчэ нібыта апраўдвала яго, кавалера свайго ўчарашняга, гатова была пагадзіцца, што не ён мне здрадзіў, а я яму. А ён не падхапіў мяне і не ўзнёс, а сказаў, бы абквэцаў сябе і мяне граззю: «Ну што будзем рабіць, Гаркушыха? Сама бачыш — прагал, дык хадзем вунь у той лес, пакажам на што здатныя, бо якая ўжо табе розніца?..»

Губу да крыві прыкусіла, хацела пагнаць яго — прэч, паскуда! — а тады думаю, не, не буду ганьбіць сябе лаянкай, я цікавей яму адкажу, з гонарам: «Не, Толічак, розніца, дый вялікая. Памятаеш, як Дуброўскага ў школе праходзілі? Пакахала яго панская дачка, а яе

гвалтам і выдалі за старога ды нялюбага. I вось едзе яна з ім у карэце, а тут Дуброўскі са сваімі гайдукамі падляцеў дый кажа: «Ты вольная». А яна яму: «Была вольная, пакуль пад вянец не сходзіла, а цяпер во гэта мой чалавек, і я навекі яму верная». Дык і я табе скажу тое ж. Ёсць у мяне Гаркуша, а ты не мой і я не твая. Ідзі, Толічак, а то нас убачаць, не хачу людскіх плётак. Бывай і забудзь навекі...»

Сяджу, ногі пад плаццем падабрала, а рукою ў граду ўперлася, чакаю, а ён не ідзе, дык я і зірнула на яго, ды так, як некалі ля рэчкі — скоса павяла па ім вачамі, каб не забываў, што ведала сабе цану і ведаю. А ён, як і той раз, галаву пад маім позіркам пануры́ў, але цяпер ён вунь як пыху сваю цешыць: «Укусіш локця, ды позна будзе. Другая абедзвюма рукамі ўхопіцца. Між іншым, яна табе прывет перадавала...»

Волька, сяброўка мая!.. Першая ў артысткі меціла, ды пачула, нібыта класная мне спрыяе, дык адгаворвала, маўляў, там на талію глядзяць, а ў каго ж у класе яна самая танюткая, як не ў яе, не ў Волькі... І раўнавала мяне да Толіка... Не, не раўнавала, а так — і сама не гам, і табе не дам, бо хацела, каб усе за адной ёю ўлягалі, а яна б тады перабірала. Трэба ёй быў Толік! Сястра прывезла з Мінска хлопца ў белых штанах, дык яна толькі імі і трызніла. А цяпер за Толіка ўхопіцца? На здароўе...

А Толік пералез за гароджу дый грозіць: «Ну, глядзі, Гаркушыха, потым, як адумаешся, не крыўдуй». І пайшоў. Спачатку лядам, а потым і па рэдкім лесе. А я, дурная, ледзьве не крыкнула яму ўслед, ледзьве не кінулася наўздагон... А потым сяджу ды сама сабе і думаю: «Гарбатая баба... Цяпер я тут ёю і звякую».

## 13. Не венікі вяжам!..

Гляджу на Гаркушу і дзіўлюся: дапёк самому Першаму сакратару ЦК, узняў у раёне пярэпалах, а яму і не ў галаве, чым гэта для яго можа скончыцца. Цяпер яго займае зусім іншае, пра гэта сведчыць пакутліва-сумны Гаркушаў твар: чалавек не ў сілах дапяць нечага ўласным розумам, і трэба, каб яму памог я, а гэта відавочны ўрон ягонаму гонару, таму ён так і пакутуе. Аднак няўмольная цікавасць урэшце бярэ верх, і ён пытае:

«Скажы ты мне, калі ласка, што такое «жук»?

Я зразумеў, якога «жука» ён мае на ўвазе, і пастараўся даходліва яму растлумачыць.

«Жук»,— сказаў я,— гэта калі абышоў ты з тэадалітам нейкую плошчу, падлічыў суму ўнутраных вуглоў, а яна ў цябе не супадае з тэарэтычнай, і адхіленне перавышае дапушчальную памылку. Тады ў які-небудзь вугал ты і заганяеш «жука» — робіш яго большым або меншым. А то, скажам, складаеш ты свае табліцы — якія ў лесе пароды і гэтак далей, цэлыя працэнты перад табою, месяц карпееш над імі, і, канечне ж, у канцы па вертыкалі і гарызанталі павінен «ляснуць» вынік. А ён узяў дый не «ляснуў»! Яшчэ раз прабіў ад галавы да хваста і назад — тое ж самае. Значыць, недзе ў табліцы сядзіць «жук» і, можа, нават не адзін — нахамутаў, няправільна нешта ўпісаў у табліцу...»

«Ага, ну я так яго і зразумеў,— кіўнуў галавой Гаркуша.— Гэта Лёшка Гамон шукаў у нейкіх табліцах «жука», Лёшка...»

«Лёшка Гамон!.. Толькі ж быў у Заліп'і, а якія ж тут табліцы, якія «жукі»?»

А Гаркуша працягваў:

«Пытаеш, дзе я набрыў на Лёшку? О браце, гэта цэлая гісторыя!.. Памятаеш, Піпчанка сказаў мне, што ёсць у горадзе яшчэ адна фірма, дзе бяруць на работу з нашым дыпломам? Дык гэта была экспедыцыя. Ну гэтая самая, адкуль і ты, лесаўпарадчая, толькі, напэўна, цябе яшчэ там не было. Дык вось. Раней, у першы свой прыезд, я не стаў нават шукаць гэтую фірму — які сэнс, я ж ехаў у Гомель, каб пастарацца перахапіць там Зою, яе ж туды збіралася справадзіць Сава, а як я перахапіў бы яе, калі ўлетку лесаўпарадчыкі распаўзаюцца, як каларадскія жукі, па ўсёй краіне: я паехаў, а тут без мяне яе, хутчэй за ўсё, перахапіў бы нейкі хлюст. Словам, экспедыцыя не вырашала маёй праблемы, гэта ўсё роўна, што Зоя ў Гомелі, а я ў Заліп'і, таму пасля таго як не ўзялі мяне ў навуковы інстытут, я і вярнуўся дадому.

Затое цяпер, калі я ўжо стаў жанатым чалавекам, экспедыцыя мне падыходзіла больш. Зоя ж цяпер мая, таму, думаў, паступлю ў таксатары, знайду ў горадзе кватэру, прывязу жонку, а калі самога некуды і пашлюць, дык не вялікі страх, бо вось жа і ты — не пабаяўся ж недзе пакінуць сваю маладзіцу, а я што, не змог бы гэтак жа адлучыцца на якіх паўгода? Словам, пасля таго, як пабываў я ў Чубка жывой мішэнню, рашыў я плюнуць і на гэты лес, і на свабоду, што, як паслухаць Мікалайку, дык толькі ў лесе, як той апошні дзікі звер, і засталася. Так і зрабіў: узяў у лясгасе за свой кошт дзесяць дзён адпачынку і паехаў у Гомель; думаю, спачатку ўладкуюся там, а тады ўжо і звольнюся тут.

А цяпер пра Лёшку. Ты памятаеш, на маім вяселлі ён падбухторваў мяне махнуць з ім на вялікія заробкі? Дык не балбатаў попусту. Прыехаў я у Гомель, іду глухой вулічкай, вось гэты аднапавярховы драўляны дом, шыльда, так і ёсць — экспедыцыя, нехта адчыняе брамку, выходзіць, і я не веру сваім вачам — Лёшка Гамон! Выйшаў, курыць, ды нешта такое таннае, што не пахне, а смярдзіць — дажыўся хлопец, бо заўсёды ж курыў «Беламор», і толькі. «А, жанацік,— сустрэў ён мяне кпінаю,— ну, як мая тэорыя бульбіны — пацвердзілася?» Хацеў яму яшчэ раз даць пад дых, як тады ў Заліп'і, усе пацвельваюцца з мяне, а я і ў руцэ яшчэ сваёй бульбіны не паймеў, не тое каб скабліць яе ці абіраць, але бачу, Лёшка і так горам прыбіты, надта ж праз сілу падколвае. Дык я ўсяго і спытаў: «А ты чаго тут? Ты ж у Сібір збіраўся».— «А я ўжо злётаў і вярнуўся,— адказвае.— Камеральнічаю. Падсунулі нейкую ведамасць, «жука» лаўлю. А табе што ж не сядзіцца дома? Я б ад такой жонкі ні на крок, бо гэта, браце, небяспечна...» — «Ну, досыць,— кажу,— не твая справа. Начальства якое-небудзь ёсць?» — «То-та ж і бяда, няма галоўнага,— яшчэ больш спахмурнеў Лёшка.— Сам чакаю. Кажуць, заўтра павінен прылящець — адтуль жа, з Сібіры. А ты да яго? Ну, тады разам чакаць будзем. Начлег я табе гарантую.— Лёшка зацікаўлена зірнуў на мяне.— У цябе грошы ёсць? Захопім во тут блізка пляшку і пойдзем у два цапы баб малаціць. Ты, як жанацік, па звычцы, а я з табой за кампанію».

Я зноў ледзьве стрымаў сябе, каб не даць яму па мордзе. Не даў, бо ўсё-ткі свой чалавек, даўно тут аціраецца, а значыць — нейкая зачэпка за горад.

Лёшку можна было нават пашкадаваць. Бо ішоў, небарака, і скардзіўся: «Слухай, Гаркуша, ну чаму мне ўвесь час фатальна не шанцуе?.. Лячу ў Сібір, а злева ў крэсле адна такая, знаеш, ну як табе сказаць, у шаўковай блузцы, а шоўк, ён жа, паразіт, свіціцца, дык і відаць, як шлеечкі паўпіваліся ў яе на плячах, а спераду ў яе высока, пышна,— у мяне ажно мазгі перакручваюцца, як падумаю: такое багацце, а не маё. Расшпіліць бы гузічкі, а потым рукою пад блузку ды ўжо там і падняньчыць на далоні гэтую рэдкую раскошу!.. Але яна выйшла ў Іркуцку, і я толькі паспеў узяць у яе дамашні адрас...»

«Ну, а далей што было?» — пытаю ў Лёшкі. І ён сумна апавядае: «А далей — прылятаю ў Чыту, у штаб экспедыцыі, а сюды з тайгі заяўляецца начальнік партыі, да якога мяне бралі тэхнікам. Прыехаў на нейкую справаздачу ці нараду і трэба яму тут быць яшчэ некалькі дзён. А што рабіць мне? Дык ён і прыдумаў. «Слухай,— кажа,— табе можна даверыць энную суму грошай?» А я што, буду на сябе нагаворваць? Каму ж тады і даверыць, як не мне? Пытаю: «А якая сума?» — «Тысяча»,— кажа. А я яму: «Табе не здаецца, начальнік, што ты мяне крыўдзіш? Каб я паквапіўся на нейкую тысячу?» Тады ён мне і тлумачыць: недзе ў пасёлак выйшлі з тайгі хлопцы — каб у лазні памыцца, і, канечне ж, ім трэба грошы. Таму пакуль тут у яго нарада, я павінен папярэд за яго прыехаць туды і прывезці гэтую тысячу, каб хлопцы трохі пагулялі...

Ну ўзяў я ў яго тую тысячу і ўжо сабраўся быў на аўтобус, але раптам падумаў, а што калі з гэтымі грашамі адскочыць да сваёй спадарожніцы — адрас жа вось ён, а астатняе працей простага — сеў на самалёт, і ў той жа дзень ты з ёю. Так я і зрабіў. І я табе скажу — варта было ляцець, на такую не шкада і мільён пакласці».

Так Лёшка гаворыць, а я ў яго і пытаю: «Чаму ж ты кажаш, што табе не пашанцавала?» — «Ну як — чаму,— уздыхнуў Лёшка,— я ж казаў, яна выйшла ў Іркуцку, але туды яна прылятала ў камандзіроўку, жыве ж яна ў Маскве, таму, натуральна, і адрас дала мне маскоўскі, значыць, у Маскву да яе я і прыляцеў. Калі б гэта Іркуцк, дык усё было б добра, назаўтра вярнуўся б у Чыту і выкруціўся б — сказаў бы, абакралі ці што іншае. А з Масквы білет дарагі».— «А ты што ж, прагуляў цэлую тысячу?» — спытаў я Лёшку. «Гаркуша! — Лёшка ад прыкрасці, што я не разумею такіх простых рэчаў, ледзь не заплакаў.— Не прагуляў я — пражыў! Бо ўсё астатняе — гэта не жыццё, Гаркуша!.. Якія вы ўсе дзівакі! Нечым заклапочаныя, нечым апантаныя — глупства ўсё гэта, лухта сабачая, няўжо ты не здагадваешся?.. Не марнуй часу, жыві, пакуль не позна, бо яна, можа, на падлёце ўжо, тая бліскучая заморская цацка, во тут, над гэтым віядукам, пэмкне, і будзеш тады валасы на сабе рваць, што не карыстаўся нагодаю...»

Мы ўзышлі на віядук — перад намі тануў у садах залінейны «прыватны» раён. Вуліцы небрукаваныя, абкапаныя канавамі — пра горад нагадвалі толькі вузкія асфальтаваныя тратуары. Доўга ішлі міма ўрослых у зямлю, мабыць, яшчэ дарэвалюцыйных драўляных дамоў, і неўзабаве трапілі ў навейшы, пасляваенны раён, такі ж драўляны. Вуліца, па якой мы ішлі, недзе далей выстрэльвала ў чыстае поле, на гэтай ускраіне яшчэ не было і тых вузкіх тратуараў, дык і звярнулі мы з Лёшкам на гразкую, з раз'езджанымі і віхлястымі каляінамі вуліцу, як быццам па ёй тралявалі волакам лес. Працiскаемся паўз самыя дамы, выбіраем дзе ступіць, а Лёшка мне і кажа: «Павернем налева, і тут ёсць у мяне дзяваха, на кватэры жыве, але, на жаль, яна тут адна, таму вып'ем, далей я лягу з ёю, а табе яна пасцеліць на падлозе, адну ноч як-небудзь перакантуешся».

«Сволач ты, Лёшка,— падумаў я,— мала, што дома на падлозе сплю, дык яшчэ і ў тваёй дзявахі».

Але налева мы так і не павярнулі, бо на скрыжаванні нас чакала невялічкая прыгода. На сухім лапіку тоўпілася з паўдзесятка мужчын, усе яны глядзелі ў той бок, куды мы павінны былі павярнуць. Што там такое цікавае адбывалася, мы яшчэ не маглі бачыць, і таму я не разумеў, чаму так гыгыкаюць мужчыны, чаму на тварах у іх нейкае прымітыўнае захапленне. Лёшка між тым насцярожыўся, і, як толькі мы павярнулі за рог вуліцы, ціха і трохі праз зубы мовіў: «Прыставіць нагу!» І тут жа сам ён, як і тыя мужчыны, усцешна загыгыкаў, а разам з усімі і я стаў гледачом цікавага спектакля, таксама стаяў і ўсміхаўся.

Я ўбачыў дзябёлую дзяваху, у яе, як кажуць, усё было на месцы спераду і ззаду, і гэтага ўсяго было многа. Дзяваха раз-пораз хапала з зямлі, можа, камень, а можа, які гліняны камяк, хапала і з усяго размаху шпурляла яго ў акно — учыняла некаму бязлітасны бабскі пагром. І пры гэтым на ўсю вуліцу ламантавала, кляла нейкую «сцерву». «Што гэта яна робіць?» — спытаў Лёшка ў мужчын. «А што робіць,— адказаў крайні, што стаяў бліжэй да нас,— жыве тут на кватэры адна каралева, а да яе нейкі кныр панадзіўся, ну, а другая высачыла, і вось сам бачыш — вокны малоціць. Ды каб жа суперніцы, а то ж гаспадыні».— «Во так,— сказаў Лёшка,— рабі ім дабро, пускай бяздомных на кватэру.— Ён разы са два яшчэ задаволена рагатнуў і паспяшаўся крануць мой локаць: — Нам не сюды. Кру-гом, там у адным месцы мы не ў той бок павярнулі».

Блукалі мы з Лёшкам па нейкіх вуліцах і завулках даволі доўга, але трапілі ўрэшце ў той самы, што каля віядука, раён, і мне цяжка было зразумець, чаму паўз гэты дом, да якога прывёў мяне Лёшка, мы абыякава прайшлі ўсяго нейкіх паўтары гадзіны назад.

У двары абапал дарожкі двума роўнымі радамі раслі вяргіні; мы ішлі, а іх буйныя чырвоныя і жоўтыя кветкі ледзьве не клаліся нам на плечы; і вось мы ўжо ступілі на ганак. З калідора трапілі ў невялікі пакой, адразу відаць — гарадскі, бо сцены былі абклеены шпалерамі. Але мэбля здалася мне беднай: засланы цыратаю стол ды некалькі старых, затрапезнага выгляду, крэслаў. Да каго мы прыйшлі, я ўжо збольшага ведаў, бо яшчэ ў двары Лёшка папярэдзіў: «Тут у мяне Зінка і Алка. Зінка мая, а Алкі ты не бойся, яна нічыя і, мабыць, нічыёй звякуе. І тваёй яна не будзе — сам пабачыш. Хаця навошта я табе гэта кажу, табе ж абы пераначаваць». Дык, напэўна, у пакоі мы і ўбачылі гэтую Алку. Грэшны, у двары я быў падумаў, што яна нейкая ўрода, раз Лёшка сказаў, што яна звякуе нічыёй, а тут бачу яна вунь якая прыгожая дзеўка! Але ж і праўда, да яе не падступіцца. Такой пагарды на твары ў жанчыны я ніколі не бачыў. Да таго ж пагарда як бы папалам з крыўдаю. Кім яна так пагарджала і на каго крыўдзілася?.. На нас яна быццам і не зірнула. «А дзе Зінка?» — спытаў Лёшка. «А ў мяне толькі і клопату, што пра тваю Зінку,— адрэзала Алка.— Можа, яшчэ на рабоце, а можа, цябе недзе застукаць хоча».— «Ну-ну, разышлася,— перапыніў яе Лёшка.— Зінка ў мяне адна, і яна гэта добра ведае. Ва ўсім горадзе адна, і нават за яго межамі...— І пазнаёміў нас: — Слухай, во гэта Гаркуша, з маіх краёў, завуць яго Іванам, а хто ты, я ўжо яму тое-сёе сказаў — дзеўка на ўсе сто, так што глядзі, каб не падвяла, бо з кім і крутнуць любоў, як не з такім хлопцам. Словам, хай ён у цябе пасядзіць ці як тут у вас будзе, глядзіце самі, а я на паўгадзінкі адлучуся. Прывет Зінцы. Хаця што я кажу, я ж скора вярнуся...»

Алка зірнула на мяне грэбліва: «Што Іван, што Раман — мне на гэта напляваць. Не стой як слуп, сядай. Не зала чакання, але пасядзі, пачакай, можа, ён і праўда вернецца». Яна была ў квяцістым байкавым халаце і ў тапачках; з-за шырмы, якою, мабыць, завешаны быў яе ложак, яна выйшла, зачэсваючы назад бялявыя, з жаўцінкаю валасы; перацiснула іх нейкім матузком на патыліцы — атрымаўся кароткі абвіслы пэндзлік. Лепей бы яна так гладка не прычэсвалася, бо галава яе ад гэтага паменшала, а твар стаў яшчэ больш пухнаты, а ён жа і без таго быў у яе надзьмуты незразумелай пыхаю. «Калі я перашкодзіў вам, дык я пайду, у мяне тут недалёка жывуць знаёмыя»,— сказаў я, прыпадымаючыся на крэсле, на якое толькі прысеў. «Ой, дзе тут у нас фантан, пабягу ўтаплюся,— пакпіла з мяне Алка,— ён пойдзе ўжо. Сядзі, я з работы, а да такіх гасцей я прывыкла. Ля вакзала жыць — ворагу свайму не пажадаю. Уся дзярэўня перабыла. Хай бы хоць сама караскалася, як жаба, на той віядук, а то ж яшчэ

і таварышку сваю ўслед цягне. Тая, бач, у Алкі яшчэ не была, дык яна цягне ды згары яшчэ і пальцам паказвае: «Вунь дзе наша Алка жыве, бачыш, сад, а ў садзе хата пад бляхаю, вуня!» Жалеза фарбаванае — гэта ў іх бляха! Кухвайкі торфам смярдзяць, а яшчэ і гной на бахілах прыцягнуць, а слова не скажы, бо яны ж твая радня. Радня — цераз вуліцу наўпрысядкі!..»

Яна выйшла з пакоя і вярнулася з чайнікам. З кухні, мабыць, прынесла і замурзаную дошчачку, на якую і паставіла гэты, вялікі чайнік, а побач, проста на цырату,— маленькі фарфоравы — з заваркай. Так культурна, па-гарадскому яна збіралася мяне частаваць чаем — вось яна ўжо і два маленькія кубачкі паставіла на стол, а потым, ужо не з кухні, а з-за сваёй шырмы, вынесла на талерцы тое, чаго я не толькі ніколі не каштаваў, а нават і не бачыў. Каштаваць-то, можа, і каштаваў, бо гэта ўсё-ткі быў шакалад, але які — не той, што загорнуты адзін раз ды яшчэ і другі — у тую вунь срэбную паперу,— гэта была шакаладная камлыга велічынёй з палову чалавечай галавы. А абапал, па краях талеркі яшчэ вунь і пячэнне, ды не адно якое, а гатункі два ці тры, а што яшчэ было на талерцы — маленькія вафельныя торцікі, іх палілі зверху таксама шакаладам, ён ажно аплываў па баках. Торцікаў я таксама да таго ніколі не бачыў, гэта я ўжо цяпер так кажу — вафельныя торцікі, нядаўна дачка з горада маламу прывозіла, а тады іх не прадавалі нават і зрэдку, а вось жа рабілі недзе!.. Падсунуў я да стала крэсла — каб ад такога пачастунку ды адмаўляцца, бо і галодны ж быў, што там казаць, а побач села і Алка. Толькі рог стала паміж намі. Алка ўзяла нож, дзеўбанула раз і другі шакаладную камлыгу, ад яе адваліліся два ладныя кавалкі, адзін яна паклала перада мною, а другі ўзяла сабе. І сказала: «Еш і пі, пакуль я добрая. А на большае не разлічвай, тут табе не абломіцца.— Я папярхнуўся чаем, а яна працягвала: — Я вам не Зінка. Гэта яна ўсё: «Ах, я не магла адбіцца». Брэша, каб захацела — адбілася б. Хай бы да мяне палез, было б яму, як таму немцу. Уваліўся ў хату, а ў ёй цётка Ганна, дык ён абхапіў яе ды ўжо і на ложак валіць, а цётка яму кірзавым ботам як пацэліла паміж ног, дык з яго і дух вон, у хаце і сканаў. А цётка ў партызаны. Во так. Думае, як з аўтаматам, дык і страх вялікі».

Мяне трохі калатнула ад яе слоў, і я мусіў паверыць Лёшку, што і праўда яна, хутчэй за ўсё, застанецца ў дзеўках. І помнячы таго немца, я нават абзавацца баяўся, а не тое што спытаць, адкуль у яе гэты шакалад ды яшчэ ў такой неабмежаванай колькасці. Але яна здагадалася, пра што я думаю. «Зінка палохае, ой, зловяць цябе, дзеўка, буду я табе ў турму перадачы насіць». А я ёй кажу: хай ловяць, а я перад тым хоць пажыву салодка, будзе што ўспомніць. Усе выносяць, а я дурнейшая за ўсіх? А яшчэ яна чым страшыць: ад шакаладу таўсцееш, фігура псуецца. А я так думаю: сінічку хоць і ў пшанічку, яна ўсюды сінічкай будзе».

Нешта доўга не было Лёшкі. Я сядзеў і думаў, што і мая Зоя магла б пайсці на кандытарскую фабрыку, і ў яе было б такое ж салодкае жыццё, што ні кажы, а ў горад варта перабірацца. Але... не нагадвала мне сінічку гэтая Алка. А каго нагадвала? Яна адкусвала шакалад, кавалак вяртала на спадак, а на шакаладзе заставаўся след ад яе зубоў. Дзе я ўжо гэта бачыў? Нарэшце ўспомніў. Паваляць бабры асіну, а на пні ад іх зубоў застаюцца такія ж рубчыкі. Я толькі не ведаў, падгрызаюць адны бабры ці бабрыхі таксама? Але гэтая Алка здалася мне такой жа пухнаценькай і надзьмутай, як бабрыха. І валасы ў яе былі гэтак жа гладка залізаныя назад.

Начаваў я на вакзале. А раніцай пайшоў у кантору экспедыцыі. Здалёк убачыў на ганку Лёшку. Быў ён яшчэ больш, чым учора, прыгнечаны і, здалося, пабіты — сінякі пад вачамі, забінтаваная рука.

Я пацікавіўся, што з ім. «А, не пытай,— махнуў ён здаровай рукой.— Учора ото пайшоў, думаў, туды і назад, была невялічкая справа, а тут лепшы сябра, на Поўнач разам ездзілі, давай, кажа, сходзім у адно месца. Ну, я, дурны, і згадзіўся. Пайшлі, а гэта, аказваецца, прыватны дом, але хай бы які людскі, а то ж на дзве палавіны. Ну, сябра мой стукае ў дзверы, кажа — мы да Клавы. А нейкі боўдзіла з-за дзвярэй як рыкне: «Няма тут ніякай Клавы!» Сябра мой і завёўся: «Ага, сама казала, прыходзь, а цяпер яе ўжо няма, у яе ўжо гэтае рыла!» Ану, кажа, за мной! Давай, кажа, во гэтымі козламі дзверы высадзім, і я табе гарантую, што яна жыве тут, бо гэты казёл брэша... Вельмі трэба была мне ягоная гарантыя! Але ж просіць чалавек. Схапілі мы козлы, ну на каторых дровы пілуюць, а гэта ж ого які таран! Усё правільна, яна жыла тут, у гэтым доме, толькі з другога боку. Пакуль сябра мой разабраўся, набегла рознай свалаты, ну і папала — і сябру, і мне. вось так і павер чалавеку. Ну, а што ў цябе?» — спытаў Лёшка, неяк безнадзейна на мяне гледзячы.

Я збольшага расказаў, як пілі мы з Алкаю чай і як напалохала яна мяне сваім немцам. З хвіліну Лёшка ціха лаяўся, абураўся: «Вось на каго атамнай бомбы не шкада. Гэта яна будзе цэліць нам паміж ног! Прапала баба. Да салодкай жратвы дарвалася, і нічога ёй болей не трэба, такі ў яе сэнс жыцця...»

Я спытаў Лёшку, ці прыехаў начальнік. «То-та ж і яно, што прыехаў,— уздыхнуў Лёшка.— Зайшоў да яго, а ён: або выкладвай тысячу рублёў, або падаю ў суд. А то, кажа, зарабляй іх тут, у чарцёжцы, доўг вылічым, а пасля на ўсе чатыры стораны. А мне ўжо на іхнія ведамасці глядзець моташна, абрыдла цэлы дзень лавіць «жукоў»... Не, Гаркуша, ты як хочаш, а я вяртаюся ў Заліп'е. Я ж табе яшчэ не казаў: наладзіў нарэшце матацыкл, дык хоць наезджуся ўволю. Дый праўду кажа твой цесць: у лесе можна жыць. Дык я яму і прапаную: давай-ка, дзед, перабірайся бліжэй да цывілізацыі, бо ты ўжо не ляснік, толькі стражу займаеш, а я прывяду сюды маладую жонку, ды такую, каб аж гарэла ўся, майго кахання прагнула. Будзе чакаць мяне кожны вечар з абходу, і зажыву я з ёю ў шчасці ды ў небывалай згодзе...»

Пастаялі, пакурылі. А потым Лёшка спытаў: «Ну а ты куды, ці не ў Сібір сабраўся?» Я не адказаў. «Што ж, вольнаму воля,— усё роўна як паспачуваў мне Лёшка.— Будзеш ехаць, Масквы не мінеш, дык магу даць адрас, ну той, з каторай я ляцеў у самалёце». Я паслаў Лёшку не помню ўжо куды, але ўсё-ткі на развітанне дзесятку яму пазычыў. Лёшка хуценька знік, а мне яшчэ давялося патаптацца каля канторы: начальніка тэрмінова некуды паклікалі, і з'явіўся ён толькі пасля абеду.

У начальніка быў маршчыністы, кіслы твар, але ў кабінеце стаяў яшчэ адзін пісьмовы стол, і за ім сядзела маладзейшая і весялейшая з твару жанчына — нягледзячы на прыкметную розніцу ў гадах, яны падазрона тут адно аднаго дапаўнялі. Я павітаўся і сказаў, што́ мяне да іх прывяло. І спачатку не зразумеў, чаму кіслы начальнікаў твар зрабіўся яшчэ і нервовым, злосным. «Архараўцы,— сказаў начальнік,— разведалі, дзе можна дармовых грошай ухапіць». Да мяне дайшло, што мне па-сяброўску падгáдзіў Лёшка. «Дык вось не думай,— сярдзіта бурчэў начальнік,— што і табе ўдасца абвесці нас вакол пальца. На работу мы цябе возьмем, але... сядай, пагаворым».

Начальнік расказваў, у якіх раёнах краіны вядуцца палявыя работы, а жанчына зрэдку пазірала на мяне і ківала галавою, быццам пацвярджала, што начальнік гаворыць чыстую праўду.

«На работу мы цябе возьмем,— паўтарыў начальнік гучней і нават з нейкаю пагрозаю ў голасе,— але адзін жулік абуў у лапці, дык з табою я буду хітрэйшы. Спачатку ты павінен прайсці ў нас праверку.

Не вельмі складанае, але і не зусім простае выпрабаванне. Пакажаш сябе з лепшага боку, тады і напішаш заяву. Вось гэта папера — бачыш? Гэта скарга. Летась мы рабілі тут, блізка, дык нам і пішуць — экспедыцыя занізіла ўзрост вялікага хваёвага масіву; пракладзена лесавозная дарога, а тут прайшоў наш таксатар і высечку забараніў. Таму твая задача — адстаяць гонар экспедыцыі. Паедзеш у натуру і дакажаш там, што экспедыцыя даражыць сваёй маркай і браку ў рабоце не дапускае. Заданне зразумелае?» — «Зразумелае,— адказаў я,— паеду і дакажу там, што не венікі мы тут вяжам». Мой жарт мне і самому не спадабаўся, а начальніку тым больш: па яго вачах відаць было, што чалавекам я здаўся яму несур'ёзным.

Сваім жартам я трохі сапсаваў сабе настрой, але ўсё-ткі на ганку я ўздыхнуў з палёгкай. Я не сумняваўся, што пакажу сябе з лепшага боку — прайду іхнюю праверку, а значыць, яны возьмуць мяне на работу, і, такім чынам, адной нагою я ўжо ў горадзе. Гэта плюс. А мінус — усё-ткі экспедыцыя — не зусім тое: у горадзе ты ўсяго зімою, а ўлетку рукзак на плечы — і ў «поле», улетку палявы сезон, могуць паслаць за Жыткавічы, а могуць і за Чыту, дзе во толькі што пабываў Лёшка. Значыць, і праўда — у горадзе ты толькі адной нагою, а другой... Але чакай, хлопец, супакойваў я сам сябе. Тое, што датычыць цябе, не датычыць тваёй жонкі, яна ў горадзе будзе жыць круглы год, а для цябе ж галоўнае, каб яна была ў Гомелі, а не ў Заліп'і. Хай самога пасылаюць хоць у самую першабытную тайгу, думаў я, буду карміць камароў, начаваць ля вогнішчаў, пераходзіць уброд горныя рэкі, а трэба будзе, дык не пабаюся схапіцца і з мядзведзем, абы толькі ў яе тут, у горадзе, круглы год было прыгожае жыццё, якое абяцала ёй Сава і пра якое яна сама трызніла. І вось думаю так, ідучы на вакзал, а насустрач мне — мая жонка, Зоя, касу распляла, валасы рассыпаліся па плячах, а вецер перакідвае іх і наперад, і яна адводзіць густыя пасмы рукою, каб не захіналі твар. На ёй прыгожая модная суконка, а якія туфлікі! І сумачка са спражкаю — люба глянуць. Вось яно, гарадское жаночае шчасце! Я ўсміхаюся ёй, бо яна ўжо зусім блізка, але яна чамусьці не спыняецца, а, наадварот, прыспешвае крок, спалохана мяне абыходзіць... Ух, і прыдасца ж такое!..

Трывожна зрабілася на душы, як падумаў, што не скора я вярнуся ў Заліп'е. А я ж абяцаў жонцы, што туды і назад, бо ехаў толькі разведаць работу. Дзіўна: збіраўся ў тайгу, а гэта ж на паўгода трэба пакідаць жонку адну, тут жа раптам і тыдзень здаўся доўгім. Але ж глупства. Я ўспомніў адну казку, грэчаскую,— былі з хлопцамі на практыцы, дык знайшлі на нейкім гарышчы. Надрукавана было яшчэ пры цару, помню такую літару — бы мяккі знак з крыжыкам уверсе. Дык быў колісь такі Адысей — дзесяць гадоў насіла яго па свеце, але жонка чакала, адбівалася ад нахабных жаніхоў. А я ж не на дзесяць гадоў еду, дык, можа, падумаў я, і мая жонка як-небудзь пацерпіць. Так я сябе і супакоіў...

На ранні цягнік я спазніўся, давялося і пасланяцца, і пасядзець на лаве. І што дзіўна: на вакзале, а потым і ў вагоне я не мог адкаснуцца ад нейкай ужо іншай трывогі. «Вольнаму воля»,— гэта я ўспомніў Лёшку. Вось каму на ўсё начхаць, не прызнае ніякіх праблем, а мне раптам здалося, што непасільнае заданне ўзваліў мне на плечы начальнік экспедыцыі. Каб я вырашаў лёс нейкага вялікага лесу? Ці не занадта?.. Але ж я зноў сам сябе і абвяргаў, і супакойваў: а што я — уломак, што я — малы хлапчук? Даўно ўжо, дзякуй Богу, мужчына, і не далі ў Заліп'і гадаваць лес, дык я і ў гэтай канторы пакажу, на што здатны, каб ужо не начальніку, а самому сабе сказаць упэўнена: не венікі вяжам!..

Сышоў з цягніка — было ўжо цёмна. Пераначаваў у гасцініцы і раніцай заявіўся ў леспрамгас — кантора была недалёка ад чыгункі.

Увайшоў да дырэктара, і да гэтага часу помню яго твар — светла-тытунёвы, з цямнейшымі плямкамі, ці то ён ад прыроды быў такі, ці то пасля жаўтухі. А чым яшчэ быў я ўражаны — як даймалі яго тэлефоны. Іх і было ўсяго два — адзін, мабыць, гарадскі, а другі, можа, злучаў яго з лесаўчасткамі ці з кім яшчэ, не ведаю, але дырэктар проста не паспяваў хапаць то адну трубку, то другую. А іншы раз хапаў і дзве адразу. І гэтак жа кідаў — то адну, то другую, то абедзве — такое ўражанне, што чалавек не за сталом, а ў кабіне экскаватара — хапаецца то за адзін рычаг, то за другі. На лобе ў дырэктара выступіў пот, ён ледзь улучыў секунду паміж званкамі — паказаў мне вачамі на крэсла. Урэшце званкі сталі не такія частыя, затое званіць пачаў сам дырэктар. Яшчэ з паўгадзіны сядзеў я і чакаў, але вось ён, здаецца, зацікаўлена зірнуў на мяне, стомлена правёў далонню па лобе.

Я толькі і паспеў сказаць, хто я такі, бо дырэктар адразу ўтупіўся ў мяне не то здзіўлена, не то гнеўна: «Ага, дык гэта ты!» Двое мужчын, адзін мажны, другі не надта, што сядзелі тут жа, увачавідкі падаліся ў мой бок грудзьмі, дырэктаравы словы прагучалі для іх як нейкая каманда, і ў галаве ў мяне пранеслася: «Зараз будуць біць». Але па інерцыі я яшчэ сказаў, што прыехаў правяраць скаргу, а для гэтага мне патрэбен прадстаўнік леспрамгаса, каб было каму падпісаць акт, і тады дырэктар падскочыў бы на спружынах і не стаў далей мяне слухаць. «Якога я табе буду шукаць прадстаўніка? Сам паеду! Для мяне гэта пытанне жыцця і смерці! Ну і намудрылі вы, хлопцы! Таксацыя, называецца! Я ўжо сякерай замахнуўся на гэты лес, а ён прыязджае, таксатар ваш с...ы,— забараняю сячы, лес няспелы. Я яму кажу: па старой таксацыі лес быў спелы, я праклаў да яго ляжнёўку, а цяпер ён памаладзеў! Значыць, лес расце не ўгору, а ўніз — так па-твойму? А ён: старая таксацыя была няправільная, я за сябе адказваю. Ён за сябе адказвае! А хто будзе адказваць за мой план? З мяне скуру здзяруць! Не, хлопцы, гэтак проста я вам не здамся. Едзем!..»

У газіку ён не то мне, не то шафёру сказаў: «Завернем на ўчастак, возьмем пару хлопцаў з сякерамі. І ў сельсавет да Поўтара заскочым. Улада, называецца. Зіма на носе, у мяне на стале павінен ужо ляжаць графік, якая будзе пастулаць з калгасаў рабсіла, а ён усё яшчэ вырашае, хто і калі мне яе прышле».

У сельсавеце, аднак, нас чакала неспадзяванае. Наш газік яшчэ не падскочыў да ганка, а ля яго ўжо спыніўся матацыкл з каляскаю. Нейкі эмтээсаўскі хлопец у зашмальцаваным камбінезоне доўгімі рукамі выграб з глыбокай каляскі сухенькую бабульку і дапамог ёй узысці на ганак. У адной руцэ бабулька трымала невялічкі хатулёк — завязаную ражкамі хустачку. Гэтыя наведвальнікі і ўвайшлі першыя ў кабінет да старшыні.

Дырэктар, аднак, адчуваў сябе тут гаспадаром і не стаў чакаць ля дзвярэй, ледзь не нагой адчыніў іх, і мы ўвайшлі ў кабінет да Поўтара, аднарукага старшыні. Але ў кабінеце мы з дырэктарам мусілі прысесці і чакаць, бо сухенькая старая яшчэ з парога завяла з Поўтарам гаворку: «Гэта ж мне ўнук во гэты кажа, ездзіў у сельсавет, а там няма нарады, а без нарады не выпісваюць. Лесу не даюць, кажа, без нарады. А я яму кажу, якая ж ім яшчэ трэба нарада, калі ў цябе падлога гліняная? Трэба ж, каб твае дзеткі па жоўтай падлозе босымі ножкамі тэпалі. Паедзем, кажу, калі ўжо табе нарады няма, дык, можа, твайму бацьку, можа, сынам маім нарада знойдзецца. Во яны, мае сыны.— Бабуля развязала ражкі хустачкі і выклала перад пахмурным Поўтарам адну за адной тры пажоўклыя паперкі.— Во гэта Кірыла, гэта Восіп, а гэта Сцяпан, ягоны бацька...»

Поўтар прачытаў першую паперку і перадаў яе дырэктару — той

сядзеў збоку ад стала. Дырэктар прачытаў і перадаў паперку мне. Гэта была пахаронка. Некалі такая ж прыйшла і на майго бацьку, і што ў ёй напісана, я помніў на памяць: «...красноармеец такой-то верный воинской присяге, проявил геройство и мужество. Убит в бою...» і гэтак далей.

Бабуля сядзела перад Поўтарам, па другі бок стала, і па яе светлых, выцвілых вачах было відаць, што яна ўпэўнена — цяпер-то ёй старшыня дасць «нараду». Але Поўтар марудзіў. Нарэшце ён адважыўся зірнуць бабульцы ў вочы. «Ну, што я вам скажу,— уздыхнуў Поўтар,— Хрыстом-Богам клянуся, нараду на лес у нас няма ўжо — увесь свой нарад мы выбралі. Пад'едзьце пасля Новага года. А лепей за ўсё, я ўжо казаў вашаму ўнуку, хай бы ён адскочыў у раён, ды з трыма пахаронкамі — у іх там і ўсе фонды, і рэзервы — яны не адмовілі б. А мы свой нарад сёлета раздалі...»

...Ехаў з дырэктарам далей, а ўваччу стаяла сухенькая бабулька.

Скончылася поле, з пясчанага ўзгорка спусціліся ў за募рослую маладым альшэўнікам лагчыну — тут у дырэктара і пачыналася ляжнёўка. Плаўна каціўся па прачасаных бёрнах газік, ажно закалыхвала, хіліла на сон, але не задрэмлеш, бо сярод альшэўніку траплялiся пясчаныя выспы, газік, напружваючыся, узбіраўся ўгору, з'язджаў асцярожна ўніз і — зноў амаль што нячутна каціўся па ляжнёўцы. «А чаму гэты спрэчны лес вы не секлі зімою? — спытаў я ў дырэктара.— Новага праекта яшчэ не было, і лясгас не стаў бы пярэчыць».— «Вельмі ты разумны,— агрызнуўся дырэктар.— Зімою мне астравоў хапае — за трыма багнамі. А тут усяго за адной, ляжнёўку можна пакласці, во, каціся, як па асфальце... Не ў тым справа, зімой ці летам. Галоўны інжынер мышэй не ловіць. Трэба было з таксатарам узгадніць, во, як я з табою. Бо гэта ж курам на смех — быў лес спелы, а то раптам памаладзеў. Так буду мяняць пашпарт, а мне на дзесяць год меней запішуць... Стоп, прыехалі».

«Інжынер, бач, не парупіўся»,— падумаў я, вылазячы з газіка, а ён ужо са мною «ўзгадніў».

Доўгі бор — так называўся гэты лес, куды мы прыехалі. Рэдкай прыгажосці бор, ну, ты ж ведаеш, называецца — эталонны. І я адразу зразумеў, у якое складанае становішча я трапіў: нават калі гэты бор і спелы, на яго не тое што сякерай замахнуцца — руку грэх падняць. Некалі на гэтым месцы адбушаваў, мабыць, вялікі лясны пажар, хвойнік на выжарыне пасеяўся дружна, у адзін год, і цяпер бор угары быццам хто падраўняў далоняю; такі ж раўнюткі быў у ім і дол, зялёны мох засцілаў яго пышнай махавой коўдраю, а над мохам раскашаваўся арляк — лісце шырэзнае, а сцяблы цыбатыя і цупкія, не папараць, а, здаецца, трапічны, можа, нейкі дагістарычны лес, толькі паменшаны ў сотні разоў у параўнанні з тым гіганцкім лесам, што рос некалі на гэтай роўнай пясчанай выспе. Словам, дыхнула на мяне ў Доўгім бары страшэннай даўніной, мне ажно жудка стала, такім кароткім у параўнанні з ёю здаўся мне мой век, і такім мізэрным я сам сабе тут здаўся. А я ж не ўсё яшчэ сказаў. Ранак быў з рэдзенькім туманком, у бары ён выдаваў гусцейшым, а ў той момант, калі мы вылезлі з газіка, недзе з-за хмары прабілася сонца, і быццам магутныя пражэктары праз рэдкія праломы ў спляценні крон выхапілі з густога натоўпу дрэў то з дзесятак, а то і з паўсотню ярка-жоўтых, аж, здаецца, гарачых ужо ствалоў, і гэтак жа ўраз паярчэў, зяляней і пышней закіпеў на сонечных лапіках дапатопны, рэліктавы арляк — далёкая мінуўшчына на маіх вачах паядналася з самім космасам, бо гэта ж адтуль прарвалася і коса пранізала векавы бор яго сонечнае святло... Не буду хлусіць, ніякага космасу тады яшчэ не было, ён-то быў, але ж ніхто ў ім тады яшчэ не лётаў, дык мала хто пра яго і чуў, таму наўрад ці падумаў я так — маўляў, святло ідзе з космасу, але ўсё-ткі нешта

падобнае я адчуў: лес быў разам і гістарычны і касмічны, таму я і здаўся сам сабе ў ім такім маленькім.

Але маіх пачуццяў не падзяляў, мабыць, дырэктар, не падзялялі два рабацягі, якіх мы з сабою прывезлі. Учора гэтыя хлопцы няблага ўрэзалі, а тут наляцеў дырэктар — не даў пахмяліцца, і яны ўсю злосць спаганялі цяпер на камарах, хаця даставалася больш іх уласным шчокам і каркам. Дырэктар жа, не зважаючы на камароў, трохі адышоў ад газіка, спыніўся ля першага, што прыглянулася яму, дрэва, па-гаспадарску ляпнуў па ім далонню і скамандаваў: «Давай, хлопцы, сячы!» Рабацягі рашуча і ўгодліва кінуліся да дрэва, але я перашкодзіў ім выканаць дырэктараў загад. «Не спяшайцеся,— сказаў я,— трэба рабіць усё па правілах».

«Што значыць — па правілах? — закіпеў дырэктар. Ён нецярпліва ўтаропіўся на мяне, з твару жоўты, худы, а валасы сівыя, жорсткія — тырчаць ва ўсе бакі, адзін яго выгляд наводзіць жах, а ён жа яшчэ і гаворкай праймае: — Ты што, не бачыў той старой, не чуў, што яе ўнукам трэба тэпаць па жоўтай падлозе? Я што, хачу паваліць гэты лес сабе на хату? Хіба не дзяржаўны план я выконваю?! Глядзі, хлопец, не валаводзь, мне яшчэ сёння трэба ў лясгас — з тваім актам. Павалім дзеля адчэпнага пару дрэў, напішам — спелыя, і паедзем. Сячы, хлопцы!»

Але я зноў спыніў іх — сказаў цвёрда: «Для акта патрэбен матэрыял, будзем закладваць пробныя пляцоўкі, вызначаць сярэдняе дрэва, валіць мадэль. Масіў вялікі, захапіў аж тры кварталы, так што работы тут не на адзін дзень...» — «Ага,— падскочыў дырэктар,— будзеш адстойваць гонар мундзіра!.. Ну добра, рабі што хочаш, але май на ўвазе, мяне вы не абдурыце — кольцы прыеду лічыць з лупаю!..»

Тры дні прыязджаў я з тымі рабацягамі ў Доўгі бор. І чым бліжэй к канцу падыходзіла мая работа, тым горш рабілася ў мяне на душы. Я ўсё ясней разумеў, што ў гэтым лесе вырашаецца мой далейшы лёс. А лепей сказаць, не мой, а жончын, Зоін... Падае апошняе мадэльнае дрэва: крутнулася на пні, мацнее, нарастае шум галля — падсечаную хвою спяшаецца пакінуць яе душа. Зараз я палічу на пні гадавыя кольцы, сяду на паваленае дрэва і буду доўга-доўга думаць — цэлую вечнасць...

Не трэба дырэктару прыязджаць з лупаю, і без лупы відаць — лес спелы, такая горкая праўда. Я павінен напісаць гэта ў акце і вынесці Доўгаму бору смяротны прысуд. А значыць... Значыць, не адстаяў я гонар экспедыцыі, не прайшоў у яе начальніка гэтага выпрабавання, а яно ж было апошнім маім шанцам прыбіцца да горада самому і перавезці ў горад жонку. Цяпер ні яна са мною свету не пабача, ні яе свет. Гарбатая баба!.. А Чубасаў Іван Міхайлавіч — як у ваду глядзеў: «Няхай жывуць савецкія лесазаводы!» Гэта я лесазавод... Канечне, я разумею: ляснік часам і сячэ лес, не толькі саджае. Кажуць, мяняй кожны год на кажуху лапік, твой кажух сто гадоў будзе новы, а ў лесе — колькі высек, столькі пасадзі, ён ніколі не звядзецца. Але ж усё роўна — не паднялася ў леташняга таксатара на Доўгі бор рука! А ў мяне — падымецца?..

Якая жорсткая бывае праўда — бор спелы. Ну, а калі яго мне ўсё-ткі шкада, дык няўжо гэтую бязлітасную праўду нельга абысці? Няўжо ў такім выпадку нельга салгаць? Салгаў жа, хутчэй за ўсё, мой папярэднік. Кажуць — «святая праўда», а што калі бывае і святы падман? Што калі, напрыклад... На пяці пробах у мяне павалена пятнаццаць мадэльных дрэў. Якім ні роўным здаваўся лес, дзве мадэлі яўна анамальныя — на дзесяць-пятнаццаць год маладзейшыя. І вось прыязджае дырэктар, а я ўпэўнена яму заяўляю: да спелага ўзрост

не дацягвае, калі ласка — вось пень, лічы хоць з лупаю, хоць без лупы. Збіць яго самаўпэўненасць, а потым падвесці да другога «маладога» пня і канчаткова давесці яму — лес нельга секчы, гадоў праз дзесяць — калі ласка, а цяпер — сам бачыш... Канечне, гэта авантура, яна можа і не прайсці, калі дырэктар палічыць кольцы і на астатніх пнях, а калі ўсё-такі авантура ўдалася б, хіба не быў бы гэты падман святым?.. Уратаваў бы лес, а ў выніку... Як было б цудоўна: адстаяў бы гонар экспедыцыі, зматаўся б яшчэ на месяц-два ў тайгу, а вярнуўся б — знайшоў бы ў горадзе кватэру і вызваліў бы нарэшце з клеткі жонку — перавёз бы яе ў горад. Хіба дзеля гэтага не варта рызыкнуць? Тым болей, што даволі-такі падазроная ў іх гэтая бабулька. Яшчэ ў газіку ўва мне варухнулася падазрэнне: а ці не падстроілі дырэктар з Поўтарам яе прыезд у сельсавет, маўляў, глядзі, таксатар, ад каго бароніш Доўгі бор. Падстроілі, бо вельмі ж на гэта падобна: прыехала бабулька, прыехалі мы, яна з унукам да старшыні, і дырэктар напралом павёў мяне ў кабінет, каб я стаў сведкам размовы бабулькі і Поўтара. Бабулька — дырэктараў козыр.

Але разважаючы так, я ўрэшце падумаў, што не мае значэння, падстроена нешта дырэктарам ці не, бо на месцы гэтай адной можна ўявіць сто іншых такіх жа бабулек, і, можа, акурат з гэтага Доўгага бору і перапала б ім нейкая дошка на падлогу. І вось, дапусцім, убярог ты гэты бор, але тады павінен ты адказаць сам сабе, хто табе даражэй — гэтая бабулька, яе праўнукі, якім трэба тэпаць па жоўтай падлозе, ці твае вось гэтыя дрэвы? Калі падманам ты абароніш іх ад дырэктаравай сякеры, калі пашкадуеш дрэвы, а не бабульку, ці будзе ў такім выпадку твой падман святы?..

Трапіў у нерат — ні ўзад, ні ўперад?.. Хаця так і не так. Бо назад ход ёсць. Хто я такі, каб выносіць прысуд, спелы лес ці не спелы? У мяне няма на гэта ніякага права. Стары пень, начальнік экспедыцыі, так блізка сядзіць каля сваёй маладой памочніцы, што, мабыць, парадкам ачмурэў ад яе, і першага, хто прыйшоў да яго з вуліцы, ён пасылае ў гэты лес абараняць гонар ягонай канторы. Нават камандзіроўкі не выпісалі, і калі зараз дырэктар спытае, а ці не самазванец ты, хлопча, так яно і будзе — самазванец. Дык і ніякай сілы не будзе мець мой акт, нават калі б яго я і напісаў. І я не буду яго пісаць, так што назад ход з нерату ёсць. Так, ёсць. Ёсць ход назад, але ж каб гэты ход ды быў яшчэ і выйсцем! А то ж няма выйсця! Няма выйсця ў самім сабе, а гэта — галоўнае. Акта я не напішу, не пасведчу, што бор спелы, не падпішу яму смяротны прысуд. Але ж я і не абараню яго, я проста пакідаю яго, ганебна змываюся... А яшчэ гэта не выйсце таму, што адсюль цяпер мне адна дарога — назад у Заліп'е...

Не бачыць маёй жонцы прыгожага гарадскога жыцця!..»

Я слухаў Гаркушу і думаў: «Божа, на якія галавакружныя вышыні ён падымаецца!.. Колькі пераражыў, перадумаў, перапакутаваў. Дык, можа, і даравацъ, што ён гэтак пакеплівае з мяне,— можа, ён і мае на гэта права?» Як немалады ўжо, але яшчэ і не стары лясны арол, ён круг за кругам набірае над родным лесам недасягальную для мяне вышыню і адтуль, з усё вышэйшага паднябесся, сваім арліным зрокам працінае мяне зусім мізэрнага з маёй не патрэбнай яму таксацыяй (свой лес ён і так ведае як сваіх пяць пальцаў), з маім вартым жалю вершаваным зборнічкам у палявой сумцы. І я ўжо схіляўся да таго, каб прызнаць за ім гэтае права: калі яму так хочацца, дык хай тамусяму і павучыць — і не толькі мяне, а можа, і ляснічага. Але ж, людзі добрыя, які няўдзячны, які бессардэчны гэты чалавек — ён проста на корані знішчае мае добрыя да яго пачуцці! Толькі што ён быў недзе там, у сваім Доўгім бары, толькі што я ім шчыра захапляўся, і раптам

ні з таго ні з сяго ён іранічна прыжмурвае на мяне адно вока і з'едліва пытае:

«Слухай, пісацель, а што гэта за дружба ў цябе з маім ляснічым? Вадой не разліць. Ці не з бугая ў вас гэта пачалося? Ох, і задалі ж вы лататы, гляджу, а яны ўжо за канаваю!..»

## 14. Шал

Я шчыра непакоіўся за ляснічага, якому безразважны Гаркушаў выпад супраць Першага сакратара ЦК пагражаў вялікімі непрыемнасцямі: як той Кручкоў у Дуніна-Марцінкевіча, ён не толькі пасаду мог страціць, але і яго «л і ч н а с ц ь» магла падвергнуцца «о п а с н о с ц і». Але была і яшчэ адна падстава для маёй трывогі. Калі б ляснічага раптам знялі з работы, хто ўрэшце падпісаў бы мне канчатковы акт? Гаркуша? Мне страшна было падумаць, колькі яшчэ «фальклорных» спосабаў знайшлося б у яго, каб на корані забракаваць усю маю таксацыю. Таму я ўрэшце не ўтрываў і прыйшоў да ляснічага, хацелася хутчэй даведацца, што ўсё-ткі вырашыла грознае бюро райкома і на якім цяпер ён свеце.

У мяне адлягло ад сэрца: ляснічы быў у цудоўным настроі. Ён трохі па-фюрэрску ўскінуў руку і, шчодра павысіўшы мяне ў пісьменніцкім рангу (раней ён называў мяне інжынерам чалавечых душ), прывітаў дружалюбна:

«А, класік! Ну, праходзь, праходзь, рад бачыць!»

Канечне, у такім «літаратурным» прывітанні было трохі і кпіны, але я не пакрыўдзіўся. Па-першае, самы знішчальны тытул прысвоіў мне ўжо Гаркуша — са здзеклівай усмешкай сказаў аднойчы: «Пісацель — ад слова «пі́саць», а па-другое, гаварыць пра літаратуру ляснічы мог са мною як роўны з роўным: чалавек скончыў вышэйшую партыйную школу, а ў ёй літаратуру вывучаюць не на ўзроўні Гаркушавага «эпітэ́та».

Ляснічы ступіў з-за стала, відаць, у знак падзякі за маю маральную падтрымку патрос мне руку і, не зводзячы з мяне прыязнага позірку, гасцінным жэстам паказаў на крэсла. Сеў за стол і сам. Сеў і ляпнуў далонямю па газеце, што ляжала перад ім на стале, прыкрываючы адным краем нейкія паперы.

«Ну малайцы ветэраны! Урэзалі вашаму Быкаву — дзесятаму заказа!.. Адкуль у яго такі сверб — толькі б ганіць, толькі б чарніць!.. Выдумаў акопную праўду. Яна, бач, не такая, як уся наша праўда, наша філасофія. Але ж хай бы хоць у акопе яму не хапала гуманізму, а то ж цяпер і ў лесе, у партызанах!.. А яшчэ ж і псіхолаг!.. Я, канечне, разумею: Талстой, «Севастопальскія апавяданні», там таксама вайна і псіхалогія, але ж трэба памятаць, якая гэта была эпоха, чалавек быў сам-насам з сабою — хоць у акопе, хоць дзе, бо тады ж не было яшчэ маральна-палітычнага адзінства! А галоўнае, дакопваецца да нейкіх вечных ісцін, біблейскай міласэрнасці яму не хапае, як быццам наш класавы гуманізм не вышэйшы за біблейскі!..»

Твар ляснічага зрабіўся суровым і заклапочаным, ён, можа, не так абураўся Быкавым, як спачуваў яму, дык і мне самому шкада стала Быкава. Я раптам падумаў: яго «акопная праўда» — гэта тая ж Гаркушава «практыка», увогуле кажучы, той г а р к у ш ы з м, калі чалавек у сябе ў лесе або ў тым жа акопе думае, што вось ён на сваім уласным вопыце, ці, як той Гаркуша кажа, «у натуры», спасцігае жыццё правільней і глыбей, чым яго тлумачыць самая перадавая тэорыя.

«І собіла ж табе трапіць у гэту кампанію,— не то паўшчуваў, не то пашкадаваў мяне ляснічы,— я ж гэтую вашу літпубліку ведаю як аблупленую. Не, з Быкавым не меў справы, толькі чытаў, бо трэба ведаць свайго праціўніка, а з іншымі давялося сутыкнуцца, і, калі ты не супраць, раскажу, як было.

Загадваю я ў райкоме аддзелам, і раптам званок з абкома: едуць! Едуць пісьменнікі, дык паглядзі, што там і як. Аказваецца, у іх такое шыкоўнае турнэ: няма каго на цеплаходах вазіць, дык і плыве іхняя брація — па Сажы, па Прыпяці, а потым на бераг сыдуць, і тут у іх ужо сустрэча — у школе ці ў клубе, так у іх запланавана. Ну а я павінен пацікавіцца, які ідэйны ўзровень іхніх выступленняў.

І вось чакаю іх тут, у Грабянцах. Пасылае ім старшыня к цеплаходу газік, заяўляюцца яны, а я не выдаю сябе, сеў на заднім радзе ў клубе і слухаю. Слухаю і не веру сваім вушам: ідэалагічная дыверсія! Я-то чакаў, прывязуць са сталіцы нешта прагрэсіўнае, а яны: «Вы ведаеце, на якой зямлі жывяце?» Ну, я падумаў: на партызанскай зямлі, на геранчнай ці яшчэ якой — на асушанай, напрыклад, дзе людзі калісь на балоце жылі, а яны: «Гэта зямля радзімічаў і дрыгавічоў!..» А потым: «У нас быў Кірыла Тураўскі!..» Ледзьве дасядзеў я да канца, не хацелася зганяць са сцэны, бо народ жа вушы развесіў, слухае, але потым адкрыў я ім сваё інкогніта, прадставіўся дый кажу: «Хлопцы, з якой вы пячоры выскачылі? У нас даўно ўжо новая гістарычная еднасць, а вы мне тут пра дрыгавічоў ды пра радзімічаў?! Вы падурэлі, ці што? Хто прымаў у вас вашу праграму, хто вас выпускаў з ёю?»

Ох, як жа я не спадабаўся ім! Адзін, помню, пухнаты, вірлавокі трошкі і не надта высокі, грудзі перада мною выпінае ды гэтак нараспеў і як бы ў нос: «Ты думаеш, ты тут вялікі бугор, а ты ўсяго шышка на роўным месцы, ты на гэтай зямлі ракавая пухліна, вось хто ты такі!» Мяне ажно закалаціла ўсяго! А тут яшчэ і другі: вочы зрабіў наіўныя-наіўныя, дыпламат — канфлікт загладжвае: «Ваша праўда, Кірыла Тураўскі — не тое, мы яго на Кірылу Арлоўскага памяняем». Здзекуецца. Ну а трэці — такі, знаеш, карыфей, паблажліва ўсміхаецца, а сам мяне далонямі па плячы, па-панібрацку так, як быццам мы разам свіней пасвілі: «Ну не трэба, не трэба, стары, скажы, што пагарачыўся.— І ўжо трохі цішэй: — Ты ж глядзі — не дзынкні абыкуды». Не стрываў я, плячо з-пад далоні ў яго выхапіў ды шафёру: тапчы, кажу, іх у газік, на карабель іх, ды к самаму трапу, каб і на беразе слядоў не пакінулі!..

Турнуў, дык з таго часу нагі іхняй не было ў раёне. І цяпер, мабыць, аб'язджаюць, не чуваць нешта. А ўвогуле я так думаю: пакінуць Мележа ды Шамякіна, а ўсіх астатніх у Грабянцы на ферму — гной выкідаць, хоць карысць нейкая была б грамадству».

Напэўна, фартуна зноў павярнулася да ляснічага тварам, бо перада мною быў той самы, не безразважлівы, аднак жа трохі і бесшабашны аптыміст, якога я ведаў раней, да прылёту Першага. І мяне ўсё больш разбірала цікавасць, што ж гэта за галгофа, што ж гэта за такое страшнае бюро, пасля якога ён паводзіць сябе яшчэ больш упэўнена і незалежна? Адзін раз ён мелькам выхапіў з маіх вачэй маё нямое пытанне і гэтак жа мімаходзь ухіліўся ад адказу: дапяклі пісьменнікі; але нарэшце ён вынес ім канчатковы прысуд і адразу забыў пра іх, як бы даючы гэтым зразумець, што ўвогуле яны не вартыя былі яго ўвагі.

«Ну, з чым да мяне? Можа, падпішам ды замочым канчатковы акт? — Затрымаў на мне позірк, згодна кіўнуў галавою — маўляў, разумею, што табе рупіць, і, хітравата, па-змоўніцку прыжмурыўшы вочы, прадэкламаваў:

Никто нас в жизни не сможет
Вышибить из седла...

А ўвогуле, стары, наш Першы,— ляснічы паказаў пальцам угору,— наш Першы, скажу я табе шчыра,— вялікі дэмакрат. Забараніў нават сустракаць каля верталёта. Ім, членам бюро, забараніў. А я ж ведаю гэту кампанію, усе хочуць выслужыцца, кожны пнецца забегчы ўперад, кінуцца ў вочы, а тут ён унізе ля рэчкі, як Бог, апускаецца з неба, а яны баяцца нават у акно зірнуць, бо папярэдзіў, каб ніякіх цырымоній. Але ўвайшоў — падцягнуты, стройны, акурат бягун на доўгія дыстанцыі, ды не адзін, з ім і два яго «венікі» — усе, канечне, падхапіліся, а ён павітаўся, сеў справа ад нашага першага і гаворыць: «Ну, працягвайце, а я паслухаю, мне гэта будзе вельмі цікава».

Што тут пачалося! Накінуліся ўсёй гайнёю, рвуць мяне на кавалкі, ажно шмаццё з мяне ва ўсе бакі ляціць: нездарма яго, гэта значыць, мяне, у свой час і з райкома турнулі, гэта ён ва ўсім вінаваты, не займаўся выхаваннем кадраў, а ў выніку беспартыйны Гаркуша не проста праявіў абуральную непавагу да Першага сакратара ЦК, па сутнасці, ён адкрыта выступіў супраць курсу партыі на меліярацыю палескіх балот...

Што праўда, то праўда: Гаркуша беспартыйны, дык яны яго трохі завочна пашкамутаюць, і зноў я чую на сабе іх мёртвую хватку.

Але ў тым і быў іхні пралік, што яны чапалі ўсё-ткі і Гаркушу. Каб толькі на мяне накінуліся, дык так і трэба, а яны не-не ды зачэпяць і Гаркушу, таму Першы нашто ўжо ўмее слухаць людзей, але і ён не стрываў: «Значыць, па-вашаму,— пытае,— усё зло ў беспартыйным Гаркушы? Гэта ён вінаваты ў тым, што меліярацыя не дае таго эфекту, на які мы разлічвалі? І нават прыносіць шкоду? Блажэн, хто верue, а я, напрыклад, у сваю бязгрэшнасць не веру».

Нямая сцэна: пераводзіць ён свой славуты ўсмешлівы позірк з аднаго члена бюро на другога, з другога на трэцяга, а яны галовы ўнурваюць, унурваюць, і кожнаму хочацца схавацца пад стол, асабліва двум — яны, небаракі, не паспелі яшчэ нават займець андатравых шапак, новыя былі члены, а цяпер не тое што андатравай не атрымаеш — дадуць і па той шапцы, якая ёсць, бо разгоніць жа ён усіх: перасушылі зямлю — гараць тарфянікі, палаюць лясы, а яму, Першаму, трэба абцугамі выцягваць з іх прызнанне віны, яны хочуць зваліць яе на беспартыйнага Гаркушу!..

Але ў кожнай кампаніі знойдзецца хоць адзін смяльчак, як у таго Чукоўскага, памятаеш: «Вдруг откуда-то летит маленький комарик, и в руках его горит маленький фонарик». Дык знайшоўся такі герой і тут. Усім языкі адняло, а ён дарма што і немалады ўжо, амаль лысы, толькі спераду сівы чубок, касмылёк такі, не буду называць, хто гэта быў, ты сам здагадаешся, адзін ён адважна ідзе ў наступ: «Ёсць падставы меркаваць, што мы маем справу са свядомай агітацыяй супраць нашага партыйнага і дзяржаўнага курсу».— «Нават так?» — здзівіўся Першы. «У нас ёсць аб'ектыўная інфармацыя»,— пацвердзіў смяльчак. «У каго гэта ў вас? — пацікавіўся Першы. І асекся.— А, разумею. Ну-ну, якая ж у вас інфармацыя? І хто ён, гэты ваш агітатар?» — «Гэта ўсё той жа памочнік ляснічага Гаркуша».— «Вось як! — Першы здзівіўся яшчэ больш. — Ну-ну!» — «А даныя такія. Жанаты на ўнучцы былога кулака, праўда, з-за збегу пэўных акалічнасцей у свой час неабясшкоджанага, у вайну ён прыслужваў акупантам, дык пад яго шкодны ўплыў, несумненна, і трапіў гэты Гаркуша. Класава чужы ідэйны ўплыў на яго мы ўгледжваем ужо ў тым, што яшчэ тады, у першыя пасляваенныя гады, Гаркуша заявіў сябе як пачынаючы літаратар нацыялістычнага ўхілу, у пісаннях якога мелі месца, аднак, і касмапалітычныя матывы. Але гэта не ўсё. У апошні час, дэмагагічна спекулюючы на адмоўных экалагічных праявах, такіх, напрыклад, як самаўзгаранне тарфянікаў, гэты Гаркуша пры сустрэчах з людзьмі ў лесе выкарыстоўвае

тактыку індывідуальных гутарак, пастаянна ўнушае ім, што «ўсё ідзе на пагібель». Усяляк ганіць, як ён сам кажа, «бескарысную тэорыю», але не цураецца і актыўных дзеянняў: так, нядаўна з яго боку была спроба дэзарганізацыі работ на трасе міжнароднага нафтаправода. Зусім відавочна, што яго шкодныя погляды і дзеянні знаходзяць падтрымку і ў ягонай сям'і: Гаркушава жонка таксама схільная да антыграмадскіх учынкаў, нават авантурных».

«Ну што ж,— сказаў Першы,— калі мы і праўда маем справу са спробамі скампраметаваць нашу, як вы кажаце, тэорыю, дык, канечне, гэта вельмі сур'ёзна. І тым не менш — не будзем жа мы абмяркоўваць на бюро райкома беспартыйнага. Дарэчы, не ведаю, як хто, а я не падзяляю вельмі спрэчнай думкі пра тое, быццам нам пагражае яго нацыяналізм. Асобныя рэцыдывы гэтай з'явы, канечне, дзе-нідзе яшчэ маюць у нас месца, але ўвогуле нацыяналізм не ўласцівы нашаму народу, у нас на вачах адбываецца зліццё нацый, і беларусы ідуць у авангардзе гэтага працэсу..Але гэта між іншым. Пра нафраправод. Я займаўся гэтай гісторыяй, званілі ад Касыгіна, сігнал будаўнікоў дайшоў аж да яго. Канечне, анархія на месцах недапушчальная, яе праявы мы будзем бязлітасна выпальваць гарачым жалезам, але ж, з другога боку, як там у вас запісана — «Выхаванне кадраў лясной аховы»? Вось бачыце — лясной аховы. І калі б гэты ваш памочнік ляснічага не ўстаў на абарону даверанага яму народам лесу, дык ці меў бы ён права называць сябе лясной аховаю? Я слушна разважаю ці не?.. Але вядзіце бюро далей, не ведаю, у чым ён яшчэ ў вас вінаваты, гэты ляснік, што ж датычыць мяне, дык, здаецца, я не туды трапіў, бо тут не камуністы, тут выключна адны бязгрэшныя анёлы, а я — грэшны, бо, як ні памацаю свае лапаткі, не чую, каб у мяне там адраслі крылцы. Аднак не буду навязваць вам сваёй думкі, глядзіце самі, раз вы знайшлі казла адпушчэння — як яго прозвішча — Гаркуша? — тады што ж, валіце ўсё на яго».

Першы ўстаў, падскочылі і ўсе астатнія. «Праводзіць мяне не трэба,— сказаў Першы.— Працуйце, дзярзайце.— Не развітваючыся, рушыў да выхаду, аднак ля дзвярэй спыніўся, павольна павярнуўся да ўсіх і холадна прамовіў: — Хачу зрабіць вам адну заўвагу. Не чапайце жанчыну: кожны з нас павінен хоць трохі быць рыцарам».

...Ляснічы пасунуў на мой край стала цыгарэты, але ўспомніў, што я не куру, вярнуў пачак, закурыў і, не тоячы свайго вялікага захаплення, прамовіў летуценна: «Які артыст, які дэмагог! Далёка нам да яго!.. — Памаўчаў і ўжо дзелавым тонам: — Пранесла. І нічога мне цяпер не пагражае, па сутнасці, ён даў нашаму першаму карт-бланш, а ён жа тут у мяне на возеры час бавіць, як-небудзь са сваім першым я дамоўлюся. Вось і ўсё. Досыць аб гэтым, выкладвай, з чым прыйшоў. Калі, пытаю, будзем падпісваць заключны акт? Спяшайся, а то я, браце, доўга тут не затрымаюся: расце лес, растуць і людзі».

Тое, што расказаў ляснічы, дужа мяне ўсхвалявала. Неверагодна: там, ля Пясчанай Рудні, Гаркуша даў зразумець Першаму, што не прымае яго палітыкі, а Першы цяпер выгароджвае Гаркушу. А яшчэ не выходзіла з галавы: пра якія антыграмадскія ўчынкі Гаркушавай жонкі гаварыў Чубок,— канечне ж, гэта быў ён, даўні Гаркушаў знаёмы. Здаецца, сказаў нават, што яны былі авантурныя, тыя ўчынкі. І я асцярожна спытаў у ляснічага, што канкрэтна меў на ўвазе «маленькі камарык»?

Ляснічы зірнуў на мяне здзіўлена.

«А ты што, нічога не ведаеш? Табе ніхто не расказаў? Ну, браце, ты многа страціў. Было калісь, было. І месяца не пражыла са сваім карыфеем, а тут падвярнуўся адзін аферыст, дык раскрутку іхнюю і цяпер помняць — віхор над лесам панёсся!»

Ішоў на кватэру, а ў галаве круцілася: «Адзін аферыст падвярнуўся», «Месяца не пражыла». Па часе акурат прыпадае на Гаркушаву адысею. Яны развіталіся з Лёшкам у Гомелі, Гаркуша пазычыў Лёшку дзесяць рублёў і паехаў у леспрамгас, а перад ад'ездам у яго было трывожнае прадчуванне, што надоўга пакінуў жонку, дык няўжо яно спраўдзілася?.. Я злавіў сябе на думцы, што спачуваю Гаркушу: жонка ў яго не Пенелопа. Не кожная, аказваецца, можа ў адсутнасць свайго чалавека ўстаяць супраць д'ябальскай спакусы. Толькі Пенелопа і ўстаяла: сказала жаніхам, спачатку сатчэ палатно, а потым і стане камусьці з іх жонкаю. А сама, хітрая, сатчэ і распусціць. І зноў тчэ. І так цэлых дзесяць гадоў. Дык хіба не магла прыдумаць нешта такое і яна, Зоя? Зрэшты, нічога не трэба было і прыдумваць, сама ж казала, граду даполваеш, а ззаду новае зелле галаву падымае і тая ж бярозка, трава паўзучая, услед віецца. Але, можа, к восені так чыста стала ў гадавальніку?.. «Адзін аферыст падвярнуўся».

Стоп, нешта не тое! Чаму я павінен спачуваць Гаркушу? Ей, Зоі, у Гаркушавай хаце нічога добрага ў будучым не свяціла, і калі, як з цёмнага гушчару, кінулася яна на той прасвет — у поле, на шырокі прастор, якога пазбавіў яе Гаркуша, дык чаму я павінен яму спачуваць, а яе асуджаць: не чакала, як Пенелопа!.. Дык я і не асуджаю яе. Мне проста яшчэ больш яе шкада. Бо гэта ж яшчэ адна яе пакута. Яна не раз загаворвала са мною пра нейкі свой грэх, але толькі цяпер мне стала зразумелай яе боязь, яе насцярожанасць, калі, сустракаючыся са мною позіркам, яна як быццам сіліцца ўгадаць, ці ведаю я пра тую яе «раскрутку», ад якой «ажно віхор над лесам панёсся».

Грэх, сапраўдны ці ўяўны, пазбаўляе чалавека спакою, дык хто ведае: можа, таму яна і прапанавала мне вясною застацца ў іх на кватэры, каб, выгаварыўшы перада мною ўсё балючае, урэшце скінуць з душы і гэты, самы цяжкі камень.

«Ну вось і мінула лецечка — не ўгледзелі нават калі, так і жыццё праляціць, як адзін дзень, бачу, ты ўжо і паперы свае матузкамі пераязваеш, скора, Валічак, дзядзю ручкай памахаеш, і не будзем мы яму болей галавы тлуміць, а то, можа, думае, прычапілася назола, няма каму ёй паспавядацца...»

Я адарваўся ад сваіх а́брысаў і журналаў, прыўзняў галаву — і якім жа глыбокім разуменнем яе жаночай душы я павінен быў адгукнуцца на гэты асаблівы, сённяшні яе давер да мяне — той, што зірнуў з бяздоннай глыбіні яе «месячных», светла-шэрых вачэй.

«Не, Сяргеевіч, болей цярпеў, дык пацярпі яшчэ трохі. Бо я ж не даказала да канца, паслухай што было пад канец, а то не я, дык злы язык не змоўчыць. «Ты ў каго жывеш, у Гаркушы? А ты знаеш, якая яго Гаркушыха?» Дык вось я такая, якая ёсць, і хай хоць хто мяне судзіць, я першая сябе за свой грэх і асудзіла. Хоць і кажуць, як чалавек не ў сабе, дык ён сам за сябе не адказвае, і такіх нават суд не карае, а я ўсё роўна караю сама сябе — моўчкі, і дарма што гэтага ніхто не ведае, абы я сама ведала. А магла ж бы я і не зводзіцца так, бо я ж не ў сваёй памяці была, я ж не помніла, што рабіла, і гэта быў не грэх мой, а шал, а калі шал, дык яго ж д'ябал пасылае. Чалавека як полымем ахопіць, мужчыну, можа, і не так моцна, а наша сястра ўспыхвае, што салома...

Я табе казала ўжо: паехаў мой Гаркуша ў полі ветру шукаць, а я хаджу на гадавальнік, бо зелле, як перла, так і прэ — спасу няма. А зямля ў мяжы цёплая, дык мая нага пашкоджаная ўгрэлася, адышла памалу, так мне добра ў калене стала, што пабегчы хацелася, ды дзе там пабегчы, здаецца, паляцела б, як тая зязюля... А Гаркушы ўсё няма і няма — з тыдзень ужо...

Гаркушы няма, а д'яблу толькі тое і трэба... Быў у нас такі Лёшка Гамон, я ўжо пра яго казала, ён гуляў у нас на вяселлі і ўсё падбіваў Гаркушу, каб разам у Сібір на вялікія заробкі ехаць. Але невядома, ці злётаў ён і сам у той Сібір, бо, можа, толькі ў Гомелі панікаў-панікаў, на тым усё і скончылася, бо зноў у Заліп'і апынуўся. Але заявіўся ўжо нейкі не такі, як заўсёды. То, бывала, сядзеў у маткі ціха, баяўся лішні раз каму на вочы трапіць — за ім жа аліменты, як сабакі, ганяліся, а то раптам такі смелы, трэцца каля канторы, з леснікамі гаворку заводзіць: усё, кажа, налётаўся па свеце, пускаю карані ў Заліп'і...

А ў Лёшкі яшчэ ад вайны быў матацыкл, стаяў у хляве ў маткі. Нямецкі ці наш, не ведаю; казалі, праўда, немцы адцураліся, нешта ў ім сапсавалася, дык Лёшка ўвесь час яго рамантаваў, а яшчэ памятаю, чорны быў той матацыкл, нібы крумкач, і, можа, мне так здаецца, але занадта аблытаны быў нейкімі трубачкамі ды правадамі. Дык парамантуе яго Лёшка, выкаціць з двара, а малым радасць — коцяць Лёшкаў матацыкл, пруць па вуліцы — каб завесці, а ён коціцца-коціцца, а потым гыркне, як ваўкадаў, і зноў ні з месца. Дык ён і цяпер выкаціў яго, як смала, чорнага, леснікі смяюцца: трымай свайго стаенніка, а то ўпудзіцца, а Лёшка нешта нагою ціскануў, крутнуў, ускочыў, як на чорта, і памчаў на ім у той канец, пад высокі лес. Думалі, скора вернецца назад, а ён не вярнуўся. Ніхто яшчэ не ведаў, што гэтак адразу ён стаў каваць жалеза, пакуль гарачае,— паехаў на стражу, да дзеда майго Мікалайкі.

І ніхто нават не здагадваўся, што гэта быў ужо не Лёшка. Таму і матацыкл завёўся ў яго, што быў гэта ўжо не Лёшка, а д'ябал у Лёшкавым абліччы. Ды калі ўжо на тое пайшло, дык хай будзе яму зямля пухам, дзеду майму, злым словам не памяну, але ж такі ўдачлівы быў, усё роўна як нячыстая сіла яму спрыяла: і ад калгасаў уцёк, і да паліцаяў прымазаўся, і з партызанамі паладзіў — за малым не пярэварацень, дык не дзіва, што і Лёшка да яго памчаўся — угадаў роднага, пачуў свой дух.

Не Лёшка то ўжо быў. Госпадзі, зірнула б я на Лёшку! На што там было глядзець? На той чуб, што, як у чумы, на бок звернуты? А тут я не толькі гляджу на яго, а і слухаю, бо ў іх жа, у д'яблаў, і галасы спакуслівыя, саладжавыя, вязнеш у такім, як муха ў мёдзе... Падляцеў да гадавальніка, матора ўжо не чутно, толькі чмыхае, саскочыў са свайго чорта, жэрдку пяцярнёю ашчаперыў дый пытае: «Ну што, Мікалайкава красуня, сумуеш без Гаркушы? Затое ён недзе не сумуе. Эх, каб толькі знала ты, якая ў яго цяпер там краля!»

Гаворыць, а я, можа, толькі ў морду плюнула б нахабе, каб не тая ліслівая інжынерка, што зусім нядаўна прыязджала з Мажэйкам. А то ж увушшу яшчэ стаяла: «Гаркуша мяне ашукаў, і цябе ашукае». Дык мне ж Лёшка пра тое і гаворыць. Ты, кажа, яму дагаджаеш, гарбееш над гэтым зеллем, а ён там часу не марнуе. Тут у яго Зойка, а там Алка, гарадская аторва, робіць на той фабрыцы, што цукеркі выпускае, дык яна і дадому іх нясе, а болей шакалад, жывуць з Гаркушам — п'юць, а шакаладам ды жамкамі закусваюць. І сам ён, Лёшка, быў у той Алкі, ужо нібыта ў гасцях у іх, дык наўрад ці адпусціць яна ўжо Гаркушу ў Заліп'е.

Як сказаў ён гэта, з майго сэрца камень скаціўся. Не, я не надта верыла і той інжынерцы, і Лёшку не надта цяпер паверыла, але ўсё роўна мне стала лягчэй. Мне ж трэба, каб у мяне было апраўданне, бо я ж глядзела на Лёшку, як заварожаная, глядзела і слухала яго, але я не павінна была паддавацца яму, змею-спакусніку, ды калі ён, Гаркуша, недзе круціць з тою гарадской Алкаю, дык не грэх і мне!.. Не грэх, бо ў яго ўжо і хахлушка Маруся была, і гэтая інжынерка, а цяпер ён і з Алкаю, дык яму можна, а я ў Бога цяля ўкрала — мне забаронена?.. А яшчэ ж у яго ўсё напраўду, а калі я толькі пажартуюся

з Лёшкам, дык хіба ж гэта грэх?.. Падышла да гароджы, ды, можа, не падышла, а падбегла, і сама ўжо сабе не веру, што гэта ў мяне так перахапіла дыханне, што гэта я прашу: «Лёшка, пакатай на матацыкле!» — І ў той жа момант, як птушка, вылятаю з загарадкі, з клеткі вылятаю, бо гэта Лёшка перагнуўся над гароджай і падхапіў мяне пад пахі!.. Паставіў на ногі, вачамі зыркае ды весела скаліць зубы: «А я толькі сам хацеў сказаць табе — плюнь ты на Гаркушу і на ягоны гадавальнік!» Вядзе мяне за руку да матацыкла, нешта на ім адкручвае ці закручвае, а сам не нарадуецца — пяе:

Поедем, красотка, кататься,
Давно я тебя ожидал.

Вось так і пачаўся мой шал. Як панесліся мы на тым чорным матацыкле, а па лесе ж, дык адно дрэвы мільгаюць абапал дарогі ды вецер увушшу свішча. Абхапіла я Лёшку за плечы, бо на заднім жа сядле ў яго, абвіла рукамі нелюдзя, а ён не глядзіць ні вока, ні бока, прэ на злом галавы, ажно я ўжо крычу ў яго над вухам: «Ашалеў, не ляці так хутка!» А ён мне: «Мацней абдымай, з табою мне і смерць не страшная!..» Яму не страшная, а мне? Таксама ж, мабыць, бо не пабаялася ж, села, як быццам і не было таго торфу, на якім з грэблі на той свет грукацела!..

А ў які лес мы ўляцелі куляю, дык я ўжо яго і не пазнавала. Толькі прыкмеціла, што адразу за возерам, на ростанях, павярнулі направа, а потым, мабыць, абагнулі стражу і зноў пад'ехалі бліжэй да рэчкі. Расла на стражы, але ў гэты бок не вабіла нешта, лес тут здаваўся чужэйшым, а сваім ён быў бліжэй да Заліп'я, дык я толькі чула пра такое месца — Плывун, востраў. Некалі гэта была вялікая багна — на самым краі лесу, а паўз лес, ці ўжо паўз гэтую багну, цякла наша Ліпа — не то сама адным берагам па багне разлівалася, не то багна гэтак яе жывіла, а пасярод той багны быў круглы востраў, дык ён і зваўся Плывуном, бо ўсё роўна як плаваў. Толькі, можа, плаваў ён раней, а цяпер на ім рос высокі бор — ад Пясчанай Рудні, як у бок нашай стражы глянуць, ён відзён быў прыгожай кучаравай купаю, дык я так і здагадалася, што ля гэтага месца мы і апынуліся з Лёшкам, толькі з другога боку. Затармазіў Лёшка, ды так знянацку, што я ажно верхам на ім праехала, ледзь не пераляцела цераз яго — Божа мой, каб хто ўбачыў, жахнуўся б: і гэта яна, каторая за Гаркушам замужам?.. Так мой бедны розум памуціўся — шал!..

Злезлі мы з матацыкла, і толькі цяпер, дарма што шал, трохі пацверазела, апамяталася: навошта ён мяне сюды прывёз? Гляджу на Лёшку, чакаю брыдкага, не ведаю, як буду бараніцца, а Лёшка нейкі дзіўны: нават не зірнуў у мой бок, як быццам і няма мяне побач, толькі сказаў, нечым заклапочаны: «Пачакай, я прайду па гэтай дарожцы». А гэта ад нашай шырэйшай дарогі ў той бок, да рэчкі, адварочвала зусім глухая дарожка, дык Лёшка і пайшоў па ёй. Чакаю, а сама думаю: дарожка хоць і патайная, ды прытаптаная коламі, няўжо і ў такую глуш прыязджала машына? А тут і Лёшка вяртаецца. Як падышоў, так і ўпаў дагары на мох. Раскінуў рукі ў бакі, а на твары ў яго такая паганая ўсмешка, як у д'ябла бывае, а вочы нерухомыя, як у мёртвага. Паляжаў хвілін колькі моўчкі, а потым і кажа: «Ну, Мікалайкава ўнучка, цяпер ты ў мяне каралева!» І раптам як заспяваў на ўвесь лес:

Начинаются дни золотые
Воровской безоглядной любви.
Ах вы, кони мои вороные,
Черны вороны кони мои.

Апусцілася я недалёка ад яго на траву, а ў самой мурашкі па спіне, так страшна мне стала. Апрытомнела: што ж гэта я нарабі-

ла? А Лёшка не то ўжо просіць, не то загадвае: «Памагай, каралева».

Ах вы, кони мои вороные,
Черны вороны кони мои.

А потым змоўк ды сур'ёзна так і гаворыць: «Гані ты свайго Гаркушу, нават калі ён і здаволіцца той Алкаю ды вернецца ў Заліп'е. Быў я ў твайго дзеда, у Мікалайкі, дык не падабаецца яму Гаркуша. Вучыў, кажа, дурня, як у лесе жыць, а ён ні на што не здатны. Калі розум мець, лес адзене цябе і абуе, а такі, як Гаркуша, цюхцяй зможа толькі ў лапці жонку абуць, лыка надраўшы. Але ж, кажа, гэта ён сам хай у лапцях ходзіць, а не мая ўнучка. Словам, пагутарылі мы з дзедам, і так прыкра мне стала: пакуль я па свеце бадзяўся, розныя цюхцяі маіх дзевак пабралі, а самі ім у падноскі не вартыя. А яшчэ прагаварыўся дзед, падказаў мне такое, што заўтра на гэтае месца прымчымся, ты толькі зіхнеш ад здзіўлення. Галоўнае, не бойся Лёшкі, я цябе без тваёй згоды пальцам не крану, мне спяшацца няма куды, усё роўна ты мая будзеш, бо табе сэрца падкажа: з Лёшкам не прападзеш».

Калі б хто-небудзь убачыў мяне ў той дзень з Лёшкам, можа, на гэтым мой шал і скончыўся б. А то ж прывёз ён мяне на гадавальнік, сам вярнуўся ў Заліп'е, а падвечар і я прыйшла дадому — так усё і засталося шыта-крыта. А гэта ж д'ябальскае насланнё: патаемнае ў сабе носіш, розум падказвае — так нельга, табе гэта забаронена, ты ж замужняя, ды розуму не слухаецца сэрца: яму ад патаемнага, грэшнага яшчэ большая насалода. Не дзіва, што назаўтра я ўжо сама чакала Лёшку, уяўляла, як падхопіць ён мяне пад пахі і як узлячу я над гароджаю, хацелася зноў імчаць з ім без памяці па лесе — каб мільгалі дрэвы, каб свістала ўвушшу.

Так назаўтра і было. І зноў мы спыніліся на тых жа ростанях. Але цяпер Лёшка быў не такі заклапочаны, нешта яго адразу дужа ўсцешыла, зноў агледзеў ён, як і ўчора, тую ж глухую дарожку, трохі прайшоўся па ёй, а я, помню, здзівілася: была тая дарожка добра ўжо ўезджаная. Вяртаецца Лёшка, падышоў да тоўстага дрэва, нагнуўся, падтачыўся рукою пад мох. Падумала: што ён там шукае?..

Калі б гэта не быў мой шал, дык пабегла б я з гэтага страшнага месца куды вочы глядзяць. А то ж стаю і чакаю. Бо не з пустымі рукамі ідзе Лёшка ад таго дрэва, а з палатнянай кайстраю. Сеў Лёшка ля дарогі, і я села, ды, можа, не села, а самі ногі падагнуліся: была ўжо ні на тым свеце, ні на гэтым. Здагадалася, што ў кайстры, ды Лёшка і выцягвае ўжо: пляшку, паўбохана хлеба, кавалак сала, каўбасу — задарма такое ў лес не вязуць. Налівае Лёшка ў шклянку, падае мне дый кажа: «Ну, цяпер ты сама бачыш: з Лёшкам не прападзеш, бо ён на ляту ловіць дзедаву навуку. Пі, Мікалайкава ўнучка!»

І я выпіла. І не хацела піць, а выпіла. І так лёгка мне раптам зрабілася! Падумала: Госпадзі, ужо ўцякаць хацела. Ад каго ўцякаць? Ад Лёшкі? Ніколі так мне не было хораша, як цяпер з ім. І ніхто мяне тут з ім не бачыць. Але... што гэта за машына едзе па той глухой дарожцы? Во яна, ужо на скрыжаванні. І колы мокрыя. Чаму яны мокрыя — такая суш!..

Машына спынілася. Лёшка ўстаў, паціху падышоў да яе, пагаварыў з мужчынам, што сядзеў з шафёрам у кабіне. Вярнуўся. І зноў другая машына, паўнюткая. Што гэта за машыны? Падумала так, а Лёшка гаворыць: «Давай яшчэ раз вып'ем — за дружбу народаў. Там у іх за Жытомірам на пугаўё лазіны не знойдзеш, а ў нас такі лес — і не падзяліцца? Яны ж нашы суседзі, і, між іншым, запрашалі ў госці, але мы да іх не паедзем — блізка, мы цяпер з табою вольныя птушкі: куды захочам, туды і паляцім, дык махнем мы з табою, Мі-

калайкава ўнучка, на Каўказ, зраблю я там цябе царыцаю, была Тамара, а ты будзеш Зоя, не адмаўляйся, бо ты ж сама ўжо бачыш — з Лёшкам не прападзеш. А то вернецца твой Гаркуша, прывязе табе сваю нуду ў вачах, бо ў іх жа ва ўсіх гэтакая нуда, вечны іх клопат, то адно сабе ў галаву ўтопчуць, то другое, дык і табе такога шчасця хочацца? Адзін раз жывём на свеце!..»

І зноў машына, і зноў колы мокрыя. А Лёшка адламаў каўбасы ад кольца і падае мне: «Закусвай, Мікалайкава ўнучка, і ўважліва слухай».

Нездарма Лёшка злётаў да нас на стражу: прагаварыўся дзед — выдаў таямніцу. У вайну па Ліпе стаяў зімою фронт: нашы на гэтым баку, немцы на тым. А пад вясну нашы фронт прарвалі, бо дзе яны збіраліся яго прарваць, немцы не дапетрылі, спахапіліся, ды ўжо было позна. А яны, генералы нашы, на гэтай во самай багне яго і прарвалі. Цяпер, як сталі ўсё вакол асушаць, то вялікай багны ўжо няма, а тады яна і зімою не замярзала. Дык што прыдумалі нашы. Удзень бярвення нарыхтавалі, а ўначы яго ў багну, у багну — ляжнёўку паклалі, багна пад ёю зыбаецца, але трымае, а зверху твань, дык яго і не відаць, бярвення таго. А чаму акурат тут трэба было рабіць прарыў? Таму што ў сухой лагчыне берагі ў рэчкі абрывістыя, танкі, як ускочылі б, так і не выкараскаліся б, а тут і берагі пакатыя, і рэчка мялейшая, а паўз рэчку балота, дык немцы сядзяць у акопах і разважаюць: не палезуць жа рускія са сваімі танкамі ў багну, калі дзе і будуць прарываць фронт, дык толькі не тут; таму і гармат не трэба тут многа ставіць. Так немцы і прагадалі. Як паперлі ўначы нашы танкі — нібыта з самой багны. Немцы апамятацца не паспелі, а танкі ўжо акопы іхнія прасуюць. Вось так яны і пагналі немцаў. Пагналі, а ляжнёўка ж засталася! І латва ёй, бо дрэва ж у вадзе не гніе, а толькі чарнее ды набракае, вось яна і ляжыць пад вадою, і ніхто пра яе не ведае. Ды калі б жа ніхто — мой дзед Мікалайка ведаў!..

І вось Лёшка ў мяне пытае: «Цяпер ты разумееш, што было далей? Расказаў мне твой дзед пра гэтую невідзімку, а я ўзяў шост і стаў паціхеньку яе намацваць. Так я і перайшоў на востраў. Перайшоў, а там жа чалавечая нага не ступала, толькі во тыя нашы танкі прайшлі, дык я сам сабе і думаю: прападзе лес, згніе на корані, і нікому не будзе ад яго карысці... Шкада стала лесу. А тут бачу — гэтыя хлопцы з Украіны. Да дрэва прагныя, у іх жа там стэп, але што ж яны без нарадаў тут раздабудуць, хіба што ў калгасным лесе жэрдкаю пажывяцца, дык я ім і кажу: ёсць лес, і многа, але такі, што ніхто не хоча браць: складана пад'ехаць. Ну, яны і ўхапіліся: паказвай дзе! Вось я ім і паказаў. Адчайныя хахлы! Пусцілі машыну, шафёр на падножцы, каб, калі што якое, дык хоць самому з багны выкараскацца. Але ж праехалі! Выскачыў МАЗ на востраў, а тут яны і скемілі: калі нават увесь востраў паваліць, ніхто і не заўважыць, бо сюды ж і лось не прыходзіць, не тое што чалавек. Дык гані болей машын — ляжнёўка надзейная! А больш ніякай рызыкі, бо дакументы для адчэпкі ёсць, нешта яны выпісвалі ў Гаркушы... Во, чуеш, яшчэ адна газуе... Я толькі сказаў ім, каб з таго боку, ад рэчкі, не чапалі, хай з Пясчанай Рудні бачаць: лес на востраве як рос, так і расце...»

Памаўчаў трохі Лёшка, а потым і кажа: «Вось так мы з табою і загналі ім востраў».

Мяне ажно скаланула ўсю: «Што ты вярзеш, Лёшка? Перахрысціся! Як гэта — мы загналі?» — «А вось так,— сказаў Лёшка. Нядобра на мяне пазірае, а сам вымае з той палатнянай торбы нейкі пакуначак. Загорнуты ў газету. Павагаў на далоні, а потым разгортвае і гаворыць: — Вось так і загналі, а ты што ж думала, я ім задарма востраў аддам?.. Гэта нашы грошы, любка ты мая, глядзі...» Ён разгарнуў газету, а ў ёй і праўда былі грошы. І вялікія, столькі я ніколі

не толькі ў руках не трымала, а нават і не бачыла. Вялікім пальцам Лёшка загнуў пачак, а потым стаў адпускаць па адной паперцы — у мяне ўваччу замільгацела: адны соценныя!..

«Лёшка Гамон, Лёшка Гамон! Даўно б ты са мною так!» Заплюшчыла вочы, а мяне водзіць з боку ў бок, і цвярозая ўся — за адзін міг шал мой як рукою зняло. Дзе гэта я і з кім я? У лесе? З чубатым д'яблам? Ды хай ён хоць сто разоў д'ябал, не пабаюся, плюну яму ў паганы твар, каб аж вачэй не разляпіў, гіцаль, шыбенік, нахаба!..

Але я не паспела плюнуць. Па той дарожцы, ад балота, нехта бег у наш бок і крычаў немым голасам. Быццам звар'яцелы нейкі мужчына, у карычневых лыжных штанах і ў клятчастай кашулі — з закасанымі рукавамі. «Хутчэй у лес! — падхапіўся Лёшка.— Хавайся!» Але мы не паспелі схавацца, бо Лёшку ж трэба было закаціць у гушчар і матацыкл, таму ён толькі паспеў развярнуць яго на дарозе, той чалавек убачыў нас, кінуўся да Лёшкі і ўчапіўся яму ў плячо. Я ледзьве разабрала, што ён выкрыкваў у твар Лёшку: «Там... там машына перакулілася!.. Лагі падняло!.. Старчма сталі!.. Гэта ты, ты падвучыў, шукай цяпер трактар! Я не адпушчу цябе, шукай трактар!..» — «Ціха, ціха, не панікуй,— скрозь зубы супакойваў ашалелага мужчыну Лёшка.— Знойдзем трактар, толькі адчапіся!» — «Не, хлопец, не адчаплюся,— мужчына трымаў ужо Лёшку за каўнер, раз'юшана дыхаў яму ў твар,— я ж табе не ўсё яшчэ сказаў. Там... на ла́зе салдат... Мёртвы!.. Шукай трактар... мая машына там... я не хачу ў цюргу!..»

«Ратуй мяне, Лёшка,— так я ў думках маліла нехрысця,— бо калі ты сам у такое ўлез, дык навошта ж ты і мяне губіш, родненькі?» І ён быццам пачуў мяне, тузануўся ўсім целам, ды так, што мужчына, мабыць, не надта дужы, адляцеў ад яго аж на крок, а Лёшка як вызверыўся, як замахнуўся на яго кулаком: «Прыбяры з дарогі сваё свіное рыла, а то я сам табе звярну яго ўбок!» І загадвае мне: «Сядай, няма чаго нам тут рабіць!»

Трымаюся за Лёшкавы плечы, а ў думках рукі заломваю: «Мамачка, навошта ты мяне на свет нарадзіла? Такі сорам на тваю сівую галаву. І чаму я такая няшчасная ды няўдачлівая? Хіба ніводная так ужо і не зірнула на іншага? Такія ўсе бязгрэшныя? Каторая дык усё жыццё круціць з кім папала, а каб зславілі — дудкі, дык то ж па сваёй волі грашаць, а мяне ж д'ябал спакусіў, і што ж цяпер будзе, як усе даведаюцца?..

Але чаму даведаюцца?.. Мяне ж ніхто з тых, што ў машыне ехалі, і гэты мужчына, што за каўнер Лёшку ўхапіў, яны мяне не ведаюць, мала якая жанчына з Лёшкам была, можа, проста якую ў лесе сустрэў ды падвёз па дарозе... Ніхто не ведае... А Лёшка? Ён жа сам будзе тапіцца і мяне пацягне. І тады сорам на ўвесь белы свет. Госпадзі, караеш ты за грахі, цяпер я гэта ведаю, хоць у школе і казалі, што няма цябе, караеш, сама бачу, але няўжо ж кара твая такая скорая?..»

Туды ляцеў, як шалёны, дык хай бы і назад так, можа, у дрэва якое пацэліў бы, што і костачак не пазбіралі б... Не пазбіралі б, ну і што?.. Усё роўна ж сорам, не самой, дык маці, дзеду... А Гаркушу?.. Госпадзі, завошта ж і яго я зганьбіла!..

Чаму ён так ціха едзе?..

Спыняецца...

З матацыкла не злез, толькі нагу ўбок адставіў, галаву павярнуў дый падбадзёрвае: «Ну, што, каралева, трохі спужалася? Не бойся, я не ў такіх пераплётах бываў. Гэта нават добра, што яны з тою машынай папаліся, рана ці позна іх усё роўна злавілі б, жулікаў, а мы не ведалі б, дык і нас заспелі б знянацку. А так мы на край свету збяжым, і ніякая сволач нас там не знойдзе. Абы грошы, а яны ў нас ёсць».

Узмалілася я: «Лёшка, міленькі, а чым жа я вінаватая? Я ж толькі хацела пракатацца з табою, чаму ж ты кажаш «мы» ды «мы»? Ты ж усё адзін рабіў!» А Лёшка брыдка так усміхнуўся дый кажа: «Не, дарагая, не адкруцішся: ты мая саўдзельніца. Яны ж бачылі, што ты была са мною, і грошы мы разам бралі. Загнала хахлам востраў, ну не адна, са мною, але ж загнала! Так што цішэй!.. Але, дапусцім, узяў я на сябе ўсю віну, не села б ты ў турму, дык жа ўсё роўна ўсплыве, што ты са мною скруцілася. Табе мала будзе адной гэтай славы?.. Дык не будзь дурніцай, слухай, што я табе скажу. Да вечара ў Заліп'і яшчэ нічога не будуць ведаць: пакуль яны там будуць шукаць трактар ды выцягнуць машыну, пройдзе час. Таму рабіць трэба ўсё спакойна, без мітусні, каб ніхто нічога не западозрыў. Збяром шмоткі, самае неабходнае, можна было б што зімовае захапіць, там недзе ўжо снег, хаця не, не трэба, купім па дарозе, грошы ёсць, а як сцямнее, выходзь гародамі на аб'езную дарогу, паедзем вечарам, каб не кідацца ў вочы. Гэта адзінае тваё выйсце. Не будзеш ведаць, які падымецца тут гвалт, дык і начхаць табе на ўсё, пакахалі адно аднаго і ўцяклі — так было ўжо мільёны разоў».

Хто мяне перакане цяпер, што гэта быў не д'ябал? Душой завалодаў, розум памуціў. Выбегла я поцемкам на аб'езную дарогу, на тую самую, па якой ехала з Гаркушам запісвацца, а не захапіла ж нават лішняга плацечка — спяшалася, каб не налажыць на сябе ў хаце рукі, выбегла, а тут і ён падскочыў, падхапіў і панёс мяне ў сваю апраметную. Выехалі на брукаванку, дык я і малю яго скрозь слёзы, крыкам заходжуся ў яго над вухам: «Лёшачка, крутніся знянацку, каб шпурнула мяне ды галавою аб дрэва! Ты на ўсё жыццё вачэй у сабакі пазычыў, дык і жыві сабе, бо няма табе ні ганьбы, ні сораму, а мне свет не мілы!..» А ён павярнуўся тварам трохі ўбок дый таксама гучна адказвае: «Дурная ты — смерці захацела! Яна і сама нас знойдзе! Недзе пэмкне цацка, лясне, як пастух пугаю, і ўсяму гамон, ні лесу, ні нас з табой — адны галавешкі! Дык жыві, пакуль жывецца, плюнем на ўсё, толькі будзем кахаць адно аднаго без памяці, гульнём пад канец, гэта ж табе не з тваім Гаркушам, а са мною!»

Так я і прыехала з ім на станцыю. Пасадзіў ён мяне на лаве каля вакзала, а сам пайшоў купляць білеты. І вось сяджу я і думаю: ад каго і ад чаго я ўцякла? Ад Гаркушы, ад маці з дзедам? Ад людской ганьбы? Ад гэтага ўцякла. Але ад самой сябе, ад свайго сораму не ўцяку ніколі. Дык я і рашылася. Пачакала, думала, будзе выглядваць, ці сяджу, ды, мабыць, паверыў, што я за ім як нітка за іголкай, а я трохі адышлася, а потым крадком рэйкі перабегла і — бывай, Лёшка Гамон, будзь ты пракляты!..

Ішла і бегла — па шашы, а каля Сасноўкі звярнула на Галае, а потым абышла і яго — апынулася ля Пясчанай Рудні. А з Рудні дарога праз лес на Калінава, там жыла мая цётка, да яе і пастукалася я ў акно яшчэ зацемна. Упусціла яна мяне ў хату, а я ўся дрыжу: «Цётка, схавай мяне ў камору і нікому не кажы, што я ў цябе». Перапалохала цётку насмерць. Схавала яна мяне, ляжу ў цёмнай каморы ды слязамі абліваюся. І так мо цэлы тыдзень, а потым бачу: нешта ўжо цётка ведае, пазірае на мяне з трывогаю, сказаць нешта хоча.

А я ўжо спахапілася: навошта я да цёткі бегла, я ж магла і дадому вярнуцца, і ніхто нічога не ведаў бы: Лёшка збег, а якую жанчыну парубшчыкі з ім бачылі — як яны даказалі б?.. Ды нават калі б і Лёшку злавілі, хто б яму паверыў, што я з ім была?.. А прыбегла б раніцай дадому, дык яшчэ і цялушку паспела б выгнаць — значыць, я і начавала дома...

Але не доўга дакарала я сябе за сваю прамашку. Бо цётка не ўтрывала. І трэба ж, кажа, табе ў такое сіло трапіць. І расказала: злавілі парубшчыкаў, бо машына іхняя ў багну правалілася, але ж

не адно дрэва яны ўкралі, а паваліліі паўвострава, міліцыі панаехала, а яны кажуць: ім заліп'янскі ляснік прадаў, каторы на нямецкім матацыклеце ездзіць. А які то быў ляснік, кажа цётка, ты сама добра ведаеш. Бо з тым лесніком і цябе, кажа, бачылі, пастух расказаў, як ганяла цябе з ім на мацыклеце нячыстая сіла.

Слухаю цётку, а сама думаю: няўжо гэта са мною такое было, няўжо гэта праўда, а не страшны сон?.. А цётка яшчэ кажа: салдаціка вывернула з багны, лагаю падняло. Але потым бачаць, а гэта дзеўка, спачатку як жывая была, а потым пачарнела. Санітарка была. Кажуць, на танку ехала, ды не ўтрымалася, звалілася, небарака! І пісульку знайшлі пры ёй, хто яна і адкуль. Цяжка разабраць было, ды разабралі — з-пад Масквы, дык адбілі тэлеграму, а ў яе і маці ёсць, прыязджала. Хацелі ў Грабянцах пахаваць, у брацкай магіле, а маці кажа, лепей у Заліп'і, тут, кажа, у лесе ёй салавейка спяваць будзе...

Расказвае цётка, а мяне слёзы душаць. Госпадзі, ну, навошта яму было некуды ехаць, Гаркушу майму, навошта яму было шукаць недзе рай нейкі? Нічога б я не хацела, толькі б вярнуць усё назад — і Гаркуша не паехаў, і я з ім; дык хай цяпер сам рашае, прымаць мяне ці не, а я вярнуся. І не пабаюся нікога. Што мне людскі суд, калі я сама сябе на ўсё жыццё асудзіла. Не пабаюся. Дзяўчынка, маладзейшая за мяне, кінула недзе шчасце сваё, вайны не спалохалася, захлынулася ў багне, а цяпер ляжыць у магілцы каля Заліп'я побач з Верай Макараўнай. Дык і мне толькі туды, толькі туды — у Заліп'е, а як настане мой апошні дзень, хай і мяне пакладуць каля тых дзвюх магілак».

## 15. Дзе ты, каліна?

Апошні раз высачыў мяне ў лесе Гаркуша. Цяпер, калі я пачуў ад ляснічага, якое мелася недзе на яго памочніка дасье, я ўжо ведаў, чаму ён так настойліва ўсё лета палюе на мяне ў лесе: гэта, аказваецца, такая ў яго «тактыка індывідуальных гутарак», так ён хоча пераканаць мяне, што «ўсё ідзе на пагібель». А хто, пытаецце, у гэтым вінаваты? А ўсе мы, розныя «тэарэтыкі», у тым ліку і я, лесаўпарадчык. Бо вось і цяпер сядзім мы з Гаркушам на паваленым дрэве, і ён з такой знаёмай ужо мне пацешнай раскаванасцю пытае:

«Ну што, скора, як той Лермантаў пісаў, на зімовыя кватэры? Чарціць ды праектаваць? Гэта правільна. Але глядзі, каб паменш заганяў «жукоў» у табліцы ды ў планшэты... А калі сур'ёзна, дык шкада мне вас, хлопцы. Пабегалі, петляў каля прасек, як зайцы, накідалі — і хутчэй назад, у іх, бач, камеральныя работы, нешта яны ўжо там мудруюць, ім там відней, як яму тут расці, гэтаму лесу».

Уздыхнуў і сумна паківаў галавою:

— Да, были люди в наше время.
Не то, что нынешнее племя:
Богатыри — не вы.

Ну, канечне, якія ж мы волаты! Волат — ён, Гаркуша. Некалі вунь як хацеў вырвацца з Заліп'я, але трэба, дык трэба — застаўся на ўсё жыццё ў гэтым лесе, таму не здрабнеў і не змізарнеў тут, як недзе змізарнелі мы, грэшныя.

«Што ж,— сказаў Гаркуша,— едзь, праектуй, вучы нас, што нам прарэджваць, а што асвятляць, а мы ўжо тут пастараемся».

Канечне, гэта была яшчэ адна яго падколка, але, заўважыўшы, як пасур'ёзнеў і пасумнеў яго твар, я здагадаўся, што зараз пачую працяг той ягонай «памоўкі», якую расказваў ён мінулы раз, бо, на-

пэўна, ён не скончыў яе, а толькі перапыніў на тым, як не змог ён вынесці смяротны прысуд Доўгаму бору.

«З вышыні вам відней,— тым жа робленым прымірэнчым тонам сказаў Гаркуша.— А я — нібы вунь той арляк.— Ён паказаў вачамі на парудзелае, пабітае ржавымі плямкамі каліва цыбатай папараці.— Я — арляк: патрапятаўся, памахаў крыллем, а ўзляцець не змог. Хаця, калі папраўдзе, дык я сам раздумаў узлятаць. Там, у Доўгім бары, да мяне ўрэшце дайшло: няма ў мяне іншай дарогі, акрамя як у Заліп'е, бо калі я не змог абараніць ад дырэктаравай сякеры гэтую боскую прыгажосць, дык цэлае жыццё трэба саджаць мне без пярэдыху новы лес, каб хоць трохі загладзіць перад самім сабою свой цяжкі грэх.

Ехаў у поездзе і думаў: «Узляцеў бы, калі б каранямі ў зямлю не ўрос... Дык, можа, і лепей, бо зямля ж свая, родная. Але ж... калі б я быў адзін, а то ж... Зоя... птушка, якую не выпусціў я з клеткі... Ну дык што ж, прыеду і скажу: убівала табе ў галаву Сава, каб не выходзіла замуж за Гаркушу, спакушала воляю, дык я цябе і не трымаю, ляці куды хочаш...»

Прыехаў я ў Гомель, а тут у мяне перасадка, і век не ўгадаеш, каго я сустрэў на вакзале. Ды не сустрэў, а толькі ўбачыў зводдаль. Помніш аб'ездчыка Гаршунова? Ну, каторы гнаўся за мною з пугаю? Дык яго чарнушку, Марусю, сваё першае каханне. Убачыў, ды што з таго: была яна ўжо не адна. Было іх трое. Яе чалавек, старшына-пагранічнік, нёс — аж выпінаў грудзі — два вялікія чамаданы, а яна ашчадна трымала на руках загорнутае ў ватную коўдру дзіця. Апусцілася з малым на лаву, а старшына цесна ссунуў каля яе ног чамаданы і вачамі шукаў ужо, мабыць, білетную касу, але затрымаўся — не пасмеў адразу ж адысці ад сваёй чарнушкі, так аддана і замілавана яна пазірала на яго знізу ўгору. А я не мог адвесці ад яе свайго невясёлага позірку — не, я не зайздросціў старшыне і не раўнаваў,— проста з патаемным сумам любаваўся ёю, і, можа, нават не ёю, а ўсімі траімі. Бо сама яна здалася мне цяпер не такою ўжо і красуняю — сярэдняя жанчынка; на каго палюбавацца, дык на маю жонку, на Зою; але ж хаця і ў глыбіні душы, аднак і цяпер злаваў я на аб'ездчыка Гаршунова: калі б не адва́дзіў ён мяне сваёй пугаю ад Марусі, я і гора б цяпер не знаў, а то ж у яе і дзіця ўжо на руках, а сабе як быццам і едзеш дадому, але так абрыдла там прыкідвацца блазнам: «Я ў Зоечкі на коечцы прасіўся начаваць...»

Ды дзе ты дзенешся, будзеш прыкідвацца вясёлым, каб хоць не сілаю, дык жартам утрымаць яе ля сябе, бо гэта ж я толькі дзеля форсу такі герой — ляці куды хочаш, а на самой справе я ўжо не ўяўляю без яе свайго жыцця. Не ўяўляю, аднак жа калі ты ёй нялюбы, дык і жартамі яе не прыручыш, не прымусіш любіць. І ні пры чым тут Заліп'е. Не ў тым справа, дзе жыць, галоўнае — з кім. Во — Маруся. Прывязе ён яе ў непралазную пушчу, на заставу, дзе зімою толькі ваўкі за акном выюць, а то яшчэ запруць у такую цьмутаракань, дзе і воўк здасца родным, бо там, у пустыні, ужо і ваўкоў няма, адны шакалы, але ж калі яна яго кахае, дык дзе ён — там і яе шчасце. Таму — досыць, прыеду і пастаўлю пытанне рубам: ішла замуж у Заліп'е, дык і рашай — будзеш ты са мною жыць як жонка, ці зноў мне аднаму на падлозе качацца? Трэба нарэшце паказаць і свой мужчынскі гонар!..

Пакажы, Гаркуша, свой гонар, пакажы!..

Выходжу ў Грабянцах з аўтобуса, гляджу, а гэта ён, Хведар Айчанаш: рукі на грудзях скрыжаваў, стаіць — некага сустракае. У новым сінім галіфэ, у зеленаватым, з жаўцінкаю, фрэнчы; надраў дзікага мёду ў Глухім лагу, дык і прыадзеўся — няйнакш, з гомельскай барахолкі, бо мёд жонка возіць прадаваць у Гомель. Кіўнуў я галавою,

ды няпэўна — каб не разабраць было, павітаўся ці кіўнуў проста так; усё ж мясцовая ўлада, і трэба з ёю лічыцца, дык адкажа — яму кіўну, а не захоча павітацца, тады і я ківаў не яму.

Але ён прывітаў мяне, ды так, што хай бы ён лепей агрэў абухам па галаве: «Ну што, ляснічы, сам недзе ездзіш, а жоначка твая — цю-цю?» Аж пахіснуўся, аж цёмна ўваччу зрабілася, ды ўстаяў, ступіў, гатовы схапіць гада загрудкі, вось-вось учаплюся яму зубамі ў горла, але стрымаўся, ці, можа, ён быў такі непрыступны, бо я толькі раз'юшана дыхаў яму ў твар: «Табе што, сабак у Грабянцах мала? Няма каго падражніць? Дварняку пхай ботам у зубы, а я табе і здачы магу даць, бо я ляснічы, мяне таксама савецкая ўлада прызначыла, як і цябе!» А ён спакойна зніштае мяне грэблівай усмешкай: «Артыстка! Да хлопца майго падлабуньвалася. Ды не такі я дурны, каб сын перадачы ў турму цягаў. Або каб яшчэ і самога запраторыла... Разварушым цяпер Мікалайкава кубло, а калі ты гэтак кідаешся, дык табе першаму і рукі ўкароцім. Тэпай, цябе ўжо следчы недзе чакае, бо, можа, сам ты і падвучыў зладзеяў».

Пра што гэта ён? Штосьці неверагоднае. Адно разумею — адбылося нешта страшнае, таму прэч адсюль, не хачу ўсяго ведаць. Павярнуўся і пабрыў, унурыўшы галаву, пачуў яшчэ, як Айчанаш выціснуў услед: «Жулота!»

Лепей усяго не ведаць? А што мяне яшчэ мацней агаломшыла б, аглушыла? Галоўнае Айчанаш сказаў, і хоць бы чалавечай, а то ж сабачай моваю: жонка цю-цю, а гэта значыць, яе ўжо няма ў Заліп'і. Уяўляў, як вярнуся і скажу: «Ты вольная, Зоя, куды хочаш, туды і ляці», а яна і чакаць не стала. Дык хай бы хоць паляцела, а то ж — цю-цю!..

Не помню, як ішоў вуліцай, ці сустрэў каго, ці з кім вітаўся. Апамятаўся толькі ў двары. Бо хто гэта? На ганку сядзіць Мікалайка — што яму ад мяне трэба? А нічога. На мяне нават не зірнуў, а толькі на мае ногі; надзьмуты, адводзіць душу — гуляе сам з сабою ў ножыка. Насабачыўся: лязо па самыя тронкі ўпіваецца ў мурог — збоку ля ганка. Склаў ножык, сунуў у кішэню. «Усё, хлопец, разышліся нашы сцежкі-дарожкі,— Мікалайка злосна плюнуў на траву і ўстаў з ганка,— бульба і проса хай застаюцца табе, а цялушку я забіраю — не ў той хлеў папала».

Рушыў проста на мяне, у руцэ ў яго вяроўка: залыгае ў лесе цялушку і павядзе на стражу. Адступаю ўбок, даю дарогу, а сам думаю: «Што ж ты, стары хрэн, вяроўку загроб, на чым жа я павешуся?»

Адамкнуў замок, дзякуй, хоць ключ паклала над дзвярамі. Увайшоў у залу, а далей... што я павінен быў рабіць далей?.. Я быў жывы нябожчык, мне заставалася толькі легчы і заплюшчыць вочы. Разаслаў па падлозе шынель, даўно я ўжо не раскашаваўся на ім, больш на вакзальных лаўках, лёг дагары і склаў на грудзях рукі. Якое ж гэта шчасце — легчы так і памерці!..

Канечне, я памёр бы. Але я забыўся замкнуць за сабою дзверы. І вось чую: нехта бразгае посудам на кухні. Нават не так: я ляжаў, нічога не помнячы, але раптам мне здалося, што нехта глядзіць на мяне, тады вочы мае расплюшчыліся, але нікога нада мною не было — няйнакш, прымроілася, а потым і пачуўся гэты бразгат на кухні. Хто там — можа, Загорцаў? Сябры па няшчасцю: яго жонка скруцілася ў Грабянцах, а мая і яе пераплюнула — збегла... Адчыняе грубку, распальвае, дзынкнула дужка вядра, а гэта ўжо на пліту ставіць патэльню... Хто ж гэта?.. Хто заўгодна, можа, Данілаўна, толькі не жонка. Дзіва што не жонка — дзе яна!.. Вось ужо свету пабача з Лёшкам!..

Чакай, а хто табе сказаў, што яна збегла з Лёшкам?.. І казаць не трэба — з ім, з кім жа яшчэ! Хаця мне ўжо ўсё роўна — з кім, галоўнае — збегла.

Хто ж гэта там, на кухні?

Чую ўкрадлівыя крокі, і яна ўваходзіць да мяне; на вуснах у яе спагадная ўсмешка, трохі саладжавая; усмешка ўсім пасуе, а ёй асабліва, бо ў яе пасярэдзіне верхняга рада зубоў — вузенькая шчылінка, і яна робіць вельмі вабнай яе ўсмешку. Ліда, Лідок, «шаршэ ля фам»!.. Аж забалела ў грудзях, як успомніў тое дурное здарэнне ў лясгасе, калі я да смерці перапалохаў іх,— глынуў чарніла, а тут яна вядзе сваю маці, каб пазнаёміць са мною. Разладзілася наша любоў. А калі б не разладзілася, можа, недзе ўжо вяселле згулялі б, ды не дзе-небудзь, а ў Мінску, у сталіцы!.. І не звёў бы мяне д'ябал з гэтым Мікалайкавым адроддзем, і не зганьбіла б яна мяне, скруціўшыся з прайдзісветам. Божа, калі б можна было вярнуць усё назад!..

Здагадаўся, яна прыехала з лясгаса, бо ў нас акурат інвентарызацыя лясных культур, а тут і здарылася г э т а, і вось яна прыйшла мяне суцешыць. Дзякуй табе, Лідок. Думаю так, а сам заплюшчваю вочы і ўздыхаю. Не магу не ўздыхнуць. Бо любоў наша скончылася вунь калі, ажно летась, і я ўжо пра яе ведаю тое-сёе. Тады для мяне было загадкаю, чаму яна апынулася ў такой глухмені, у яе ж бацька ледзьве не міністр, а цяпер... дайшлі чуткі, што якраз бацька і турнуў яе з Мінска. Нават не даў давучыцца, перавёў на завочнае аддзяленне і турнуў, бо яна яго там кампраметавала. Сваімі паводзінамі. Ды такімі, што ніколі і не падумаў бы. Набралася іх там, начальніцкіх дачок ды бейбусаў, на цэлую оргію, але ж і оргіі бываюць розныя, іншыя толькі п'юць ды ў меру гуляюць, гэтых жа высачылі, а ў іх не якія-небудзь, а падпольныя буржуазныя гульні — у чым маці нарадзіла ды яшчэ і на грошы. Дык каб не пазляталі ў бацькоў галовы, яны і разагналі іх па глухіх раёнах. Таму і Лідок у нас апынулася. Але чаму я так павінен быў уздыхаць, усё гэта пра яе ведаючы?.. Мая жонка — як з іконы, святая была, а вунь якога коніка выкінула, збегла з аферыстам, зганьбіла, а «шаршэ ля фам», Ліда, Лідок, яна нічога благога мне не зрабіла, і якая ж яна прыгожая!..

Яна апусцілася ля мяне наўколенцы і з той жа ўкрадлівай, спагаднай усмешкай зазірнула мне ў вочы. І спытала як не шэптам: «Што з табою?.. Пакутуеш?.. Баліць у грудзях? Разумею...— Яна паклала руку мне на сэрца і нахілілася нада мною яшчэ ніжэй, амаль прыпала ўжо да мяне грудзьмі.— Але яно зараз перастане балець, тваё сэрца.— Сказала і вуснамі ціха прытулілася да маіх вуснаў. І спытала: — Ужо не баліць? Ну вось бачыш...— Яна легла на край шыняля, абхапіла мяне рукою за шыю і сказала такім голасам, як быццам нешта ў ёй раставала: — Ах, як цудоўна, Гаркуша — з табою ды яшчэ на падлозе!.. Між іншым, гэта была твая памылка, Гаркуша, у вас быў вельмі мяккі ложак, я пацікавілася, а гэта, знаеш, ніякай рамантыкі, адно мяшчанства».

Я трохі адхінуўся і, мабыць, недаўменна зірнуў на яе, бо яна зноў прыўзнялася побач на локці: «Ах, які ты ў мяне сур'ёзны. Проста жах! — Памаўчала, не зводзячы з мяне ўлюбёных вачэй, і сказала: — А калі ты такі сур'ёзны, дык годзе — падымайся! Па-першае, пабачыш, якая я ў цябе гаспадыня, я ж табе нешта ўжо згатавала, а па-другое... збірайся на аўтобус. І не глядзі на мяне так. А во так, малайчына. За гэта я цябе пацалую... Няўжо ў цябе няма ні кроплі мужчынскага гонару? Пасля г э т а г а ты будзеш тут людскім пасмешышчам — цябе задавальняе такая роля?.. Падымайся. Паснедаем, і што ў цябе там ёсць кінуць у чамадан — хуценька, не марудзь!.. А зрэшты, не трэба чамадана... Голага, босага, у цыпках, з каўтуном на галаве прывязу ў Мінск, а там і адмыю ў ванне, і адзену з іголачкі, ува ўсё з вітрыны, мне бацька сказаў, пакуль не выйдзеш замуж, у Мінск не вяртайся, строгі такі, дык зраблю з цябе чалавека, і будзеш ты ў мяне, што

карцінка. Ты — мой дарагі каменьчык, Гаркуша, цябе толькі трэба трохі адшліфаваць, трэба, каб падвучыўся трохі ды пацёрся ў тых сферах — твае грані зазіхцелі б... Не, я нічога не кажу, ты і цяпер нішто сабе, толькі няголены ды яшчэ... Як табе сказаць... Лесавічок ты пакуль што... Ух, як жа ты мяне напалохаў — тады, у лясгасе. І маці маю. Гэта ж бацька ў мяне такі — прывозь любога, абы ў штанах быў, а маці хацела паглядзець, каго я выбрала. А тут у цябе такія жартачкі!.. Цяпер-то я цябе ўжо ведаю, прыглядалася зводдаль, а тады падумала, звар'яцеў, які ж ты жорсткі, Гаркуша!.. Падымайся, будзем снедаць...»

Так яна буркуе ў мяне пад вухам, а я чагосьці не цямлю. Дык я і пытаю ў яе: «А чаму ты сабралася снедаць? Можа, вячэраць? Я ж толькі прылёг». Яна ўздыхнула: «Ужо ранак, Гаркуша. Дзевяць гадзін. А ў адзінаццаць аўтобус. Падымайся, не раздумвай, бо можаш многае страціць. Я разумею, пра што ты зараз думаеш. Ты нешта чуў пра мяне. Але не рабі паспешных вывадаў, што ты можаш ведаць, якая буду я з табою? Ты браў жонку — такую чысценькую феечку, і, канечне, ты быў упэўнены ў ёй, а дзе яна цяпер, твая ціхмяная цнатліўка? Збегла з парубшчыкам, са злачынцам. А я ад цябе не збягу, і цябе ад сябе ніколі ні на хвіліну не адпушчу, і са сваёй лясной лілеяй ты і сотай долі не зведаў бы таго, што змагу даць табе я, бо я буду кахаць цябе, як Клеапатра».

З усяго, што яна сказала, да мяне найперш дайшло і было самым важным тое, што ў адзінаццаць гадзін — аўтобус. Канечне, сабраць чамадан — і ў Грабянцы, на прыпынак. Яе праўда: калі я хоць трохі яшчэ мужчына, заставацца тут нельга. Але яшчэ ёсць час; я павярнуўся да яе тварам, і яна ціха прамовіла: «Ну... Дзверы я замкнула».

Мы ішлі з ёю ў Грабянцы, і ніхто не змог бы падумаць, што нас звязвае нешта большае, чым толькі службовыя адносіны.

А што мяне звязвала цяпер з маёй жонкаю? Нічога не звязвала? Няўжо нічога?.. Ну а тое, што я ўсё-такі ёй верыў? Назаўсёды пакідаў Заліп'е, а ўсё роўна верыў... Што б я сам ні думаў пра яе і што б ні гаварыла пра яе Ліда, Лідок, мая душа супраціўлялася і не прымала канчатковага прысуду над ёю, ішоў і верыў, што яна наканавана мне і нікому болей. Глупства, але неяк выходзіла так, што яе ўцёкі з Лёшкам нічога для мяне ўжо не значылі, яно-то значылі, раз я ішоў з Лідаю на аўтобус, але ж, дзякуй Богу, я ўжо трохі пажыў на свеце і ведаў, як часам бывае: здаецца, ну вось, яна ўжо твая, а паспрабуй ты яшчэ да яе падступіцца. Помню Марусю: ах, як пляснула яна мне па шчацэ — адгалоскі пайшлі па лесе!.. Дык а Зоя не пляснe так Лёшку?..

«Гаркуша, пра што ты думаеш? — Ліда паспрабавала зазірнуць мне ў вочы.— Не аглядвайся назад — нават у думках. Уяві, што ты спаліў за сабою ўсе масты, і табе адразу стане лягчэй. Дый няўжо ты не пераканаўся яшчэ, што цябе са мною чакае?»

Даруй мне, Ліда: і прыгожая ты, і харошая — як анёлак, самім лёсам пасланы мне ў цяжкую хвіліну. Але хоць і люба мне з табою, і, напэўна, шыкоўная ў цябе ў Мінску кватэра, і цікава было б, чорт пабяры, выпіць з тваім бацькам чарку — хай бы пераканаўся, што не абы-каго ты прывезла, і, можа, так яно і будзе, бо іду ж я з табою на аўтобус, але не мірыцца душа і не прымае розум, што мая жонка магла ад мяне збегчы, я ўсё роўна веру ёй, дарма што яна і ўцякла з прайдзісветам Лёшкам.

Ішоў з Лідай на аўтобус, а думаў пра Зою. І ў думках абараняў яе — ад яе ж самой. Ну і што з таго, што збегла з Лёшкам? Гэта яшчэ нічога не даказвае. Іншая не збяжыць і не праславіць сябе на ўсё жыццё, строгая, непадступная, пальцам яе не крані, а калі разабрацца...

Я ўспомніў, як там жа, у Ягадным, дзе кахаўся я з Марусяю, быў

у мяне таварыш, таксама практыкант, а звалі яго Паўлам. А ў гэтага Паўла была дзяўчына. Сам Павел быў хлопец прыгожы, стройны, бацька ў яго быў дырэктарам лясгаса, дык і хадзіў ён у нядзелю ў чорным бастонавым касцюме, адпрасаваным так, што стрэлкамі на калашынах можна было парэзаць палец. А да пáры яму была і ягоная дзеўка, мясцовая, з Ягаднага, толькі рабіла яна ў раёне машыністкаю — ці то ў банку, ці то ў фінансавым нейкім аддзеле, дык і прыязджала да бацькоў адно ў нядзелю. Бацькі ганарыліся дачкою, стары так і казаў: мая дачка — савецкі работнік, тады леснікі пасміхаліся і пыталі ў яго: а мы якія работнікі — не савецкія?.. Насіла яна строгія касцюмчыкі, якія так прыгожа аблягалі яе фігурку, што ніякае моднае плацце не дало б такога эфекту. І вось ідуць яны з Пашкам па Ягадным, дык жанчыны, што сядзяць на лавачках, не могуць імі нацешыцца. Бо яны ж як ідуць: такія чысценькія, прыстойныя, трымаюцца трошкі воддаль адно ад аднаго, ніякіх лішніх ды распусных рухаў, галоўка ў яе прыўзнятая, а на тварыку як не напісана: маўляў, іду з хлопцам, але так берагу свой дзявочы гонар, што, бачыце, не дазваляю нават яму да сябе дакрануцца... Жанчыны цешацца, а нам дзіўна: надта ж далікатна паводзіў сябе з ёю Павел; хлопец, як-ніяк, адслужыў армію і павінен быў бы разумець, дзеля чаго дзеўку заводзіў — не для таго ж, мабыць, каб вось так акуратненька прайсціся з ёю побач. Дык аднаго разу мы ў Паўла і пытаем: ходзіш з фіфаю, а сказаў бы ты нам, які ты з гэтага маеш практычны інтарэс?..

Павел толькі засмяяўся. А я быў яго першы сябра, дык ён аднаму мне і кажа: хочаш ведаць, які ў мяне практычны інтарэс, прыходзь да мяне на кватэру, сам убачыш... А трэба сказаць, што на кватэры Павел жыў якраз у яе бацькоў, і раней я не прыдаваў гэтаму значэння, але цяпер як быццам нешта западозрыў, таму, канечне ж, я прыйшоў да Паўла.

Ну, прыйшоў, а што далей? Нікога дома не было, дык Павел мне і кажа: «Вось праверым, якім быў бы ты шпіёнам: агледзь і запомні, што, чым і як у хаце засланае». Ну і што, думаю сам сабе, стол засланы цыратаю, ложак — посцілкай, груба-ляжанка — выцвілай, у дзве столкі, дзяружкай. А Павел пытае: «Запомніў?» — «Запомніў».— «Ну і добра,— ківае галавою,— параўнаеш, як прыйдзеш наступны раз».— «Цьфу,— кажу,— такое і я табе ў сваёй хаце магу паказаць, тую ж цырату і посцілку».

Цямніў ён нешта. Але хай бы цямніў, ды не кідаў цень на дзеўку, а то ж намякае на штосьці, надае сабе форсу, а пры чым тут яна, не гаворыць.

А далей — я ўжо, памятаеш, расказваў. На вечарынкі мы збіраліся ля чыгуначнай будкі, там, канечне, танцы да ўпаду, але культуры мала: пыл, дый нехта з мясцовых хлопцаў мацюкнецца часам, таму Павел са сваёй інтэлігентнай дзеўкай на нашы пагулянкі не хадзіў. Але раз ён яе ўсё-ткі прывёў. Сталі яны ў круг, сяброўка Паўлава крывіцца, як быццам ёй туфель муляе, а гарманіст толькі і чакаў яе тут: гармонік — на лавачку, а нашым дзеўкам гэта сігнал: хутчэй да стадолы, а потым па лесвіцы на вышкі, на вышкі, а Паўлава не разабралася, што да чаго, ды таксама за імі ўслед — папалася, дурнічка! Бо лесвіца ўжо ходырам ходзіць: куды дзеўкі, туды і хлопцы!.. Толькі Павел застаўся каля гармоніка.

Канечне, у кожнага свая дзеўка, і кожны ўрэшце аблапіць сваю, але ж перад гэтым перабярэ ўсіх іншых — хоць за сцягно ды ўхопіць, я ўжо расказваў, як ад нашай валтузні закіпала на вышках сена: дзявочы смех, віск, наша гыгыканне. А тут жа рэдкі выпадак — такая культурная, недатыкальная Паўлава дзеўка! Можаш сабе ўявіць, як стараліся паказаць ёй хлопцы, на што здатныя, калі яна трапляла

па чарзе ім у рукі! Як абуралася яна, калі трымкнуў на ёй нейкі далікатны гузік, як войкала і як задыхалася ад нахабных пацалункаў! І як ліхаманкава перабірала затым нагамі па лесвіцы,— хоць позна, ды падбег-такі ў бастонавым касцюме ратаваць сваю дзеўку Павел!.. «Здесь у них коллективный разврат, бежим отсюда, Паша».— Са стогнам і войканнем яна кінулася прэч ад стадолы.

Такая сарамлівая, неразбэшчаная была Паўлава дзеўка. І вось прыходжу я да яго на кватэру другі раз, а ён зноў кажа: «Ну, прыгледзься цяпер, як і што засланае. Улавіў якую-небудзь перамену?» «Што за глупства,— падумаў я.— Якая тут перамена?» Тады Павел падышоў да ляжанкі і прыўзняў край дзяружкі, што звісала з грубкі прыкладна на дзве цагліны. Першы, верхні, рад быў увесь разварушаны, гліна ў шчылінах між цаглін падобная на парашок, другі ж рад быў толькі ў трэшчынах. «Вось тут,— сказаў Павел,— я і ма́ю свой практычны інтарэс; на ложку не згаджаецца — такая ў яе прыхамаць, толькі на грубцы. Дык і палюбуйся: мінулы раз гэтая дзяружка звісала і закрывала адзін рад цаглін, а цяпер, як бачыш, два. Благі з цябе шпіён быў бы».

І зноў яна шпацыравала з Паўлам па вуліцы — прыгожая, вабная, строгая, бо зноў — на крок ад Паўла,— сама прыстойнасць, сама чысціня, сама дзявочая сарамлівасць. Але зазірнуў я да Паўла назаўтра і зноў бачу: дзяружка звісае з грубкі яшчэ ніжэй! «Што ж гэта такое? — падумаў я.— На вуліцы яна камсамолка-манашка, а дома бессаромна развальвае бацькам грубку?!»

Калі перад ад'ездам з Ягаднага я апошні раз прыйшоў да Паўла, дзяружка прыкрывала добрых пяць цаглін, а з-пад яе адна шырокая, ламаная, як маланка, трэшчына ўдарыла пад падлогу.

Успомніў я гэта, ідучы з Лідкаю на аўтобус, і падумаў: калі тая, каторую пальцам не крані, толькі робіць выгляд, што яна такая, дык хіба не можа быць і наадварот: ну збегла з Лёшкам мая жонка, але ж гэта адно знешняя праява; пра жанчыну ні ў якім разе нельга меркаваць па яе знешніх паводзінах, я ж ведаю ўжо — яны падманлівыя. Тым больш, калі гэта мая Зоя. Стамілася чакаць ад мяне хоць якога-небудзь толку, а тут падвярнуўся гэты прыгожы вясёлы гіцаль, такія ім абяцаюць вечны рай, вось за кім яна ўжо не будзе гарбатай бабаю, усе яны кідаюцца на такіх, калі ж каторая з цягам часу і адумаецца, будзе рваць на сабе валасы, дык першая мая жонка, Зоя. Бо шчырая, бясхітрасная: як душа ёй падказвае, так яна і робіць. Не тое што я: душа душою, але і галавою ўсё як след абмазгую, таму і магу прыняць правільнае мужчынскае рашэнне. Але ўсё роўна, як бы ні ўспыхнула яна, як бы ні загарэлася, хай Лёшка Гамон не мыліцца, бо галіцца яму не давядзецца. Палохае ўсіх атамнай бомбай: мауляў, перад канцом свету хоць гульнём як след, але не ведае ён маёй жонкі; яе не запалохаць яму і вадароднай, не тое што атамнай бомбаю. Так што, калі цвяроза разважыць, дык не здраджвала яна мне і не здрадзіць, хутчэй за ўсё, Лёшка ачмурыў яе нейкім гіпнозам, а потым і прыгразіў, маўляў, калі я пракатаў цябе на матацыкле, дык яшчэ і не такое пра цябе раскажу, уцякайма ж, пакуль не зладзілі!..

Падумаў так і запаволіў крок: куды ж я іду?.. А гэта ўжо на выхадзе з таго кучаравага сасонніку — перад шашою. Тады Лідка спынілася дый кажа: «Цябе, можа, трывожыць, што не звольніўся з работы, не падаў Мажэйку заявы? Не думай пра гэта, усё зробіцца без нас — у цябе ж цяпер ёсць добрая фея... А можа, ты ўспомніў яе? — «Шаршэ ля фам» пазірае на мяне з той вабнай яе ўсмешкаю, з той цудоўнай шчылінкай між верхніх зубоў — калі разважыць, што такое іхняя сімпатыя, дык гэткая шчылінка займае другое месца пасля ямінак на шчоках.— Ты яе ўспомніў?» — пытае са спагаднаю ўсмеш-

каю Лідка, і ад яе трошкі растуленых пухленькіх вуснаў, ад гэтай сімпатычнай шчылінкі ў мяне займае дух.

Эх, пісацель!.. Ты не можаш сабе ўявіць, што рабілася ўва мне ў тую хвіліну! Навошта я паддаўся ёй, навошта пайшоў з ёю на аўтобус? Я ж абнадзеіў яе, а цяпер павінен быў горка яе расчараваць. Канечне, бывае, што і жанчыны жорстка, нават бязлітасна абыходзяцца з намі, але ўсё-ткі ад нашага свінства яны церпяць больш. Вось і цяпер — шкада мне было яе, такая прыгожая і харошая, але... даруй мне, Лідок, я толькі да аўтобуса цябе і давяду, а там... Якая ж гэта д'ябальская спакуса: яе прыпухлыя губы ўсё бліжэй і бліжэй да маіх, але што гэта — джыг! — з гэтай чароўнай вузенькай шчылінкі між зубоў танюткае, як лязо брытвы, джальца — джыг! — яе губы ўжо зусім блізка — джыг, джыг! — не, я не кажу, што гэта было змяінае джальца, крый Божа, але ўсё роўна — джыг! — і тады ўжо не могучы трымаць у грудзях затоенага дыхання, я рэзка паварочваюся тварам да шашы: «Аўтобус!..»

Даруй мне, Лідок. Напэўна, ты будзеш некаму цудоўнай жонкаю, толькі не мне. І я веру, што чалавек трапіцца табе харошы, благога распазнаеш. Кажуць, было нас у цябе шмат недзе, і ты наскрозь бачыш нашага брата, а калі і памылілася, дык толькі ўва мне, бо не такі я ўсё ж лапушок, якім, напэўна, табе здаўся. І зараз ты пераканаешся ў сваёй памылцы. Бо я ўжо халоднай галавою прыкінуў: не буду спяшацца, будзем ісці з табою павольна, балазе што перад шашою глыбокі сыпкі пясок замінае хадзе, а паспяшаемся перад самым аўтобусам, калі ўжо нехта апошні ўшчэміцца ў дзверы; як сапраўдны рыцар, я падсаджу цябе пад локаць на прыступку, а сам — зразумей мяне правільна, Лідок, і даруй — сам я, быццам апошні падонак, махну рукой шафёру.

Усё так і атрымалася. Шафёр трапіўся кемлівы — імгненна ўсёк, што я толькі праводжу,— зачыніў дзверы. І... Якія даверлівыя былі толькі што быццам дзіцячыя Лідчыны вочы, і як здзіўлена расхінуліся яны, ашаломленыя маёй гнюснаю здрадаю; як нема жахнулася яна ў акне: закончаны мярзотнік! І не то помслівая, не то бяссільная ўсмешка да непазнавальнасці змяніла яе анёльскі тварык; аўтобус набірае хуткасць, а Лідок хіліцца да акна і круціць пальцам ля скроні: круглы ідыёт, безнадзейны дурань!..

Не, я не пакрыўдзіўся на яе, адно пажадаў, каб яна знайшла сваё сапраўднае шчасце. Я здагадваўся, што яно не абміне Лідку, і не памыліўся. Мой Загорцаў жартаваў, маўляў, шаршэ ля фам — шукай жанчыну, але ж яго колішняму суперніку дырэктару лясгаса Мажэйку яе і шукаць не трэба было, яна сядзела, можна сказаць, побач з ім, у суседнім пакоі, дык я і падумаў, што ўрэшце, калі не ён яе, дык яна яго абавязкова знойдзе, і яе пераборлівая маці, напэўна, будзе задаволеная інтэлігентным зяцем: сур'ёзны чалавек, ён не набярэ ў рот чарніла і не напалохае так, як напалохаў яе калісьці я ў лясгасе. Жыццё ёсць жыццё, у яго свае законы і прыхамаці: хто б мог падумаць, што Мажэйка, такі рамантык, стары халасцяк, які толькі і помніў з даваеннага часу сваё першае, дый то, можа, выдуманае каханне, возьме нарэшце ў жонкі акурат Лідку, на пятнаццаць гадоў маладзейшую, але, даруй ты мне, Госпадзі, з той багатай і цудоўнай яе практыкай, якая нават не снілася яму самому.

Ключ!.. Толькі цяпер да мяне дайшло, чаму я так упінаўся, калі, як бычка на вяровачцы, вяла мяне Лідка на аўтобус. Выходзіў з дому — захапіў з сабою ключ, цяпер я незнарок намацаў яго ў кішэні, і ў мяне ажно заныла ўсярэдзіне, так стала не па сабе: што ж я, дурань, нарабіў: вернецца мая шалапутная жонка, павядзе рукою над дзвярамі, а ключа няма, дык які гэта будзе ёй знак — што я, такі ж валацуга і шалапут, не пускаю больш яе ў сваю хату?.. Ключ!..

Уцякала з сукіным сынам Лёшкам, ліхаманкава замыкала хату, зладзеявата азіралася, а ключ паклала ўсё-ткі на ўмоўленае месца, значыць, у апошнюю хвіліну думала-такі пра мяне? А пра што думаў я,— агледзеўся, пацверазеў толькі ля шашы, дык ці не далекавата ад дому адвяла мяне з нашым ключом злая разлучніца Лідка? Хутчэй дадому, можа, не намацаўшы над дзвярамі ключа, яна ўжо сядзіць, нябога, у двары на ганку, уткнулася заплаканым тварам у калені, чакае свайго законнага чалавека, каб слёзна пакаяцца, але я не дазволю, каб яна ў нагах у мяне прасіла даравáць ёй грэх,— я і сам такі ж грэшны перад ёю!..

Але адчыніў брамку — нікога. Толькі чорны суседаў кот мільгануў куляю пад павець,— раней мяне ён не баяўся, але цяпер, мабыць, не пазнаў, бо я дні два ўжо не галіўся. Не стаў нават адмыкаць хату, пасланяўся па двары, пасядзеў на ганку — не заставалася ніякай надзеі, што мая аблудная жонка вернецца дадому. Але трэба было жыць, я ўспомніў, што я ўсё-ткі які-ніякі мужчына, і таму паміраць, а тым больш вешацца, перадумаў. Не ведаю, які быў у гэтым сэнс, але ключ я, на ўсякі выпадак, паклаў на вушак і, здарожаны, няголены, падаўся ў кантору. За тыдзень, пакуль я, быццам той Адысей, бадзяўся па свеце, на маім стале набралася шмат розных ведамасцей, і я падпісваў іх, робячы выгляд, што ў маім жыцці не адбылося нічога страшнага. Нават спрабаваў мармытаць пад нос:

Вспомнится когда-то
Липочка кардата...

Падскочыў на матацыкле ўчастковы, я думаў, будзе пытаць пра збеглую жонку, але ён не зазірнуў нават да мяне ў кабінет, ціха перамовіўся за дзвярамі з Загорцавым і паехаў сваёй дарогаю: загадалі, мабыць, весці назіранне, а раптам у сваёй рэзідэнцыі аб'явіцца прайдзісвет Лёшка. У іх, відаць, таксама не было сумненняў, што мая Зоя ўсяго збоку прыпёку, таму ўчастковы і не стаў мяне чапаць...

Але ўсё-такі я не знаходзіў сабе месца, таму ў канторы я доўга не заседзеўся. Пайшоў на лясніцкі двор, засядлаў Варанка і крыкнуў пад вуха глухому конюху — еду ў лес на прачысткі, надта, бач, рупіла мне зірнуць, як там кіпіць без мяне работа. Жвавы Варанок, учуўшы маю непрыкаянасць, нервова і спуджана панёс мяне па лясной дарозе, і не ведаю навошта, але гнаў яго я і рыссю, і ўскач, а сказаў бы хто, куды мне было спяшацца? Нарэшце апамятаўся і пусціў ні ў чым не вінаватага каня ступою. Тым болей што выехаў я ўжо на Калінаўскі шлях, там гліна, а тыдні з два ўжо стаяла сухмень, і грэх было б гнаць Варанка, лічы, па каменнай дарозе.

Не даехаў нават да той вузкай дарожкі, што вяла на прачысткі — павярнуў каня напрасткі. Я ўжо чуў, як цярэбяць гушчар мае лясніцкія дзецюкі, але гэта крыху далей, за рэдкім дубнячком — ён купкамі браўся па даўнім лядзе, а на ім, быццам на вечны здзек, пакінуты быў няссечаны крывы дуб, і мне раптам так захацелася злезці з каня, абняць гэты пакрыўджаны лёсам нікому не патрэбны дуб і горка-горка заплакаць. І я злез, прывязаў Варанка, і сеў пад дубам. Не абняў яго, а толькі сеў і прысланіўся да шурпатай кары спінаю, але што плакаў, дык, здаецца, так і было. Кажу, «здаецца», бо ўсё-ткі я не плакаў, а спяваў, але спеў мой быў падобны на плач. Тады па радыё часта перадавалі вельмі наскую, шчырую песню — «Явар і каліна», дык вось сяджу я пад тым дубам і сам не ведаю, пяю ці плачу:

Песняй вясны лебядзінаю,
Зімнія скінуўшы чары,
Шэпчуцца явар з калінаю
У сумнай даліне над ярам.

Спяваў, і маё спяванне мяне ж самога за сэрца хапала: сумная мая даліна, такая сумная, што мне зноў жыць не хочацца, бо дзе ж мая любая каліна, чаму я не шапчуся з ёю, як той шчаслівы явар?..

Доўга я сядзеў пад крывым дубам — не заўважыў, як і пачало змяркацца. Так і не пабываў я на прачыстках, вельмі яны мне былі ў галаве, сеў на каня, а ён, мой разумны Варанок, сам помніў, у якім баку торная дарога. Я даверыўся Варанку, і ён праставаў на Каліна ўскі шлях па высокай траве, яна ўжо трохі паджухла, але была яшчэ густая, і я не падумаў, што ехаць па ёй трэба асцярожна. Хаця і кажуць, конь у любой траве чуе, які ўперадзе ў яго дол, ды калі не шанцуе табе, дык і твайму каню таксама: Варанок не пачуў, а можа, пачуў, ды позна. Калінаўскі шлях дзе-нідзе быў абкапаны канавамі, іх зраўнавала з краямі тая ж густая лапушыстая трава, зірнеш і не падумаеш пра небяспеку, дык не заўважыў і не ўчуў яе Варанок. І раптам гэтае — х-э-э-к! — Варанок адчайна заперабіраў пярэднімі нагамі, канава тут была сухая і глыбокая, Варанок не знаходзіў у ёй апоры, але ўрэшце трапіў-такі на цвёрдае, грабануў адным капытом і другім, а далей — я толькі паспеў падумаць: хутчэй вызваліць яго ад цяжару, выхапіў са стрэмя нагу — і ў той жа момант Варанок адчайна тузануўся, ірвануўся з усіх сіл і — выскачыў на дарогу!.. А я?.. Я ўжо толькі адной нагою ў стрэмені, таму, страціўшы раўнавагу, я адляцеў убок і грымнуўся ўсімі сваімі масламі на гліністы, бы каменны, дол.

Я вельмі няўдала ўпаў — моцна выцяўся плячом і скроняю. І страціў прытомнасць.

І вось — што гэта, няўжо я трызню? З маёй фуражкі на валасы мне, на лоб ліецца цёплая нясвежая вада, і нечая рука пырскае мне гэтай жа вадою на твар — вельмі знаёмая жаночая рука. Напэўна, трызню, бо і вочы надта ж знаёмыя — дзівосна шэрыя, «месячныя» вочы! Няўжо Зоя?.. Яна, бо гэта ж яе — быццам абведзеныя тонкай ніткачкай вусны!.. Не зведаныя мною!.. Але ж я двойчы трызню! Бо не можа такога быць: яны ўжо мною зведаныя — і яе вусны, і вочы, і шчокі, я абхапіў яе за шыю, за плечы і цалаваў без памяці — калі я нават і не трызніў, дык усё роўна цяпер я зноў не помніў сябе — ад раптоўнага, неспадзяванага шчасця!..

Мы перайшлі на другі бок дарогі, там у маладым дубнячку нядаўна правялі асвятленне, мы селі пад акуратны лоўжык бярозавага вецця, і наўрад ці плакаў я сам,— мужчына ўсё-ткі, а ў яе па шчоках цяклі буйныя слёзы, і я цалаваў іх, яны цяклі, а я цалаваў... А потым мы доўга глядзелі адно аднаму ў вочы. Глядзелі і маўчалі. Чаму глядзеў я — гэта зразумела, такія вочы адны ў цэлым свеце, а што ўбачыла ў маіх вачах яна — толькі, можа, Богу ведама. Але ж нешта ўбачыла. Бо з таго часу пражылі мы з ёю ў адной хаце дваццаць гадоў, і ні разу яна ўжо ад мяне болей не ўцякала.

Ну, а за тыя ўцёкі я ёй тут жа і адпомсціў. Ух і адпомсціў — век будзе помніць! Так гэтая ўся важданіна з ёю мяне раззлавала, што я нядобра зірнуў на яе дый сам сабе думаю: даўно запісаныя мы з табою, Зоя, дык жонка ты мне, у рэшце рэшт, ці не жонка?.. Падхапіў, падкінуў над тым мяккім лоўжыкам — і а-пус-ціў!.. Не далікатнічаў — аж застагнала!.. Вечар быў цёплы, ну я кіцель сарваў з сябе ды як шпурнуў, а ў кішэні была рулетка, дык кіцель мой заляцеў, падла, ажно ў суседні квартал, раніцаю ледзьве знайшоў. Але то раніцай, а пакуль наперадзе ў нас была цэлая ноч...»

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

# 16. Толік — Віталік

Я так і не зразумеў, не спасціг да канца гэтую «цвэйгаўскую» жанчыну: прымала яна свой лёс ці скардзілася на яго?..

З паўмесяца я жыў у другой вёсцы з далікатнаю назвай — Донькі, паблізу яе «дабіў» апошні квартал і, шчасліва завяршыўшы такі ж апошні ў сваім жыцці палявы сезон, мусіў вярнуцца яшчэ на дзень у Заліп'е, каб падпісаць з ляснічым канчатковы акт. Прыйшоў падвечар, кантора была ўжо зачынена, і, канечне, давялося начаваць у Гаркушы, у той самай «сваёй» зале. Што сам Гаркуша бясконца мог бы расказваць усё новыя «памоўкі», у гэтым я не сумняваўся, але я не чакаў, што зноў да мяне пастукаецца Зоя Пятроўна. Апошні раз я ўважліва слухаў яе — не запісваў ужо, а толькі слухаў.

У Чэхава сказана: «Калі ў першым акце на сцяне вісіць стрэльба...» У Гаркушавай зале на сцяне вісела павялічанае фота — я ўжо пра гэта казаў. Спачатку я думаў, ці не сама Зоя Пятроўна ў маладосці, але потым яна ўсё-такі прыехала на дзень, іхняя гарадская дачка, гэта яна была на фатаграфіі — я пазнаў, бо цяпер я ўбачыў яе, як сказаў бы Гаркуша, і ў натуры. Калі б не розніца ў гадах, маці і дачка былі б падобныя як дзве кроплі вады, толькі ў дачкі была не матчына колішняя каса, а модная прычоска. Ад'язджала назад — пацалавала ў шчаку Зою Пятроўну, абсыпала пацалункамі Валіка, але ён не надта цягнуўся да малазнаёмай гарадской маці. Гаркуша ўладкаваў на багажніку яе мадэрновую гаспадарчую сумку — паўнюткую,— знайшлося што пакласці, пакаціў мапед, тады і яна пайшла следам, на рагу за канторай азірнулася і на развітанне яшчэ памахала белай рукой. А Зоя Пятроўна потым доўга стаяла ля брамкі і глядзела ўслед, і не разабраць было — сумна пазірала ці ўсцешна... Дык вось толькі цяпер, пад заслону, і расказвала мне Зоя Пятроўна пра сваю дачку.

«Лесавая яна ў нас, ох і лесавая,— усміхнулася сама сабе быццам толькі ёй зразумелаю ўсмешкаю, бо, мабыць, падумала: ніхто, акрамя іх з Гаркушам, не ведае, якая ў іх дачка лесавая.— А вось жа адцуралася і лесу, і роднай хаты, з'ехала, як і не было яе ў нас. Гадавалі, цешыліся, на роднае дзіця гледзячы, думалі, што, калі мы ёй матка ды бацька, дык і самыя ў яе любыя. А яно вунь як абярнулася. Адкуль толькі яго і прынесла, прыблуду гэткага. Каб знаццё, дык, можа, Гаркуша і турнуў бы яго, а то ж, бывала, толькі спытае: «Што парабляем, Валодзя?» А ён адказвае: «Пішу, Адамавіч, пішу». А сам не пісаў, а маляваў.

Колькі мы з Гаркушам паваландзілі колісь, покуль сышліся. А тут чорт прынёс барадатага, у лесе дошку сваю паставіць на ножкі дый малюе, а спаў на вышках у лясніцкай стадоле, ды не спаў у шапку, гіцаль, бо аднаго разу абедаем, а нейкі дабрадзей гыр пад акном: «Гаркуша, ідзі падзівіся, як ён тваю доню на паляне малюе!» Аж закалаціла Гаркушу, кінуўся ў лясніцкі двор, а я за ім, каб не схапіў якога шворна ды не забіў, а ён схапіў-такі, ды не шворан, а пугу: успомніў, як за самім калісьці нейкі аб'ездчык Гаршуноў гнаўся з ёю па лузе... Прыбег на паляну, ды позна ўжо, бо якую ж ён яе малюе — адно ўнізе трошкі зялёнай галінкай прыхінулася.

Вярнуўся Гаркуша, сядзіць — шчаку над сталом далоняю падпёр, а вочы ў сцяну ўтупіў, думала, розумам кранецца. А я і сама вось-вось загалашу, ды не загаласіла, бо што прыдумаў — на мяне віну ўзваліць. Гэта, кажа, дачка наша табе адпомсціла, бо колісь, бывала, не прыдумаеш, на якой да цябе казе пад'ехаць. Як сказаў ён так, ну дык і я не ўтрывала!.. Мая, кажу, віна, што ты адно языком малоў: «Я ў Зоечкі на коечцы прасіўся начаваць...», каб так па

паўгода ўсе прасіліся, дык і людзі перавяліся б. Заткнула яму рот, а сама ледзь не валасы на сабе рву: дзіця ж ты маё горкае, што ж ты нарабіла!.. А тут чую, нехта ў сенцах, а гэта ён, барадаты,— увайшоў, ды, нахаба ж такі, яшчэ і зубы сушыць: «Чаго вы, бацькі, так гаруеце, усё будзе чын чынаром, толькі паспрыяйце, каб нас у сельсавеце запісалі, бо гэтага ўжо нельга далей адкладваць».

Выйшаў ён, а Гаркуша як сядзеў, так і сядзіць, шчаку падпёршы,— быццам і не чуў барадатага. Але нарэшце азваўся, у мяне ажно адлягло на сэрцы: і так гора, а яшчэ, не дай Бог, і з ім што зробіцца. Ды лепей бы ён памаўчаў, бо зноў ён пра тое ж: «Усё ідзе на пагібель». Яшчэ больш ён мяне раззлаваў, сціхні, кажу, няшчасце маё, колькі разам жывём, столькі і вяшчуеш пагібель. Калі ўжо ім так не церпіцца, дык хай цешацца, вялікая табе была б радасць, каб яна ў дзеўках засталася...

Кажу так, а самой і шкада, небараку, бо гэта ж такі сорам: дачцы ўсяго шаснаццаць гадкоў, а яму ж трэба ісці ды маліць старшыню сельсавета, каб запісаў не па закону. Добра, хоць у сельсавеце даўно ўжо чалавек сядзеў, а не тое гыркала, не Айчанаш кляты, што некалі з нас, маладых, пацяшаўся.

Але ж не Айчанаш, дык заяц. «Не хвалюйцеся, кажа, я так вашу дачку намалюю, што цэлы свет зіхне, якая яна ў вас прыгожая». А сам жа не даў ёй і расцвісці, павёз — і школу не скончыла. Які ён з яе партрэт намаляваў, не ведаю, а свой партрэт на памяць любай цешчы прыслаў — вось яна, ягоная копія, два гады ўжо цешуся».

Яна пайшла, а я лёг на канапу і доўга не мог заснуць — думаў, а што ж гэты яе расказ пра дачку, ды ці толькі пра дачку, дадае да таго, што я ўжо ведаю пра яе́ самую?.. І прачнуўся з тым жа пытаннем... Пакінуў у іхняй зале рукзак і падаўся ў кантору да ляснічага, але ішоў і думаў пра гэтую яшчэ ўсё загадкавую для мяне жанчыну. Згадаў, як глядзела яна ўслед сваёй дачцы-гараджанцы, і падумаў: а можа, яна глядзела гэтак услед самой сабе, услед той колішняй Зоі, якая па гэтай жа дарозе выпраўлялася некалі ў далёкі свет, а мусіла вярнуцца назад у Заліп'е?..

Як вядома, мае адносіны з ляснічым мелі два перыяды: афіцыйныя — «да бугая» і таварыскія — «пасля бугая». Цяпер ляснічы быў у добрым гуморы, і ўсё ж, калі звычным шырокім жэстам ён прапанаваў мне: «Сядай, пагаворым», я раптам адчуў, быццам зноў нас раздзяляе тая самая дыстанцыя, якую раўніва аберагаў ён у адносінах са мною, калі мы з ім яшчэ як след не пасябравалі. Звычайна ў кантору ён прыязджаў у лясной форме — трохі прыблатнёны, бо кіцель у яго заўсёды наросхрыст, а «пасля бугая» наросхрыст была перада мною і яго душа, а тут на ім цёмна-шэры, акурат на яго пашыты касцюм, светлая, з сіняватым адценнем кашуля, пярэсты, з касымі палоскамі гальштук — чалавек ва ўсім цывільным, ды якраз цяпер ад яго і павеяла зноў нечым афіцыйным, халаднаватым — як «да бугая».

Зрэшты, і сам я быў афіцыйны. Сказаў — прыйшоў падпісаць канчатковы акт, але што мне рабіць з тою хаткаю, ну з гэтай самаю, куды чорная «Волга» прыязджае, я так і не вырашыў,— паказваць яе на планшэтах ці не, бо ад Гаркушы я так нічога і не дамогся.

Грэблівая грымаса была мне ў адказ.

«Ну ты, класік, і даеш! Знайшоў, у каго пытаць — у Гаркушы! Ён жа ўсіх нас ненавідзіць, і цябе ў тым ліку, а пра гэту «Волгу» і казаць няма чаго! Я на матацыкле праеду, і то яму як сярпом па адным месцы, а тут «Волга»! А між тым, каб не гэтая «Волга»...

Ён незадаволена змоўк, бо адчыніліся дзверы, і, не пытаючы дазволу, у кабінет уваліўся пажарны вартаўнік Няхайчык, таўсматы,

гадоў пад пяцьдзесят мужчына. Магло здацца, што ён нечым узрушаны, такімі ненатуральна акругленымі былі ў яго вочы. Але я ўжо ведаў, што гэта звычайны выраз яго твару, ён у Няхайчыка і на вуліцы такі ж — выраз, пра які кажуць: чалавек есць вачамі начальства. Верхняй губой Няхайчык падціскаў ніжнюю — як быццам закусваў цуглі. Ён яшчэ з парога памкнуўся нешта сказаць, але ўбачыў мяне і запнуўся.

«Гавары, тут усе свае»,— загадаў ляснічы.

«Не магу даць рады, Віталь Фёдаравіч.— Няхайчык медзведзявата апусціўся на крэсла.— На ўсё згодзен: дроў насяку, лазню напалю, венікам адхвастаю, гэта ён ого як любіць, што яшчэ?.. Пляшку на стол пастаўлю — тут я заўжды, як той казаў, гатоў, бо я ж мужчына, а на іншае... не здатны я, Віталь Фёдаравіч, хоць забіце. Талеркі, відэльцы — вы ж зірніце на мае рукі. Не, тут трэба Гаркушыха, бо гэта ж далікатная, жаночая справа. А яна ні ў якую. І з аднаго боку пад'язджаў, і з другога. Я ёй кажу: ты ж не думай, быццам тут нешта нячыстае, цёмнае, усё па закону, табе ж і заплоцяць — жывую капейку мець будзеш, і яна згадзілася б — па вачах бачу, а не даецца на ўгаворы, таму што наківаў Гаркуша. Баіцца, каб жонку... ну вы самі разумееце... Дык жа дзівак: у сто разоў лепшыя, маладзейшыя знойдуцца, вунь іх у яго колькі...»

«Ты ўсё сказаў? — У ляснічага нервова варухнуліся ноздры, набрыняў і пацяжэў падбародак.— Усё?.. А цяпер паслухай мяне. Уважліва паслухай. Памятаеш, за дубовым мыском, злева ад дарогі, ёсць роўная лагчынка? Там, здаецца, нечая сенажаць? Я не памыляюся?»

«Мая лагчынка,— насцярожыўся Няхайчык,— мая, Віталь Фёдаравіч, я там ужо дзесяць гадоў кашу».

«А цяпер касіць не будзеш,— уздыхнуў ляснічы.— Касіць — цяжка. Я наўмысна даў табе лёгкую работу: сустрэць ды правесці, ну там яшчэ тое-сёе, і то, бач, як ты заныў, а на касьбе ж высільвацца трэба!»

Няхайчык «еў» ляснічага спалоханымі і таму яшчэ больш пакругленымі вачамі.

«Я ўсё зразумеў, Віталь Фёдаравіч, дайшло, больш не паўторыцца. Гэта я не падумаў — пра відэльцы і ўсё такое. Буду старацца — во, перахрышчуся. А лагчына мая, дальбог, мая. Калі няма больш указанняў, я пайду. Ваша праўда — трэба, дык трэба. А пасля і Гаркушыху ўламаю, нідзе не дзенецца...»

«Вось з такім народам і мушу працаваць,— паскардзіўся ляснічы, як толькі за Няхайчыкам зачыніліся дзверы.— Але добра, што ён выдаў нам гэтую інфармацыю, застаецца яе толькі развіць. Словам, едзе ён сюды, ну ты разумееш хто — калі я сядзеў на ідэалогіі, ён быў у нас другім, а цяпер, канечне, першы — адным словам, шэф, дык вось — едзе ён сюды на ўікэнд, і, само сабой зразумела, трэба забяспечыць яму нейкі сервіс... Але не сам жа я буду гэтым займацца!.. Дык вось ён і чмыхае!.. Ну хто ж, гаспадар твой, Гаркуша!.. Чмыхае, бо яму напляваць, яму і не ў галаве нават, што калі б не гэты мой шэф, а ўрэшце — калі б не я!.. Ты думаеш, пасля таго, што адбылося каля Пясчанай Рудні, хтосьці іншы з ім гэтак цацкаўся б?.. Спачатку было, канечне: шэф мой кулаком па стале — гнаць у каршэнь, каб і нагі яго не было ў раёне!.. І не было б, і даўно б ён не мельцяшыў тут у мяне ўваччу на сваім паршывым мапедзе. Але ж менавіта я, каго ён лічыць сваім ворагам, другі раз узяў юродзівага на парукі!.. Хаця, калі папраўдзе, дык я ўжо казаў: дзеля яго я і пальцам не паварушыў бы. «Шаршэ ля фам» — так, здаецца, кажуць у падобных выпадках французы».

Заўсёды парывісты, энергічны, нават бесшабашны, ляснічы, аказваецца, мог быць і сентыментальны, бо раптам падспудна мінорныя ноткі загучалі ў яго апалым, прачулым голасе, а ягоны твар набыў той пакутліва-летуценны выраз, які, несумненна, сведчыў, што чалавек носіць у сваёй душы нешта глыбока затоенае, неадбалелае, тое, што гэтак неспадзявана і дало ў ім цяпер аб сабе знаць. «Канечне, «шаршэ ля фам»,— падумаў я,— знаёмы сюжэт, свет на ім замешаны, з Гаркушам гэта было ўжо, цяпер падышла і яго чарга, але пра каго ён — пра якую жанчыну?»

«Толік — Віталік» — адкуль гэта ўзялося, чаму гэтыя імёны як быццам нейкі малаточак выстуквае ў маёй галаве: «Толік — Віталік, Толік — Віталік»? У мяне перахапіла дыханне ад яшчэ не зусім выразнай, бо неверагоднай, але ўжо і такой пранізлівай здагадкі: «Няўжо?!.» Бо пра што ж ён ужо гаворыць, гэта ж тое, што мне вельмі-вельмі знаёмае!..

«...Развёў лёс... Ехалі ў Мінск на ўступныя экзамены, ну дык і яна з усімі, але па дарозе чэпэ, аварыя, яе ў бальніцу, а я паехаў — бацька строга наказаў, каб паступіў на ляснічага, і вось... Паступіў, але і яна часу тут не марнавала, вяртаюся, а яна ўжо замужам. Такая любоў. Але ўсё роўна, хаця яна і пакалечыла мне жыццё, першае каханне забыць немагчыма. Таму я і пашкадаваў яе. Не яе ахламона, а яе. Да цябе што-небудзь дайшло?.. Бо што значыць — гнаць Гаркушу? Гэта ж і яе гнаць. Але не мог жа я ёй памсціць... Шэф грукне кулаком у райкоме, а графін зазвініць на стале ў нашага дырэктара — напіша загад, а тады і ёй разам са сваім героем вымятайся куды хочаш. Дык я і завёў з шэфам гаворку. Ну тут, каля возера. Гутарым, а я, быццам між іншым, дыпламатычна так і кажу: а можа, і не трэба выганяць гэтага дзеяча, бо шкада сям'і, жонку шкада, а гэта ж, кажу, вунь тая прыгожая жанчына, памятаеце, вы неяк пыталі, хто яна. А ён і праўда аднойчы яе прымеціў: ах, кажа, які цудоўны народны тып! Дык ён і цяпер успомніў яе і пагадзіўся: канечне, канечне, такую жанчыну трэба пашкадаваць, толькі нешта яе не відаць апошнім часам. А я яму: намёк улавіў!.. Ну не, я нічога такога і ў думках не дапускаў, гэта ж не пры Паўле Першым, і не Кутайсаў жа ён, проста я зыходзіў з эстэтычных меркаванняў: сам ён мужчына не без шарму, і я прыкінуў, што побач з ім яна глядзелася б. Тады я і паслаў гэтага Няхайчыка, каб ён уступіў з ёю у перагаворы. Ад яе нічога не патрабуецца, толькі згатаваць ды падаць на стол, ну, можа, знаеш, як гэта жанчыны ўмеюць, усміхнуцца, быццам паабяцаць нешта, але не болей. А ў падтэксце намёк: гэтым яна ратуе Гаркушу.

Ты ўжо разумееш: дырэктар загаду не напісаў. Яна бліскуча выканала сваю ролю: і падала, і ўсміхнулася. Але ж разы два толькі і ўважыла. Так, два разы прыйшла, а больш — ні нагою!.. І ты ўяўляеш цяпер маё становішча? З шэфам я не магу псаваць адносін, ад яго многае залежыць: Заліп'е не мой маштаб, я згадзіўся б яшчэ на дырэктара лясгаса, а ўвогуле мне бліжэй ідэалагічная работа, але ж не павінен ён патрабаваць ад мяне немагчымага! Канечне, я разумею: работа на знос, патрабуецца разрадка, дый жыццё ёсць жыццё — даецца, як той Астроўскі пісаў, адзін раз, але ўсё роўна я на гэта не пайду, гэта святое! Бо жарты жартамі, а, бач, куды хіліць: гэтыя, каторых яму «венік» вадзіцель прывозіць — сапраўдныя прафесіяналкі, але ж яны — не «тое», бо «тое» — гэта вось яна, дарма што не семнаццатка, але ж такі, браце, народны тып, а нам з народам трэба мацаваць сувязь. А тады ўжо і адкрытым тэкстам: навошта яна цягае з сабою гэтага мурзатага ўнука, учапіўся ў спадніцу, не адарваць. Дык, я так думаю, напэўна, ён і ёй сказаў, каб прыйшла без унука. На тым усё і скончылася».

Што ж гэта? Выходзіць, ён не толькі вучыўся разам з Гаркушавай жонкай, у яго было з ёю тое ж самае, што і ў Толіка,— і каханне, і ростань — штосьці неверагоднае! А можа, гэта розыгрыш? Брат ведае ўсё пра брата і, выдаючы сябе за яго, заблытвае, збівае са следу? Але гэта я ўжо, бадай, выдумляю, які сэнс яму тлуміць мне сваім братам галаву? Якая яму карысць? Ніякай. І ўсё ж на ўсякі выпадак трэба ў яго спытаць, а раптам...

«Даруйце, Віталь Фёдаравіч, з вашай гаворкі не ўсё мне зразумела. Вашага брата, ну гэтага, каторы на Браслаўскіх азёрах, завуць Толікам?»

«Ну а як жа яшчэ? Канечне, Толікам. Ты ўжо другі раз пытаеш».

«Тады выходзіць, вы з ім блізняты? Вучыліся ў адным класе?»

Ён ускінуў на мяне здзіўлены позірк:

«Глупства! Чаму гэта мы блізняты? Хто табе сказаў? Ды не, ён на пяць гадоў маладзейшы. Але шустры: малако на губах не абсохла, а ўжо старшы ляснічы! Гэта ў мяне ўсё цераз пень-калоду, а яму і з жонкаю пашанцавала, не тое што мне. Хадзілі разам у школу, першая артыстка ў класе, дык я ў Мінск, а яна таксама, там яна мяне і зацугляла. Прывівала густ: жыла ў сястры, а ў яе хахаля былі белыя штаны, дык мая хацела, каб і я завёў такія ж. А я не згаджаўся, помніў, як у нас па вёсцы ў белых споднiках толькі дзед Верабей прагульваўся. Але была вушлая, скеміла: хлопец перспектыўны — на другім курсе, а ўжо камсорг інстытута, дык яна і зрабілася шаўковаю. А рэванш узяла, калі стала жонкаю: вунь той ужо сакратар, а ты — толькі загадчык аддзела? Не стрываў, крутнуў з адною, прышылі амаралку, і загрымеў я сюды, у Заліп'е».

«Толік — Віталік, Толік — Віталік»,— не сціхае ў маёй галаве той жа малаточак. Трэба яшчэ нешта спытаць, удакладніць, але ён недагаварыў яшчэ таго, што самому яму рупіць.

«Нічога, доўга я тут не затрымаюся — выходжу зноў на арбіту. Спахапіліся, вяртаюць назад. Так што яшчэ не ўсё страчана. Але досыць пра гэта, давай бліжэй да справы. Па-першае, дамовімся: чыя гэта хатка, чыё ўладанне — цябе не датычыць, табе ўсё роўна, і не трэба нідзе нічога паказваць — ні на планшэтах, ні ў таксацыйным апісанні. Лічы, што няма гэтай хаткі ў прыродзе. А па-другое, давай-тка падпішу я табе канчатковы акт, а то няма ўжо часу — выклікаюць наверх, зараз еду. Давай, давай, не трэба нічога запаўняць, падпішу чысты бланк, а лічбы потым падставіш сам, я табе веру. Ну не марудзь, лаві момант, паеду і магу ўжо не вярнуцца, а Гаркуша застаецца, і прыйдзецца табе работу здаваць яму, бо хто ж, як не ён, будзе выконваць мае абавязкі, а тады я табе не пазайздрошчу. Забракаваў вышыні, а не прыме дыяметры ды банітэты, будзеш нароўні з ласямі па снезе лазіць, бо да вясны акта ён табе не падпіша».

«Толік — Віталік, Толік — Віталік!..» Іду вуліцай, адчыняю Гаркушаву брамку, а ў галаве — не змаўкае той жа малаточак. Хутчэй у хату! Ліхаманкава гартаю свае самыя першыя, вясновыя запісы — тыя, дзе мая гаспадыня расказвае, як вучылася некалі ў школе. З Толікам?.. Зараз яна першы раз назаве свайго хлопца... Зараз... Вось ён — Віталік!.. Не Толік, а Віталік!.. Гэта потым яна спахапілася, і далей ён у яе ўвесь час Толік, ні разу не абмовілася, а першы раз яна назвала яго... Віталікам!..

Дык вось што такое ў рэшце рэшт «цвэйгаўская» жанчына — і ў самай шчырай яе споведзі ёсць мяжа, за якою толькі твая здагадка паблукае ў поцемках, бо там у яе самае патаемнае, пра што сама яна можа адно незнарок прагаварыцца.

Гаркушы не было дома, і развітваўся я толькі з імі — з Зояй Пятроўнай і Валікам. Ускінуў на плечы рукзак, падзякаваў за гасціннасць, і раптам у маёй памяці ўсплыло, як сказала яна некалі нібыта пра Толіка: «Мой быў ён хлопец, мой...» Напэўна, я неяк асабліва зірнуў на Зою Пятроўну і тым выдаў, што ведаю пра яе недазволенае, бо ў апошні момант яна непрыязна адвяла ўбок да таго лагодны, «развітальны» позірк, і яе шэрыя пакрыўджаныя вочы зрабіліся ўраз адчужана-невідушчымі.

## Эпілог

А далей... сказана — зроблена. Сказана было ў самым пачатку, што тым летам я цвёрда вырашыў мяняць прафесію, таму ўвосень я і прыйшоў туды, дзе людзі, як сказаў бы Гаркуша, «пішуць». Гэта была рэдакцыя абласной газеты. Але мне ў ёй не пашанцавала. У кожнай рэдакцыі ёсць такое месца, называецца сакратарыят, у ім не пішуць, а тое, што ўжо напісана некім іншым, «ставяць на паласу», а паласа — гэта газетная старонка. Дык у сакратарыят мяне і пасадзіў рэдактар. А пісалі таленавітыя, па-зверску актыўныя дзецюкі: ехалі на ўдарныя будоўлі, забіраліся ў калгасную глыбінку, а пасля так імпэтна ўзбягалі на мой другі паверх, што аж гналі перад сабой пругкую паветраную хвалю,— само жыццё ўрывалася ў мой цесны пакой разам з іх свежымі матэрыяламі.

Міналі месяцы, а потым і гады, я «ставіў на паласу» чужыя рэпартажы і артыкулы, а каб узяцца ўрэшце за пяро самому — да гэтага не даходзіла. Не, я не збіраўся спаборнічаць з асамі газетных жанраў, я пра іншае. Дома ў мяне паспелі пажаўцець мае «другія» журналы таксацыі, іх трэба было б давесці да ладу: начыста перапісаць, можа, пераставіць нейкія эпізоды — нешта больш-менш людскае магло б атрымацца; але колькі ўжо разоў, сеўшы за пісьмовы стол, я загараўся і астываў, нават не скончыўшы фразы: адчуваў — раблю штосьці не тое. Але што «не тое» — доўга не мог даўмецца, бо яна павінна была выспець, гэтая мая здагадка: «Гаркуша!.. Не натхняе Гаркуша!..»

Так, ён не натхняў мяне. Бывала, прыносяць на чацвёртую паласу аб'яву кінатэатра — «Ну каму ён патрэбен, гэты Васька?», фільм Сяргея Абразцова, перапісваеш на макет загаловак, а сам думаеш: «Ну каму ён патрэбен, гэты мой Гаркуша? Герой з адмоўным знакам, абмежаваны, прымітыўны «практык»!

Міналі гады, але дзіўна: я так і не змог забыць Гаркушу. Хаця што ж тут дзіўнага. Я стаў заўважаць, што цяпер многія іранізуюць з таго, з чаго так з'едліва пасміхаўся некалі мой заліп'янскі герой. Здавалася, ён разліты ў самім паветры, гэты ўсюдыісны гаркушызм; праз нябачныя шчыліны ён прасочваецца нават у такія сур'ёзныя і, здавалася б, устойлівыя да ўсякай ідэйнай пошасці ўстановы, як і гэта рэдакцыя, у якой я сам працую.

Вечар, апусцелі рэдакцыйныя пакоі, а мне яшчэ трэба закрываць першую паласу: чакаю фотакора, што з хвіліны на хвіліну павінен прымчацца са свежымі здымкамі. З паўгода ўжо не меў передыху ўвішны, шчодра прафінансаваны з мясцовых фондаў, квач, гэта ён надаў урачыста-святочны выгляд усім брамам і штакетнікам, і цяпер паўз іх з аднаго канца вобласці ў другі праносіцца на шалёнай хуткасці калона бліскуча-чорных легкавікоў — ураганны тэмп набірае рэспубліканскі семінар па жывёлагадоўлі. Наперадзе калоны, як Чапай, толькі не на кані, а на імклівай «Чайцы», сам Першы сакра-

тар ЦК, дык і немагчыма ўявіць наш заўтрашні нумар без яркага фотарэпартажа пра семінар — таму я і чакаю фотакора. Але, мабыць, у рэдакцыі я не адзін, бо нехта кхекае ў дальнім канцы калідора, там аддзел сельскай гаспадаркі, і я пазнаю ўжо, чые гэта крокі — так, гэта ён, ідзе да мяне «на агеньчык». Вечарамі ён часта застаецца ў рэдакцыі і, цішком паддаўшы, рыхтуе ўдарныя матэрыялы для наступнага нумара. Каржакаваты, скрозь рэдкія валасы свіціцца цемя, з бакоў жа вянок валасоў яшчэ пышны, так і ёсць — паддаты, бо твар набрынялы, ніжняя губа грэбліва выпнутая, а вочы прыжмураныя — выраз твару ў вышэйшай ступені іранічны. Садзіцца па другі бок стала, наўскось ад мяне, смокча дзяшовую цыгарэту і, сплёўваючы прыкрыя табачынкі, як быццам жартам, а на самай справе з'една і зларадна каменціруе тое, што заўтра людзі ўбачаць у газеце. Менавіта ўбачаць, бо я ж разумею, ён высмейвае наш заўтрашні рэпартаж аб семінары.

«Чуў? Скора пабудуюць адзін на ўсю вобласць жывёлагадоўчы комплекс, а кармы будуць траляваць верталётам. Падчэпіць адразу цэлую сцірту — і папёр у цэнтр вобласці».

Вось ён, той самы падкалодны гаркушызм. Але Гаркуша па цемнаце сваёй мог і не разумець, што гаворыць, гэты ж выдатна ўсё разумее і, няйнакш, правакуе мяне — а як я буду рэагаваць на ягоны «гумар»? Але я нічога не кажу, толькі спакойна пазіраю на яго, бо ўсё будзе сказана ў выступленні Першага сакратара ЦК, якое заўтра людзі прачытаюць у газеце.

Малады фотакор збягае з трэцяга паверха, там у цёмным пакойчыку ён праяўляе здымкі, і цяпер у яго на далонях старая газета, а на ёй, як на падносе, мокрыя адбіткі; зараз выберам, якія сушыць і пасылаць у друкарню. Канечне, гэты. І гэты. Асабліва ж вось гэты, ён будзе ў цэнтры кампазіцыі. Удзельнікі семінара на велічным фоне свінагадоўчага комплексу. Наперадзе — Першы сакратар ЦК, паеўрапейску гонкі, з японскім прыжмурам прыязных, добрых вачэй — кіраўнік Божай літасцю, такіх і за мяжой, у той жа хваленай Японіі, трэба яшчэ ого як пашукаць!.. Углядаюся ў знаёмае аблічча: любімец народа, ён і мой даўні кумір; за ім, веерам у два бакі, таксама першыя, але драбнейшых калібраў — абласныя, раённыя. Усе ў белых халатах, і іх бездакорная белізна як бы сімвалізуе сабою, якое чыстае ў гэтых людзей сумленне. «Вось яны, сапраўдныя героі нашага часу, вось пра каго трэба пісаць,— думаў я, разглядаючы здымак,— нездарма ж лепшыя пісьменнікі так і робяць».

Я ўжо хацеў адпусціць фотакора, каб хутчэй сушыў здымкі, але ўвагу маю затрымаў адзін невыразны, на заднім плане, паўпрофіль, нават адна яго дэталь — характэрна выстаўлены ўперад падбародак. Прыгледзеўся пільней і не стрымаў радасці:

«Ляснічы! Віталь Фёдаравіч! Выйшаў-такі другі раз на арбіту!» Фотакор збянтэжана ўгледзеўся ў здымак: «Не, там не было леснікоў. Меліяратары былі, а леснікоў не было».

«Ідзі сушы здымкі,— сказаў я,— цяпер ён ужо не ляснічы».

Застаўся адзін, і так прыкра зрабілася: вось з кім трэба было і пасля Заліп'я не парываць сувязі, вось чые маналогі трэба было найперш запісваць — які каштоўны матэрыял цяпер меў бы! І якога героя! Усё ў яго было: і службовае падзенне, і сямейная драма, а цяпер вось ён у якой слаўнай кагорце!.. І толькі цяпер мне па-сапраўднаму адкрылася яшчэ адна жыццёвая драма: дорага каштавала Гаркушава «практыка» ягонай жонцы, бо цяпер я мог сабе ўявіць, якога чалавека — гэтага, каторы ў слаўнай кагорце на здымку! — яна страціла. А як шчодра раскрылася б побач з ім яе багатая чалавечая, дый жаночая, натура, калі б некалі не стаў у яе на дарозе Гаркуша! Асудзіў яе на заліп'янскае ўдушша, і цяпер ужо не мае зна-

чэння, ён прыстаў як смала ці яна не змагла адчапіцца — усё роўна драма... Але ж цяпер — гэта і мая драма, бо і мне собіла звязацца з Гаркушам — столькі журналаў таксацыі зглуміў на яго нікому не патрэбныя «памоўкі».

Пажаўцелы стос маіх заліп'янскіх запісаў, напэўна, так і застаўся б неперагалапачаны, калі б зусім нядаўна лёс не паслаў мне яшчэ адну сустрэчу. Было гэта ў Мінску, ля аднаго высокага будынка. Здалёк заўважыў вялікі натоўп, а падышоў бліжэй — здзівіўся, што так многа мужчын у аднолькавых рацінавых паліто і ў андатравых шапках. Часцей шапкі былі новыя — амаль чорныя, з бураватым бліскучым адлівам, калі шэрсць і падшэрстак амаль аднолькава густыя і пышныя; але некаторыя здаваліся паднашанымі, іх футра нагадвала ўжо зязюльчын мох: густы і як бы зляжалы рудаваты падшэрстак, а над ім рэдкія шарсцінкі... Андатры, гэтак жа, як і іх бліжэйшы родзіч вадзяны пацук, не самыя сімпатычныя істоты, аднак я ўсё роўна пашкадаваў іх, уявіўшы, як многа спатрэбілася андатравых шкурак, каб пашыць такую процьму шапак.

Нейкіх вялікіх начальнікаў сабралі з усёй рэспублікі і цяпер іх, напэўна, везлі на экскурсію — заказныя аўтобусы стаялі каля тратуара. Разбіўшыся на групкі, мужчыны ў андатравых шапках чакалі каманды садзіцца, і я мусіў вынаходліва між імі лавіраваць — спяшаўся на вакзал, але на выхадзе з іх вальяжнага натоўпу раптам спыніўся: знаёмы профіль, выстаўлены падбародак!.. Колішні знаёмы!.. Ён адчуў на сабе мой атарапелы позірк, спакойна, як быццам мы толькі ўчора з ім бачыліся, павярнуўся і, не падаючы рукі, прамовіў:

«А-а, ты ўжо тут, у сталіцы. Ну, прывітанне... класік. Чытаюць нам тут пра вас, чытаюць: зноў ваш Быкаў ваду муціць. А чаго ўжо яму не хапае: і прэмію далі, і Героя...»

Ён не надта хацеў мяне бачыць: я зайду яму наперад, а ён адвернецца. Мне б развітацца і пайсці, але, як ні спяшаўся я на вакзал, яшчэ мацней рупіла спытаць у яго — пра што ж, як не пра Заліп'е.

«Прабач, мне на аўтобус.— Даўні знаёмы ўспомніў-такі, што калісьці мы былі з ім амаль што сябрамі, і зрабіў ласку — падаў на развітанне руку.— Ага! — Ён на хвіліну затрымаўся.— Ты, здаецца, хацеў нешта спытаць? Пра Гаркушу?.. Пакуль жывы быў Ён,— мой субяседнік павёў вачамі на высокі будынак,— не чапалі і яго ў Заліп'і. Паспрабуй крані, калі сам Першы бараніў яго на бюро райкома. А потым... Перавялі ў леснікі — і ўся размова, чалавек сам падвёў пад сабою рысу. Невясёлая гісторыя... Што? Ці бываю ў Заліп'і? Не бываю... У Грабянцы наведваюся, радзіма ўсё-ткі, а ў Заліп'е, каб і хацеў... Там жа цяпер, можа, чуў, па гэты бок шашы чыста, ну адносна чыста, а за шашою... зона. І Заліп'е ў ёй. Так што можаш сабе ўявіць...»

Мой даўні знаёмы, Айчанаш, нагадаў мне, што была некалі тая гістарычная сустрэча Першага сакратара ЦК і Гаркушы. Не хацелася быць свяцейшым за папу рымскага, але ж уявіў, як стаялі яны адзін перад адным — Гаркуша і Першы сакратар ЦК, і стала вельмі крыўдна, што там, на балоце каля Пясчанай Рудні, Першы дрогнуў перад Гаркушам, бо сам жа сказаў яму — не ў брыво, бач, пацэліў ён, а ў вока. Значыць, Гаркушава праўда, што «ўсё ідзе на пагібель»? Не, я так лёгка ім не паддамся! Я адмаўляю ўбогі гаркушызм, і я павінен развянчаць яго, павінен вывесці яго на чыстую ваду — і зраблю я гэта вельмі проста.

Нарэшце-такі я грунтоўна засеў за пісьмовы стол: хай людзі самі рассудзяць нас — мяне і Гаркушу. Ды і не толькі нас дваіх. Дзеля гэтага і трэба як мага хутчэй перапісаць начыста Гаркушавы «памоўкі», а заадно, мабыць, і «цвэйгаўскую» споведзь яго жонкі, Зоі

Пятроўны. Дарэчы, я так і не зразумеў, прыняла яна да канца свайго Гаркушу ці не, пра сябе ж я ўжо сказаў: я не прымаю Гаркушавага песімізму — нават цяпер, калі яго змрочнае прароцтва ў нечым збылося. Канечне, мяне таксама засмучае незваротная страта — чацвёртая частка ўсіх нашых зямель забруджана радыяцыяй, але ж гэта не падстава для таго, каб кідацца ў паніку, бо не можа быць ніякіх сумненняў, што на астатняй тэрыторыі рэспублікі будзе дасягнуты небывалы поспех.

1990 г.

P. S.

Няўжо я памыляўся?.. У белых халатах наапашкі (на пярэднім плане — сам Першы сакратар ЦК!), яны глядзяць на мяне з таго даўняга газетнага здымка — стаўпы, волаты, героі!.. А цяпер аказваецца — і не стаўпы, і не героі?.. А хто ж яны — антыгероі?.. Вельмі цікава. А чаму ж усе ім пляскалі ў ладкі?.. І яшчэ: выходзіць, памыліліся лепшыя пісьменнікі? Бо хто ў іх быў самым станоўчым героем... А калі яны цяпер не станоўчыя, дык выходзіць, што і лепшыя пісьменнікі таксама не лепшыя?.. Не можа гэтага быць!.. Бо хто ж тады сапраўдны, нефальшывы герой — Гаркуша?.. І тады ўсё о'кэй, і ніякай драмы?.. І, выходзіць, памылялася Сава, калі бараніла калісьці ад Гаркушы сваю вучаніцу?.. Бо цяпер яна, ягоная жонка, павінна ганарыцца, што пражыла век з такім чалавекам, а як жа, ён жа ў яе герой, толькі непрызнаны, затурканы!.. А калі нарэшце і я давёў да нейкай чытэльнай кандыцыі Гаркушавы «памоўкі», дык гэта таксама тое, што і павінен быў зрабіць кожны, хто хоць трохі пісьменнік?.. Баюся, штосьці тут не так... Можа, наконт стаўпоў я і памыляўся, наконт лепшых пісьменнікаў таксама — магчыма, і праўда яны не лепшыя, але наконт Гаркушы... Як не быў, так і не быць яму героем... Кожны час выбірае сабе ў героі таго, хто найбольш яму дагаджае, такіх ён узнімае на п'едэстал і ўзносіць да нябёс, таму калі той, нядаўні мінулы час не прызнаў і адрынуў Гаркушу, дык, можа, яго прызнаў сваім героем час цяперашні?.. Наўрад... Канечне, гэта праўда, што адбыліся вялікія перамены, але, па маіх назіраннях, ніхто і сёння пакуль што не хапіўся «практыка» Гаркушы. А, зрэшты, калі б і хапіўся, дык дзе яго цяпер шукаць? Няма ўжо, лічы, ні Заліп'я (за калючым дротам яно цяпер), ні Гаркушы ў Заліп'і.

1992 г.



## АЎГІННЯ КАВАЛЮК



Скажу, як сваяк сваяку:
Варуся ва ўласным саку,
І мне падабаецца ўласнасць,
Былі б толькі воля і яснасць.

Скажу, як зямляк земляку:
Шмат дзіў на нашым вяку,
Не кожны, хто зведае дзівы,—
Шчаслівы.

Скажу, як дружбак дружбаку:
Хто ловіць каня на скаку,
Нічога не бачыць, не чуе —
Сам ловіць, сабой рызыкуе.

Скажу, як дзівак дзіваку:
Сядзім на адным мы суку,
Глядзі ж не сячы гэты сук...



Папрашу я ў неба зорак,
Каб свяціліся ўначы.
Папрашу я ў поля кветак,
Каб прыгожы быў зачын.
Папрашу я вольных песень
У свавольнікаў-вятроў,
А ў цябе, мая матуля,
Папрашу я родных слоў.

## Бяроза

Ты са мною, бярозачка белая,
Ты са мной, як айчына, заўжды,
Твая чыстая кволасць нясмелая
Нераздзельна ўплялася ў гады.

Мы з табой узрасталі пад ліўнямі,
Пад спякотаю разам раслі,
Гаравалі з табой днямі дымнымі,
На плячах крайчык неба няслі.

Бралі сілу з айчыннай жывіцаю
З найчысцейшых крывіцкіх крыніц,
Каб была Беларусь беаліцаю
І ніколі не падала ніц.

## Ля мора

Бяжыць сцяжынка па вадзе
Да сонца.
Дрыжаць слядочкі: кінуў дзень
Чырвонцы.

Ах, гэты бег,
Ах, дзіўны бег...
А хто пабег,
Куды пабег?

Вада бяжыць,
Бяда дрыжыць...
Пяшчотны бераг
Хоча жыць.



## ВІКТАР ШНІП



Крыжы касцёла і крыжы царквы
Над Ракавам віднеюцца ізноў.
Сівыя валуны глядзяць з травы,
Якія помняць і віно, і кроў.
Ля валуноў раскладваем касцёр,
Кідаем шыльнік, жоўтае лісцё.
Блакітным дымам поўніцца прастор,
І лёгкім сумам поўніцца жыццё.
А над дарогай гул машын стаіць,
І ў неба пыл разветраны плыве.
І да царквы мая душа ляціць,
І цела грэшнае туды заве.
Ды я сяджу маўкліва ля кастра,
Гляджу ў агонь, нібы ў душу вякоў.
І нада мною дым, нібы мой страх
За родны край, дзе шчэ жыве любоў,
Дзе кружацца над Ракавам буслы.
І светла нам ад іх бялюткіх крыл.
І мы ідзём на споведзь да царквы,
Ідзём на Суд да дзедаўскіх магіл.



Пасохлі яблыні і слівы,
Але яшчэ ўсё гэта — сад.
Бяды не ведаю, шчаслівы,
Але мне сніцца лістапад.
Гаспадары навостраць пілы
І прыдуць да змярцвелых дрэў.
Каб пілаваць — не знойдуць сілы,
Бо жоўты ліст не пачарнеў
І ў смерць не верыцца нікому.
Але жыцця ўжо не вярнуць.
І неяк ціха стала дома,
Што чутна — воблакі растуць.
А я зусім не адчуваю,
Што дома ў нас загінуў сад.
Яшчэ я смерці не ўяўляю,
Але мне сніцца лістапад.



# ПУБЛІЦЫСТЫКА НАРЫСЫ

АЛЯКСАНДР СТАНЮТА

# СТЭФАНІЯ

ЭСЭ

— Я прачытала ў «ЛіМе» ліст беларускага паэта Масея Сяднёва і скажу табе, што ён мае рацыю: толькі гісторыяй ніякае нацыянальнае адраджэнне, мабыць, не здолее ў поўнай меры выканаць сваёй задачы. Задача гэта гістарычная, а калі так, выконваць яе трэба, пільна ўглядаючыся ў мінулае, вывучаючы яго, абапіраючыся на лепшае ў ім — але адначасова працуючы найперш у сучаснасці. Бо менавіта тут захоўваецца і так цесна гуртуецца ўсё тое, што проста не дае нам жыць як усім людзям у нармальным свеце.

— Сяднёў, памятаеш, выступаў з вашай сцэны ў цябе на юбілеі.

— Ён тады ці не першы раз прыязджаў сюды, на радзіму. Цікава, гэта прозвішча ці псеўданім,— ты ўслухайся: навідавоку нешта сумна-іранічнае і горкае, ён жа сядзеў, напэўна — Сяднёў? А як жа было жыць тут, «у нас», нешта рабіць, мець у сабе хоць каліва нейкай адметнасці — і не сядзець? Ён зараз у Амерыцы жыве, як і Арсеннева?

— Так.

«Так»,— кажу я і бачу, як пахмурным травеньскім днём аўтобус з людзьмі, з якімі я апынуўся ў Нью-Йорку, павольна плыве па Сэнтрал Парк-авеню ў Манхэтэне, сеецца дробны, нібы восеньскі, дождж, і жанчына, мясцовая жыхарка, кажа: «А вось злева, бачыце — шэры дом? «Дакота» завецца. Тут Джон Ленан жыў. Вось дзверы пад'езда, ля якіх яго забілі». І я ўглядаюся ў муры цёмна-шэрага, цяжкога гмаха з адмысловым фасадным рэльефам, трохі змрачнаватым, але які нагадвае нешта вядомае і як бы абжытае, штосьці з гарадскога «мадэрна» 30-х гадоў.

Я ўглядаюся ў масіўныя дзверы з фігурнай цьмяна-залацістай ручкай, у шэры асфальт там, дзе ўпаў Ленан, гэты нядаўні сімвал, кумір і рэлігія маладых людзей свету, нашых дзяцей, тады школьных вучняў — о, так: «Yesterday» — і прыгадваю, што яго забойца, чакаючы сваю ахвяру, стаяў тут, ля ўваходу, чытаючы «Па-над бездан-

---

Заканчэнне. Пачатак у № 11, 12 за 1993 г. і ў № 1 за 1994 г.

ню ў жыце» Сэлінджэра — яшчэ аднаго сусветнага куміра і сімвала — ужо і нашага, бацькоў, маладога часу. А жанчына ў аўтобусе кажа: «У гэтым доме жыў і Рудольф Нурыеў, былая зорка савецкага балета».— І пасля паўзы дадае, нібы самой сабе: «Што б там ні было, вы для многіх амерыканцаў — найперш людзі краіны мастацтва, паэзіі...». Нездарма ж людзі кажуць, што свет цесны.

Хіба ён сапраўды не цесны, калі самым першым з аднойчы ўбачанага праз акно нью-йоркскага атэля «Скайлайн» на 10 авеню было менавіта тое, што паўставала ва ўяўленні яшчэ ў дзяцінстве, з прачытанага ў кніжцы з незразумелай тады назвай «42-я паралель» нейкага невядомага Дос Пасаса: нізкае святло хмарнага дня, дождж, мокрыя блішчастыя легкавікі, зялёны светлафор і невялічкія крамкі ў квартале цёмна-чырвонай цэглы, ірдзяныя ў шэрым надвячорку неонавыя надпісы, маленькі рэстаранчык на рагу, адкуль выходзяць маракі,— не зважаючы на дождж, яны няспешліва, са смехам штосьці паказваючы адзін аднаму на мігах, ідуць праз вуліцу перад спыненымі быццам спецыяльна дзеля іх машынамі.

А тады, са старонак той кніжкі, я бачыў — у гэтым самым месцы, далібог! — яшчэ і таго марачка, які застаўся без працы — ён званіў сястры, чакаў яе тут, на вуліцы, і здавалася, што і ад цябе, як ад таго хлопца ў вільготным набрынялым світэры, пахне тытунём і злёгку выпіўкай, што табе таксама зябка, мерзнуць рукі і нос, хочацца памыцца ў цёплай вадзе, змяніць нясвежае адзенне, адсырэлыя чаравікі. Ягоная сястра выходзіла, яны грубавата-весела віталіся і заходзілі некуды вось тут перакусіць.

Зараз жа на гэтай вуліцы іх бачна не было. Але я не здзівіўся гэтаму — проста, відаць, трэ было крыху пачакаць, як чакаў тут некалі той марак сваю сястру пад дажджом, толькі і ўсяго.

Здзіўляла — неяк спакойна, сонна і прымірана — якраз іншае. Ізноў жа тое, што гадоў ажно сорак таму, калі я ўбачыў гэтую нью-йоркскую вуліцу, чытаючы кніжку «42-я паралель», я сядзеў не перад гэтым акном з зялёнымі шторамі і кандыцыянерам унізе — а зусім, зусім перад іншым. За ім у ранніх прыцемках ужо сінеў снег, і людзі асцярожна, каб не паслізнуцца, соўгаліся з вёдрамі каля калонкі, аплыўшай лёдам, што свечка воскам, і ўсе гукі даносіліся адтуль прыглушана, нібы ватныя. А вата з сухімі кветкамі бяссмертніка паміж шыбамі таксама здавалася снегам, як і ватныя камячкі ў адтулінах ля вокнаў, куды падавалі з вуліцы засовы, зачыняючы аканіцы. Канцы жалезных засоваў у пакоі за ноч пакрываліся інеем, а ўдзень з гэтых адтулін, калі іх забываліся заткнуць, дзьмулі тонкія струменьчыкі холаду, і з моцным ветрам прабіваўся снег... Цяпер снегу не было, на двары стаяў ужо май месяц, але, напаўняючы невялічкі пакой цяплом, пад маім акном усё роўна клапатлівы і ўтульна соп руплівы кандыцыянер.

Так, свет сапраўды, відаць, павінен быць цесным, цёплым і ўтульным,— ці так ужо нам неабходна бясконцая, без межаў прасторы і часу, падобная гэтым на нішто, пустэльня і бездань космасу? А чалавеку ж больш за ўсё патрэбны чалавек. Свет павінен быць у добрым сэнсе цесным і для нас, беларусаў. Увесь свет павінен быць да нас бліжэйшым, а мы — да яго. І хто ведае, калі-небудзь, можа, нам і далёка ў Амерыцы давядзецца глядзець на мясціны жыцця і працы беларусаў — і не толькі пасля іх уцёкаў адсюль. Чалавек нараджаецца на радзіме, заўсёды памятае пра яе, але ён нараджаецца свабодным.

А пакуль мы глядзім па тэлебачанні на дом Аляксандра Салжаніцына ў Вермонце. А пакуль мы, будучы ў Чыкага, едзем у прыгарад, у мястэчка Оўк-Парк, і глядзім на бялюткі, акуратны звонку, нават ужо да нейкай стэрыльнасці, дом, дзе нарадзіўся Хэмінгуэй — і зноў жа сеецца дробны дождж, і анічога не нагадвае тут, у цішы,

у бязлюдных кварталах прыгожых асабнякоў і падстрыжаных палісадаў ні пра «Дзесяць індзейцаў», ні пра «Доктара і ягоную жонку». Як ні ўглядайся, нічога не відно з таго, што было некалі тут — «У нас, у Мічыгане».

А пакуль што я стаю ў цэнтральнай мінскай кніжнай краме, на рагу ўжо былога Ленінскага, а зараз праспекта Скарыны — і ўсё той самай яшчэ Камсамольскай вуліцы і гартаю старонкі кнігі Наталлі Арсенневай «Пад сінім небам», факсімільнага выдання віленскага зборніка 1927 года. Чытаю біяграфічную даведку, радкі пра пагібель сына паэткі ў гарадскім, цяпер імя Янкі Купалы, тэатры ў 1943 годзе — і прыгадваю, што мне расказвалі.

У той дзень, 22 жніўня, праз два гады ад пачатку вайны, у тэатры, падчас сходу мінскай моладзі з маючым пасля адбыцца спектаклем, партызаны намерваліся ўзарваць мінаю гаўляйтэра Беларусі Вільгельма Кубэ. Але ён чамусьці не прысутнічаў. Ацалелыя ж пасля выбуху згадвалі, што наогул бачылі там толькі аднаго нямецкага афіцэра — той сядзеў з жанчынаю на галёрцы. А ўнізе загінула нямала маладых людзей, у тым ліку і старэйшы сын Наталлі Арсенневай — Яраслаў. Акцыю, выходзіць, не змаглі прыпыніць — і застаецца толькі спадзявацца, што менавіта адно не змаглі...

Здаецца, загінуўшых збіраліся везці на пахаванне ад тэатра, дзе іх напаткала смерць, таму што я малым бачыў у тым месцы шырокія, з гумавымі коламі падводы-платформы, з якіх былі зняты будкі для перавозкі хлеба,— мне дарослыя растлумачылі, што на іх будуць ставіць труны. Мая стрыечная сястра з сяброўкамі была на адпяванні Яраслава ў «чырвоным» цагляным касцёле — яны добра яго ведалі, вадзілі з ім адну кампанію. Быў ён прыгожым цёмнавалосым юнаком, вельмі прыемным і цікавым субяседнікам, шмат чаго ведаў; усе ставіліся да яго з павагай і сімпатыяй. Пахавалі ўсіх загінуўшых на Вайсковых могілках, у брацкай магіле...

А што да Кубэ, які, не будучы заўзятым прыхільнікам генацыднай палітыкі на Беларусі, заставаўся, відаць, косткаю ў горле СС і СД, дык яго забілі праз некалькі месяцаў, і не дзе-небудзь, а ў яго ў доме, што стаяў насупраць цяперашняга кінатэатра «Піянер»,— партызанскай мінай. Неяк зусім лёгка яе пранеслі паўз усю ахову ягонай рэзідэнцыі і падклалі яму ўжо проста пад самы матрац...

# 31

— З усяго, што ты ў кіно іграла, у «Развітанні» — твая найбольш значная роля. У тэатры такую ролю, на маю думку, табе назваць намнога складаней.

— Так, што датычыць кіно — усё правільна. Хаця, ты ж ведаеш, мой унучак пастараўся быў абвясціць гэта яшчэ задоўга да «Развітання», прышпіліўшы непрыкметна надпіс да майго футра: «Баба Стэфа — кіназорка». Я не забудуся — у гастраноме людзі азіраюцца, пасміхаюцца, я не разумею, а потым гляджу... Ну, а ў тэатры атрымалася так, што многае найбольш значнае, прынамсі, для мяне — далёка ў мінулым, у маладосці, ці проста даволі даўно ўжо... І якія малайцы наш галоўны рэжысёр Валерый Раеўскі і малады Мікалай Пінігін, што вырашылі ў свой час паставіць — для мяне — гэтую п'есу англічан Хігінса і Кар'ера — «Гаральд і Мод»! Мне здаецца, я так добра разумею сваю Мод, усё тое, што ў ёй, васьмідзесяцігадовай, жыве нібы па-за ўзростам, вольна ад яго. Гэта — маё, так-так... А пачаў усё Раман Мархолія, малады рэжысёр у Львове: убачыў мяне на сцэне і стаў угаворваць на гэтую ролю — шукаў выканаўцу, марыў

паставіць спектакль сам. А мы ў нашым тэатры чыталі п'есу падчас гастроляў у Томску, і на мастацкім савеце аднагалосна ўсе сказалі: бярэм, і ў галоўнай ролі — я... Вось так я атрымала ў Томску яшчэ адну галоўную ролю — больш чым праз сорак год пасля нашага эвакуацыйнага жыцця там і пасля таго, як Літвінаў ставіў «Сабаку на сене» Лопэ дэ Вегі са мною ў ролі Дыяны...

— Ты казала, што спярша баялася гэтай Мод.

— Ну, я такая... Сапраўды, баялася. Асабліва, калі чыталі п'есу. Улічы, што мы ўсё ж паставілі яе інакш, чым было можна. У Францыі, да прыкладу, у тэатры Луі Баро, гэта было зроблена для заходняга гледача, больш смела і складана; межы ў пачуццях, адносінах галоўных дзеючых асоб былі няўлоўныя, так я зразумела з прачытанага пра тую пастаноўку: сяброўства, сімпатыя... можа, у нейкія моманты і каханне, часам нават нешта блізкае да своеасаблівай эротыкі, нягледзячы на неверагодную розніцу ва ўзросце. Французскія акторы прывозілі свой спектакль у Маскву, ролю Мод іграла ці не Мадлен Рэно, жонка Баро. А у нас — больш светлага, вясёлага, такой дарослай дзіцячасці, наіўнасці, як бы гульня.

— Наколькі ж гэта рознае, што ты іграла апошнім часам: у кіно — старая жанчына з сібірскай глушы — хустка, ватоўка, хата, лес; у тэатры — графіня па паходжанні з нумарам фашысцкага канцлагера на руцэ, прынятая ў каралеўскім палацы,— экстравагантнасць і абаяльнасць, сучаснае еўрапейскае жыццё, шампанскае...

— Шампанскае, Еўропа? Так. А мае беларускія бабкі ў «Верачцы» Макаёнка, у «Мудрамеры» Матукоўскага, у «Страсцях па Аўдзею» Бутрамеева? А раней — у «Людзях на балоце» Мележа? А Марыля ў «Раскіданым гняздзе» Купалы? Сама здзіўляюся, калі падумаю. Але... я не думаю. А можа, ёсць тут нейкая сувязь з тою атмасферай майго маладога часу: дваццатыя гады, наша студыя, і вакол — такое мноства непадобнага ў мастацтве і ў тым, у прыватнасці, з чаго мы самі тады пачыналі...

— Мне думаецца, акторы той, тваёй эпохі былі ў сваіх ролях больш значнымі, мелі нейкую большую «вагу», чым сучасныя. Яны культуру прафесіі і культуру наогул успрымалі толькі праз адно звяно пасрэднікаў, праз сваіх настаўнікаў, якія засталі яшчэ мастацтва мінулага стагоддзя. Хто ведае, можа, у вас таму і здольнасці да пераўвасаблення большыя — а пераўвасабленне, што б там ні казалі, усё ж, напэўна, і самае цяжкае, і самае галоўнае ў мастацтве. Гэтай якасцю, дарэчы, валодалі ў поўнай меры ўсе старыя майстры купалаўскай сцэны — ад Грыгоніса, Глебава, Дзядзюшкі да Платонава, Малчанава... Сённяшнія ж, сучасныя акторы, часта не пераўвасабляюцца, іншае жыццё іншага чалавека не ствараюць; ці адно знаццём, розумам намагаюцца ўзяць, неяк толькі азначыць, акрэсліць гэта,— ці «самаігральныя», як Шапіцька казала. І такое, на маю думку, у наш час назіраецца ўсё часцей не толькі ў тэатры, а і ў іншых мастацтвах.

— Я неаднойчы чула — ад масквічоў, напрыклад,— што ў нас, беларускіх актораў, прыкметна такая, ведаеш... нязробленасць, натуральнасць ці што, непасрэднасць, «наіўнасць» у добрым сэнсе...

— І шчырасць, а ўсё гэта разам — арганічнасць, «вымiраючая» якасць.

— Гэта сваё, нацыянальнае ў нашым тэатральным мастацтве доўгі час можна было разгледзець толькі ў саміх акторах і зрэдку — у некаторых спектаклях. Усё астатняе было ўніфікавана. Над усім навісала ідэалогія — як і ўсюды, вядома. І нас саміх прымушалі нішчыць уласную адметнасць. Асабліва ў трыццатыя, я помню. Божа, гэта ж было нейкае вар'яцтва. У тэатры пачалі выпускаць розныя «стенгазеты». Па загадах з Масквы шукалі «мясцовых нацыяна-

лістаў». Вось наша Ірына Фларыянаўна Ждановіч — колькі славы тэатру прынесла, а яе ж за прыдуманы некім антысемітызм і да «товарищеского» суда прыцягвалі, і патрабавалі публічна выракацца роднага бацькі Фларыяна Паўлавіча, арыштаванага як «нацдэма» і сасланага некуды ў лагер,— ён там і загінуў, а ён жа з ліку тых, хто ў літаральным сэнсе ствараў, пачынаў беларускі тэатр. Ды што там...

І глядзі, якая добрая глеба была для ўсіх гэтых рэпрэсій, насілля, здзекаў — менавіта наш характар. Падатлівы, мяккі, цярплівы.

Вазьмі мяне. Што, я сябе не ведаю? Ніколі не магла не тое каб цвёрда, рэзка патрабаваць чагосьці, хай сабе і зусім справядліва,— але проста пастаяць за сябе, нечаму ўспрацівіцца адкрыта і рашуча, не пагадзіцца, пратэставаць. А я ж актрыса: мы залежым ад рэжысёраў, рэпертуару, дырэкцыі — ад усяго! Ёсць, пэўна, моцныя людзі, з вялікай сілай волі, настойлівыя, смелыя. Я — не. Я паслухмяная. І ў рабоце таксама. Я іду за рэжысёрам, ягонай думкаю, задачай. І я ніколі не магла дабівацца, прасіць тую ці іншую ролю, нават заікнуцца пра гэта. Хаця, бывала, выдатна ведала, была перакананая: гэта — маё, і толькі маё. (Пастуквае пальцамі па стале; устае, падыходзіць да кухоннага акна.) Нібы каменным усё рабілася ўнутры. (Адвярнуўшыся да акна, з крыўдаю ў голасе.) І на цэлыя гады ўсё гэта расцягвалася. А ваяваць, біцца за сябе — не, і не магла, і не ўмела. Можа, і за сваіх, сваё... Так, беларусы... (Паўза.)

Я ж працую, калі задумацца, з пятнаццаці гадоў. І ўсё ў адным, можна сказаць, ведамстве. І вось ізноў у нас усё спачатку: хлеб, можа, будзе каштаваць мільён, як у маёй маладосці — фурман. А як я забяспечыла сваю старасць, з чым засталася? Не паверыць. Або вазьмі амерыканскія пасылкі. Я памятаю іх з дваццатых гадоў, ты — з сорак пятага, а цяпер — ізноў тыя пасылкі дапамогі? Не, давай лепш не будзем пра гэта, а то так горка робіцца і сорамна...

Але я заўсёды быццам бы ведала, разумела: маё — тое, што на гэтым свеце сапраўды маё — прыйдзе да мяне, будзе са мною рана ці позна, нават і без высокіх званняў. Прынамсі, жыла, нібыта была ўпэўнена ў гэтым, такое было пачуццё. Ну і вось... Дзякаваць Богу трэба і лёсу за тое, што людзі табе ўдзячныя... А вось табе з апошняга: стаю на аўтобусным прыпынку — бяжыць ад кіёска дзяўчынка маленькая, я нахіляюся да яе, а яна абхапіла мяне рукамі, звонка чмокае ў шчаку два разы і бяжыць назад, да бацькі... А яшчэ расказала знаёмая: хлопчык, убачыўшы мяне ў тэлевізары, падбег, зрабіў ля самага экрана такі пацалунак у паветры — і засмяяўся. Ну што ты скажаш! І галоўная загадка для мяне — чаму менавіта моладзь так часта пазнае на вуліцах, і рада гэтаму,— у яе ж сваё жыццё, свае захапленні, «куміры». Не разумею. (Смяецца.)

— Ну, зорка, зорка...

— Так-так, Мэрылін Манро. Нядаўна, дарэчы, бачыла перадачу пра яе. Там шмат разоў на розны лад: «секс, секс». Ці сённяшнія фільмы ўзяць: такое буйным планам, што... А потым святло ў зале запальваюць — і як глядзець адзін аднаму ў вочы? Быццам мы ўсе ў гэтым удзельнічалі. «Секс, секс». Не ведалі мы гэтага нічога. І як жа сталі тымі, хто мы ёсць? (Паўза.) Так, шмат чаго мы не ведалі. (Апусціўшы і закрыўшы галаву рукамі.) Няўжо ўсё гэта было і прайшло? Здавалася ж, не будзе канца!.. (Выпрамляючыся, весела.) Але нічога! «Жыццё кароткае, мастацтва — бясконцае» — так, здаецца?

— Дарэчы, чые гэта словы,— іх яшчэ дзед, памятаю, часта паўтараў пад настрой.

— Бацька казаў, што — Цыянглінскага, польскага мастака ці мастацтвазнаўцы, не ведаю.

— А яшчэ, прыгадваеш: «Скаванае жыццё — свабоднае мастацтва»?

— Так, яно, між іншым, сапраўды свабоднае, нягледзячы ні на што. Прымушаюць яго нешта там «адлюстроўваць», дагаджаючы ўладам, палітыцы, часу — яно як бы адказвае: добра, вось вам гэта, усё роўна цалкам мною не завалодаеце...

— У Пушкіна пра гэта выдатна: «Зависеть от царя, зависеть от народа — не всё ли нам равно? Бог с ними. Никому отчета не давать...».

— Менавіта так. Улады заўсёды клянуцца народам і думаюць, што мастацтва прыслугоўвае ім, а яно шырэй, вышэй за ўсё гэта. І застаецца назаўсёды, калі яно праўдзівае... А словы гэтыя — «Скаванае жыццё — свабоднае мастацтва» — калі не памыляюся, застаўка была такая маляваная, эмблема ў бацькавых старых кнігах, выдадзеных «Миром искусства»...

Ведаеш, што я марыла б сыграць? Ролю Невядомай. Можна без слоў, адно рухі, пластыка — быў бы водгук таго майго маладога часу. І так выявіць характар і сябе, каб глядач забыўся, хто ён у гэтым сваім жыцці, і адчуў бы сябе ў свеце прыгожага і таямнічага, у свеце мастацтва, значыць — вечнага... Чалавек не знікае зусім, штосьці ад яго нейкім чынам жыве і потым. У расліне, напрыклад. Ва ўсім жывым. Менавіта так — нейкім чынам, у нейкім вобразе. Але з жывой душою.

## 32

...Раней пра дзеда амаль не думалася. Ён аддзяляўся ў маім уяўленні ад усяго звыклага і заўсёд[illegible]га вельмі рэдка: з часам, мабыць, часцей, больш прыкметна, але кожны раз па-ранейшаму толькі на нейкае імгненне, быццам спяшаючыся некуды вярнуцца і не жадаючы пакідаць за сабою следу. Вось і зараз здаецца, што паўстае ён з успамінаў неахвотна, як бы з сумненнем — а ці трэба?

У той, ягонай прысутнасці ў сям'і, дзе ён, дзед, быў тады адзіным дарослым мужчынам, зараз бачыцца не толькі старэчая, сціплая звычка не надакучваць, але і адыход кудысьці да аднаго сябе, патрэба адчуць сябе нават не ва ўтульнай задуменнай адзіноце, а сярод цеснага побыту першых пасляваенных гадоў — з чужымі, іржавымі лыжкамі, што былі выцягнуты з-пад развалін, жалезнай печкаю, бляшанай выгнутай трубою, якая, нібы хобат, працягнулася да акна, з лямпачкай на доўгім шнуры і кардонкаю замест абажура...

Бадай, дзеду часцяком выпадала-такі заставацца аднаму, думаю я зараз,— і бачу, як у цьмяна-жоўтым святле вечароў, сярод скончаных да чарговага свята партрэтаў Маркса, Энгельса, іх наступнікаў («Заказ! Работа!») — дзед марудна, цэлымі гадзінамі асцярожна вымярае і пілуе нажоўкаю планкі для новых падрамнікаў, перастаўляе з месца на месца фанерныя кавалкі, шкрэбаючы імі па падлозе, або, нацягнуўшы на сябе нейкі страхалюдны балахон з заскарузлага брызенту, адзін у восеньскай цемры падворка ўпарта водзіць пілою па безнадзейна тоўстым намоклым бервяне, упэўнены, што яму там аж залішне светла ад акна за спіною... І як уранку, у шырачэзных, на шлейках, з калашынамі-гармонікамі штанах ён стаіць над электрычнай пліткаю і смажыць нам з Валодзем, сваім сынам ад другога шлюбу, тонка нарэзаныя лустачкі хлеба, растапіўшы на патэльні малюпасенькі кавалачак сала і націскаючы на хлеб нажом, каб лепей набралася тлушчам.

Гэты смачны, цёплы пах мы чулі, не паспеўшы яшчэ як след прачнуцца. Ад блізасці знаёмага ласунку, ад дурной сваёй, дзёрзкай радасці і жвавасці, энергіі, што патрабавалі нейкага выйсця, і невядома ад чаго яшчэ, мы адразу ж пачыналі чапляцца да дзеда, кпіць з яго, перашкаджаць. Дзед злаваў, хутка распаляючыся, і крычаў з нервовым імпэтам у голасе, з гатоўнасцю да скандалу:

— А-а! Графы нарэшце падняліся да грэнкаў! Што, ужо заяглíла? Ужо свярбіць, чэшуцца рукі! Так, бурсакі?..

Мы баяліся яго весела і з задавальненнем. А ён сіпеў у белыя вусы:

— Ыш, с-свалата...

І так сама сіпела на патэльні, і так сама водаправодны кран сіпеў у прамерзлым калідоры, дзе да перакручанага струменьчыка вады цягнуліся нявінна складзеныя, нібы ў малітве, далоні нашых шкодных, бурсацкіх — або нават графскіх — рук.

Праўда, здаралася, што дзед быў вельмі нам патрэбны,— проста не абысціся без яго. Узімку, калі мы на санках з'язджалі ад Дома афіцэраў аж да парку, ён тырчэў семафорам унізе, падаючы рукою знак, што нам няма пагрозы ад машын на скрыжаванні. А ўлетку мы яго цягнулі ў парк, калі на стадыёне «Харчавік» быў футбол, і дзед спакойненька рабіў неверагоднае: неяк праціснуўшыся ў страшэннай калатнечы да кантралёраў са сваёй вялікай папкаю і пукам алоўкаў у нагруднай кішэні пінжака, ён дзелавітым тонам паведамляў, што ён мастак, і мы — з ім, а яму «трэба сёе-тое замаляваць». Цуд адбываўся, нас прапускалі, і заставаліся ззаду ўсе перашкоды, нават і конная міліцыя на чале з рыжавусым капітанам «Лео» Гінзбургам.

Аднак нейкая ўпартая і незразумелая сіла штурхала нас да вечных сварак з дзедам. Мы яго дражнілі, рагаталі над ягонымі звычкамі, слоўкамі, адзежаю. Тут былі дурата, хлапчуковая бяздумная жорсткасць, нешта яшчэ. А дзед так раз'юшана кідаўся ў гэтыя сваркі, так з'едліва і люта — а галоўнае, як роўны! — біўся з намі, быццам толькі і чакаў гэтага ў тым сваім асобным жыцці, калі моўчкі корпаўся ў калідорным хламе, стаяў ля падаконніка, малюючы надпісы да шыльдаў, дошак гонару, або сядзеў з якой-небудзь старой кнігаю.

Ён прымушаў нас перад тым, як сесці да стала, мыць рукі. Ваду піць можна было толькі кіпячоную. І часта, нібы засцігнуты знянацку нашым прыходам са двара, ён сіпеў ад раздражнення і браўся выразаць нам кардонныя вусцілкі для змакрэлых чаравікаў... Тут нешта не стасавалася з усім тым, што мы пакідалі ў двары і што чулася адтуль то п'яным жаночым спяваннем, а то і радасным для нас звонам разбітага шкла.

Не стасавалася, ніяк не звязвалася між сабою і шмат іншага. У доме былі драўляныя кеглі, купленыя дзедам з надзеяй прывучыць нас да добрых гульняў; ягоны высокі танканогі мальберт, які мы тузалі, пакуль не звальвалі, прывязаным да ножкі рамянём, па-партызанску лежачы пад ложкамі; і дзіўны дзедаў музычны інструмент — цытра,— якая выклікала смех сваёю назваю. У доме быў вячэрні тэатр сілуэтаў з прасціною і лямпаю, якому навучыла маці, і дзённы тэатр на падаконніку са шклянымі фішкамі-акторамі, з шматкамі каляровага аксаміту, што адліваў цьмяным бляскам,— і белыя гіпсавыя галовы Лаакаона і Данатэлавага конніка Гатамелаты на сценах. А па-за сценамі дома заставалася ўсё тое, што чакала нас заўтра: пушчаныя намі пад адхон ваганеткі палонных немцаў, што разбіралі руіны — наша рэйкавая вайна з фрыцамі — і бясконцыя, з ранку да цемнаты, асадныя абстрэлы каменнем двухпавярховага будынка дзіцячага дома, чыіх жыхароў мы рэдка калі бачылі, але заўсёды пабойваліся, добра ведаючы пра іхняе каварства і жорсткасць.

А вечаровы змрок па-за вокнамі ўсё гусцеў, ярчэй свяціла лямпа, спакойнае цяпло прыемна разлівалася ў целе, і, нібы здаўшыся, дзед

пускаў нас у свой нябачна акрэслены круг зацішнай адасобленасці, дзе перагортваліся старонкі вялікай кнігі з адных чорна-белых малюнкаў, што прыцягвалі нас, быццам магніт.

— Хто маляваў, га?

Незадаволена гмыкнуўшы, дзед мармытаў:

— Дарэ, Густаў Дарэ. Гэта Майсей... Каін і Авель... Ноеў каўчэг.

— А хто вось гэта? Разрывае льву пастку?

— Самсон.

— Ён разарваў ці не?

— Гэта Самсон! Дужэй за яго не было!

— Ну, а пасля? Гартай, гартай яшчэ.

Дзед зноў спыняўся на Самсоне:

— Ноччу, адзін, знёс на спіне браму ад горада.

— А тут? Яна адрэзала яму валасы?

— Ён спаў! Уся моц ягоная была ў доўгіх валасах, па плечы...

— Што, ён абвальвае гэта ўсё на самога сябе?

Самсон, хаця і з кароткімі, абрэзанымі валасамі, рассоўваў убакі рукамі і каленам таўшчэзныя высокія калоны палаца, зверху ўжо валіліся каменныя глыбы балкона з людзьмі, а ўсе ўнізе, узняўшы галовы, з жахам ускідвалі рукі.

— Яны яго асляпілі і вывелі паказваць, каб здзеквацца, насміхацца,— казаў дзед.— Дык ён сабраў апошнія сілы, упёрся во — і абваліў агромністы палац з крыкам: «Памры, душа мая, разам з філісцімлянамі!»

— Сіла мацнейшая... Такіх людзей больш ніколі і не было напэўна?

У адказ дзед ізноў гмыкаў, здзіўляючыся, як гэта можна яшчэ пытацца пра такое. І хтосьці з нас звыкла пачынаў:

— А Лурых?

— Лурых! — дзед нават на хвіліну адварочваўся, даючы зразумець, што пра гэта і расказаць нельга таму, хто сам не бачыў.— Ён у цырку выступаў. Барцом. Увесь як усё роўна літы з бронзы. І хоць бы кропелька якая тлушчу — толькі мышцы!..

— Мускулатура, так?

— Атт! Няма вам чаго рабіць.

Бывала нават, што ён браў сваю, яшчэ даваенную, калі не дарэвалюцыйную гітару, і, пашчыпваючы дзве струны, самую тоўстую і тонкую, паказваў, як скрыпка з кантрабасам вяртаюцца ні з чым з п'янага вяселля:

— Не елі, не пілі, ды яшчэ пабілі,— плаксівым голасам вёў дзед за скрыпку, а кантрабас ягоны з дакорам бубніў басам: — Я казаў, што так будзе, я казаў, што так будзе...

Тады мы крычалі: «Антэк млоды!» — і дзед, каб адчапіцца, гаварыў:

— Ну, Антэк млоды...

...носіў лёды
На Беляны, жэ аж страх;
Гды яму горонцо было,
Танцовал польку: рах-чах-чах!..

І мы так і бачылі перад сабою гэтага дзівака Антэка, які цягаў марожанае некуды ў страшэнна далёкае месца горада, ці не Варшавы,— аж на Беляны, а калі яму рабілася горача, дык ён, узмакрэўшы, пачынаў яшчэ і польку танцаваць (рах-чах-чах).

Я ведаў тады, што ў выпадкова ацалелых кварталах горада ёсць кватэры «сапраўдныя». Нездарма ж бадзяўся ў марознай сіняватай цемры па вуліцах, гледзячы на вокны, у якіх мякка, роўна залацілася цёплая, хвалюючая ўтульнасць,— і нават рабілася сорамна за гэтую

сваю зайздрасць, калі хто-небудзь на вуліцы заўважаў мае запаволеныя крокі.

О, там, зразумела ж, было жыццё сапраўднае! Там не магло быць і ценю дзедавых перагародак з фанеры, што ператваралі пакой у каморы, дзе ўсё тырчэла, валілася, падвязвалася дротам ці падпіралася стосам кніг, дзе аднойчы ён нават змайстраваў нейкія груваcткія «палаці», на якія нельга было ўзлезці, як нельга было і зайсці пад іх, не сагнуўшыся ў тры пагібелі, і дзе старадаўняе крэсла без адной нагі, крыва нахіліўшыся набок, усё роўна як на каленях у сябе ўтрымлівала падлакотнікамі скрыню з бляшанкамі, а кут сырой сцяны склізла блішчэў, колькі б ні палілі. Там, у «сапраўдных» кватэрах, канешне, ніхто не стаяў ля падаконніка і не маляваў жоўтай фарбаю на сіняй блясе шыльду з нікім ніколі не чутай, незразумелай, проста дурной нейкай назваю «Консервлес». Той «Консервлес» пасля быў, як знарок, прыбіты да сцяны дома, у двары, і выходзіла, што гэта так наш дом завецца, а не сутарэнне пад ім, куды прывезлі сталы, лічыльнікі і бездань папак...

Мы глядзелі на чужыя вокны па дарозе ў лазню.

Надзеўшы на сябе ўсё, што было можна, дзед рухаўся наперадзе вялікім мяккім камяком, быццам набіты ватаю, а мы цягнуліся ззаду, ужо загадзя саромячыся яго пры сустрэчы са знаёмымі.

Пішчаў пад абцасамі цвёрда ўбіты на вузкім тратуары снег. Рэдкія лямпачкі злёгку пагойдваліся ўверсе на слупах. Настылымі свежымі дошкамі патыхала ад новага плота ў канцы вуліцы, мерзлі ў кішэнях рукі, а ў глыбі ўтульных вокнаў ужо было наліта цёплае густое святло, і там віселі маленькія купалы малінавых або зялёных абажураў.

І тут раптам дзед, быццам бы ледзь утрымліваючыся на нагах, рабіў свой нечаканы крок-выпад да людзей, што ішлі, як ён быў упэўнены, ужо з лазні, і, узмахнуўшы рукою, гулка крычаў:

— Ну як, завозна сёння там?

Людзі адхіствaліся, потым нешта адказвалі, а мы ўжо трымалі яго за рукавы:

— Не мог па-людску запытацца?..

— Не мог! Не мог, вашы вялікасці! — ускіпаў зараз жа дзед, робячы грымасы і ледзь не прытанцоўваючы са сваім баулам.— Ну навучыце вашага слугу, ну навучыце! І каго вы толькі з сябе корчыце!..

Аж да гэтай пары ўсё тое бачыцца так выразна, быццам адбывалася ўчора: бачна нават, як злосна моршчыцца тонкі гарбаты дзедаў нос, як разбягаюцца маршчыны ад маленькіх вачэй пад белымі брывамі. Але праз хвіліну гэта адыходзіць, растаючы ў часе, саступаючы месца іншаму — і, выйшаўшы з сіняватага паўзмроку кухні, дзед прыпыняецца ў шырокай касой паласе вечаровага сонца ў пакоі, узняўшы бровы: «Гэты Барыска з нашага двара... Гляджу — ён напалову ўжо з хварткі звесіўся сюды і цягнецца да посуду на падаконніку...» — «А ты?» — «Я? Плюнуў і пайшоў, чорт яго ведае... Дык ён тады: «А, дзядзя Міша, добры дзень!» Але і гэта растае, прападае, і думаецца пра тое, як аднаго дня я сядзеў, высільваючыся нарэшце неяк скончыць свае ўрокі, а за акном ішоў той дождж, што нудзіў ужо з тыдзень, не перастаючы, і сцены камяніцы ў двары насупраць сталі ліняць, усе слаі старой фарбы праступілі бруднымі плямамі з разводамі, нібы камяніца тая маскіравалася ад бамбёжкі. Так, я глядзеў на гэта, а з кухні тхала газаю, і дзед, які вярнуўся тады са сваёй першай, мабыць, і ўжо апошняй вандроўкі на поўдзень, у дом адпачынку, раптам паклаў мне на стол вялікую прыгожую кнігу пра Ціля Уленшпігеля і сам сеў побач. І не кніга ў той момант была галоўным, не-не, а тое, як мы з дзедам удваіх сядзелі моўчкі за сталом, і ён, гледзячы перад сабою, у акно, злёгку ківаў круглай блішчастай

галавою і паціху ўсміхаўся, крыху разгублены, быццам чалавек, які да ўсяго знаёмага павінен быў цяпер прывыкаць нанава.

Тыя частыя дзедавы адыходы на вачах усіх хатніх у нейкае асобнае сваё жыццё былі ў чымсьці і крыху сарамлівымі. Мо дзед не хацеў, каб гэта заўважалі? Сутыкнуўшыся з намі ў вузкім калідорчыку, ён рабіў хуценькую ўсмешку пад белымі вусамі, і праходзіў, саступіўшы асцярожна, акуратна, і адразу ж — твар збянтэжаны і ў той жа час незадаволены тым, што збянтэжанасць гэта прыкметная для нас...

Цяпер ужо шмат пра што застаецца толькі гадаць. Можа, дзеду бывала няёмка ад свайго жадання проста адпачыць ад усёй той стомы, што назбіралася ў ім за нядаўнія ваенныя гады, стомы, якая зараз, калі ўсім так хацелася яркасці і моцы новага жыцця, цягнула яго да старэчай прыстані зацішку і адасаблення. Можа, яму здавалася, што ён не мае яшчэ права на такую прыстань. Але чаму? Усе ў сям'і, хаця і нейкім цудам, аднак жа засталіся жывымі, а астатняе — што ж астатняе? — жывыя, значыцца, і надалей будуць неяк жыць.

І неяк жылі.

А потым надышоў час, калі дзед ужо амаль перастаў прыкмячацца. Ён не ўзнікаў болей нават як дзівацкая мішэнь для нязлосных нашых кпінаў і жартачак, якія шпурляліся ў яе па звычцы.

Ужо іншымі сталі і горад, і наш дом. О, усё было зусім, зусім іншае! І гарачым летам, калі сонца хавалася за вершаліны высокіх таполяў, мы кавалеравалі за знаёмымі дзяўчынкамі, стараючыся выглядаць бывалымі, ужо ўсяго зведаўшымі людзьмі і танцавалі з імі пад сіпячыя пласцінкі ў дварах.

Знаёмыя аж да пакут і сораму, адзіныя на свеце белыя гумавыя тапкі даверліва і асцярожна шархалі так блізка ад нашых начышчаных чаравікаў або старанна вытрымлівалі паўзу ў канцы. А то Валя Бяляцкі познім цёплым вечарам граў нам на акардэоне і падпяваў ціхім баском — святло з расчыненага акна падала на перламутр клавішаў і на цяжкія галовы вяргіняў, павявала нечымі першымі нясмелымі духамі і папяросным ветлівым дымком крыху ўбаку.

А потым, праз адно ці два леты, нахлынула ўжо ўсё тое, што п'яніла, чым жылося тады з радаснай прагаю, узахлёб і з патаемнай бояззю чагосьці не паспець, не ўхапіць і не паспрабаваць. І вось аднойчы я прыйшоў дадому толькі на світанні. Ціхенька адчыняючы дзверы сваім ключом, амаль не верачы, што ўжо нарэшце дома, я праклінаў сябе і быў гатовы ледзь не падлашчвацца да дзвярэй, каб яны не рыпелі і каб за імі ніхто мяне не сустрэў.

Шэрае святло стаяла ў акне і асвятляла пакой невыразна і цьмяна. Начныя цені неахвотна і ленавата, толькі таму, што я ўвайшоў, адсунуліся да сцен, кутоў і зноў ляглі там у глыбокай дрымоце. Пакой выглядаў меншым за ўчарашні. Я здзівіўся гэтаму, не ведаючы яшчэ, што так могуць выглядаць звыклыя месцы, калі ў іх вяртаешся, і што справа тут не абавязкова ў часе тваёй адсутнасці, а, можа, у тым, што з табою было і якім ты быў.

Рыпнула ззаду дошка ў падлозе: дзед усміхаўся, як заўсёды, крыху збянтэжана, але ў ягоных вачах можна было разгледзець і добрую хітраватасць, падбадзёрванне, калі ён колькі разоў паківаў, нібы кажучы: «Так, што тут зробіш...».

— Атт, усё бывае,— у той жа момант сказаў дзед з нейкай нават палёгкаю, можа, адчуваючы, што гаварыць пра гэта яму болей не трэба будзе.— Кажуць жа людзі: ні ад чаго ў жыцці не заракайся — ні ад торбы, ні ад турмы, ні ад жонкі,— ды і ад рознага іншага, значыцца. Ну, ідзі ж снедаць,— і першы пайшоў на кухню, склаўшы рукі за спіною, быццам у задумлівай прагулцы.

І са здзіўленнем падумалася: як жа даўно людзі ведалі ўсё гэта, калі нават прыдумалі такую пагаворку. «А, дык яны, выходзіць, нібы

загадзя дапушчалі гэта і ў выпадку са мною?.. Сам ты не ведаеш і не гадаеш, анічога не баішся, а хтосьці ўжо ведае ўсё, ведае...»

І вось, напэўна, у тую самую хвіліну, калі дзед падаўся да кухні, калі злёгку хіснуўся, паварочваючыся на сагнутых у каленях, пакрыўленых нагах,— у тую самую хвіліну я пазайздросціў яму.

Я пазайздросціў таму, што дзед увесь гэты час спакойна тупаў тут, сярод хатняга, ціхага зараз, як маленькая бухтачка, жыцця, дзе у дальнім куце за дзвярыма ваннай заўсёды вісіць, утульна і нявінна, бляклa-зялёная, цесная ўжо майка, а з левага боку — ручнік, што памятае твае рукі, твар і пакуль не трапіў яшчэ ў імклівы вір хатняга мыцця бялізны. Старая твая адзежа па-ранейшаму вісіць на вешалцы і чакае, што ты яе апранеш; абутак паслухмяна стаіць унізе і таксама чакае.

Не, дзед не пакідаў гэтага цяпла са звычнымі пахамі нашага жыцця дзеля ўсяго таго, ад чаго спачатку аж займае дух ад захаплення, а пасля — уніз, і дух быццам выходзіць з цябе, і застаюцца адно сорам і горыч. Ён не чапляўся за гэтае «кола шчасця», што ўздымае толькі для таго, каб апусціць, не болей. Дзед, пэўна, нешта такое ведаў, што засцерагае...

«А не папярэдзіў»,— хацелася ўпікнуць яго. Верылася ў тую хвіліну, што ўдалося б засцерагчыся, калі б дзед падказаў.

Але ні папроку, ні крыўды чамусьці не было: там, у паўзмроку ўжо не начной пярэдняй, дзе ціха з'явіўся дзед,— там ён стаяў зусім апрануты. Значыцца, так і не распранаўся, і не клаўся. Усё чакаў...

## 33

У той час дзеду ўжо было, здаецца, пад семдзесят, і на палатне алеем ён нічога не пісаў. Што ўдалося зрабіць да вайны — прапала ў гады акупацыі разам з большасцю калекцыі Мінскай карціннай галерэі.

Засталося літаральна некалькі ягоных работ, і сярод іх — «Аўтапартрэт» і «Партрэт дачкі».

Дачку ён пісаў у дваццаць трэцім.

— Я ўжо колькі часу жыла і вучылася ў Маскве, дадому прыязджала на канікулы, а калі ад'язджала ізноў, бацька і маці ішлі на Брэсцкі вакзал мяне праводзіць — я прыбягала аднекуль у апошнюю хвіліну з букетам гваздзік, якія сама сабе і купляла з такой нагоды: я — артыстка, я еду ў Маскву, каб вучыцца далей,— не было на свеце нікога, шчаслівейшага за мяне, я не ішла і не бегла — ляцела!.. І аднойчы, калі я ўлетку гасцявала дома, бацька вырашыў напісаць мой партрэт — а можа, я сама прапанавала ці папрасіла,— і ўсё зладзілася хутка і проста, без падрыхтоўкі. У блакітна-шэрай сацінавай сукенцы з кароткімі рукавамі, з вузкім беларускім паяском на галаве, я села на стале, падкурчыўшы ногі, абапіраючыся на стол рукамі і гледзячы некуды ўбок, а абедзве касы ляглі на калені. Хутчэй за ўсё, гэта я сама і прыдумала пазіраваць іменна так, таму што прыгадваю, як рабіла «фон», развешваючы сінюю хустку і замацоўваючы на ёй нешта накшталт бантаў з чырвонай гафрыраванай паперы. Бацька ўзяў аркуш кардону, прыкладна метр на паўметра, і за адзін ці два сеансы гэты дэкаратыўна-плоскасны партрэт тэмперaю быў гатовы. Яго можна цяпер бачыць у любым выданні рэпрадукцый з карцін Беларускага мастацкага музея і ў самой ягонай экспазіцыі...

У тым партрэце няцяжка заўважыць адметнасць тагачаснай манеры маладога дзеда — своеасаблівую, «наіўна»-смелую раскладку колеру; прыкладна тое ж самае ёсць і ў «Нацюрморце з яблыкам», і ў «Хатах». Пазней, у сталым узросце, ён стане пераканаsuccessfully ным і заўзятым рэалістам. Але ў хатніх вечаровых гутарках ён, апроч імёнаў Рэпіна і Крамскога, Левітана і Паленава, або Міле і Курбэ, будзе калі-нікалі вяртацца і да Маціса, Клода Манэ — як да чагосьці свайго маладога, лёгкага, свабоднага ад цяжкага, груваcткага «праўдападабенства», якое цалкам так і не авалодала ім.

Пасля Масквы, у 1921 годзе дзед упершыню трапіў на выставу — у яго ўзялі колькі работ, сярод іх былі «Сум» і «Дэкаратыўны матыў». А праз чатыры гады ён удзельнічаў у падрыхтоўцы Першай Усебеларускай мастацкай выставы. Быў час вялікіх спадзяванняў — усё кіпела, дыхала абнаўленнем, адраджэннем. Цяпер ён паказаў свае новыя палотны: рамантычны партрэт тэатральнага студыйца Васіля Рагавенкі ў ролі рыцара са спектакля «Цар Максімільян» і партрэт Міхася Філіповіча, свайго малодшага сябра, які пасля стане яркім нацыянальным жывапісцам і якога ён пісаў тут найперш як беларуса, з характэрнаю прыроднай мяккасцю, непасрэднасцю і даверлівасцю ў твары...

А калі скончылася вайна, дзед выкладаў маляванне і чарчэнне ў школах, тэхнікуме, за жывапіс браўся рэдка. Але апроч адпачынку на поўдні была ў яго ў канцы саракавых ці на пачатку пяцідзесятых яшчэ вандроўка на Рыжскае ўзмор'е. І цяпер, калі я гляджу на некаторыя акварэлі Валодзі, яго сына, таксама мастака, дык прыгадваю дзедавы эцюды, зробленыя ў тых месцах,— «Туманны ранак, Дзінтарс» і асабліва «Кусты пад ветрам»: жывы напружаны выраз у сагнутым ад моцнага ветру высокім узбярэжным кустоўніку, нейкі неспакой, трывога ў шчыльнай зелені, якая то амаль кладзецца пад нябачным напорам ветру, то ізноў выпростваецца.

Усё гэта, што жыве на вачах у руху асобна ад чалавека, незалежна ад яго, я бачу і адчуваю так, як бачу і адчуваю галіны, траву, ваду і вецер на экране ў фільмах Андрэя Таркоўскага.

Аднак я не ўпэўнены, што зразумеў бы гэта ў Таркоўскага так, як удалося зразумець, калі б не адчуў гэта, хай невыразна, несвядома, яшчэ раней, даўным-даўно, калі першы раз пабачыў дзедавы «Кусты».

Нельга зразумець у мастацтве тое, што не адчуеш.

А дзед — што ж, ён быў мастак, і шмат што са зробленага ім — зараз не так ужо і важна, лепшае ці горшае — знікла. Іншым разам мне нават здаецца, што, мабыць, так і павінна здарацца ў мастакоў, наогул у людзей творчага жыцця. Мусіць, і павінна нешта прапасці, або не адбыцца. Страчанае такім чынам неяк дае пра сябе ўведаць у тым, што застаецца, да нечага яго ўпотай падштурхоўвае і рухае далей.

Прынамсі, гэта не абсалютная страта. Не бясследная.

— «Партрэт дачкі» адшукала пасля вайны ў Германіі, куды яго вывезлі, і вярнула ў Мінск дырэктар нашага мастацкага музея Алена Васільеўна Аладава. А тое няскончанае палатно, што зараз у мяне вісіць — начная сцэна ля фантана з «Дурной для іншых, разумнай для сябе» Лопэ дэ Вэгі, якую бацька пісаў па памяці,— ён сам адшукаў падчас акупацыі ў вестыбюлі гарадской лазні і неяк здолеў вярнуць сабе: я — у ролі Дыяны, і Канстанцін Быліч — Алясандра... Я вярнулася з тэатрам з эвакуацыі, і няскончаная бацькам сцэна ля фантана з таго майго спектакля ізноў вісела на сцяне — аднак Алясандра, Канстанціна

Быліча, ужо на свеце не было. Ён не вярнуўся з намі. І не адзін ён... Вось лёс: з'ехаць ад вайны на край зямлі, на цэлыя гады,— каб на зваротным, доўгачаканым шляху дамоў загінуць у крушэнні цягніка...

У перадапошні год жыцця дзед напісаў яшчэ адзін «Аўтапартрэт». Цяжка сказаць, ці думаў ён у гадзіны той працы, пазіраючы ў люстэрка, пра свой першы, малады аўтапартрэт, дзе ён намаляваны з кароткімі вусікамі, у капелюшы,— ці згадваў яго? Цяпер жа вусы былі адвіслыя і сівыя, а замест капелюша — старая цёмная кепка, пакамечаная і друзлая, ссунутая на адзін бок і падобная здалёк на берэт,— можа, якраз такі, што насіла мастачка Пальміра Любаміраўна Мрачкоўская-Камоцкая, у чый дом з «Пагібеллю «Тытаніка» на верандзе хадзіў некалі вучыцца малады дзед,— берэт, пра які ён потым казаў: «Як на аўтапартрэце ў Рафаэля».

Два ці тры з апошніх сваіх год дзед з ранняй вясны ледзь не да снегу кожны дзень праседжваў у парку імя Чэлюскінцаў, на адной і той жа лаўцы, робячы алоўкам накіды тых, хто сядаў на колькі хвілін побач з ім. Мы ведалі гэтае месца, куды ён ездзіў у тралейбусе, і аднойчы наведалі яго там, у «студыі», як ён жартаваў: ягоная дачка, унук і праўнук.

Я не памятаю ўжо, пра што тады гаварылі і ці доўга былі разам. Але добра памятаю, як перад нашым адыходам ён паглядзеў на свайго праўнука і ўсміхнуўся. У той усмешцы, апроч усяго, была яшчэ і як бы лёгкая разгубленасць. Хто ведае, можа, у той момант ён неяк асабліва выразна ўбачыў, зразумеў свой узрост, непазбежнасць хуткага свайго адыходу,— і кароткі пераход яго, некалькі крокаў да другой лаўкі ад звыклай, заўсёднай, быў невыпадковы: ён не хацеў, каб усё гэта кінулася ў вочы і нам.

А зараз, калі я думаю пра тое, дык бачу, як некалі ён уваходзіць з кухні ў пакой, асветлены сонцам, як заўсёды, крыху пахіснуўшыся на парозе і збянтэжана ўсміхаючыся, ледзь ківаючы круглай блішчастай галавой, быццам пагаджаючыся з нечым, з уздыхам кажа, гледзячы сабе пад ногі:

— Так, колькі ні жыві, а разлік трэба браць...

Мусіць, ён узяў яго своечасова.

Калі яго праўнук быў маленькі, дык на пытанне, як завуць прадзеда, адказваў: «Прадзед». І толькі потым дадаваў: «Міхась Пятровіч». А калі пыталіся, ці памятае яго, гаварыў: «Так. Калі я ўвайшоў, ён ляжаў на ложку. Ён даў мне магніт». Тады ён бачыў прадзеда ў апошні раз. А калі пайшоў у сваю першую студыю малявання пры домакіраўніцтве, то пачуў ад выкладчыка-пенсіянера, які зведаў у жыцці і вайну, і палон, і ўсё астатняе: «А я некалі пачынаў у твайго прадзеда».

## 34

— Нават калі б я і змагла дакладна, сцісла вызначыць штонебудзь такое... ну, «гістарычнае» ці «філасофскае», што часта маюць на ўвазе, распытваючы мяне пра жыццё і мастацтва,— нават, калі б і змагла, усё роўна атрымалася б неяк ненатуральна, бо трэба фармуляваць — а які з мяне тэарэтык? І потым, я думаю так: хочаце зведаць чалавека — спытайце ў яго пра іншых людзей. А маё жыццё, маё разуменне часу, мастацтва — што гэта такое, па сутнасці? Найперш — людзі, не абавязкова творчых прафесій,

але якія найбольш уразілі мяне нечым, запомніліся. Людзі, якія міжволі паўплывалі на мяне як на чалавека ўвогуле, а не толькі як на актрысу.

— Але ж ты вельмі шмат сустракала і ведала такіх людзей — пра ўсіх не скажаш.

— Так, і, на бяду, тут многае ўжо проста мільгае ў памяці без паслядоўнасці, здараюцца абрывы ў той ці іншай лініі, калі яе вядзеш, як успамін...

— А давай возьмем тых з гэтых людзей, хто быў бліжэйшы да цябе ў самім тваім жыцці. І нават так: бліжэйшы ў літаральным сэнсе — і да тваёй сям'і, да нашага дому.

— Я разумею. Тады, мусіць, трэба нам з табою сказаць тут пра Філіповіча. Так-так, пра Міхася Філіповіча. Дарэчы, я апошнім часам не раз яго ўспамінала: убачу ў друку ягонае імя — і ўзнікае пачуццё, што сапраўднае прызнанне, сапраўднае разуменне зробленага ім — яшчэ, можа, наперадзе. Цяпер, праўда, нібы ўсё патрэбнае ў дачыненні да яго ўжо адзначана: вельмі нацыянальны жывапіс, фальклорна-казачныя матывы, яскравасць і адметнасць народнага жыцця і гісторыі на яго палотнах,— усё гэта так...

— А я нядаўна зайшоў у наш Мастацкі музей, падняўся на другі паверх, у залу беларускага мастацтва 20-х гадоў і паглядзеў карціны Філіповіча...

— ...Мішушы нашага,— ты памятаеш, як пасля вайны ён адно лета ледзь не кожны дзень у нас праседжваў? Абедалі, ён выпіваў сваю «маленькую», з белай галоўкай, што з сабой прыносіў. Рабіў у альбоме накіды алоўкамі.

— Я быццам бачу гэта і цяпер. Добры быў час... Дык вось, гляджу я на яго карціны ў музеі, і адчуванне было дзіўнае такое, ведаеш: нібы ўцягваешся, хай сабе на імгненне, у жыццё, якога наваокол няма, можа, і не было, але якое бачыш альбо мроіш, трызніш — без розніцы, галоўнае, што ўяўляеш гэта — значыцца, ствараеш. Жывеш ужо не толькі адно сваё жыццё, але і іншае, у іншым часе і прасторы. Праз раму вось такіх карцін, калі ўжо не збаяцца гучных слоў, дарога ідзе вельмі далёка, аж да вечнага. Як і праз «раму» сцэны, калі там адбываецца нешта жывое...

Стаяў я каля Мішушавай «Бітвы на Нямізе», каля «Старога беларуса з люлькай», «Жанчыны ў намітцы». Цішыня, белыя сцены залы, шыльды на некалькіх мовах з ягоным, звыклым з дзяцінства імем. Самі гэтыя палотны, іх фарбы, каларыт, дух іхняга часу, атмасфера той культуры, мастацкіх плыняў, захапленняў,— усё гэта ўжо назаўсёды, для ўсіх застанецца вось такім, кранальна-нязменным, святочна-ўрачыстым, як у творах сапраўднага мастацтва, што дасылаюцца людзям у будучы час мастакамі са сваіх дзён, якімі б ні былі гэтыя дні неспрыяльнымі для іх і жорсткімі. І тое, што было перада мною ў прыгожых рамах — было і Мішушава, і ўжо не яго, разумееш? Яно было ачышчана ад усяго выпадковага, часовага, залішне побытавага. Яно было менавіта творамі мастацтва, чымсьці наіўна-даверлівым, безабаронна-адкрытым і, здавалася, простым, як гліняная цацка — але адначасова і адмыслова-майстэрскім, нават і вытанчаным, чыя прастата выглядала падманлівай і загадкавай. І ўсё звыкла-хатняе, будзённае, што спалучалася з імем «Мішушы», як мы яго звалі, адышло, знікла. Падумалася: дык вось ты, значыцца, які...

— А я ж бачыла, як ён працаваў. Памятаеш, ён быў такі цюхцяй, часцей за ўсё сядзеў, угнуўшы галаў, і маўчаў. Нешта прашамкае ці хрыпла засмяецца — і зноў маўчыць. Пануры, твар нібы заспаны, пакамечаны. Ён выглядаў значна старэйшым, чым быў. Ніколі не ўбачыш яго прычасаным, зубы ніяк не ўставіць — быц-

цам даўно ўжо махнуў рукой на ўсё і на сябе самога. І раптам — быццам зусім іншы чалавек перад табою: ён пачынаў працаваць. Мяне гэта так моцна ўражвала, я нават не ўяўляла, што такое можа быць. Вочы жывыя, маладыя, позірк пранізлівы, учэпісты, а рухі хуткія, лёгкія,— ну не пазнаць! Ён рабіўся проста прыгожым. Каб мяне хто спытаў, як можа выглядаць само натхненне, я, пэўна, адразу ўбачыла б у памяці Міхася Філіповіча за працай,— так, яго, нашага Міхася Мацвеевіча.

Ён да нас прыходзіў яшчэ на Ленінградскую — тады, мусіць, яшчэ Петраградскую вуліцу, у 20-я гады. Яны з маім бацькам і іншымі мастакамі тады ладзілі першыя беларускія мастацкія выставы, удзельнічалі ў іх. Памятаю, як яны завіхаліся, развешваючы карціны па сценах у нейкай зале на Губернатарскай вуліцы: калі ісці да плошчы Свабоды, дык па правай руцэ, перад гасцініцай «Еўропа», што стаяла там на рагу. І яшчэ бачыла, як яны рыхтавалі экспазіцыю ў фае Камернага тэатра — ён быў і тэатрам мініяцюр пасля — у будынку, які і цяпер стаіць на той плошчы, колішняй Саборнай...

А нядаўна я прыгадвала збольшага, што магла, пра Філіповіча для аўтараў дакументальнага фільма аб ім. Яны ўсё вызнавалі, чаму ён з'ехаў у Маскву. Відаць, і з прычыны ўціску яго тут як «нацдэма». А што да Масквы, дык ён там яшчэ з юнацкіх гадоў падоўгу жыў. Так склалася ягонае жыццё. Ды й сям'я ў яго там пасля была. Вестка пра вайну застала яго ў Мінску, але ён, як пачуў гэта, кінуўся адразу ж на вакзал і нейкім цудам убіўся ў вагон. А ўжо апошні раз паехаў туды адсюль у сорак шостым, здаецца, ці ў сорак сёмым — неўзабаве і памёр там...

У Маскве, заўваж, ён здолеў увабраць у сябе нямала прафесійнай мастацкай культуры — вучыўся ў свой час у Каровіна, потым у Фалька, зазнаў сур'ёзнае захапленне французскім жывапісам — асабліва Сезанам. Але глядзі, што цікава: у адрозненне ад многіх масквічоў, што захапляліся тады Сезанам, у прыватнасці, мастакоў групоўкі «Бубновы валет», Філіповіча, як я зразумела, цікавіў не зрух аб'ёмаў, а колер. І як хораша ён потым змог перадаць ужо сваім, «дэкаратыўным», колерам тое чароўнае, што ёсць у паэтычнай фантастыцы беларускіх казак, паданняў! Мне больш за ўсё помніцца ў яго «На Купалле» — гэты віхурны танец і ўзнятае на руках кола з агнём. Можа, я адчуваю тут найперш тэатр, відовішча? А Філіповічавы лірнікі, дудары, касцы, сяляне на кірмашы!.. А ягоныя альбомы нацыянальнага адзення, старых хат, драўлянай разьбы!

У нашым Мастацкім музеі, ты ж бачыў, яго карціны вісяць зараз у адной зале і нават на адных сценах разам з бацькавымі. Там — і татаў партрэт Філіповіча: ён малады яшчэ, якім я памятаю яго на пачатку дваццатых гадоў. Здаецца, так трапна і выразна ўсё гэта перададзена: мяккасць характару, сумнаваты спакой, даверлівасць,— тыпова беларускае, на маю думку. Мусіць, тата менавіта гэта і пісаў тут — згледзеў гэта ў сваім маладзейшым сябры. Напісаў яго з футравым каўняром — той насіў модную тады «бекешу», такое нібы паліто са зборкамі на спіне... А насупраць, у той самай зале — аўтапартрэт таты — во як яны цяпер ужо сустрэліся, глядзяць адзін на аднаго. Не, не дарэмна кажуць, што мастацтва — вечнасць.

— Я зараз прыгадаў: неяк пасля вайны ідзем мы па вузкім драўляным мосце цераз Свіслач, недзе недалёка ад Гандлярнай вуліцы. Мішуша Філіповіч, як заўсёды, глядзіць сабе пад ногі і маўчыць, быццам спіць, толькі перастаўляе іх. Пасля спыніліся і, абапёршыся на поручні, глядзім які час на ваду,— ён раптам хрыпла про-

сіць, каб я падняў камень і кінуў уніз, а сам ужо ўтаропіўся туды — прачнуўся, значыцца. Я кінуў, узляцелі пырскі. А ён глядзеў не проста так — я разумеў, што гэта яму было патрэбна для нечага. Цяпер, калі на вочы трапляецца ягоны маленькі эцюд алеем — хвалі і пырскі,— чамусьці згадваецца тое даўняе, на мосце...

— А мне ён часта ўспамінаецца наогул, Філіповіч. І яго сціплацсць, і нейкая амаль што безуважнасць да ўсяго наўкол, што не тычыцца мастацтва,— я б сказала, нават і да сябе самога... І тыя моманты яго жыцця, якія я назірала — як ён раптоўна кідаецца да працы, да паперы з алоўкамі ці да пэндзляў і якім у тую хвіліну робіцца. Цяпер ужо, адгэтуль, я быццам гляджу на гэта і думаю, што тады, у тыя моманты, хто пабачыў бы яго з жанчын, то закахаўся б, па-сапраўднаму. І вось гэтым бы я адказала разам на ўсе пытанні пра сваё разуменне мастака, жыцця ў мастацтве — замест усялякіх разважанняў,— ну, не ўмею я сказаць інакш.

— А Галіна?

— І Галіна, так. Зразумела ж, і Вольга Уладзіміраўна таксама... Гэта ўжо літаральна частка майго ўласнага жыцця. Мая Волечка... Ты ж ведаеш.

## 35

— Я нават не змагла б сказаць, з якога часу ведаю яе, Галіну, калі ўпершыню пабачыла, калі мы пазнаёміліся. Адчуванне такое, што ўсё гэта было заўсёды, без нейкай пачатковай кропкі, моманту. І я звала яе то Воля, то Галіна,— гэты яе псеўданім быў для мяне і як сапраўднае імя. Вось такія мы былі блізкія з ёю — здаўна, яшчэ з перадваенных гадоў. А сцэнічнае імя — Галіна — даў ёй, Грудзінскай, Якуб Колас: яе маці і маці Коласавай жонкі былі добра знаёмыя, а Колас стаў і як бы хросным бацькам для яе на беларускай сцэне. Ён спачатку паспрабаваў, як гэта гучыць: «Галінка... Галіна...» — і спыніўся на апошнім. І гэта вельмі добра стасавалася з яе выглядам — яна была вышэй сярэдняга росту, грацыёзная такая...

Родам яна з Лідскага павета тагачаснай Віленскай губерні, бацька быў настаўнік, і ў сям'і стараліся даць дачцэ адукацыю, вучылі і французскай мове. А потым яны жылі ўжо ў Вільні, і яна вучылася ў жаночай гімназіі, дзе дырэктарам была княжна Валконская...

— Мы ж разам заўсёды жылі на гастролях, памятаеш,— з той самай пары, як ты мяне пачала браць з сабою. Першы раз, у Гродне, я так здзівіўся, убачыўшы ў Вольгі Уладзіміраўны французскія кнігі. Сорак пяты ці сорак шосты год, я тады ўпершыню ў жыцці выехаў з разбуранага Мінска, дзе ў школе яшчэ і беларускіх, здаецца, кніжак не бачыў, не тое што...

— Яна чытала Мапасана толькі ў арыгінале. Але не ў гэтым справа. Вось кажуць: беларускасць, беларушчына,— і я, калі даводзіцца пра Галіну гаварыць, часцей за ўсё пачынаю не з роляў, а з самой яе, з яе высакароднасці, чысціні, пачуцця годнасці. З той вось шляхетнасці, так бы мовіць, дзе нічога няма ад фанабэрлівасці, ад пана Адольфа Быкоўскага з Купалавай «Паўлінкі», а дзе толькі душэўная культура. Яна не магла нават уявіць, што ў якой-небудзь ролі ёй прыйдзецца ўжываць грубы выраз. Увогуле грубасць або такая, ведаеш, скамянеласць, суровасць характару Вользе Уладзіміраўне была не даспадобы, і іграць гэта яна не

любіла. І я табе прывяду просты прыклад: у спектаклі «Праўда добра, а шчасце — лепш» Астроўскага яна іграла купчыху Барабошаву праз сілу, як бы насуперак сабе. Іншая справа, што гэтага не заўважалі гледачы — ну, дык на гэта і прафесійнае майстэрства, а яно ў Галіны было вельмі высокага кшталту,— як, дарэчы, ва ўсіх нашых найбольш буйных майстроў таго часу — Глебава, Платонава, Ждановіч, Ржэцкай, Дзядзюшкі, Малчанава, Рахленкі... Хай прабачаць мне тыя, каго тут зараз не назвала.

І вось табе два чалавекі: Філіповіч, які нарадзіўся ў Мінску, жывапісец, з сям'і былога селяніна Барысаўскага павета; і Галіна, актрыса, з Лідскага мястэчка Жалудок. Больш непадобнае цяжка ўявіць, асабліва знешне. Філіповіча заўсёды хацелася неяк выправіць — і падлячыць, і трохі падсілкаваць, і неяк асвяжыць, хоць бы прычасаць. А побач з другой ужо сама міжволі аглядалася на сябе — як сядзіш, як апранутая, як гаворыш ці паводзіш сябе за сталом. І абое яны ў той жа час былі беларускімі мастакамі, творчымі натурамі, асобамі. Вось на прыкладзе таго, што і як яны рабілі ў мастацтве, можна бачыць, я так думаю, і самую сутнасць беларускай мастацкасці, і тое, пра што мы не заўсёды памятаем — менавіта шырыню яе, «дыяпазон», як кажуць. Ці разнастайнасць, багацце палітры. Міхась Філіповіч, гэты «стары беларус з люлькай», як ён назваў адну сваю карціну. І Вольга Галіна, якая пачынала Ганнай у «Машэку» Міровіча, а потым найбольш выявіла сябе ў Соф'і з «Апошніх» Горкага і ў чэхаўскіх гераінях...

Што б я хацела яшчэ сказаць у сувязі з гэтым? Атрымоўваецца неяк ураздроб, але што зробіш... Яна, Галіна, магла выглядаць для некаторых — і выглядала — гэткай «нетыповай» фігурай у беларускім тэатры: няма такой сялянскай каржакаватасці, нешта арыстакратычнае, высакароднае. Тое, што было «не нашым» на працягу ўсяго — нашага — жыцця ў мастацтве... Не, сапраўды, ты толькі задумайся: пражыць цэлае жыццё на сцэне — і самую сваю сутнасць выяўляць адно ў вобразах «нетыповых» для савецкай эпохі людзей, усіх гэтых «варожых», «апошніх» ці там «буржуазных». Я нават не ведаю, як у тыя праклятыя трыццатыя не зацікавіліся з пэўнага боку гэтым яе «падазроным амплуа»... Аднойчы мы з ёю ігралі маленькія ролі ў адным спектаклі, у «Ганне Карэнінай»: яна — маці Вронскага, я — Долі...

Я заўважала яе самакрытычнасць. Яна ў сталым узросце, бывала, паглядзіць на свае рукі і скажа: «Ну, хіба ж можна з такімі страшэннымі рукамі іграць жанчын, якіх я іграю!» І на спектаклі накладвала на рукі насоўку. Яна і з тэатра пайшла значна раней, чым магла. Казала: «Я ж так рэдка занятая — і на поўным заробку, а што нашым маладым плацяць? Не магу я ім замінаць». Мела званне народнай артысткі рэспублікі. І ніколі не падраблялася пад простанародную ў жыцці, нават жартуючы, як гэта нярэдка робяць. Да ўсіх ставілася роўна, добра, са шчырай павагай, з цярплівасцю. І нейкая дыстанцыя адначасова адчувалася паміж ёю і іншымі. Тут давала сябе зведаць выхаванасць, зноў-такі пачуццё годнасці і ветлівасць, а не панібрацтва ці, наадварот, клопат пра ўласную адметнасць,— пра гэта яна ніколі не думала.

Гледзячы на яе, я разумела яшчэ лепш простую ісціну: народнасць мастака не ў тым, каб падрабляцца пад народ,— ды й не падробішся пад яго, ўрэшце. Хутчэй ён яшчэ пад нас «падробіцца». Памятаю, на выязным спектаклі, недзе ў калгасе: вечар, ідуць міма нашага «службовага ўваходу» ў клуб жанчыны з поля, пытаюцца: «Ну, каго вы тут прывезлі з самых вядомых, га?» Мы: вось такі, маўляў, і такі з намі, народны артыст Савецкага Саюза.

А яны: «Народны? Дык гэта такі, як мы — што тут глядзець?» — і пасмейваюцца гэтак хітранька.

Не, не кажы, народ ведае, чаго ён хоча ад мастацтва, толькі не заўсёды скажа гэта ўголас, дакладнымі словамі. Аднаго свайго — толькі ў маштабе адзін да аднаго — яму малавата. Яму патрэбна тое, што вышэй за ўсё яго звыклае. А падрабляцца пад яго сэнсу няма. Ён жа нас і паправіць, калі трэба.

Вось мяне, артыстку таксама са званнем «народная», запісалі аднойчы на пласцінку для школьных урокаў беларускай мовы. Начытала тэкст, казку — і забылася. А потым атрымліваю ліст ад аднаго хлапчука з дзевятага ці дзесятага класа вясковай школы. «Дзякуй вялікі,— піша,— усё так добра і цікава, выразна, вось толькі...» І няёмка, адчуваю, яму, і трохі бянтэжыцца, што вучыць даводзіцца, аднак кажа: а «эсь» у вас усё ж цвёрдае... Я прыслухалася — відаць, так — ёсць грэх у народнай актрысы.

Далей. Вольга Уладзіміраўна ніколі не падладжвалася пад гэткую, ведаеш, «простую» манеру паводзін і гаворкі ў самых будзённых абставінах. Незалежна ад таго, з кім яна размаўляла. І сяляне адразу бачылі і паважалі гэта, гаварылі з ёю з ахвотай. (Паўза. Пасля — з усмешкай.) Не забуду, як недзе на Гродзеншчыне, здаецца, адзін дзядзька з мястэчка тлумачыў, як нашаму тэатральнаму аўтобусу ехаць да мясцовага палаца культуры. Звяртаючыся чамусьці больш да Галіны, ён спакойна, цярпліва даводзіў: «Спярша будзе брукаванка, брукаванка, потым пойдзе осфальт, осфальт, пасля зноў брукаванка, зноў осфальт — і там ужо тое, што вам трэба».

Я ведала Галіну шмат часу і была ўпэўнена, што ведала яе добра, як ніхто. І ўсё роўна яна не пераставала мяне ўражваць. Яна жыла адна пасля таго, як яе муж, родны брат Ларысы Пампееўны Александроўскай, заўчасна памёр у пяцідзесятых гадах. І ёй ўжо было цяжка мыць бялізну, аддавала прачцы ці ў пральню — але спачатку сама памые, як здолее — саромелася... А ў апошні час у яе заўсёды нехта жыў з маладых, яшчэ не паспеўшых уладкавацца ў жыцці людзей. Аднаго разу, выйшаўшы ўвечары ў краму, яна сустрэла маладую жанчыну, якая, як высвятлілася ў кароткай выпадковай размове, збіралася начаваць на вакзале. «Як гэта на вакзале?» — і Галіна адразу ўзяла гэтую жанчыну да сябе, дапамагла ёй з працай і ўсё такое. Яна любога чалавека ўспрымала найперш як чалавека, як сябе. І не жадала, проста не магла засяроджвацца на ягоных хібах, недахопах. Ці ж трэба даказваць, што ўсё гэта — менавіта хрысціянскае? Хаця знешне, вонкава не было ў ёй ніякіх прыкмет рэлігійнасці. Яна была чалавекам культуры, а не адно цывілізацыі.

У яе былі два родныя браты. Яны пасля рэвалюцыі жылі далёка: адзін — у Югаславіі, другі — у Амерыцы. І ў канцы 60-х гадоў яна па іхнім запрашэнні прыехала ў Югаславію, куды прыляцеў і брат амерыканец, хірург. Яны на машыне аб'ехалі ўсе прыгажэйшыя куткі гэтай краіны, пабывалі ў Дуброўніку,— яна гаварыла пра яго казачную прыгажосць, і я ўяўляла сабе ўсё з гэтых слоў, нібы сама там была. А цяпер, калі я бачу на тэлеэкране, у што ператварылі тую краіну і цудоўны Дуброўнік гэтыя хворыя фанатыкі ідэй — усё роўна якіх, галавой бы яны ўсе налажылі! — калі бачу гэта, то супакойваю сябе толькі адным — што мая Волечка гэтага не пабачыць ніколі.

Яна нарадзілася ў 1899 годзе — у апошнім годзе мінулага стагоддзя. Чалавек з дзевятнаццатага стагоддзя не можа, не павінен жыць у нашым. Не, справа не толькі ў працягласці і абмежава-

насці чалавечага жыцця. Справа ў іншым тыпе культуры — і перш за ўсё культуры душы.

## 36

— Ты змагла б адказаць — што такое наогул «сучасны акцёр»? Менавіта «сучасны»?

— Вось Уладзімір Крыловіч быў сучасным акцёрам для свайго часу, для трыццатых гадоў. А наш Віктар Тарасаў — для цяперашняга часу. Глядзі, якая паміж імі была розніца — і якое падабенства. Тады публіцы, ды і ўсім нам, мабыць, імпанавала ў акцёры што? Нейкая такая яркая адкрытасць, можа, патэтычнасць нават. Памятаю: першая дэкада беларускага мастацтва ў Маскве. «Гута» Рыгора Кобеца. Крыловіч — у ролі пажылога рабочага-вынаходцы Мароза. Знешні малюнак вельмі яскравы. Як цяпер кажуць — адкрытым тэкстам. Пафас. Нават і экзальтаванасць момантамі. І ўсё гэта тады жыло на сцэне, дыхала не скажу што фальшыва. Адпавядала духу таго часу. А цяпер паглядзі — Віктар Тарасаў, нашы дні: знешняя стрыманасць, эмоцыі далёка не заўсёды выходзяць на паверхню. Далей: нейкая асаблівая — ты адчуваеш гэта — псіхалагічная дакладнасць, даставернасць і жыццёвая канкрэтнасць вобразу. Аналітычнасць. Інтэлектуальнасць, калі хочаш. І ўсё гэта — у самім характары нашага сённяшняга ўспрымання навакольнага свету. Адпавядае цяперашняму часу? Адпавядае.

А вазьмі Генадзя Аўсянікава. Якая глыбокая і адначасова ясная прастата выяўлення! Тая прастата, што ідзе ад сілы таленту арганічнага, свабоднага, не скаванага нічым залішне «разумовым», тэарэтычным. Ты заўважаў, з якім, так бы сказаць, запасам, лёгкасцю стварае ён патрэбны яму вобраз? Здаецца, яму не трэба ніякіх намаганняў. Талент устойлівы, упэўнены ў сабе.

А Галіна Кліменцьеўна Макарава! Зноў жа скупасць знешніх, вонкавых сродкаў. Найнатуральнейшая, але і вышэйшага мастацкага вырабу народнасць. Мудрасць і сумленнасць. Дадай яшчэ сюды адну якасць, вельмі каштоўную для кожнага акцёра, але далёка не ў кожнага яна ёсць — здольнасць адразу ж, без разваг выклікаць у гледача поўную даверлівасць і сімпатыю да сваёй гераіні. Так, быццам ён сустрэў у жыцці чалавека, сталую жанчыну, якую ўжо ведае даўно і якой заўсёды гатовы даверыцца... Хіба ж такое вось не лічыцца сучасным у акцёрскім майстэрстве?

— Так, хаця не толькі гэта.

— Але — і гэта! З націскам на «і». Дарэчы, калі на тое пайшло, на гэтых «і» ўвогуле трымаецца свет. Мастацтва і жыццё складаюцца з мільярдаў самых розных «і» — злучальнікаў, заўваж, не раз'яднальнікаў. «І» сведчыць аб багацці, разнастайнасці, складанасці. Аб вашай, аб маёй цярплівасці, гатоўнасці не адштурхнуць. А ў гэтых катэгарычных «ці-ці», «альбо-альбо» ёсць нешта абмежаванае, абкарнанае, забараняльнае, адным словам...

— Бальшавіцкае.

— Напэўна. Але далей: калі адзін акцёр сучасны для сваёй эпохі, а другі — для сваёй, дык яны павінны ўсё ж мець нейкае падабенства, нешта агульнае. Што гэта на прыкладах таго самага Крыловіча і, скажам, Аўсянікава? А тая праўда жыцця, што ёсць у створаных імі вобразах. Так, менавіта праўда жыцця, хоць словы гэтыя і надакучылі шмат каму з-за неашчаднага карыстання

імі. Але словы не вінаватыя. Вінаватыя людзі, якія доўга хвалі за іх вымаўленнем адсутнасць іхняга сэнсу ў тым, што самі рабілі. І потым, гэта здаўна заўважылі: у мастацтве сучаснае найперш тое, што хвалюе сучасніка, што можа ўзрушыць самае сур'ёзнае, глыбокае ў ім. А што хвалюе людзей заўсёды, ва ўсе часы? Перадусім — праўда, але праўда, якая нейкім асаблівым, а як на маю думку, то нярэдка і невытлумачальным чынам здзейсненая мастацтвам. Такая праўда жыве і сёння, і заўжды. Таму сапраўдны вялікі мастак, мастак у гэтым во сэнсе, праўдзівы, і можа стаць, як кажуць, чалавекам на ўсе часы.

— А мастацтва і жанчына,— не, дакладней так: жанчына ў мастацтве?..

— Што б ні казалі, асабіста я ўпэўнена: у мастацтве жанчыне значна цяжэй, чым мужчыну. Ён больш свабодны. Гэта так лёгка пабачыць на прыкладах побытавых, псіхалагічных — і ў той жа час не заўсёды здолееш вызначыць гэта сцісла ў словах... Нягледзячы на ўсю так званую эмансіпацыю, калі ў нас жанчына дабіваецца нечага істотнага ўпоравень з мужчынамі, дык гэта даецца ёй куды большымі намаганнямі і напружаннем. А ў тэатры... Акцёр, як мастак, шмат ад чаго залежыць, вось у чым бяда, няшчасце нашай прафесіі. Ну, а жанчына на сцэне — няма пра што і казаць.

Па-першае, яна залежыць ад рэжысёра, ягонай творчай манеры, мэты, наогул мастацкага бачання. Па-другое, ад п'есы, рэпертуарнага плана, «накірунку» свайго тэатра. Па-трэцяе, ад узросту. Далей — ад сваіх вонкавых якасцей. І гэта не кажучы яшчэ пра галоўнае, што амаль нельга сфармуляваць дакладна, а толькі прыблізна можна пазначыць як унутраны свет, ягоная адметнасць і — што не менш важна — магутнасць гэтага свету і, так сказаць, памеры, глыбіня, адным словам, маштабнасць.

Інакш кажучы, моц і яскравасць таго няпэўнага, загадкавага, містычнага, калі хочаш, што якраз і не даецца вызначэнням лагічным, слоўным, як не даецца гэтаму музыка. І нездарма еўрапейскае мастацтва тэатра ідзе, як мне ўяўляецца, ад старажытных містэрый, ад стыхіі музыкі і танца, дзе свабода ўнутранага стану дасягае межаў экстатычных, аргіястычных. Мне здаецца, так было ў тыя пракаветныя часы, у антычных грэкаў, у іхніх святах саспелай прыроды, ураджаю, у святах віна, музыкі і танцаў...

Ведаеш, калі я ўспамінаю са сваёй сцэнічнай маладосці «Вакханак» Эўрыпіда, тэксты і ўнутраную атмасферу іх, у тым ліку — і ў нашай тагачаснай пастаноўцы, дык згадваю назву адной работы Ніцшэ, якую ніколі не чытала, нават не бачыла: «Нараджэнне трагедыі з духу музыкі». Так, мне падабаецца ўжо сам гэты выраз: «дух музыкі», бо, на маю думку, у музыцы — усе недасяжныя для лагічнага розуму чалавека патаемныя глыбіні. І жыццё яго падсвядомасці. Музыка, упэўнена, ідзе калі не ад танца, руху, рытму, дык, прынамсі, разам з імі. І адкуль жа ёй узяцца, калі не ад руху і рытму самога жыцця, яго няспыннага, пругкага біцця знутры ўсяго жывога — біцця сэрца, току крыві, торгання імпульсаў, розных рэфлексаў...

— Спачатку, сказана, было слова.

— Спачатку быў танец — жывое жыццё, і словам усяго гэтага з'яўляўся танец. Потым — і шмат што іншае. Але доўгі час спярша — адно танец. Я так адчуваю — і лепей бы табе ўжо спыніць гэтую маю «філасофію», бо пра танец я магу гаварыць бясконца.

— Ты казала пра тое, ад чаго залежыць актрыса.

— Ага, значыцца, узрост, знешнасць і, скажам так, унутраная індывідуальнасць. Але ўсё гэта — тваё і разам з тым не тваё. Бо

ўсё падпарадкоўваецца, як я ўжо казала, рэжысёру, рэпертуару. Апошняе, у сваю чаргу, залежыць ад часу, ад усялякіх абставін, грамадскіх сітуацый і варункаў жыцця. А цяпер вазьмі графіка ці пісьменніка, кампазітара. Будзе гэта друкавацца або выконвацца, не будзе, але пішуць яны, малююць часцей за ўсё тое, што само як бы просіцца з іх — вядома, калі яны сапраўдныя мастакі. І таму скажу: смеласць патрэбна любому чалавеку для заняткаў мастацтвам, для таго, каб проста ўвайсці ў гэты свет. Любому — падкрэсліваю. Але акцёру, ці толькі будучаму яшчэ акцёру, актрысе — патрэбна не смеласць нават, а нейкая апантанасць, можа, нават, вар'яцтва. Ну, і на жаль,— не ўсім гэта будзе даспадобы — у акцёрскай прафесіі, здаецца, патрэбна ў пэўнай меры быць і... нахабным. У сэнсе ўсё той жа смеласці, раскаванасці, упэўненасці ў сабе і безагляднасці.

Але тут праходзіць танюткая, але вельмі важная рыса, што аддзяляе ўпэўненасць у сваіх сілах ад той небяспечнай самаўпэўненасці, фанабэрлівасці, калі чалавеку бракуе агульнай і прафесійнай культуры і таленту. Бо вялікі талент — гэта вельмі складаны і развіты арганізм, у якім, апрача ўсяго, ёсць і механізм самаахоы — значыць, здольнасць ацэньваць сябе нібы збоку, нават часам займацца і «самаедствам», як кажуць. Бо лепш нябачна ўгрызаць самую сябе за нейкую няўдачу, чым не зважаць на яе да тае пары, пакуль за цябе ўжо не возьмуцца іншыя. А яны возьмуцца абавязкова, і тым раней, чым раней ты «забранзавееш».

— А як ты думаеш, ёсць у акцёрскай прафесіі што-небудзь такое, што б не падабалася самому акцёру ці людзям іншых заняткаў?

— Ёсць. І тут жанчына, актрыса, у больш выгадным, выйгрышным становішчы. Яна амаль не бывае смешнай. І яна значна радзей за мужчын выклікае ў гледачоў жаль, пачуццё няёмкасці, а то нават і сораму. Разумееш, калі я бачу немаладога ўжо мужчыну, які паўзе па падлозе з мікрафонам у руцэ падчас свайго «спявання», або высільваецца ў зусім недвухсэнсоўнай, проста кажучы, распуснай дзерганіне, а гэта трансліруюць па тэлебачанні,— дык я іншым часам думаю: а што калі яго сын зараз глядзіць на свайго бацьку?.. Публічнасць нашай прафесіі — рэч складаная. Так, нас усюды пазнаюць. У метро ты не можаш схавацца ў натоўпе, застацца на колькі хвілін сам-насам — ловіш нечы зацікаўлены позірк. Але ж пазнаюць і тое, што ў нас ёсць знутры, хай сабе і не гавораць нам пра гэта.

— Мне заўсёды здавалася, што ў мужчыну-акцёры ёсць нешта, як бы сказаць...

— Не мужчынскае. Так і скажы. І я задаволена, што ў цябе іншая прафесія. Бо добра яшчэ, калі акцёр іграе, што называецца, мужчыну. А калі — недарэку нейкага ці блазна, анекдатычную нікчэмнасць, або нешта такое, занадта пяшчотнае ці субтыльнае? Я табе пра Шайкевічаў з Адэсы не расказвала? Сям'я інтэлігентная, любяць тэатр — наш беларускі, у прыватнасці. Маці, дачка — заўзятыя, перакананыя гуманітаркі. А бацька — былы афіцэр флоту, здаецца, марскі інжынер. Аднаго разу я спытала ў яго, ці любіць ён тэатр: ён жа заўсёды з сям'ёй у першых радах партэра, калі мы там гастралюем. І ён неяк збянтэжыўся, усміхнуўся, але, як чалавек шчыры, сказаў мне: «Не...». Я спытала, чаму? І ён дадаў, так вінавата нібы: «Калі я гляджу на акцёраў мужчын... Мне неяк сорамна, ці што...». І я табе шчыра скажу, што вельмі добра яго зразумела. Ты ўяві сабе: кардэбалет — і чалавек, у жыцці ўжо сівы, іграе — значыцца, танцуе — ну, каго ты думаеш? Сабаку ў балецеказцы.

— А ты ж кажаш: акцёру трэба быць і «нахабным».

— У тым сэнсе, паўтару, што неабходна верыць у сябе, быць разумна ўпэўненым. Мастацтва і сцэна ў тым ліку — жорсткі свет: альбо ты прымусіш іншых прыняць тваё, альбо цябе прымусяць узяць чужое.

## 37

— І вось ізноў падумала пра тое, што і як я тут расказваю, і мне зрабілася неяк няёмка. Ты ж ведаеш — ёсць такія выдатныя ўзоры акцёрскіх маналогаў і дыялогаў, успамінаў, згадак. Пра сябе, пра сваю прафесію. У мяне ёсць кнігі Алы Дзямідавай, Алісы Коанен, Соф'і Гіяцынтавай... Возьмеш у рукі — як жа разумна, цікава, глыбока і тонка разважаюць яны пра свой лёс, нашу агульную справу, пра мастацтва і час! А я — чалавек, які не піша і не разважае. Прынамсі, я сябе менавіта так успрымаю. Слова мне даецца цяжка, не падуладна мне, не слухаецца. Прыгадай во, колькі ты, здаралася, раздражняўся, нават злаваў, калі я хацела нешта хуценька табе паведаміць ці пераказаць, хай сабе самае простае, і мыкала, спатыкалася амаль на кожным слове, не магла яго звязаць з іншымі зграбна і трывала...

— Не перабольшвай.

— Не, сапраўды. Я гэта ўсё да таго, што нярэдка адчуваю: мне куды лягчэй штосьці мімікай, жэстам ці інтанацыяй паказаць, пластычна выявіць, калі я расказваю, чым паслядоўнымі, упарадкаванымі фразамі. Відаць, мне трэба было жыць у эпоху нямога кіно. А калі сур'ёзна, то ўсё гэта — і ёсць вобразнае мысленне. Сутнасць гэтых слоў я адчуваю фізічна — сваім тварам, рукамі, голасам. Вобраз пластычны для мяне — найкарацейшы шлях, самы надзейны сродак данесці сваю думку да другога чалавека. Выявіць рухам, выразам твару, вачэй. Бывае, так захочацца, каб чалавек вось зараз жа, у адзін момант з табою пабачыў тое дрэва ці бераг ракі, пра якія ты яму кажаш, што нават забываешся на словы, ці не давяраеш ім, успрымаеш іх, як нешта сумнае, адцягненае, а мо проста ўжо зашмальцаванае — і ў ход ідуць рукі, плечы, розныя кіўкі галавой, і голас...

Прыгадай, як нашаму маламу Дзіму я расказвала пра паніклае над ракой дрэва, ці пра нейкае кустоўе, што ашчацінілася калючкамі? Я і не расказвала — хутчэй паказвала, усёю сабой. Схіляеш вось так галаву, апускаеш рукі. Або: рукі во так, перад сабой выстаўляеш, пальцы ва ўсе бакі гэткімі нібы патарчакамі, адпаведна «калючы» выраз на твары: паспрабуй толькі падысці — ураз адскочыш з енкам! Любое дзіцё, нават зусім малеча, адразу гэта разумее. Мова прыроды і мова гульні яму зразумелыя аднолькава добра. Гэта самой жа прыродай і закладзена ў яго.

— А памятаеш, той хлопчык на «Пунсовай кветачцы»?..

— А, цудоўны прыклад! Я ў гэтай казцы на дзіцячых ранішніках адвечную сваю Бабу-Ягу іграю. І вось сяджу на куфры, які стаіць блізка да краю сцэны, недалёка ад першага рада крэслаў, гляджу ўбок на тое, што робяць іншыя персанажы, а нейкі хлопчык, расказвалі мне потым, падскоквае да сцэны і, калі я не бачу яго, трасе кулаком, пагражае мне з залы, як самай сапраўднай, «жыццёвай» Язе. Не, я табе скажу: чула я кампліменты... але такога...

У мастацтве, колькі б ні працаваў, хочацца выяўляць сабою ўсё больш і больш з таго, што жыве наўкол цяб. Усё болей і болей жывога. І я, напрыклад, стараюся разгледзець, злавіць жывы рух у выгібах галінкі, карэння, ва ўзоры на сасновай кары — і ў сваёй біжу-

тэрыі, кулонах і каралях зрабіць так, каб гэтае жывое зайграла б нейкім выразам сваім і для іншых людзей, усім было прыкметнае. А ўвогуле распавядаць доўга і падрабязна словамі — справа для акцёра няўдзячная. Гаварыць пра ягонае жыццё і асобу павінны яго вобразы, тое жыццё, якое стварае ён на сцэне. Менавіта яно больш за ўсе словы можа сказаць пра гэтага акцёра, ягоную прафесію, лёс, здзейсненае ім. І я заўсёды па-добраму зайздросціла тым, хто можа лёгка сам гаварыць пра ўсё гэта ў розных «кінапанарамах», «тэатральных гасцёўнях», у сустрэчах на тэлебачанні. Калі ўжо трэба — магу так гаварыць і я, але я толькі іграю тады тую нібыта лёгкасць, нязмушанасць, з якой кажу пра нешта словамі, на самой справе мне лягчэй было б нешта даць адчуць праз тую ці іншую ролю, праз фрагмент.

Яшчэ раз: самае галоўнае ў акцёры — у вобразах, створаных ім. Ну і, натуральна, узнікае пытанне: а які ён сам, гэты акцёр, у жыцці, так сказаць, як асоба, індывідуальнасць? Мы з табою неяк гаварылі пра гэта, але скажу ізноў: нават самы славуты акцёр — у жыцці самы звычайны чалавек. Больш за тое: можа, нават, і не асоба, не індывідуальнасць прыкметная. Страшна вымавіць, але іншым часам думаеш: каб ствараць значныя вобразы іншых людзей, акцёр павінен быць у нейкім сэнсе... «пустым» сасудам, павінен мець знутры сябе дастаткова месца, прасторы для жыцця там іншых людзей, ягоных герояў, персанажаў. Але гэтая прастора — не фізічная, а духоўная, там Богам змешчаны нябачны нікому магічны крышталь, дзякуючы якому і ўзнікае мастацтва.

## 38

— Перастаю разумець... Шмат што проста перастаю разумець. І чым болей жывеш, тым менш ведаеш, як трэба жыць. І як жыць наогул... Вось надыходзяць Дзяды. Непрацоўны ўжо цяпер дзень. Гэта добра. Гэта патрэбна. Каб людзі ўспомнілі ўсіх сваіх, каб хаця трохі і самі апомніліся ў гэтым тлуме, дзерганіне, дастаўванні самага неабходнага. У гэтай нашай суцэльнай чарзе літаральна праз усё жыццё ад нараджэння да смерці і яшчэ пасля яе, на могілках... Але ж Дзяды надыходзяць, а ўсё амаль застаецца па-ранейшаму. І шмат што нават палохае.

Неяк чую па радыё нечае інтэрв'ю: камуністы яшчэ павінны сябе паказаць, сказаць сваё слова!.. Ну, ты бачыш — яшчэ не паказалі. Яны яшчэ «павінны». Мала ім было. Госпадзі, так страшна робіцца, калі чуеш гэта,— бо ўжо ведаеш зараз, разумееш, хоць і позна, што было раней. І не за сябе страшна, не за нас — што нам ужо... А за малых, за ўнукаў — каб ім, крый Божа, не зламалі жыццё...

— Супакойся. Ну, не плач.

— Я не плачу... У мінулую восень Мая Кляшторная — я добра яе ведаю, яе бацька, пісьменнік, быў рэпрэсіраваны,— дык яна расказвала. Прыйшла, як і шмат іншых людзей, на Дзяды ўвечары на вуліцу Урыцкага, да гэтай вядомай усім будыніны. Свечку запаліла, як і ўсе, у памяць родных, што загінулі без віны. І нічога ж не рабілі, ціха стаялі, сядзелі. Не, не падабаецца — падыходзяць да іх раз за разам і ўсё: «Ідзіце дадому, ноч на дворы, ідзіце і кладзіцеся спаць». Але больш за ўсіх шчыравала нейкая п'яная кабета, што апынулася там на досвітку. «А чаго вы тут тырчыце, га? Няма чаго рабіць? Усе людзі даўно спяць, а вы, так і растак!..» І гэткія во — самы небяспечныя. Яны нейкім асаблі-

вым нюхам беспамылкова заўсёды ўчуюць, дзе і хто жыве нечым большым, чым яны,— тым, да чаго ім не дацягнуцца. І такіх людзей яны не выносяць фізічна. Заўсёды хочуць сцягнуць іх уніз, на свой узровень: калі ўсе ўнізе, у яме, дык яе не заўважаеш. Галоўнае, каб ніхто не вытыркаўся.

Цяпер я шмат што разумею, дазналася. А раней — ну якая я была раней? Нават не верыцца. Мама спалохалася рэвалюцыі, не магла ўявіць далейшага жыцця і плакала. А я ёй: «Як, ты супраць? А як ты жыла — гэта ж эксплуатацыя?» А сама я, глядзі ж ты, ні ў партыі ніколі не была, ні ў камсамоле нават. Хоць, прыгадваю, наш колішні парторг Уладамірскі, «стары Ўлад», не раз і не два падступаўся з такою прапановай да нас з Галінай Вольгай Уладзіміраўнай. Але мы нават не думалі пра гэта. Проста перакананыя былі, што да гэтага не здатныя, не разумеем тут нічога, ды й наогул, не нашая гэта справа, адчувалі...

— Мяне аднойчы спытала адна знаёмая, тэатральны крытык: а што, маўляў, маці твая ніколі не была ў партыі, не працавала ў ёй? Я кажу: не, а што? Тады яна: па прафсаюзнай лініі таксама? Кажу: таксама. І яна ціхенька, быццам сабе: «А тады як жа?..» Разумееш?

— Як дасягнула гэтага — вядомасці і ўсё такое, не будучы ніякім «дзеячом»?

— Так.

— А гэтага ўжо не растлумачыш некаторым людзям. Калі ўжо не разумеюць, дык не разумеюць. Ты можаш гаварыць што хочаш — будуць маўчаць, думаць сваё. А то зусім не думаць: проста адсунуць гэта, ім незразумелае, далей — як выключэнне, недарэчнасць нейкую... Тады, у юнацтве, усё, што звязана з рэвалюцыяй, было для нас новым — новае ж захоплівае моладзь ужо толькі адной навізной сваёй... А нядаўна стала я хроснай маці нашага маладога акцёра... ну, ты ведаеш. Ён хрысціўся ў трыццаць тры гады. Думаў і раней, але бацькі ў яго камуністы, відаць, перажывалі, і ён доўга не хацеў іх засмучаць... А вось цябе хрысцілі без мяне.

— Нават і запіс ёсць аб гэтым, захоўваецца з той пары.

— Бачыш, як склалася. Таксама дзіўна: снежань сорак першага, мы з тэатрам ужо з паўгода ў Сібіры, вы тут, у Мінску, акупацыя... Але ж зрабілі, што было патрэбна. І ацалелі ўсе. А мой тата са сваёй сям'ёй — як іх хата выстаяла насупраць Дома ўрада, зараз якраз пасярэдзіне плошчы Незалежнасці? У гэты ж дом нашы самалёты, кажуць, стараліся пацэліць бомбамі ў кожны свой налёт. І вы там былі недзе недалёка, за Заходнім мостам. Маглі б і на вас...

— Маглі б, а чаму не? Казалі, Грызадубава, знаная лётчыца, гераіня, яе звяно ці эскадрылля бамбілі Дом урада аднойчы на свята 8 Сакавіка,— бомбы ляглі паблізу, у жылы квартал: вуліца Берсана, Трубны завулак... Пэўна, лічылася — такой бяды. Мы ж тады былі хто? Не «нашы», бо жылі пад немцамі. Колькі гадоў у пашпартах дарослых пра гэта сведчыў спецыяльны штамп, чырвоны. Маглі і высяляць з кватэр, калі была патрэба. Мы, дзеці, у школьных біяграфіях, уступаючы ў піянеры, утойвалі, што былі ў акупацыі — нам так раілі. А ў Тамары нашай у першы месяц пасля вызвалення «наш» капітан гадзіннік зняў з рукі на вуліцы, памяць пра маці, што памерла ў вайну сваёю смерцю.

— Во як перакруцілася ўсё. Жыццё і лёс... У Шэкспіра недзе так: жыццё — аповесць, у якой шмат гулу і шаленства, але якой бракуе сэнсу, нібы яе пераказаў вар'ят... Неверагодна, колькі несумяшчальнага для чалавека можа адбывацца ў адных і тых жа месцах, дзе ён жыве ў розны час. Ізноў жа, быццам не адно жыц-

цё жывем, а некалькі. Ты кажаш — Дом урада, гарадскі наш, мінскі цэнтр. А я прыгадваю: зіма з сорак чацвёртага на сорак пяты. Тэатр наш ізноў дома. І я вязу цябе ўвечары на санках адзінай тады вуліцаю з ліхтарамі — праз увесь пабіты, у руінах, цэнтр — і я шчаслівая! Іду міма «чырвонага» касцёла. Праз год, здаецца, тут, на процілеглым баку галоўнай вуліцы, побач з ці не адзінымі тады ў горадзе гастраномам і кнігарняй адчыніцца тытунёвая крамка — бадай, самае шыкоўнае месцейка тагачаснага цэнтра. Утульнае святло, маленькі столік пад аксамітным абрусам, канапа і папяросы ў прыгожых зялёных каробках, «Герцагавіна Флор» — потым іх называлі «папяросы Сталіна». А я тады яшчэ трошкі курыла, па інерцыі з вайны, толькі больш танныя — ну, «Беламор», напрыклад...

Над кнігарняй там, з драўлянага балкончыка знаёмых, разам з цудоўнай сям'ёй Чалікавых — памятаеш іх? — мы глядзелі першамайскія пасляваенныя парады, быццам бы з ложы ў тэатры. Так усе радаваліся міру і жыццю, што пра вайну амаль не ўспаміналі. А толькі ўсяго гады са тры таму наўсцяж усёй гэтай галоўнай вуліцы ляжалі нашы забітыя палонныя — вы мне расказвалі, калі я прыехала.

— Той зімою, сорак другога, немцы іх усю ноч гналі з Таварнай станцыі некуды праз горад, і ўсю ноч чулася страляніна. А жанчыны з нашага дома раніцой, калі скончылася каменданцкая гадзіна, дайшлі галоўнай вуліцай да сквера ля цяперашняга вашага тэатра — і ўсюды ўздоўж тратуараў ляжалі забітыя — ніцма, бо спярша, напэўна, падалі на калені і ўперад ад знямогі,— такія саслабелыя былі. І ўсюды была відаць кроў, змерзлая на вытаптаным снезе. Жанчыны нашы запомнілі гэта — і двух мужчын у форме нямецкіх афіцэраў. Яны ішлі наперадзе, пільна ўглядаючыся ў забітых, быццам вышукваючы некага. Па напружаных тварах было відаць, што яны нервуюцца. Прагна курылі, азіраліся. Заўважылі, што звяртаюць на сябе ўвагу. І тады нашы жанчыны павярнулі і пайшлі назад... Вось расказалі мне, даўно — а да гэтай пары стаіць перад вачыма. Хто былі тыя двое? Каго шукалі? Ужо ніколі не дазнаешся. Таямніца, загадкавасць, як жыццё наогул.

— ...А потым ужо я бачыла праспект, які забудоўваўся ў цэнтры новымі гмахамі.

— Увесь пасляваенны цэнтр Мінска будавалі, танцуючы як ад печы, ад раскошнай будыніны КДБ з калонамі,— хто бачыць упершыню, дык думае: тэатр,— шыльды ж няма і не было ніколі, як і ў Маскве, дарэчы. Будавалі палонныя, толькі немцы ўжо. Ахоўвалі гмах салдаты ў доўгіх белых кажухах; вінтоўкі са штыкамі. Ахоўвалі гаспадара, другога пасля Лаўрэнція Берыі,— Цанаву.

— Што было на гэтым месцы да вайны? Я спрабавала ўспомніць — не магу.

— А гэта ўжо зусім іншая справа, больш людская. Цікава, што амаль ніхто ўжо не ведае. А я ведаю. Тут было самае неабходнае ўсім людзям у горадзе — ГУМ. І ў ім працавала мая цётка Надзея Іванаўна.

## 39

— Адна з маіх апошніх роляў у нашым тэатры — Анфіса, бабуля ў «Трох сёстрах» Чэхава. І вось слухай: падчас прэм'еры атрымліваю з Масквы сцэнарый новага фільма па гэтай п'есе. Напісаў

папулярны, спрактыкаваны такі сцэнарыст Мярэжка. Прасілі азнаёміцца на выпадак магчымай будучай работы. Ну, чытаю. Глядзі сюды, што там ужо засталося ад Чэхава, ад ягоных «Трох сясцёр», увогуле ад таго жыцця, якое ён пісаў. Вольга, старэйшая, што працуе ў гімназіі, тут, у сцэнарыі, цалуецца з гімназісцікамі. Маша закаханая — і не платанічна, не — у Ірыну, ці наадварот. Салёны закаханы ў Тузенбаха — ці зноў-такі наадварот. Усё, значыцца, з найсучаснымі гэткімі, рыначнымі вострымі прыправамі. Урэшце — хай сабе, але пры чым тут Чэхаў? Маўляў, паводле ягоных матываў. Ну няма ў яго такіх матываў. Яму яны не былі патрэбны, абыходзіўся неяк. Дык чаго ж вы за яго трымаецеся? Рабіце сваё і пакіньце яго ў спакоі.

— Не — «па матывах». Калі сваё праваліцца, дык разам з Антонам Паўлавічам — і тады, магчыма, хоць паспачуваюць.

— Я табе расказвала пра маё апошняе «сучаснае кіно»? Здымалася ў Ялце, памятаеш? Такі кадр: у шырачэзным капелюшы, высунуўшыся ў акно, страляю з ружжа...

— У каго?

— Не ведаю, не сказалі.

— Хто аўтар, рэжысёр? Якая назва?

— Не пытайся ў мяне. Нават не было часу даведацца. Хуткасць. Дынаміка. Камерцыя.

— А стрэліла тваё ружжо?

— Так, два разы.

— Пацэліла?

— Пацэліла, хоць і не бачыла. Пабачыла ўжо ў касе. Шкада, што толькі эпізод. (Смяецца.) Я разумею, разумею — сучаснае кіно не толькі такое, гэта, можа, і сапраўды адно эпізоды ў ім. Але ж, але ж... Як усё змяняецца на свеце! Хіба ж я магла калі думаць, што буду іграць тое, што іграю зараз? А кіно, такія вось кадры,— цікава, калі б іх пабачыў тата... І што дзіўна: чым далей ад пачатку жыцця, ад дзяцінства — тым бліжэй, бліжэй такі во «кадр» адтуль — старая фотакартка некалі была: я, малеча, і тата, нейкі вайсковец, ягоны прыяцель — грудзі наперад выгнуты, вусы — і іншыя яго сябры, я нават прозвішчы іх памятаю,— і муляж сабакі з намі, столік на бярозавых ножках. Так мы стаім, у тым часе, у нейкім «атэлье». І, значыцца, хтосьці, накрыўшыся чорным сукном за трыногай апарата, кажа нам: «Спакойна! Здымаю. Глядзіце сюды!» І вось глядзім дагэтуль. Не, усё жыццё ўвогуле — як сон...

...Можа, гэта і сапраўды сон.

Сон, у якім ты — не тое што не малы, а і даўным-даўно не малады — ляжыш на ложку, не хворы і не стомлены, адно супакоены пасля раптоўна адышоўшай трывогі і цяжкага пачуцця безвыходнасці,— ляжыш і нібыта бачыш, хоць бачыць не можаш, як маці, стоячы побач, у галавах, кладзе, супакойваючы цябе, сваю руку — і не на галаву табе, а толькі блізка да яе, на падушку, і дотык, рухі гэтай рукі гучаць як голас, словы, інтанацыя — і нават лепш за іх,— і ты ўсё разумееш.

Сон? А гэта, наступнае — таксама сон ці ўжо ява? Не так проста дакладна адказаць, і, папраўдзе, не так ужо і хочацца гэта ведаць. Хочацца толькі глядзець і слухаць тое, што нібы без усялякай сувязі паміж сабой выплывае з туману дзён і гадоў,— даўно бачанае і чутае, але і нейкае новае зараз для цябе.

Напрыклад, тое, як падчас першага пасляваеннага адпачынку з маці ў санаторыі, у Друскеніках, зазірнуўшы ў цесны зальчык санаторнага клуба ўсё ж не пазнаеш яе на маленькім няўклюдным памосце: светлавалосую, у чорнай аксамітнай сукенцы,

з blішчастымі каралямі, завушніцамі і з веерам у руцэ, калі яна, Дыяна, з жаночай уладарнасцю трыумфуе сваю перамогу над Тэадора — Барысам Кудраўцавым, з якім яны іграюць тут перад курортнікамі сцэны з «Сабакі на сене» Лопэ дэ Вэга.

...І як тая самая жанчына, але ўжо іншая, праз шмат, шмат гадоў на сваёй звыклай вялікай сцэне шчымліва камянее ў горы Купалавай Марылі з «Раскіданага гнязда» пасля горкіх слоў Сымону — Валянціну Белахвосціку:

Гавораць: «Ноч»,— хоць дзень на свеце —
І ты з усімі «Ноч!» — крычы.
Крычаць: «Галей!» — ідзі галеці.
Крычаць: «Маўчы!» — і ты маўчы.

...І тое, як яшчэ праз нейкі час яна выходзіць да краю сцэны са складзенымі перад сабой у малітве рукамі, яна — маці Зуйка — Уладзіміра Кудрэвіча ў «Страсцях па Аўдзею» Бутрамеева, і ў галасе яе, які ўсё ж з гадамі крыху мяняецца, ты чуеш і тое ж самае, здаўна знаёмае, нязменнае, што пазна́еш і з тысячы нават падобных галасоў як наяве, так і ў сне,— а падобных на свеце няма.

Калі гэта адбываецца?

Калі гэта было?

Не так ужо і важна. Важна, што калі яна на сцэне, можна нават і не глядзець усяго ад пачатку да канца, а толькі чуць яе голас, седзячы, напрыклад, у паўзмроку фае Малой купалаўскай сцэны, або ў яе грыміравальным пакоі, дзе спектакль чуваць з дынаміка. І пачуццё будзе кожны раз адно і тое ж... Гэта адчуванне нечага спакойнага і нават хатняга, і яго ўзнікненне заўсёды падказвае табе, што там, на сцэне, у тым цяперашнім жыцці ў маці ўсё ідзе як след. І наадварот, калі ты гэта бачыш з крэслаў у зале, прыходзіць пачуццё, што й па-за сцэнай усё ідзе як мае быць.

Так. І думаючы пра гэта, спрабуючы гэта неяк выявіць у спалучэннях слоў і фраз, у пісаніне, міжволі пытаешся ў сябе: а хіба не менавіта гэтае пачуццё і адчуванне яшчэ з малых гадоў і лучыла для цябе, толькі падсвядома, у адно непадзельнае ўсё тое, што пазначаецца словам дом і тэатр — тэатр і дом?.. Ну, дык тады ўжо і шчырэй, калі не збаяцца гучных выразаў: мастацтва і жыццё — жыццё і мастацтва.

А чаму не, уласна кажучы? Чаму не, калі вось жа яны ўвачавідкі разам перад табою — мастацтва і жыццё, дом і творчасць, тэатр і сям'я. Бо, увайшоўшы ў драўляны дом з музейнымі пакоямі Змітрака Бядулі, у якім некалі знаходзіў прытулак і Максім Багдановіч, і які мы зараз у простай гаворцы завём знаёмым цёплым словам «хатка»,— калі прыйшоўшы сюды на вечарыну і распранаючыся каля скрыні з дабрачыннымі, так імкліва губляючымі свой кошт грашыма, ты бачыш праз адчыненыя дзверы знаёмых студэнтаў у невялічкім зальчыку і чуеш адтуль імгненна пазнавальны, як з фае ці з-за куліс, голас. А ў перапынку бачыш, як яе, сённяшнюю госцю «хаткі», абступілі, схаваўшы ад цябе, людзі.

Ты ведаеш, што яна там гартае перад імі свой старэнькі, аж з 20-х гадоў альбомчык, паказваючы, што пісалі там ёй калісьці Якуб Колас, Змітрок Бядуля, што маляваў Міхась Філіповіч... Ведаеш, што гаворыцца зараз ёю, бо чуў ужо гэта дома — але ведаеш і тое, што кожны раз, і зараз таксама, яна прыгадае штосьці інакш, убачыць з вялізнай далечыні часу нешта новае.

І таму таксама набліжаешся да людзей, што абступілі яе — як яшчэ адзін з іх ліку.

# 40

— Ты неяк прыгадвала старое кіно — спярша нямое, у дзяцінстве...

— З тапёрам у зале.

— Заўтра па тэлебачанні будзе «Багдадскі злодзей» — з тваім «ганарыстым, уладарным і каварным» Конрадам Вейдтам.

— З маім?

— З тваім любімым. Хто гэта казаў: «Вытачаны профіль, гіпнатычны позірк халодных шэрых вачэй»?

— Стальных!.. «Індыйская грабніца»,— я глядзела.

— Так, і «Багдадскі злодзей» Аляксандра Корды. Каляровы — усё так ярка і страката: базар, чалмы, халаты, дыван-самалёт сярод белых воблакаў, чароўнае хрусталёвае «вока», праз якое бачна ўсё, што пажадаеш, на любой адлегласці. А «Індыйскую грабніцу» я некалі таксама глядзеў. Быў такі залаты час: раніцаю мы часта ішлі не ў школу, а на трафейнае кіно.

— А нас, бацькоў, за гэтае ваша кіно — да завуча ў школу.

— Цёмна яшчэ, пуста на вуліцах, усюды драўляныя агароджы, ужо нешта будуюць на месцах развалін, пахне свежым снегам, а мы ідзем на першы ранішні сеанс у кінатэатр «Першы», збудаваны немцамі падчас акупацыі Мінска. «Гэты фільм узяты ў якасці трафея пры перамозе над фашысцкай Германіяй»,— з такога цітра пачыналіся тыя карціны. Была нямецкая «Дзяўчына маёй мары» з Марыкай Рок, «Хто вінаваты?» — «прыгожа» гэтак разбітае каханне артысткі вар'етэ. «Тарзан», зразумела ж, з Джоні Вайсмюлерам, семнаццаць серый, пэўна. Разам з імі, раней ці пазней, ішлі англійскія — напрыклад, «Джунглі» па Кіплінгу... Ішлі і амерыканскія — усе захапляліся: Дзіна Дурбін!

— Вось дзе хараство было! Як спявала, танцавала!

— Яшчэ «Гандляры смерцю» — ці «жыццём»? «Ва ўладзе долара», «Восьмы раунд» і «Пазнаёмцеся з Джонам Доу». Але галоўным сярод усяго гэтага — праўда, пазней — стаў «Лёс салдата ў Амерыцы». Джэймс Кегні ў ролі гангстэра Эдзі Бартлета. Там яшчэ была песня з выдатнай мелодыяй. «Засынай, засні, мой слаўны бэбі, адлятай, журботы след...»

— Нешта прыгадваецца — але не глядзела.

— І, ведаеш, яшчэ да гэтай пары засталося адчуванне, што той фільм — менавіта к і н о і ёсць, само яно, як нейкі асаблівы свет, жыццё са сваёй непаўторнай атмасферай. І я добра разумею кінарэжысёра Аляксандра Германа, ягоны адказ на пытанне адной газеты пра самую лепшую, на яго думку, карціну мінулых гадоў. Ён сказаў: «Лёс салдата ў Амерыцы» — быў такі фільм». А ў перадачы «Голасу Амерыкі» я аднойчы пачуў, што ў Нью-Йорку памёр Джэймс Кегні, які праславіўся ў ролях гангстэраў і пражыў шэсцьдзесят год са сваёй адзінай, неразлучнай жонкай. Сказалі, што ў нас яго добра ведалі па гэтай любімай тагачаснымі падлеткамі карціне і што ў час пахавання ліў дождж, артыста праводзілі ў апошні шлях толькі некалькі чалавек, і сярод іх ішоў Міхаіл Барышнікаў, вядомы танцор, што пераехаў у Амерыку і добра памятаў старога Кегні па фільмах свайго юнацтва...— я быццам убачыў усё гэта сваімі вачамі.

— А мы з табою калісьці таксама глядзелі нешта трафейнае. Ці не «Марыю Сцюарт», з гісторыі Англіі...

— «Дарога на эшафот» называлася. Памятаю вельмі добра: чорна-белая стужка, старая, экран рабаціць. Грозная нейкая музыка.

Бляск кінжалаў, некага топяць у бочцы з віном; здымаюць марлю з твару хворага прыгажуна лорда Дарнлея — ён увесь пабіты воспай; узрываюць замак, у якім ён жыве, і нарэшце — чорны эшафот, на які ўзводзяць каралеву... Калі вярнуліся дадому, цёмным вечарам, трэба было рабіць урокі, а ціхая музыка ў хатнім рэпрадуктары, з якога днём я слухаў тваё чытанне Купалавай «Магілы льва», чулася суровай, змрочнай музыкай з таго фільма, урокі ніяк не даваліся.

— Так, жудасна... А хадзілі мы тады ў маленькі кінатэатрык, я купляла білеты; амаль нікога апроч нас; падымаліся на другі паверх. Мы з табою там і «Трансвааль» глядзелі, таксама пра вайну, толькі ўжо англа-бурскую, у мінулым стагоддзі, на поўдні Афрыкі,— быццам нам сваёй, тады яшчэ нядаўняй, не ставала. Божа, усюды і заўсёды адно: вайна, вайна... Як зваўся той кінатэатр — «Радзіма»?

— Не, гэта «Беларусь» была; цесная, затое недалёка ад нас, каля хлебазавода.

— Так-так, і пахла свежым цёплым хлебам на той вуліцы, калі мы выходзілі пасля сеанса. Вось дзіўна. Як тады жылі? Ды як выходзіла. Здавалася б, якое там яшчэ кіно пасля вайны? Хлеб, грошы трэба было здабываць, неяк сагрэцца, апрануцца. А мы з табой часта ў кіно хадзілі. І хіба ж толькі мы? Так, усе мы, людзі... трохі ненармальныя, канешне,— і да шчасця... А кіно «Радзіма» — там у маленькую залу таксама падымаліся на другі паверх — дзе ж яно было?..

...А «Радзіма» была на вузкай вуліцы, насупраць будынка радыёкамітэта, дзе на балконе, ярка асветленым сонцам, маці стаяла з акторамі ў перапынку паміж рэпетыцыямі ці запісамі на плёнку,— і ўсе яны махалі мне рукамі, таму што яна заўважыла мяне ў школьнай калоне, якая марудна, з доўгім таптаннем на месцы, уцягвалася ў кінатэатр на прагляд «Падзення Берліна».

Усё было цудоўна — і смех маці на балконе, і кіно наперадзе, і ранец з падручнікамі на шэсць чалавек за плячыма, і нават чарніліца ў мяшэчку, заціснутым у руцэ. Але сядзець давялося на спінцы крэсла, каб што-небудзь пабачыць, і ранец спустошылі пасеўшыя ззаду. Гэта стала зразумела па страшэннай яго лёгкасці на плячах, калі выходзілі пад вялікай карцінай Левітана «Ля віру» над лесвіцай, а на балконе радыёкамітэта насупраць ужо нікога не было, і сонца больш не свяціла — заставалася толькі чарніліца ў мяшэчку і слёзная ганьба разявы.

«Падзенне Берліна» не ўспаміналася ніколі.

Затое ў той самай «Радзіме» пазней, ужо студэнтам, пашчасціла пабачыць зусім іншае кіно — ніколі і не думалася раней, што яно можа быць такім. Бо ўсё, што адбывалася на экране, адбывалася менавіта ў жыцці, якое ты нейкім чынам бачыў зблізу, быццам знаходзіўся ў ім, застаючыся сам непрыкметным для яго.

Гэта быў «Рым — адкрыты горад» Раберта Раселіні, пачынальніка славутага італьянскага «неарэалізму»,— і гнятлівае, гразкае пачуццё страху валодала табою, калі ты глядзеў, як фашысты палявалі на людзей, як адзін чалавек прымушаў кагосьці забіваць другога — пажылога, нямоглага, які пакорна чакаў смерці, седзячы на крэсле, спіною да забойцаў, на нейкім пустыры,— забойца, злуючы на ўсіх і на ахвяру, падбягаў і сам страляў ёй з пісталета ў патыліцу.

Гэта было тое, што ўжо засталося перад вачыма назаўсёды.

## 41

— Не-не, мы ў гэтай краіне, у яе гісторыі пражываем не адно жыццё, а некалькі — я ўжо не раз так думала і казала. Як сабе

хочаш, толькі не адно, і ўжо зусім дакладна — не толькі сваё.

— Не заўсёды гэта шчасце, часта лепей адно, але сваё жыццё пражыць.

— Многія б дорага за гэта далі. Каб не жыць, не пакутаваць яшчэ і ў турмах, лагерах ці на вайне... А я хацела расказаць табе той выпадак — летам у Ваўкавыску быў, калі мы там ігралі. Незнаёмы мужчына падышоў на вуліцы, руку пацалаваў — некалькі разоў — і я спыталася, хто ён. А ён сказаў: электразваршчык, але ў дзіцячым доме некалі марыў стаць артыстам. Жыццё так склалася, а магло ж — інакш... І там, у Ваўкавыску, падыходзіць да мяне пасля спектакля ведаеш хто? «Я да вас з сорак трэцяга. Галіна Вільгельмаўна Баравая. Памятаю ўсе вашы спектаклі ў Томску ваенных гадоў. Мне было тады шаснаццаць. Мы з сяброўкай у вас закахаліся, хадзілі за вамі па горадзе, лавілі пагляд, усмешку, хацелі быць як вы. Магу сказаць адно: нягледзячы на ўсё, вы такая ж, як і тады». А мне тады было толькі... Госпадзі, час, час!.. І яна кажа: «Дзякуй вам за ўсё, нізкі паклон». Няможна ўявіць, каб чалавек такое помніў столькі — маё імя і знешнасць, цяпер ужо зусім, зусім другую...

Памятаеш, у праграме «Час» разы са два паказвалі, як мы ў Томску гастралюем. Праз сорак з нечым год пасля вайны, эвакуацыі ў Сібір. З таго складу нашага тэатра толькі я ды Здзіслаў Францавіч Стома прыехалі тады ў Томск другі раз. Нават не верылася: ізноў рака Об, рыбалавецкія калгасы. Але тады, у вайну, нам недзе ў тых месцах паказвалі і хатку ссыльнага Сталіна, ягоны самавар, скрыначку для табакі — музей там рабілі, можа, і рукамі тых, каго ён сам загнаў туды...

Мы з сорак першага тры гады ў Томску пражылі. Памятаю тое жыццё. Убоства, гібенне, калі зараз падумаць. Узімку аднойчы роды прымала — проста на вуліцы. Тую жанчыну муж не здолеў у бальніцу адвезці — не мог знайсці машыну, а мы ішлі познім вечарам са спектакля дадому, і ў нас знайшлася і марля, і нажніцы...

Але што цікава — у тэатры заўсёды было шмат гледачоў, на прэм'еру білеты здабывалі з цяжкасцю. Так было, дарэчы, і з нашай цяпер славутай «Паўлінкай», якую Леў Літвінаў паставіў разам з купалаўскімі «Прымакамі» вясной сорак чацвёртага,— спектакль называўся «Вечар камедый», ягоную сцэнаграфію рабіў Барыс Малкін, а музыку напісаў Яўген Цікоцкі...

А цяпер во — здаецца, упершыню на маёй памяці — адмянілі ў нас, у Мінску, чэхаўскія «Тры сястры»: толькі восем білетаў прадалі. Гэта ў мірны час, у горадзе, дзе хутка будзе два мільёны жыхароў. Каму гэта зараз патрэбна — Чэхаў, нейкія яго «тры сястры», іхнія размовы? Сумота. Ні страляніны, ні аўтамабіляў; чужая ўжо для многіх мова, у якой няма ні «гэтага самага», ні «карацей», ні螺 рознага «бартэра»-шмартэра... А мы тады, у вайну, мусілі іграць у сем гадзін раніцы перад рыбалавецкай брыгадай, да пачатку змены. Мы кажам: добра, толькі без грыму, асвятлення. Дык загадчыца клуба — у жах: не, нізашто! Які тэатр без грыму?

— І мела рацыю.

— Вядома! А які поспех быў тады ў нашай «Дурной для іншых, разумнай для сябе»! Семнаццатае стагоддзе, плашчы, трыко і шпагі. А ішла вайна... Жылі ў Юртачным завулку, побач з артылерыйскім вучылішчам, выступалі з канцэртамі ў шпіталі сярод параненых. Я чытала, памятаю, нейкую вершаваную інтэрмедыю з газеты: выйшла — а перада мною быццам белая сцяна з марлі, усцяж павязкі, бінты, гіпс. Збілася, забылася пра нешта, усё адно крычалі: «Брава!». Мы куплялі бінты ў горадзе і шылі з іх фіранкі, «капы», распускалі на ніткі. Дома на сцяне вісела карта, мы пазначалі на ёй, як адступае наша армія. Рэпрадуктар гаварыў: «После тяжелых, продолжитель-

ных боев нашими войсками оставлены...». І мы маўчалі. Тры гады не ведалі — ці цэлыя вы яшчэ ў Мінску?

У сорак трэцім, калі не памыляюся, партызаны неяк пераправілі з Мінска на «вялікую зямлю» жонку кампазітара Любана. Яна расказала, што бачыла ў горадзе цябе, бабулю, майго бацьку,— і гэта дайшло да нас. Але ж было тое колькі месяцаў таму, а што потым? На сваёй карце мы ўтыкалі шпількі ўсё далей і далей у правы бок. Адзін Сцяпан Сцяпанавіч Бірыла крычаў на нас, пырскаючы слінаю: «Гэта цудоўна! Вы ж нічога не разумееце! Чым глыбей немцы залезуць, тым горш для іх. Гэта пагібель іхняя, пабачыце!»

— Гэта ён такім стратэгам стаў, прачытаўшы «Вайну і мір».

— Напэўна. А потым і сапраўды пачалося: вызвалілі, вызвалілі!.. Мы былі ў Юрзе, ігралі там для курсантаў артылерыйскага вучылішча, у іхнім летнім лагеры. Раптам даведаліся, што вызвалілі Мінск. Мы так закрычалі ад радасці, што выскачыў у двор начальнік вучылішча Іваноў — ён не чуў радыё і нічога не разумеў. Мы сталі рвацца дадому.

— Ты гаварыла, што аднойчы з франтавой акторскай брыгадай вы ўжо трапілі былі на Беларусь.

— Пад Гомель, у Нова-Беліцу. Спаць клаліся на падлозе ў клубе фабрыкі запалак «Везувій». Нашы Валянцін Краўцоў і Зінаіда Скачкоўская засталіся працаваць на мясцовым радыё, каб хутчэй дабрацца да Мінска, калі яго вызваляць. А мы паехалі назад, у Томск. Быць так блізка і не пабачыць вас, не даведацца хоць пра што-небудзь!.. У той сваёй вандроўцы мы выступалі ў войсках Ракасоўскага. Ён з жонкай глядзеў у нас «Прымакоў» — ім не зусім спадабаўся спектакль сваёй, як мы даведаліся, «мужыцкай фрывольнасцю». Але вячэру далі ў наш гонар выдатную — усякая радасць на вайне была радасцю ў сто разоў большай.

Ох, Божа мой, чаго толькі за вайну не было! Страшна падумаць — я ж была аднойчы нават паляўнічым сабакам, сапраўдным: кідалася ў туфлях, панчохах за падстрэленымі на паляванні качкамі: яны яшчэ трапечуцца, а я іх галовамі — аб свой абцас. І гэта я, такая жаллівая, што ў дзяцінстве не магла есці зарэзаную мамай курыцу. Але, разумееш, тут было пачуццё: гэта — мяса, ежа, а галоўнае — для адзінокай інтэлігентнай сям'і, з якой я зблізілася і якая проста не здолее выжыць у тых умовах, калі ёй не дапамагаць. А яшчэ я была вавёркай: спрытна караскалася на вялікія кедры з доўгай палкаю, збівала шышкі з арэхамі... І цудам засталася я жывой, калі дадому ехалі з тэатрам, у Мінск — можа, я зрабіла ў той момант такі гімнастычны кульбіт у вагоне — нібы вавёрка...

— Калі было крушэнне?

— Так. Мы едзем, ноч, а я не засынаю. Канстанцін Быліч намерыўся быў змяняцца са мною месцамі, але чамусьці не прыйшоў. Томск ужо застаўся далёка ззаду, праехалі і Омск. Гляджу ў акно з верхняй паліцы і думаю — гэта запомнілася на ўсё жыццё: як цёмна, страшна, як даверліва сядзяць людзі ў цягніку, і ўсё залежыць ад машыніста,— і якім жа ён павінен быць уважлівым, насцярожаным... І раптам быццам па бясконцых сутыках рэек вагон пайшоў, а гэта ён — ужо па шпалах; і тут затрашчала ўсё, загрукатала, моцна нахілілася і перавярнулася. Я чую жудасны крык жонкі Глебава: «Глена!» А Глена, дачка іхняя, вылецела ў разбітае акно, у той бок, куды лёг вагон... У мяне пад нагамі — асколкі разбітага шкла, мокрая трава...

Дзевяць трупаў мы пакінулі там, каля Омска. Апроч дачкі Глебавых загінулі яшчэ Маргарыта Шашалевіч, Ігар Шчасновіч, Быліч, які так і не змяняўся са мной месцам і таксама вылецеў у акно, пад сцяну вагона, што паваліўся... Яшчэ Барыс Аляксеенка, малады,

прыгожы: ён і Быліч у нашай трупе былі па амплуа галоўнымі героямі...

Нарэшце, быццам з неахвотай, развіднела. Восень. Стаю каля агню, белыя мухі ўжо лётаюць, а зубы так ляскаюць, што баляць сківіцы — гэта нервовае нешта пачалося. Вагон наш, што сышоў з рэек і паваліўся, быў першы з тых, якія адчапіліся. За ім другія грувасціліся адзін на аднаго. І там, у тую шэрую раніцу, я бачыла шмат чагосьці ружовага здалёк. А гэта быў колер бялізны і крыві: там загінула шмат салдат, маладых афіцэраў.

— Іх на фронт везлі?

— Не давезлі да фронту. І мне ўсё думалася: вось у нашых хлапцоў былі розныя адтэрміноўкі, а вайна іх усё роўна ўзяла, каб зжэрці сваё хоць і тут, удалечыні. І бачу: ужо кідаюцца подбегам да нашых вагонаў мясцовыя жыхары, ужо цягнуць адтуль нашы коўдры і ўсё, што можна — з гэтай ружовай крышанкі...

— І гэта таксама вайна.

— Канешне... А як доўга стараліся яе не паказваць? Адно ўрачыстае ды манументальнае давай. Памятаю, у Маскве, на нейкім юбілеі Перамогі я павінна была чытаць вершы на магіле Невядомага салдата ў Аляксандраўскім садзе, каля Крамля. Ну, маё адзенне, постаць, тэкст — усё павінна было быць велічна-журботным, менавіта вось з велічнасцю такой, а не проста тужлівым. І што ты зробіш — як толькі пачалося, я адразу ж і збаялася. Адчувала за ўсім гэтым зашмат начальніцкага, кіраўнічага, адказнага. І ў адным месцы тэкст забылася, спатыкнулася. Як мучылася потым! Былі і позіркі — не тое, каб адкрыта незадаволеныя, але...

Я адхілілася: дабраліся мы нарэшце да Мінска. Кастрычнік сорак чацвёртага, так думаю. Убачыла цябе — чужы нейкі, вялікі, худы, зубы пярэднія здаюцца даўгімі, непрыгожымі. Ад'язджала ж тры гады таму на гастролі ў Адэсу — пакінула бабулі зусім іншага.

— А я гляджу: нейкая жанчына смяецца, ідзе да мяне ў зялёным касцюме, і светлыя косы прыгожа ўкладзены на галаве... Я такіх жанчын яшчэ не бачыў тады — і гэта мая маці?

— Так, і пачалося быццам бы яшчэ адно жыццё. Далёка-далёка засталіся Томск, любімыя Басманчыкі, як звалі мы нашых гаспадароў кватэры, Басманавых,— вось мой даваенны томік Пушкіна з ягонымі драматычнымі творамі — гэта памяць пра іх і да гэтай пары... Пачалося яшчэ адно жыццё, і з тваёй бабуляй Каралінай Стэфанаўнай мы спілавалі на дровы грушу якраз у тым месцы, дзе я некалі жыла, каля вакзала.

І прывезлі на санках чурбакі да яе ў хату, на вуліцу Талстога, дзе я перад вайной пакінула цябе і дзе вы ўсе засталіся жывыя...

## 42

...Не так даўно, у сярэдзіне светлага жнівеньскага дня я пабываў там. Мінаваў роўнае асфальтавае месца, дзе стаяў некалі той наш дом, і рушыў далей, у бок чыгуначнага пераезду. Тут, пасля вызвалення горада ад немцаў, хадзіў у першы клас на вуліцу Красівую, тут апускаўся на траву пад нечымі вокнамі, калі рабілася млосна пасля ўрокаў, і расказваў прыяцелю ўбачаны ўпершыню ў школе лялечны спектакль — «Каштанку»...

Каля перакрыжавання вуліц папіў вады з калонкі, абцёр твар, агледзеўся. Лебяда, палын і лопух; разрыта ўсё — ці то катлаван, ці то кар'ер; жоўты пясок, кучы шчэбеню — дарогу новую вядуць...

І быў момант, калі ўсё наўкол і нада мною як бы спынілася, завісла ў нейкай дзіўнай цішы і стоме гэтага, як здалося, бясконцага, быццам у дзяцінстве, высокага сонечнага дня. Анідзе не было відно і чутно ніякіх работ. Пустэльна, толькі тры дзяўчыны, перагаворваючыся са смехам, прайшлі да Вакзальнай вуліцы, падняўшыся на насып, і зніклі за высокім дзікім кустоўем, што разраслося тут каля нікому цяпер, апроч мяне, не патрэбнай водаправоднай калонкі. Сакаталі, аж заходзіліся, у кустах конікі, нерухома стаялі слупкі конскага шчаўя, тхала нагрэтай сонцам лістотай. Усё было як і даўным-даўно, у іншым, далёкім ужо жыцці. Не хацелася ісці, хацелася адно стаяць і стаяць тут, гледзячы на ўсё гэта, думаючы аб нечым і не думаючы ні пра што.

І тады наперадзе павольна, гучна пастукваючы, пацягнуўся таварны цягнік — і цягнуўся доўга, як усё роўна ў сне, яшчэ больш узмацняючы адчуванне гэтага дзіўнага спакою і стомы, што бясконца доўжыліся тут, у месцы, якое быццам неяк выпала з аграмаднага горада і адгарадзілася ад яго густой зелянінай, жоўтымі насыпамі і гэтым марудным, закінутым сюды і забытым усімі таварняком, які ідзе, каб толькі некуды ісці.

Тады падумалася — і ўбачылася, неяк вельмі хутка і як бы зверху, нібы на карцінах Брэйгеля,— падумалася пра тое, як жылі мы, наша сям'я, нашы блізкія — і тут, у гэтым месцы горада, і ў іншых месцах; пра тое, што бывала ў нашым жыцці і што ў ім сталася,— і яшчэ пра шмат што іншае. А галоўнае — пра тое, што жыццё гэта наша адыходзіць — і з гадамі ўсё хутчэй і хутчэй, а ў некаторых ужо і зусім адышло.

І стала ў тую хвіліну так зразумела: самае неабходнае з таго, што ўсе мы здольныя і павінны рабіць на свеце — гэта як мага часцей бываць так ці інакш, хоць у думках, знутры будзённага кола жыцця кожнага з нас. Тады ў гэтых міжвольных набліжэннях будзе ўзнікаць нешта накшталт нябачнай сферы ўсяго роднага і блізкага. Там і будзе збірацца, назапашвацца, можа, неяк уплываючы і на іншых, тое, пра што мы думаем звычайна: колькі ўсяго было і ёсць добрага — куды ж гэта потым дзяецца? А вось сюды, у гэтую нябачную сферу, на адвечнае захаванне і множанне для тых, каму ёсць у гэтым сапраўдная патрэба,— вось сюды ўсё гэта і дзяецца, напэўна...

І было па-ранейшаму сонечна, гудзеў чмель і млеў ад цяпла лопух, па-ранейшаму было зацішна наўкол, адно капала вада з трубы калонкі і мерна пастукваў на стыках рэек марудны і недаўменны, які сам не ведаў, куды коціцца, таварняк.

Так, на гэтай вуліцы пачалося некалі дзяцінства ў другі раз, ізноў з маці, якая вярнулася пасля вайны — і цяпер ужо яно запаміналася.

У цеснай бабулінай палове дома са старога чорнага бярвення пачаліся адзёр і матчына чытанка ўголас «Апошняга з магікан» Купера, «Конніка без галавы» Майн Рыда і «Чэлюскінцаў» Аляксандра Міронава, з жонкай якога, Кацярынай Міронавай, маці раней працавала ў адным тэатры. Пачаліся нашыя з маці паходы ў сталоўку — у будынак побач з Домам урада, дзе яшчэ нядаўна была сталоўка нямецкіх афіцэраў і дзе ў зале віселі па сценах нейкія вялікія цьмяныя карціны ў рамах,— яны, мусіць, віселі тут і пры немцах.

Пра нешта ж мы гаварылі тады з ёю — але вось пра што?

Пра штосьці ж яна распытвала мяне ў тыя дні і вечары? Так, зразумела, пра вайну і пра тое, як мы тут, у Мінску, ацалелі. І што ж я расказваў ёй?

Тады яшчэ, мабыць, не шмат. Усё было яшчэ надта блізкае, не гатовае да таго і пакуль што проста прыцішылася ў цярплівым чаканні.

Ва ўсялякім разе, не думаю, каб на той час я здолеў ёй уцямна расказаць, як нас ледзь не расстраляў нейкі п'яны капітан у двары

партызан, ці проста ў варожым тыле, пачуццё асабістай адказнасці за лёс народа, краіны, рэспублікі, акупіраванай ворагам.

Сочачы за паводзінамі галоўных герояў чыгрынаўскіх раманаў — Зазыбы і Чубара, увачавідкі бачыш, якім шляхам ідзе ў аўтара працэс заглыбленага пранікнення ў абставіны часу, з якой ступенню псіхалагічнай дакладнасці раскрываецца душэўны стан і паводзіны герояў у звыклых і экстрэмальных умовах ваеннай рэчаіснасці.

Зазыба — патомны земляроб, здаецца, усімі каранямі сваёй душы ўрос у матухну-зямлю, якая з чалавекам ад нараджэння да апошніх дзён жыцця на ёй. Здаецца, з самых недаступных нетраў глыбінных сіл умее Дзяніс Зазыба здабыць самае трапяткое, самае кранальнае, зразуметае і пачуццём праўды сагрэтае слова. «Хто з роднае зямлі ўцякае, той ворага не перамагае» — гэты, падказаны народным вопытам закон жыцця ў часіну вялікай небяспекі для радзімы бярэ чалавек на ўзбраенне, ім кіруецца ў помыслах і дзеяннях, што так неспадзявана ўзніклі. Зазыба гэтым выразам парырує простолінейныя разважанні Чубара наконт далейшых захадаў чалавека, які апынуўся сам-насам з нелюдзямі, што ўзнялі свой крывавы меч над цэлым народам. «Той, хто па-сапраўднаму любіў савецкую ўладу, не будзе сядзець. Той ужо даўно ўзняўся з месца і паехаў». Сама лексіка груваcткая, рэгламентаваная загадам звыш, падкрэслівае ў чалавеку асабістую спасцярожлівасць, нават страх за выключнае існаванне тых, каго вышэйшыя ўлады прыставілі кіраваць астатнімі, працоўным людам, што жыў з мазаля.

Сярод людзей працы пісьменнік вылучае для паказу тых, можа, непрыкметных сваімі ўчынкамі, людзей, на якіх, аднак, трымаецца справядлівы і ўстойлівы свет. Думкаю пра будучыню прасякнута ўся плынь раманаў, пачынаючы з адведзін парадзіхі («Плач перапёлкі»), з таго эпізода, дзе над «забітай ласіхай... стаяла ласянё. Яно, можа, нават не разумела яшчэ, што здарылася». Так урываецца ў раманічную плынь жахлівая думка пра дзяцей, сваіх і чужых, якія даверліва спяць пад дамоклавым мечам вайны.

Нораўныя, маральныя параметры ў аўтара раманаў пацвярджаюць неаспрэчную думку пра тое, што ў вайну дзеці былі побач з дарослымі, і ў сне і наяве, выпрабоўваючы з пэўнай «мужнасцю» ўвесь цяжар усенароднай бяды і выяўляючы свой саўдзел, скіраваны да здзяйснення сусветна гістарычнага подзвігу.

Пісьменнік бачыць жанчыну не ў «паказных» абставінах вайны, а ўсутыч з яе галоўнымі праявамі, паказвае высокамаральнай асобай, найперш як маці, працаўніцу, салдатку ці партызанку, выхавацельку нашчадкаў і, вядома ж, як верную сяброўку тых, хто са зброяй у руках змагаецца супраць ворага, каго чакае яна дома. І гэта не нейкая абагульненая маці-працаўніца, а кожная ў ярчэйшых праявах свайго характару (адважная Дуня Пракопкіна, ціхманая Роза Самусёва, маўклівая Марфа Зазыба, шчырая Ганна Карпілава).

Іван Чыгрынаў працуе ў той класічнай манеры, калі за кожным персанажам адчуваеш чалавека пэўнага рэгіёна, гэтак насычана іхняе жыццё рэальнымі фактамі, прысутнымі толькі на Магілёўшчыне, толькі ў Прыдняпроўі, а ў выніку ўзнікае тая багатая палітра фарбаў, адчуванняў, характару думання і манеры гаварэння, якую не зблытаеш ні з кім. Усе чатыры раманы (пакуль тэтралогія, бо апошняя кропка ў цэльнай задуме аўтарам яшчэ не пастаўлена!) — «Плач перапёлкі», «Апраўданне крыві», «Свае і чужынцы», «Вяртанне да віны» — ствараюць уражанне настолькі шырокага, колькі і глыбіннага ўзнаўлення той вайны, якая пакуль яшчэ ў літаратуры недастаткова па-мастацку даследавана.

З'яўляліся творы эпапейныя па задуме, аднак жа прыўзнятыя на

катурны вонкавай ідэалізацыі гераічнага, што прыводзіла іх аўтараў да пэўнай схематызацыі, калі для адлюстравання задумы прыцягвалася столькі абавязковага і асабліва неабавязковага матэрыялу, што пісьменнік, здавалася, вось-вось захлынецца ў ім. (Прыгадаем хоць бы працу Міхася Лынькова над «Векапомнымі днямі» ці Ільі Гурскага над раманам-хронікай «Вецер веку».) А што ўжо казаць пра чытача?!

Некаторыя даследчыкі творчасці І. Чыгрынава паспяшаліся, як мне здаецца, паставіць за аўтара кропку на мастацкім узнаўленні жыцця (падкрэсліваю — **жыцця.— У. Ю.**) беларускага народа ў вайну, гераічны (не па маштабу ахопу падзей, а па глыбіннай сутнасці іх) подзвіг якога прызнаны амаль усясветна. І ці варта было журналістам з «Литгазеты» прымушаць пісьменніка даваць такое банальнае «паказанне» перад чытачамі: «Усю вайну апісаць немагчыма аднаму чалавеку, а вось сказаць пра яе нешта самае важкае, самае галоўнае павінен імкнуцца кожны, калі ўзяўся за пяро». І крыху ніжэй: «Што будзе далей, вядома: Вялікая Перамога ў маі 45-га... прадаўжаць далей не мае сэнсу...».

Раман «Вяртанне да віны» напісаны і апублікаваны быў пазней таго заўчаснага інтэрв'ю; і мы ўбачылі новыя цікавыя раздзелы з жыцця Верамеек. Маланкападобны паход Гітлера на Маскву прытармазіўся (а як потым стала вядома — і праваліўся!), а тым, хто астаўся пад акупацыяй, трэба было ладзіць усё тое ж, размеранае звычайна, па-вясковаму, жыццё. І мы бачым увачавідкі, як з-пад пяра І. Чыгрынава выходзяць старонкі, што ўзнаўляюць самую гарачую летнюю пару — сенакос. «Ды як касілі?! Здаецца, не паспявалі так хутка рабіць і пры калгасе»,— заўважае аўтар.

І зноў сустракаецца Зазыба з Чубарам. І зноў спрачаюцца, высвятляюць адносіны, абменьваюцца навінамі, разважаюць.

І зноў новыя здарэнні ў Забесяддзі. Абстралялі сенажаць з людзьмі, дзецьмі. Забілі сына паліцая. Чубар трапіў у палон. Сцэнай допыту бургамістрам Чубара адкрываецца яшчэ адна старонка рамана. Допыт безвыніковы. Тады нямецкія ўлады прапануюць Чубару аблёт на самалёце, каб ён паказаў з вышыні лёту «размяшчэнне партызанскага атрада Нарчука... Ад таго, якую паслугу вы акажаце нямецкаму камандаванню, будзе залежаць ваша жыццё. Такім чынам, ваш лёс у вашых руках. Думайце, пакуль ёсць час».

Выдаць партызанскі атрад? На такое Чубар не можа ісці. «Трымаючыся правай рукой за поручань, які хутчэй нагадваў звычайную жалезную скабу, Радзівон падняўся з лаўкі, стаў супраць расчыненых дзвярэй, нагнуўся і паляцеў уніз...»

Вось на такім інтрыгуючым шматкроп'і спыняецца, па сутнасці, праца над раманам. Ці надоўга? Тут ужо Богу вырашаць: дасць аўтару сіл — інтрыга будзе раскрыта далей. Не... Тады можна будзе лічыць працу над вялікім, самабытным, па-свойму арыгінальным творам спыненай. Але ж варта прадаўжаць! Бо наперадзе — самы разварот падзей за выратаванне роднай Беларусі, ад чаго будзе залежаць і лёс яе дзяржаўнасці.

А пакуль Івана Чыгрынава запаланіў тэатр. Ён меў ужо нейкую практыку супрацоўніцтва з беларускім кіно, калі разам з Іванам Новікавым стварыў сцэнарый мастацка-дакументальнай стужкі «Руіны страляюць» (пра акупаваны гітлераўцамі Мінск), якая атрымала Дзяржаўную прэмію БССР. Беларуская рэжысура звярнула ўвагу на драматургічны талент гэтага пісьменніка і запрасіла папрацаваць для нацыянальнага тэатра.

П'еса «Свае і чужыя», напісаная паводле раманаў у жанры двухчасткавай драмы, прынесла аўтару поспех і стала як бы разведкай тэатральнай сцэны. Пісьменнік убачыў сваю задачу не толькі ў

тым, каб узнавіць рэальнасць вайны ў яе шматстайнасці, складанасці і неадназначнасці, а перш-наперш асэнсаваць, вытлумачыць неардынарнасць ваеннага ліхалецця, што абрынулася на Беларусь. Трэба было памагчы гледачу праз асабістыя пачуцці і перажыванні, закладзеныя ў кожным з персанажаў, даследаваць за сцэнічны прамежак часу сапраўдны характар чалавека ў вайну і на вайне. Гэта магчыма толькі тады, калі аўтар звернецца да ўнутранага жыцця герояў сваіх раманаў, да рухаў чалавечай душы. Духоўная атмасфера вайны праз перажыванні асоб — вось што трэба было тэатру, і пісьменнік выдатна справіўся з гэтай задачай.

І. Чыгрынаву захацелася працаваць для сцэны і далей, бо ён неяк з першых крокаў супрацоўніцтва адчуў адметныя магчымасці тэатра выразней выяўляць аўтарскую ідэю. Тэатр здольны жыва паказаць факт рэчаіснасці (гістарычнай ці сённяшняй) з розных бакоў (праз кола асоб, жыва ўвасобленых на сцэне) і, адкрыўшы счапленне шматлікіх фактаў, стварыць цэласнае ўражанне росту на вачах вобраза, у якім заключана галоўная ідэя аб далучанасці чалавека да агульнанароднай справы.

Найбольш яскрава талент «драматычнага псіхалагізму» І. Чыгрынаў выявіў у п'есе «Дзівак з Ганчарнай вуліцы», пазначанай аўтарам як аповесць для тэатра. Арыгінальная адзнака жанру (як некалі была ў рускай літаратуры «Аптымістычная трагедыя» Ус. Вішнеўскага, вынесеная ў загаловак), прыкмета нечага няпэўнага. Калі гаварыць па-бытавому, «усяго патроху». Праўда, у «Дзіваку з Ганчарнай вуліцы» ёсць характэрная для чыгрынаўскай прозы запаволеная апавядальнасць. Але ж падначаленая сцэнічнай дынаміцы, узгодненая з псіхалогіяй глядацкага ўспрымання, п'еса выглядае грунтоўным сцэнічным творам.

Мабыць, вобраз Дзмітрыя — сына Ляксеіхі найперш вабіць навізной з'яўлення. Неяк неспадзявана, пасля адсідкі «з астравоў на Поўначы», або як да вайны казалі — «пасля Салаўкоў» — прыязджае ён дамоў. Адсідка не вынішчыла той «памяркоўнасці», з якой беларус нарадзіўся і якая яго суправаджае праз гады. Ён і цяпер працівіцца, калі ўсё тлумачаць толькі вайной, кідаючы сваё сумненне адкрыта катэгарычна: «вайна... як быццам гэтым і праўда можна ўсё растлумачыць... А тое, што ў гэтым адступленні жалезнай заканамернасці няма... Гэта значыць, маглі немцы наступаць, маглі і мы. Тады і ноша была б лягчэйшая». Так спакваля раскручваецца тая спружына, якая рухае сюжэт усёй драмы.

Па сваёй творчай, ды і чыста чалавечай натуры І. Чыгрынаў мастак няўрымслівы. Нават калі звяртаецца да вельмі даўняй гісторыі Беларусі, да яе вытокаў (а гэта цяпер модна!), застаецца верным сучаснасці ў шырокім разуменні гэтага слова. Пра далёкае мінулае беларускага народа, пра вытокі роднай Беларусі і, наогул, беларускасці, можна і трэба пісаць з пазіцыі набытага пісьменнікам творчага вопыту, скіраванага душой да ўзнаўлення вялікага гістарычнага скарбу нашай Бацькаўшчыны. Гісторыя не надта ашчаджала Беларусь ад самых дзён Полацкай зямлі, калі там гаспадаравала княгіня Рагнеда з сынам Ізяславам, і да нашых дзён. Як прароча і сёння гучаць словы вялікага князя Уладзіміра, сказаныя ў Кіеве Ізяславу: «Запомні, сын: даўняе прайшло, за яго больш не трымайся, цяпер будзе ўсё новае; мы былі паграznулі ў цемнаце і грахах; цяпер наблізілася да нас выратаванне, ноч прайшла, а дзень наблізіўся». Хіба не прарочыя словы ў вуснах князя?! Гэта з драмы «Звон — не малітва».

Пісьменнік даўно збіраўся напісаць раманы пра даўніну, калі закладваўся трывалы падмурак незалежнасці гарадоў беларускіх, зямлі Беларусі. І вось адна за адной з'явіліся не раманы, а п'есы.

Так распарадзіўся талентам пісьменніка час. А ён — вялікі суддзя. «Следчая справа Вашчылы» — вынашаны пісьменнікам твор ці не з гадоў яшчэ ўніверсітэцкай навукі.

Змаганне за свабоду і незалежнасць беларускай зямлі ўзрастала з кожным новым стагоддзем і, неаднойчы, узнімалася да свайго апагею. Неаднойчы І. Чыгрынаў браўся за пяро, каб даследаваць ідэйныя і нораўныя вытокі гераізму, раскрыць псіхалогію подзвігу, багацце душы воіна, што адважыўся на смерць у імя найвышэйшых вартасцей чалавека, народа. Кожны раз пісьменнік пакідаў свой адметны след у літаратуры: ці то былі раманы, ці пазней — п'есы. І кожны раз — з поспехам. Драма «Следчая справа Вашчылы» падрыхтавана ледзь ці не ўсім сталым жыццём пісьменніка. Ну і, вядома, павышанай у апошні час і ўстойлівай цікавасцю чытача (гледача) да адраджэння сваёй гісторыі, каб адчуць шырыню і глыбіню існавання нацыі праз усю гісторыю нашага быцця і пашукаць адказы на вострыя сённяшнія пытанні.

Сёння, калі незалежнасць Рэспублікі Беларусь становіцца адчувальнай явай, вельмі важна раскрываць усё новыя духоўныя і нораўныя багацці, якія беларускі народ выхаваў у сабе і нясе іх наступным пакаленням. Цяпер, калі Беларусь сапраўды займае свой пачэсны пасад між народамі, вельмі важна стварыць літаратуру, якая была б на самай справе мастацкім даследаваннем розных бакоў нашай дынамічнай рэчаіснасці. Мы на змене стагоддзяў, мы вядзём перабудову ўсяго ладу жыцця і спадзяёмся на нашых выдатных творцаў, што гэтая змена вехаў у складаным жыцці народаў усёй планеты будзе заўважана і беларускімі мастакамі слова ды засведчана з пэўным заглыбленнем у гісторыю свайго народа, з найшчырэйшай зацікаўленасцю яго сённяшнімі справамі.

Варта спадзявацца, што гэта будзе здзейснена і з дапамогай прызнаных светам майстроў беларускай мастацкай літаратуры. Сярод іх будзе далёка бачна святло запаленага больш за трыццаць гадоў таму назад Іванам Чыгрынавым маяка, каб асвятляць нязгасную, адкрытую кнігу жыцця беларускага народа і ў наступным тысячагоддзі.



ЛЮБОЎ ГАРЭЛІК

# ПРОПАВЕДЗЬ ДАБРА

У творчасці Сяргея Грахоўскага высвечваецца лёс чалавека, які пражыў дзесяткі гадоў на скразняках гісторыі. Але, нягледзячы на гэта, яго паэзія і проза найперш прыцягваюць увагу гуманістычнай скіраванасцю, пропаведдзю дабра і справядлівасці, моцным лірычным самавыяўленнем і, адначасна, публіцыстычным пафасам. Уменне аператыўна падключацца да найважнейшых падзей сучаснасці вызначае грамадзянскую пазіцыю пісьменніка, які, і на парозе свайго васьмідзесяцігоддзя, застаецца па-маладому няўрымслівым, актыўным, быццам і не было дваццаці гадоў паднявольных пакут. Нібы толькі ўчора на старонках перыядычных выданняў («Беларускі піянер», «Маладняк», «Вясна», «Беларусь калгасная», «Чырвоная змена» і інш.) былі змешчаны першыя вершы за подпісам: піянер Сяргей Грахоўскі. «Не зважаючы на гады, на паважаны ўзрост, — зазначае Васіль Вітка ва ўступе да двухтомніка выбраных твораў С. Грахоўскага, — ён і цяпер для новых сваіх чытачоў і для нас, яго сучаснікаў, — піянер у поўным значэнні гэтага слова, пачынальнік, завадатар і вястун новага».

Гэта сапраўды так. Сваіх герояў пісьменнік шукае і знаходзіць не за кабінетным сталом, а ў «гарачых» кропках сучаснасці. Так, у пачатку 60-х гадоў С. Грахоўскі пабываў на будоўлі Полацкага нафтаперапрацоўчага камбіната, у выніку з'явіліся апавяданні «Які вялікі дзень», «Засвеціцца акно», нарыс «Горад маладосці» (1960).

Рух — неабходная ўмова не толькі духоўнай маладосці, але і высокага эмацыйнага напружання, творчага гарэння («Падарожжа»):

Я не стаю на раздарожжы,
Мне пэўны шлях даўно відзён.
Я ўсё жыццё у падарожжы —
Ад першых да апошніх дзён.
Рубеж мой блізка ці не блізка,
Хоць і грукочуць перуны,

А я вандрую ад калыскі
І не спынюся да труны.

Калыска і труна — сімвалы чалавечага жыцця, яго пачатку і завяршэння. Такая простая і няпростая дыялектыка абнаўлення Сусвету.

«У маім пашпарце, — сведчыць С. Грахоўскі, — запісана: год нараджэння 1913, месца нараджэння мястэчка Нобель Ровенскай вобласці. Але тых мясцін не ведаю і не помню: імперыялістычная вайна забрала бацьку ў салдаты, а мяне з маці пагнала ў бежанцы. Было амаль усё так, як напісана ў маёй «Паэме дарог». У названым творы якраз і пададзена сітуацыя, калі на адным і тым жа возе, дзе едуць бежанцы, уцякаючы ад вайны, побач з бабкай, якая «плыве ў смяротны холад забыцця», «курчыцца і енчыць парадзіха».

Своеасаблівай біяграфіяй паэт і вытлумачвае сваю, не па ўзросце маладую, непаседлівасць і цягу да падарожжаў: «Бо собіла ў дарозе нарадзіцца на першай мікалаеўскай вайне». Адсюль і неўтаймаваная прага першаадкрыцця:

З тае пары
Мяне заўсёды вабяць
То сцежкі палявыя,
То шаша.
Ад нараджэння
І да скону, мабыць,
Жыве ў душы
Цыганская душа.

Творчыя набыткі пісьменніка даволі аб'ёмныя і шматгранныя. Ен плённа працуе ў жанры паэзіі і прозы — піша вершы, паэмы, апавяданні, аповесці, эсэ, успаміны, крытычныя артыкулы, многа выступае перад грамадскасцю. Вярнуўшыся пасля рэабілітацыі ў Мінск (1956) з Новасібірскай вобласці, дзе адбываў ссылку, ён прагна накідваецца на літаратурную працу, кампенсуючы страчанае, ненапісанае за гады зняволення. Выдае адзін за другім паэтычныя зборнікі. Толькі ў гады «адлігі» і застою выходзяць: «Дзень нараджэння» (1958), «Чаканне» (1960), «Табе зайздросціць сонца» (1963), «Памяць» (1965), «Тры вымярэнні» (1967), «Паэма дарог» (1970), «Зазімак» (1976), «Зачараванасць» (1978), «Асеннія гнёзды» (1982).

Сяргей Грахоўскі — перш за ўсё паэт. Першы яго верш быў надрукаваны ў часопісе «Беларускі піянер» (1926), калі аўтару было трынаццаць гадоў. Ад першага верша да першай кнігі прайшлі доўгія трыццаць два гады. Выдаў ён яе ў сорак пяць гадоў.

Пазней, у прадмове да кнігі «Споведзь» (1990), С. Грахоўскі з горыччу і смуткам аглядваецца на пройдзены творчы шлях: «Я пасціў дваццаць гадоў перад споведдзю. І вось настала пара маёй позняй восені, пара шчырай споведзі, бо зазімак стукае ў дзверы, а халодная кароткая вясна маіх няспраўджаных летуценняў прамільгнула даўно і незваротна.

На пачатку майго лета ўдарыў страшэнны гром, і лютая навальніца пагнала далёка ад дому на пакутніцкіх шляхах дзяліць горкі лёс з мільёнамі нявольнікаў, заплямленых страшэнным таўром 58-й пробы».

У адказе на запіску, атрыманую на літаратурным вечары, у якой слухачы прасілі расказаць пра творчы шлях, паэт знаходзіць цікавае вобразнае ўвасабленне мастацкіх падрахункаў:

Што ж расказаць пра ўласны творчы шлях?
Які там шлях! — няроўная сцяжынка,
Што пачалася ў веснавых палях
І прывяла адразу на дажынкі.

Так, на творчым шляху ў Сяргея Грахоўскага былі адразу «дажынкі». Але, як рупны гаспадар, ён здолеў сабраць такі ўраджай, які не ў кожнага здараецца і ў час «жніва».

Пацвярджэннем таго, што ў паэзію прыйшоў далёка не пачатковец, стаў, адразу ж, першы зборнік «Дзень нараджэння», дзе большасць вершаў напісана рукою сталага майстра. Лепшыя яго вершы канца 50-х гадоў і сёння не страцілі свайго эстэтычнага значэння, бо скандэнсавалі ў сабе сапраўдны ўсплёск пачуццяў, музыку і боль душы, настрой і імпрэсію, калі думкі і пачуцці выходзяць за межы асабістага, прыналежнага да лёсу толькі адной асобы. Гэта вершы, у якіх ажываюць вобразы маці, каханай, успаміны маладосці («Мама», «Белыя ліпы», «Ноч над Мінскам», «Я цябе прыгадаў» і інш.).

Пасля доўгіх гадоў блукання па пакутах асабліва ўзрушанай, радаснай была сустрэча з родным горадам, дзе адным з першых, нібы жывога Янку Купалу, ён прывітаў помнік песняру. Купалаўскія традыцыі С. Грахоўскі ўнаследаваў і застаецца ім верны:

Я ўсё спазнаў: і радасці, і гора,
Я з сотні рэк пакаштаваў вады,
І ноч у ноч мне сніўся родны горад,
Не даючы спакою ўсе гады.

Сутнасць творчых арыенціраў, з якімі паэт ішоў у літаратуру пры «другім» яго нараджэнні, — пошукі новага, адкрыццё неадкрытага: «Каб у надзённай нашай прозе знайсці паэзію святла» («Дакор сабе»). Бываюць радкі, якія можна паставіць эпіграфам да ўсёй творчасці. Есць такія і ў Сяргея Грахоўскага:

Шукаць, знаходзіць,
быць няспынным,
Не проста існаваць,
а жыць.

Паняцце «жыць» у паэзіі Сяргея Грахоўскага пастаянна напоўнена гуманістычным сэнсам: «жыць» — значыць, тварыць дабро. Чалавек, як правіла, нараджаецца добрым, нязлосным. Быць жорсткім яго прымушаюць абставіны. Такая дыялектыка дабра і зла разгортваецца на працягу ўсёй творчасці С. Грахоўскага. Усё добрае, светлае ідзе ад маці, таму ўспаміны пра яе сагрэты асаблівай цеплынёй і шчырасцю. Драматычна гучаць радкі хрэстаматыйнага верша «Мама», асноўны змест якога — запознены дакор, адчуванне віны і сапраўдны боль душы:

Калі пушок прабіўся над губою
І ў сны прыйшло дзявочае імя,
Я ні аб чым не раіўся з табою,
Матуля адзінокая мая.

У наступных кнігах паэт не раз прыгадае дарагі вобраз («Пачатак дарогі», «Размова з маці», «Сніцца і сніцца маці»). Успамін пра тое, як маці ўпершыню праводзіла сына ў далёкую дарогу, — гэта асабістае перажыванне і разам з тым істотнае для адпаведных асацыяцый іншых людзей. Маці бачыцца заўсёды ў працы: «То жне, то сцеле лён у непагоду, то месіць хлеб на досвітку ў дзяжы». Мысленне паэта пераважна прадметна-адчувальнае, блізкае да паўсядзённай жыццёвай канкрэтыкі, што робіць яго вершы даступнымі і зразумелымі чытачам. У прастаце і лёгкасці прамаўлення вершаванага радка, у зладжанай паўнагучнасці рыфмы адчуваецца сталае, выверанае шматгадовым вопытам майстэрства.

Прадметна-рэчыўнае бачанне свету дамінуе нават там, дзе паэт спрабуе знайсці нетрадыцыйную, нязвыклую форму вобразнага вы-

яўлення ідэі. У кнізе «Кругі надзеі» ёсць верш «Сніцца і сніцца маці», у якім маці прыходзіць у сны сына, «глядзіць журботнымі вачыма», гаворыць, што пакутавала разам з ім у трывожныя гады, аберагаючы, хадзіла па сынавых слядах. І ці не думаў аўтар гэтага верша пра тое, што, відаць, сапраўды, і на тым свеце душа маці не ведае спакою, баліць па дзецях, спагадае ім.

Большасць вершаў С. Грахоўскага напісана ад першай асобы. Біяграфія лірычнага героя амаль не адрозніваецца ад біяграфіі самога аўтара, чые думкі і пачуцці выказаны яго мастацкім двайніком. З пераважна біяграфічнай творчасці паэта, аднак, нельга даведацца нічога пэўнага нават пра яго радзіну. Разгалінаванне генеалагічнага «дрэва» яго роду небагатае («Мая радаслоўная»). Пасля вайны не ўдалося адшукаць нават магілу маці («Размова з маці»). У «лагерных» аповесцях не раз добрым словам згадваецца стрыечны брат, вядомы хірург Мікалай Іванавіч Бобрык, які матэрыяльна і маральна падтрымліваў зняволенага С. Грахоўскага.

У лірыцы паэта ёсць патрыятычныя вершы, дзе ён прысягае ў вернасці Радзіме, гатовы аддаць за яе жыццё («Айчына», «Вера», з прысвячэннем У. Мяжэвічу, разам з якім пакутаваў на этапных дарогах, «Беларусь», «Радзіма», «Бацькаўшчыне»), але, як і ва ўсёй літаратуры сацыялістычнага рэалізму, тут адчуваецца ідэалізавана-прыхарошаны падыход да рэчаіснасці. Балюча чытаць радкі, дзе выказваецца сыноўняя падзяка Радзіме за яе клопат, ласку і мацярынскую суровасць: «Калі ты часам і нахмурыш бровы, на маці не пакрыўдзяцца сыны» («Айчына»). Але якая маці аддае на здзек сваіх сыноў, не спрабуючы абараніць іх ад беззаконня і знявагі?

Найбольш удалы сярод прысвячэнняў Радзіме верш «Дубовы ліст», дзе паэт, застаючыся самім сабой, спрабуе ўявіць геаграфічныя абрысы Беларусі, усведамляючы свой лёс часцінкай яе лёсу:

Стаяць дубровы ў жнівеньскай красе,
Ляцяць у вырай журавы і гусі,
Дубовы ліст у жылках і ў расе
Мне нагадаў абрысы Беларусі.

Яго мая кранаецца рука,
А ён нібыта выкаваны з броні,
І жылка кожная дубовага лістка
Злілася з жылкамі маёй далоні.

У многіх вершах С. Грахоўскага паэтызуюцца прадстаўнікі розных нялёгкіх рабочых прафесій, услаўляецца прыгажосць працавітых рук («Маляр», «Кранаўшчыца», «Прыгожыя рукі», «Дыспетчар», «Ганчар»), але сёння яны чытаюцца без асаблівага захаплення, хоць аўтар і спрабуе знайсці для кожнай прафесіі нешта сваё, істотнае, прыцягальнае. Тым не менш у радках столькі гераізацыі, што адразу ўспамінаеш пра нядаўнюю агульнаўсталяваную зададзенасць. Сёння, калі знікла патрэба выдаваць жаданае за існае, да працоўнага энтузіязму мы падыходзім з іншымі меркамі, больш цвяроза і разважліва. Таму звернемся, напрыклад, да верша «Сейбіт», якому ўласцівы шчырасць і непрыдуманыя пачуцці. Вяскоўцы праводзяць у апошні шлях аднаго з хлебаробаў, які «пяцьдзесят разоў пасеяў жыта і пяцьдзесят разоў абмалаціў», не патрабуючы падзякі за сваю сумленную працу і ніякай увагі да сябе. Апошняе развітанне — гэта першы і адзіны клопат, якога ён запатрабаваў ад людзей. Гэты верш прымушае задумацца найперш над лёсам нашага сялянства, працаўнікоў вёскі, ператвораных таталітарным рэжымам, па сутнасці, у дармовую рабсілу.

Калі гаварыць пра даволі шырокія геаграфічныя абсягі творчасці С. Грахоўскага — ад Глуска да няходжаных таежных дарог Сібіры — то з многіх вершаў відаць, што паэт гэтую «геаграфію вучыў

не па канспектах» («Маё пакаленне», «Мы ўсё спазналі і прайшлі...», «На арэлях памяці», «На Сібірскім тракце» і інш.). І калі чытаеш пра «гераічнае» пакаленне, якое «разам з бацькамі валіла тайгу і драбіла каменне», то, вядома, адразу ж здагадваешся пра сапраўдныя прычыны такога энтузіязму, пра тое, што гэта вынік далёка не рамантычнага парыву, а грубага беззаконня, гвалту з чалавека. Паэт не мог у свой час расказаць, як адбывалася «вялікае перасяленне» з наседжаных гнёздаў у Сібір, на Калыму і Салаўкі.

Пра сяброў па пакутах таксама гаворыцца толькі намёкамі. Так, у вершы «Мне сняцца суніцы» ў сне вяртаюцца з забыцця бясхмарныя абразкі маладосці: «Мы з колішнім другам суніцы збіраем у роснай траве». Друг весела «пяе і рагоча», радуецца жыццю: «Блакітныя свецяцца вочы і вусны ў крывінках суніц». Трагізм гэтага верша пра сон — у жорсткай рэальнасці явы. Вяртанне ў рэальнасць абуджае балючыя струны душы: «Упаў, як падстрэлены птах, мой друг у глухім катлаване з крывінкай на сцятых губах».

Аднак цэласнае, паслядоўнае асэнсаванне трагічнага пакуль не характэрна для паэзіі С. Грахоўскага, як і для ўсёй паэзіі застольна-застойных гадоў. У адлюстраванні рэвалюцыйных падзей, гісторыі грамадзянскай і Айчыннай войнаў усебаковая, «крывавая» і трагічная праўда падмяняецца патэтычным усланеннем гераізму народа («Вечны агонь», «Заўсёды ў дарозе», «Бацькі і дзеці», «Беларусь» і інш.). Гэтыя вершы не сталі значным мастацкім набыткам, і не таму, што ў іх услаўляюцца ідэі Леніна, камуністычнай партыі, ідэалы, у якія паэт, бясспрэчна, верыў. Напісаныя без асаблівага творчага гарэння, яны расцягнутыя, шматслоўныя і нагадваюць хутчэй зарыфмаваную прозу.

Пасля вяртання з лагераў і ссылак беларускія пісьменнікі (Л. Геніюш, С. Грахоўскі, А. Звонак, П. Пруднікаў, М. Хведаровіч), і гэта заўважалі адбітак у паэзіі, асабліва моцна адчуваюць прыцяжэнне роднай зямлі, прыпадаючы да якой, яны прагна ўдыхаюць гаючы водар, яе дабратворную сілу.

Наўрад ці адразу яны хапіліся асэнсоўваць перажытае, заведама складваючы ў стол напісанае. І гэта вытлумачваецца, відаць, не толькі цэнзурнай забаронай, але і перасцярогай, своеасаблівай псіхалагічнай рэакцыяй на нечалавечае паднявольнае існаванне. Як і пасля вайны аглухлая ад грымотаў літаратура пэўны час пазбягала ваеннай тэматыкі, залечваючы раны, так і былыя лагернікі плынню гадоў гаілі боль душы. Вось чаму асноўным і найбольш плённым у паэзіі С. Грахоўскага да сярэдзіны 80-х гадоў стаў эстэтычны падыход да рэчаіснасці. Асноўныя матывы яго вершаў і паэм — «вечныя», далёкія ад ідэалогіі духоўныя каштоўнасці. Лепшыя пейзажныя замалёўкі, вершы пра маладосць і каханне, багацце чалавечай душы і сёння не страцілі свежасці ўспрымання. У іх, як правіла, паўсядзённы, звыклы прадметны свет упісаны ў лірычны кантэкст, набываючы адухоўленасць у лірычным жывапісе, майстрам якога побач з П. Броўкам, П. Панчанкам, Н. Гілевічам і іншымі без усялякіх націжак можна назваць і С. Грахоўскага.

У сапраўдную сімфонію характва зліваюцца розныя святлацені, шматгалоссе птушынага шчэбету, шум ветру і сасновага лесу. У гэтай сімфоніі пераважае мажорны настрой і неадольная прага жыцця («Зачараванасць», «Сунічны сок», «Люблю зямлю, што пахне лесам...», «Колеры», «Вясновы дым» і інш.):

Вясна іскрыцца над зямлёю,
Захутанаю ў лёгкі дым,
І свежай дыхае раллёю,
І пругкім ветрам маладым.

У лірычных пейзажах С. Грахоўскага перададзены бясконцы рух, зменлівасць у прыродзе. Гэта адначасова і роздум над лёсам чалавека як часцінкі Сусвету. Змены ў календары прыроды адэкватныя зменам чалавечых узростаў.

Гэта найперш вясна, калі надыходзіць свята сонца і вады, а ў лесе і полі чуецца таемны шэпт, шматгалосы птушыны звон, усюды светла і зелена («Колеры», «Зялёны ветразь»). Вясною з абуджэннем ад сну і абнаўленнем прыроды наступае катарсіс, ачышчэнне душы («Раскрыліся пялёсткі», «Прадвесне», «Вясной»), таму, зіму пераражыўшы, паэт з асаблівай нецярплівасцю чакае вясну.

Гэта і лета. Лета жыцця. Лета, калі з лесу пахне суніцамі, расцвітаюць палявыя краскі, хвалюецца ад ветру даспелае жыта ў чаканні жніва, таму пераважаюць жоўтыя сонечныя фарбы: «І сонца між аблокаў на вадзе гайдаецца, як жоўценькі гарлачык» («Сунічны сок», «Ліпеньскае поле», «Подых лета», «Жнівень», «Жніво»).

Гэта і восень, калі ў прыродзе зіхацяць «усіх адценняў фарбы». Нечакана паэт прыходзіць да высновы, якая сведчыць, што назіранні над прыродай толькі зыходныя пастулаты ў роздуме над лёсам творцы і яго мастацкіх набыткаў («Колеры», «Верасень», «Асенні дзень»):

Так і паэзія — зялёная вясной,
А восенню — ўсе колеры у ёй.

Зазімак, зіма... Снег за вокнамі — і срабрыстыя пасмы валасоў як адзнака сталага ўзросту, аднак сэрца і душа па-ранейшаму застаюцца маладымі («Зазімак», «Снежань», «Зіма», «Завіруха»). З гадамі не растраціласяцяпло душы, не прапала энергія і ўменне амаль па-дзіцячы радавацца жыццю, здзіўляцца і захапляцца прыгажосцю наваколь-нага: «...Бягу па снезе і смяюся, забыўшыся пра сівізну» («Апошні снег», «Здзіўленне»).

Уменне здзіўляцца і захапляцца, як сведчанне духоўнасці асобы — найпершая ўмова творчага натхнення («Каб пісаліся вершы»):

Каб пісаліся вершы,
Трэба быць закаханым
У жанчыну, у неба,
У добрых людзей.
І ад шчасця заўсёды
Быць крышачку п'яным,
І ніколі, ніколі
Не траціць надзей.
Трэба быць закаханым
У гоманы бору,
У світанні над полем,
У дождж на сяўбе,
Трэба быць закаханым
У сінія зоры
І ніколі, ніколі —
У самога сябе.

Альтруістычныя адносіны да жыцця пацвярджаюцца і многімі іншымі вершамі («Багацце», «Што я ў цябе даўно ў даўгу...»). Багацце для С. Грахоўскага — гэта найперш шчодрасць душы, уменне падзяліцца з людзьмі апошняю скарынкай: «А ўсё, што маю, аддаю, і тым шчаслівы і багаты». У апошнім з названых вершаў ёсць паняцце «караць дабратой». Гэта, відаць, таксама адна з праяў альтруістычнага погляду на свет, своеасаблівае талстоўства, якое патрабуе не помніць зла нават у адносінах да сваіх крыўдзіцеляў. Так, у «Зоне маўчання» прыгадваецца сустрэча з былым энкэвэдыстам Лукашонкам, што трапіў у лагер у якасці зняволенага і, як ні дзіўна, шукае абароны ад крымінальнікаў у былой сваёй ахвяры. С. Грахоўскі дапамог уладкаваць яго на кухню: «Мабыць, у мяне нешта было ад талстоўства, —

разважае ён, — караць дабратою. Для тых, у каго хоць трошачкі асталося сумлення, — найбольшая кара, а нягоднік нягоднікам і памрэ».

Пісьменнік прымушае задумацца над той мяжою, што аддзяляе дабро ад зла, любоў ад нянавісці. Увасабленнем зла стае драпежная птушка каршун (аднайменны верш), якая нападае толькі на слабых і безабаронных. Ці не «правадыр і друг народаў» бачыцца ў гэтай алегорыі? Найбольш паслядоўна ў творчасці да сярэдзіны 80-х гадоў, аднак, засяроджваецца ўвага на «пачуццях добрых», гуманных, якія паэт разумее не абстрактна, а канкрэтна — у актыўнай дзейнасці, неабходнасці «тварыць дабро, як дыхаць і любіць» («Калі прыходзіць неспадзеўкі сталасць...»). Лірычны герой перажывае сапраўднае «свята душы», калі хата багата гасцямі, калі некаму ў пару сказана добрае слова, некага падтрымаў у бядзе («Баліць душа за кожнага калеку...», «Нельга ні забыцца, ні адкласці...», «Сэрца», «Свята душы», «Прага душы» і інш.). Як відаць, паняцце «душа» ўжываецца паэтам не столькі ў біблейскім, колькі ў зямным сэнсе, як усведамленне высокай самаахвярнасці асобы. Уменне тварыць дабро — найвышэйшая праява духоўнасці, своеасаблівы талент («Дабрата»):

Усё праходзіць, быццам дождж няроўны, —
І боль, і злосць, і дробная брыда,
А застаецца важны і галоўны
І самы светлы талент — дабрата.

Гуманныя пачуцці паэта скіраваны да пэўных аб'ектаў. Здольнасць праяўляць любоў да людзей, да зямлі, да кожнай маленькай істоты — неабходная ўмова сапраўднага шчасця («Патрэбен чалавеку чалавек», «Любоў», «Давер»): «А я шчаслівы, што з далоні кармлю маленькага шпака».

Невыпадкова Ф. Дастаеўскі падкрэсліваў магутную сілу чалавечай любові. «Любоўю ўсё купляецца, усё ратуецца, — разважае старац Засіма... — Любоў такі бясцэнны скарб, што на яе ўвесь свет купіць можаш, і не толькі свет, але і чужыя грахі яшчэ выкупіш».

Найвышэйшая праява гуманнасці, найвялікшы дар жыцця — каханне. У лірыцы С. Грахоўскага яно пераважна светлае, прыгожае, трывалае, загартаванае гадамі цяжкіх выпрабаванняў і выверанае на высокую маральнасць. Узаемаадносіны з каханай сагрэты вялікай павагай і шчырасцю («Як я жыў без цябе?», «Будзь музаю маёй...», «Нас разлучалі вёрсты і гады...», «Шлюб» і інш.):

Мабыць, трэба было
Праваліцца у пекла,
Траціць блізкіх,
Пакутаваць, мерзнуць, гарэць,
Ратавацца,
Каб лютая сцюжа не ссекла,
Каб цябе
Пад Палярнаю зоркай
Сустрэць.

Каханне, сямейнае шчасце за калючым дротам азмрочваліся гнётам абставін, балюча перажываў паэт і страту першай сям'і. Пачуцці і на свабодзе не заўсёды бываюць бясхмарныя («І мы сварыліся...», «Мы з табою жылі...», «Позняя радасць»). Жыццёвы вопыт пераконвае паэта ў тым, што найбольш трывалае і грунтоўнае тое шчасце, якое дастаецца нялёгкай цаной («Лірычнае», «Пра шчасце»): «Але пакутлівае шчасце за ўсё на свеце даражэй».

Чалавек і прырода ў лірыцы С. Грахоўскага згарманізаваны ў адзінае цэлае, таму невыпадкова ўсе светлыя пачуцці і тонкія адценні настрою ўпісаны ў прыроднае асяроддзе, якое служыць фонам і падкрэслівае цэласнасць і гармонію Сусвету («Хмель», «Пралескі», «Чысціня», «Казка», «Далёкая» і інш.).

«Паэзія С. Грахоўскага, — зазначае А. Лойка, — гэта перш за ўсё школа выхавання пачуццяў добрых і прыгожых»[1].

Пачуцці «добрыя і прыгожыя» асабліва характэрны для яго ліра-эпічных паэм. Тры з іх — «Памяць» (1963), «Тры вымярэнні» (1964) і «Паэма дарог» (1970) — звязаны адзіным вобразам лірычнага героя, за якога ад першай асобы часцей за ўсё прамаўляе аўтар. У «Памяці» і «Паэме дарог» узнаўляюцца ўражанні дзіцячых і юнацкіх гадоў. Праз асабістыя перажыванні падаецца цэлая гістарычная эпоха: падзеі першай імперыялістычнай і грамадзянскай войнаў, рамантыка рэвалюцыйнай барацьбы. Выхад у вялікі і прасторны свет для малога хлапчука пачаўся на дарогах вайны, у беспрытульным бежанстве: «Пад нарамі, у рызманах і ў брудзе, качаўся я і непрыкметна рос». З таго далёкага дзяцінства запомніліся вакзалы, запоўненыя бязногімі і аслеплымі салдатамі. Здавалася, што ўвесь свет зрушыўся з месца:

Расхлістаны бадзяўся па марозе
Мурзаты трохгадовы чалавек
І думаў, што жывуць усе ў дарозе
І што ваююць людзі з века ў век.

Можа, чалавецтва яшчэ не дастаткова цывілізаванае, каб спыніць усялякія мілітарысцкія памкненні? Але Ф. Дастаеўскі сцвярджаў адваротнае: што прага крыві ўзрастае ў цывілізаваным грамадстве. Дваццатае стагоддзе з яго войнамі, рэвалюцыямі і катоўнямі як не трэба лепш пацвярджае празарлівую перасцярогу пісьменніка.

Праўда, лірычны герой С. Грахоўскага, як і яго равеснікі, не мог раздумваць над такімі глабальнымі, агульначалавечымі праблемамі. Захапіўшыся рамантыкай рэвалюцыйнай барацьбы, атрыбутыкай піянерскай і камсамольскай сімволікі, яны свята паверылі ў ідэалы камунізму, у неабходнасць сусветнай рэвалюцыі.

Пры гэтым рэвалюцыйная і класавая ваяўнічасць паўставала ў рамантычным асвятленні, як героіка «праведнай» барацьбы. Не выключэнне ў гэтым сэнсе паэмы і лірычная проза С. Грахоўскага.

І ўсё ж, нягледзячы на традыцыйную аднабаковасць, пры адлюстраванні галоднага, але прагнага да навукі камсамольскага юнацтва, першага кахання, працы ў Бабруйску («З жалезнаю аднакалёснай тачкай мы абагнулі тры разы экватар») — гэта старонкі біяграфіі не толькі паэта і яго пакалення, але і гісторыя народа, якую нельга забыць і перакрэсліць. Ды і ці трэба гэта рабіць?

Моцнае ўражанне сваім гуманістычным пафасам і антываеннай скіраванасцю пакідаюць паэмы «Бяссмертнікі» (1976) і «Трывожны маналог зямлі» (1977).

Маці, якая ідзе ад вёскі да вёскі, ад абеліска да абеліска, шукаючы магілу сына (загінуў пад Варшавай), — гэта вобраз рэальны і разам з тым рамантычны, узняты над прыземленай рэчаіснасцю, бо ў ім зліліся спрадвечныя спадзяванні ўсіх маці, скіраваныя супраць антычалавечнасці і жорсткай прагі крыві.

Калі з-пад пяра С. Грахоўскага выходзілі ўсхваляваныя радкі паэмы «Бяссмертнікі», яму, напэўна, успаміналіся не толькі сябры-паэты, якія загінулі на вайне, як М. Сурначоў, чые радкі сталі эпіграфам да твора. Не мог, не меў права забыць ён і тых, хто загінуў у лагерным пекле.

Ідэйная вага паэмы «Трывожны маналог Зямлі» асабліва ўзрастае пасля чарнобыльскай катастрофы. Па-грамадзянску страснае, рамантычна-ўзнёслае прамаўленне ад імя Зямлі — своеасаблівы ўступ да пастаноўкі вострых экалагічных праблем і пытання аб выжыванні чалавецтва.

[1] Лойка А. У вечным падарожжы. // Грахоўскі С. Вершы. Мн., 1968. С. 8.

Паэмы «Спаленыя масты» (1975) і «Ростань на світанні» (1980), прысвечаныя канкрэтным гістарычным асобам — Аляксандры Мураўёвай і ўкраінскай паэтэсе Лесі Украінцы, — вызначаюцца сталым майстэрствам. Лёс Аляксандры Мураўёвай, якая пакідае дзяцей, свецкае жыццё і едзе за мужам у Сібір, на катаргу, блізкі беларускаму паэту асабістымі матывамі. У мемуарных творах ён не раз называе сваю жонку, якая, каб сустрэцца са ссыльным мужам, прайшла пешшу сто дваццаць кіламетраў па расхлябанай таежнай дарозе пад праліўным дажджом, «мая дзекабрыстка».

У паэме «Ростань на світанні» дзеянне адбываецца на пачатку нашага стагоддзя ў Мінску, куды Леся Украінка прыехала, каб аблегчыць пакуты свайго каханага, Сяргея Мяржынскага, хворага на сухоты. Тут напісана яе паэма «Апантаная». Надуманай, аднак, у паэме «Ростань на світанні» ўяўляецца сустрэча на Траецкім базары Лесі Украінкі з дзядзькам Дамінікам, бацькам будучага паэта Янкі Купалы. Такая дэманстрацыя інтэрнацыянальных літаратурных сувязей выглядае крыху ненатуральнай, змушанай.

У лірычнай прозе, апавяданнях, сабраных у кнігах «Які вялікі дзень» (1966) і «Сустрэча з самім сабою» (1988), а таксама ў аповесцях «Гарачае лета» (1974) і «Ранні снег» (1975) С. Грахоўскі працягвае традыцыі М. Лынькова, Я. Брыля, Я. Скрыгана, чые навелы і сёння прыцягваюць яркімі жывымі характарамі.

У Ф. Дастаеўскага старац Засіма прыводзіць словы аднаго знаёмага доктара: «Я, гаворыць, люблю чалавецтва, але дзіўлюся на сябе самога, і чым больш я люблю чалавецтва наогул, тым менш я люблю людзей у прыватнасці, гэта значыць, паасобку, як пэўных асоб... Я, кажа, станаўлюся ворагам людзей, ледзь тыя да мяне дакрануцца. Затое заўсёды так адбывалася, што чым больш я ненавіджу людзей у прыватнасці, тым больш палымянай станавілася любоў мая да чалавека наогул». С. Грахоўскі якраз скіроўвае ўвагу да чалавека канкрэтнага, ствараючы вобразы людзей звычайных, але здольных на высакародныя ўчынкі. Так, Іван у апавяданні «Засвеціцца акно» не здраджвае свайму каханню, нават калі каханая застаецца калекай.

Трагічная смерць маладзенькай і таленавітай цыганкі (апавяданне «Рута») выклікае пратэст супраць злачыннага гвалту з чалавека.

Няўмольна жорсткі лёс падсцерагае Галю Карэцкую (з аднайменнага апавядання), якая памірае на парозе юнацтва.

Каханне зрабіла лепшым блазнаватага «цяжкага» падлетка Кольку («Які вялікі дзень»). Дарэчы, пазней гэтае апавяданне, названае інакш і дапоўненае, дало назву кнізе — «Сустрэча з самім сабою».

Выклікаюць суперажыванне апавяданні «Жывое вогнішча», «Ганна», «Так і было», дзе адлюстраваны эпізоды мінулай вайны. Нярэдка ў прозе С. Грахоўскага аднаўляюцца падзеі, сведкам якіх давялося быць у дзяцінстве і юнацтве («Зімовыя сны», «Радыё», «Гастралёры», «Акцябрына», «Галя Карэцкая»). Шмат у чым дакументальныя аповесці «Рудабельская рэспубліка» (1968), па якой створаны мастацкі фільм, і «Гарачае лета». Займальнымі сюжэтамі яны часам нагадваюць папулярны ў 20-я гады раман А. Александровіча, А. Дудара і А. Вольнага «Ваўчаняты». Аднак тут, як і ў аповесці «Суровая дабрата», пісьменніку не ўдалося пазбегнуць аднабаковай гераізацыі гістарычных падзей. Цікава параўнаць батальную прозу С. Грахоўскага з мемуарамі Рамана Гуля «Ледзяны паход», дзе аўтар, не прыхарошваючы, паказвае, які тэрор чынілі ў адносінах да мірнага насельніцтва і белыя, і чырвоныя.

Востра ставіцца праблема неўладкаванай адзінокай старасці ў апавяданні «А маці не спіць». Гэта крык душы, асуджэнне жорсткасці і бесчалавечнасці ў адносінах да старых, бездапаможных людзей.

Чытаючы апавяданні «Мальва», «Слёзы», нельга не ўспомніць аповесці «Халстамер» Л. Талстога і «Каштанка» А. Чэхава, падобныя сваім суперажываннем, спагадай да «меншых братоў» — каня, каровы, нават да грознага гаспадара тайгі мядзведзя («Варнак»).

Проза С. Грахоўскага вызначаецца непрыдуманымі канфліктнымі сітуацыямі, псіхалагічнай матывіроўкай паводзін герояў, неардынарнымі характарамі, што дыктуе, відаць, багаты жыццёвы вопыт аўтара.

У творчасці пісьменніка найбольш выразна вылучаюцца дзве стылявыя лініі. Створанае да сярэдзіны 80-х гадоў характарызуецца ў асноўным лірызмам, ідэалізацыяй мастацкага вобраза, рамантычнай узнёсласцю. Пачынаючы з сярэдзіны 80-х гадоў, яго паэзія і проза набываюць адзнакі новага мыслення, больш раскаванага, пазбаўленага стэрэатыпнай абмежаванасці.

«Паэтычны стыль у яго, — зазначае М. Барсток у палымянскай рэцэнзіі, — своеасаблівы, абумоўлены асобаю аўтара і тымі абставінамі, у якіх ён складваўся. Ёсць у ім трохі ад маладнякоўскай паэзіі, якая так моцна запала ў душу юнака, ад жадання выказаць непасрэдна, ад сэрца к сэрцу ўсё, што сабралася за доўгія гады вымушанага маўчання».

Памяць усё часцей вяртае С. Грахоўскага «ў морак таежных дарог»: кнігі «Кругі надзеі» (1985), «Верую» (1987). Асабліва гэта характэрна для вершаў «Сонечны вечар», «Душагрэйка», «Пошукі», «Сніцца і сніцца маці». У вершы «Такі адказны час», прысвечаным памяці сяброў па лагерным пекле — Алеся Пальчэўскага, Уладзіміра Мяжэвіча і Міколы Хведаровіча, — паэт са шкадаваннем гаворыць, што ім не суджана ўбачыць «новы росквіт на зямлі». Так ён разумее зрухі ў грамадскай свядомасці, калі нарэшце знята забарона з лагернай тэмы і можна на поўны голас расказваць аб перажытым у сталінска-берыеўскіх лагерах і ссылках.

Жалобнае галашэнне, плач па спаленых рэпрэсіраваных кнігах і рукапісах, якія падзялілі лёс аўтараў, знаходзім у вершы «Рэквіем рукапісам», змешчаным у кнізе «І радасць, і боль» (1987):

Казалі, рукапісы не гараць,
А я аднойчы бачыў, як гарэлі
У печы Галубковы акварэлі,
Як вершы адпраўлялі паміраць,
Сагрэтыя яшчэ жывым дыханнем,
І ласкаю, і трапяткім каханнем,
А кажуць, — рукапісы не гараць.

Для мастацкага ўвасаблення жыццёвага шляху вязня паэт знаходзіць выдатную прадметную паралель: «І мой нешчаслівы гайдаецца лёс, нібыта дзіравая лодка» («Сарваны паром»). Наўрад ці можна сказаць больш дакладна пра небяспеку, якая вісела над зняволенымі сталінскага ГУЛАГа:

Усімі забыты,
У змроку лячу
На хісткім сарваным пароме,
Ні знічкі,
Ні гуку,
Туман уваччу,
Пагібель чакае на строме.

Тыя рэпрэсіраваныя пісьменнікі, каму цудам удалося выжыць — Я. Бяганская, У. Дубоўка, А. Звонак, С. Дзяргай, Р. Кобец, С. Новік-Пяюн, П. Пруднікаў, Я. Скрыган, М. Хведаровіч, С. Шушкевіч і іншыя — пра многае маглі расказаць. Пачынаючы з канца 80-х гадоў, на старонках «ЛіМа», «Полымя» і іншых перыядычных выданняў змяшчаюцца нізкі «лагерных» вершаў А. Звонака, П. Пруднікава,

Л. Генюш, у часопісе «Маладосць» — яе мемуары «Споведзь», Я. Бяганская пакінула ўспаміны «Мая Галгофа», Я. Сіпакоў надрукаваў нарыс «Сяргей Сцяпанавіч» (пра нялёгкі лёс С. Дзяргая), Л. Савік — пісьмы Сымона Баранавых. С. Грахоўскаму ўдалося выдаць знойдзены ў архівах КДБ дзённік Б. Мікуліча «Пра сябе». Ён актыўна ўключаецца ў працу па вяртанні памяці і спадчыны рэпрэсіраваных пісьменнікаў.

Паэму С. Грахоўскага «Балючая памяць» (1980—1987) М. Аронка ўспрыняў «як смелы грамадзянскі акт». Асабовы пачатак у ёй «арганічна зліты з эпічным, публіцыстычным, радкі поўныя пачуцця і думкі, іх хочацца цытаваць, чытаць уголас», — адзначае крытык у лімаўскай рэцэнзіі.

Лагерная паэзія і проза С. Грахоўскага, кнігі «І радасць і боль», «Споведзь», сюды ж можна далучыць і аповесць «З воўчым білетам», што друкавалася ў часопісе «Полымя», ставяць адны і тыя ж набалелы праблемы, таму і гаварыць пра іх больш мэтазгодна як пра адзіны крык душы, «вселенскую боль», пакідаючы ўбаку жанравую прыналежнасць.

Бадай, упершыню ў беларускай літаратуры апошніх дзесяцігоддзяў так рэзка пастаўлена пытанне аб безабароннасці чалавека перад дзяржаўным беззаконнем, так паслядоўна даследуецца дыялектыка дабра і зла.

Безумоўна, генетычны код, спадчынныя асаблівасці адыгрываюць не апошнюю ролю ў фармаванні маральнага вобліку, але ва ўмовах, спецыяльна створаных для расчалавечвання асобы, мяжа паміж дабром і злом пачынае сцірацца, бывае, што і праведнік можа стаць грэшнікам.

С. Грахоўскі паведамляе падзеі і факты, анатаміруе прыроду зла, ставячы безліч пытанняў, прымушаючы кожнага рабіць свае высновы. Аб'ектам яго даследавання становіцца лёс інтэлігенцыі ў лагерным пекле, лёсы жанчын, падлеткаў. Прыводзяцца звесткі пра трагічны лёс асобных пісьменнікаў (С. Дарожнага, У. Мяжэвіча, А. Розны, журналіста Ю. Такарчука, драматурга В. Шашалевіча і яго жонкі Веры Шашалевіч), урачоў, інжынераў, артыстаў. Уражвае вобраз спявачкі Герты Карлаўны Варламавай, якую расшукваў Галівуд для ўдзелу ў шматсерыйным фільме.

Не столькі асуджэнне, колькі спагада выказваецца ў адрас тых, хто не вытрымліваў гнёту абставін і, трацячы чалавечы воблік, ператвараўся ў «шакала», які капаецца на сметніках, вылізвае міскі, часам даходзіць нават да канібалізму.

Распавядаючы пра Марыю Дарошку, якая ў час голаду на Украіне ў стане галоднага псіхозу засекла і з'ела сваё дзіця, пісьменнік зноў ставіць пытанне: «Хто ж вінаваты ў гэтай бядзе? Хто давёў жанчыну, маці да канібалізму, да страты памяці, да такога падзення?» У згаданым выпадку, здаецца, усё зразумела, але як зразумець тых сённяшніх вясёлых мам, якія выкідваюць дзяцей на сметнік або забіваюць, каб не перашкаджалі займацца распустай? (верш «Дзве мамы»). Ці не хаваюцца карані сённяшняй бездухоўнасці пад напластаваннямі дзесяцігоддзяў?

Цені «вялікага інквізітара» і яго апрычнікаў віталі не толькі над дарослымі, але і над дзецьмі, якім за спазненне або нявыхад на работу ці на заняткі ў рамеснае вучылішча давалі ад году да трох турмы. «Калі не на пагібель, дык на маральнае растленне кінулі іх, — з абурэннем піша С. Грахоўскі. — За паўгода, за год з хлапчукоў выходзілі кваліфікаваныя злодзеі і жорсткія бандыты, з непаўналетніх дзяўчынак разбэшчаныя прастытуткі за міску баланды».

Зноў згадаем Ф. Дастаеўскага, які не прымаў «вышэйшую гармонію», купленую слязамі хоць бы аднаго замардаванага дзіцяці. «Слу-

хай, калі ўсе павінны пакутаваць, — разважае Іван Карамазаў у размове з братам Алёшам, — каб пакутай купіць вечную гармонію, то пры чым тут дзеці, скажы мне, калі ласка».

За дзевятнаццаць гадоў С. Грахоўскі добра вывучыў падобную да тэатра абсурду рэчаіснасць, з якой сутыкнуўся, пачынаючы з 19 кастрычніка 1936 года, калі быў незаконна арыштаваны і калі для яго пачаўся новы адлік часу. Чорная паласа працягласцю амаль у два дзесяцігоддзі перакрэсліла юнацкія спадзяванні, абарвала маладосць («19 кастрычніка», «Страчаная маладосць», «Сарваны паром»). Лічба 19 набывае магічнае значэнне ў біяграфіі С. Грахоўскага. 19 кастрычніка 1946 года быў вызвалены з лагера. 19 ліпеня 1947 года знялі судзімасць. 19 мая 1949 года арыштавалі другі раз, а 19 верасня пастанавілі саслаць на пасяленне. 19 кастрычніка 1955 года прынята пастанова аб рэабілітацыі.

19 гадоў цягнулася барацьба за выжыванне, светлымі праблісками ў якой было лагернае брацтва, каханне, сям'я, сустрэчы з добрымі людзьмі, як, да прыкладу, са Сцяпанам Гаўрылавічам Цокурам, начальнікам лагпункта. Праўда, добрыя людзі, як правіла, не вытрымлівалі гэтага пекла, без пары паміралі.

Шмат вершаў адрасуе С. Грахоўскі сваім былым крыўдзіцелям — следчым, суддзям, канвойным, — і розным бюракратам, чыноўнікам, махлярам і прайдзісветам («Майму суддзю», «Ціхія пенсіянеры», «Тармазы», «Забаронца», «Балючае» і інш.). Не можа забыць ён Васіля Сымонавіча Карпіка, які з лёгкай душой прыгаворваў нявінных людзей, у тым ліку і яго, да пакарання катаргай або смерцю.

Як і П. Панчанка, С. Грахоўскі асабліва непрымірыма ставіцца да тых, хто перашкаджае адраджэнню нацыянальнай свядомасці і беларускай мовы («Клопат», «Народ», «Маўчальнікі» і інш.).

У лепшых вершах паэта асабістае перарастае ў агульначалавечае, прыналежнае да лёсу многіх людзей, мысленне вызначаецца афарыстычнай дакладнасцю: «Лепш быць сляпым або бязногім, чым мець халодную душу», «Ад слова траціцца надзеі, ад слова свеціцца жыццё», «І светлымі начамі ў Беларусі бярозавікам пахне позні снег», «І што шчаслівы сёння дзень, назаўтра толькі зразумееш», «Мы ўжо не просім міласці ў прыроды, прырода просіць літасці у нас».

Пісьменнік смела ўводзіць у сваю паэзію і прозу лексіку турэмнага ўжытку, так званы блатны жаргон: блацякі, дахадзягі, вертухаі, адмантуліў, туфта, кандзей і іншыя, але ў цэлым яго творчасць вырастае з нацыянальнага фальклору. Ён шырока выкарыстоўвае прыказкі, прымаўкі, параўнанні, метафары. На аснове паданняў напісаны яго паэмы «Нара» і «Гарывада». У аповесці «Суровая дабрата» ёсць легенда пра музыку, чароўныя гукі цымбалаў якога клікалі на змаганне з крыўдзіцелямі народа. Адным з асноўных матываў «лагернай» творчасці з'яўляецца сум па волі, жаданне быць свабодным. Невыпадкова своеасаблівай прадмовай да аповесці «Такія сінія снягі» стала прытча пра тое, як мядзведзь, трапіўшы ў пастку, адгрыз сабе лапу, каб толькі выйсці на волю.

Сімвал тугі па волі — душа за турэмнымі кратамі, пад небам, разлінаваным клеткамі і ромбамі. Паэт з болем піша пра тое, што столькі гадоў яго, як і іншых, пазбаўленых грамадзянскіх і чалавечых правоў, ахоўвалі і выхоўвалі, «і пад замкамі, і пад пломбамі, нібы каштоўнасць, берaглі», але нікому не было справы да душы вязня, якая «з маленства гартавалася на чыстым, праведным агні» («Душа»). Чысты, праведны агонь — сумленне — гэта мера маральна-этычнай трываласці лірычнага героя і самога аўтара.

Ім выклікаецца моцнае адчуванне віны перад тымі, каго згнаілі на лесапавалах, у карцэрах і «кандзеях». Як на споведзі, зноў і зноў вывяраючы сумленнем свае ўчынкі, пісьменнік апраўдваецца, што,

каб выжыць, гнаў «туфту», выбіваўся ў «прыдуркі» (тыя, хто быў на лёгкіх работах): «А няўжо, каб не вылазіў з лесу і загнуўся, было б лепш? — папярэджваючы папрокі ў прыстасаванстве, разважае ён. — Ведаю па ўласным вопыце, ніводзін самы дужы ўвесь тэрмін, нават палову не вытрываў на павале і пагрузцы... Выжылі толькі тыя, каму пашанцавала пракантавацца на лёгкіх работах. Некаторыя дацягнулі да нашых дзён. Ці не лёс іх абраў сведкамі народнай трагедыі?» («Споведзь». С. 177.)

А. Салжаніцын у прысвечаным яму дакументальным тэлефільме гаварыў пра сваё выздараўленне з цяжкай небяспечнай хваробы, як пра цуд, найвышэйшае наканаванне лёсу, каб нехта змог адкрыць усяму свету праўду пра ахвяраў сталінскага ГУЛАГа. Ці ж не вышэйшым наканаваннем лёсу з'яўляецца і тое, што С. Грахоўскі на парозе свайго васьмідзесяцігоддзя, маючы ясную, багатую памяць, стварае шырокую панараму бяспраўнага, паднявольнага існавання без віны вінаватых «ворагаў народа», «нацдэмаў», «контрыкаў», «тракцыстаў» (троцкістаў) і іншых. Гэтыя людзі прайшлі праз такія кругі пекла, перажылі столькі пакут, што іх хапіла б не на адно чалавечае жыццё («Сцюжа»):

Я так настыў у маладосці,
Я навучыўся так цярпець,
Што толькі спадзяюся косці
У крэматорыі сагрэць.

Ганебнае кляймо «нацдэма», «контрыка» прыклейвалася моцна, а можа, і на ўсё жыццё. Нават малая дачка вельмі хутка зразумела сваё нераўнапраўнае становішча ў адносінах з дзецьмі. Не раз прыбягала яна са слязамі на вачах, бо дзеці абзывалі «ссыльная вражина». Колькі разоў з «воўчым» білетам адчуваў сябе пазбаўленым элементарных чалавечых правоў. Адчуванне нейкай ганебнасці не знікла нават пасля рэабілітацыі («Увага»):

Што ж, адмантуліў дваццаць год
І ўсе знялі артыкулы,
Ды не растаў пагарды лёд
І ў вочы пальцам тыкалі.

А. Міхайлаў называе «лагерныя» творы рускіх пісьменнікаў (В. Шаламава, А. Волкава, А. Жыгуліна, А. Салжаніцына і інш.) «кнігамі-помнікамі», «кнігамі-плачам».

Свае «кнігі-помнікі» і «кнігі-плачы» стварылі і беларускія пісьменнікі. І асаблівая заслуга ў тым належыць Сяргею Грахоўскаму.







ЯЗЭП
ЯНУШКЕВІЧ

# «АД ШЧЫРАЙ ДУШЫ І СЭРЦА»

Лявон Гмырак. **Творы.** Проза. Крытыка. Публіцыстыка. «Мастацкая літаратура», 1992.

У 1989 годзе выдавецтва «Мастацкая літаратура» распачало ўнутрывыдавецкую серыю «Спадчына» (хоць, вядома ж, айчынная класіка выдавалася там і раней). Нізка гэтая летась папоўнілася невялічкім зборнічкам «Твораў» Лявона Гмырака. Укладанне, падрыхтоўка тэксту, прадмова і каментарыі Уладзіміра Конана, вядомага нашага пісьменніка і філосафа. Дбаннем вучонага ўпершыню ў шырокі абыходак уваходзіць творчая спадчына аднаго з прадстаўнікоў «першага пакалення нацыянальнага адраджэння Беларусі».

Так сказаў пра сябе, сваіх паплечнікаў сам Лявон Гмырак (псеўданім Мечыслава Бабровіча, 1891—1915), поўны ўсведамлення гістарычнай адказнасці, што лягла на плечы ягонага пакалення: «Мы павінны цешыцца з таго, што на нашу долю дасталася хоць і нялёгкая, але высокая задача падлажэння фундаменту пад будынак лепшай будучыні Роднага Краю. Усякі, колькі можа, павінен у гэтым кірунку працаваць».

І яны працавалі, не шкадуючы маладых жыццяў. Да крыўднага мала адпускаў лёс таленавітым юнакам, узгадаваным «Нашай Нівай». Сяргей Палуян скончыў жыццёвы шлях у 19. Аўтар неўміручага «Вянка» Максім Багдановіч не дажыў да дваццаці шасці. Ягоны равеснік Лявон Гмырак загінуў на два гады раней, 30 чэрвеня 1915 года «пад крэпасцю ля Коўна, здабыўшы за адвагу Георгіеўскі крыж».

Магіла яго невядомая... Месца нараджэння пакуль дакладна таксама. У толькі што выдадзеным 2-м томе біябібліяграфічнага слоўніка беларускіх пісьменнікаў (Мн., 1993. С. 226) пра родны кут Л. Гмырака сказана куды як няпэўна: «былы фальварак Пархвенава (Параф'янава?) Вілейскага пав. Віленскай губ. (цяпер Мядзельскі р-н Мінскай вобл. або Докшыцкі р-н Віцебскай вобл.)».

Наогул, «што ведаем мы сёння пра Лявона Гмырака — аднаго з самых яркіх публіцыстаў газеты «Наша Ніва»? Не толькі чытачы, але і спецыялісты, гісторыкі літаратуры?» — трывожнымі пытаннямі распачынае прадмову «Хацеў ён волі для сялян...» Уладзімір Конан. І адразу шчыра прызнаецца: «Да сораму мала». Біяграфічныя звесткі пра пісьменніка аўтар прадмовы называе «фрагментарнымі і недакладнымі». І ўсё ж паспрабуем, сыходзячы хоць з іх, разабрацца з месцам нараджэння крытыка.

«Вядома, што нарадзіўся ён у фальварку Пярхвенава, відаць, недзе каля Даўгінава, старадаўняга мястэчка (цяпер — вёска Вілей-

скага раёна)», — няўпэўнена канстатуе Ул. Конан, рахуючы папярэдне вывучаныя ім біяграфічныя нататкі-ўспаміны пра Гмырака. Адна з іх у часопісе «Рунь» (09.V.1920) падае: «Ён родам з-пад Буцлава Вілейскага павету...». У другой (газета «Беларусь», 07.VII.1920) Максім Гарэцкі называе «фальварак Пархвенава Вялейскага павету Віленскай губерні». Аднак у XIX стагоддзі ў Вілейскім павеце не існаваў фальварак з такою назвай. Хіба ў мясцовым вымаўленні. Афіцыйная (тагачасная і сённяшняя) адміністрацыйная назва — Параф'янава. Згодна ўсерасійскаму перапісу 1897 года, на Вілейшчыне існавалі тры Параф'янавы: 1) «село Парафияново» Параф'янаўскай воласці з насельніцтвам 117 чалавек пры Докшыцкім тракце; 2) «усадьба притча костела в с. Парафияново» пры Докшыцкай, Будслаўскай і Даўгінаўскай камунальных дарогах з трыма хатамі, а ў іх 13 душ (інакш кажучы, касцельная плябань з касцёлам Найсвятой Панны Марыі, збудаваным у 1675 годзе; ці не адсюль паходзіць назва вёскі? «Парафія» — акруга з вернікамі, прыналежная да аднаго касцёла);

3) «имение Парафияново», інакш кажучы, маёнтак, двор пры Докшыцкім тракце ля рэчкі Зуйкі. У 1897 годзе стаяла ў ім тры хаты, «наличных жителей, взрослых и детей...» — 22 душы, з іх 13 мужчын і 9 жаночага полу. Вось адзін з тых трынаццаці ці не быў васьмігадовы Мечыслаў Бабровіч, сын тамтэйшага ляснічага паноў Слатвінскіх.

Так што родны кут Лявона Гмырака — можна сцвярджаць пэўна — сучасны Докшыцкі раён, а не Мядзельшчына. Зразумела, канчаткова пытальнік у 2-м томе біябібліяграфічнага слоўніка, а значыць, і ў жыццяпісе публіцыста здымае хросная метрыка. Яна павінна адшукацца дзесь у архівах былога Вілейскага дэканату (захоўваюцца цяпер у гістарычным архіве ў Гродна). Хутчэй за ўсё ў метрычных запісах Параф'янаўскага касцёла за 1891—1892 гады.

Зрэшты, Мядзельшчына ці не гадавала яго. Калі ў 1915 годзе меўся выходзіць дзіцячы часопіс «Іскрачка» (выданне не здзейснілася, перашкодзіла вайна), Гмырак у лісце рэдакцыі «Нашай Нівы» прасіў дасылаць часопіс на адрас: «Паштовая станцыя Даўгінава, Віленскай губерні, Шымкоўшчына, С. І. Бабровічу».

«С. І. Бабровіч, бясспрэчна, — бацька пісьменніка, а Шымкоўшчына — вёска альбо, хутчэй, фальварак, бо ў «Слоўніку назваў населеных пунктаў Мінскай вобласці» Яўгена Рапановіча вёскі пад такой назвай няма», — канстатуе ў прадмове Ул. Конан. У дадзеным выпадку слоўнік Я. Рапановіча недастатковы для пошуку. Зазірнём у іншы капітальны даведнік, складзены на пачатку нашага стагоддзя. «Виленская губерния. Полный список населенных мест со статистическими данными о каждом поселении, составленный по официальным сведениям И. И. Гошкевичем. Вильно, 1905». У ім на с. 92 сярод назваў Вілейскага павета Будслаўскай воласці знаходзім: «Шимковщизна, им. Слотвинского, жит. 59 (муж. 29 и жен. 30), дес. 882, у[ездный] гор[од] 49 в[ёрст], вол. пр. 6 в., ст. кв. 9 в., ст. ж. д. Березвечь 48 в.». І болей мясцовасцей пад назвай Шымкаўшчына ў былым Вілейскім павеце не існавала.

Што менавіта ў гэтай Шымкаўшчыне жылі Бабровічы ў 1912—1915 гадах, ускосна пацвярджаецца звесткамі М. Гарэцкага: «Бацька яго служыў лясніком у паноў Слатвінскіх».

Так што мядзельскія краязнаўцы, пры жаданні, параўнаўча лёгка адшукаюць у ваколіцах Будслава (6—8 кіламетраў) мясціну, дзе стаяў двор Шымкаўшчына. Ці не з Шымкаўшчынай звязаны наступны эпізод у жыцці юнага Мечыслава, пададзены М. Гарэцкім у згаданай публікацыі: «Паставіў яго бацька (тады ён ужо меў свой фальварак ля Пархвенава) даглядаць работнікаў, а Лявон, пабачыўшы, як адной старой бабульцы цяжка цягнуць кошыкі з бульбаю, сам працуе за яе цэлы дзень, забыўшыся на сваю ролю прыганятага».

Ведаючы цяпер найверагоднае месца нараджэння Мечыслава Бабровіча (двор Параф'янава), ініцыялы бацькі (С. І. Бабровіч), можна выказаць меркаванне, ці не блізкі сваяк — больш таго — родны малодшы брат Лявона Гмырака таксама заслужыўся перад беларускай культурай? У біяграфічным

даведніку кароткай энцыклапедыі «Беларуская ССР» (Мн., 1981. Т. 5. С. 48) прыведзена наступная персаналія: «Бабровіч Ян Станіслававіч (парт. псеўд. Сымон, Казік, Борскі; 2.6.1902, в. Параф'янава Докшыцкага р-на — 8.1.1943), дзеяч рэв. руху ў Зах. Беларусі, публіцыст. Чл. Кампартыі Чэхаславакіі з 1923, чл. КПЗБ з 1926. Вучыўся ў Пражскім ун-це (1922—1925)... паліт. рэдактар газеты БСРГ «Беларуская справа», «Народная справа», «Наша справа» і інш. [...] 23.2.1928 арыштаваны, прыгавораны да 15 гадоў турмы. У выніку абмену палітзняволенымі з вер. 1932 у СССР. Працаваў у Камісіі па вывучэнню Зах. Беларусі пры АН БССР».

Думаю, гіпотэзу, падказаную аўтару гэтых радкоў В. Скалабанам, станоўча пацвердзілі б хросныя метрыкі Мечыслава і Яна Бабровічаў з Параф'янаўскага касцёла. Іх варта пашукаць.

Аднак вернемся да «Твораў» Лявона Гмырака. Зборнічак складаецца з наступных раздзелаў: Проза; Літаратурная крытыка; Публіцыстыка; Верагодныя творы Мечыслава Бабровіча. Але яшчэ знаёмячыся з прадмовай, дзе ўкладальнік шырока цытуе лісты, дасланыя Гмыракам рэдакцыі «Нашай Нівы», нарадзілася пытанне: чаму ў кнізе няма асобнага раздзела эпісталярыя? Чытаючы ва ўступе прыведзеныя больш чым на паўстаронкі вытрымкі з пісем, пагаджаешся з меркаваннем Ул. Конана: «Лісты пісьменніка высвятляюць творчую асобу пісьменніка, яго светапогляд, літаратурныя схільнасці і антыпатыі. Апрача таго, яны нешта дадаюць для яго біяграфіі і, мабыць, паслужаць ключом для архіўных пошукаў, без якіх яго жыццяпіс нельга пакуль што напісаць». Але аўтар непаслядоўны, супярэчыць сам сабе на наступнай старонцы: «Перапіска Л. Гмырака з рэдакцыяй «Нашай Нівы» мала што дадае да скупых звестак пра яго жыццё». Менавіта дзякуючы Гмыракавым лістам, мы ведаем ініцыялы ягонага бацькі і другую малую радзіму крытыка — Шымкаўшчыну.

Незразумелая пазіцыя ўкладальніка, калі ў каментарыях (с. 221) ён тлумачыць: «Што датычыцца лістоў, то іх публікацыя была б дарэчы ў навуковым выданні для спецыялістаў. Дапрацоўка іх паводле літаратурных нормаў сучаснай мовы патрабавала б каментарыяў, якія па аб'ёме перавысілі б самыя тэксты. Абысціся без такіх правак немагчыма, бо ў лістах ёсць русізмы, парушэнні граматычнага і лексічнага складу мовы».

Аднак у той самай серыі «Спадчына», у зборніку М. Арла (Мн., 1991) укладальнік Янка Саламевіч усяго чатыры карэспандэнцыі паэта падаў у асобным раздзеле «Лісты». Думаю, тут паўплывала не нейкая адметнасць стыляў двух нашаніўцаў, а пазіцыі ўкладальнікаў. Дарэчы, у адным з лістоў М. Арол (псеўданім Сцяпана Пятэльскага) прызнаваўся: «Прабыўшы тры гады ў школе і чуючы толькі панаверку на сваю родную дарагую мову, я саўсім забыўся яе, адрокся і стаў напалавіну «расейцам» [...] З нас выбілі ўсё наша роднае і замянілі яго кепскім, бо перакручаным чужым. Беларус хворы. І хвароба гэта крэпка агарнула яго. Мы позна хапіліся лячыцца і ці зможам уваскрэсіць слабеючыя сілы і падняцца на ногі?..»

Лячыць цяпер шляхам рэдагавання мову тых, хто даўно адышоў, азначае сціраць, уніфікаваць аблічча нашых далёкіх папярэднікаў. Не «дапрацоўваць», а па-магчымасці захаваць усё як было ў арыгінале, пакінуць аўтэнтычным галоўныя стылявыя рысы пісьменніка, акром правапісных норм сучаснай граматыкі, не кранаючы лексічных асаблівасцяў — вось асноўны клопат, якім мусяць кіравацца складальнікі падобных выданняў. На тое яна і «Спадчына».

Хацелася б бачыць таксама ў кніжачцы асобным раздзелам некралогі ды ўспаміны пра Гмырака. Хаця б паводле матэрыялаў часопіса «Рунь» ды публікацыі М. Гарэцкага ў газеце «Беларусь» (апошняя чамусьці толькі ва ўрыўках «прышпілена» да прадмовы), далучыўшы да іх адказ «з паштовай скрынкі «Нашай Нівы» (31 студз. 1914 г.). Карысць ад гэтых раздзелаў не менш важкая, чым ад «Верагодных твораў Мечыслава Бабровіча» (дарэчы, чаму не Лявона Гмырака?), т. зв. раздзела «Dubia». У ліку іх дастаткова было б прывесці паасобныя артыкулы з нізкі апублікаваных у віленскай рускай «Вечерней газете» (1912—1915) і падпісаных трыптанімам Бо—

віч, а рэшту пералічыць у каментары як аднатыпныя. Пакінуць на высвятленне будучаму пакаленню даследчыкаў (хоць сам укладальнік у прадмове досыць пераканаўча даводзіць прыналежнасць крыптаніма Бо—віч менавіта Лявону Гмыраку, дэманструючы неардынарную даследчыцкую інтуіцыю).

Аздобіла б сціплую кніжачку і мастацкае афармленне з ліку некалькіх фотаілюстрацый, балазе захаваўся шэраг пісьменніцкіх аўтографаў. І не давялося б, як у выпадку з палуянаўскай, выдумваць партрэт крытыка (гл. Палуян С. Лісты ў будучыню. Мн., 1986). Здымак Гмырака рэпрадукаваўся «Нашай Нівай» (1911. № 37. С. 2) у нізцы публікацый «Нашы пісьменнікі і грамадзкія працаўнікі на вайне». Акрамя яго, вядомы групавы здымак з М. Гарэцкім і Х. Чарнышэвічам (Беларускія пісьменнікі. Біябібліяграфічны слоўнік. Мн., 1993. Т. 2. С. 226; даводзіцца шкадаваць, што і ў гэтым капітальным даведніку Лявона Гмырака пакінулі безаблічным).

Ну, ды што зробіш: чаго няма, таго няма. Прыгледзімся да самога зместу кнігі. У першым раздзеле «Проза» толькі адно апавяданне. І гэта слушна, хоць Гмырак больш вядомы як крытык-публіцыст, а не як Барыс Заяц, аўтар апавядання «Васілёва вяселле» (у каментары можна было б адзначыць памылковы подпіс «Барые Заяц» у першапублікацыі «Нашай Нівы»; гэтаксама да апошняга часу лічыўся памылковым багушэвічаўскі подпіс пад прадмовай да «Смыка беларускага»: Шымон Рэўка з-пад Барысава).

Раздзел «Літаратурная крытыка» склалі тры крытычныя артыкулы. На жаль, загаловак першага з іх пададзены недакладна: «Яшчэ раз аб сплачванні доўгу» (с. 44, а таксама гл. с. 17, 223, 238). У сапраўднасці хрэстаматыйна вядомы артыкул гучыць інакш: «Яшчэ аб сплачванні доўгу».

Калі б укладальнік паслядоўна прытрымліваўся галоўнага прынцыпу — храналагічнага, абавязковага для ўсіх збораў твораў (за выключэннем некаторых прыжыццёвых паэтычных зборнікаў, скажам, «Вянка», «Жалейкі» ці «Дудкі беларускай» як пашана да аўтарскай волі, калі падборка вершаў у зборніку зроблена па законах унутранай кампазіцыі), тады ў каментары ён падкрэсліў бы, што артыкул «Яшчэ аб сплачванні доўгу» — фактычны дэбют Гмырака-крытыка, Гмырака-літаратара. Аднак Ул. Конан слушна піша: «Артыкулам «Яшчэ [раз] аб сплачванні доўгу» пісьменнік уступіў у літаратурную дыскусію, якая пачалася ў «Нашай Ніве» з выступлення Ю. Верашчакі (В. Ластоўскага) «Сплачвайце доўг» (5 ліпеня 1913 г.) і адказам «Аднаго з Парнасікаў» (Янкі Купалы) «Чаму плача песня наша?» (26 ліпеня 1913 г.). Спрэчка гэта добра вядомая ў гісторыі нашай літаратуры. Доўгі час яна празмерна «палітазавалася»: у ёй бачылася толькі сутыкненне дэмакратычных і ліберальных тэндэнцый у крытыцы. А на самай справе гэта было часовае, абумоўленае развіццём беларускай літаратуры сутыкненне дзвюх тэндэнцый, якія дапаўнялі адна адну: крытыка існуючага грамадска-палітычнага ладу царскай Расіі і бяспраўнага становішча беларускага народа, з аднаго боку, і ўслаўленне красы роднага краю, прыгажосці і гераізму працоўнага народа, яго духоўнага подзвігу, з другога боку».

Трапна падкрэслена вучоба Лявона Гмырака ў расейскіх філосафаў (П. Лаўроў). Дарэчы, сам Гмырак усюды паслядоўна пісаў (ці «рэдагавалі» нашаніўцы ў рэдакцыі?) расейскія. Так што першае слова артыкула ў рэцэнзуемым зборніку (с. 44) «Расійскія народнікі...» — відавочна не гмыраўскае. Таксама як і Ластоўскага-Верашчаку Лявон Гмырак паслядоўна называе Юры, а ў зборніку (с. 46) праскочыла Юрый. Дапушчана памылка і ў назве верша Ф. Багушэвіча «Быў у чыстцы!» (с. 49), хоць Гмырак аўтарскай волі не парушаў: «Быў у чысцы». Праўда, у Багушэвіча з клічнікам («Быў у чысцы!»). На старонцы 144 загаловак трансфармаваны яшчэ на іншы лад «Быў у частцы», хоць, паўтараю, Гмырак назву ўсюды ўжываў спраўна, адрозніваючы каталіцкі чысцец ад паліцэйскай часці. Пры падрыхтоўцы тэксту артыкула «Яшчэ аб сплачванні доўгу» згубіўся сказ: «Дэкадэнцкія настроі, так прыметныя ў пісьменствах другіх народаў, у нас пакуль што не

праяўляюцца. *Бадай што яны і не праявяцца»* (с. 49). Апошні тэксталагічны недагляд пры жаданні можа ўспрымацца цэнзурна-ідэалагічным клопатам ачысціць Гмыракакрытыка ад прароцтваў.

Артыкул «Беларускае нацыянальнае адраджэнне» складаецца з 4-х раздзелаў і друкуецца паводле «Велікоднай пісанкі» (Вільня, 1914). У каментары да яго пажадана было б адзначыць, што ў першапублікацыі памылкова збілася нумарацыя, «скарацілася» да трох раздзелаў. Таксама не лішне было б патлумачыць, хто такі беларускі паэт Дарэўскі (с. 66), вядомы ўкраінскі дзеяч Драгаманаў (с. 69) і згаданыя на той самай старонцы «Очерки из жизни белорусской деревни» Пшчэлкі, ці «глухоўскі інстытут».

І ўрэшце артыкул «Тарас Шаўчэнка». У каментары да яго сцвярджаецца: «Упершыню апублікаваны ў «Нашай Ніве», 10—17.10.1913. Перадрукаваны ў зб.: Тарас Шаўчэнка і беларуская літаратура. Мн., 1964. С. 33—39. Друкуецца паводле тэксту «Нашай Нівы». Аднак першы сказ гэтага артыкула дае падставы сумнявацца ў слушнасці спасылкі: «100 гадоў таму назад, 25 лютага **1814** года нарадзіўся найвялікшы ўкраінскі паэт Тарас Шаўчэнка». У першапублікацыі ён іншы. «100 гадоў таму назад, 25 лютага **1815** года радзіўся найвялікшы ўкраінскі паэт — Тарас Шаўчэнка». Слушна папраўлены ўкладальнікам год нараджэння вялікага Кабзара належыла абгаварыць у каментары хоць бы двума словамі — «памылка друку». Бо ўжо праўка на наступнай старонцы «Калі Шаўчэнку было **15** гадоў...» без аніякай агаворкі чысцейшай вады рэдагаванне (Гмырак пісаў пра «**16** гадоў»). Дакладней, перад намі перадрукоўка артыкула са згаданага зборніка 1964 года. У тым канчаткова пераканалі аднолькава прапушчаныя ў зборніку і ў «Творах» словы: «У 1847 г. Шаўчэнку **разам** з другімі хаўруснікамі гуртка арыштавалі» (с. 88) і «...шмат болей мог бы напісаць Шаўчэнка, болей **мог** бы даць чалавецтву перлаў сваёй творчасці...» (с. 90). А таксама правапіс шаўчэнкаўскага «*Кобзаря*», а не «*Кабзара*» ў заключным абзацы. Дарэчы, знакаміты зборнік Лявон Гмырак называе «Каранам украінства». Каранам з вялікай літары, што ў «Творах» не адлюстравана.

Недапушчальная ў тэксталагічнай практыцы і недакладнасць атрыбуцыі. Артыкул «Тарас Шаўчэнка» апублікаваны «Нашай Нівай» не 10—17. 10.1913, а 21 лютага 1914 года (гл. хаця б: Беларускія пісьменнікі. Т. 2. С. 227).

Правапіс цытатаў шаўчэнкаўскіх вершаў пададзены на сучаснай украінскай мове, а не так, як у Гмырака. І гэта слушна. Аднак каб зняць у дасведчанага (і не зусім) чытача непаразуменне на с. 92, мушу заўважыць: у радках «Де поділась доля-воля, Бунчуки, *гельмани?*» апошняе слова ў Гмырака не што іншае як «гэтьманы». У Тараса Шаўчэнкі, думаю, таксама.

Наступны раздзел «Публіцыстыка» найбольш значны і па колькасці (21 назва), і па аб'ёме надрукаванага ў «Творах» — больш за 90 старонак. Важны ён і ў творчай спадчыне пісьменніка. Ул. Конан трапна называе Лявона Гмырака «адным з самых радыкальных публіцыстаў «Нашай Нівы». Ён быў, бадай што, адзіным актыўным аўтарам, які крытыкаваў газету злева, патрабаваў класавага завастрэння публіцыстычных матэрыялаў». Радыкалізм Гмырака даходзіў да «эмацыянальных зрываў». Так, пра нататку «Звяры, а не людзі» (21.02.1914) Гмырак выказаўся зусім нетрадыцыйна, а таму нечакана: «Што мужыкі не ратуюць коней тонучага пана (едзе ён у касцёл, коні мае 200-рублёвых, значыць, або пан, або грашавік-шляхцiц), нічога благога няма. Цешыцца трэба з гэтага і жадаць, каб болей было такіх праяў, бо не зверствы тут праяўляюцца, а свядомае разуменне «классовых противоречий» ды вынікаючая з гэтага нянавісць».

Відаць, славуты «класавы падыход» прарастаў у літаратуры задоўга да вульгарызатарскай крытыкі 1920-х — 1950-х гадоў. «Л. Гмырак зблытаў этыку з палітыкай, палітычную барацьбу з маральным нігілізмам,— растлумачвае ва ўступным слове Ул. Конан.— Чаму сяляне павінны былі быць абыякавымі да гібелі «грашавіка-шляхціца», які, відаць, працаваў не менш, а больш за іх? І хіба ж вінаватыя яго коні, калі нават за іх ён заплаціў 200 рублёў? Пачынаўся жорсткі век, век нянавісці і чалавечых трагедыяў. «Наша Ніва» ў

той жорсткі век прапаведавала дабро і чалавечую салідарнасць. Можна здагадвацца, што Мечыслаў Бабровіч, пасталеўшы, выракся б сваіх жорсткіх слоў».

Не будзем загадваць, кім бы стаў Мечыслаў Бабровіч у класавым змаганні. У змрочныя 1930-ыя ён, відаць, падзяліў бы трагічны лёс свайго брата (?) Яна Станіслававіча Бабровіча і іншых адраджэнцаў. Аднак высновa Конана, што Лявон Гмырак «не паспеў сказаць сваё слова пра аўтара «Вянка», абмежаваўся агульным і недакладным вызначэннем», думаецца, супярэчыць выказванням крытыка. Маўляў, Багдановіч «шмат нам даў тыповых пробак паэзіі «штукарства для штукарства». Дык не паспеў Гмырак ці не здолеў? Бо зусім не амбіцыйнай, а светапогляднай выглядае заўвага публіцыста з ліста ў рэдакцыю «Нашай Нівы» ад трэцяга студзеня 1914 года: «Трохі крыўдую я за тое, што ў «Каляднай пісанцы» Вы надрукавалі стаццю Багдановіча, а не надрукавалі маю, тут ужо трошкі самалюбіе закранута; ды і сумна тое, што, відаць, ужо «Нашай Нівай» зусім запанавала крытычная манера *а ла* Багдановіч (у № 50 нейкі І. Л. напісаў «Агляд кніг» якраз гэткім фасонам, як піша крытычныя стацці Багдановіч. Не ўбываецца неяк у Вас рэальная крытыка, а шкада)».

Перш чым цытаваць пададзеную вытрымку, укладальнік дакладна акрэсліў: Лявон Гмырак і Максім Багдановіч — «два полюсы беларускай літаратуры нашаніўскай эпохі: на адным — па-сялянску даверлівы, празмерна палітызаваны, занадта «класавы», начытаны, але часам па-правінцыйнаму абмежаваны Лявон Гмырак; на другім — такі ж малады, але духоўна мудры, разважлівы, гуманны і Богам прызнаны паэт-мастак Максім Багдановіч» (с. 14—15). І менавіта ён «якраз і быў у нас заснавальнікам эстэтычнай крытыкі, якую Л. Гмырак недакладна назваў «рэальнай». Гэта была, па сутнасці, мастацкая рэвалюцыя, яна азначала выхад беларускай літаратуры ў сям'ю славянскіх і еўрапейскіх літаратур. З літаратуры толькі «народнай» яна станавілася нацыянальнай».

З клопатам пра нацыянальную культуру ўзыходзіў на трыбуну «Нашай Нівы» і Лявон Гмырак. Праўда, хранaлогію ягоных публіцыстычных выступленняў на старонках беларускіх перыёдыкаў па «Творах» цяжка прасачыць.

Першы ж у «Публіцыстыцы» матэрыял выклікае няпростыя пытанні. Сам укладальнік ва ўступе да каментару засцерагае: «Меркаванне даследчыкаў, што М. Бабровіч падпісваў паасобныя публікацыі ў «Нашай Ніве» крыптанімам З. Б. (Беларуская дакастрычніцкая проза. Мн., 1965. С. 424; Саламевіч Я., с. 57, 168), не пацвердзілася аналізам тэматыкі, зместу, лексікі і стылістыкі надрукаваных у гэтай газеце артыкулаў і нататак. Найбольш верагодна, што яны належаць З. Бядулі, які часта карыстаўся крыптанімам З. Б.» (с. 220).

Але акурат публікацыя «Жыла, жывець і будзе жыць!.. (К гадаўшчыне «Нашай Нівы»)», змешчаная ў № 45 13 лістапада 1914 года, якая адкрывае раздзел «Публіцыстыка», і падпісана крыптанімам З. Б. Ды подпіс укладальнік у каментары не прадставіў. Тут якраз да месца было б паразважаць, ці належыць Лявону Гмыраку публікацыя. Бо за ёю ў «Нашай Ніве» ідзе «Бальляда» («Буйны вецер гудзіць...») за подпісам «Ясакар. Вільня 2/XI-14 г.» А падвал газетнай паласы займае абразок «Акорды мора» Змітрака Бядулі. Відавочна, Самуілу Плаўніку не хапала крыптанімаў, каб пазбыцца дубляжу ў подпісах. І яшчэ: пасля мабілізацыі ў войска летам-восенню 1914 года (не пазней верасня) Лявон Гмырак фактычна спыніў супрацоўніцтва з «Нашай Нівай». Нездарма ў бібліяграфіі Гмырака (Беларускія пісьменнікі. Т. 2. С. 227) публікацыя «Жыла, жывець і будзе жыць!..» за ім не ўлічана. (Затое ў бібліяграфіі стаіць іншая публікацыя З. Б. Цёткі: Маленькі фельетон // Наша Ніва. 1915. 2 крас., не прыведзеная ў «Творах»).

Да гонару ўкладальніка, ён у нечым пайшоў далей за бібліяграфію, пададзеную ў матэрыялах фундаментальнай картатэкі Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АНБ (без яе не пабачылі б свет тамы капітальнага даведніка «Беларускія пісьменнікі»). У картатэцы за Лявонам Гмыракам не зафіксаваны артыкул «Вясковае буянства і *змаганне* з ім» («Наша Ніва». 1913. 9 жніўня). Праўда, у «Творах» публікацыя праходзіць пад загалоўкам «Вясковае буянства і *барацьба* з ім»

(с. 153, 233, 239). Відаць, паблытаў аўтограф, які захоўваецца ў аддзеле рукапісаў Фундаментальнай бібліятэкі АН Літвы пад назвай «Вясковае хуліганства і барацьба з ім» (с. 233). Укладальнік, як кажуць, згубіўся ў трох хвойках. А яшчэ ім згублена аўтарскае двукоссе ў загалоўку артыкула «Ізноў «паркалёвыя».

Затое Ул. Конан выявіў новы крыптанім Лявона Гмырака: Г—к. Ім падпісаны артыкул «Вялікая гадаўшчына» («Наша Ніва». 1914. 21 лютага) і матэрыял апраўдана ўключаны ў «Творы» (с. 143—145) на падставе атрыбуцыі паводле лістоў М. Багровіча ў рэдакцыю «Нашай Нівы», у якіх крытык просіць надрукаваць свой артыкул «Вялікая гадаўшчына» ў 1914 годзе «бліжэй да юбілейнае даты — 19 лютага» (с. 232—233).

Ну і апошняе: мова «Твораў» Лявона Гмырака. У заключным абзацы каментараў укладальнікам абгаворана: «Тэксты твораў падаюцца паводле сучаснай арфаграфіі і пунктуацыі. Захоўваюцца асаблівасці аўтарскай лексікі і стылістыкі, за выключэннем памылак, апісак і неапраўданых адступленняў ад беларускай лексікі [?]. Усе рэдактарскія папраўкі адзначаны ў каментарыях» (с. 222).

Але гэта не зусім так. Далёка не ўсе «рэдактарскія папраўкі» пазначаны адпаведнымі тлумачэннямі. Пералічыць іх цяжка. Нават крылатае купалаўскае «...і будзе ўнукам панаванне, там дзе *сягоння* плача дзед», прыведзенае Гмыракам у адным са сваіх артыкулаў без двукоссяў, укладальнік адрэдагаваў як: «...там дзе *сёння* плача дзед» (с. 49). Балазе крытычны тэкст — не вершаваны радок, і збой у рытміцы не пагражае. Ды з класікай належыць быць абачлівым.

Дарэчы, пра чысціню мовы турбаваўся сам Лявон Гмырак і выказаўся пра гэта ці не найлепш: «Справа чыстаты мовы ды падняцця яе на вышыню вымаганняў сучаснасці дужа важная. Недахват пакуль што ў нас да гэтай работы вучоных спецыялістаў, але няхай шчыра працуюць самавукі. Калі што зробяць яны і не гэтак, як трэба, вякі патомныя ім даруюць, калі ўбачаць, што рабілася ўсё што можна ад шчырай душы і сэрца».

**АЛЯКСЕЙ РАГУЛЯ**

# ПЕРААДОЛЕЦЬ СІНДРОМ

Уладзімір Гніламёдаў. **Праўда зерня.** «Мастацкая літаратура», 1992.

Кніга Уладзіміра Гніламёдава «Праўда зерня» прысвечана творчасці Васіля Зуёнка. Яе можна расцэньваць як акт самапазнання і самаацэнкі пісьменнікаў, што ўваходзілі ў творчае жыццё, маючы сваё амплуа,— пакалення страчанага ў агні вайны маленства. Такой атэстацыяй крытыка ў свой час карысталася актыўна, пакідаючы чытачу магчымасць успрымаць яе сэнс неадназначна. У лёсе і творчасці іх і сапраўды ёсць пытанне, пастаўленае яшчэ ў пачатку стагоддзя, калі рабілася першае падсумаванне вынікаў знаходжання Бацькаўшчыны ў складзе Расійскай імперыі — пытанне з а в о ш т а?

У. Гніламёдаў у сваім даследаванні ў якасці першапачатковай мэты паставіў задачу паказаць творчую эвалюцыю В. Зуёнка. Вырашэнне яе дае магчымасць прасачыць шлях сапраўднага самасцвярджэння ў творчасці, ачышчэння ад афіцыёзу. І найбольш значным дасягненнем даследчыка на гэтым напрамку стала неаслабная ўвага да інтэлектуальнага зместу, які ў творчасці паэта спалучаецца з традыцыйнай, на першы погляд, просценькай «па-сялянску» формай верша. «У дзверы літаратуры,— піша У. Гніламёдаў,— стукаецца — на новым узроўні сталасці — другая праблематыка з вялікімі «быційнымі» пытаннямі чалавечага існавання».

Якія ж гэта пытанні?

У. Гніламёдаў не спяшаецца даць ім канчатковую акрэсленасць. Крытык спачатку абмяжоўваецца агульнай трактоўкай: «Паэзія паўстала перад неабходнасцю даследаваць сэнс і сутнасць таго, што адбываецца, пазнаць заканамернасці, глыбінныя прычыны і сувязі сучасных канфліктаў, прадугадаць і адстаяць будучае (адсюль, між іншым, яе зварот да ўмоўных форм)». Такая апісальнасць сведчыць, што сучаснае літаратуразнаўства адчувае недахоп катэгарыяльных сродкаў. У. Гніламёдаў імкнецца пераадолець гэты недахоп разважаннямі пра духоўнасць творчай асобы. Ці

апраўданы падобныя «лірычныя адступленні» ў працы даследчыка? Відаць, не зусім. На сённяшні дзень чытача больш задаволіў бы адказ у катэгарычнай форме. Трэба, аднак, улічыць, што ў У. Гніламёдава на пачатку працы над кнігай «Праўда зерня» былі свае магчымасці і свае меркаванні. Ён ішоў «следам за аўтарам» шляхам эмпірычнага назірання, як бы запрашаючы чытача да самастойных абагульненняў. Няма сумнення ў тым, што сёння даследчык выкарыстаў бы з большым эфектам часавыя змены для спасціжэння канцэптуальнага зместу лірыкі. Тым не менш зробленыя ім абагульненні маюць вялікі сэнс. Творчую эвалюцыю В. Зуёнка У. Гніламёдаў разглядае як шлях ачышчэння ад усяго наноснага, што перашкаджае духоўнаму росту асобы. В. Зуёнак, адзначаецца ў працы У. Гніламёдава, падсвядома і асэнсавана выбраў шлях ачышчэння «зямлёй», праз далучэнне да клопатаў і паэзіі аратага. Партыйна-савецкі афіцыёз падпарадкаваў сабе філасофскую і грамадска-палітычную думку Беларусі, скалечыў яе паводле ўласнага ўзору, але яму не ўдалося вытруціць пачуццё мясцовага патрыятызму-замілавання да роднага кутка. Такую форму роднасці яшчэ нельга лічыць выяўленнем нацыянальнай ідэі, але замілаванне да «старонкі гэтай» стала выратавальным кругам у акіяне хлусні і дэмагогіі. У творчасці В. Зуёнка, адзначае У. Гніламёдаў, нацыянальная ідэя спачатку знайшла сваё ўвасабленне ў вобразах Сялібы і Аратага. Іх яднае аўтарскае пачуццё адказнасці за захаванне жыцця. Забітыя вокны «неперспектыўных», асуджаных на выміранне вёсак і спустошаныя душы сучаснікаў былі для В. Зуёнка фактарам больш пераканаўчым, чым рыторыка пра камуністычную будучыню праз дваццаць гадоў. В. Зуёнка, адзначае У. Гніламёдаў, больш цікавіць напружанне на мяжы сутыкнення жыцця і смерці. Лірычны герой яго паэзіі — гэта араты духоўнай нівы. Ён ідзе шляхам уласнага «вызначэння» — акрэслівае змест пытання, якое для Беларусі ў час яе знаходжання ў «дружнай сям'і народаў» было пытаннем «быць ці не быць».

Думкі лірычнага героя — «світальныя птушкі» — «вобразы трывогі», адзначае У. Гніламёдаў:

Ляцяць, як захочуць,
Ляцяць без дазволу...
Глядзіць ім у вочы
Марозны мой золак.

Глядзіць і пытае
Над цемраю чорнай:
А дзе яна, тайна
Бяды нескančонай?

Пытанне, такім чынам, канкрэтызуецца і пераносіцца ў сферу практыкі. Яго ўжо ставіць не юнак з вёскі Мачулішча над паэтычнаю ў мінулым рэчкай Начай — ставіць грамадзянін Беларусі, які не можа мірыцца з трагічным лёсам Бацькаўшчыны.

Вершы В. Зуёнка ў зборніках «Світальныя птушкі», «Вызначэнне», «Лінія трывожных дажджоў», «Чорная лесвіца» — гэта паэзія аналітычная. Ёсць усе падставы кваліфікаваць яе як філасофскую лірыку, калі мець на ўвазе не рацыяналізаваную знешне манеру выказвання, а маштабнасць абагульнення. У філасофскай лірыцы В. Зуёнак не парывае з традыцыйнай вобразнасцю — у яе сацыяльна-бытавым змесце ёсць багатыя магчымасці абагульнення. Удала карыстаючыся перыфразай, В. Зуёнак стварае вобраз часу — карціну абсурднага існавання ў імперыі эксперыментаў:

Гісторыі цяжкое памяла
Змятае ў небыццё манархаў
прывіды,—
Здаецца, і жыцця ў нас не было,
А толькі пераходныя перыяды.

То эра — то карэнны пералом,
То вера — то бязмэтнасці сіндром,
То чыстка — то абдоймішчы
з сатрапамі,
То перагібы — з новымі этапамі...

Шалёныя адлівы і прылівы —
І карабель на люкі ўсе задраены.
І толькі іншы раз даешся дзіву,
Што мы пры ўсім і жыць яшчэ
ўмудраемся...

В. Зуёнак імкнецца дайсці да першапрычыны абыякавых адносін да «праўды зерня» — духоўнай хваробы нацыі сейбітаў. Паэт ідзе шляхам найбольш надзейным на сённяшні дзень — шляхам вызвалення ад ілюзій, ад сацыяльнай міфалогіі:

Як жа без Расеі
Жыць на свеце нам:
Без яе — пасеем,
А сажнём панам?
. . . . . . . . . . . .

І адны ў нас троны,
І адзін ГУЛАГ,
І адзін — чырвоны —

Над ГУЛАГам сцяг.
Без такой радзімы —
Сэрцам не абняць! —
Мы куды б хадзілі
Ссылку адбываць?
Як жа без падмогі,
Як жа без братоў?..
Кайданы на ногі —
І ў Сібір гатоў.

У. Гніламёдаў, зразумела, не мог выкарыстаць у сваёй працы вершы, апублікаваныя пасля яе напісання, але творчая эвалюцыя В. Зуёнка акрэслена ў «Праўдзе зерня» выразна: да публіцыстычнай завостранасці паэт ідзе праз паглыбленне гісторыка-філасофскага зместу.

У свой час крытыка высока ацаніла паэму «Маўчанне травы». Падзяляючы агульную думку, У. Гніламёдаў прапануе свой ракурс успрымання паэтычнага эпасу В. Зуёнка: «Паэт не хацеў бы, каб звужаліся далягляды сялянскай культуры — лепшае, што ў ёй ёсць, павінна ўзбагачаць усю сучасную складаную цывілізацыю». І сапраўды: «Маўчанне травы» — гэта не толькі сацыяльна-бытавы малюнак вясковага жыцця, гэта яшчэ і рух думкі абпаленага вайной пакалення, якое ўжо не хоча быць абпаленым, не хоча быць травой ці няхай сабе і коласам пад касой чужынца.

У паэме ёсць свой погляд і на перамогу 1945 года:

Абсалютных не было ніколі
І не будзе ў свеце перамог.
Перамогу ўмець пераадолець —
Самая цяжэйшая з дарог.

Няцяжка зразумець, што паэт гаворыць пра пераадоленне ілюзій самасцвярджэння. Прасвятленне да лірычнага героя прыходзіць над бацькавай магілай — як вынік асэнсавання стратаў не толькі свайго пакалення:

Нёс і ты свой лёс — травы маўчанне,
Што да сонца праз мяцельны сум
З-пад снягоў ірвалася з адчаем,
Каб ізноў патрапіць пад касу.

Зроблены У. Гніламёдавым аналіз паэмы «Маўчанне травы» падводзіць чытача да разумення руху гісторыясофскай думкі ў беларускай літаратуры — ад «роднага кутка», ад мясцовага патрыятызму да ідэі нацыянальна-дзяржаўнай. Перыфраза ў падобнай мастацкай сітуацыі адыгрывае сінтэзуючую, абагульняючую ролю, часам кампенсуючы недахоп сюжэтнай дынамікі лірыка-публіцыстычным зместам. У. Гніламёдаў у сувязі з гэтым справядліва кваліфікуе паэмы В. Зуёнка як ліра-эпічныя, але змястоўнае напаўненне лірычнага кампанента ў яго працы часам раскрываецца толькі часткова. Разглядаючы паэму «Лукам'е», крытык абмежаваўся агульнымі разважаннямі пра змаганне «супраць феадальнага прыгнёту і акаталічвання краю». Не забудзем, што князь Іван Лукомскі ў паэме спадзяваўся на падтрымку Масквы ў змаганні за незалежнасць і за гэтую ілюзію паплаціўся жыццём. Для «трэцяга Рыма» ўжо ў XV ст. беларускія землі былі вотчынай, дарма што гэтая «вотчына» ніколі не належала ні маскоўскім князям, ні іхнім продкам. Князь Іван Лукомскі думаў інакш, і за гэта яго спалілі «на плошчы пад небам маскоўскім».

Як бачым, у публіцыстычным змесце паэзіі В. Зуёнка «раптоўнага няма», да новых творчых набыткаў вядзе паэта нацыянальная ідэя. Хацелася б, каб у разглядаемай кнізе У. Гніламёдава гэтай ідэі было ўдзелена больш увагі.

Адной з умоў творчага станаўлення сучаснай крытыкі можна лічыць узровень аналізу ўзаемаадносін паэта з афіцыёзам. Некалі беларуская літаратура была незалежнай ад моды і афіцыёзу. На жаль, у 20-х гадах у асяроддзі «Маладняка» пашырылася імкненне быць узорным паэтам. Супрацьстаяць афіцыёзу не хапіла імунітэту. Зрэшты, без падобнага сімбіёзу афіцыйнай рыторыкі з патрыятычным пачуццём немагчыма было само існаванне літаратуры.

Творчасць В. Зуёнка не з'яўляецца выключэннем. Паэт аддаў гэтаму сваю даніну і па абавязку, і па даверлівасці. У. Гніламёдаў пра гэтане забывае, але сам працэс духоўнага вызвалення ад псіхалогіі тубыльца, адлюстраваны ў творчасці аўтара, яшчэ раскрыты без належнай паўнаты і ўвагі. Набытак У. Гніламёдава ў іншым: у кнізе «Праўда зерня» крытык пераканаўча паказаў, што паэт Васіль Зуёнак — фігура своеасаблівая ў беларускай літаратуры. Пад няківдкай вясковай знешнасцю лепшых твораў яго хаваецца змест, які паддаецца крытыцы вышэйшага гатунку — пафас пераадолення «бязмэтнасці сіндрому». У гэтым — галоўная вартасць кнігі У. Гніламёдава «Праўда зерня».





АЛЕСЬ КАЎРУС

# З РОДНАЙ ГАВОРКІ

У публікацыі змешчаны словы, спалучэнні, устойлівыя выразы, запісаныя ад жыхароў вёскі Брусы Мядзельскага раёна.

Загаловачнае слова пішацца паводле правілаў беларускай арфаграфіі, у сказах-ілюстрацыях перададзена рэальнае вымаўленне.

Для назоўнікаў паказваецца род: *м.* (мужчынскі), *ж.* (жаночы), *н.* (ніякі). Назоўнікі агульнага роду пазначаюцца *м.* і *ж.* Пры назоўніках, якія маюць форму толькі аднаго ліку — адзіночага ці множнага, ставяцца паметы *толькі адз.* або *толькі мн.*

Абазначаецца трыванне дзеяслова: *зак.* (закончанае), *незак.* (незакончанае). Паметы *прым.* (прыметнік), *прысл.* (прыслоўе), *прыназ.* (прыназоўнік) паказваюць прыналежнасць слова да адпаведнай часціны мовы. Выкарыстоўваюцца асобныя агульнапрынятыя стылістычныя характарыстыкі.

**Абмінушкі** *толькі мн.* У выразе: на абмінушкі. Навыперадкі. Бывала едзіш з начлегу. Як пусьціш на ўсе чатыры, на абмінушкі. Конь як плывець усі роўна: гульк-гульк.

**Абра́дзіць** *зак.* Абмеркаваць, абгаварыць. Мы ўжо, сын, тут усё абрадзілі, будзім браць машыну. Хуць калі бацьку пакаташ, яму ш хочыцца паглядзець на ўсё.

**Абцямне́ць** *зак.* Не справіцца да цямна зрабіць што-небудзь. Позна паехалі па сена, апцямнелі на балоця, вярнуліся дамоў ноччы.

**Адрабіць** *зак.* У выразе: адрабіць урокі. Зрабіць, выканаць. Як адраблю ўрокі, пайду гуляць у пікара.

**Адраза́нікі** *мн.; адз.* адраза́нік *м.* Адрэзаныя ад старых ботаў перады з падэшвай, якія насілі як лёгкі абутак каля дому. За Польшчу ні было вобую, як цяпер. Атразанікі насілі.

**Ад сло́ва** *у значэнні прысл.* Адразу, з першай просьбы. Пазычыла карасіны у Марылі. Ац слова дала. Яна добрая ў сусецтвя, ня гэткая, як мужык.

**Ад шчыро́сці** *у значэнні прысл.* Шчыра, ад душы. Мар'я ач шчысьці прасіла ў каравай.

**Аж дзе́** *у значэнні прысл.* Далёка. Пакуль мы вышлі на дарогу, дык ён на ровары аж дзе ачаўся.

**Ако́пкі** *толькі мн.* Канец выбірання бульбы і бяседа з гэтай прычыны. У Тоні сяганьня акопкі. Гэткай грумадой, кутузаўскім атрадам, што йім скапаць!

**Акрамя мяне.** Без майго ўдзелу, без мяне. Рабіця акрамя мяне. Досіць, я ўжо напрацаваўся, яг жыў пры бацькох.

**Аку́цце** *н.* Акоўка, каванне. Калёсы яг звон, акуцьця новая даў, конь дагледжаны... Гаспадар!

**Атыма́чка, аты́мка** *ж.* Ануча, якою бяруць гаршкі. Падай мне скарэй атымачку, буду здымаць бульбу. То лоп, то руку вымажыць у сажу, кухта. Перадnік чорны, як атымка.

**Байча́к** *м.* Бойкі, адважны чалавек. У нас хлопяц байчак, ніхто ні загоніць, кажнаму здачы дась.

**Бальша́к** *м.* Большы, старэйшы сын. Меншы мой вучыцца, а бальшак уварміі.

**Бальшыня́** *ж.* Большая частка чаго-небудзь; большасць. Бальшыню зьбяром, а што астанецца прыкрыім саломай на ноч.

**Бамбо́ўка** *ж.* Бамбёжка. Яг бамбоўка была, мы хаваліся ў зямлянца, а Васілёвы — ў склепя.

**Бары́лка** *ж.* Даўней: бочачка. Бочачкі на два дны звалі барылкі.

**Без пыта́ння** *у значэнні прысл.* Не пытаючыся, без дазволу. Яны знаяць, што я нічога ні вазьму бес пытання, усягды папытаюся, ці можна.

**Берыво́** *н., толькі адз.* Выбіранне, капанне бульбы. Якое сяганьня берыво, дож будзіць.

**Благаццё** *н. Асудж.* Благі чалавек. Ах ты, благаццё! Усё робіш напроціў. Калі ты палюднееш?

**Бульбяшны́** *прым.* Прызначаны хаваць бульбу. Ідзі набяры жоўтага пяску да бульбяшной ямы.

**Ваджэ́ннік** *м.* Той, хто водзіць каня ў часе ворыва. Які сь цябе ваджэньнік: гэдулькі каліўя патаптаў!

**Вайдаваць** *незак.* Даўней: гультаяваць. Ня робіць чалавек, а вайдуіць, гуляіць.

**Вашаваць** *незак.* Цяжка працаваць. Вашуіш, вашуіш цэлы дзень на канавя, і дамоў прыдзіш, поўна работы.

**Вея** *ж.* Завея. Як сьнех мяцець, у нас кажаць вея, мяцеліца — не натта.

**Відне́ючыся** *прысл.* Досвіткам, світаннем. Устаў віднеючыся, яшчо кароў ні гналі. Пасьнедаў і пашоў касіць.

**Ві́сла** *ж.* Ніцая вярба. У Сымонавых вісла моцна разраслася, гальлё аж да зямлі паапускаўшыся.

**Во́бач** *прыназ.* Паўз, міма. Прайшоў вобач мяне і ні пазнаў ці прытварыўся, што ня ўвідзяў.

**Во́дмаладзь** *ж.* У выразе: пайсці на водмаладзь — памаладзець. Васіліна як стала лепі есьці, дык пашла на вотмалаць. Пакруглела ў твары, шчокі ружовыя.

**Вушла́ты** *прым.* У выразе: вушлатая шапка — аблавуха. У Ляксея балела галава, дык і летам хадзіў у вушлатай шапца.

**Вы́лажыцца** *зак.* Адгаварыцца, апраўдацца. Вот табе й няхітрая баба: вылажылася, як і ні вінаватая усі роўна.

**Вы́лактаць** *зак. Асудж.* Выпіць. Вылактаў на дармавіка цэлаю бутэльку, кап ты спрах!

**Вы́пасажаваць** *зак.* Аддаць на пасаг. Дачок замуш аддаваў, выпасажаваў усё, цяпер знанава трэба нажываць.

**Вырыва́нскі** *прым.* У выразе: вырыванская вуліца — месца, дзе

хутка што-небудзь знікае, прападае. У вас тут як на вырыванскай вуляцы: доўга ні наляжыцць.

**Вяснýшчы** *прым.* Які нарадзіўся вясною (пра жывёлу). Вяснушчы бычок, а выглядаіць, як піразімак.

**Вясці** *незак.* Нагаворваць. Жонка на яго ўсяк вядзець: што і благі, што і гультай, што і грошы не прыносіць.

**Гамзýль** *м. Асудж.* Той, хто невыразна гаворыць; гамзаты. Дзе ён там у Маладэчня чаго дапытаіцца, гамзуль гэты.

**Гáндаль-піндаль** *м. Жарт.* Абмен рэчамі, галоўным чынам дробнымі. Хлопцы, даставайця ўсе свае нажы. Будзім рабіць гандаль-піндаль.

**Гараны́** *прым.* Нялёгкі, звязаны з цяжкасцямі. У нас гараная паша: па леся, далёка, на ўвесь дзень.

**Гарáчкі** *толькі мн.* Памінальная вячэра. Захарка ж жонкай у гарачкі ідуць.

**Гнаёўкі** *мн.; адз.* гнаёўка *ж.* Дошкі, якія кладуцца на калёсы замест драбін, калі возяць гной, пясок і пад. Дошчак ні было, дык я гнаёўку заставіў у катух да часу.

**Гнаць помсту.** Помсціць. Астап гоніць помсту на Сяргея, што біў мацяру.

**Гонар вясці.** Ганарыцца, паказваць натуру. Вяла гонар: лягла галодная, ні ўстала вячэраць.

**Грабéннік** *м.,* грабенніца *ж.* Той, хто грабе сена і пад. Галя дарма што гарацкая — грабеньніца добрая, чыста грабець і натта скора.

**Грамаздá** *ж.* Што-небудзь груваствае, вялізнае. Куды ты цягніш гэту грамазду ў хату?

**Грунт** *у значэнні прым.* Галоўнае. Грунт выяхаць на дарогу, а там ужо даедзім неяк.

**Гузнó** *н.* Частка чалавечага цела, на якую садзяцца; сядалішча. Бытавала прымаўка: Пан жывець на Вузьля, чэшыць сохі на гузьня. Сэнс: калі работнік паламае панскі рыштунак (саху, барану і пад.), яго за гэта білі.

**Дакладáцца** *незак.* Даводзіць да ведама, пытацца дазволу, раіцца. Што ён ні дакладаіцца да цябе, а разам жывіцё?

**Дапáсці** *зак.* Даступіцца, дайсці. Гэта старая ўсюды дападзець, усё ей трэба.

**Даражы́нка** *ж.* Дарожка. Пайшла такая даражынка лесам апкапаная.

**Дзéняшні** *прым.* Дзённы. Дзеняшняя малако ў банца стаіць у цэбры ля калодзіся.

**Дзяцíны** *прым.* У выразе: бацька дзяціны. Гавораць на сталага чалавека, які несур'ёзна паводзіць сябе. Бацька дзяціны! Нашоў сабе раўню із малымі піць.

**Дóбрыца** *ж.* Правы бок тканіны. Ні разьбяру, дзе ў гэтай мацеры добрыца, дзе знайніца.

**Дрáка** *ж.* Тарка. Возьмі, дачка, драку, зьдзяры бульбу. Паставім на дзень бапку.

**Дружáк** *м.* Другакласнік. Посьля вайны, як я вучыўся ў сямігоццы, вучняў першага і другога класаў звалі першакі, дружакі.

**Дружбíсты** *прым.* Кампанейскі, дружны. Вінцуковы хлопцы былі моцна дружбістыя. Усягды ў йіх зьбіралася маладзяш. Ігралі на гармонік, пяялі.

**Дурасá** *ж.* Свавольства. Дураса да дабра не даводзіць.

**Дурное сяло.** Неразумны, дурны. Вод дурноя сяло, што ён пляцець!

**Ешчы** *прым.* Неперабарлівы ў ядзе, добры да яды (пра жывёлу). Удаўся парсючок, ешчы. Расьцець відучы.

**Жалóсніца** *ж.* Якая перажывае за ўсіх, спагадае ўсім. Натта ўсіх шкадуіш, жалосьніца такая, хто цябе пашкадуіць?

**Жыля́цца** *?незак.* Пяцца, натужвацца. Папрасі хлапца, ні жыляйся анна. Дзе ты гэткі ценжар скранеш!

**За́йма** *ж.* 1. Тое, што замінае. Паставіла кросны, толькі займа ў хаця. Калі ты ўжо даччэш? 2. Марная праца, няплённы занятак. С тваймі пчоламі адна займа, карысьці мала.

**Замалява́цца** *зак.* Расчырванецца ад узрушанасці, хвалявання. Сядзіць замаляваўшыся, гатова заплакаць.

**Запамагчы́ся** *зак.* Не атрымаць адчувальнай дапамогі, падтрымкі. Натта запаможысься йім: прайшоў два пакосы і кінаў.

**Зара́ніца** *ж.* У выразе: ганяць на зараніцу. Да сонца ўсходу выганяць і ў гадзін 10—11 прыганяць кароў дамоў летняю спёкай. У нашай вёсца цяпер ні ганяяць на зараніцу, а на ўвесь дзень.

**За цямно́м** *у значэнні прысл.* Цёмначы. За цямном складалі сена ў паветку, баяліся пакідаць у машыня, каб ня змокла.

**За шча́сцем.** Які мае шчасце, якому шанцуе. Яшчэ за шчасьцям чалавек: з гэткай высачыні зваліўся і жывы астаўся.

**Злу́йка** *м.* і *ж.* Злы, злая. Злуйка, злуйка, усім раскажу, што ты такая злая, ня возьмуць замуш.

**З пры́роды.** Ад прыроды, па прыродзе. З прыроды яны музыканты.

**З сябе навялі́чкі.** Роўны з сабою, як сам. Іванёк гоніць на пасту, азяў торбу сь сябе навялічкі.

**З усім на́ ўсім.** Усё чыста. Хай яно тут гарыць с усім на ўсім!

**І ты́м таго.** Тым больш. У цябе грошай німа, ты на службя, у мяне і тым таго — я дома сяджу.

**Калы́міць** *незак. Экспр.* Ужываецца ў пасляваенны час са значэннем, заляцацца.Сь кім ты, Лёдзя, калыміла? Ці ж нічога хлапец?

**Капа́нніца** *ж.* Жанчына, якая капае бульбу. У Валодзі будзіць заўтра дзесяць капаньніц, за дзень выбяруць.

**Касаўё** *н.* Акоссе. Гаспадар! Кажан дзень у леся бываіць і касаўя люцкага ня выражыць.

**Касмана́вец** *м.* Касманаўт. У радзівя казалі: ізноў касманаўцы паляцелі.

**Квічэ́ць** *незак.* Вішчэць (пра свіней). Парасё ў плот улезла, квічыць.

**Клад** *м.* Касцёр. Зь вясны дровы ляжаць пабітыя, ня можыць злажыць у клат.

**Кля́ты** *толькі мн.* Праклён. Благі чалавек. Клынуць яго людзі. Кляты ні пашлі бокам, захварэў.

**Ко́пшчык** *м.* Капальнік. Валодзя сам быў за копшчыка, як капалі нам калодзісь.

**Крапе́ль** *м.* Капеж. Не стайі пац самым краплём, змокніш.

**Крок** *м.* Пярэдні разрэз у штанах; прарэх. У краку́ гузік вырваўся.

**Круг** *м.* Акруга, наваколле. Увесь крух — і Буслаў, і Даўгінава — вазілі лес на станцыю.

**Круты́** *прым.* Лёгкі на нозі. Наш бацька малады быў моцна круты, за дзень у Вільлю схадзіў.

**Кульша́** *м* і *ж.* Кульгавы. Пашка быў кульша, нага крывая.

**Куля́сты** *прым.* Які лёгка куляецца; няўстойлівы. Гэта калотка кулястая, вазьмі раўнейшаю.

**Ладзьбава́ць** *незак.* Выбіраць мёд з вулляў. Ці скора будзіш ладзьбаваць, прыду каштаваць мёт.

**Ладзьбі́ны** *толькі мн.* Назоўнік паводле дзеяслова ладзьбаваць. У Кірылы, мусіць, ладзьбіны: с куралём пашоў у сат.

**Ла́сае** *у значэнні наз.* Сухое голле, якім падпальваюць агонь на пашы, начлезе. Ні загараюцца дровы, ідзі пац сасну, наламі ласага.

**Лізь-мазь** *у значэнні вык.* Ужываецца са значэннем '★падлізацца, падгадзіць'. Гэткаму чалавеку лёхка жыць. Аднаму, другому лісь-мась.

**Лісціна́** *ж.* Адзін ліст расліны, дрэва. Вылամі лісьціны са тры капусты хлеп усадзіць.

**Лу́пля** *ж.* У выразе: даць луплі — набіць. Добра трэба даць луплі, тады п ні лазіў па чужых гародах.

**Лу́чыць** *зак.* Пацэліць, трапіць. Валодзя із лука стрэліў, добра яшчэ, што ў вока ня лучыў. Пойдзім за Пярэчны гасьціняц, можа, лучым на тоя мейсца, дзе летась бервякоў нарэзалі.

**Лы́пкі** *мн.; адз.* лыпка *ж.* Вейкі. Во ўжо якія лыпкі ў хлопчыка!

**Ляда́к** *м.* Кавалак лёду. Прынёс вады зь лядакамі, ня мох выкінуць. Рукі твае як лядакі с холаду.

**Маладо́сць-дурно́сць** *у значэнні вык.* Молада-зелена. Ні пашла за Мілецю, што спакойны. Ведама, маладось-дурнось. Цяпер шкадую.

**Малаку́ча** *ж.* Куча мала. Давайця згуляім у малакучу.

**Малёўкі** *мн.; адз.* малёўка *ж.* Алоўкі для маляванння. Малёўкі параськідалі дзеці па хаця і ні падбераць.

**Матыкава́ць** *незак.* Матычыць. Ля дзедавай яблыны матыкавала, ні ганяна было.

**Мачу́ла** *ж.* Мачыльня. Даўна калапне вазілі мачыць да ракі ў мачулы.

**Межаві́к** *м.* Невысокі, але плячысты, дужы чалавек. Ты, брат, межавік, дужы. Ня дзіва, што вас ведзьмядзі завуць.

**Мець слых** *у значэнні вык.* Быць паслухмяным, дысцыплінаваным. У яго дзеці маюць слых, ні распусныя, мацяры на фермя памагаяць.

**Мусо́ва** *прысл.* Абавязкова. Ні мусова табе быць усе разы на сабраньні, лепі зрабі што каля дому.

**Мянша́к** *м.* Меншы, малодшы сын. Мяншак сам прась сябе наўчыўся чытаць, у яго галава капуіць.

**Навясці́** *зак.*, **наводзіць** *незак.* Заявіць, падказаць. Свае людзі наводзяць, а так чорд ба міліцыя прыехала трасьці.

**Нажытны́** *прым.* Які можна нажыць, набыць. Абы здароўя было, багацьця нажытноя.

**Наразумні́цца** *зак.* Набрацца розуму, зрабіць разумна. Дзяўчына наразумнілася, што стала на работу каля дому: і бацьком ляхчэй, і капейка спарней.

**Наруге́нь** *м.* Той, хто наругаецца, назаляе; назола. Кажу йдзі на двор, ацстань адзь дзіцяці, наругень.

**Насупе́нь** *м.* Насуплены, незадаволены. Ну, што табе трэба, чаго табе мала, насупень ты?!

**На́ўме** *у значэнні вык.* Помніцца, не выходзіць з галавы. Тая гутарка зь дзяцькам Януком усё мне наўмя.

**Нашто далей.** Не трэба далёка шукаць прыкладаў. Нашто далей, ва ў нашай вёсца было гэдак...

**Не ад таго.** Не лепшы. Іван ня люцкі, п'яніца, алі й жонка ні ат таго.

**Недахва́т** *м.* Нясталы, не пры ўсім розуме. Ні пасядзіць на месьця, лётаіць, як нідахват які.

**Не першыня́.** Не ўпершыню. Яму ні першыня ехаць у Мінск.

**Непрылю́дак** *м.* Нелюдзім. Ляксей — ніпрылюдак нейкі, людзей баіцца ці што.

**Не ў па́мяці** *у значэнні вык.* Не помніцца. Нешта мне ні ў памяці, каб Галя Натолява аддавала хлеп.

**Нехаджа́лы** *прым.* Які рэдка прыходзіць. О, нешта гось ніхаджалы да нас. Мусіць, з гот ужо ня быў.

**Неціхо́ты** *толькі мн.* Неспакой, вайна. Усё ніціхоты на сьвеця. Калі ўжо той мір будзіць?

**Няпоўныя вочы.** Прагавіты, скупы чалавек. Ах ты, няпоўныя вочы! Усё табе мала, усё табе зайздросна, усё п ты пабраў.

**Няўва́га** *м.* і *ж.* *Асудж.* Той, хто непаважлівы, нетактоўны ў

адносінах з іншымі. Няўвага! Пацсунуў паць сябе грыбы, ні глядзіць, ці ўсе хоць пакаштавалі.

**Пада́янка** *ж.* Перадача ў бальніцу, турму і пад. Езьдзіла ш да свайго у Вялейку, падаянку пірадала.

**Падлётак** *м.* 1. Птушаня, якое вучыцца лётаць. Прагані котку, за падлёткам цікаіцца. 2. *перан.* Хлопец, які падбіраецца пад дзецюка. Якія там вічарушкі! Адны падлёткі пазьбіраліся.

**Падцыгля́сты** *прым.* Цыбаты, даўганогі. Адусюль найшло дзевак, алі ні пад мой характар: нейкія высокія, пацыглястыя.

**Пані́клівы** *прым.* Блізарукі. Росьцік Міхайілаў паніклівы — як хто далёка, ні пазнаіць.

**Па́раніца** *ж.* Парнасць. Такая параніца, пэўня, дож будзіць.

**Пасачы́ць** *зак.* Быць падобным да каго-небудзь. Ён бацьку пасачыў і крошачкі пабраў.

**Пасвабадне́ць** *зак.* Стаць менш занятым работай. Як пасвабаднею, можа, дастануся да сястры, адведаю.

**Пасты́р** *м.* Галоўны пастух. Цяпер ужо ніхто за пастыра ня йдзець, самі адбываім і за пастуха, і за пастыра.

**Пасялу́ха** *ж. Асудж.* Жанчына ці дзяўчына, якая любіць хадзіць па сяле (на сяло), селаваць. Пасялуха, ей толькі гулі наўмя.

**Паўве́чча** *н.* У выразе: паўвечча адняць — збіць да паўсмерці. Пабівалі палякі Жэню, паўвечча атнялі, нядоўга й пажыў.

**Паўднёўка** *ж.* Палова дня. Дзьве паўднёўкі парабляў у яго і за якую ласку?

**Паўду́рак** *м.* Дурнаваты, прыдурак. Паўдурак нейкі! За валосы хватаіць. Пусьці, кажу!

**Паўтара людскога.** Гавораць пра чалавека, у якога не так, як у людзей. Паўтара люцкога! Паставіў атхошку ат вуляцы.

**Па чалаве́ку.** Абазначае: нехта дажывае апошнія дні. Паглядзела на Сьцяпаньку — па чалавеку. Мала ён пажывець.

**Перадкава́ць** *незак.* Паддобрывацца, дагаджаць каму-небудзь. Ператкаваў перат Багінскім, хацеў быць солтусам.

**Перуно́ўка** *ж.* Даўней: зімовая шапка, воласам да галавы, сукном наверх, нагадвае каптур. Помню, мой бацька насіў пяруноўку.

**Пілóўка** *ж.* Бярно, палена, якое пілуюць на дошкі. З гэтай сасны дзьве пілоўкі будуць.

**Пладністы** *прым.* Ураджайны. Пладністая моцна бульба у Валодзі Жылінага.

**По́спаль** *прысл.* Побач, поруч. Наша дзялка у Маргох поспаль з Галінай. Яна там рвець, найдзіш.

**По́шаўка** *ж.* Навалочка. Паздымай пошаўкі, я памыю разам.

**По́шыбнем.** Ужываецца са значэннем 'кінуць, шыбануць'. Хапіў сук і пошыбням. Воўк наўцекі.

**Прайду́к** *м.* Даўней: жаночы касцюм. Камізэлька, а да камізэлькі прышыта спадніца. Зваўся прайдук.

**Прыдо́ба** *ж.* Выгода. Добрая прыдоба ў цябе там, дзе жывеш,— мейсца.

**Прысілаваць** *незак.* Прымушаць. Ты мяне ні прысілуй, кап магла, із'зела п.

**Прытварэ́нь** *м.* Прытворшчык, прытворшчыца. Ні баліць табе галава, прытварэнь ты, манюка!

**Прыхінак** *м.* Памяшканне, месца, дзе хаваюць, «прыхінаюць» што-небудзь. Добра, што зрабіў паветачку, будзіць прыхінак на ўсё.

**Прэ́сны** *прым.* У выразе: прэснае малако. Салодкі, някіслы. Ш чым будзіш есьці бульбу: с прэсным малаком ці сь кіслым?

**Пярша́к** *м.* Першакласнік. Першакоў сёлята ўсяго два.

**Рагаві́к** *м.* Рог, край якога-небудзь прадмета. Як стукнуў салявой торбай, дык рагавік стала адляцеў.

**Разлучо́нік** *м.* Той, хто разышоўся з жонкай. Разлучонік, а прыкідаваіцца дзяцюком.

**Рашаце́нь** *м.* 1. Высокі слуп у пярэплаце з прадзёўбанымі дзюркамі. Віталь быў адважны. Узьлес на пірэплат і стаў на рашацень. 2. Планка ў граблях, у якой мацуюцца зубы. Зачапіў граблямі за корч, і зламаўся рашацень.

**Самаро́ска** *ж.* Самасейны лес. Гэдак завём лес ня сеяны, а які сам парос, вырас.

**Свярбю́чы** *прым.* Які свярбіць. Пацірабі сьвярбючаю нагу аб загаратку, пірастаніць сьвярбець.

**Складно́та** *м.* і *ж. Іран.* Нязграбны, няспрытны. Ну й складнота: чуць шыбы ня высадзіла.

**Спара́дку** *прысл.* Па парадку, запар. Бяры дровы спаратку, ні выбірай.

**Станаві́шча** *н.* Месца на пашы, дзе стаяць каровы; стойбішча. Пакуль каровы на станавішчы, зьлётай пабедай.

**Суджо́ны.** Які быў асуджаны; судзімы. Ён, кажаць, быў суджоны. Алі так чалавек добры: працавіты, пілнуіцца сям'і, ня п'ець.

**Траўлі́вы** *прым.* Травяністы. Папрасі Вінцука, хай дась траўлівай саломы.

**Тым ча́сам** *у значэнні прысл.* Нярана. Тым часам ужо: дзеці іш школы йдуць, пара на палудзянь.

**Уда́ўніцца** *зак.* Задоўжыцца, зацягнуцца. Удаўніцца хвароба — ня вылячыш.

**Узяцца ў дужкі, пайсці ў борушкі, пайсці ў барца.** Паспаборнічаць у сіле, падужацца. Давай возьмімся у душкі, тады паглядзісься, хто слабак.

**Улісці́ць** *зак.* Патрапіць пад густ сказаць. Думала, як тут сказаць, і якраз улісьціла.

**У права́х** *у значэнні вык.* Адчуваць законнасць, слушнасць сваіх дзеянняў. Абрэзалі соткі па вуглы, і яны [начальства] ў правах.

**Упра́ўны** *прым.* Які паспяхова спраўляецца з работай; дзелавы. Пэўня ш, яна ўпраўная — за яе мужык усё паробіць, усюды даляціць.

**Фатагра́фшчык** *м.* Фатограф. Прыехаў зь Мядзяла фатаграфшчык, будзіць здымаць на картачку даярак.

**Хадзіць па месяцы.** У часе начнога сну хадзіць, лазіць і пад. Я яг быў малы, хадзіў па месяцы. Прачнуўся на раніцу — уся адзежа мокрая, абрасьнелая.

**Халада́цца** *незак.* Патанцаваўшы з дзяўчынай, хлопец вядзе яе на двор падыхаць вольным паветрам, пагаварыць. Ці ні с Тасяй ты ўчора халадаўся? Мне яна натта ўмодзя.

**Цямне́ючыся** *ў значэнні прысл.* Змярканнем. Цямнеючыся дамоў прыехалі, а пакуль спарадкавалі сена, дык і ноч.

**Ша́насць** *ж.* Шанаванне. У яе ўсякая адзежа ў шанасьці.

**Як до́сыць.** Па завязку, у поўнай меры. Нахадзілася за дзень яг досіць.

**Як мо́жна.** Як мага, колькі ўлезе. Набрала бульбы кошык як можна і прэць.

---

Тэхнічны рэдактар **Г. У. Скакун.**

Карэктары: **М. І. Гусева, Л. З. Кудравец, З. К. Надумовіч.**

Здадзена ў набор 03.12.93. Падпісана да друку 21.01.94. Фармат паперы 70×108[1]/16. Друк афсетны. Друк. арк. 16. Ум. друк. арк. 22,4. Ум. фарб. адб. 22,325. Ул.-выд. арк. 22,39. Тыраж 8790 экз. Зак. 1105. Падпісная цана 160 руб.

